**Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М.**
М 99 Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. Мн., Выд. БДУ, 1972.
320 с. 7000 экз. 64 кап. У перапл.

У слоўніку змешчана каля трох тысяч фразеалагічных адзінак, сабраных у гаворках розных мясцін рэспублікі, вызначана ўжыванне, значэнне і стылістычная роля іх у жывой звязнай мове.

Слоўнік прызначаецца навуковым работнікам, выкладчыкам ВНУ, студэнтам, журналістам, настаўнікам сярэдніх школ, прапагандыстам і шырокаму колу чытачоў.

7-1-5 / 34—72 — 4 Бел(03)

На белорусском языке

*Евдокия Степановна Метельская,*
*Евгений Михайлович Комаровский*

СЛОВАРЬ БЕЛОРУССКОЙ НАРОДНОЙ ФРАЗЕОЛОГИИ

Издательство Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина. Минск, Кирова, 24.

Рэдактар А. М. Ляпіч. Мастацкі рэдактар В. Т. Лапіцкі. Тэхнічны рэдактар В. П. Безбародава. Карэктар В. В. Сербантовіч.

АТ 05047. Здадзена ў набор 21/IX 1971 г. Падпісана да друку 28/I 1972 г. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 2. Фіз. друк. арк. 10. Ум. друк. арк. 16,8. Уч.-выд. арк. 18,08. Выд. 34—72. Тыраж 7000 экз. Заказ 487. Цана 64 кап.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

О матчына мова! Маленства
вясна!
Ніколі ніхто мне цябе не
заменіць.
Бо ты, як і маці, на свеце адна

*Алесь Бачыла*

# З МОЎНЫХ КРЫНІЦ НАРОДА

Гэту кнігу мне хочацца горача парэкамендаваць усім, хто не абыякавы да роднага слова, каму яго непаўторна-самабытнае гучанне прыносіць радасць і асалоду, а ў сэрцы абуджае шчаслівае пачуццё гордасці. Асабліва ж — я ўпэўнен у гэтым — прыдзецца яна па душы беларускім літаратарам, журналістам і настаўнікам — тым, для каго клопат аб узбагачэнні і развіцці роднай мовы з'яўляецца клопатам аб сваёй прафесіянальнай прыгоднасці, аб сваім чалавечым і грамадзянскім прызванні.

Колькі б ні чытаў і ні перачытваў гэтыя выхапленыя непасрэдна з людской гаворкі і захаваныя ў недатыкальнасці кавалачкі тэкстаў з народнымі фразеалагізмамі, кожны раз будзеш здзіўляцца і захапляцца, і смакаваць: да чаго ж трапна і хораша, ёмка і шчодра! Якое багацце фарбаў, якая бясконцая разнастайнасць інтанацый, якая дакладнасць у характарыстыках і азначэннях, якое тонкае нюансаванне сэнсу, якое хараство! Будзеш чытаць і перачытваць і, пэўна, не аднойчы — з горкім дакорам самому сабе — падумаеш: божа мой, хіба ж можна безуважна праходзіць міма гэтакіх дзівосных скарбаў, міма такіх неацэнных залежаў самай высакапробнай пароды?! Хіба можна не чэрпаць з гэтай бяздоннай, чароўнай, гаючай, вечна жывой крыніцы?

Кажуць, любую мову чалавек здольны вывучыць так дасканала, што можа зразумець субяседніка па адным слове. Калі гэта праўда, то пра родную мову можна сказаць яшчэ больш: на ёй мы часам выдатна разумеем адзін аднаго не толькі па асобным слове, але нават па адным асобным гуку.

Мова — душа народа. Разумець і ведаць мову наро-

да — значыць разумець і ведаць яго душу, значыць быць сапраўды культурным чалавекам і высокасвядомым грамадзянінам. Адзін з самых інтэлігентных людзей і самых выдатных пісьменнікаў нашага часу Канстанцін Паустоўскі пісаў: «Па адносінах кожнага чалавека да сваёй мовы можна зусім дакладна меркаваць не толькі аб яго культурным узроўні, але і аб яго грамадзянскай вартасці. Сапраўднай любві да сваёй краіны нельга ўявіць без любві да сваёй мовы. Чалавек, раўнадушны да роднай мовы, — дзікун. Ён шкодны па самой сваёй сутнасці. Таму што яго абыякавасць да мовы тлумачыцца самай поўнай абыякавасцю да мінулага, цяперашняга і будучага свайго народа».

На мой погляд, аўтары гэтага вельмі патрэбнага і цікавага выдання Е. С. Мяцельская і Я. М. Камароўскі найлепшым чынам засведчылі сваю нераўнадушнасць і любоў да роднага слова, сваю глыбокую павагу да моватворчага генія народа. Іх фразеалагічны слоўнік — вынік шматгадовай, руплівай і мэтанакіраванай працы. Разам з выдадзенымі раней кнігамі вядомага даследчыка беларускай фразеалогіі Ф. М. Янкоўскага ён хораша паслужыць і нашай лінгвістычнай навуцы, і творчай справе пісьменнікаў і журналістаў, і справе культурна-эстэтычнага выхавання ўвогуле.

Дык жа ў добры час!

А аўтарам — шчырая падзяка і пажаданне: не спыняцца на зробленым!

*Ніл Гілевіч*

*Нашым дарагім землякам — калгаснікам Стаўбцоўшчыны і Случчыны — аўтары прысвячаюць гэтую кнігу*

## ПРАДМОВА

*Агульныя заўвагі.* Беларуская народная мова мае вялікую колькасць устойлівых словазлучэнняў, якія адлюстроўваюць яе нацыянальную самабытнасць і спецыфіку. Пераважная большасць устойлівых адзінак беларускай мовы мае агульнанародны характар і складае актыўную частку яе слоўніка. У фразеалагізмах — гэтых самацветах, перлах народнай моватворчасці — адбіўся багаты гістарычны вопыт беларускага народа, накопленая стагоддзямі мудрасць, звычаі, уклад жыцця і побыту.

На жаль, да апошняга часу гэтае вялікае нацыянальнае багацце яшчэ не толькі дастаткова не вывучана, але і не сабрана, не сістэматызавана ў слоўніках. А час не стаіць на месцы, на змену аднаму пакаленню носьбітаў мовы прыходзіць другое, і па гэтай прычыне многія фразеалагічныя адзінкі бясследна забываюцца, губляюцца для нас навечна, хоць яны і патрэбны — пісьменнікам, журналістам, гісторыкам — усім, хто пісьмова ці вусна карыстаецца роднай мовай.

Народная фразеалогія — каштоўнейшы матэрыял для пісьменніка, гісторыка беларускай культуры, важнейшы рэзерв папаўнення выяўленчых сродкаў літаратурнай мовы.

Усё гэта і схіліла аўтараў скласці «Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі». Матэрыялам для гэтага тлумачальнага фразеалагічнага слоўніка паслужылі запісы гутарковай мовы ад прадстаўнікоў розных груп насельніцтва розных раёнаў рэспублікі. Запісы ўяўляюць сабой фіксацыю асобных урыўкаў роднай мовы ў яе звычайным бытаванні, у шэрагу выпадкаў — з індывідуальнымі і выпадковымі адхіленнямі ад існуючых лексічных, граматычных і іншых норм пісьмовай мовы. Ілю-

страцыйны фразеалагічны матэрыял слоўніка — жывая, дзейсная, «трапяткая» народная мова, толькі запісаная на паперы. Такі фразеалагічны матэрыял, як вядома, нялёгка «арганізаваць», разарваць на часткі без парушэння цэласнасці зместу і формы жывой звязнай мовы [1].

Укладальнікі слоўніка паставілі сабе задачай сабраць, «вылушчыць» з гутарковай мовы ўстойлівыя словазлучэнні, раскрыць іх значэнне і ўжыванне, забяспечыць па магчымасці адпаведнай стылістычнай кваліфікацыяй, праілюстраваць фактамі жывой народнай мовы. Пры гэтым укладальнікі добра разумеюць, што сабраны імі матэрыял далёка не вычэрпвае ўсіх фразеалагічных рэсурсаў беларускай народнай мовы і ў самім слоўніку па пэўных прычынах могуць быць спрэчныя моманты з пункту гледжання класіфікацыі і тлумачэння фразеалагічных адзінак. З прычыны нераспрацаванасці методыкі і спосабаў укладання такога тыпу дыферэнцыяльных фразеалагічных слоўнікаў, а таксама праблемы суадносін агульнапрынятага, літаратурнага фразеалагічнага матэрыялу, з аднаго боку, і дыялектнай, вузкай, мясцовай фразеалогіі, з другога боку, у гэтым слоўніку часам можа мець месца непаслядоўнасць у размеркаванні асобных фразеалагічных адзінак або іх варыянтаў. У слоўнік свядома ўключаецца дыялектная, мясцовая фразеалогія, якая, на думку ўкладальнікаў, яшчэ не стала здабыткам літаратурнай мовы, але шырока вядома ў гаворках на тэрыторыі Беларускай ССР і нават за яе межамі.

## *Структурная арганізацыя слоўнікавага артыкула*

1. Слоўнікавы артыкул пачынаецца фразеалагізмам. Варыянты і кампаненты фразеалагічнай адзінкі падаюцца ў дужках. І фразеалагізм, і яго варыянты афармляюцца паводле існуючых граматыка-арфаграфічных правіл. Выключэнне дапускаецца ў рэдкіх выпадках, калі змяненне формы варыянта або кампанента фразеалагізма вядзе да разбурэння яго сэнсу. Напрыклад: *зямля (яблы-*

[1] Аб прынцыпах лексікаграфічнага апісання фразеалагізмаў гл. у працах: Ф. Янкоўскі. Беларуская фразеалогія. Мн., 1968; «Фразеологический словарь русского языка». Под ред. А. И. Молоткова. М., 1967; Skorupka St. Słownik frazeologiczny języka polskiego, t. 1—2. Warszawa, 1967—1968; Słownik języka polskiego. Reg. naczelny Witold Doroszewski, t. 1—10. Warszawa, 1958—1969.

*камі) пахне* к а м у 'блізкі да смерці, адной нагой стаіць у магіле' (пра слабога, нездаровага ці вельмі старога чалавека)'; *і (а) ні блізка* 'нізашто, ні ў якім разе, зусім не, нікольki'; *класціся (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) ад (са) смеху* 'гучна, нястрымна смяяцца, смяяцца да знямогі'; але *як па пісанаму* 'вельмі добра, гладка' (замест *як па пісаным*); *гочы продывыты* 'пільна ўглядацца куды, з нецярпеннем чакаючы з'яўлення каго' (замест *вочы прадзівіць*); *лапека на лапеку* 'зношаная, уся на латах, зусім парваная' (вопратка, сукенка, паліто і г. д.) (замест *лапік на лапіку*) і інш.

2. Усе зафіксаваныя варыянты фразеалагізма прыводзяцца ў адпаведных месцах слоўніка — на тую літару, з якой пачынаецца варыянт. Аднак распрацоўка варыянтаў даецца толькі адзін раз — пры асноўнай фраземе, змешчанай у алфавітным парадку. Прыводзіцца ілюстрацыйны матэрыял і да варыянтаў. Напрыклад, у слоўнікавым артыкуле *глядзець (паглядзець, пагдядаць, пазіраць) коса (скоса, бокам, рубам)* н а к а г о 'недалюбліваць каго, крыўдаваць на каго, праяўляць недружалюбнасць да каго' ў адпаведных месцах слоўніка зроблены наступныя адсылкі: *глядзець бокам, глядзець рубам, глядзець скоса, коса пагдядаць, пазіраць скоса, рубам пазіраць, рубам паглядаць, скоса пазіраць*. Аднак увесь ілюстрацыйны матэрыял — цытаты да памянёных варыянтаў — прыводзіцца пад фраземай *глядзець коса* н а к а г о.

3. У некаторых выпадках, калі адшуканне той ці іншай фразеалагічнай адзінкі не складае цяжкасцей для чытача, адсылкі не робяцца. Напрыклад, няма адсылак на словы *грудзей, зямельку, вісець* у фраземах *даць грудзі (грудзей)* к а м у 'пакарміць грудзьмі', *зямлю (зямельку) дзерці* 'ўпасці ў адчай, гнеўна выказваць незадавальненне ч ы м', *на валаску ліпець (вісець)* 'быць у небяспецы, знаходзіцца пад пагрозай гібелі, знішчэння'.

4. У большасці выпадкаў да фразеалагізма прыводзіцца «адваротны» яго варыянт. Напрыклад: *аб'есці вушы* к а м у і *вушы аб'есці* к а м у 'моцна надакучаць, апрыкрыць каму»; *падаць са смеху* і *са смеху падаць* 'нястрымна, да знямогі смяяцца'. Аднак да некаторых фразем «адваротных» варыянтаў у слоўніку няма па той прычыне, што аўтарам пакуль што не ўдалося выявіць іх

у жывой мове. Так, няма такіх варыянтаў да фразем *пад крой папасці* чыю 'адпавядаць характарам, поглядамі каму'; *не з той (з тэй) нагі ўстаць* 'быць у дрэнным настроі, злавацца'.

5. У адным слоўнікавым артыкуле часам змяшчаюцца дзве, тры і больш сінанімічныя фраземы (з абавязковай адсылкай другой, трэцяй і інш. фразем на адпаведную старонку слоўніка). Напрыклад: *Патрэбен як сабаку пятая нага. Патрэбен як дзірка ў мосце* 'зусім не патрэбен, лішні, перашкаджае'. *На чорта. На якога д'ябла. На няшчасце. На перун. На халеру* 'навошта? для чаго? дзеля чаго?'

Адсылка на «адваротны» варыянт фраземы не падаецца толькі ў тым выпадку, калі гэты варыянт у слоўніку змяшчаўся б адразу за фраземай.

6. За загалоўкам слоўнікавага артыкула даецца паметка, якая ўказвае на стылістычную або эмацыянальна-экспрэсіўную характарыстыку фразеалагізма. У слоўніку стылістычныя паметкі скарачаюцца наступным чынам: *абразл.* — з адценнем абразлівасці, *абурэн.* — абурэння, *абыякав.* — абыякавасці, *асудж.* — асуджэння, *безвых.*— безвыходнасці, *ганар.* — ганарлівасці, *грэблів.* — грэблівасці, *добразыч.*— добразычлівасці, *дакор.*— дакору, *жаласн.* — жаласнасці, *жартаўл.* — жартаўлівасці, *захапл.* — захаплення, *здзіўлен.* — здзіўлення, *зламоўн.*— зламоўнасці, *зласл.* — зласлівасці, *зняваж.* — зняважлівасці, *іран.* — іранічнасці, *катэгар.* — катэгарычнасці, *ласкальн.*— ласкальнасці, *недобразыч.*— недобразычлівасці, *насмешл.* — насмешлівасці, *неадабр.* — неадабрэння, *незадав.* — незадавальнення, *непав.* — непавагі, *непаш.* — непашаны, *пав.* — павагі, *пагардл.* — пагардлівасці, *паграж.* — пагражальнасці, *пераи.* — пераноснае, *пяшчот.* — пяшчотнасці, *рашуч.* — рашучасці, *спаг.* — спагады, *спачуван.* — спачування, *удзячн.* — удзячнасці, *узруш.* — узрушэння, *шкадав.* — шкадавання.

7. Усюды, наколькі гэта было магчыма, пры фразеалагізмах пастаўлены паметкі — словы, пры дапамозе якіх выяўляюцца сінтаксічныя сувязі фразеалагічнай адзінкі ў тэксце: *Выцягваць жылы* з к а г о; *зацяць рукі* з а ш т о; *слова закінуць* з а к а г о; *шапкі не здымаць* п е р а д к і м; *праходу не даваць* к а м у.

8. Значэнне і ўжыванне фразеалагічнай адзінкі і яе варыянтаў раскрываюцца ў ілюстрацыйным матэрыяле-

цытаце (адным або больш сказах, звязных урыўках з жывой мовы). Для зручнасці карыстання ілюстрацыйны матэрыял у слоўніку падаецца спрошчанай транскрыпцыяй. Пры гэтым у ілюстрацыйным матэрыяле захоўваюцца без істотных змен фанетычныя і граматычныя асаблівасці самога фразеалагізма. Мяккасць папярэдніх зычных абазначаецца літарамі *я, ё, ю, е (вясёлы, люблю, белы)*; асіміляцыйная мяккасць зычных перадаецца мяккім знакам: *сьмешкі, сьлязьмі, купаесься, зьмяя, дзьвёры.* Падоўжаныя зычныя перадаюцца праз іх падвоенае напісанне: *ноччу, збожжа, застрэшша;* паміж падоўжанымі мяккімі зычнымі пішацца мяккі знак: *гольле, вецьце, Палесьсе, карэньне, гразьзю, судзьдзя*; выбухное *г* абазначаецца літарай г′. Націск ставіцца толькі ў тых выпадках, калі гэта звязваецца з ліквідацыяй двухсэнсоўнасці слова ці словазлучэння або ў вузкадыялектнай лексіцы. Усе дыялектызмы, значэнне якіх невядома шырокаму чытачу, тлумачацца ў дужках; пры гэтым тлумачацца таксама і некаторыя словы неславянскага паходжання, якія ўваходзяць у склад фразеалагізма.

У канцы ілюстрацыйнага матэрыялу-цытаты даецца скарочанае абазначэнне вёскі і раёна, дзе быў запісаны прыклад з фразеалагічнай адзінкай.

8. Спіс і прынятыя скарачэнні назваў вёсак і раёнаў, дзе запісваўся ілюстрацыйны матэрыял:

| | | | |
|---|---|---|---|
| *Арш. р.* | — *Аршанскі раён* | *Зал.* | — Залессе |
| *Ляўк.* | — Ляўкі | *Рак.* | — Ракаў |
| *Ашмян. р.* | — *Ашмянскі раён* | *Сів.* | — Сівіцы |
| *Вай.* | — Вайнарышкі | *Суд.* | — Суднікі |
| *Бабр. р.* | — *Бабруйскі раён* | *Вайк. р.* | — *Вайкавыскі раён* |
| *Мач.* | — Мачулкі | *Вяр.* | — Вярэйка |
| *Бар. р.* | — *Барысаўскі раён* | *Туп.* | — Тупічаны |
| *М. Ст.* | — Малое Стахава | *Віл. р.* | — *Вілейскі раён* |
| *Нав.* | — Навасёлкі | *Абад.* | — Абадоўцы |
| *Негн.* | — Негнавічы | *Даўг.* | — Даўгінава |
| *Хал.* | — Халмоўка | *Залаз.* | — Залазоўе |
| *Брасл. р.* | — *Браслаўскі раён* | *Зам.* | — Замошша |
| *Бяльм.* | — Бяльмонты | *Кал.* | — Каляды |
| *Зам.* | — Замошша | *Луб.* | — Лубень |
| *Бял. р.* | — *Бялыніцкі раён* | *Страж.* | — Стражы |
| *Сьяц.* | — Свацілавічы | *Юнц.* | — Юнцавічы |
| *Бяроз. р.* | — *Бярозаўскі раён* | *Язн.* | — Язні |
| *Саш.* | — Сашыца | *Вор. р.* | — *Воранаўскі раён* |
| *Бяр. р.* | — *Бярэзінскі раён* | *Ліп.* | — Ліпкунцы |
| *Арэш.* | — Арэшкавічы | *Ганц. р.* | — *Ганцавіцкі раён* |
| *Вал. р.* | — *Валожынскі раён* | *Хат.* | — Хатынічы |
| *Вішн.* | — Вішнева | *Гар. р.* | — *Гарадоцкі раён* |

*Аз.* — Азёркі
*М. Каш.* — Малое Кашо
*Глыб. р.* — *Глыбоцкі раён*
*Заб.* — Заборцы
*Дзярж. р.* — *Дзяржынскі раён*
*Бяр.* — Бярэжа
*Кук.* — Кукшавічы
*Дзятл. р.* — *Дзятлаўскі раён*
*Жыб.* — Жыбарты
*Мул.* — Муляры
*Пад.* — Падвялікае
*Докш. р.* — *Докшыцкі раён*
*Вар.* — Вараны
*Драгіч. р.* — *Драгічынскі раён*
*Заточ.* — Заточча
*Сім.* — Сіманавічы
*Дубр. р.* — *Дубровенскі раён*
*Кал.* — Калінаўка
*Зельв. р.* — *Зельвенскі раён*
*Востр.* — Вострава
*Іван. р.* — *Іванаўскі раён*
*Адрыж.* — Адрыжын
*Апад.* — Ападышча
*Крыв.* — Крывіца
*Пяш.* — Пяшкова
*Фран.* — Франопаль
*Калін. р.* — *Калінкавіцкі раён*
*Ал.* — Аляксандраўка
*Кап. р.* — *Капыльскі раён*
*Вугл.* — Вуглы
*Грыв.* — Грывень
*Навас.* — Навасёлкі
*Трух.* — Труханавічы
*Карм. р.* — *Кармянскі раён*
*Ліцв.* — Ліцвінавічы
*Стар.* — Стараград
*Кар. р.* — *Карэліцкі раён*
*Воз.* — Возерск
*Кай.* — Кайшоўка
*Кож.* — Кожава
*Падг.* — Падгайная
*Тар.* — Тарасавічы
*Кл. р.* — *Клецкі раён*
*Ар.* — Арэшніца
*Іскр.* — Іскры
*Кунц.* — Кунцаўшчына
*Кр. р.* — *Крупскі раён*
*Гум.* — Гумны
*Луж.* — Лужа
*Ухв.* — Ухвала
*Худ.* — Худаўцы
*Лаг. р.* — *Лагойскі раён*
*Ал.* — Алекшыцы
*Бял.* — Бяларучы
*Гай.* — Гайна
*Слаб.* — Слабада
*Ст. Чэр.* — Старое Чэрнева
*Януш.* — Янушкавічы
*Леп. р.* — *Лепельскі раён*
*Кор.* — Кордзікі
*Лід. р.* — *Лідскі раён*
*Каг.* — Кагаліншчына
*Лоеў. р.* — *Лоеўскі раён*
*Пяр.* — Пярэдзелка
*Лун. р.* — *Лунінецкі раён*
*Вульк.-І* — Вулька І
*Люб. р.* — *Любанскі раён*
*Таль* — Таль
*Маладз. р.* — *Маладзечанскі раён*
*Аляхн.* — Аляхновічы
*Гран.* — Гранічы
*Сял.* — Сяледчыкі
*Радашк.* — Радашковічы
*Хож.* — Хожава
*Гар.* — Гарадок
*Маст. р.* — *Мастоўскі раён*
*Азёрк.* — Азёркі
*Дараг.* — Дарагляны
*Дашк.* — Дашкоўцы
*Міл.* — Мілявічы
*Остр.* — Острава
*Міёр. р.* — *Міёрскі раён*
*Прош.* — Прошкі
*Мін. р.* — *Мінскі раён*
*Прыл.* — Прылукі
*Мядз. р.* — *Мядзельскі раён*
*Альс.* — Альсевічы
*Задуб.* — Задубенне
*Зял.* — Зялёнае
*Кул.* — Кулёўшчына
*Мік.* — Мікольцы
*Муц.* — Муцяўшчына
*Пал.* — Палессе
*Пуз.* — Пузыры
*Св.* — Сваткі
*Ст. Габ.* — Старыя Габы
*Чар.* — Чараўкі
*Навагр. р.* — *Навагрудскі раён*
*Ант.* — Антонаўка
*В. В.* — Вялікія Вераб'евічы
*Ген.* — Генюшы
*Кур.* — Куравічы
*Лоз.* — Лозкі
*Любч.* — Любча
*Няс.* — Нясутычы
*Пудз.* — Пудзіна

*Пуцэв.* — Пуцэвічы
*Сен.* — Сенна
*Усел.* — Уселюб
*Нясв. р.* — *Нясвіжскі раён*
*Баяр.* — Баяры
*Кол.* — Колкі
*Ракав.* — Ракавічы
*Пан.* — Панцюхі
*Сал.* — Салтанаўшчына
*Свет.* — Светлае
*Сін.* — Сіняўка
*Ст.* — Стаўпішчы
*Ян.* — Янчыцы
*Пін. р.* — *Пінскі раён*
*Вел.* — Велясніца
*Бобр.* — Бобрык
*Бот.* — Ботава
*Дуб.* — Дубнавічы
*Хойн.* — Хойна
*Цер.* — Церабень
*Чух.* — Чухава
*Пол. р.* — *Полацкі раён*
*Баб.* — Бабінічы
*Заг.* — Загацце
*Пруж. р.* — *Пружанскі раён*
*Апял.* — Апялянавічы
*Мур.* — Мурава
*Рос.* — Росахі
*Шар.* — Шарашова
*Пух. р.* — *Пухавіцкі раён*
*Бл.* — Блонь
*Раўч.* — Раўчак
*Сіц.* — Сіцінск
*Рас. р.* — *Расонскі раён*
*Грыш.* — Грышана
*Сал. р.* — *Салігорскі раён*
*В. Рож.* — Вялікі Рожын
*Вяліч.* — Вялічкавічы
*Свет. р.* — *Светлагорскі раён*
*Пятр.* — Пятровічы
*Страк.* — Стракавічы
*Сен. р.* — *Сенненскі раён*
*Руд.* — Рудніца
*Ульян.* — Ульянавічы
*Слаўгар. р.* — *Слаўгарадскі раён*
*Раб.* — Рабавічы
*Слонім. р.* — *Слонімскі раён*
*Глоў.* — Глоўсевічы
*Жыр.* — Жыровічы
*Каз.* — Казловічы
*Казл.* — Казлоўцы
*Пар.* — Парэчча
*Ст. Дзяв.* — Старыя Дзявяткаўцы
*Слуц. р.* — *Слуцкі раён*
*Бяр.* — Бярозаўка
*Гр.* — Грэск
*Смал. р.* — *Смалявіцкі раён*
*Зарэч.* — Зарэчча
*Старадар. р.* — *Старадарожскі раён*
*Кав.* — Кавалічы
*Рух.* — Рухава
*Яз.* — Языль
*Стаўб. р.* — *Стаўбцоўскі раён*
*Ас.* — Асіпаўшчына
*Ат.* — Аталезь
*Бар.* — Барок
*Вар.* — Варацішчы
*Веч.* — Вечатарова
*Гал.* — Галавенчыцы
*Гор.* — Горкі
*Жац.* — Жацерава
*Ж. Барок* — Жукаў Барок
*Зал.* — Залужжа
*Каз.* — Казейкі
*Марх.* — Мархачоўшчына
*Мік.* — Мікалаеўшчына
*Мяс.* — Мясёнкаўшчына
*Нал.* — Налібокі
*Пр.* — Пруды
*Раёў.* — Раёўшчына
*Сав.* — Савоні
*Ст. Св.* — Стары Свержан
*Тат.* — Татаршчына
*Хал.* — Халаімаўшчына
*Шаш.* — Шашкі
*Стол. р.* — *Столінскі раён*
*Альг.* — Альгомель
*Аўсям.* — Аўсямірава
*Вік.* — Віктаравічы
*Мал.* — Малешава
*Сіц.* — Сіцікк
*Угал.* — Угалец
*Тал. р.* — *Талачынскі раён*
*Слав.* — Славені
*Уздз. р.* — *Уздзенскі раён*
*Ракаш.* — Ракашыцы
*Таўкач.* — Таўкачэвічы
*Уш. р.* — *Ушацкі раён*
*Глыб.* — Глыбачка
*Н. Тур.* — Новыя Турасы
*Чав. р.* — *Чавускі раён*
*Піл.* — Пілешчына
*Чачэр. р.* — *Чачэрскі раён*
*Кр.* — Крутое
*Чэрв. р.* — *Чэрвеньскі раён*
*Дам.* — Дамавіцк

*Шарк. р.* — *Шаркаўшчынскі раён*
*Ед.* — Ёды
*Шум. р.* — *Шумілінскі раён*
*Об.* — Обаль
*Шчуч. р.* — *Шчучынскі раён*
*Карп.* — Карпейчыкі

Аўтары лічаць сваім абавязкам выказаць шчырую падзяку членам кафедры беларускай мовы Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, членам кафедры беларускай і рускай мовы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, кандыдату філалагічных навук дацэнту І. К. Германовічу за заўвагі і рэкамендацыі, накіраваныя на паляпшэнне гэтай кнігі.

## А

АБ АДНЫМ МАЛАКУ (гурку, шчаўлю і інш.). Пераважна нейкай адной ежай, стравай (жывіцца, харчавацца). Дзіця аб адным малаку жывець. *Ульян., Сен. р.* Аб адным малацэ косу ні пацягняш, трэ й скораму ўкусіць. *Вяліч., Сал. р.* Зяць вельмі ш любіць гуркі салоныя с картоплямі есьці, дак і сюды (да цешчы) як прыедзя, усе патстаўляюць (гуркі). А я кажу: «Вы п каўбасы палажылі да яшчэ сяго-таго смачнаго. Што той гурок! Аб адном гурку добр ня будзяш». *Гр., Слуц. р.* Ціпер я нікому ні шкадую ні хлеба, ні бульбачкі. Як падумаю, як стръдалі, гълъдалі посьля вайны! Аб адном шчаўлю жылі, думала, ніколі не выб'юся зь ністачы. *Ляўк., Арш. р.*

АБВЕСЦІ КРУГОМ ПАЛЬЦА к а г о. Умела ашукаць, падмануць каго. Гэтыя Соніны (дзеці) ўсе хітрыя. Як бачыш пагавораць, пагавораць, абрахуюцца, каго абвесці кругом пальца, а потым ходзяць па сяле і рагочуць як коні. *Ст. Св., Стаўб. р.* Рас прышоў да нас цыган. Дай, кажа, сьвечку грамнічную. Наліў у шклянку вады, запаліў сьвечку, паставіў сьвечку — а во ўжо чэрві. Гэта, кажа, твае няпрыяцелі. А сам усе на куфар паглядáя. Я дагадалася, што хоча кругом пальца абвесьці, абабраць нас хоча. *Пр., Стаўб. р.*

АБ'ЕСЦІ (аб'ядаць, пааб'ядаць) ВУШЫ к а м у. *Незадав.* Моцна надакучыць, апрыкрыць каму. Вой, вой, йдзі ты пат халеру! За вечар аб'еў вушы, пляцеш абы што. *Зал., Стаўб. р.* Мая сваха ў Стараселі напуская жыўёла і мучыць жыўёлу. Карміць німа чым, а пакінула карову, цялушку, цяля, двоя сьвіней. А курэй, а качкі! А ўсе ш карміць трэба! Яны ёй аб'ядзяць вушы. *Гр., Слуц.*

*р.* Гэтыя сьвіня за весну вушы аб'елі. Карміць німа чым, а тры разы на дзень дай. *Сав., Стаўб. р.* Трэба будзя аказацца той Мані, каб зярнят якіх пудоў два прадала. Сваіх тры пудочкі ест да гэтыя б два завясьці ў млын, змалоць, і, як скармлю, тады ўжо буду калоць (свінню). Надаелі гэтыя сьвіня, што ня вытрымаць, вушы аб'елі. *Там жа.* Цяпер як пагляджу, дак разумнейшыя людзі сталі. Бывала, дзяржалі па пяць кароў, карміць ні было чым, за зіму вушы пааб'ядаюць, а малака з усіх вядро надоіш. А цяпер адну дзяржыш, а малака болій як сь пяці. *Зарэч., Смал. р.*

АБІВАЦЬ ПАРОГІ. Гл. ПАРОГІ АБІВАЦЬ.

АБІРЫЧЫЦЬ ЯК БЕЛКУ каго. *Іран.* Забраць усё, абабраць да ніткі каго. А Юзік вёс много, яму што далі родныя, усё браў. А на граніцы тамажнікі абірычылі як белку. Усё харошаё, усё лепшаё павыбіралі, а яму горшаё пакінулі. *Сав., Стаўб. р.* Цяпер сьвет паспакайнеў. А бывала ш, за гетымі зладзеямі нічога ні схаваяш ні ў гумне, ні ў клеці. Улезуць, абірычаць як белку, і йшчы ветру ў полі. *Гр., Слуц. р.*

АБЛАТАШЫЦЬ ДА НІТАЧКІ каго. Забраць, адабраць усё ў каго. Ехалі мы аднойчы с кірмашу, прыпазьніліся. А ехаць трэба было праз лес, а на двары прыцямнелася. Толькі ўехалі ў лес, аж выходзяць на дарогу нейкія мушчыны, абарваныя, на нагах атопкі, і давай шнырыць у возе. Заграбасталі ўсе нашы пажыткі, аблаташылі да нітачкі, шчэ й напалохалі, чуць жывыя дамоў вярнуліся. *Рак., Вал. р.*

АБМЫВАЦЬ (перамываць) КОСТАЧКІ каго. *Асудж.* Абгаворваць каго. І толькі мы з Зосяй пачынаем абмываць костачкі адной сусеткі, як у хату ўлятае, ну ўся раўно як ашалелы, Алёшка і крычыць: «Пажар!» *Дашк., Маст. р.* Сабраліся ўжо бабы каля Сашчыхі перамываць костачкі суседак. *Гор., Стаўб. р.* Ня слухай, Волячко, гэну балаболку. Каждаго яна костачкі абмые, каждаго абсудзіць. Што яна гаворыць, то роўно вецяр дзьме. *Падг., Кар. р.* Мая даражэнькая, яна каждаго абмыя, каждаму костачкі перабярэ, не глядзі, што маладоё. *Там жа.*

АБСЕСЦІ ДЗЕЦЬМІ. Мець многа малых дзяцей (у сям'і). Братавая сьвету ні бачыць. Абсела дзецьмі, ды й даяркай робіць, хоча, кап капейка якая вялася ў хаці. *Гор., Стаўб. р.* Наша Лёдзя маладая была харошая,

але вышла замуш, апсела дзецьмі, і ніхто тоі красаты яе ні бачыў. Так і сьцерлася. *Сав., Стаўб. р.* Апсеў дзеткамі маленькімі, труднавато. Але стараяцца зарабіць, сам у тартаку, а яна даяркаю ў калхозі. Труднавато, але нічого, выгадуюцца. *Жац., Стаўб. р.*

АБУЦЬ У ЛАПЦІ к а г о. *Незадав.* Вучыць, настаўляць к а г о. «Ні так вы, дзяцька, гаворыце. Родны бацька к сваёй дачке й должан прыхінуцца, хай бы замок быў у хаці. А вы ад дачкі хочаце быць незавісімым». — «Ні абувай мяне ў лапці, я гэта чуў». *Ляўк., Арш. р.*

АБХОДЗІЦЬ ЗА ВЯРСТУ. Гл. ЗА ВЯРСТУ (за кіламетр) АБХОДЗІЦЬ.

АБ (за) ЦАНУ НЕ СТАЯЦЬ. Гл. НЕ СТАЯЦЬ АБ (за) ЦАНУ.

АБЦІРАЦЬ (выціраць) ВУГЛЫ (куткі). *Дакор., асудж.* **1.** Сланяцца без справы. Няма каб пасядзеў дома, памох ухадзіцца, дык абцірае недзе вуглы. Сама маці ўсюды спраўляйся. *Кунц., Кл. р.* Нечаго паехаў бы на тую Нарач, а то будзяш тут толькі вуглы абціраць. *Сав., Стаўб. р.* Я кажу Антонісе: «Ты анегды гукала, што ўзняла зубы (збілася з ног, пытаючы, шукаючы), пакуль не купіла новы касьцюм сыну, а ён выцірае куткі ў тым касьцюме». — «Праўду кажаш, Настачка. Дома я яму дам жару, скажу, што куткі выціраць добра і ў куфайцы». *Баб., Пол. р.* **2.** Глядзець, як танцуюць. Зьмітрок як малады быў, дык прідзём на ігрішча, а ён скакаць ні скакаў, а тоўкся ў памельніку (у качарэжніку) толькі ды вуглы абціраў. *Грыш., Рас. р.* У нас ёсь і мальцаў, і нічога мальцы, але толькі выціраюць куткі на танцах, а на пляц (круг) не выходзяць пагуляць, дзяўчаткі танцуюць самі с сабой. *Баб., Пол. р.*

АБЫ ДЗЕНЬ ДА ВЕЧАРА. Абы як, неахвотна. Ён жа хлапец працавіты. Ён ня будзіць гэта сабе, як другі, абы дзень да вечара, а ўжо калі азяўся, то ўсё гарыць у ягá. *Язн., Віл. р.*

АБЫ З РУК. Нядбайна, дрэнна, абы зрабіць. Панесла к Анюця рубашку шыць. А тая абы з рук. Пакроіла абы як, склала-склала, і гатова. Цяпер шыць ніхто ня хоча, сядзі бэрзайса. *Гр., Слуц. р.* Каб вас агонь пабраў з этакаю работаю! Абы з рук. Прысьляпіў (прыбіў) двума гвозьдзікамі карыта, а дно й атваліласа. *Там жа.*

АБ'ЯДАЦЬ ВУШЫ к а м у. Гл. АБ'ЕСЦІ (аб'ядаць, пааб'ядаць) ВУШЫ к а м у.

АГОНЬ ГАРЫЦЬ з каго. Гл. СВЕЧКІ ГАРАЦЬ з каго.

АДАБРАЛА НОГІ каму. Гл. НОГІ АДАБРАЛА каму.

АДБІРАЦЬ ВОЧЫ. Сляпіць, асляпляць. На дварэ хорашо, ціхо. Сьнех адбірая вочы, глядзець ні можно — вясна скоро. *Сав., Стаўб. р.* Нашаравала каструлю — аж вочы адбірая, а то брудная валялася на пругмені. *Жац., Стаўб. р.*

АДБІЦЦА АД РУК. Не слухацца каго, перастаць падпарадкоўвацца каму. Ні ведаю, што рабіць з гэтым хлопцам?! Ну зусім адбіўсё ад рук. *Сав., Стаўб. р.* Даўней, як сястра жывá была, усе сястрыны дзеці за мною былі адданыя. А як сястра памерла, адбіліся ад рук — ґот пісьма ні было, гот пісьма чакала. *Там жа.* Жылі два браты ў старэнькага бацькі. Расьлі вялікія, дужыя, але да работы нягдатныя. А як падрасьлі, зусім ад рук адбіліся. *Ракаш., Уздз. р.* Што мне зь ім рабіць? Зусім ад рук адбіўся. Яшчэ як маці жывá была, то сяк-так, а што я гавару, то ён мне: «Што ты мяне вучыш, бабо?». *Пад., Дзятл. р.*

АДБІЦЦА (адбівацца) АД ХАРЧЫ. Страціць апетыт. Некая няг′ег′лая зрабілася, адбілася ад харчы. Спрагу (спяку) яечка — і есьці ні хачу. *Ліцв., Карм. р.* Чылавек зношываецца ад году г′ году, ад нядзелі к нядзелі, усё слабей становіцца, адбіваецца ад харчы, хліпаець, хліпаець і канец. *Там жа.*

АДБІЦЬ НОГІ. Гл. БІЦЬ (адбіць, паадбіваць) НОГІ.

АД БОЧКІ ЗАТЫЧКА (шпунт). *Зняваж.* Пра чалавека, з якім не лічацца, якога калі трэба і калі не трэба пасылаюць выконваць розныя даручэнні, просьбы. Да што я — ад бочкі затычка ці што? Хай пасылая каго хоча, а я ні пайду. Сказаў, ні пайду, значыць, не. *Гор., Стаўб. р.* Кап цябе агні высмалілі с тваім харакцярам! У другіх гаспадары як гаспадары, а мой ат усякай бочкі шпунт, дзе трэба, дзе ня трэба яго паттыкаюць, ня можа абазвацца, пастаяць за сябе. *Гр., Слуц. р.*

АДБОЮ НЯМА ад каго. Не абагнацца. Хай іх балесь, хай іх. Як усі роўна ніколі ня елі, проста адбою німа ад гэтага каршуньня (хатніх птушак). *Н. Тур., Уш. р.* Маня Грышкава вырасла, харошая стала, ад кавалераў адбою няма. *Гор., Стаўб. р.*

АДБЫВАЦЬ АДБЫВАЛАЎКУ (павіннасць). *Асудж., абурэн.* Працаваць нехаця, без жадання, фармальна вы-

конваць работу, службовыя абавязкі. Ты што гэта?! Скора абет, а ён і не пачынаў яшчэ, адбывае адбывалаўку. Вот гультаіна! *Раўч., Пух. р.* Старых і лячыць ня хочуць, дальбох праўда. Прыложыць аччэпнаго два разы трупку — і йдзі, а ён (доктар) ужэ адбыў сваю павіннась, палячыў. *Гр., Слуц. р.*

АДВАРОЧВАЦЬ НОС ад каго. *Гл.* ВЯРНУЦЬ (адварочваць) НОС ад каго.

АДДАВАЦЬ НА ДОЛЬНІЦУ. Згадзіцца працаваць на чужой гаспадарцы на ўмовах атрымання пэўнай часткі (долі), паю ад даходу гэтай гаспадаркі з усімі правамі спадчыннасці. Яг'ба, к прымеру скажам, мыя́ саседка мела зямлю, а ні мела сілы абрабляць яе, а я б мела дзяцей, а ні мела зямлі, тады возьмець іна́ маю дачку, ета называлася аддаваць на дольніцу, пумагала б ей, парабкавала. *Ліцв., Карм. р.* Было такое ўрэмя (мыя сьвякроўка кызала), што аддавалі на дольніцу, у парыбкі. Я та ні помню етыга. *Там жа.*

АДДАЦЬ БОГУ ДУШУ. *Шкадав.* Памерці. Шкода, шкода чалавека, такі добры быў. Забрала, беднага, сьмерць, ужэ зь месяц як аддаў богу душу, ляжыць у сырой зямельцы. *Кунц., Кл. р.* Доўго мучыўся, бедны, усё хварэў, а пад сёмуху богу душу аддаў. *Сав., Стаўб. р.* Стася с прастуды памерла, але нічого зрабіць ні маглі, бо ціф патпаў. Было дваццаць тры гатке, як богу душу аддала. *Там жа.* Занядужала яна шчэ зімой, а летам богу душу аддала. *Няс., Навагр. р.* От с таго спужа́ньня цётка наша захварэла, спачатку сэрца, а потым прыпаткі — і ўскорасьці богу душу аддала. *Бял., Лаг. р.*

АДДАЦЬ ДУХІ. Памерці. Забалеў грыпам, кроў лінула ротам і носам — і аддаў духі. Ці ж гэта я думала яго хараніць? *Ульян., Сен. р.* Наша Аньця, бедная, мучылася, мучылася і недзя пад восянь і духе аддала. *Сав., Стаўб. р.*

АДДАЦЬ КАНЦЫ. *Гл.* КАНЦЫ АДДАЦЬ (аддаваць).

АДДАЦЬ УТРАТНАЕ каму. Сплаціць кошт выпітага і з'едзенага ў час сватаўства (калі дзяўчына не хоча выходзіць замуж). У мяне была сяброўка. К ей адзін пасватаўся. Харошы хлопяц, казаў, што ест свая крама. Матка пашла паглядзела, а там толькі стаіць бочка зь дзёгцем і солі мяшок — ніякай крамы німа. Аддала ўтратнае, заплаціла грошы, што ён тутака прывозіў, выпівоў,

і прышла. Потым другі пасватаўся. Далі на запаведзь, едуць дадому, дык ён і гаворыць: «Трэба к свадзьбе кап паліто купіла, мне стыдна с табой». — «А-а-а, як стыдна, дык і ня трэба. Табе трэба паліто, дык ты і шукай с палітом». І зноў не пашла. Ужо гэтаму аддала ўтратнае, другому. Потым прыехаў трэйці. Яна спачатку згадзілася, а потым агледзелася, што ён надта брыткі. Плача, галосіць, кляне, як гэта я пайду за такога брыткога. Зноў маці панесла аддала яму ўтратнае. Канцы канцоў, с тым самым першым пажанілася. *Кук., Дзярж. р.*

АДЗЕЦЦА Ў САБАЧУЮ ШКУРУ. *Асудж.* Стаць здраднікам. Трасцу п немяц тут так разгарнуўса, каб ня тыя выраткі, што адзеліса ў сабачую шкуру і ўдавалі людзей. *Гр., Слуц. р.* А сусет наш, Нічыпар, у паліцыю падаўся, у сабачую скуру адзеўся, і нас, сваіх сяльчан, узёўся цьвічыць. *Вішн., Вал. р.*

АДЗІН-АДНЕСЕНЬКІ (адна-аднесенькая, адно-аднесенькае). АДЗІН-РАЗАДЗІН (адна-разадна, адно-разадно). *Спаг., добразыч.* Зусім адзін (адна, адно), толькі адзін (адна, адно). Нашых усіх немцы пабілі: і тата, і брата аднаго, другого, трэцяго. Астаўся я адзін-аднесенькі, жыву, як верабей. *Туп., Вайк. р.* Сонейка ніска, а я адна-аднесенька ў Шыманскім лесі, дзікія сьвіньні толькі вухкаюць, логвіны (логавішчы) павыкладаныя. Страшна. *Бял., Лаг. р.* Садзіла гусі, думала, хай і ў мяне будуць, а яна (гусь) памарыла, адно-аднесенькае вышла, і што зь ім цяпер рабіць? *Там жа.* Тэпэр никого ныма, одын-одынюсэнькі, сэдю да гадаю, колы то пысьмо будэ. *Бот., Пін. р.* Шэсьць чалавек было сям'і: тры дачкі, сын. А цяпер жонка памярла, дзеці параз'яжджаліся, жыву адзін-разадзін. *Міл., Маст. р.* Адна-разадна жыву, аш страшна ў хаце. *Там жа.*

АДЗІН-АДНЫМ (адна-адным, адно-адным, адным-адны). АДНЫМ-АДЗІН. АДЗІН ДВАРОМ. Зусім адзін (адна, адно). У Камара такія сынэ памерлі, астаўсё чалавек адзін-адным пат старасьць. *Сав., Стайб. р.* Жыву адна-адным. Робіла ўсей час старожкай, пака ні пашла на пенсію. Жыву пры школе, кварціру далі казённаю, гарод. Жыву адна-адным. *Об., Шум. р.* Адна маці сядзіць як верабей. Адна-адным. Два сыны выгадавала, абудва пажаніліса. *Гр., Слуц. р.* Матруна адна жывець, адна-адным, калі толькі ўнук Надзін даведаіцца. *Ляўк., Арш. р.* Пажыла два гадочкі анным-анна, а тагды Антон стаў

сватацца, хацеў ка мне ў прымы йсьці. *Гр., Слуц. р.* Мая мама кожны дзень ходзіць жаць. Усе па дзьвёх ці па трох жнуць, а яны (мама) адным-адны жнуць, яны адныя жнуць і снапэ сама вяжуць і стаўляюць. *Туп., Вайк. р.* А гэты во стары, што да нас учора заходзіў, адзін дваром жывець. Два разы жаніўся, дочка і сыны ё, а ён адзін жывець. *Ляўк., Арш. р.* Жывець адзін дваром. Дзяцей маленькіх распарадчыў, каго ў дзеддом, каго куды, жонку закапаў, і сам сабе хадзяін. Цілівізер купіў, і грошы ё, і сала сваё, жывець адзін дваром. *Там жа.*

АДЗІН АДНАГО (другога) НЕ ПЕРАЦЯГНЕ. *Асудж.* Пра людзей з аднолькавымі характарамі, звычкамі. І сын добры, і сьвёкер добры, адзін аднаго не перацягне. Наравіць і аднаму трэба і другому дагоджваць. А што ты зробіш? Знай наравы да сьцяражы галавы. *Гр., Слуц. р.* Цябе набілі? Ня лесь, абудва добрыя, адзін другога ні перацягняцця. *Кав., Старадар. р.*

АДЗІН ДВАРОМ. Гл. АДЗІН-АДНЫМ (адна-адным, адно-адным, адным-адны). АДНЫМ-АДЗІН.

АДЗІН (адна, адно) ПАД АДНЫМ. Адзін за другога меншы (пра дзяцей). Ядакоў у хаці многа (нас семіра было), адзін пад адным, а зямлі мала, і тая — пясочак горкі, каменьні. Душыліся поліўкай, куляшом аржаным. *Слав., Тал. р.* Дзеўкі, што грыбы, растуць адна пад адной. *Ляўк., Арш. р.* А ў Вясеі ў чалавека дзісяцера дзяцей, адно пад адным. Бярэ па мяху хлеба на дзень — зьядзяць! *Бяр., Слуц. р.*

АДЗІН ПА САБЕ. Адзінока, толькі адзін. Сынэ два ў Польшчу выехалі. І дачка там. А бацьке тут засталіся. Як прысталі сынэ, асобянно адзін, прыягджайця, тато, што вы там адзін па сабе жывяце? І як настаў, як настаў — сабраліся яны ехаць. *Пр., Стаўб. р.* Што гэто вы, Сьцяпанавіч, ідзяце адзін па сабе? *Сав., Стаўб. р.*

АДЗІН-РАЗАДЗІН (адна-разадна, адно-разадно). Гл. АДЗІН-АДНЕСЕНЬКІ (адна-аднесенькая, адно-аднесенькае).

АДЗІН У АДЗІН (адна ў адну, адно ў адно). Добрыя, роўныя якасцю, вартасцю, памерам. Сыны тры пры дому адзін у адзін, дык і яна разумная. Пажыла п адна, дык бы падурнела. *Сав., Стаўб., р.* У яго зубы ўсе роўнянькія, адзін у адзін. З шастога года, а зубы як у кавалера. *Там жа.* Купіла ўвосянь гурочкаў адзін у адзін да гэдыкія харошыя. *Там жа.* Бульба на тым загоне была адна ў адну,

дык і капаць было скора і добра. *Кав., Старадар. р.* Летась палучыла два мяшкі збож'я, змалола на муку, дак зернятка анно ў анно, анно ў анно, а цяпер трохі г'ірус пракідаецца. *Гр., Слуц. р.* Паглядзі, яблынька маладая, яблычкі адно ў адно, хорашо глядзець. *Гор., Стаўб. р.* Адзін гот былі антонаўкі, то німного, па чатэры на дзераво, але адно ў адно, а гэты гот неяк зачарвівелі, асыпаліся. *Там жа.*

АДЗІН (адна) ЧОРТ (трасца, халера.). *Незадав.* Тое самае, усё роўна, усё адно. Ці ты ёлкай палі, ці дубовымі драўмі, адзін чорт — холадно ў хаці. Трэба будзе летам перасыпаць, вокны пааптыкаць. *Гор., Стаўб. р.* Ты кажаш, што там атава парасла. Адзін чорт, што ў Алешніку, што пат Стоўпцамі, — і тут і там зьбілі кароўмі. Я ж ведаю. *Жац., Стаўб. р.* І цеста мяшала, млечкам палівала, зярнят якіх пасыплю, а адна трасца — няўдалыя ў міне цяпер сьвіня, худыя як ражнэ. *Сав., Стаўб. р.* Ці ў Мінск весьці, ці тут здаваць, адна халера: дзёшаво, шкода толькі працы. *Там жа.*

АДЗІН (адна, адно) ЯК ВОКА Ў ЛОБЕ. Адзін, адзінокі, зусім адзін. Адзін той сынок як воко ў лобі, і той некі нілюцкі, з жонкаю развёўсё. *Сав., Стаўб. р.* Як жылі, дак жылі, было весяло, шчасьліво. А памёр мой стары, асталася адна як вока ў лобе. І вады лошкі няма каму падаць, як захварэю. *Міл., Маст. р.* Засталася тая старая адна як вока ў лобе. Сыны два ў сьвеці, жонак маюць, сем'і, а ты, матка, сядзі, пака бэлькі ўваляцца. *Ж. Барок, Стаўб. р.*

АДЗІН (адна, адно) ЯК КОЛАС. Адзінокі, толькі адзін, зусім адзін. Родных дзяцей німа, браты і сёстры тут засталіся, а жончына радня ні вельмі яго там (у Польшчы) глядзіць. Адзін як колас там. *Пр., Стаўб. р.* Я жыву адна як колас. Дзяцей выгадавала, разьляцеліся па сьвеці, а я сяджу на печы адна-адным. *Сав., Стаўб. р.* Асталася адна кабета, адна-адна як колас. Адна. Матка памерла, дзеці недзі ў сьвеці. *Там жа.* Сына мела, і забіўся той сын, забіло яго. Асталася (матка) адна як колас. *Жац., Стаўб. р.*

АДЗІН (адна, адно) ЯК ПАЛЕЦ. Зусім адзін, адзінокі. Ты ж ведаяш, адна як паляц, словам німа да каго абазвацца, дзіво што выйду пасядзець да каго. *Сав., Стаўб. р.* Дзевачка тая адна як паляц, і глядзіць і даглядая. Такая харошая зрабілася, адзяецца хорашо, есьць

смашно. *Жац., Стаўб. р.* Маня свайму патурая. Ведамо, адзін як паляц той хлопчык расьце. *Гор., Стаўб. р.*

АД'ЕСЦІ ВАНТРОБЫ к а м у. Гл. ВАНТРОБЫ АД'ЕСЦІ к а м у.

АД'ЕСЦІ (ад'ядаць, выядаць, пераядаць) СЭРЦА (душу, нервы) к а м у. *Асудж.* Давесці да адчаю, змучыць каго. Вот суседзі цяпер у мяне, слова не скажы. Робяць наперакор, чуць што — сварыцца. Ад'ясі сэрца с такімі людзьмі. *Сав., Стаўб. р.* Што мне рабіць з гэтымі курамі, ото выядаюць сэрца. Зачыніць у хляве, шкода, яйца ні ўбачыш, а дасі патолю, шкоды наробяць. *Там жа.* Яна, бедная, і памерла рано, не было яшчэ і пілзісят. Дзеткі ёй пераядалі сэрца, непаслушныя былі, яна крычала і крычала ўсё на іх. *Там жа.* Як ты мне надаеў! Вазьмі ты гэтыя дзесяць рублёў і не ад'ядай нерваў. *Кунц., Кл. р.* А мой учора прышоў як цэп і сёньня тое самэ. І веда, што пойдам у госці, і пашоў у заработкі к Аўдоці гной выкідаць. Так пераеў серца, ня вытрываць. *Гр., Слуц. р.* А ён ад гэтага ня йшоў у школу, што яму дзеці наругаўшыся, і вучыцелька такая была, душу пераеўшы. *Бяльм., Брасл. р.*

АДКІНУЦЬ НОГІ (хвост). Захварэць. Нешто мой малы адкінуў ногі, ні есьць, увесь гарыць. Трэба доктара паклікаць будзя. *Ст. Св., Стаўб. р.* Антось Камар нешто ногі адкінуў, ні можа; казаў, усё баліць, ледзьве-ледзьве жыву. *Жац., Стаўб. р.* Думала з Маняю пайсьці ў грыбэ, зайшла па яе, а яна ляжыць кала хаты, нешто адкінула хвост, кажа, ні магу. То адна пашла і трохі назьбірала. *Сав., Стаўб. р.* Нявестка мая хварэя, ні ходзіць на работу, хвост адкінула. Можа грып гэты. *Там жа.* Дзіця няўдалэ такоя, абы чуць застыла, дак і аткіня хвост, усе ў бальніцы і ў бальніцы. *Гр., Слуц. р.*

АДКІНУЦЬ ХВОСТ. Гл. АДКІНУЦЬ НОГІ (хвост).

АДЛЯГЛО (адышло) АД СЭРЦА. Перастала непакоіць, рупець. Заблудзіўсё я ў лесі. Хадзіў-хадзіў, хадзіў-хадзіў, а як выйсьці — ні ведаю. Спалохаўсё. А тагды пачуў галасэ, давай бегчы і вышаў на свой бок. Як вышаў, ад сэрца трохі адлягло, а то быў спалохаўсё. *Жац., Стаўб. р.* Калі Янак прышоў, адлягло ад сэрца трохі, а то думаў, што й ні прыйдзя ўжо. *Сав., Стаўб. р.* Паставіла матка (чыгунчык) картофлі, дачка пырсь той чыгунчык сь печы, калі швырне той гаршчок. А матка ў сэрцо

смутку набрала, засумавала, ходзіць да плача. А тады адвілосё, адышло ад сэрца, жыла, мучылася. *Там жа.*

АДНА ТРАСЦА. Гл. АДЗІН (адна) ЧОРТ (трасца, халера).

АДНА ХАЛЕРА. Гл. АДЗІН (адна) ЧОРТ (трасца, халера).

АДНА ШКУРА. Гл. АДНЫ (адна) РЭБРЫ (косці, шкура). КОСЦІ І (ды) ШКУРА (кожа).

АДНОЙ ГАЛАВОЙ. Адзінока, толькі адзін (адна, адно). Як цёплыя дзянькі сталі, думаю, німа чаго чакаць з мора пагоды. Сабрала я вузялок, папрасіла двух памагатых і пашла торф капаць. Німа ж на каго спадзявацца, жыву адной галавой. *Рак., Вал., р.*

АДНОЙ НАГОЙ У МАГІЛЕ СТАЯЦЬ. Гл. СТАЯЦЬ АДНОЙ НАГОЙ У МАГІЛЕ.

АДНЫ (толькі) ВОЧЫ БЛІШЧАЦЬ у каго. Хто схуднеў, зблажэў да такой ступені, што адны вочы засталіся. А мая прыехала посьля вучобы, дык такая худая, што адны вочы блішчаць. *Кав., Старадар. р.* Некалі як пампушка была, а цяпер хударэбрыцаю некаю стала, адны толькі вочы блішчаць. *Баяр., Нясв. р.* Прыехаў сын з аг'замінаў, то такі стаў блажэнькі, адны вочы блішчаць. І дурному, цёмнаму, блага, і вучыцца цяшко. *Шаш., Стаўб. р.*

АДНЫ КОСЦІ. Гл. АДНЫ (адна) РЭБРЫ (косці, шкура). КОСЦІ І (ды) ШКУРА (кожа).

АДНЫМ-АДЗІН. Гл. АДЗІН-АДНЫМ (адна-адным, адно-адным, адным-адны). АДНЫМ-АДЗІН. АДЗІН ДВАРОМ.

АДНЫМ ЛЫКАМ ПЛЕЦЕНЫ (шыты). *Непав.* Аднолькавыя, падобныя (характарам, выхаваннем і г. д.). Шчапіліся на полі сварыцца дзьве кабеткі, то брахаліся, як толькі маглі. Нігодная ні змоўчыць, адным лыкам плецены. Заўзятыя гэтакія! *Кунц., Кл. р.* Адасіха ні сказала, дык ты хочаш у Адася праўды выпытаць? Ён жа адным лыкам шыты ж жонкаю. *Гр., Слуц. р.*

АДНЫМ СЛОВАМ. 1. Добры, харошы, адмысловы. Ты хочаш карову купіць? А братка ты мой, насватаю табе карову адным словам: і малака многа дае, і малако жырнае. *Кунц., Кл. р.* Яна старая, ніякая (нікуды не вартая) тая мая баба, жыць зь ей ні захацеў. А гэта мая баба анным словам, маладая, пекная, я зь ей буду жыць. *Залаз., Віл. р.* Чыстае сала, белінькае. І мясо харошае.

Чыстаё мясо, адным словам мясо. *Сав., Стаўб. р.* Паглядзеця, якія харошыя нашы жанчыны. Адным словам жанчыны: чырвоныя шчочкі, губы як намаляваныя, заружавеліся на марозі. *Бар., Стаўб. р.* **2.** Карацей кажучы, увогуле. Са значэннем пабочнага словазлучэння. Адным словам, наганяў (немец) столькі страху, што хужы, чым кулі, баяліся. *Ухв., Кр. р.* На этых курсах учылі гатаваць есьці: ну, як накрываць на стол, зь якога боку палажыць вілку, лошку, адным словам, усё, як прыгожа накрыць на стол. *Ед., Шарк. р.* Чы глуховата, чы драчовата, чы накульгвала, одным словом, няка ганьбывна (з ганьбай) була. *Сім., Драгіч. р.* Варыла мэнэ смага та, смоктала мэнэ, то я тры дня нычого ны ів, одну воду, й то возьму воду, мэнэ рвоты. Одным словом, ны можно було нычого ны істы, ны пыты. *Бот., Пін. р.*

АДНЫ (адна) РЭБРЫ (косці, шкура). КОСЦІ І (ды) ШКУРА (кожа). Вельмі худы, благі, знясілены, змарнелы, змардаваны. Не пушчу я дзяцей на тую аксcкурсію — паглядзі, якая Таня. Адны рэбры. *Веч., Стаўб. р.* Што яго (кабана) калоць! Адны рэбры яшчэ. От трохі пакармлю, туды пад Новы гот заколям. *Сав., Стаўб. р.* І грошай много зарабляя, а худы, адны косьці. Парода, мусіць, іх такая. *Там жа.* Некая худая расьце Яцька, адна шкура, а есьці даю што хоча. *Гор., Стаўб. р.* С тым (з першым мужам) была добра падджэг'ліласа (змарнела). Прыехала з таго Дальняго Востоку — толькі кожа да косьці. А з гетым ражжыласа: і грошай наскладала, і адзежу справіла, усяго ўсяко наспраўляла. *Гр., Слуц. р.* Забралі мяне дзеці ў Карэлафінскую (рэспубліку). Пажыла зіму, мне там клімат ня йдзець, стала балець, зрабілася шкура ды косьці. Неік (няма як) быць мне там, прашуся, кап пусьцілі дамоў: «Гляньця, дзетачкі, што са мной стала — косьці ды шкура. Пусьціця мяне». *Худ., Кр. р.*

АД ПЕРШЫХ ПЕЎНЯЎ. Гл. З (ад) ПЕРШЫХ ПЕЎНЯЎ.

АДПРАВІЦЦА НА ТОЙ СВЕТ. Гл. ІСЦІ (адправіцца) НА ТОЙ СВЕТ.

АДПРАВІЦЬ НА ТОЙ СВЕТ к а г о. *Недобразыч.* Забіць, замардаваць, давесці да смерці. А мяне некалі Сашка геты чуць на той сьвет ні атправіў. Дзялілі поля, й нам прырэзалі кусок Зайчыкаваго палетку. Павезла я гной, скідаю, стаю на возя. А ён у кустах сядзеў (на

Калінцэ гета было), шыбянуў камяням, да ні папаў у мяне, да ў каня. Той конь як скубянуў — я с сахаром у аглоблі! Пераехалі калёса цераз голаў, цераз ногі. Як я жывая асталаса, ні ведаю. *Гр., Слуц. р.* Яе сыночак атправіў на той сьвет. Бывала, крычыць, крычыць на яго, а ён ні слухае, робіць што хоча. Упала ў нервы і памерла бедная, гарушчая. *Сав., Стаўб. р.*

АД ПУЗА. Колькі хочаш, уволю, без абмежавання. Дажджэш вялікъдня, булак, белъга хлеба нъпякуць, куўбас наробюць, тры дні ад пуза ясі. *Ляўк., Арш. р.*

АД РОЗУМУ АДЫСЦІ. Здзяцінець. А тая Пятроўская німагушчая-німагушчая, ёй ужо церас восімдзісят, доўго яна ўжо ні працягня. Яна ад розуму адышла. Нікуды ні ходзіць, сядзіць адна як труцянь у хаці. *Сав., Стаўб. р.*

АД РУК АДБІЦЦА. Гл. АДБІЦЦА АД РУК.

АД РУК АДСТАЦЬ. Моцна стаміцца, змагчыся ад работы. У Рошчы (урочышча) канюшына вялікая, ад рук адстаць. Так ужо дзярэш, так дзярэш, а нормы не выконваеш,— канюшына ў калена, ад рук адстаць. *Бял., Лаг. р.* Поліва а поліва завялосё, ад рук адстаць. *Сав., Стаўб. р.* Так зелье ўплюнулосо ў просо, што ад рук можно адстаць. *Вяліч., Сал. р.*

АДРЭЗАНЫ КУСОК. Чалавек, які аддзяліўся ад сям'і, жыве самастойна, незалежна. Думаю, чаго я сюды прыехала, каб хто спытаў. Кінула бацькаўшчыну, прыехала за некі замуш. Пайду дамоў! Сабралася й пашла дамоў. Дома пахадзіла, пахадзіла, нічога не бярэ мяне. Як адкрой хлеп — ня прырэжаш, таксама ня прыложыш і мяне. Адрэзаны кусок. Пайшла йзноў назат. *Таўкач., Уздз. р.* Перат самъй вайной выйшла замуш. Не прайшло й года — вьйна началась. Мужука ў вармію забралі, а я к бацьку вярнулася. А ў бацькі што? Тожа кусок атрэзаны. *Худ., Кр. р.* Сім'я, чэцьвіра дзяцей, сама пятая. Дзе іна дзеніцца? Ці іна брату нужна, ці бацьку? Атрэзаны кусок. *Ліцв., Карм. р.*

АД СІЛЫ. Сама болей, найбольш. Калолі сьвінчо ўчора мушчыны і паспорылі, колькі завaжыць? Адзін кажа, восім, другі — дзесяць, а я думаю, што ад сілы сем (пудоў). Удалы кабанчык быў, але позьні. *Сав., Стаўб. р.* А раней крылі пат каласы, каласы наверх. Але такія стрэхі нямоцныя, ат сілы гадоў пяць пастаіць, салома высахня й паламаецца, а то вецяр растрасе. *Бял., Лаг. р.*

АД СМЕХУ ЗАХОДЗІЦЦА. Гл. КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ.

АД СЭРЦА АДЛЯГЛО. Гл. АДЛЯГЛО (адышло) АД СЭРЦА.

АД УСЯКАЙ БОЧКІ ШПУНТ. Гл. АД БОЧКІ ЗАТЫЧКА (шпунт).

АДХАДЗІЦЬ І НОГІ І РУКІ. Змарыцца, стаміцца (ад хады). Пойдзяш да пана прасіць каня, просіш-просіш, да атходзіш і ногі і рукі, а тады возьмяш посьцілачку за плечы, згорбісься і нясеш гэтыя дровы выпаліць у печы. *Тайкач., Уздз. р.* Прыдзя тая сяўба, дак атходзіш і рукі й ногі, пакуль пасеяш. Есь конь, плуга німа, плух знойдзяш, пастронкаў німа. Пакуль усе зьбярэш. *Гр., Слуц. р.*

АД ЦЯМНА ДА ЦЯМНА. Гл. З (ад) ЦЯМНА ДА ЦЯМНА.

АД ШЧЫРАГА СЭРЦА. Добразычліва, сардэчна, са шчырай прыхільнасцю. Як будзяце на отпуск (ехаць), ад шчырага сэрца прашу на госьці, не мінайце маю хату. *Вар., Стаўб. р.* Сабраліся суседзі, гаманілі трохі, а потым кажу: «Сядайце, госьцейкі. Заласьце за стол, ад шчырага сэрца, як той казаў, прашу». Хорашо было. *Ст. Св., Стаўб. р.*

АДЫШЛО АД СЭРЦА. Гл. АДЛЯГЛО (адышло) АД СЭРЦА.

АД'ЯДАЦЬ НЕРВЫ к а м у. Гл. АД'ЕСЦІ (ад'ядаць, выядаць, пераядаць) СЭРЦА (душу, нервы) к а м у.

АЖ (ажно) ВУШЫ ТРАСУЦЦА. *Жартаўл.* З вялікім апетытам. Блінцы парэжуць на чатыры палавінкі і добра змажуць маслам. Усе ядуць аж вушы трасуцца, маўчаць, ніхто ні размаўляя пры ядзе. *Дараг., Маст. р.* Бывала, пры Польшчы, паставіць матка начоўкі бульбы на стол і міску ў калені расолу з гуркамі. Сьпярша зьядуць расол, а тады па кусочку гурка кожнаму. І як смачна было! Пабачылі п, зь якім апетытам елі. Ажно вушы трасуцца. *Там жа.*

АЖ НОС ГНЕЦЦА. *Жартаўл.* З вялікім апетытам. Даўней дык зварацць саган як падняць заціркі яечнай, і елі аж насы гнуліся. *Радашк., Маладз. р.* Вечар прыходзя, таўкуць у ступя ячмень. Потым трэба прасушыць, сапалаць, абтаўчы, вось колькі работы было каля груцы. Але ж і смачная была! Елі аж насы гнуліся. *Бял.,*

*Лаг. р.* Налеюць вяліку міску журу, ядзяць с паранымі картоплямі. Аж насы гнуцца *Гр., Слуц. р.* Мішка як выгаладаяцца, прыбяжыць і да міне: «Бабуня, дай верашчакі». То есьць аж нос гнецца. *Сав., Стаўб. р.*

АМЭН ЖЫЦЁ. Канчацца, канец жыцця. А я сало люблю. Во хай два дні ні зьем, амэн жыцё, смокча пад грудзьмі, о тут о, ні магу. *Жац., Стаўб. р.*

А НІ БЛІЗКА. Гл. І (а) НІ БЛІЗКА.

АПОШНЯЙ МАГ'УЛІНКАЙ ДЗЯЛІЦЦА з кім. Гл. ДЗЯЛІЦЦА ЎСЯКАЙ (апошняй) МАГ'УЛІНКАЙ (капляй) з кім.

АПОШНЯЙ КАПЛЯЙ ПАДЗЯЛІЦЦА з кім. Гл. ДЗЯЛІЦЦА ЎСЯКАЙ (апошняй) МАГ'УЛІНКАЙ (капляй) з кім.

АПУСКАЮЦЦА РУКІ ў каго. Гл. РУКІ АПУСКАЮЦЦА (падаюць) у каго.

АСІНКАЮ ЗАЛАМАЦЬ. Даць сабе зарок не хадзіць да каго. Я б да такой сусеткі асінкаю заламала, а ні я б яшчэ хадзіла да яе, літасьць бы мела да яе. *Сав., Стаўб. р.*

АСОЮ ЛЕЗЦІ (у вочы). Гл. СЛЯПІЦАЮ (сляпцом, асою) ЛЕЗЦІ (у вочы).

АСТАЦЦА (пааставацца) БЕЗ РУК. Моцна стаміцца, знемагчыся ад работы рукамі. Зарабляюць добра, зарабатно на фермя, але ш і рукі баляць, бяз рук астаюцца. *Гр., Слуц. р.* Онь эта Надзячка, што за Му́ляравым, бяз рук асталася. Каровы даіла, дак забалелі рукі, а тагды пальцы пакрывіліса. Цяпер цялят даглядая. *Там жа.* Я з-за гэтых трускавак асталася бяз рук: такая работа марудная, пакуль аполяш гратку, усё баліць. *Сав., Стаўб. р.* Ззамаладу працаваў, працаваў, а пат старасьць без рук астаўсё, дурны быў, што рабіў много. *Там жа.*

АТРЭСЦІ РУКІ. Рашуча парваць адносіны з кім, катэгарычна адмовіцца ад прынятага рашэння. Ён жа знаўся з дзяўчынаю, хадзіў да яе. І нахадзіў. Нахадзіў, а потым кінуў, атрос рукі. *Сав., Стаўб. р.* А Юзэфа ні езьдзіла на вяселё, ўсё кволіцца, надаела ўсім гэтаю хваробаю: і маццы, і мужыку. Мужык атрос рукі, кіня яе ўдома, хварэй, а сам на работу. *Там жа.* Пятрок надумаўсё быў будавацца. Лесу навазіў, каменьняў нацягаў, а потым як здарылася гэтая бяда, то ні ў галаве чалавеку, атрос рукі. *Жац., Стаўб. р.*

АШЧЭРЫЦЬ ЗУБЫ. Ставіцца варожа да каго. Бачыш, як можна павярнуць аглоблі. Як ашчэрылі зубы

тыя японцы, тыя капіталісты з Захаду, рады ні даць, не агрэпціса: то ў адном месьця вылязуць, то ў другом. *Гр., Случ. р.*

## Б

БАБКІ АБІВАЦЬ. Гл. ЛЫНДЫ (бабкі) БІЦЬ (абіваць).

БАКІ АБ'ЯДАЦЬ к а м у. Гл. БАКІ ЕСЦІ (аб'ядаць) к а м у.

БАКІ ЕСЦІ (аб'ядаць) к а м у. *Асудж.* Пастаянна сварыцца з кім, дрэнна жыць у сям'і. Гэта ш цігар, а ні чалавек. Толькі цігар есьць людзей, а ён мне дваццаць гот бакі есьць. *Пр., Стаўб. р.* Кап ты бокам езьдзіў, кап ты! Мучыш мяне, мучыцяль, баке мае аб'ядаяш. *Сав., Стаўб. р.*

БАКІ ЗАБІВАЦЬ к а м у. Гл. ЗАБІВАЦЬ (забіць) ДУХІ (ба́кі) к а м у.

БАКІ ПАПАДРЫВАЦЬ. Смяяцца, рагатаць да знямогі. Я прывыкла да радзіва, я во сабе раблю, і радзіва пад носам. А к-дачцы прыехала, радзівол стаіць, а яны яго ні ўключаюць. Як у вас, кажу, жыць, тут жа здурнеяш. Ня ведаяш, дзе холанна, дзе горача. Як сталі яны зь мяне сьмяяцца! Бакі пападрывалі. *Бял., Лаг. р.*

БАНІ ДАЦЬ к а м у. Гл. ДАЦЬ (задаць) БАНІ к а м у.

БАНІ ЗАДАЦЬ к а м у. Гл. ДАЦЬ (задаць) БАНІ к а м у.

БАСНІ ТАЧЫЦЬ. Гл. ТАЧЫЦЬ ЛЯСЫ (басні).

БАЧЫЦЬ НА РАЖНЕ к а г о. *Зласл., зламоўн.* Варожа ставіцца да каго, жадаць непрыемнае, дрэннае каму. Онь у нас суседзі ест. Зь дзецьмі дрэнно жывуць, на ражне б бачылі, а ўнукаў глядзяць. Што ж унучаня вінавато, што бацьке ні міраццa? *Сав., Стаўб. р.* Я б на ражне яго бачыла, такого чалавека. Нашто ён мне патрэбен, на чорта ён здаўсё мне! *Гор., Стаўб. р.*

БАЧЫЦЬ ЯК ПРАЗ ПАЛАТНО. Дрэнна бачыць, мець дрэнны зрок. Старэнька ўжо, зрэнё плахоё, страцiласё, бачыць як прас палатно, сьлёзы цякуць і цякуць. *Сав., Стаўб. р.* Рамацізма да галавы дайшла, стала бачыць кепска, як прас палатно, але дастала сала барсуковага, стала націраць ногі й пяткі, ад воч адышло і ад рук. *Бял., Лаг. р.* Мая во ўстала з ночай сьляпая, гноям вочы заплылі, нічога ні бачыць. Пашлі да доктара, кажа,

закапваць нада пініцылінам, а то сьляпая астанецца. Але й пініцылін ні памох, бяльмо на воку зрабілася, і цяпер бачыць як прас палатно. *Там жа.*

БЕГАЦЬ (туляцца) ПА ЗАВУГОЛЛЮ. Адлыньваць ад работы, швэндацца абы-дзе. Прыбегла Янка і адразу: «А дзе ваша Іра?» Дзе тая Іра, ні ведаю, кажу, нёдзя бегае па завугольлю. *Сав., Стаўб. р.* Дзе ён будзіць добра вучыцца, калі цэлый дзень бегаіць па завугольлю? От і носіць двойкі. *Н. Тур., Уш. р.* Пат старась чалавек здурнеў, стаў піць, туляцца па завугольлю, у цюрму папоўся, дзевяць сутак сядзеў. *Бял., Лаг. р.*

БЕЗ АГЛЯДКІ. Вельмі хутка, не азіраючыся (бегчы, уцякаць, перці). Тады ўжо зноў нек перавярнулася эта равалюцыя, зноў прышла Савецкая ўласьць. Зноў прышлі Саветы, бальшавікі прышлі і гналі гэтых палякаў, аж да Варшавы іх пёрлі без аглядкі. *Аляхн., Маладз. р.*

БЕЗ ДАЙ РАДЫ (рацыі). Без ніякай прычыны, за нішто, так сабе. А ён прышоў: сядзіць бацька на лаўца, выламаў пакалак і без дай рады зьбіў старога на горке яблыка. *Гр., Слуц. р.* Цяпер у нас модна стала падаваць на сут на дзяцей. І наш бацька без дай рады нек кажа: «І я, як Мітрыпан, падам на сут». Ня жыве зь дзецьмі добра, а зьбіраяцца судзіцца. *Там жа.* Чаго я пайду да таго Юзіка без дай рацыі? Ён жа мяне ні прасіў. Хай прошаныя йдуць. *Сав., Стаўб. р.*

БЕЗ КАНЦА. *Узруш.* Бясконца, увесь час, няспынна. Як толькі нас выгрузілі з эстых вагонаў на волю, такі запах! Проста жывымі касьцямі пахніць! Што такоя? Аж пасьля мы дазналіся, дак гэта ш Асьвёньцім! Палюць нарот біс канца! Біс канца! *Ухв., Кр. р.* Выганюць адзін рас у суткі, дадуць кусочык маленькі-маленькі хлеба, а баланды зусім не давалі. Так людзі мёрлі! Біс канца! *Там жа.* Так там (у Асьвеньціме) зьдзіваліся (здзекваліся), так там ужо мучылі нарот, так палілі! Біс канца! Гаварылі, што за пітнаццаць мінут па тры тысячы чалавек згаравала ў тым каміні. *Там жа.* Урэдны, урэдны да жонкі, бес канца ўрэдны й ліхі. *Сав., Стаўб. р.* Я вельмі люблю каровінаё мясо, бес канца люблю. *Там жа.*

БЕЗ КЛЕПКІ Ў ГАЛАВЕ. Гл. НЯМА (без) КЛЕПКІ (клёпак) У ГАЛАВЕ. НЕ ХВАТАЕ (нечага) У ГАЛАВЕ.

БЕЗ НОГ. 1. Адчуваць стомленасць ад доўгага знаходжання на нагах. Трэба трохі прылехчы, бо бяз нох. Натупалася каля печы за раніцу, баляць ногі ня вытры-

мацьо. *Сав., Стаўб. р.* **2.** Слабы, нядужы ў нагах. Сядзі (на гусяня, якое толькі што вылупілася з яйца), ты яшчэ бяз нох, нох німа ў цябе. Выседзішся, тады будзеш бегаць. Куры бяз нох паастаюцца ад гэдакаго холаду. *Сав., Стаўб. р.*

БЕЗ ПОРТАК ХАДЗІЦЬ. Гл. ХАДЗІЦЬ БЕЗ ПОРТАК.

БЕЗ РУК АСТАЦЦА. Гл. АСТАЦЦА (паастававацца) БЕЗ РУК.

БЕЗ ФІГІ НІ ДА НОСА. *Асудж.* Ганарыцца, задавацца, ставіць сябе вышэй за іншых. Ого ён пры Польшчы быў! Да яго й патступіцца цяшко было. Хадзіў як панок які, бес фіг′і ні да носа было. *Гор., Стаўб. р.* Янка ў іх харошая, але ганарыстая, задавастая, што то я. Выстаўляяцца, без фіг′і ні да носа, хоць і малой навукі. *Сав., Стаўб. р.* Ні ладзяць з братавую. Братавая — настаўніца, а гэта ні вучаная, малой навукі, але ганарыстая, задавастая, што то я, без фіг′і ні да носа. *Там жа.*

БЕЗ ЦЫРЫМОНІІ. Проста, шчыра, не лічачыся з прынятымі звычаямі. Сядайце, мушчынкі, кабеткі, хто дзе. Сьмялей, бес цырымоніі. *Жац., Стаўб. р.* Я зь ёю бес цырымоніі. А чаго? Разам, можно сказаць, гадаваліся і каровы пасьвілі. Ну й што, калі яна вывучылася? І я б была інжынерам, кап тато вучыў. *Сав., Стаўб. р.*

БЕЗ ЯЗЫКА хто. Маўклівы, неразгаворлівы хто, маўчун. І сын так дак без языка, а як выпіў, нешто там ушчуўся, ото браў шваг′ра на кант, ото даваў жызьні! *Сав., Стаўб. р.*

БЕЛЫ БІЛЕТ МЕЦЬ. Не быць ваеннаабавязаным. Мужык мой на фронця, дзевяр белы бялет меў, дома быў. *Пр., Стаўб. р.* Дзядзьку то што, ён дома сядзеў, ведамо, белы білет меў, а мой ваяваў усю вайну. *Ас., Стаўб. р.*

БІЦЦА ЯК РЫБА АБ ЛЁД. Гараваць, бедаваць, жыць у матэрыяльнай нястачы, у бядоце. Бедна жылі, жылі ў курніцы (курнай хаце), дымна было. А тады й тая забурылася. Ой, што піражыла! Хату купляла, дзяцей гудувала, білася як рыба аб лёт. *Ульян., Сен. р.* Ён, бедны, б'ецца як рыба аб лёт, а жонка дома сядзіць і нічога ні робіць. *Н. Тур., Уш. р.* Бывало, прыдзе зіма, нішчымніца, ні ведаяш, што даць есьці. Мой кінуўся ў заработкі, але дзе ш заробіш, каб усяго хваціло, біліся як рыба аб лёт. *Сав., Стаўб. р.*

БІЦЬ ЛЫНДЫ. Гл. ЛЫНДЫ (бабкі) БІЦЬ (абіваць).

БІЦЬ (адбіць, набіць, паадбіваць) НОГІ. *Незадав.* Стаміцца, змарнавацца ад доўгай хады, беганіны. Чаго туды хадзіць, біць ногі? Сам прыімчыць, калі прыпрэ. *Сав., Стаўб. р.* Я ногі адбіла, ходзячы к вам і па братавую, хачу ш сабраць невялікія госьці. Буду злаваць на свата, як ні прыдзя. *Там жа.* Учора хадзіла ў ягады, адбіла толькі ногі, німа ні халеры. *Там жа.* Увосень было ў суседа вясельле, то я на сталы падавала, гэтак адбіла ногі, тры дні ляжала потым. *Кунц., Кл. р.* А па ягадкі ні пайду. Баба Ярошыха хадзіла, гаварыла, няма. А пайсьці так, попусту, толькі ногі зьбіць, ня дзела. *Ліцв., Карм. р.* Ціперачы бувае паляўнічы праходзіць цалюсенькі дзень, а нічога нат ні ўбачыць, толькі ногі наб'е. *Мул., Дзятл. р.* Прышлі з поязда ўночы, стаміліся, паадбівалі ногі, а цяпер сьпяць усю раніцу. *Гор., Стаўб. р.* Прыехаў пазнавато і адразу — у грыбэ. Дзе тыя грыбэ яшчэ! Ногі толькі паадбівая. *Там жа.*

БІЦЬ ЯЗЫКОМ АБ ЗУБЫ. *Непаш.* Гаварыць абышто, без толку, балбатаць. Ён ніколі толкам нічога ні сказаў, толькі б'ець языком аб зубы. *Ульян., Сен. р.*

БЛІЗКІ СВЕТ. ЗА БЛІЗКІ СВЕТ. Далёка. Блізкі сьвет! Дзе той Казіняц, а трэба зайсьці й прыйсьці, дык і рабіць німа калі. Хадзіў за блізкі сьвет пятнаццаць год, то дзе тоя здароўя цяпер будзя. *Кав., Старадар. р.* Цэла лета аж да восені хадзіла ў вецьце ў Дзятлаўку, за бліскі сьвет, дзе секлі бярэзьнік. *Сял., Маладз. р.* Гэта ш трэба бліскі сьвет ісьці на музыкі, а ён жа павіхрыўся (папёрся) на тыя вечаркé. *Востр., Зельв. р.*

БЛУД НАЙШОЎ на каго. Ашаламіцца, заблудзіцца, страціць арыентацыю. Мне галава балела, лягла на печы, блуд найшоў, кажу: «Сонька, палі сьвет, ня зьлезу». *Сял., Маладз. р.* Дэсь на мынэ някый блуд найшов, ходжу по тых корчыках і ныяк нэ доб'юсь куды йты. *Сім., Драгіч. р.*

БОГ КРЫЎ. *Жартаўл.* Няма. Хачу капусты наварыць, а патсмажыць німа чым — сала бох крыў. Трэба будзя хоць у Марусі пазычыць с кусочак. *Сав., Стаўб. р.* Той гот так поўна яблык было, а цяпер крыў бох. *Гр., Слуц. р.*

БОГ ПРЫБРАЎ (прыняў) каго. Памёр. Дзеці як боп, адно за адным пасыпаліся. Было пяцёро, але трое

бох прыбраў. *Пар., Слонім. р.* У маёй сястры пяцёра дзяцей было, а жывуць тры хлопцы й дзяўчынка, анно бох прыбраў. *Бял., Лаг. р.* Якія толькі хваробы ё на сьвеці, ўсімі я перахварэла: ззамаладу анны, на старась другія ўваліліся. Нервы, пáхавая грыжа, жалудак баліць, есьці нічога ня можна. А вот жа жыву, бох ні прыбірая. *Там жа.* У мяне была дзеўчына радзілася з канвульсіямі. Яе і ў Маскву дзевір вазіў, я і ў Віціпска, я і ў Оршу — нідзе помачы ні было. А есьці сядзіць — хунт хлеба ўложыць. Шэсь гадоў гурувала і дзіця і я зь ім, то, паверыце, мо й грэх, але прасіла, хай бы бох прыняў. *Ульян., Сен. р.*

БОГУ ДУШУ АДДАЦЬ. Гл. АДДАЦЬ БОГУ ДУШУ.

БОРУХІ ВАДЗІЦЬ. *Жартаўл., іран.* Драмаць седзячы. Сусет наш, бывало, прыйдзя на вячоркі і цэлы вечар борухі водзіць. *Сав., Стаўб. р.* Сабраліся ўчоро ў сусеткі, доўго сядзелі, то хто гаворыць, хто целівізар глядзіць, а хто й борухі водзіць. *Там жа.* Ідзі, сьцялі дзецям, Марынка ўжо борухі водзіць, набегалася за дзень, дзе яе ні было. *Там жа.* Пашла вечарам да дзяцькі пасядзець, надаело дома быць. Цётка картофлі абірая, малы сьпіць, дзядзька тожа водзіць борухі, намёрзься за дзень на рабоці. *Там жа.*

БОЧКУ КАЦІЦЬ (скаціць) н а к а г о. Рабіць шкоду, кепства каму. Пойдом з ёю двох да жном, да на нывістку запысвала, да зробылы ее стахаНоўкою, да пысалы, така й така выжала много сотык, да помогала ёй всячэскы, а вона тэпэр бочку котыть на мэнэ. Як жо гэто так? Шчо гэто за ўстава така? *Бот., Пін. р.* Марыся на Купрыяна давно бочку котыть. *Вел., Пін. р.*

БРАЦЦА ЗА ДЗЯЖКУ. Прымаць меры да пакарання, палохаць (дзяцей). Майго хлопца навучылі лаяцца, з вуліцы навучыўся. Я ўгаворваў, угаворваў, не слухае, прышлося брацца за дзяшку. *Бял., Лаг. р.*

БРАЦЦА Ў ДУЖКІ (у борушкі). Мерацца сілаю, дужацца, барукацца. Мой дзядуля сем гадоў меў, а ўжо ганяў скаціну ў поля. Зьбяруцца дзеці й бяруцца ў душкі, дык мой дзет усягды паваліць. *Вар., Докш. р.* Ён жа сільны-сільны. У борушкі браўся тут з мушчынамі, дык усіх чыста абваліў. *Язн., Віл. р.*

БРАЦЬ (узяць) ГРЭХ НА ДУШУ. 1. Несці маральную адказнасць за злачынныя ўчынкі, дзеянні каго. Пры

Польшчы за гэту землю што ні рабілася! Быў такі выпадак, расказвала мая бапка. У нашай вёсца асталася маладая ўдава. Яна ўзяла сабе прымаку. А ў яе была дачка Кацярына. Гэта сірата жыла абіджана, ніхто яе замуш ні ўзяў, ужэ прыстарэла. І задумала (Кацярына) сабе браць прымаку на сваю зямлю. І гэтаму Юрку (Юрка зваўся айчым, быў ён душа нігонны) ні хацелася. Гэты Юрка навастрыў тапор і цэлы тыдзянь хадзіў за ей, за гэтай Кацярынай, за сваей патчарыцай гэтай, каб яе засеч. Ну жонка яго Алена ніяк ні дапусьціла да яе, ні хацела браць грэх на душу. *Вар., Докш. р.* **2.** Здзейсніць злачынныя задумы. А ёсь людзі сьмелыя, што ён табе любы грэх на душу возьмя. От гэты самы Юрка, шта я вам расказвала... Сына свайго прыспаў у гумне, а Кацярыну гэту, патчарыцу сваю, і з жонкай сваей Аленай, замкнуў у хаце й патпаліў. І патпаліў свайго суседа праз вуліцу, і патпаліў свайго злосьніка другога, Марку, і патпаліў трэцьцяга, свайго брата роднага — і згарэла гэта ўрэмя дзесіць хадзяінаў, уся пастройка, як хлявы, так хаты. Бачыце, які грэх узяў на душу. *Там жа.*

БРАЦЬ ДА ГАЛАВЫ што. Гл. ДА ГАЛАВЫ БРАЦЬ што.

БРАЦЬ (узяць) (блізка) ДА СЭРЦА што. Ставіцца да чаго з вялікай зацікаўленасцю, успрымаць што з глыбокай уразлівасцю. Не бяры ты, сынок, гэдак бліско да сэрца. Абы здароўё, то нек жа будзя. *Сав., Стаўб. р.* Ён нічого да сэрца ні бярэ, хай там ні ведаю што, ні пераживая, ні думая. Вот характар! *Гор., Стаўб. р.* Мая сястра хварэла доўго, на нервы ўпала. Ці ў каго якоё горо, ці так што нідобро, усё яна да сэрца брала, добрая бясконца была. *Жац., Стаўб. р.* Тася мая школу акончыла з залатой медалью. Хацела паступаць у радзіяцяхнічаскі ці ў паліцяхнічаскі, а ёй атказалі,— зрэньня плахоя, а там чарцяжы. Так была ўзяла да сэрца, адчаялася, гаварыла: «Мамачка, што гэта за жызьня, што я хачу, а паступіць ні магу». *Ульян., Сен. р.*

БРАЦЬ (узяць) ЗА ГОРЛА каго. *Неадабр.* Прымушаць, прыгнятаць; прыперці неабвержнымі доказамі, фактамі. Што за жыцё было? Саквастратар (служачы, што спаганяў пры панскай Польшчы падаткі і грашовыя аплаты) бярэ за горло, кароўку прадай, а с падаткамі расплаціся. *Сав., Стаўб. р.* А його як узяла поліцыя за горло, о, сталі його быты ў посторунку чы шо, і вун выка-

зав там всіх, хто булі, хто різав того ясэля (ясень). *Бот., Пін. р.*

БРАЦЬ (узяць) НА ЗУБ што. Каштаваць, браць у рот што. Учоро ехалі кала жыта, бралі на зуп, па нядзелі ўжо запусьцяць камбайны, казаў. *Сав., Стаўб. р.* Ішла сьцежачкаю, сарвала вароніно жыто, брала на зуп. Цьвёрдзянько ўжо. *Там жа.*

БРАЦЬ (узяць) НА КАНТ каго. Дакараць каго, сварыцца на каго. Мяне некалі мой як возьмя на кант — і ні смашно, і ні салёно, і ў хаці брудно, а хай бох крыя, вот чалавек быў сварлівы, як тая баба, ні раўнуючы. *Веч., Стаўб. р.* Я на яго пакрыўдзілася, ён больш да міне ні пад'едзя. Узяў вясной пяць мяхоў картофлі, яшчэ бутылку «Зьверабою» выпіў і хоць бы рубель які даў. Ото браў на кант мяне Эдзік за тыя картофлі. Гэто мне навука. *Сав., Стаўб. р.* Ліпця бярэ на кант матку, але й баіцца, каб ні памерла. То ні гэдак, гэто ні так, бярэ на кант і бярэ. *Там жа.*

БРАЦЬ НА ЛІСІЦУ (на шрубы). Выпрамляць сцяну будынка драўлянымі плашкамі. Зіма йдзе, хата раскіда́яцца, вецяр сьвішча, трэба нешто рабіць. Можа ўзяць на лісіцу, то цяплей будзя, і пастаіць якіх гадоў колькі. *Сав., Стаўб. р.* Выпучылася сьцяна, на лісіцу трэба ўзяць. *Там жа.* Сьцяну трэба на лісіцу ўзяць, а то нешто пучыцца, немач яе ведае чаго. *Жац., Стаўб. р.* Гінчый раз у хаты стінка можэ выгнутыс, то тогді быруть на шрубы. *Крыв., Іван. р.*

БРАЦЬ НА ПРЫМАКІ каго. УЗЯЦЬ У ПРЫМЫ каго. Я вашага Віціньку бяру на прымакі. *Ульян., Сен. р.* Задумала ліса ўзяць ката к сабе ў прымы — будзя свой хазяін, ні трэба будзя нікога прасіць, нікому кланяцца. *Арэш., Бяр. р.*

БРАЦЬ НА ШРУБЫ. Гл. БРАЦЬ НА ЛІСІЦУ (на шрубы).

БРАЦЬ У ПАЛЕТНІКІ каго. Наймаць, запрашаць на работу тэрмінам на лета, да пакроваў. Шчасьлівы, каго бралі ў палетнікі, да пакроў, быгач якей. Чылавек дваццаць пяць-трыццаць бралі, астальныя глядзяць праз вароты. *Ліцв., Карм. р.*

БУДЗЕ ВІДАЦЬ. Стане вядома ў далейшым. Жні, сынок, не лянуйся, а прыдзе тато, будзя відаць. Пойдзяш сабе можа пакупаясься на возяро. *Сав., Стаўб. р.* Ты ўжо скарэй да работы. Ідзі трохі паляжы, пачытай г'азэ-

ту, а потым будзя відаць. Можа дадуць фурманку, то паедзяш у Сьвержан па дрова, а калі не, то ідзі сабе на тую рэчку у рыбу. *Гор., Стаўб. р.* Шыба трэснула, а зашкліць німа чым. Дак я заклала дубальт, думаю, чорт яго бяры, пастаіць зіму, а там будзя відаць. *Гр., Слуц. р.*

БУСІ ДАЦЬ каму. Гл. ДАЦЬ БУСІ каму.

БЫЦЬ НАЧЫКУ. Гл. СТАЯЦЬ (быць) НАЧЫКУ.

БЯРУЦЬ ЗАВІДКІ каго. Гл. ЗАВІДКІ БЯРУЦЬ каго.

БЯРЭ ЗА ГАЛАВУ. Гл. ЗА ГАЛАВУ (голаў) БЯРЭ.

## В

ВАДЗІЦЬ БОРУХІ. Гл. БОРУХІ ВАДЗІЦЬ.

ВАДЗІЦЬ ВАЧЫМА. Глядзець, прыглядацца. Зלавіў Мішка ночвамі сьнігіра, прынёс у хату і пусьціў. А ў хаці цёпло, напаляно. Сядзіць той сьнігір на акне і водзіць вачыма па хаці, а Мішка зь яго воч ні спуская: «Бабуня, хай у нас жыве». *Сав., Стаўб. р.* Прывёз цётку Эдзік з бальніцы, а яна яшчэ ні можа, легла на лошко, водзіць вачыма, як ні бачыла ўсё роўно. *Гор., Стаўб. р.*

ВАДЗІЦЬ (павадзіць) ЗА НОС каго. *Незадав.* Абяцаць і не выканаць, уводзіць у зман абяцанкамі. Пайдзі да Аньціка і забяры, а то мне казаў, што прынясе і ні прыносіць. Водзіць адно за нос. Пайдзі сам і забяры. *Сав., Стаўб. р.* Пазычаў сячкарню, то казаў, вот аддам, вот аддам, і цяпер аддае, за нос толькі водзіць мяне. *Жац., Стаўб. р.* Дакляраваў сваяк шыферу дастаць на хату, але адно павадзіў за нос. Зіма прышла, а шыфяру і сёньня няма. *Кунц., Кл. р.* Пратсядаціль — цягун, любіць павадзіць за нос. Адзін гот мне абішчаў сена, я рас прышоў, два прышоў, тры прышоў — і так і ні даў. *Ульян., Сен. р.*

ВАДОЙ НЕ РАЗЛІЦЬ. Шчыра сябраваць, дружна жыць паміж сабой. І малыя былі, дружылі, і цяпер вадой ні разьліць. *Кав., Старадар. р.* Дзеўчына ўлюбілася ў хлопца, вісіць на шыі, ні адойдзіцца. Так зьнясьліся (здружыліся), што вадой не разальеш. *Сав., Стаўб. р.*

ВАДУ МУЦІЦЬ. Гл. МУЦІЦЬ ВАДУ.

ВАЛАСЫ ДЫБА (дыбала, дыбла, дыбам, дуба, дубака) СТАЛІ (становяцца). Ахоплівае жах, робіцца вельмі страшна. Ці там сабака, ці кот чый, нешта як зашамаціць у кустах, я ўтрупела, валасы на галаве дыба

сталі. Спужаласа, ня выказаць! *Гр., Слуц. р.* Валасы дыбала становяцца, як успомню: гэта ш чуць жывыя асталіся. Каб ні Рая Фэліна, пабілі п. *Бяльм., Брасл. р.* Скасіла воко — нешто белаё паміш дзеравоў. Аш сэрцо стало, ногі адзеравянелі; валасэ дыбла сталі. Ну, думаю, капец. *Падг., Кар. р.* Калі я азірнулася назат — аш бяжыць за мной мушчына і крычыць: «Ідзі сюды, лучшы будзя, а даганю, хужы будзя». Кажуць, што ат страху валасы дыбам станаўляцца. Ну, цяпер паверу, што праўда. *Ухв., Кр. р.* У пачатку васімнаццатага (года) адзін хазяін павёс кабана ў Се́нна прадаць. Патходзіць малады чалавек у паліце: «Сколька за кабана? Дам вам чатырыста рублёў, завязіце ў Віцепска». У таго чалавека валасы дуба сталі — такая дарога! Аш у Віцяпска! А ўжо вечарэлася. Ці вярнуся, думыіць. *Ульян., Сен. р.* Я ж нічого ні баюся, куды хочаш пайду ноччы, а то спалохалася. Прышла дадому (а была ў мяне кнішка ў г′азэці ўкручаная), кнішку палажыла. Толькі я адмыкаць (а быў шарош гэтакі), г′азэта ш-ш-ш. На мне й валасэ дубака сталі. Спалохалася. Дубака валасэ сталі. *Сав., Стаўб. р.*

ВАЛАСЫ НА ГАЛАВЕ РВАЦЬ. Гл. ВАЛАСЫ (косы) НА САБЕ (на галаве) РВАЦЬ.

ВАЛАСЫ (косы) НА САБЕ (на галаве) РВАЦЬ. Прыйсці ў адчай, заходзіцца ад гора. Недаядалі, недасыпалі, мучыліся, зьбіралі грошы на зямлю, куплялі па марг′у. А праз два гады аж валасы на сваёй галаве рваў, чаму я так мучыў сваю сям'ю, навошта было купляць. Бо як прышлі Саветы, зямлю панскую забралі і раздалі на Пуцэвічы і Кміцянку. *Пуцэв., Навагр. р.* У нас пры Польшчы паненка адна багатая застрэлілася, ранічкам на парозе ў сваіх пакоях застрэлілася. Колькі ўжо плачу было, колькі енку! Бацькі, людзі казалі, валасы на сабе рвалі. *Кал., Віл. р.* Бацька Хведзькін валасы на галаве ірваў, дужа сына жалеў, а матка ўся сівая стала, галава белая зрабілася, як сьнег. Падкасіла іх сьмерць гэта. *М. Каш., Гар. р.* Гэто ж у мэнэ всі помідоры пропалы. Можэ шэісят пэнькоў посадыла і помэрзьлы, голюсэнькая градка. Здаетца, косы на собі рваў бы. Нэхай бы я шчэ дэнь подэржала, то й добрэ було б. *Вік., Стол. р.*

ВАЛІЦЦА З РУК што. Не ўдаецца, не атрымліваецца што з-за адсутнасці адпаведнага настрою, жадання, здольнасцей. Гуляць пойдзе, ажні падлог′а дрыжыць,

а да работы ніўдалая, валіцца з рук усё. *Падг., Кар. р.* Вот тато быў майстар, што ні возьмя, то зробіць: ці які столачак, ці табурэтку, ці лаўку. А ты — не. Ты што ні возьмяш, у цябе ўсё з рук валіцца. *Сав., Стаўб. р.*

ВАЛЯЦЬ ДУРАКА. Гл. ДУРАКА ВАЛЯЦЬ.

ВАНТРОБЫ АД'ЕСЦІ. *Незадав.* Прычыніць душэўныя пакуты, надакучыць каму. Бачыце, мода, дак яна мне ўсе вантробы ад'ела гэтымі туфлямі на гвозьдзіках. *Кав., Старадар. р.* Надаела і ў бальніцы ўсім і мужыку вантробы ад'ела сваёю хваробаю. Муштруяцца з усімі, скаргі піша, ведамо, нерўная. *Сав., Стаўб. р.*

ВАРОНА ЗАГУМЕННАЯ. *Асудж.* Разявака, бестурботны, някемлівы чалавек. Зяцю ўноч на работу ў Мугулёў, а ён правы згубіў. Учора езьдзілі ў ягады на матацыкле і згубіў правы. Во, варсна загуменная! *Ляўк., Арш. р.*

ВАРОН СТРАЛЯЦЬ. Гл. СТРАЛЯЦЬ ВАРОН.

ВАРОТЫ ПІРАГАМІ АДКРЫВАЦЬ (закрываць) к а м у. Багатае жыццё, жыццё без турбот, рай. Ну чага ты папрэсься на той курорт? І навошта такая работа? Сядзеў бы дома ды песьні пеў. Ці ты думаеш, там табе вароты пірагамі адкрываюць? *Абад., Віл. р.* Так і асталася адна (не выйшла замуж), дзевяты гот жыве адна. Казала, я паеду куды на работу, а я кажу: «А там пірагамы вароты закрытыя?» Так і жыве пры мне. *Пр., Стаўб. р.*

ВАЧЫМА ЛЫПАЦЬ. Гл. ЛЫПАЦЬ ВАЧЫМА.

ВАЧЭЙ НЕ АДВЕСЦІ а д к а г о, а д ч а г о. З замілаваннем глядзець на каго, на што. На Кастрычніка вяселя было. Я та ні была, але казалі, малада харошахароша, вачэй не адвесьці, така хароша. *Гр., Слуц. р.* Кожны касец заняў сабе пожню, і пашла работа, вачэй не адвесьці. *Негн., Бар. р.* Красавіца была наша бабуня, шта вачэй не адвесьці. *Сав., Стаўб. р.* Каб паглядзела, якую мне Міся хустачку харошу прыслала, вачэй не адвесьці. *Там жа.*

ВАЧЭЙ НЕ ЗВОДЗІЦЬ. Гл. НЕ ЗВЕСЦІ (не стыкаць) ВАЧЭЙ.

ВАЧЭЙ НЕ ЗНІМАЦЬ з к а г о. Пільна, неадрыўна глядзець на каго. Дак казалі, той яе ўхаджор вачэй ні зьнімаў. Гляня, гляня на ўсіх і зноў на маладую, мабыць, шкадаваў. *Гр., Слуц. р.*

ВАЧЭЙ НЕ КАЗАЦЬ. Не прыходзіць, не з'яўляцца.

Быў доктар у нас малады, ніжанаты. Пазнакоміўса зь некаю багатыркаю зь Ніvы, бацька на каравай «Волгу» даваў, да кажа: «За такі падарак трэба, каб жонцэ кожны вечар ногі мыў». Дак як паехаў посьля вяселя, і ачэй ні кажа, ні хоча ні «Волгі», ні жонкі. *Гр., Слуц. р.* Гібею тут адна, німа каму куска хлеба прынесьці. І дачка вачэй ні кажа. Ходзь бы прыехала скарэй. *Там жа.* Як былі перат Кастрычніцкімі сьвятамі да паехалі, дак і ачэй ні кажуць, так запрацаваліса, што німа часу мацяру пераведаць. *Бяр., Слуц. р.*

ВАЧЭЙ НЕ СПУСКАЦЬ з каго. Гл. НЕ СПУСКАЦЬ З ВАЧЭЙ (з воч) каго.

ВАЧЭЙ НЕ СТЫКАЦЬ. Гл. НЕ ЗВЕСЦІ (не стыкаць) ВАЧЭЙ.

ВАЧЭЙ ПАЗЫЧЫЦЬ (пазычыўшы) у каго. У САБАКІ ВОЧЫ ПАЗЫЧЫЦЬ. *Незадав.* Не саромеючыся, без усякага сораму. Купілі ў цёткі кабылку, далі тысячу за тую кабылку. Нека маленька была, сьляпая на анно вока. Адаля (потым) пабыла колькі тая кабылка, прышла цётка вачэй пазычыўшы адбіраць тую кабылу. *Гр., Слуц. р.* Гэто трэба вачэй пазычыць, кап туды паказацца. Я ні пайду, ідзеця вы. *Сав., Стаўб. р.* Ты гаворыш, што можна пайсьці і папрасіць. То можа ты і схадзіў бы, мне, дзе бачыў, пасьля ўсяго, што было, хіба пазычыўшы вачэй да іх ісьці. *Там жа.* Яна да міне ні пойдзе, хіба ў сабакі вочы пазычыць? Брахала, брахала й пойдзе? *Н. Тур., Уш. р.*

ВЕДАЦЬ (знаць) ХАДЫ-ВЫХАДЫ. Ведаць вельмі добра, дасканальна (мясцовасць і інш.). Бабка Жучыха ў ягады хадзец, ведаіць усе хады-выхады. *Ліцв., Карм. р.* Матка мая знала ходы-выхады, а ўсё роўна раз заблудзіла. *Там жа.* І за мной пашлі чалавек сто парцізанаў (я добра ведала ходы-выхады па гэтым лесе), ведалі, што я ні саб'юся с плана, куды йсьці, кап фашыстам ні папасьціся. *Сіц., Пух. р.* У гэтум лесі я ведаю ўсе хады-выхады, ні заблуджуся. *Сав., Стаўб. р.*

ВЕДАЦЬ ЧЫМ ПАХНЕ. Загадзя прадбачыць вынікі якой-небудзь справы, учынку, дзейнасці. Крадуць салому ўсе, хто хоча, і ведаюць чым гэто пахня. *Гал., Стаўб. р.* Яе Коля нешто набіваяцца на дружбу. Чаму не? Выгадно, ведая чым пахня. *Сав., Стаўб. р.*

ВЕДАЦЬ ЯК ПАЦЕРЫ што. Добра, дасканала ведаць што, выдатна разбірацца ў якой-небудзь справе.

Чаму ты ні чытаяш кніжкі? Каб мне ведаў як пацяры, бо дам, калі ні вывучыш. *Гор., Стаўб. р.* Олясь Лапкоўскіх усе машыны ведая як пацяры. Во дзе загудзе машына, то, ні гледзячы, скажа, якая гэто машына. *Сав., Стаўб. р.* Ні бойся, я дарогу ведаю як пацяры, ні заблуджуся. *Жац., Стаўб. р.*

ВЕК-ВЯКОМ. Ніколі. На цаліне ражжылісь. Казаў, колькі твая сіла, толькі дзяржы скаціны, куды выпусь, там наесца. Казаў, век-вяком сюды (у Ліцвінавічы) ні паеду. *Ліцв., Карм. р.* Кажуць, шчо собака баз хвоста век-ваком по бэрвіні ні пройдзе. *Хат., Ганц. р.*

ВЕК ЗВЕКАВАЦЬ. Гл. ЗВЕКАВАЦЬ ВЕК.

ВЕРХАМ (конна) ВЫЕХАЦЬ на кім. Бязлітасна збіць і з крыкам выгнаць каго. Учоро чуваць некі крык, аж гэто Адасік на сваёй верхам выехаў, — кепско яны жывуць, п'е. *Жац., Стаўб. р.* Некалі мой быў: да трох не гавары, конна выядзя, калі хоць слово насуперак скажаш яму. *Сав., Стаўб. р.* Некалі Анцік Цьвірачкаў ото біў сваю бабу. Калі завядуцца — выядзя верхам на ёй. А яна крычыць немым голасам. *Там жа.*

ВЕРХ МЕЦЬ (узяць) над кім. Верхаводзіць, атрымаць перавагу над кім. У нас такі абычай. Каб жэншчына верх мела ў сям'і, як першы рас у хаці (свякрові) пасядуць за сталом, трэба, каб нявестка перасела, перайшла мужыку ногі. *Ульян., Сен. р.* Цяпер Панама (клічка кабылы) паслушная стала, адчула, што верх над ею ўзялі. А помніця, як у вас аралі? Як занатурыцца, станя як сьвечка, і хоць гром дай. *Гр., Слуц. р.*

ВЕРХ УЗЯЦЬ над кім. Гл. ВЕРХ МЕЦЬ (узяць) над кім.

ВЕРЫ НЕ ДАЦЬ каму. Гл. ДАЦЬ ВЕРЫ каму.

ВЕРЫ НЕ МЕЦЬ. Не верыць, не паверыць каму. Він (парабак) зайшоў до пана і кажэ: «Як я пойду сам (адзін) на той сьвіт, пан мне веры нэ матымэ. Дайтэ мні війта». *Аўсям., Стол. р.*

ВЕСЦІ НА ПАСАД каго. Гл. НА ПАСАД ВЕСЦІ каго.

ВЕЦЕР У ГАЛАВЕ. Гл. У ГАЛАВЕ ВЕЦЕР.

ВЕЦЕР У СВІРНЕ ГУЛЯЕ. Пустыя засекі, няма ў свірне дабра, бедны хто. Аднойчы мы йшлі прас каноплі дахаты і ні ведалі, што наш разгавор патслухваюць нашы ўхажоры. Усе дзеўкі расказваюць пра свае любосьці, ну й мяне нячысьцікі за язык пацягнулі расказаць пра

свайго. Нічога, кажу, што ён натта пекніня гамоніць ды й сам здатны, але ж вецір у сьвірне гуляіць. Быў бы трохі багацейшы ды аруды (засекі) паўнейшыя, то мо лепей было й. Як пачуў ён гэтакаю мову, дык зразачку яго ад мяне адвярнула. *Пуз., Мядз. р.*

ВІДУ НЕ ПАДАВАЦЬ. Гл. НЕ ПАКАЗВАЦЬ (не падаваць) ВІДУ.

ВІДУ НЕ ПАКАЗВАЦЬ. Гл. НЕ ПАКАЗВАЦЬ (не падаваць) ВІДУ.

ВІЛАМІ ПА ВАДЗЕ ПІСАНА. *Незадав.* Яшчэ невядома, няпэўна. Калі яшчэ будзя тоя вяселя, віламі па вадзе пісана, а людзі ўжэ гавораць. *Кав., Старадар. р.* Напісала заяву ў сельсавет, каб дзерава далі. А ці будзя што ці ня будзя, дадуць ці не, віламі па вадзе пісана. *Гр., Слуц. р.*

ВІЛЯЦЬ ХВАСТОМ. **1.** Хітраваць, не гаварыць праўды. Чаго ты віляеш хвастом? Думаяш, людзі ні бачылі, як ты цэлы мех капусты с поля тарабаніў? А яшчэ «німа», «трэба будзя купіць». Ад людзей ні схаваясься. *Сав., Стаўб. р.* **2.** Перад к і м. Падлізвацца да каго, падхалімнічаць. Гэты ўжо з начальствам зьнюхаўсё. Віляя хвастом перад Сяргеявічам, аш гатко глядзець. *Гор., Стаўб. р.* Як пайду пасядзець да Аліка, то ў яго толькі й разгавораў, што пра Адася. У Адася й тое, ў Адася й гэто, Адась купіў, Адась прадаў. Віляя хвастом перат гэтым Адасям. Неко ж ест у чалавека вырахаванё (разлік), калі так, нешто й яму перападая ад Адася. *Сав., Стаўб. р.*

ВІСЕЦЬ НА ВАЛАСКУ. Гл. НА ВАЛАСКУ ЛІПЕЦЬ (вісець).

ВІСЕЦЬ НА ГАЛАВЕ ў к а г о. Гл. ВІСЕЦЬ НА ШЫІ (на галаве) у к а г о.

ВІСЕЦЬ НА ШЫІ (на галаве) у к а г о. **1.** Мець патрэбу ў неадкладным выкананні. Трэба будзе занесьці мяшкі, што пазычала. Усё забываюся, вісіць на шыі. Аж брытко перат кабетай, пазычыла й ні аддаю. *Сав., Стаўб. р.* Схаджу на пошту, папытаюся, ці возьме гэтыя грошы. Цягнецца гэты доўх, вісіць на галаве. *Бял. Лаг. р.* **2.** Быць моцна закаханым у каго. Дзяўчына ўлюбілася ў хлопца, вісіць на шыі, ні адойдзіцца. *Сав., Стаўб. р.* Вельмі ш Чэсік добро жыве са сваёю. Яна, кажуць, вельмо добрая харакцярам, вісіць у яго на шыі, гэдак шануе, гэдак галубіць. *Жац., Стаўб. р.*

ВІСІЦЬ ЯК НА КАЛУ. Гл. ЯК НА КАЛУ (калку, калочку) ВІСІЦЬ.

ВОКА КАЗІНАЕ. Газоўка. Бывала, прадзеш, вока тое казінае бліпічыць, цёмна. А гэта сьвет, радзіва, відната кругом. *Ліцв., Карм. р.* Цяпер бабы гуляюць. Ці яны прадуць, ці яны ткуць? А бывала ж, устань, ноч прадзі. А цёмна кругом, толькі газовачка, вока тое казінае бліпічыць. *Свяц., Бял. р.*

ВОКАМ ЗВЕСЦІ. Крыху задрамаць, на хвілінку заснуць. Я ўчора так расстроілася, усю ноч ні магла заснуць. Як лягла, так і ўстала, хоць бы я вокам зьвяла. *Ліцв., Карм. р.* Гэто ш я на канапку прылегла, хацела зьвесці вокам, але панабягалі дзеці, Мішка ракаў налавіў, крычыць на ўсю хату: «Бабуня, дайця вядро!» Мусіла ўставаць. *Сав., Стаўб. р.*

ВОКАМ КІНУЦЬ. Гл. КІНУЦЬ (кідаць) ВАЧЫМА (вокам).

ВОКАМ НЕ АКІНУЦЬ. Гл. НЕ АКІНУЦЬ (не агледзець) ВОКАМ (вочмі).

ВОКАМ НЕ ЗГЛЕДЗЕЦЬ (не скінуць). Цяжка ўбачыць, прасачыць. Поязд ідзе, вокам ні зглядзяць як скоро. *Сав., Стаўб. р.* На Сож ба схадзілі, паром паглядзелі, паглядзелі, як «Ракета» бяжыць. От бяжыць быстра, вокам ня скінуць. *Ліцв., Карм. р.*

ВОКА НЕ ЗАПАРУШЫЦЬ к а м у. Не пакрыўдзіць каго, дружалюбна адносіцца да каго. Мы с Пархімовічам сябрукі. Ён мне ні запарушыў вока, і я яму за век ніколі ні запарушыў вока увесь час жывём у згодзе. *Бар., Стаўб. р.* Нашага Эдзіка ўсе любілі, нікому ён вока ні запарушыў. *Сав., Стаўб. р.*

ВОКА НЕ МЕЦЬ н а к а г о. Не дужа паважаць, недалюбліваць каго, гневацца, быць непрыхільным да каго. Я на яго вока не маю, на таго Олясю: і ў вас быў і мне нічого не сказаў. *Сав., Стаўб. р.* Віцік п'янаваты і ўсё нешто гаворыць да міне: «От я на цешчу воко маю, люблю цешчу сваю, а цесьця ні люблю». Чаўпе й чаўпе, ведамо, п'янаваты. *Там жа.* Праўленё пастанавіло на бок цялят ы не продаць, а Стафан прадаў раеўскаму (дзядзьку). І прашчытаўсё. Бо кап прадаў у калхос, выпісаў бы пратсядацяль саломы, на карову п хваціло, па руп підзісят восім бы заплаціў грашыма, ад кілё жыўцу жыта п прадаў. І воко лепшаё меў бы на Стафана. *Там жа.* Пашкуд-

ны ён чалавек. Не станавіся ўпоперак дарогі яму, сынок ты мой. І так ён на цябе вока не мае. *Міл., Маст. р.*

ВОЛЮ МЕЦЬ над кім. Верхаводзіць, распараджацца, камандаваць кім. Што ўжо ўгараваць прышлося ў маладым веку! Асталася (сіратой) трынаццатым годам ад бацькі, а была старшая ў сям'і. Мамка можа п і пажалела — волі нада мной ня мела, усімі камандуваў дзядуня. Каб і хацеў якую капейку пусьціць на сябе, у дзядуні трэба было пытацца. *Луж., Кр. р.*

ВОМЕГАМ ВЫЛАЗІЦЬ каму. Гл. ВЫЛАЗІЦЬ (вылезці) ПРАЗ БОК (бокам) каму.

ВОСТРЫ НА ЯЗЫК. Дасціпны, з'едлівы. Яна вострая на язык, зь ею й мушчыны баяцца займацца. *Гр., Слуц. р.* Эта баба з дваццаць дзівятага года акцівістка ў калхозі, многа чаго ведае. І на язык вострая, нагавора й мех і торбу. *Ліцв., Карм. р.*

ВОЧКІ ЗАКРЫЦЬ. Памерці, не жыць. Каб лепей вайны не было, каб лепш вочкі закрыць, чым вайны даждацца. *Пр., Стаўб. р.* Напісалі цётцы ў Польшчу, што гэдак здарылася з Маняй, шта памерла, пакінула двоя дзетак маленькіх, ото дзівілася: «І што там за хвароба гэткая, шта такая маладая закрыла вочкі». *Сав., Стаўб. р.*

ВОЧЫ АДБІРАЦЬ. Гл. АДБІРАЦЬ ВОЧЫ.

ВОЧЫ ВЫБІРАЦЬ. Злосна высмеяць, засмяяць каго. А ён кажа: «Я б яе (жонку) прасьціў, цяпер шмат такіх, каб ня езьдзіла ў Карэлафінскую (рэспубліку), а так мне людзі вочы выберуць». *Пр., Стаўб. р.*

ВОЧЫ ВЫРАЧЫЦЬ (вытрашчыць). Позіркам, поглядам выказаць здзіўленне, цікавасць. А тая Зося вочы вырачыть, бы буян (бык), і будэ дывытця. *Бот., Пін. р.* Толькі што мы вышлі с хаты трох, а гаспадыня наша як заенчыць: «Зладзеі! Укралі!» Мы з другой бабай вочы вытрашчылі ад здзіўленьня, а тая грэцьця, што з намі была, пусьцілася наўцёкі. Аш пяты патскаквалі! *Карп., Шчуч. р.* Чаго ты, кажу, вытрашчыў вочы. Ні пазнаў, ці што? *Шаш., Стаўб. р.*

ВОЧЫ ГАРАЦЬ З СОРАМУ. Гл. З СОРАМУ ЗГАРЭЦЬ.

ВОЧЫ ДРАЦЬ каму. Гл. ДРАЦЬ ВОЧЫ каму.

ВОЧЫ ЗАЛІЦЬ. Гл. ЗАЛІЦЬ ВОЧЫ (слепакі, горла).

ВОЧЫ КАЛОЦЬ каму. Выклікаць зайздрасць. Нідобро, як німа дроў. Тады палі тым алешнікам, што

мокры й пішчыць, як гарыць. І нідобро, як ест, бо тады людзям чужыя дрова вочы колюць. *Сав., Стаўб. р.*

ВОЧЫ МАЗОЛІЦЬ к а м у. Гл. МАЗОЛІЦЬ ВОЧЫ к а м у.

ВОЧЫ НАВЕРХ ЛЕЗУЦЬ. Адчуваць вялікае фізічнае напружанне ва ўсім целе. А прыдзе лето, жнеш, жнеш. Да пот ліецца, вочы наверх лезуць, піць хочацца. Але ш пан стаіць з бізуном і крычыць, падганяе. *Іскр., Кл. р.*

ВОЧЫ ПАРОЦЬ к а м у. Высмейваць, асуджаць. Чэся маднюся (модніца) ў мяне. Часам кажу: «От дачка мая, я табе купіла жакетачку, будзяш насіць хоць на работу». А яна: «Што, мамуся, мне ш людзі вочы папоруць, ні модная». *Сав., Стаўб. р.*

ВОЧЫ ПАСТАВІЦЬ. Гл. ПАСТАВІЦЬ ВОЧЫ.

ВОЧЫ ПРАГЛЕДЗЕЦЬ. ГОЧЫ ПРОДЫВЫТЫ. Пільна ўглядацца, з нецярпеннем чакаючы з'яўлення каго. Прызнацца, думала, ён (сын) прыедзя, мне з гэтымі мушчынамі трудно ладзіць. Вочы прагледзела, а ён бач, як едзя. Але я больш яго чакаць ні буду. Як марос лопня, адразу закалю. *Сав., Стаўб. р.* А Максымко то мій ужэ гэтакій хлопэць буў, шо всі завыдовалы. На гулыці дывкі всі гочы продывылы на ёго, а вын зо всімы однаков буў, ны було в ёго ны ліпшых, ны гіршых. *Заточ., Драгіч. р.*

ВОЧЫ ПРАМЫЦЬ. Гл. ПРАМЫЦЬ ВОЧЫ.

ВОЧЫ РАЗБЯГАЮЦЦА. Хто-небудзь не можа засяродзіцца, сканцэнтравацца на чым з прычыны разнастайнасці ўражанняў. А ў лаўках што робіцца! Колькі там канапаў, крэслаў, шафаў з люстэркамі! Аж вочы разьбягаюцца. І ўсё ж бяруць людзі, грошы маюць і не шкадуюць, трацяць. *Ракав., Нясв. р.* Цяпер нек і моды німа вышываць. А бывало, як прыеду я ў Мінск да дачкі (жыла ў інтэрнаці), вочы разьбягаюцца ад вышывак. Адна накрывачку вышывая, другая — падушачку, трэцьця — яшчэ што. А ўзоры ўсё неаднакія. Вочы разьбягаюцца. От красата! *Сав., Стаўб. р.*

ВОЧЫ СЛУПАМ (слупа) СТАЛІ. Позіркам выразіць здзіўленне або жах. У яе аж вочы слупам сталі, калі глянула яна на того Віціка. *Сав., Стаўб. р.* Спужала мяне жаба. Ідзе, як карова, отэтака о. Зроду ні бачыла гетакае жабы. Ні скача, а паўзе вялікімі шагамі. У мяне аж вочы слупа сталі, дальбох праўда. *Гр., Слуц. р.*

ВУГАЛ З ВУГЛОМ (жыць, пражыць). Побач, у суседстве. Увесь век мы пражылі зь ёй вугал з вуглом, хадзілі заўсёды разам, сябравалі, а потым і рассыпалі крупы (пасварыліся). *Ульян., Сен. р.* Мы раней з Мацейчаю жылі вугал з вуглом, а цяпер яна на пуці жыве, у той белай будцы. *Сав., Стаўб. р.*

ВУГЛЫ АБЦІРАЦЬ. Гл. АБЦІРАЦЬ (выціраць) ВУГЛЫ (куткі).

ВУШЫ АБ'ЕСЦІ. Гл. АБ'ЕСЦІ (аб'ядаць, пааб'ядаць) ВУШЫ.

ВУШЫ АДЗВАНІЦЬ. Надакучыць просьбай, гутаркай каму, доўга і настойліва прасіць каго. А мой мне ўжо вушы адзваніў, кап касьцюм купіла. Дак я сказала, калі будзіш добра вучыцца, то куплю. *Н. Тур., Уш. р.*

ВУШЫ АПУСЦІЦЬ. 1. Зрабіцца пасіўным, абыякавым (з прычыны хваробы, старасці). Я хадзіла на работу да гэтага года. А сёлета баба вушы апусьціла. *Ульян., Сен. р.* 2. Завянуць (пра расліны). Ты глянь, ўсё пасохло, пажаўцело. Нават гарбузьнік павяў, гуркі вушы апусьцілі, шкода глядзець. *Сав., Стаўб. р.*

ВУШЫ ВЯНУЦЬ. Гл. ВЯНУЦЬ ВУШЫ.

ВУШЫ ПААБ'ЯДАЦЬ к а м у. Гл. АБ'ЕСЦІ (аб'ядаць, пааб'ядаць) ВУШЫ к а м у.

ВУШЫ РАЗВЕСІЦЬ. 1. Абыякава, безуважна ўспрымаць пачутае. Гэто ш Антусяў Казік прыходзіў учорачы. Сабраласё много людзей. А ён так складно гаворыць, так да толку. Слухаюць сьціхом, вушы разьвесілі — ведамо, сьвет прайшоў чалавек. Да поўначы заседзяліся. *Зал., Стаўб. р.* 2. Сядзець, марна праводзячы час, абы сядзець. Дзяцько дакучны. Ўваліцца ў хату й сядзя, вушы разьвесіць. А яшчэ глухі, глухар, што ні дачуя, прыложыць, а тады ходзіць па хатах і плешча языком. *Сав., Стаўб. р.*

ВЫБІВАЦЦА З СІЛ. Гл. ВЫБІЦЦА (выбівацца) З СІЛ.

ВЫБІВАЦЦА Ў ЛЮДЗІ. Гл. ВЫЙСЦІ (выходзіць, выбіцца, выбівацца) Ў ЛЮДЗІ (у свет).

ВЫБІРАЦЬ ПЯРЭПАЛАХ (урокі). Замаўляць спалох або іншую хваробу, што зрабілася каму з воч. Сядзіць яна, варожыць, а ўжо так пад дванаццаць патходзіць. Сядзіць, не варухнецца. А потым як дыхне, сьвечка патухла, цёмно стало. Дак яна ў крык — перапалохала ўсіх нас. Я посьля гэтаго варажэньня адхварэла два ме-

сяцы: выбіралі мне шаптухі і пярэпалах, і ўрокі, і ўсё што хочаш. *Усел., Навагр. р.* Цяперашнія людзі не ўмеюць ні пярэпалахаў выбіраць, ні рожаў выгаворваць, гэта ўсе людзі даўнейшыя рабілі. *Гр., Слуц. р.*

ВЫБІЦЦА (выбівацца) З СІЛ. Знемагчыся, стаміцца да знямогі. Ото я сёньня спаць хачу! Дарога далёкая, саўсім выбілася сь сіл, пака прышла. А тут і карова нядоена, і парасята пішчаць, і ў хаці чорт ногі паломіць. *Гал., Стаўб. р.* Цяпер і надзелы бальшэя, і дамы прасторныя, і людзі распанелі. А даўней як мы жылі! Пралі, ткалі, скуты (трубкі палацён) бялілі, сарочкі шылі, шлэпачкі вязалі, лапці плялі. Рабілі як валы, выбіваліся з сіл. *Ульян., Сен. р.*

ВЫБІЦЦА Ў ЛЮДЗІ. Гл. ВЫЙСЦІ (выходзіць, выбіцца, выбівацца) Ў ЛЮДЗІ (у свет).

ВЫВЕРНУЦЬ ВОЧЫ. Гл. ВЫЛУПІЦЬ (вывернуць) ВОЧЫ.

ВЫВЕСЦІ НА ЧЫСТУЮ (цёплую) ВАДУ к а г о. Выкрыць, выявіць махінацыі, непрыстойныя ўчынкі каго. Я гэтаго злодзяя вывяду на чыстую воду! Гэто ш трэба, кап, па-сусецку жывучы, так нагаварыць на чалавека. А ці я табе калі слово кепскаё сказала, а ці курыца мая калі забегла на яго грады? *Сав., Стаўб. р.* У гэтум месяцы то прырост (цялят) харошы, але дзе твой прырост за прошлы месяц, хто грошы палучыў за цібе? Прыедзя той заўцехнік (сесію здае цяпер), я вывяду некаго на цёплую воду. Як гэто так! Стараясься, ночы ня сьпіш, а нехто будзя за цібе грошы палучаць! *Там жа.*

ВЫВЕСЦІ Ў ЛЮДЗІ (на дарогу) к а г о. Дапамагчы каму заняць трывалае становішча ў жыцці. Нада ж было як-небудзь дзяцей выводзіць у людзі, вот і ўчыла хоць сколькі. *Свяц., Бял. р.* Я цябе ўзяла маленькую ды голую, апратала, выхадзіла, дбала, стараласа, кап табе добра было, у людзі вывяла, а ты цяпер мяне ні хочаш глядзець. *Гр., Слуц. р.* А той мой сынок, што ні вярнуўся з вайны, той ні гэткі ніўдаліца быў, як гэтый. Таго я вывіла на дарогу, якую ён хацеў: два годы вучыўся ў Мугулёве, год у Воршы, і перад самъй вайной два годы настаўнічаў у Глыбачкі. *Ляўк., Арш. р.*

ВЫГНАЦЬ ДУР. Строгімі мерамі ўздзейнічаць на паводзіны каго. Перайначся, хлопча. Ба як не перайначысься, то выганю дур папругаю. Выганю дур! *Міл., Маст. р.*

ВЫЕХАЦЬ ВЕРХАМ на кім. Гл. ВЕРХАМ (конна) ВЫЕХАЦЬ на кім.

ВЫЙСЦІ З КАНАВЫ. Пазбавіцца галечы, абжыцца. Адразу як пагарэлі, то нічога не засталося ў хаце. Усё згарэла. Але пamaленькуй вышлі с канавы, памаленькуй набылося ўсё. *Кунц., Кл. р.*

ВЫЙСЦІ З ЦЯРПЕННЯ. Гл. З ЦЯРПЕННЯ ВЫЙСЦІ.

ВЫЙСЦІ НА ЛЮДЗІ. Гл. ВЫЙСЦІ (выходзіць, выбівацца, выбіцца) Ў ЛЮДЗІ (у свет).

ВЫЙСЦІ (выходзіць, выбівацца, выбіцца) Ў ЛЮДЗІ (у свет). Дабіцца трывалага або высокага становішча ў жыцці. Без навукі цяпер, браце, ні выйдзяш у людзі, любая работа ціпер такая, што много ведаць трэба. *Сав., Стаўб. р.* Ужо й Зіна выбіваяцца ў людзі. Скончыла ўніверсьціцет і яшчэ вышай падалася. *Там жа.* Цяпер сіраты ні прападаюць, іх вучаць. Як добрэ дзіця, выдзя на людзі. *Там жа.* Высахнеш, покуль вывучысься. Цяшко выходзіць у людзі, цяпер навукі высокія, то цяшко вучыцца. *Жац., Стаўб. р.* Мы сына хацелі на арґаністага вучыць, так хорашо сьпяваў, хацелі, каб у людзі выбіўся. Але потым вайна, ні да гэтаго было. *Там жа.* Пры Польшчы ні можно было выбіцца ў людзі беднаму, ні было чым плаціць за навуку. *Гор., Стаўб. р.* Новы сьвет, новаё жыцё настало. І ўсё роўно ні адзін савоняц (ад Савоні) ні скажа, што даволян. А яшчэ пры мне (сын жа мой у сьвет вышаў) дак сумысьля гаворыць усяк, абрэша, нагаворыць на кожнаго вучанаго. *Там жа.* Дзеткі ўсе мае ў людзі вышлі, людзьмі сталі. *Любч., Навагр. р.* Унукі мае вышлі ў людзі: Мікітаў Грыша робіць настаўнікам, дзеткі Сьціпана ў толк пашлі. *Ст. Габ., Мядз. р.* Прышлы булы нашы, шэ пэршы Советы. Ну, думалы, шо зажывэм. Онно ж крохы ў людэ выбылысь, то, на тобі, поляк ужэ валыть на нас. *Заточ., Драгіч. р.*

ВЫЙСЦІ СУХІМ. Застацца непакараным, пазбегнуць заслужанага пакарання. Тады думалі, што ўсю гэту хэўру з работы пазьнімаюць і надоўго ў турму пасадзяць. Але ш бачыш, пасядзеў с паўгода гэты хітрун і зноў на рабоце. Як ён выйшаў сухім з бяды, вот дзіво? *Сав., Стаўб. р.* Хто ў Польшчу падаўсё, уцёк, пакінуў наседжанаё котлішчо, хто й цяпер атседжвае сваё, а яму вот нічого-такі, нек выкруціўсё, выйшаў сухім. Цяпер жаніўсё і жыве сабе. *Шаш., Стаўб. р.*

ВЫКАПАЦЬ З-ПАД ЗЯМЛІ. Гл. ДАСТАЦЬ (выкапаць) З-ПАД ЗЯМЛІ.

ВЫКАСАВАЦЬ З МАПЫ. Цалкам знішчыць, разбурыць дашчэнту. Я пашоў да брата, навёў, панімаяця, навушнікі, сяджу і слухаю. Выступаіць жэншчына: «Таварышчы! Слушайця. Січас будзіць выступаць ацец Сталін». Я слухаю. Ён каыць: «Таварышчы! Напаў на нас ворах, ніспадзявана напаў. Але помніця: вайну вядзіця ацечаскую (отечественную). Не давайця немцу хлеба. Ні аднаму немцу! Мы немца выкасуем з мапы (карты), ужэ яго ні будзіць, немца». Я думаю, а-ё-яёй, немяц ляціць, аж вунь дзе ён, за Смаленскам вайна, а ён сабіраецца яшчэ немца з мапы выкасаваць. Ажно ш вышла, што й праўда. Разьбілі (немцаў), раскалацілі, Бярлін забралі і за Бярлін пашлі. Відзіш, як то бывая. *Мік., Мядз. р.*

ВЫКІНУЦЬ З ГАЛАВЫ. Перастаць думаць пра каго, пра што. І днём, і вечарам не адрываецца ад ксёнжкі, усё чытае. За́баўкі выкінуў з галавы. Во табе школа што значыць! *Сав., Стаўб. р.*

ВЫЛАЗІЦЬ З ДАЎГОЎ. Гл. ВЫЛЕЗЦІ (вылазіць) З ДАЎГОЎ.

ВЫЛАЗІЦЬ (вылезці) ПРАЗ БОК (бокам) каму. ВОМЕГАМ ВЫЛАЗІЦЬ каму. *Недобразыч.* Так не пройдзе каму, дрэнна кончыцца. Ці помніш ты, як ён людзей мучыў пры немцах? Як пастаўкі зьдзіраў? Людзей спісваў у Германію? Але вылязла яму ўсё тоя бокам, адрыгнуліся сьлёзы. *Вар., Стаўб. р.* Засьлініцца, рот разявіць і прэцца біцца. Але забралі-такі ў міліцу. Там яму ўсё вылязя праз бок. *Кай., Кар. р.* Калі пажаніліся мы са сваім старым (а былі бедныя), дык бацько мой ды кажа: «Як жа вы, дзеткі, жыць будзяце? Зямліцы мало». А ў дзядзіны не было сваіх дзяцей, ну дык яна й кажа, каб мы к ёй жыць ішлі. То нам яе зямліца вомягам вылязла. Жылі, наравілі, як ліхой скуле, глядзелі, а сіраўно кепско, ёй ня шкода было чужых дзяцей, сваіх век ня меўшы. *Лоз., Навагр. р.*

ВЫЛАМАЦЬ З КАЛЕНА. *Незадав.* Дастаць што, калі дастаць цяжка або зусім немагчыма; узяць з нічога. Дзе я той мячык табе вазьму? С калена выламлю? *Кав., Старадар. р.* Прычапіўся мой хлопец, дайця рубля і ўсё. А ў хаці якрас ні граша. То што я табе выламлю с калена? *Сав., Стаўб. р.* «Мама, дай цукерку!» — «А дзе я вазьму. С калена выламлю? От пайду на места (цэнтр мястэч-

ка з будынкамі гандлёвага і адміністрацыйнага прызначэння), дак куплю». *Гр., Слуц. р.*

ВЫЛЕЗЦІ БОКАМ к а м у. Гл. ВЫЛАЗІЦЬ (вылезці) ПРАЗ БОК (бокам) к а м у. ВОМЕГАМ ВЫЛАЗІЦЬ к а м у.

ВЫЛЕЗЦІ (вылазіць) З ДАЎГОЎ. Разлічыцца, аддаць пазычанае. Матка бедная і так і гэтак кідаецца, каб з даўгоў вылясьці, а сын і ні дбая, сядзіць дома. *Сав., Стаўб. р.* Людзі мучыліся, не вылазілі, бывало, з даўгоў, бедна жылі. *Там жа.*

ВЫЛІНКІ ЛІЦЬ. Гл. ВЫЛІЎКІ (вылінкі, лейку) ЛІЦЬ.

ВЫЛІЎКІ (вылінкі, лейку) ЛІЦЬ. Несці неаформленыя яйкі, без шкарлупіны. Ета во белая (курыца) выліўкі льлець. *Ліцв., Карм. р.* Трэба курэй ні выпускаць, а то вылінкі ліць сталі. *Кр., Чачэр. р.* Паглядзі, што за кура! Кілаграм жыру на ёй, а яйкі мала нясе, паражырэла, адно лейкі лье. *Сав., Стаўб. р.* Кура выцялася і выліла лейку. *Там жа.*

ВЫЛУПІЦЬ (выврнуць) ВОЧЫ н а к а г о. Кідаць асуджальныя позіркі на каго, выразам твару выказаць здзіўленне, пострах. Кап хоць мае рукі былі паўнейшыя або сама маладзейшая, то так сабе. А гэта выдзі ў людзі ў такой кофтачцы, кожны вылупіць вочы — баба старая, а адзела кофтачку с кароцянькім рукавом. *Сав., Стаўб. р.* Быў чалавек сталы такі, Гальяш звалі. Дак пагонім мы гусі пад млын, а ён вывярне вочы, да нас: «Дзеці буду браць!» А божухна, ляцім дадому, крычым ат страху. *Пр., Стаўб. р.* Пасобіла б калхозу грэсьць, бабы вылупяць вочы, скажуць: «Так дак ні ходзіць, а на сена дык і яна йдзець». *Ліцв., Карм. р.*

ВЫНОСІЦЬ НА (сваіх) ПЛЯЧАХ. Вытрымліваць без староняй дапамогі ўвесь цяжар выпрабаванняў, непасільнай фізічнай працы. Як даўней рабілі людзі, падумаць страшно. Як валы! І касілі, й жалі, й малацілі — усё рукамі. Як яны выносілі ўсё гэто на сваіх плячах! *Сав., Стаўб. р.* А дзеці гультае, ні слухаюць. А бацько добры-добры, слова ні скажа ім, усё выносіў на сваіх плячах. *Гор., Стаўб. р.*

ВЫПЕТРАЦЬ НА ТРЭСКУ. Гл. ВЫСАХНУЦЬ (выпетраць) У (на) ШЧЭПКУ (трэску).

ВЫПІЦЬ НА ДУРНІЦУ (на дурачка). *Іран.* За так, дарэмна, за чый кошт. Віцік лятае, шукае, каб дзе вы-

піць на дурніцу. Як тая жонка церпіць гэдаку заразу. *Гор., Стаўб. р.* Ведаю, грошай шкадуяш, жмінда, усё хочаш, каб выпіць на дурніцу. Не, брат, гані рубля, за так ні выйдзе. *Там жа.* П'е, а галаву не губляе. Свае грошы не выкладзе, а дзе гарэлкі на дурачка выпіць, на гэта ён любіцель. *Бял., Лаг. р.*

ВЫПЛАКАЦЬ ВОЧЫ (вочкі). Вельмі многа і часта плакаць. Выплакала я свае вочы па сыночку. Адзін ён быў у мяне і забілі ў вайну. *Гай., Лаг. р.* Дзісяцера дзяцей было, а жывых толькі трое асталося, трое дзяўчат. Выплакала свае вочкі па дзецях. *Зарэч., Смал. р.*

ВЫСАЛАПІЎШЫ ЯЗЫК. Хутка, шпарка (бегчы, ісці, ляцець). Зьбіраліся ехаць у ягады. Ужэ сем часоў, а мы яшчэ дома, то потым ляцелі высалапіўшы язык, утаміліся. *Кунц., Кл. р.* Я дык неяк ні люблю ў гэным горадзе, неяк натта шумна, усе бягуць. Ні табе каб паглядзеў спакойна, разгледзіўся што дзе якое, дык не, бяжы язык высулупіўшы. *Язн., Віл. р.*

ВЫСАХНУЦЬ (выпетраць) У (на) ШЧЭПКУ (трэску). Схуднець, дрэнна выглядаць. Мужык ёй годзя, сам ужо высах у шчэпку. *Бял., Лаг. р.* Але ш Аляксеява дзеўка й высахла ў трэску. Ці то ёй чаго ні хватае, ці захварэла, ці можа пералюбілася. *Востр., Зельв. р.* На казённых харчах пупраўляцца нада, а ты высахла на шчэпку. *Ульян., Сен. р.* Каб бачыла, што зь ім зрабіласё! Высах на шчэпку. *Сав., Стаўб. р.* Хвароба нікога не красіць. Глядзі, як за кароткі час жанчына выпетрала на трэску. *Свет., Нясв. р.*

ВЫСТАВІЦЬ ЗА ДЗВЕРЫ. *Непав.* Выправадзіць, выгнаць з хаты, адправіць ні з чым. Прыехала матка старэнькая ў горад, знайшла кварціру, прышла да сына, а сын пакарміў яе, паўхаджываў і кажа: «Іжжай дамоў». Сунуў ёй грошы (ці тры ці колькі рублей) і выставіў за дзьверы. *Ліцв., Карм. р.* Прышлі да нас чужыя дзеці, а шум, а гоман у хаці, ні вытрымаць. То пагулялі трохі і выставіла ўсіх за дзьверы, каб галавы ні дурылі. *Сав., Стаўб. р.* Калі будзяш так гаварыць са мною, то, дальбог жа, выстаўлю за дзьверы, ні пагляджу, што сваяке. *Веч., Стаўб. р.* Хацеў я яе за дзьверы выставіць, але што ты ўмяшалася. Я б ёй паказаў, як пляткарыць на мяне! *Гор., Стаўб. р.*

ВЫСТАВІЦЬ (выстаўляць) НА ПАСМЕШЫШЧА. Абсмяяць. Во дзе дзелыць нечыга. Пънапішыць тут усяго.

што б выставіць нас на пасьмешышча. Знаю я етых пісак! *Аз., Гар. р.* Сукенка то харошая і плюшовачка нішто яшчэ, але на ногі німа чаго абуць. А мне брытко йсьці ў валёнках і плюшовацпы, выстаўляць сябе на пасьмешышча. *Жац., Стаўб. р.*

ВЫХОДЗІЦЬ З СЯБЕ. Страціць спакой, раўнавагу, раззлавацца. Ніколі ён не сьпяшаецца, усё памаленькуй. Хай во зьбіраюцца на кіно. Жонка выходзіць з сябе, нэрвуецца, а ён паўгадзіны боты надзявае, паўгадзіны фуфайку будзе шукаць. *Падг., Кар. р.* Алесь ніколі ні выйдзя сь сябе. Ці кепско што, ці якая іншая немач у гаспадарцы, ён ніколі голасу ні павысіць, такі спакойны. *Сав., Стаўб. р.*

ВЫХОДЗІЦЬ У ЛЮДЗІ. Гл. ВЫЙСЦІ (выходзіць, выбівацца, выбіцца) Ў ЛЮДЗІ (у свет).

ВЫЦІРАЦЬ КУТКІ. Гл. АБЦІРАЦЬ (выціраць) ВУГЛЫ (куткі).

ВЫЦЯГАЦЬ ДУХ (душу) з к а г о. Мучыць, здзекавацца з каго. Цялё выцягая дух. Пацягня (за вяроўку), у купіну павалюся, кляну, кляну, ні магу справіцца, ні магу дагледзяць. *Пр., Стаўб. р.* Вайна разлучыла іх. Дужа дзяцей жалеў, прысылаў канверты дзіцям, а тады хуваўся, ні хацеў аліменты плаціць. Але іна зь яго ўсю душу выцігнула. *Ульян., Сен. р.*

ВЫЦЯГВАЦЬ ЖЫЛЫ з к а г о. Гл. ЦЯГНУЦЬ ЖЫЛЫ (г′ізунты) з к а г о.

ВЫЦЯГНУЦЬ НОГІ. *Незадав.* Памерці, загінуць, здохнуць. Выцягняш ногі тут, адзін жывучы, у клопаце. *Раёў., Стаўб. р.* Бес сала й ногі выцягняш, сало — г′рунт. *Мік., Стаўб. р.* Як пабудзе яшчэ дзён тры такі маразяка, куры ногі павыцягваюць. *Сав., Стаўб. р.* Купілі нек кабылу маладую, пабыла тая кабыла зіму й здохла. Павазілі дзень гною, а назаўтра тая кабыла й ногі выцягнула. *Гр., Слуц. р.*

ВЫЯДАЦЬ СЭРЦА к а м у. Гл. АД'ЕСЦІ (ад'ядаць, выядаць, пераядаць) СЭРЦА (душу, нервы) к а м у.

ВЯЛІКІ (вялікая) РАСЦІ. Дзякуй. Ужываецца пры звароце дарослых да дзяцей як выказванне падзякі за аказаную паслугу, выкананую просьбу. «Падай, Віцька, вады бабуні». — «От вялікі расьці, унучак. Сягоньні алаткі пякла, то піць хочацца». *Гор., Стаўб. р.* Вялікая расьці, Марынка! А-а-а, смашнаё млечко. *Сав., Стаўб. р.*

ВЯЛІКІ ЯК МАТАВІНА. Высокі на рост, але тонкі.

Александрына ж да мяне на сяло ўчора прыходзілася, дак пра́віла (расказвала), да сына ж у Мінск ездзіла. Можа помніць настаўніца Янку яе, вялікі як матавіна такі? *Язн., Віл. р.*

ВЯНУЦЬ ВУШЫ. Сорамна, непрыемна слухаць што; уразіць каго непрыемнай гаворкай, словам. Гаворыш ты абы-што, вянуць вушы ат твае гаворкі. Дзе ты гэтаго набраўся, распуста? *Хал., Стаўб. р.* Зь ім я ні ўмею гаварыць. Як скажа што — вушы вянуць, слова людскага ад яго ні пачуяш. *Сав., Стаўб. р.* Я ж яго вучу на добрае, а ён ні слухая, загне якое слаўцо, што аж вушы вянуць. *Пад., Дзятл. р.*

ВЯРНУЦЬ (адварочваць) НОС. *Непаш.* Пагардліва ставіцца да каго, адварочвацца. Некалі, як быў багаты да ў пачоці, то, нябось, вярнуў нос, не заўважаў, а гэто кланяяцца. *Гор., Стаўб. р.* Яна як ідзе па вуліцы, то ні с каждым здароваяцца, адварочвая нос, такая ганарлівая зрабілася, што ні пазнаць дзеўчыны. *Сав., Стаўб. р.* Думала Яся папрасіць, кап гумно накрыў. Пашла сказаць, папрасіла — ні хоча, нос верня, нават у мой бок ні глядзіць. *Жац., Стаўб. р.* Некалі ён на цібе і ні глянуў бы, нос адварочваў бы, а ціпер, бачыш, прасіць прышоў рады. *Там жа.*

ВЯСЁЛЫ СТОЛ. Аддаўшы даніну павагі памяці нябожчыка, той жа кампаніяй працягваць званы абед. Як адправюць жалобны стол, тады ўсе вылазюць з застолья, усё са сталоў прымаюць, сьцелюць назна́йніцу (на левы бок) скацірсьці й ставюць усю яду скаромнаю. На жалобны стол ставілі ўсё посная — з грыбамі, з алеям, а на гэты ўжо ставюць што папала — й сала, й мяса, й яйкі. Гэта ўжо вясёлы стол, тут хто плачыць, а хто сьмяецца. *Хал.., Бар. р.*

## Г

ГАВАРЫЦЬ З ЧОРТАМ ПАЦЕРЫ. *Непав., незадав.* Весці гаворку з тым, хто цябе не жадае слухаць, хто пярэчыць, адмаўляе табе. Што ёй ні скажы, ўсё яна наперакор. Вот і гавары ш чортам пацяры, слухаць ні хоча. *Сав., Стаўб. р.* Яму скажы адно — ён сваё, ён па-свойму зробіць — гавары ш чортам пацяры. *Гор., Стаўб. р.*

ГАВАРЫЦЬ ПРАЗ СОН. Трызніць, гаварыць у час сну, у сне. Схадзіў пакупоўся, а вада с крыніц халонная, у горле як сашчапіла, цімпература вялікая. Запрошлу

ноч гаварыў прас сон — некія шарыкі, Галю звоў. *Бял., Лаг. р.* Наш Мішка набегаўсё за дзень, як забіты сьпіць. А потым павярнуўсё на бачок, нешто гаварыў прас сон пра Марынку, нешто кап яму ні мяшала. *Сав., Стаўб. р.*

ГАВАРЫЦЬ У ЛАД. Гл. ГАВАРЫЦЬ У РУКУ (у лад).

ГАВАРЫЦЬ У РУКУ (у лад). Падзяляць погляды чые, быць прыхільнікам каго, адабраючы яго ўчынкі, дзейнасць, падтакваць каму. Цёця Поля не будзя гаварыць у тваю руку, ні паддобрывайся. Яна з намі пойдзя. *Бял., Лаг. р.* Сь п'яным гаварыць у руку трэба, процiў шэрсьці ні пагладзіш. *Гр., Слуц. р.* Як мой зяць прыдзіць п'яный, я гавару толькі ў лад, хоць ба скарэй ён лёх да заснуў. *Ляўк., Арш. р.*

ГАДЫ Ў РАДЫ. Рэдка, праз вялікі прамежак часу. Шукая сваіх па сьвеці, можа й да вас заедзя. І ў Савоні трапляя, праўда, гадэ ў радэ. *Сав., Стаўб. р.* Маня гаварыла, што Лёдзя прыяжджая гадэ ў радэ. Жыве далёко, недзя аш у Сальску. *Там жа.*

ГАЛАВА ВАРЫЦЬ (капуе, кумекае) у к а г о, ч ы я. Кемлівы, здагадлівы, разумны хто. Я кончу восім клас, даляй вучыцца ні буду — у мяне галава не варыць. А буду шофярам, трактарыстам. *Мік., Мядз. р.* Сын дзьве ўчылішчы лётныя акончыў і яшчэ кажа, ні буду астанаўлівацца, паступлю ў акадэмію. Мусіць жа, галава капу́я, калі так говорыць?! *Ас., Стаўб. р.* У нашаго Казіка галава кумекая. Паглядзі, кажа, бабуня, дзённік. Гляджу, а там усе пяцёрачкі. Вот харошы ўнучак, пахвалю трохі яго. *Сав., Стаўб. р.*

ГАЛАВА (галоўка) НЕ БАЛІЦЬ. Не турбавацца за лёс, учынкі, справы каго. Няхай твая галава ні баліць за маю дачку: ні прападзе, на завот пойдзя, калі ні паступіць вучыцца. *Зал., Стаўб. р.* А ба́цькі й галоўка ні баліць, найшоў другую й жыве. *Зам., Брасл. р.* Мой брат ціпер у Браславе ў сельпо робіць. Жонка бугалцірам у калхозі. Ім трыццаць сотак даджана, ім і грошы, і трудадні, і галава ні ап чым ні баліць. *Бяльм., Брасл. р.* Пры Польшчы кожны капейку цісную, кап зямлі прыкупіць. А гэто нічого ні трэба, ні ап чом галава ні баліць, адно сьвіня гадуюць, бычкі, цялушачкі. *Сав., Стаўб. р.* Ціпер добро жыць, галава ні ап чом ні баліць: можасься трошкі — хадзі на работу, як слабо пачуваясься, то аддыхай сабе. *Там жа.*

ГАЛАВОЙ БІЦЦА. Аплакваць, моцна шкадаваць каго, перажываць. А было так. Захварэў бацько, а во ўжо й памёр. А ёй ні кажуць, што памёр бацько. Як дазналася яна, загаласіла, заплакала, стала галавою біцца. *Сав., Стаўб. р.* Проська Ягорава, як карова іхняя здохла, цэлую нядзелю галавою білася, так ёй жалка было. *Н. Тур., Уш. р.*

ГАЛАВОЙ НАВЯРНУЦЬ. *Незадав.* Загінуць, забіцца. Цяпер ото людзей много гіня, у кожным нумары «Праменя» (назва раённай газеты) — «трагічно загінуў, трагічно загінуў», усё спачуваньні. Пакуплялі гэтыя матоцыклы, а езьдзіць ні вельмо спраўно ўмеюць, дасьць скорасьць, а тут сустрэчная (машына), ці так перашкода якая — і галавой навярнуў, і галавой навярнуў. Адно спачуваньні да сьлёзы. *Сав., Стаўб. р.*

ГАЛАВУ ДУРЫЦЬ к а м у. Гл. ДУРЫЦЬ ГАЛАВУ (патыліцу) к а м у.

ГАЛАВУ ЗЛАМАЦЬ. Гл. ЗЛАМАЦЬ ГАЛАВУ.

ГАЛАВУ ЛАМАЦЬ. Гл. ЛАМАЦЬ ГАЛАВУ.

ГАЛАВУ МЕЦЬ НА КАРКУ (на плячах). Гл. МЕЦЬ ГАЛАВУ (на плячах, на карку).

ГАЛАВУ (галоўку) ПАЛАЖЫЦЬ (злажыць, налажыць). *Шкадав.* Загінуць. Сьціпан на вайну пашоў, а тады Мікалай у парцізаны пашоў — і абадва ні вярнуліся. І зяць галоўку палажыў. *Гай., Лаг. р.* Сярэдні сын дамоў ні вярнуўся, злажыў, гарамыка, галоўку пад Бярлінам. *Пуз., Мядз. р.* Прышоў сын (хадзіў да партызанаў), далі павячэраць і ў таку спаць паслалі, а паліцаі дагледзялі, даказалі на яго — і злажыў галоўку беднянькі. *Чар., Мядз. р.* Да панаплакваліса, успомнілі пракляты час, што маладыя паклалі галоўкі. Хай бы ж жылі да цешыліса зараз дзеткамі. *Рух., Старадар. р.* А я думаю, перажылі ўсю вайну, а от цяпер зложым тутака галоўкі пат этымі нямецкімі кулямі. *Сіц., Пух. р.* Абодва разам (сыны) ішлі ў Чырвоную Армію, абодва ваявалі і абодва галоўкі налажылі, ні вярнуліся з вайны. *Ляўк., Арш. р.* Мужык мой не вярнуўся з гэтай вайны, недзя пат Варшавай злажыў галоўку. *Азёрк., Маст. р.* Гэдакія мае гадэ старыя, а прышлосё перажываць такое горо: плакалі па ўнучку, што такі малады злажыў галоўку, а тут і сам (зяць) памёр, абудва памёрлі. *Сав., Стаўб. р.* Я тыніну (калок) вырвала, той тынінай па каню, па каню да на рэчку, па ровах па тых у Ажалі. І спасла парцізана, а сама лець ні папалася, лець галаву ні палажыла. *Ульян., Сен. р.*

ГАЛАВУ ЎЗНІМАЦЬ. Гл. УЗНІМАЦЬ ГАЛАВУ.

ГАЛАСІЦЬ ГОЛАСАМ. Моцна, уголас плакаць, плакаць, прычытваючы. Цёлка была ў нас, тры гады, ужо пакрыўшыся, такая харошая. І ўкралі цёлку. Што рабіць! Семера дзяцей — адно пад адным. Мама галосіць голасам. *Ульян., Сен. р.*

ГАЛА́С (гала́сы) СПРАВІЦЬ. Крычаць, раскрычацца, шумець. Учора сабраньнё было, вецяранам прэмію далі, дак гулялі да раніцы. Сусет прышоў ўжо разьвідніло, то Маруся гала́с справіла. *Сав., Стаўб. р.* Паднімаю галаву, чую, што радзіва гаворыць і ўжо каля дзісятай гадзіны,— гэта ш так заспаць! Карова стаіць у хляве, патсьвінак за́гаратку паламаў. Балазе баба недзе забавілася, а то гала́сы справіла п ужо. *Рак., Вал. р.* Трэба скарэй патходжвацца, цёмно на дварэ, сьвіня гала́сы справілі, хоць вушы затыкай, есьці хочуць. *Гор., Стаўб. р.* Дзеці на рэчцы галасы справілі, там запруду зрабілі, купаюцца. *Жац., Стаўб. р.*

ГАЛОЎКА НЕ БАЛІЦЬ. Гл. ГАЛАВА (галоўка) НЕ БАЛІЦЬ.

ГАЛОЎКУ НАЛАЖЫЦЬ. Гл. ГАЛАВУ (галоўку) ПАЛАЖЫЦЬ (злажыць, налажыць).

ГАЛОЎКУ ПАЛАЖЫЦЬ. Гл. ГАЛАВУ (галоўку) ПАЛАЖЫЦЬ (злажыць, налажыць).

ГАНЬБУ ДАВАЦЬ. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ГАНЬБУ.

ГАНЯЦЬ САБАК. Гл. САБАК ГАНЯЦЬ.

ГАРАДЗІЦЬ ПЛОТ. *Незадав.* Гаварыць пустое, гаварыць не ў толк. Паехалі мы на радзіны, а там адзін дзяцька напіўся і давай гарадзіць плот, плясьці абы-што, ледзьве мы ад яго аччапіліся. *Кунц., Кл. р.* Пакінуць гэтую дурную адну ў хаці, а яна гаворыць абы-што, ведамо, дурнаватая, гародзіць плот. Але гаспадарка дагледжана. *Сав., Стаўб. р.* Прышоў рас Мазур п'яны, расьсеўся на лаві, бармоча, нешто хоча сказаць, плот гародзіць, а мне часу німа, сьвіням ні да́вано. *Жац., Стаўб. р.* От, гародзіш ты плот, сьціхні, дай паслухаць, што людзі гавораць. *Сав., Стаўб. р.*

ГАРАЦЬ РУКІ. Гл. РУКІ ГАРАЦЬ (да работы).

ГАРАЧКУ ПАРОЦЬ. Гл. ПАРОЦЬ ГАРАЧКУ.

ГАРОЙ СТАЯЦЬ з а к а г о, з а ш т о. Гл. СТАЯЦЬ ГАРОЙ (груддзю) з а к а г о, з а ш т о.

ГАРЫ ГАРАМ ш т о. *Незадав.* Рашучае выказванне нязгоды з чым, адмаўленне ад чаго. «Мне здаецца, я б

і цяпер з ахотай прала б тую кудзельку, седзючы ў хаці».— «Ай да ні прала б і ты, гары яна гарам, тая кудзеля». *Свяц., Бял. р.* Ліпця мерая туфлі белянькія, некія от сабе, а стаіць збоку Аньця: «Некія ні модныя, ні бяры». А я кажу: «Гары яна гарам, тая мода. Глядзі, кап адно на назе добро былі». *Сав., Стаўб. р.* Нѐ ўжо, дзеўкі на стройкі работаць — гары яно гаръм, лепій дома у калхос хадзіць. *Ляўк., Арш. р.*

ГАРЫЦЬ У РУКАХ ч ы і х, у к а г о. Выконваецца што хутка, спрытна, акуратна, добра. Яна ў мяне маладзец. За што ні возьмецца, ўсё ў руках гарыць у яе. *Кав., Старадар. р.* От Аньця наша. Рухавая, руплівая, уморы ні зная, гарыць усё ў руках, агнём гарыць. *Сав., Стаўб. р.* Вясёлая, маладая была, ўсё ў руках гарэла, а цяпер у Бараўлянах ляжыць. *Бяр., Дзярж. р.* Гэты мalады, акуратны, ўсё ў руках яго гарыць. Павінен зрабіць мне акуратно: і шыначкі аддзяліць, і паляндвічкі павымáя, сало паможа злажыць. *Сав., Стаўб. р.* Яня вельмі спрытная, работа так і гарыць у яе руках. Янá вельмі любіць ферму і, пэўне, заменіць матку, як вырасьця. *Там жа.*

ГАРЫЦЬ ШКУРА н а к і м. Гл. ШКУРА ГАРЫЦЬ н а к і м.

ГІГІКІ СТРОІЦЬ. Смяяцца, дурэць, пакепліваць з каго. *Жартаўл.* Яму п толькі гігікі строіць, а ўсё астатняе яго ні касаецца. *Раўч., Пух. р.* Кіньця вы гігікі строіць, ідзеця на вуліцу, трэба ў хаці прыбраць, каб брытко ні было. *Гор., Стаўб. р.*

ГЛАДЗІЦЬ ПА ГАЛОЎЦЫ к а г о. Шкадаваць, пеставаць каго, патураць каму. Не, ціпер бацько ўжо ні будзя гладзіць цібе па галоўцы, а дасьць добро, гэто ш трэба так зрабіць. *Хал., Стаўб. р.* Дачка ў Франі песта, ведамо, ядынáчка (адна ў сям'і), глядзяць, гладзяць па галоўцы, а распушчаная, паляц ап паляц ні ўдарыць, толькі кап смашно зьесьці. *Ас., Стаўб. р.*

ГЛАЗЫ ЗВЕСЦІ. Гл. ЗВЕСЦІ ВОЧЫ (глазы).

ГЛУХІ ШТО (як) ПЕНЬ. Вельмі глухі. А ў нас ест харошы маляц, чырвонінькі, але глухі што пень, глухі ат урадзэня (нараджэння). *Сав., Стаўб. р.* Ні дачувая, глухая стала як пень. *Жац., Стаўб. р.*

ГЛЯДЗЕЦЬ БОКАМ н а к а г о. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) н а к а г о.

ГЛЯДЗЕЦЬ ВА ЎСЮ. Вельмі ўважліва, пільна, не ўпускаючы нічога з-пад увагі, сачыць, прыглядацца. Ежэлі (калі) над горадам ляціць (самалёт), глядзець трэба ва ўсю, ім прыказваюць, кап спакойно ляцелі, за парушэньні наказваюць. *Вар., Стаўб. р.* Трэба пазьбіраць картофлі, кап ні замарозіло ўночы. Пашлі, хоць і цямнавато ўжо, будзям ратаваць, глядзець ва ўсю, кап сабраць, бо шкода, прымерзьня. *Сав., Стаўб. р.* Сын мой лёччык-інструктар, лятая на парахваччыку. Апасная служба ў яго — ў машыні дзьвесьця прыбораў, глядзець трэба ва ўсю ў палёці. *Ас., Стаўб. р.*

ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) на каго. *Непав., незадав.* Недалюбліваць каго, крыўдаваць на каго, праяўляць недружалюбнасць да каго. Учоро йду гэто я ад Бар'ясі і спатыкаю Вольку. Нешто ніпрыветлівая зрабілася, маўчыць, глядзіць на міне скосо. Ці ш я яе пакрыўдзіла калі? *Сав., Стаўб. р.* Ні пайду я да іх, нілюцкія некія людзі, глядзяць скосо. От, лепш на печы паляжу, баке пагрэю. *Там жа.* Сусетка на мяне ўсердзілася, яшчэ й мацяру наінструмэнціла (нацкавала, падвучыла), косо паглядáя. *Там жа.* Воляццы ні дагадзіла на вяселі, ціпер рубам паглядая на міне. *Жац., Стаўб. р.* Янку паўлітру не паставіла — вельмі щ выпіць мэт — скосо пазірая ціпер. *Гор., Стаўб. р.* Віцік прышоў, расьсеўсё — і ні слова, ні беднаго — ўсё рубам на міне пазірая. Угнявіўсё, трэба дагадзіць, бо больш торфу ні прывязе. *Там жа.* Зла-вілі таго вожыка, прынесьлі ў хату: «Бабуня, дай млечка!» Ну, налілі таго млечка, а ён баіцца, пазірая скосо на дзяцей і ні п'е. *Сав., Стаўб. р.* Напалохалі маю кошачку, у хату ні йдзе, сядзе на г'анку і глядзіць рубам на сенцы — хоча ўбегчы, а баіцца. *Там жа.* Да гэтай зваткі (сваркі) сьвёкра с суседам за сенакос я хадзіла зьмікіціўшыся (думаючы), што на мяне глядзіць сьвёкар бокам, недалюблівая мяне, што я бедная, а як сьвёкар за мяне стаў грудзьою, дык я павесялела. *Баб., Пол. р.*

ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЗ (скрозь) ПАЛЬЦЫ. Наўмысна не звяртаць увагі на што, не хацець заўважаць чаго, праяўляць нядбайнасць да чаго. Сьвінуркі (свінаркі) абіжаюцца, што заацехнік і віцінар глідзяць скрось пальцы — у брыгадзі дохля (падзеж) бальшая. *Ульян., Сен. р.* А бісхазяйсьцьвіннасьць (безгаспадарчасць) з-за таго, што наш брыгадзір глядзіць на ўсё гэта скрось пальцы.

*Аз., Гар. р.* Тут кап засеяў аўса, то ні выбраў бы, а так нічого ні расьце, кароўмі зьбілі, а праўленё глядзіць на гэто прас пальцы, ім і так хватая работы. *Жац., Стаўб. р.* Гэто нашы калхозьнікі глядзяць прас пальцы, а то ўжо трэба й слупэ паставіць новыя, й ваду правесьці к каждай хаці. *Сав., Стаўб. р.*

ГЛЯДЗЕЦЬ РУБАМ н а к а г о. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) н а к а г о.

ГЛЯДЗЕЦЬ СКОСА н а к а г о. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) н а к а г о.

ГЛЯДЗЕЦЬ СКРОЗЬ ПАЛЬЦЫ. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЗ (скрозь) ПАЛЬЦЫ.

ГЛЯДЗЕЦЬ ЯК ВОКА Ў ІЛБЕ. Старанна даглядаць, рупліва ахоўваць, берагчы, хаваць каго, што, беражліва ставіцца да каго, чаго. Паганю (статак) заўтра й пазаўтра, чараз вочараць радоўкі (ад *рад* хат, дамоў у сяле) ні паганю. Я за сваю радоўку атвічаю. Там кусты, там багна, там балота, каровы й козы распаўзуцца, а іх трэба глядзець як вока ў ілбе. *Ульян., Сен. р.* Мы яго гляджом як у ілбе вока. *Вяліч., Сал. р.*

ГЛЯДЗІЦЬ ЯК БАРАН (на новыя вароты). *Асудж.* Нічога не разумеючы (глядзець, пазіраць). «Піськялёнак», — кажу нявесткі. І рас, і два скажу, а яна глядзіць як баран. Кажу: «У вас язык зламаіш, пака навучысься. Я вас панімаю, а вы мяне не». *Ульян., Сен. р.* Толік яго глядзіць як баран на задачу і нічого ні панімая. *Сав., Стаўб. р.* Чэцьвіра сутак па Маскве лазіла. У планетарыю сынок завёў: «Мама, паглядзеця, на зьвёзды паглядзеця». Што баран на новыя вароты гляджу, бес паняцьця. *Ульян., Сен. р.*

ГНУЦЬ СПІНУ н а к а г о. Многа, да знямогі працаваць на каго, знясільваць сябе цяжкай працай. Бывала, ці град адаб'ець хлеб, ці так біда якая сустрэніць, ідзі (да пані), прасі на каленях пасеіць, а тады гні сьпіну лета. *Піл., Чав. р.* Сколька мой Жорж піражыў! Былі ў парцізанах, у блакаду нас узялі ў плен, мяне за краты кінулі, а яго пагналі ў Гірманію на работы. Дзевіць месіцаў гнуў сьпіну на асэсаўца, а спалі там, дзе сьвіньня стаялі. А тады зьдзелаў пабех (зрабіў уцёкі, уцёк). *Ульян., Сен. р.* Зноў эта нечысьць як найшла, этыя палякі як ужо заступілі, і мы гэтулькі пастрадалі пры іх, пры

гэтай панскай Польшчы. Гнулі свае сьпіны. Ходзіш, у руку цалуіш гэтага пана, кап ён хаця на работу прыняў. *Аляхн., Маладз. р.*

ГНУЦЬ СПІНУ перад кім. Уніжацца, прыслужнічаць каму, падлізвацца да каго. Прыдзяш да Карыцкаго, просіш-благаяш, кап пазычыў с пудок якого жыта, гнеш сьпіну перат ім. *Жац., Стаўб. р.* Ні маю вока я на таго настаўніка. Перат дзірэктарам аш гне сьпіну, кап панаравіцца, а кала маёй хаты пройдзя — і ні гляня. Вот чалавек! *Сав., Стаўб. р.*

ГОЛАД НЕ ЦЁТКА. *Іран.* Пра стан галоднага і таму неперабoрлівага ў ядзе чалавека (жывёлы). Было гэта тым летам. Пайшлі мы ў арэхі ў Макра́нскі лес, а лес вялікі да густы, мы й заблудзіліся. А тут есьці хочацца, хоць канай. Давай, плачучы, ягады зьбіраць — голат ні цётка. Але нек выбіліся з таго лесу. *Кунц., Кл. р.* Але голад ні цётка. Думаю, трэба, мусіць, скокнуць дахаты і хапянуць чаго-кольвек, а то да вечара можно й ногі працягнуць. *Кул., Мядз. р.* Прыбеглі дзеці з рэчкі і скарэй у шкафчык. Знайшлі алаткі і давай есьці так. Хоць бы маслам памазалі, а то так. Во — голат ні цётка. *Сав., Стаўб. р.*

ГОЛАС ПАКАЗАЦЬ. Заспяваць мелодыю. Гэта яшчэ даўняя-прадаўняя песьня, я голас вам пакажу, але яе ў бяседзе нада пець, так не. *Ліцв., Карм. р.*

ГОЛЫМ ЦЕЛАМ СВЯЦІЦЬ. Гл. СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМ ЖЫВАТОМ (целам).

ГОЛЫ ЯК БІЗУН. ГОЛЫ ЯК СТОЙ. *Асудж.* Зусім бедны, зусім нічога не мае. Кажацца, работаюць удваіх, а жыць ні ўмеюць — голыя як бізун. *Мач., Бабр. р.* Сьцяпан усё жыццё хадзіў голы як бізун, і ні шманаў сабе: ест добро, німа — добро. *Сав., Стаўб. р.* Рабіў тут, а тады скруціўсё ў Сальск. Жылі ж жонкаю, але што ж бязьдзетухі. Можа каб былі дзеці, нешто іх зьвязвало п, а то бязьдзетухі. Жонка маладая, поўная, сь фіг'уры гладкая, намажацца й сьвішча па тым Сальску. Была карова, сьвіня, гусей много — усё спусьціў і голы як бізун вярнуўсё да маткі. *Там жа.* Абабралі нас немцы, пакінулі як стой. *Бар., Стаўб. р.* Пашці кожны дзень вясной і летам прыходзіў на заработкі, як казалі дома, і хлопец с суседняй вёскі. Валька звоўся, малады, красівы, але голы як бізун. *Суд., Вал. р.* «Кап хоць мала-веля што было за душою, а то нічого, голы як бізун».—«Гэто нічого, што

ён голы як бізун, толькі б галава была на плячах». *Міл., Маст. р.* Агата не пабаялася, што ён быў голы як стой, пайшла замуш, а цяпер паглядзі, як ажыліся. *Там жа.*

ГОРЛА ЗАЛІЦЬ. Гл. ЗАЛІЦЬ ВОЧЫ (слепакі, горла).

ГОРЛАМ БРАЦЬ (узяць). *Непав., непаш.* Дамагацца свайго крыкам, сваркай. Ні бойся, яму запішуць, ён горлам возьмя. *Кав., Старадар. р.* Зяць плотнікам па жактаўскіх кварцірах, можа быць і столярам, стаіць на чарзе кварціру палучыць. Але дзе ш ён яе палучыць? Як горлам ня возьмяш, то будзяш стаяць дзесяць гот. *Сав., Стаўб. р.* Тадзік той горлам бярэ. Яго баяцца. Хай што ні так, калі наваліцца, узьнімя такі г'валт, ні дай ты божа. *Жац., Стаўб. р.*

ГОРЫ ЗВЯРНУЦЬ. Многа рабіць, рабіць такую справу, работу, якая патрабуе велізарных намаганняў. Дзе бачыла, Вінцукоў вунь такі ш рабочы ўдаўсё. С такім сынам можно горы зьвярнуць, а ні то што лесу натраляваць на хату. *Сав., Стаўб. р.* Толік Алешчай такі здаровы хлопяц, мох бы зьвярнуць горы, кап быў прыложаны. А так от трохі, ні перадасьць, робіць-робіць, але ні вельмо. *Жац., Стаўб. р.*

ГОЧЫ ПРОДЫВЫТЫ. Гл. ВОЧЫ ПРАГЛЕДЗЕЦЬ.

ГОШАЛЕМ ХАДЗІЦЬ. Важнічаць, задавацца, ганарыцца, высока трымаць галаву. Наша бугалтарка кожын рас езьдзіць у палікмахерску, дак проста гошалям ходзіць. *Ліп., Вор. р.*

ГРАБНІЦАЙ ПАХНУЦЬ. Пра чалавека, што блізкі да смерці, які хутка памрэ. Мае рукі — адна шкурачка, ужо грабніцай пахнуць. *Ліцв., Карм. р.*

ГРАЦЬ НА КАПУСТУ. Народны звычай: на вяселлі музыканты віншуюць маладых, сватоў і гасцей музыкай, атрымліваючы за гэта невялікую плату. У нас такая мода — музыканты зьбіраюць сабе грошы, паздраўляюць маладых, сватоў і ўсіх, хто за сталом, і выконываюць іх жаданне. Заказвая хто што хоча. Вот яны й граюць на капусту, зьбяруць трохі грошай, і па чарцы дастанецца. *Сав., Стаўб. р.* Хадзем, бабы, паглядзімо. Скоро будуць граць на капусту. *Жац., Стаўб. р.*

ГРАША (рубля, капейкі) ЗА ДУШОЮ НЕ МЕЦЬ. Не мець у запасе грошай. Хлопяц мой у Мінску робіць шчыкатурам гэтым. Добра зарабляя, але граша за душою не мае, ўсё ў гарляк той. А я як стану сварыцца,

кажу: «Як гэта жыць, каб граша ні мець? А ці здароўе ўпадзе, ці так якая часіна чорная, кап капейкі ні было за душою!» Дак ён кажа: «Я сябе абясьпечу, а вас падздзершкі ні прашу». *Пр., Стаўб. р.* У жыцьці трэба, кап які рубель быў за душою, а ён усё, што заробіць, сьцярэбіць. *Там жа.* Сто рублэй завэзла і аддала на трапкы, а ў його й рубля ныма за душою, а выпыты любыть. *Бот., Пін. р.*

ГРОШЫ САДЗІЦЬ. Гл. САДЗІЦЬ (усадзіць, тахтарыць) ГРОШЫ.

ГРОШЫ ТАХТАРЫЦЬ. Гл. САДЗІЦЬ (усадзіць, тахтарыць) ГРОШЫ.

ГРОШЫ ЎСАДЗІЦЬ. Гл. САДЗІЦЬ (усадзіць, тахтарыць) ГРОШЫ.

ГРЫБЫ НАДУЦЬ. Гл. ЗАКАПЫЛІЦЬ (надуць) ГУБЫ (лупы, грыбы).

ГРЫБЫ РАЗВЕСІЦЬ. Гл. ГУБЫ (грыбы) РАЗВЕСІЦЬ.

ГРЫЗЦІ СЯБЕ ЗА ЛОКАЦЬ. Гл. КУСАЦЬ (сябе) ЗА ЛОКАЦЬ.

ГУБЫ ЗАКАПЫЛІЦЬ. Гл. ЗАКАПЫЛІЦЬ (надуць) ГУБЫ (лупы, грыбы).

ГУБЫ НАДУЦЬ. Гл. ЗАКАПЫЛІЦЬ (надуць) ГУБЫ (лупы, грыбы).

ГУБЫ (грыбы) РАЗВЕСІЦЬ. *Асудж., непав.* Не турбавацца, быць няўважлівым да каго, чаго, не спяшацца рабіць што. Не шкодзіць, што пчолкі кусаюцца, ня будзіш хадзіць грыбы разьвесіўшы. *Бял., Лаг. р.* Чаго стаіш, губы разьвесіў? Марш на лух, а то па абедзі будзя дошч, замочыць сено. *Жац., Стаўб. р.* Чорт яго ведая, што гэто за хлопяц. Станя, губы разьвесіць, і кап ён паварушыўсё, кап яго рупліваcьць узяла — не. Толькі папіхай яго, сам ні дадумаяцца. *Сав., Стаўб. р.*

ГУБЫ СТУЛІЦЬ. Гл. СТУЛІЦЬ ГУБЫ.

ГУК ГУБЛЯЦЬ. Губляць здольнасць успрымаць гук (пра пчол). Кажуць, што трэба стукаць у бляху, тады пчолкі гук губляюць і можно лавіць — асядуць на дрэвя ці на плоця. *Пр., Стаўб. р.*

ГУСЬ ГУССЮ. Як гусь, вялікі, пародзісты, дзябёлы. Зарэзала курыцу. А жырная! Гусь гусьсю. *Ліцв., Карм. р.* Тыя куры, што ў мяне былі ўпярот, ні нясушчыя. Трохі панясуцца, пакуль ліняць пачнуць і ўсё. Ходзіць гусь гусьсю, а яец няма. *Там жа.*

# Д

ДАБІЦЦА ТРОПУ. Даведацца пра што, здагадацца, дадумацца. Ныяк вона ны добылась тропу, чого він прыходыв. *Бот., Пін. р.* Ад гэтаго Казіка ніяк тропу ні даб'есься. Пытаяш-пытаяш, а ён усё маўчыць, ні скажа, што ўдома робіцца. *Сав., Стаўб. р.*

ДАБІЦЬ ДА РУЧКІ што. Гл. ДАВЕСЦІ (дабіць) ДА РУЧКІ што.

ДАВАЦЦА Ў ЗНАКІ каму. Гл. ДАЦЦА (давацца) Ў ЗНАКІ (знак) каму.

ДАВАЦЬ (даць) ГАНЬБУ. Грэбаваць кім, чым. Дзеўчына хароша, багатая, натта строіцца, кавалераў многа, ні дае ганьбы нікому. *Пр., Стаўб. р.* Сын нэ хотыў браты, сын даваў ганьбу. А вона сама борчанка (з в. Боркі), та ўзяты хотыла борочанську. Вона думала, дытятко прывэдэ, сядэ, ногы ў очапы ўложыть і будэ сэдэты, качаты. *Бот., Пін. р.* Павезла на базар япрука прадаваць, ды некі малаваты, кадук яго ведая, паглядзяць і даюць ганьбу. *Жац., Стаўб. р.* Такой каровя, як у цібе, Волька, ні можно даць ганьбы, хароша, вельмі хароша. *Сав., Стаўб. р.* Што пападаласё пат рукі, брала, ганьбы ні давала. Брала й суравешкі, і масьляке, апенькі. *Там жа.*

ДАВАЦЬ (даць) ЗДАРОЎЯ (добры дзень, дзень добры, здрастуйце) каму. Прывітацца з кім, вітаць з добрым днём каго, вітацца з кім. Ужэ дзесяць рас гаварыў «Здароў!», а вы мне нічога. Што та за работа! Давай вам здароўя, а вы ні двічаіця. *Ліцв., Карм. р.* Даў батька «здрастуйтя» да й пытае: «Можэ ў вас покупыты ячмэню можно, можэ вы нам продастэ пудоў дэсэть». *Бот., Пін. р.* Дырэктор (школы) до народа нэ добры, простому колхознику «здрастуйтя» нэ дась, гунурытца, сам сэбэ повышае. Як ужэ мныго людэй, як это школьнэ зобране, то тоды «здрастуйтя» дась, а як на сэлі, то нэ дась. *Там жа.* Ехаў па́рою коньмі чоловек, некі бі познаку́ (быццам знаёмы) чоловек, даў «здрастуйте». А гэто той, шчо колісь тут буў ковалем *Угал., Стол. р.* У мяне ўнук ё, во ўжо ўнучак. Ні за што «здрастуй» ні дасьць, зіркне і джаг' у тую хату. *Ульян., Сен. р.* Спаткала Веру Іванаўну, дала мне «добры дзень» і разышліся. Я сьпяшалася ў магазін, позно было. *Гор., Стаўб. р.* А што, дасьць «дзень добры» ці ні дасьць, вельмо мне да яго дзело, я яго першы ні зачаплю. *Жац., Стаўб. р.* Яна ш вельмі Вацічка

любіла, а ёй Вацічак аддзякаваў, «дзень добры» не дае. *Сав., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ (даць) ЗДАЧЫ каму. Адказваць ударам на ўдар, знявагай на знявагу. Глядзі, глядзі, малы, а які здаравенны! Учора вунь тая бальшуха Манька лезла да яго, то даў здачы, прыходзіць заплаканая й кажа: «Мама, а Ігар б'ецца!» Хлопяц, нічого ні скааш. *Сав., Стаўб. р.* А скажы што мужыку (на свёкра з свякровай), дык ён толькі сьмяецца, што здачы ні магу даць. *Пад., Дзятл. р.* Навучыўсё даваць здачы, то часто заплаканая прыходзіць (дзяўчына). Ніяк ні паміраецца. *Зал., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ (даць, лупіць) ЛАПУ. Караць, пакараць. Мера пакарання школьнікаў пры панскай Польшчы. Некалі білі дзяцей, дасьць пяць лап, а потым і яшчэ ўсыпля. *Пр., Стаўб. р.* А ня ўмею па-польску ніяк, як вызаве (настаўнік), што-небудзь скажу, там слоў колькі, і ўсё беларускае ўткну. А ўчыцялі за гэта й па руцэ лапу лупяць, і на калені паставяць. *Задуб., Мядз. р.* Калі прызадумацца, то цяпер вучуць многа йначай, як раней. Культура другая, ні тая, як раней была, што ўчаніку дадуць лапу, ня можа тры дні пяра ўзяць у рукі ці алоўка. *Зам., Віл. р.* А ўчынік калі ні знаіць добра ўрока, было такое пакараньне яму — лапы. Учыцель бярэць лінейку, лінейка такая зроблена тоўстая, як дасьць лапу, як жжарыць па руцэ па адной, а як жа большы грэх — па дзьвюх, дык бедныя гэтыя дзеці труць рука аб руку, толькі плачуць. *Вар., Докш. р.* Я як вучылася, было два «е». Адно лёхко было запомніць, а за другоё (звалі «яць») на калені ставілі й лапу давалі. За маю памяць лапы былі, наказанё такоё было. Як дасьць лапы, аш рука гарыць. *Сав., Стаўб. р.* Дык ён (настаўнік) тады мяне за вушы як стаў тармасіць, а тады лапы як стаў даваць — у вадну дзьве ды ў другую, а якая ш там рука была, колькі той рукі, дык папухлі (рукі). *Аляхн., Маладз. р.*

ДАВАЦЬ (даць) ЛУПЦОЎКІ (лупня) каму. Набіць, адлупцаваць каго, надаваць каму. Як даў нам тата лупцоўкі, а за ўсё болій мне як старшай, завёў нас у лазьню, пастаўляў на калені, за кáру вячэраць ні далі — ўсю ноч ні спалася. *Ст. Габ., Мядз. р.* Як е сто грам, часамы вып'ю, с поўкыло сала ўложу да й жыву. А як бы була нывістка да поганая, то дала п лупня, як той Яўгэны. *Бот., Пін. р.* Як бацько жыў, то даваў лупцоўкі, баяліся, а міне ні баяцца, крычы ні крычы. *Сав., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ (даць) НАГАНЯЙ (накачку) каму. Насварыцца, накрычаць на каго, у грубай форме выгаварыць каму. Вот як даў бацько наганяй, то й вучыцца хорашо, пяцёркі прыносіць, а то ўжо распусьціўся, рады німа, шкуры на сабе ні чуя. *Веч., Стаўб. р.* Сабраў заўчэро на канюшні пратсядацяль брыгадзіраў і даваў наганяй — чаму канюшыны ні возіця, чаму много гною ў стойлах, вот даваў. *Гор., Стаўб. р.* Таму чалавеку, ведаеце, гэдак далі накачку, і той чалавек прысылае мне пісьмо, кажа, прыягджай. *Каз., Слонім. р.* Ім (дзецям) калі наганяю ні дасі, нічого ні будзя. Ані ні слухаюць. Ты кажаш адно, яны робяць другое, ані ні слухаюць, што гэто за дзеці! *Ас., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ (даць) НА ДЗЕНЬДОБРЫ. На вяселлі даваць музыкантам невялікія грошы за заказаны музычны твор або танец. У Эдзіка на вяселі добро давалі на дзеньдобры. Пабагацелі людзі, грошы ест. *Жац., Стаўб. р.* Мой дак траячку даў на дзіньдобры, ведамо, п'яны. А я п столькі ні дала, хваціць зь іх і рубель. *Сав., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ (даць) НА ШЛЮБ. Гл. ПАДАЦЬ (даваць, даць) НА ШЛЮБ (на запаведзь).

ДАВАЦЬ ПАВАДЗЭНЕ каму. Быць акружаным увагай на вечарынках, на танцах (пра дзяўчыну). Во ўчора Агата схадзіла на танцы, дык казала, што было многа кавалераў, а дзевак яшчэ болі. І давай расказваць, хто каму даваў павадзэне. *Дайг., Віл. р.* Ванда стала поўна, хароша такая, на вечарынках хлопцы даюць павадзэнё. А яшчэ ш нідаўно была маленька, дзіця. *Сав., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ (даць) ПАТОЛЮ (роспуст) каму. Разбалаваць, распесціць, распусціць каго, паслабіць патрабаванне да каго, патураць каму. Ну й дзеці ў цябе! Дала патолю на рукі браць, то й ні злазіць. А я сваім не даю патолі. Як што — нашпáру-нашпáру, хай плáча. А то пакажы адно, чаго ім хочацца, то й слухаць перастануць. *Сав., Стаўб. р.* Не давай ты патолю свайму хлопцу, гэто ш у міне вунь граду маку златашыў. *Там жа.* Глядзі, кумка, глядзі, не дай роспусту змалку дзіцяці, то потым будзе лепей, трымай яго ў дысцыпліне. *Кунц., Кл. р.* Цярэшка сваёй (дачцы) патолю дае, рабі што хочаш. То гуляя дома, усе робяць, а яна гуляя, нічого ні робіць. Вот кап толькі шшарэло — бягом у клуп. *Ас., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ (даць) ПРЫКУРЫЦЬ каму. *Іран.* Сварыцца на каго, правучыць каго. Нек хазяін ехаў і ўба-

чыў, што Антосявы гусі ў калхозных бураках пасуцца. Ото даваў прыкурыць, кап ты чула. *Зал., Стаўб. р.* Ек немцы наступалі онно, то думалі: «Ох ты! хламнем (праглынём) Росыю за одін день» Ажно ж ім ек далі тутака прыкурыть, так воны й сталі, бы тые воўкі, мстіть. *Цер., Пін. р.* Ото бацько даваў Уладзіку прыкурыць за тыя грошы, хацеў с хаты прагнаць нанач. *Жац., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ (даць) РАДЫ (радачкі) к а м у. **1.** Параіць, падказаць каму што, даць параду. Цяшко жылі людзі ў гэнум сяле бес старых: некаму было рады даць, ні гаспадаркаю пакіраваць. *Вяр., Вайк. р.* Я табе, свацея, тут ні дам ніякай рады, глядзі сама. Калі прыйдзя Коля з арміі, то с табою будзя. Але можа й на цаліну паедзя, цяпер у нас многія едуць. *Тат., Стаўб. р.* **2.** Справіцца з кім, чым, дагледзець каго, што. Паехала цётка ў горат, пакінула на міне ўсю гаспадарку, думала, што ні спраўлюсё, але ш нек добро абышлосё, дала рады ўсяму. *Гор., Стаўб. р.* Маня малая була, хочэ обмыть подлогу, то не дасть рады. *Бот., Пін. р.* Казаў, дачка такая круцелька, рады ні даць. *Ліцв., Карм. р.* Гэна (карова) сюды, гэта туды, гэна ў ельнік, гэта за кусты — разьбегліся, рады ні даць. *Пр., Стаўб. р.* Грыпа мяне тры разы адмучыла. Абы ахалодала, або лёдаў (марожанага) зьела, скашляюся, точыць у гарляку, рады ні даць. *Там жа.* С тога часу от абы-дзе чуць толькі ў холат, застудзіў, дак з нагой дзецца німа дзе, радачкі ні даць. *Там жа.* Тут ведзьма пачула, што Цярэшка гавора на дубу, выскачыла, грызла, грызла дуб, грызла, грызла, ні дасьць рады. Тады пабегла, ўзіла тапор і давай гэты дуб сеч. *М. Ст., Бар. р.* Вот братавая ні магла ўжо рады даць, ні магла сама расправіцца зь ятроўкай і прыдумала, узіла сабаку ахотнічага атравіла, а як прыехаў муш, то сказала, што твая сістра атравіла. *Там жа.* Летась загнало сьнегам дзьверы на канюшні, а ў канюшні трое дзьвярэй. Рады ні даць, ні справіцца сь сьнегам, давай помач прасіць. *Сав., Стаўб. р.* І замяшаць, і напаіць, і насекчы — рады ўсяму ні даць. *Жац., Стаўб. р.* Прасіла Сьціпана: «Пастаў ты кратоўню — рады ні даць, такую во нару вывярнуў на буруках». *Ляўк., Арш. р.* **3.** Што ты; ат, што ты гаворыш. Са значэннем пабочнага словазлучэння. От булак мне хочацца, а ў нас няма ў магазіне. «Зрабі закас у Мінск». — «Дай ты радачкі, хто табе паедзе». *Бял., Лаг. р.* Дай ты рады, Стасік, хто міне старую паслухая.

Калі хто зьлітуяцца, то прывязе (дроў), а так — не. Трэба вялікую ласку рабіць. *Сав., Стаўб. р.*

ДАВАЦЬ У ШКУРУ к а м у. Караць, біць, лупцаваць. Унучка кручаная. Усё каб лазіць, кап чапляцца, вешацца па версі: на печ, на стаяк, на шафу. То дзет як узлуецца, дае ў шкуру. *Марх., Стаўб. р.* Ты прыпыніся, сяць трохі, а то дам у шкуру, сядзяш як міляні ў міне. *Гор., Стаўб. р.*

ДАВЕСЦІ ДА БАЛАЛАЙКІ. *Асудж.* Збядніць, зрабіць слабай эканамічна (пра гаспадарку). Ен жа быў посьля вайны ў Палікараўца старшыном калгаса, кіраваў, покуль ні давёў гаспадарку да балалайкі, з растроянымі струнамі балалайкі. *Гр., Слуц. р.*

ДАВЕСЦІ ДА ВУШЭЙ к а м у. Сказаць, паведаміць што каму. Трэба давесьці да вушэй, хай знаюць у праўлені, што тут (на полі) робіцца. Ані ніякаго паратку. *Ас., Стаўб. р.* А былі ш людзі, што толькі вынюхвалі, вышуквалі, каб начальству да вушэй давесьці. Нашто такого чалавека й зямля носіць. *Падг., Кар. р.*

ДАВЕСЦІ ДА ЛАДУ. 1. к а г о. Выгадаваць, вывучыць, паставіць на ногі, «пусціць у людзі». А яшчэ сколькі клапатоў, столькі дзяцей. Пака іх давядзеш да ладу, ні аднаго воласу ні астанецца на галаве. *Сав., Стаўб. р.* Вы, дзяцько, ужо, можно сказаць, дзяцей да ладу давялі, усе ўжо вялікія, самі зарабляюць і пракормяць сібе. Вот у міне яшчэ саўсім драбяза, маленькія. *Жац., Стаўб. р.* 2. ш т о. Дагледзець, упарадкаваць. Я ўжо сваё адрабіў, хай дзеці цяпер завіхаюцца. Я ў іхніх гадох працаваў куды болій. Маў некіх восім дзісяцін зямелькі, яе ш трэба было давесьці да ладу. *Януш., Лаг. р.* Як гэто мне хату трохі да ладу давесьці, зіма йдзе. Можа п ты прыехаў калі, сынок? *Сав., Стаўб. р.* На дварэ ў міне — ліхо ведая што робіцца. Трэба паскладаць гэтыя паляняўкі, жэрдкі за хату занесьці, дровы ў гумно паскідаць. А сілы німа, як гэто будзя давесьці ўсё да ладу? *Там жа.* Яшчэ нашаму калхозу трэба давесьці да ладу лён, увесь лён яшчэ ляжыць на балоці, а падымаць даўно пара. *Там жа.*

ДАВЕСЦІ (дабіць) ДА РУЧКІ ш т о. *Асудж.* Прывесці ў непрыгоднасць (рэч, будынак, гаспадарку і інш). Атсюль сапхнулі, паставілі ў Асаўцы. І там давёў да ручкі хазяйства. *Гр., Слуц. р.* Стары як жыў быў, дак дабіў да ручкі ўвесь будынак. *Там жа.* Шапка любáя ха-

рошая, але як давядзеш да ручкі кепскім абыходжаньнем, дак і харошую ў рукі няма як узяць. *Сав., Стаўб. р.*

ДАВЕСЦІ ДА ТОРБЫ (да трэскі) каго. Збяднець праз гультайства, нядбайнасцю загубіць гаспадарку, паступова горш і горш жыць. Сваім п'янствам ён нас, дальбох, да торбы давядзе. *Кав., Старадар. р.* Хлопяц у яе быў такі лядачы, усё краў ды піў, мацяру да торбы давёў. *Сав., Стаўб. р.* Прыходжу да Алеся, бачу, нешто злосныя ўсе, ні ў гуморы й Маня. Кажа, бацько надаваў большаму — сьпіць позно, нічого ні робіць. Давядзе да торбы ён нас, вот паглядзіш, Міхалова, што давядзе. *Марх., Стаўб. р.* Тая мая нявестка, Гэльця наша, ня ўмея жыць. Абоя робяць, абоя на грашах, і грошай ніколі няма. Яна яго давядзе да трэскі, ужо апошняя кашуля с плеч злазіць. *Каг., Лід. р.*

ДА ВУШЭЙ ДАВЕСЦІ каму. Гл. ДАВЕСЦІ ДА ВУШЭЙ каму.

ДА ГАЛАВЫ БРАЦЬ. 1. Моцна ўдумвацца, хвалявацца, турбавацца, непакоіцца за што. От мой брат нізаботлівы. Што ў яго за харакцяр! Здохла ў яго зарáс дзьве каровы. Кап ён плакаў ці што. Не. Ён і да галавы не бярэ. *Пр., Стаўб. р.* От, ні трэба вельмо да галавы браць. Хай самі (дзеці) да ладу даходзяць, ні маленькія. *Сав., Стаўб. р.* Матка нэрвуецца, кляне, плача, хоча, каб дачка вучылася. А бацько махнуў рукой на яе вучэнё, ці яна вучыць, ці ня вучыць, ён да галавы не бярэ. Яна ш сабе, кажа, вучыцца, не мне. *Там жа.* 2. Запамінаць што, цікавіцца чым. Верка мая маладая, а паўсьвета зная, прыслухáецца, бярэ да галавы. Чалавека ўвідзя, прас дзесяць год пазнаé. *Бял., Лаг. р.* Вáляк то капаваў (разумеў), браў да галавы, такі разумны быў, але штó ш — мацяры саўсім не слухаў. *Сав., Стаўб. р.*

ДАГНАЦЬ ДА ЛАДУ што. Канчаткова апрацаваць, падагнаць, надаць патрэбны выгляд, форму чаму. Пакроіла рубашку, складвала, складвала — ні палучаяцца. Я за гэтыя кускі і к Анюце. А тая абы-як паскладвала, паскладвала й пашыла, а я яшчэ дзён два сядзела і дагнала да ладу. *Гр., Слуц. р.* Замарылася, покуль агарот да ладу дагнала. *Сав., Стаўб. р.*

ДАЖЫЦЦА ДА РУЧКІ. Гл. ДАЙСЦІ (дажыцца) ДА РУЧКІ.

ДАЙ БОГ НОГІ. Імкліва ўцякаць, бегчы. Можа два часы мы стаялі. І воўк стаіць. Стаіць каля дарогі й нас

ні пускаіць. А тады кала нох апцёрся ў мяне і пашоў. Мы — дай бох ногі! *Ульян., Сен. р.* Нехта па лямпаццы стукнуў, стало цёмно, усе думалі, што біцца будуць, а мой — дай бох ногі, дадому! *Сав., Стаўб. р.* Сабраліся вечарам, пашлі ў Жацяраў на вяселё. А там нехто пачаў крычаць, бачым — людзі бягуць хто куды. Ну й мы за імі — дай бох ногі. *Жац., Стаўб. р.*

ДАЙСЦІ ДА ЛАДУ з кім. Дагаварыцца, паразумецца з кім. Старая Алешча са сваім ніяк ні дойдзя да ладу — ўсё грызуцца й грызуцца. *Гор., Стаўб. р.* Зь Ядзяю мы ні дойдзям да ладу. Я прасіў яе памахчы выкапаць картофлю, а ёй часу німа, у калхос пабегла. *Жац., Стаўб. р.* Як жа гэто з брыгадзірам да ладу дайсьці — хачу ш каня папрасіць назаўтра. Пасклікаям бап і выкапаям (бульбу) за дзень-два. *Зал., Стаўб. р.*

ДАЙСЦІ ДА РОЗУМУ. Паразумнець, набрацца розуму, набыць вопыт. А во цяпер Расія! Няхай ніхто не думаіць, кап эта каму хлынуць. Не! Дайшлі ўжо, знаяш, да розуму. Цехніка — буць здароў. Аружыя (зброя) ніві́даная, і ні знаяш таго аружыя, якое яно ёсь. *Мік., Мядз. р.*

ДАЙСЦІ (дажыцца) ДА РУЧКІ. 1. Збяднець, застацца без нічога, зжыць усё што было. Стары й да вайны жыў нібагата, а пры акупанцах дык дайшоў да ручкі. *Дам., Чэрв. р.* Калі гаспадар жыў, то нек кідаласё, а ціпер саўсім да ручкі дайшла, ні ведаю, што й чыніць з гэтымі малымі. *Гор., Стаўб. р.* І так дабіліся ўжо, і так дажыліся, ну саўсім. Галадоўка. Дайшлі, як кажуць, да ручкі. Ну саўсім галадоўка. *Мік., Мядз. р.* Бывало, і я была гаспадыня, па вядру малака надойвала, й сыры, й масло было. Лятала, душылася, хватала, к старасьці дажылася да ручкі, да нет. *Сав., Стаўб. р.* 2. Знасілася, зжылося што. Трэба сячкарню паправіць, ні можна рэзаць. Саўсім да ручкі дайшла. *Сав., Стаўб. р.* Німа гаспадара ў міне, хата дайшла да ручкі, німа каму перабудаваць, перасыпаць, вяранду прыбудаваць, дажывая век. *Там жа.*

ДАЙСЦІ ДА СМАКУ. З апетытам есці што, вельмі спадабалася смачная ежа, страва. Во глядзі, дайшоў да смаку, цэлую міску высярбаў. *Гор., Стаўб. р.* Зьела тры штучкі клумнічак, нешта ш дайшло да смаку, тры штучкі зара́с зьела. *Бял., Лаг. р.* Напякла рас грэцкіх аладак. Ніколі ні елі дагэтуль. То нічого ні асталосё, так да

смаку дайшлі тыя алаткі. Добро пад'елі, толькі ваду папіваюць. *Хал., Стаўб. р.*

ДАЙСЦІ СА СМЕХУ. Гл. КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ.

ДА ЛАДУ ДАВЕСЦІ к а г о, ш т о. Гл. ДАВЕСЦІ ДА ЛАДУ к а г о, ш т о.

ДА ЛАДУ ДАГНАЦЬ ш т о. Гл. ДАГНАЦЬ ДА ЛАДУ ш т о.

ДА ЛАДУ ДАЙСЦІ з к і м. Гл. ДАЙСЦІ ДА ЛАДУ з к і м.

ДАЛЕЙ НЕКУДЫ. Горш за тое, што ёсць, не можа быць. От мы тую лодку з лозою цалы суткі тягнулы якіх двацать кіломэтров. Заморылыса, шо далей некуды. *Цер., Пін. р.* І такій ужэ босяк буў, шчо далей некуды. Ведомо, сын одного з самых богатых помешчыкоў у Польшчы. *Бобр., Пін. р.*

ДАЛЁКА ПАЙСЦІ. Дабівацца вялікіх поспехаў, дасягнуць значных вынікаў у якой-небудзь справе, рабоце і інш. Іхні Валерык стаў чалавекам, вывучыўся, далёка пашоў. *Ст. Св., Стаўб. р.* Такі далёка пойдзе — ад начальства ні на шах, услужлівы, умея дагадзіць, падысьці. Ну й вучыўся ш недзя трохі. *Гор., Стаўб. р.*

ДАЛЁКА СТАЯЦЬ а д ч а г о, а д к а г о, к а л я к а г о. Горшай якасці, другарадны, не ідзе ў параўнанне з чым або кім. Так тыдзень прывезьлі ў магазін мукі. І белая, як слонцо, і добрая, але ат той, што ты прыслаў, далёко стаяла. *Сав., Стаўб. р.* Ці будзяш ты да свае цёткі такі мілы й ласкавы, як Фрэд да міне? У вочы табе скажу, што ты далёко стаяў ад яго. Гэдако міло і сардэчно я ні бачыла чалавека, як ён. Ні бачыла! Хто я яму? Цётка. Хоць і родна, але ш цётка, а ні матка. А ён як напіша пісьмо — плачу. Ні магу датрываць, плачу! *Там жа.* Тваe дрова добрыя — й тоўстыя, й сухія, але далёко стаялі ад маіх: паглядзі — адзін дуп. І секчы ні трэба, гатовыя, гультайскія, можно сказаць. *Жац., Стаўб. р.* Юзічыха ехала ў аўтобусе са сьвяржанамі, то казалі, што тая яго жонка харошая гаспадыня, дом мураваны паставіла, штакеты купляла, агарадзілася, казалі, што Ірка далёко стаяла ат той жонкі. Й будынак Ірчын далёко стаяў ат таго мураванага дому. *Там жа.* Зіна гэдака хароша, спраўная, а от жа кінуў, узяў некую рыжую, ніпрыгожую. Зіна ка-

ла яго жонкі далёко стаяла, а, бачыця, кінуў, дзіця адроксея, а ўзяў некую рыжулю й жыве. *Там жа.*

ДА МАГІЛЫ ДАВЕСЦІ каго. *Асудж.* Давесці да смерці. А мая сынова адвакатам выступая, ба й яна ш гэдак рабіла, дурніца гэта, зводзіла свайго мужыка, пака да магілы ні давяла. *Сав., Стаўб. р.*

ДА НОГ ПАДАЦЬ каго. Гл. ПАДАЦЬ ДА НОГ каго.

ДАПАСЦІ НА ДЗЕСЯТАЕ СЯЛО. *Асудж., непав.* Ісці на вечарынку, на гулянне ці па якой іншай справе далёка ад роднага сяла, вёскі. Верка твая, як прыйдзя сыбота, то й пашла. Дападзе на дзісятаё сяло і ні пабаіцца ваўкоў, ні цямнаты. *Жац., Стаўб. р.* Ні ўложаныя дзяўчатка, да работы ні вельмо, толькі на дзісятаё сяло дападуць, кап дзе якого кавалера — вічытароўца ці нававёскаўца. *Сав., Стаўб. р.* Пятроўская табе на дзісятаё сяло дападзе, а дастаня, яна дастаня, у яе знакомых усюдых — то вымяняя, то прадасьць выгадно, то купіць дзёшаво, але набудзя. *Хал., Стаўб. р.*

ДА РАБОТЫ ПАДАЦЬ. Гл. ПАДАЦЬ ДА РАБОТЫ (за работаю).

ДАРОГУ ПЕРАЙСЦІ каму. Гл. ПЕРАБЯГАЦЬ (перайсці) ДАРОГУ (дарожку) каму.

ДА РУК каго, чыіх КІДАЦЦА. Гл. КІДАЦЦА ДА РУК каго, чыіх.

ДА РУЧКІ ДАЙСЦІ. Гл. ДАЙСЦІ (дажыцца) ДА РУЧКІ.

ДА СІВЫХ ВАЛОС. Да старасці, да старых гадоў. Як аддавалі нашу сусетку Алену замуш, то малады запрасіў сто злотых пасагу. Прадалі карову, яшчэ тое-сёе і далі підзісят злотых, а підзісят асталася ў доўгу. То Адам (Адам зваўся яе мужык) гнаў Алену па пасагу да самых сівых валос. *Даўг., Віл. р.*

ДА СМАКУ ДАЙСЦІ. Гл. ДАЙСЦІ ДА СМАКУ.

ДА СПАДОБЫ ПРЫЙСЦІСЯ каму. Гл. ПРЫЙСЦІСЯ ДА СПАДОБЫ каму.

ДА СПАСАВА РАДУ. Вельмі позна, запознена рабіць што, калі ўжо няма патрэбы ў такой рабоце. І бульбу трэба аборываць, і німа каму. Ляксей казаў-казаў зраблю, дык я бачу зь яго гаворкі, будзя ён гэна рабіць да спасава раду. *Бял., Лаг. р.*

ДАСТАЦЬ (выкапаць) З-ПАД ЗЯМЛІ. Любымі шляхамі адшукаць, знайсці што. Дзіво што дзяцько знойдзя

табе паўлітру. Нябось, с-пат зямлі дастаня, а прынясе. *Сав., Стаўб. р.* Дзе я знайду тую сетку, выкапаю с-пат зямлі ці што. Німа то німа. *Гор., Стаўб. р.* «Вот прыстаў — дай і дай. А дзе я табе вазьму, калі німа. Дастану с-пат зямлі ці што?» — «Пайдзі да Марусі, можа ў яе ест». *Жац., Стаўб. р.* Во няхай чаго німа, папросіш яе хорашанько — дастаня, выкапая с-пат зямлі, а дастаня й прынясе. *Веч., Стаўб. р.*

ДА СЭРЦА БРАЦЬ што. Гл. БРАЦЬ (узяць) (блізка) ДА СЭРЦА што.

ДА ТРОХ НЕ ГАВАРЫ каму. *Катэгар.* Строгі, сур'ёзны, прынцыповы, не церпіць пярэчання (пра чалавека). «Тамарын зяць харошы, але вельмі ш строгі, да трох яму ні гавары». — «Ну, ведаяцця, як ужо жэнячыся да трох ні гавары, то што ш зь ім будзя потым?» *Сав., Стаўб. р.* Антон добры, як добро, а калі не, то ого! Яму да трох ні гавары. *Жац., Стаўб. р.*

ДАХОДЗІЦЬ СА СМЕХУ. Гл. КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ.

ДАЦЦА З СІЛ. Гл. З СІЛ ДАЦЦА.

ДАЦЦА (давацца) У ЗНАКІ (у знак) каму. *Незадав.* Надаесці, надакучыць, апрыкрыць каму дрэннымі ўчынкамі, непаслушэнствам, свавольствам, гультайствам і інш. Як мне гэтыя куры даліся ў знакі, то ні бачыла п, ні аглядала п, здаецца. *Сав., Стаўб. р.* Паехала я рас у лес дроў прывесьці. Ну паехала. А каня далі добраго, ні магу зь ім саўладаць. Так намучылася, натузалася я с тым канём, даўся ён мне ў знакі. *Хал., Стаўб. р.* Большая нягонная, далася мне ў знак, аш не верыцца, што вырасла. *Бял., Лаг. р.* Гэта кабыла мяне чуць ні растрэсла, далася мне ў знакі. Й кусаіцца, й брыкаіцца, глядзі, во якей шрам. *Ляўк. Арш. р.*

ДАЦЬ АДЧЭПНАГА каму. Даць, каб задаволіць чые назойлівыя прэтэнзіі, пазбавіцца вымагальніка, даваць крыху і нехаця. Дай аччэпнаго, хай сабе йдуць даляй, папрывыкалі браць і ходзяць. *Сав., Стаўб. р.* Прыйдзеш да яе, то няма, кап добра пачаставала, от, дасьць аччэпнага, гэдакая скупая, то не дай божа, у каго яна ўдалася такая. *Кунц. Кл. р.* Трэ было б падрубы зьмяніць і хлеў перакрыць, крыша праваліласа, дак малавата мацяр'ялу — дзерава ўсяго кубаметры тры выпісалі, далі аччэпнага, як лякарства. *Гр., Слуц. р.*

ДАЦЬ (задаць) БАНІ к а м у. *Паграж., незадав.* Набіць, пакараць каго. Учоро аднаму хлопцу з Галавенчыц ото далі бані. *Гор., Стаўб. р.* Яшчэ й ён лезе. Ото дам бані, пойдзяш як міленькі, лепш здыдзіся. *Кунц., Кл. р.* Што ш вы гуляяця ў калхознай пшаніцы! Выласьця, бо як улаўлю катораго, то бані дам, скарэй выласьця! *Зал., Стаўб. р.* Я кап увідзяла, дала б баню, разьве можна дзяцёнка сямімесячнага паткідаць вышай сябе? *Ляўк., Арш. р.* Сяргей, ідзі онь туды г' дзіцям гуляць, а не ля бальшых трэсься. Вот зарас матулька (маці хросная) бані задасьць! *Там жа.*

ДАЦЬ БУСІ к а м у. *Ласкальн., пяшчотл.* Пацалаваць каго (звычайна пры гутарцы з дзецьмі). Я кажу: «Наташка, дай бусі цёці!» А тая Наташка як гляня рубам на тую цёцю, баіцца нават падысьці, ведамо, ніколі ні бачыла тую цёцю. *Жац., Стаўб. р.* Вучу ўнукаў, як трэба абрашчацца. Калі прыйдзя цёця ці дзядзё, трэба, кажу, бусі даць. А Мішка сьмяецца, яму гэто нівядомо, ні ведая, ці можа саромяяцца хлопяц. *Сав., Стаўб. р.*

ДАЦЬ ВЕРЫ. Паверыць. Некалі зьберымосё на вячоркі, прадзём кудзельку, усякія там каскі расказваям пра страхі, а Ігнат-пакойнік, што ў канцы вёскі жыў, не дае веры, але слухая. *Веч., Стаўб. р.* Цехніка цяпер здораво спасая. Гэдако цяпер натрэнтно (капрызнае, зменлівае) лето было, запозьняно, і, дасьце веры, бабы летам гулялі. *Сав., Стаўб. р.* Ці дасі веры: ранічкай пабегла ў гаёк і цэлы кошык масьлячкоў прынесла, і ўсе харошанькія, маладзенячкія. *Веч., Стаўб. р.* Нек расказваю дома пра гэто здарэнё, а мае веры не даюць, паціскаюць плячыма, пасьмейваюцца, пакепліваюць зь міне. *Там жа.*

ДАЦЬ ГАНЬБУ к а м у, ч а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ГАНЬБУ к а м у, ч а м у.

ДАЦЬ ГРУДЗІ (грудзей) к а м у. Пакарміць грудзьмі (дзіця). Як яны гадаваліся, божа! Бывало, жнеш-жнеш, дасі грудзей і йзноў у снапэ, прыкрыю трохі, й ляжыць. *Сав., Стаўб. р.* Хлопчык мой захварэў, даю грудзі, а ён ні бярэ, плача й плача. *Жац., Стаўб. р.*

ДАЦЬ ДОБРЫ ДЗЕНЬ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЗДАРОЎЯ (добры дзень, дзень добры, здрастуйце) к а м у.

ДАЦЬ ДЗЕНЬ ДОБРЫ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЗДАРОЎЯ (добры дзень, дзень добры, здрастуйце) к а м у.

ДАЦЬ ДЗЁРУ. Гл. ДАЦЬ ДРАЛА (драпака, дзёру, дралу).

ДАЦЬ ДРАЛА (драпака, дзёру, дралу). *Іран.* Хутка ўцячы, збегчы, кінуцца наўцёкі, уцякаць. Учоро сьмешно было. Выгнаў наш Жук зайца і ўлёх за ім, а заяц як даў драла, дзе ты яго дагоніш! *Сав., Стаўб. р.* Калі даў я драпака аттуль, с таго агароду, а ён (сусед) за мною! *Нал., Стаўб. р.* Лось як дасьць драла ў кусты, астатнія ў адну мінуту з воч прапалі. *Хож., Маладз. р.* Скоро і ў Амэрыку прыехалі. А там людзей мало, людзі дзікія тыя. Як убачаць чалавека белаго, даюць дзёру, уцякаюць. *Сав., Стаўб. р.* Хотыв гэты нэмчура дёру даты, дак я ёго й прысмажыў (застрэліў) с пістолета. *Вел., Пін. р.* А ліса абабегла некалькі разоў каля хвойкі і, браток ты мой, як дасьць дралу ў кусты! *Дараг., Маст. р.*

ДАЦЬ ДУБЦА (лазы) к а м у. ДУБЧЫКА ДЖГАНУЦЬ к а м у. НАДАВАЦЬ ПАЛКІ к а м у. Фізічна пакараць каго. Помню, пашла я гуляць, а нам тады каровы было пасьвіць, я й забыла пра каровы. То дала мне мама дупца, гэтак нашлёгала, папараўла я тады. *Кунц., Кл. р.* Табе матка лазы дасьць за дзяўчат, жонку глядзі, на дзяўчат ні заглядайся. *Ульян., Сен. р.* Ня ўпэнісься ніяк, сьціхні! Бо дам дупца, як учора. *Пр., Стаўб. р.* А наравіцца ўмея, лёх на пяску. Кап дупчыка джг'ануў. *Там жа.* Няшчасьця нагнала палякаў (некія ш усе войны былі), узьбіліса на нас, загадалі бацьку ў падводы. Сем нядзель ні было дома, даехаў аш да Брэста, а тады надавалі палкі і прагналі. Прыходзіць — ні кабылы, ні калёс. *Гр., Слуц. р.* Трэба было добро палкі даць, хай ведая, што красьці чужоя ні можно. *Сав., Стаўб. р.*

ДАЦЬ ДЫХТУ. *Іран., незадав.* Негатыўная ацэнка чыёй-небудзь работы, дзейнасці. Слаба працаваць, не перарабіцца. Дала ты ўжо сёньня дыхту, перарабілася вельмі! А я ш кажды божы дзень ні разгінаючыся ў полі, і недаясі, і недаспіш, бывала. *Кунц., Кл. р.* Маруся прышла да міне й кажа: «Мыла сягоньні цэлы дзень, сьпіна ні разагнуцца». «От ты ўжо дала дыхту, — кажу, — а як жа я? І памый, і навары, і працадзень які зарабі — ўсё самой трэба». *Сав., Стаўб. р.*

ДАЦЬ ЗДАЧЫ. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЗДАЧЫ к а м у.

ДАЦЬ ЗДРАСТУЙЦЕ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЗДАРОЎЯ (добры дзень, дзень добры, здрастуйце) к а м у.

ДАЦЬ ЗЕВАКА. Празяваць, ашукацца, праваронiць. Ты сёньнячы, хлопяц, даў зявака. Была машына калхозная, мох бы ехаць, а цiпер во ляскай зубамi ат холаду, покуль дойдзяш да асфальту. *Веч., Стаўб. р.* Лiхо яго ведая. Цi ж будзяш ведаць загадзя. Трэба было купiць тоё жыто, што сусет прадаваў. Даў зявака, мусiць. Едзь цiпер купляй у Стоўпцы. *Сав., Стаўб. р.*

ДАЦЬ КРУГ. Далёка абысцi якое-небудзь месца, прайсцi лiшнюю адлегласць. Намучылiся толькi. Iшлi ўночы папацёнку, заблудзiлiся, далi вялiкi крух, ведамо, цёмначы, нi разьбярэш добро. *Жац., Стаўб. р.* Гэто ш я ўчоро па грыбэ хадзiла. Назьбiраць назьбiрала, але ўся вымакла, заблудзiлася, немач яго ведая. I лес, здаецца, ведаяш, а заблудзiлася, дала крух, аш у Халаiмаўскi лес вышла. *Сав., Стаўб. р.* Трэба было ранiцаю перабегчы на Жацяраў, то дала круг, бо нiможно прайсьцi, велькiя гурбы, сьнегу панамятало, дала крух. *Там жа.*

ДАЦЬ ЛАПУ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць, лупiць) ЛАПУ к а м у.

ДАЦЬ ЛАТАТЫ. *Жартаўл.* Iмклiва бегчы, без аглядкi кiнуцца наўцёкi. Калi вырваўся я на загуменьне, калi дам лататы, адно пяткi блiскалi. *Нал., Стаўб. р.* А аттулека заместа зайца як выдзыг′не воўк вéлезны-вéлезны. Я с перапуду кiнула й сваю торбу, i свой хвартух з грыбамi, як дала лататы! *Глоў., Слонiм. р.*

ДАЦЬ ЛУПНЯ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЛУПЦОЎКI (лупня) к а м у.

ДАЦЬ ЛУПЦОЎКI к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЛУПЦОЎКI (лупня) к а м у.

ДАЦЬ ЛЯШЧА к а м у. Выцяць, штурхануць моцна каго. Дай лiшча маёй бабi так наотмаш, як ба къмъра б'еш. Цэлый дзень мучыць во, на пуўлiтру нi дасьць. *Ляўк., Арш. р.*

ДАЦЬ НАГАНЯЙ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) НАГАНЯЙ (накачку) к а м у.

ДАЦЬ НА ДЗЕНЬДОБРЫ. Гл. ДАВАЦЬ (даць) НА ДЗЕНЬДОБРЫ.

ДАЦЬ НА ЗАПАВЕДЗЬ. Гл. ПАДАЦЬ (даваць, даць) НА ШЛЮБ (на запаведзь).

ДАЦЬ НАКАЧКУ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) НАГАНЯЙ (накачку) к а м у.

ДАЦЬ ПА ГРЫБАХ к а м у. Гл. ДАЦЬ ПА ГУБАХ (па грыбах, па зубах) к а м у.

ДАЦЬ ПА ГУБАХ (па грыбах, па зубах) к а м у. *Пагraж.* Набіць каго, надаваць каму, пабіцца з кім. Пагавары шчэ сь цёткаю так, брахун, дык дам па грыбах, ото дам, век помніць будзеш. *Райч., Пух. р.* Калі будзяш гаварыць лішняё, то дам па губах, от паглядзіш дам, паскавычаш тады. *Гор., Стаўб. р.* Адыдзіся, як дам па зубах зарас, то атскочысься, разумны знайшоўся вельмо. *Сав., Стаўб. р.* Дзе там біліся! Ты бачыў вельмо? От, далі па губах трохі, кап ні брахаў, і ўсё. А ты кажаш — біліся. *Там жа.*

ДАЦЬ ПАД (у) БОРАДУ к а м у. Пакараць. Як застаня дарэктар саўхоза каровы ў канюшыні, дасьць у бораду, будзя нямала пастуху. *Пр., Стаўб. р.* Да арміі дак ашчэ слухае трохі мацяру, а прыдзя з арміі, гатоў і пад бораду даць, як ні ўгодзіш, як ні ўнаровіш. *Гр., Слуц. р.*

ДАЦЬ ПАД ХВОСТ к а м у. Пакараць, надаваць, усыпаць каму, тут: разбіць каго. Сабралі нашы сілы й тады калі далі ім пат хвост, этым немцам! За ноч дзе іх зьмяло, нідзе нікого ўжо ні было. *Аляхн., Маладз. р.*

ДАЦЬ ПА ЗУБАХ к а м у. Гл. ДАЦЬ ПА ГУБАХ (па грыбах, па зубах) к а м у.

ДАЦЬ ПАРАДЫ к а м у. Гл. ПАРАДЫ ДАВАЦЬ к а м у.

ДАЦЬ ПАТОЛЮ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ПАТОЛЮ (роспуст) к а м у.

ДАЦЬ ПА ШАПЦЫ к а м у. 1. *Іран., непав.* Выгнаць, прагнаць, зняць з пасады каго. А потым ні стала паноў, народ ім даў па шапцы. Настала новае жыцьцё, бес паноў і царквы. *Каз., Слонім. р.* Сьпірыдонаву далі па шапцы, зьнялі з работы за крадзеш. *Гор., Стаўб. р.* 2. Набіць, надаваць каму. Ніхто там ні біўсё, ні сварыўсё. Бронісяваго гэтаго дурня выклікалі на двор і на вуліцы трохі далі па шапцы. Але нічого. Адразу ўцёк некуды, ні паказваўсё больш у клубі. *Зал., Стаўб. р.*

ДАЦЬ ПЕРЦУ (пытлю, тарганцу) к а м у. Пакараць фізічна, у рэзкай форме выгаворваць каму. Пашоў, войчае мяса, кармі яго толькі, а ён як ніжывы ўсё роўно. Вот як дам перцу — пабяжыш. *Шаш., Стаўб. р.* Вы каб ні лезьлі ў агарот, а то дам перцу. Усе гуркі патапталі, свавольнікі гэтыя. *Жац., Стаўб. р.* Пратсядацяль сабраў на праўлені ўсіх, хто не паехаў, сварыўсё, даў пытлю. *Гал., Стаўб. р.* Хай адно не памыеш падлогі, то дам таргáнцу, аш вушы будуць гарэць. *Кунц., Кл. р.*

Нас ні было дома, а куры паўлазілі ў агароччык і давай грэпціся. Як уляцеў Коля, як даў ім пытлю, ляцелі прас плот, нарабілі вэрхалу на ўсю вуліцу. *Сав., Стаўб. р.* Маруся як завінецца, дае пытлю Ані, а тая аш мрэ за гулямі, прас акно ўцякла ў клуп. *Там жа.* Падзем, Танячка, падзем, а то бацько дасьць нам пытлю, казаў, каб доўго ні бавіліся. *Там жа.*

ДАЦЬ ПРАВОДНАГА к а м у. Даць падарунак на развітанне, падараваць гасцінец (маладой). А як ужо дагаварыліся пра пасах, дык насыпаяць бутэльку жыта й абвязаваяць яе поясам, а тады прашчаюцца. Маладая праводзіць маладога й сватоў, а малады даець ей праводнага — рубля ці, як даўней, два злоты. *Пал., Мядз. р.*

ДАЦЬ ПРЫКУРЫЦЬ. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ПРЫКУРЫЦЬ к а м у.

ДАЦЬ ПРЫПАРКУ к а м у. Пакараць каго, набіць, моцна ушчуць. От сёньня Ліда дала прыпарку Марусінай Тані! Калі-то запарушыла, усю дарогу раўла. *Сав., Стаўб. р.*

ДАЦЬ ПЫТЛЮ к а м у. Гл. ДАЦЬ ПЕРЦУ (пытлю, тарганцу) к а м у.

ДАЦЬ РАДАЧКІ. Гл. ДАВАЦЬ (даць) РАДЫ (радачкі) к а м у.

ДАЦЬ РАДЫ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) РАДЫ (радачкі) к а м у.

ДАЦЬ РОСПУСТ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ПАТОЛЮ (роспуст) к а м у.

ДАЦЬ ТАРГАНЦУ к а м у. Гл. ДАЦЬ ПЕРЦУ (пытлю, тарганцу) к а м у.

ДАЦЬ У ЛАПУ к а м у. Гл. ДАЦЬ (сунуць) У РУКУ (у лапу) к а м у.

ДАЦЬ (сунуць) У РУКУ (у лапу) к а м у. *Асудж.* Даць хабар каму. От, Аньцік, калі ні дасі ў руку, то й будзя дома сядзець, ні пусьцяць с калхоза. *Гор., Стаўб. р.* Бацько, мусіць, дагадзіў, сунуў некаму ў лапу, бо німа дома, паступіла на радзіятарны завот. *Ас., Стаўб. р.* Вазілі сьвіней здаваць на базу. А што там робіцца! Людзей много, вочарацы, а прымаць ні хочуць, глядзяць, ці сытаё (свінчо). Калі ў руку дасі, то добро запішуць, больш і заплацяць. *Гал., Стаўб. р.* І Мішка, калі ў лапу суняш, то дастазіць, прывязе й накажа — едзь забірай (гарнітур), а калі не, то й будзяш хадзіць гот, а ні купіш. *Раёў., Стаўб. р.* Былі ў Мінску нашы, шукалі таго целя-

візара. Купілі, харошы целявізар, што харошы, то харошы. Але Андрэй казаў, што як у лапу ні дасі, то добрага ні купіш. А целявізараў много, выбар ест. *Веч., Стаўб. р.* Трэба будзя Олясю якога рубля сунуць у руку, хай мне печ пераробіць, зіма йдзе, а печ ні ў паратку. *Хал. Стаўб. р.* Вот бачыш, пазірая, кап даў у лапу, тады табе й пяршэнство: і пусьціць за перагаротку, выбяраш там, які захочаш (брыкет), а так німа й канец. *Ст. Св., Стаўб. р.* Паехала я рас у фірму дрова купляць. А ні магу, нешто нідамагаю. Праўда, падышоў знаёмы сь Сьвержна, дала яму траячку, папрасіла, ён за тую траячку, у руку сунуў некаму там. Накідалі мне дроў, харошых, тоўстых і сухенькіх. *Сав., Стаўб. р.*

ДАЦЬ У ХАЛАМОК к а м у. Набіць, адлупцаваць каго, надаваць каму. Прыедуць з Дубеяк, усяк на зяця кажуць: «А ты такі, а ты сякі». А ён як даў старому ў халамок (ад *«холка» — патыліца*), а старую ўзяў за косы, вывяў на вуліцу і сказаў: «Каб нагі тут ні было». От нек атайбаваліса і жывуць. *Гр., Слуц. р.*

ДАЦЬ У ХАМУТ. *Зламоўн., незадав.* Не перастарацца на рабоце, не стаміцца, працаваць лянуючыся, без асаблівага жадання. Не вельмо твой сусет дасьць у хамут — робіць от так сабе, абы скарэй дадому. *Веч., Стаўб. р.* Ох, ты ш і дала ў хамут, перарабілася там вельмо! Работа ціпер лёхкая, ні тоё, што некалі людзі ні дня ні ночы ні бачылі за работаю. *Сав., Стаўб. р.*

ДАЦЬ ФАФАРУ (файт) к а м у. У рэзкай форме выгаворваць каму. Прахор ж жонкаю ня ладзіць, а дома на яго злуюцца, даюць фафару (ад ням. Pfeffer — *перац*). *Кай., Кар. р.* Бацька клубок ўе й песьню пяе, а маці сварыцца на яго. А мне сьмешна стала, я засьмяялася. Як далі файт (ад анг. fiat — *указ, дэкрэт*), аш заплакала: «Ах ты, анціхрыст ты, злы дух ты! Ідзі мыйся і за прасьніцу!» *Кук., Дзярж. р.*

ДАЦЬ ХРАПАКА. Паспаць, выспацца. Ну й даў я ўчоро храпака! Прышоў позно с клуба, а стаміўшыся быў, ото ш спаласё слаўно. *Сав., Стаўб. р.* Пазаўчора хадзілі на ўходзіны да Віці, то ён жа (муж) ні дабыў да канца. Выпіў трохі, прышоў дадому і даў храпака. *Кунц., Кл. р.* А коб муй стары ўдома быў, я б пошла дала храпака, лэгла б да поспала ўдоволь. Мнэ шчоб часыков дьвенацать поспаты, а то шчо я там поспала, шчо там за сон. *Бот., Пін. р.*

ДАЦЬ ШЛЮБ. Павянчаць. Бэрэ мэнэ чоловік до Сушня, п'ять душ дэтэй. Я вжэ думаю, пойду, а батька ныц нычого нэ дае. А мой Сэргэй кажэ: «Ну й буг з імы, трэбо от толькі згодыты ксёндза, коб дав нам шлюб». Тры разы прыходыв до ксёндза, а ксёндз нэ дав шлюба. А тут хлоп война! *Бот., Пін. р.* Ксёндз даў шлюп, але за вянчаньне загнуў такую цану, што я аш за галаву, ведаеце, схапіўся. *Каз., Слонім. р.*

ДА ЧОРНЫХ МАЗАЛЁЎ (рабіць). Заўзята, упарта працаваць. Шаптуха (прозвішча) табе задасьць! Ён во й пераходзя зь места на места, на чорную работу ня пойдзіць, да чорных мазалёў рабіць ні станіць. *Ульян., Сен. р.* Я даўней рабіла да чорных мазалёў. Ці жаць, ці капаць, робіш, хватаяш, усё каб было, усё каб было больш. *Сав., Стаўб. р.*

ДВАІЦЦА Ў ВАЧАХ к а м у, у к а г о. Дрэнна бачыць што, падвойна бачыць (у стане вялікай знямогі або хваробы). Нараблюсё за дзень, нацягаюсё, ногі баляць, млосно робіцца, двоіцца ў вачах, не ведаю, дзе дзецца, войкаю ўсю ноч. *Сав., Стаўб. р.* Нешто ў міне ўсё двоіцца ў вачох, галава баліць, пайду прылягу трохі, ведамо, ні спала ўсю ноч. *Веч., Стаўб. р.*

ДЗЕЛА НЕТ д а к а г о, д а ч а г о. Не датычыць каго, не мае ніякіх адносін да каго, да чаго. Зрабілі астаноўку лі памятніка. Разьвя тут астаноўкі места? Гэта ш сьвяшчэннае места, а тут засьмечана, загаджана. Маглі б зрабіць кала калхознай канцыляры, там самае люднае места. Такоя бізабразія, нікому дзела нет. *Ульян., Сен. р.*

ДЗЕ НАЧАВАЦЬ, ТАМ НЕ ДНЯВАЦЬ. Бадзяцца, не мець сталага месца жыхарства. Мішка армію адбыў, яму пат трыццаць гадоў, й дзе-та шалаўся гадоў сімнаццаць, айдзе нучуваў, там ні днюваў. *Ліцв., Карм. р.*

ДЗЕ НАША НЕ ПРАПАДАЛА. *Рашуч.* Цвёрда рашыцца зрабіць, учыніць што. Ладна, бяры грошы й ець, можа даб'есься чаго, дзе наша ні прападала. *Н. Тур., Уш. р.* Эй ты, імяніньнік, хадзі сюды. Давай, хлопцы, па рублю, дзе наша ні прападала, трэба ш, кап помніў. *Гор., Стаўб. р.*

ДЗЕНЬ ДОБРЫ ДАЦЬ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЗДАРОЎЯ (добры дзень, дзень добры, здрастуйце) к а м у.

ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ. Гл. ДЗЕНЬ У ДЗЕНЬ.

ДЗЕНЬ У ДЗЕНЬ. ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ. Штодзень,

кожны дзень. Жонка тапталася каля свайго хазяйства, а я дзень у дзень усё вазіў дзерава на сплаў. *Пуцэв., Навагр. р.* Да чаго дажываецца чалавек. Бывала, была карова, дво парасят, дзьве казе, мо сорак гусей с качкамі, куры, і ў калхос дзень пры дні хадзіла. А цяпер нічога німа, і сама сябе ні дагледжу. *Гр., Слуц. р.* Ходыла на роботу дэнь пры дню. *Сім., Драгіч. р.* Грыбэ паявіліся, дак я тыдзянь дзень у дзень, дзень у дзень хадзіў, па дзьвесьця штук баравікоў прыносіў. *Сав. Стаўб. р.* Мой сын некалі дак у тую школу дзень у дзень хадзіў, і далёко было, вунь дзе той Стары Сьвержан, а йшоў і зіма й лето, йдзе і йдзе. *Там жа.* Пустухі ў нас тры ў калхозі, дзень у дзень пугу на плячо і ў поле. Па сто восімісят — сто дзевяноста пулучаюць і процанты ад малака. Зарабатно. А я во тожа дзень у дзень іду. *Ляўк., Арш. р.*

ДЗЕСЯТАМУ (пятаму) ЗАКАЗАЦЬ. Доўга памятаць што (звычайна пра непрыемнае), не паўтараць чаго (кепскага) і іншых папярэдзіць, каб не рабілі гэтага. Ты б мо сьціхла, а то як дам, то дзісятаму закажаш, як абрэхацца. *Сав., Стаўб. р.* Рас уваліўся Косьцік у калхозны сад, а сторaш злавіў да сабаку пусьціў на яго, то цяпер дзесятаму закажа, каб не лес. *Кунц., Кл. р.* Ну й цяперака дзісятаму заказала, ні буду хадзіць па касьцёлах і богу маліцца ні буду. *Нав., Бар. р.* Прышлі мы з Хадосій на свае хвасты, селі абуваць лапці і заснулі. Ідуць нашы маткі ды гамонюць, што дзевак нідзе німа. Божухныбацюхны! Во ўжо хваціла з нас за етый сон, дзісятаму заказкым, як спаць. *Піл., Чав. р.* А, бронь божа, каровы зойдуць на гаспадарову дзялку! Бацьку як бачыш данясуць, і тады ён табе задасьць, што пятаму закажаш. *Гар., Маладз. р.*

ДЗЕСЯТАЯ ВАДА НА КІСЯЛІ. *Непав.* Далёкі, не блізкі (сваяк). Не буду клікаць яго (на вяселле). Які ён мне сваяк? Дзесятая вада на кісялі. Кап гэдыкіх усіх клікаў, то места ў хаце не было п. *Кунц., Кл. р.* Племя — гэта сваяўство: брацьця, дочкі, унукі, проўнукі, цёткі, дзяцькі там. А далей ужо далёкае сваяўство, дзісятая вада на кісялі. *Бял., Лаг. р.* У людзей дзісята вада на кісялі, а сваяўство: і хеўру водзяць, і на радзіны, і на бяседу якую ходзяць, а нашы — родныя, а ні сабразіш. *Гр., Слуц. р.*

ДЗЁРУ ДАЦЬ. Гл. ДАЦЬ ДРАЛА (драпака, дзёру, дралу).

ДЗІЦЕМ ХАДЗІЦЬ. Быць цяжарнай. Ото трудна было адразу, як перабудаваліся на футар: помачы ніякай, а я дзіцем хадзіла. То што ўжо нагараваліся ўдваіх. *Сав., Стаўб. р.*

ДЗІЦЯ Ў ГРУДЗЯХ. Грудное дзіця. Панесла я ў Вёняц (Івянец) зяло (лекавыя травы) здаваць. Пашла пазнавата, бо дзіця ў грудзях, а пака патхадзілася. Стаяла-стаяла, й ні ўзялі ў мяне тое зяло. А грудзі прыбылі, аш пат пахі заходзіць малако. Што рабіць? *Пр., Стаўб. р.* Дзіця ў грудзях было, а каровы ні было, от папастрадала. *Там жа.*

ДЗЯЛІЦЦА ЎСЯКАЙ (апошняй) МАГ'УЛІНКАЙ (капляй) з кім. Быць у прыязных адносінах з кім, даваць, пазычаць апошняе каму, дзяліцца ўсім усякім, усім, што ёсць. Бывало, як кепско жылосё, тады хадзілі адно да аднаго, дзяліліся ўсякаю маг'улінкаю, а ціпер і крыўды німа, і перасталі хадзіць. *Сав., Стаўб. р.* Была ў міне сусетка на футары, жылі душа ў душу, апошняй маг'улінкай дзяліліся. А як у вёску пераехалі, дак і дружба раскідалася. *Там жа.* От такі Ліда добрая баба. Пасьленьняю капляю падзеліцца. *Востр., Зельв. р.*

ДЗЯРЖАЦЬ чыю ЛІНІЮ. Гл. ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) чыю ЛІНІЮ.

ДЗЯРЖАЦЬ СЯБЕ Ў РУКАХ. Гл. ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) СЯБЕ Ў РУКАХ.

ДЗЯРЖАЦЬ (падзяржаць) У РУКАХ каго. **1.** Распараджацца, камандаваць кім, верхаводзіць у гаспадарцы (сям'і). Вот Вацік сваіх дзяржыць у руках. Ані пікнуць. Сядзяць па закутках, і кап хоць каторы слова сказаў. *Сав., Стаўб. р.* Высока, баявая, галаву несла гэдак хорашо тая Лёдзя, а Стась яе сабакаваты. Яна яму па мордах надае, надае й нічого, дзяржыць у руках мужыка. *Там жа.* Марыя сказала, што падзяржу мужука ў руках, нідзе ён ні дзеніцца. *Ляўк., Арш. р.* А мальчонак у яе харошый, дзяржыць матка ў руках, што скажыць, ён слухаіць: і цёлкі травы выжнець, накорміць і сьвіньням дасьць, і карову стрэніць, загоніць у хлеў, а есьлі нада, падоіць. Што ўжо за дзіця! *Ляўк., Арш. р.* **2.** Пакараць, адпомсціць каму. Сын Якімкоў, той тоўсьцінькій, дужа ўрэнный. Я яму дам прыпарку, ўсігда Сярожу б'ець. Адзін раз я хацела яму даць, каб дагнала, дала б палкі па нъгах. Я б яго падзіржала ў руках, каб пупаўся. Падзіржала б у руках. *Ляўк., Арш. р.*

ДЗЯРЖАЦЬ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ. Гл. ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.

ДНО ЎГЛЕДЗЕЦЬ у чым, дзе. З'есці ўсё, што ў пасудзе (місцы, гаршку), апаражніць пасуду. А есьць! Қап ты паглядзела! Сядзе од этак о (вось так), ўзапрэцца нат чыгунком (а жонка сала тушыць у чыгунку) і, пакуль дно ні ўгледзіць, ні ўстаня. Зап'е кампотам — і гатова. *Гр., Слуц. р.* Дзеці, ўнукі як прыедуць, то адразу: «Бабуня, наварэця верашчачкі!» Ядуць добро. У Мінску там ні зварыш, бо німа дзе, а тут ядуць, покуль дна ні ўгледзяць у місцы. *Сав., Стаўб. р.*

ДОЎГІ ЯЗЫК МЕЦЬ. Гл. ЯЗЫК ДОЎГІ (даўгаваты) МЕЦЬ.

ДРАЦЦА ЯҚ ЖАБА. *Насмешл., зневаж.* Вельмі дрэнна спяваць, непрыемным голасам, няправільна падцягваць. А у нас валачоньнікі сьпяваюць, то й ён ідзе ззаду і дзярэцца як жаба старая, дзе якая ґапуха дзярэцца. *Сав., Стаўб. р.* У таварыстве дзярэцца як жаба, ні ўмеючы. Усе сьпяваюць як людзі, а ён дзярэ горло. *Там жа.*

ДРАЦЬ ВОЧЫ каму. *Незадав.* З'едліва ўпікаць, смяяцца з каго, пільна прыглядацца да чаго. Маліц высокі, кудравы, тонянькі ў таліі, красівы. Але яму ад малку, ад дзяціных гадоў, дралі вочы, вечна крапіўнікам звалі. *Бяльм., Брасл. р.* Дзярэ вочы мне, ўпікая сынам. А што я вінавата, што ў мяне ў родзі такоё, я ш яго на благоё ні вучу. *Сав., Стаўб. р.* Хацеў бацька ў сут падаць, але маці ўпрасіла ні рабіць гэто, кап ні сьмяяліса людзі, ні дралі вочы. *Гр., Слуц. р.* Як прыдуць да нас, то ўсё глядзяць, вочы дзяруць, у што адзеты, у што абуты, а потым па вёсцы разьнясуць. *Ас., Стаўб. р.*

ДРАЦЬ (дзёргаць) ҚАЗЛЫ. *Асудж., незадав.* Ванітаваць, рыгаць. Нап'ецца дурань гэты, а потым мучыцца, дзярэ казлэ, і яшчэ слова яму ні скажы. *Сав., Стаўб. р.* У майго хлопца, мусіць, рабаке (глісты), бо праз усю ноч казлэ дроў. *Тайкач., Узд. р.* Чаго ты ўставаў уночы, га? Мусіць, нядобрыласё табе, драў казлэ, калі загаджано ўсюдых, ні прайсьці. Я табе пакажу больш п'янку! *Гор., Стаўб. р.* Помню такей случай. Пъзвалі нас у госьці, мяне й Валю. Прышлі. Дзяцька адзін стъкан Валі, другей. Іна́ просіць-моліць, а ён ужо напітый быў, выхваціў нош і: «Ах, ты ні будзіш!» Тая спугалась і рас—выпіла. Выпіла і бягом с хаты. Выбегла і къзла дзёргаець. Чуць жывая ъсталась, я ўжо бъяўся за яе. *Ляўк., Арш. р.*

ДРАЦЬ НОС перад кім. Гл. ЗАДЗІРАЦЬ (драць) НОС (галаву) перад кім.

ДРАЦЬ (лупіць) ШКУРУ (кожу) з каго. *Асудж., непав., незадав.* 1. Жорстка, бязлітасна эксплуатаваць каго, нажывацца за чужое дабро, здзекавацца з каго. Некалі то гэты багацей драў шкуру зь людзей, гат гэты, але німа, зьехаў. *Сав., Стаўб. р.* А я гувурыла, з такых бы шкуру драты надо, што ты сэм'ю розбыла, дытя осыротыла. *Бот., Пін. р.* А палякі ўжо як заступілі, дзёрлі скуру з нас, не глядзелі, ці ты бедны ці багаты. Шчэ наадварот, бедных горай валтузілі, як багатых. *Аляхн., Маладз. р.* 2. Дорага прасіць, браць за што. Плацяць не за рэйс машыны, а ад галавы. Завёз двоё сьвіней, плаці за двоё. Дак узьняліся ўсе, крычаць: «Міцюля шкуру дзярэ зь людзей!» *Сав., Стаўб. р.* На базары дзяруць шкуру ш чалавека. Такая дарагоўля, ні дакупіцца парасят! *Гор., Стаўб. р.*

ДРУГІМ РАЗАМ. Калі-небудзь, не цяпер. «Дзядзё, давайця заўтрачы па грыбэ сходзім з вамі. Вы ведаяця месцо».— «А, дзе бачыў, часу німашака, трэба салому звозіць. Другім разам хібо». *Сав., Стаўб. р.* Маруся хацела, кап я ёй грошай пазычыла, а ў міне якрас ні было. То я й кажу ёй: «Другім разам, Маруська, прыдзі, дальбаг жа, німа». *Там жа.* Такая цяплата, давай, кажу, паедзям на Нёман пакупаямся. А дзе ён табе паедзя! Другім разам калі, часу ш німа. *Гал., Стаўб. р.*

ДУБЧЫКА ДЖГАНУЦЬ каму. Гл. ДАЦЬ ДУБЦА (лазы) каму. НАДАВАЦЬ ПАЛКІ каму.

ДУРАКА ВАЛЯЦЬ. *Асудж., незадав.* Дурэць, блазнаваць, крыўляцца, нічога істотнага, важнага не рабіць. Дзе ты гэто прападаў цэлы божы дзень, га? Памог бы маццы што кала хаты, а то валяяш дурака, ні брытко табе. *Сав., Стаўб. р.* Бывала, на Йвана Купалу вянкі на воду пускалі, на бярозу закідавалі, дурука въляім да двух часоў ночы. *Ляўк., Арш. р.*

ДУРНЫ ЯК БОТ. *Зняваж., непаш.* Някемлівы, тупы. Знайшоў с кім гаварыць, яго ў нас усе апходзяць, дурны як бот, а ты яго прыглашаяш, курыш зь ім. *Сав., Стаўб. р.* Нешто казала-казала, я й нічого ні разабрала, нешто гаворыць — ні поймяш што — ведамо, дурная як бот. *Веч., Стаўб. р.*

ДУРЫЦЬ ГАЛАВУ (патыліцу) каму. *Незадав.* Надакучаць размовай каму. Кінь ты, Вінцусь, дурыць гала-

ву, ні так жа было. Там было много людзей, а ты кааш, што толькі вы ўдваіх. *Жац., Стаўб. р.* Не дуры мне патыліцу. Уплёў халву й хваціць. На пячэня ні дам. *Гр., Слуц. р.* Той рас як прыягджалі вашыя, ў нас два хлопцы былі. Адзін маўчаў, а другі натта драпежны, дураць галаву старому: «А як у вас гэта завецца, а як гэта? Ну, яшчэ адно слова!» А я кажу: «Не дурэця старому галаву, дайця паляжаць». *Пр., Стаўб. р.* «Мае порткі доўгія ня бачылі, мама? Я іх на лаўца клаў». «Адыдзіся,— кажу,— ня дуры галавы». *Там жа.* Стаяць міліцанеры ў дзьвярах, думаю, пайду я бліжай да іх сяду, можа гэты чалавек ад мяне адвяжацца. Пашла там села, і ён прышоў сеў каля мяне і галаву дурыць, што пайдзём у магазін, памажыце яму мануфактуры набраць і ўсё. *Рак., Вал. р.*

ДУХ (душу) БАВІЦЬ чым. Задавальняцца, абмяжоўвацца чым (малым, нязначным, неістотным). Кажаш, сухá як ражон. А што я ем? Сала ня ем. Масла ня ем. Яйцá ня можна. Гэта калі селяцца ці манкі якое, і гэтым дух баўлю. *Гр., Слуц. р.* Ну што там за пяцьдзісят капеяк пад'ясі. Кап душу пабавіць, й то ў кішэні трэба мець. *Бял., Лаг. р.* Я толькі й жыву квасам, гэтым квасам і дух баўлю. Часамі то зьем салоняњкаго жарою, вады захачу, прыду, крушку вып'ю квасу і больш ні хочу нічого. *Сав., Стаўб. р.*

ДУХ (духі, душа) ВОН з каго. 1. Цяжка, перарывіста дыхаць. Ляцела ш гэта я, ляцела, аш, здэцца, дух ужэ весь вон, але ш такі дабегла, на хаду ўскочыла (у вагон). *Мул., Дзятл. р.* Бягу, дух вон. *Рак., Вал. р.* 2. Загінуць, памерці. На вос усьперлі мо пудоў сто: матор некі ўзвалілі, сваі жалезныя, барахла ўсякаго жалезнаго накідалі, мо пудоў сто і дупцом у галоп тую Панаму (клічка кабылы). Дак с тае кабылы й дух вон. *Гр., Слуц. р.* Аўтобус ідзе ў дзевяць на Стоўпцы. Дайдзі да таго аўтобуса гэдакім марозам, душа вон у старой, і лекі ні трэба будуць. *Сав., Стаўб. р.*

ДУХІ АДДАЦЬ. Гл. АДДАЦЬ ДУХІ.

ДУХІ ВОН з каго. Гл. ДУХ (духі, душа) ВОН з каго.

ДУХІ ЗАБІЦЬ каму. Гл. ЗАБІВАЦЬ (забіць) ДУХІ каму.

ДУХІ ЗАЙМАЕ (запірае). Забівае дыханне. Прастудзілася, чуць вычухала. Ашчэ й цяпер кашаль духі запірая. *Гр., Слуц. р.* Нека цяжась у грудзях, прайду шагоў

дзесяць, духі займая. Да гэто году ашчэ так ні было. *Там жа.* Лецъ пат гору ўсьпёрлась, духі запораіць. *Ляўк., Арш. р.*

ДУХІ ПАДЦЯГЛО каму. Гл. ДУХІ ПАДЦЯГНУЛА (падцягло) каму.

ДУХІ ПАДЦЯГНУЛА (падцягло) каму. **1.** Спаў з цела, схуднеў хто. Ты харошая, Анэлька, вочкі чорняньkія, носік востранькі. А твой Уладак — стары, сівы, барада, духі паццягло. *Бяльм., Брасл. р.* Які той Эдзік зрабіўсё? Кепско жыве з бацькамі, а труднавато, худы, страшно глядзець, духе паццягнуло. *Гор., Стаўб. р.* **2.** Прагаладацца, хацець есці. Рано ўстала, паехала ў Стоўпцы, ні пасьнедала в дому й там ні прышлосё, дак духе паццягнуло. Галодная прыехала, ледзьве прыехала. *Сав., Стаўб. р.* Карова прышла галодная, паццягнуло духе, трэба даваць што, бо саўсім запусьціцца. *Жац., Стаўб. р.*

ДУХОЎ БАЯЦЦА каго. Гл. ДУХУ (духоў) БАЯЦЦА каго.

ДУХОЎ НЕ ЎЗВЕСЦІ. Не магчы ўдыхнуць паветра. Я ні магу ня еўшы — духоў ні ўзьвяду, пад'ем, а тады галашу (па пакойніку). А Ніна яды ні спытаець, вады пап'ець і галосіць. *Ульян., Сен. р.* Да гэто году мяне ашчэ так ні хапала, а гэта ўжэ добра бярэ. Часам як схопіць, як сьцісьня пат грудзьмі, дак духоў не ўзьвесьці. *Гр., Слуц. р.*

ДУХОЎ НЕ ЎКАЗАЦЬ. Гл. ДУХУ (духоў) НЕ ЎКАЗАЦЬ.

ДУХУ (духоў) БАЯЦЦА каго. Вельмі баяцца каго. Муш гэдакі злы, яго духу баяліся й яна, й дзеці. *Пр., Стаўб. р.* Ці так жа жылося, як цяперя? Тады духу баяліся бацькі ці маткі. *Раб., Слаўгар. р.* Мы яго духу баяліся, гэдакі ён сярдзіты быў. *Сав., Стаўб. р.* Некалі бацько як дасьць — хто куды, духоў яго баяліся, а цяпер і бацьку на ты заве і ні слухая. *Там жа.* Ці матка гаворыць, ці кляне, ці просіць — дачка ні шманае, прывыкла да маччынаго крыку. А бацькавага духу баіцца. Во, хай што закамандуя, мамэнт зробіць, ні будзя агрызацца, як з маткай. *Там жа.*

ДУХУ НЕ БУДЗЕ чыйго, дзе. Гл. НАГІ (духу, панаху) НЕ БУДЗЕ чыёй, дзе.

ДУХУ (духоў) НЕ ЎКАЗАЦЬ. Раптоўна, неспадзявана памерці. Іван равесьнік Фэлюся, а во зваліўся й

ўбіўся. Кубарам паляцеў й духу ні ўказаў. *Сав., Стаўб. р.* Іван Юрчыкаў вазіў гной на трактары. Іх двух было, але той быў бліжай к барту, а гэты ззаду стаяў. Трактар як рвануло, ён упаў і духу ні ўказаў — сатрасеня пазваночніку палучыласё. *Там жа.* Антонік як лясьня таго сабаку некім прэнтам, той і духоў ні ўказаў, забіў на месцы. *Жац., Стаўб. р.*

ДУША БАЛІЦЬ (заходзіцца). **1.** Адчуваць унутраны неспакой, душэўныя пакуты; непакоіцца, трывожыцца. Усе кажуць, красівы, добры хлопяц Манін. С твару то ён нічого, а ў сярэдзіні то, напэўно, чорно. І маччына душа баліць, што дзяўчо харошаё, маладоё і такую поскуць сустрэло. *Падг., Кар. р.* А якія рублі й засталіся (гутарка ідзе пра царскія грошы), дык ляжаць у кухры. Як гляну — душа заходзіцца: то ш мой пот і сьлёзы, не даядаў, складаваў па капейцы, кап купіць зямелькі. *Януш., Лаг. р.* Ні было п то мацярынско сэрцо — много ў мяне дзяцей, але па ўсіх душа баліць. *Каз., Слонім. р.* Я ўжэ казала, кап ехаў куды, можа хоць і шкада было п, ды душа так ні балела п. *Пад., Дзятл. р.* Пагляджу на ету бульбачку, душа баліць. І бульбачка харошъя была б, а травой зъръсла, драбноцьце. *Ляўк., Арш. р.* **2.** Быць моцна ўзрушаным ад раптоўна пачутай непрыемнай навіны. Я йду насустрэчу, а мне кажуць: «Твой сын у немцах». Мне й душа зайшлася, а ўсядно йду, думаю, буду біцца да сьмерці, кап сваё дзіця вызваліць ат фашыстаў. *Сіц., Пух. р.*

ДУША ВОН з каго. Гл. ДУХ (духі, душа) ВОН з каго.

ДУША ГАРЫЦЬ. Гл. ДУША РВЕЦЦА (гарыць).

ДУША ЗАХОДЗІЦЦА. Гл. ДУША БАЛІЦЬ (заходзіцца).

ДУША КРЫВЁЙ ЗАЛЯТАЕ чыя, у каго. Гл. СЭРЦА АБЛІВАЕЦЦА КРЫВЁЙ чыё, у каго.

ДУША РВЕЦЦА (гарыць). *Жаласн.* Моцна перажываць, смуткаваць, хваляваіца (з прычыны гора, няшчасця, бяды). Душа рвецца, гарыць агнём, ні магу перажываць. Што ш ты думаяш!? Пахаваць карміліца. *Сав., Стаўб. р.* У міне душа гарыць, на яго гледзячы. Да чаго давесьці чалавека! Кап ішоў с хаты па людзёх кусок хлеба прасіць! *Гор., Стаўб. р.*

ДУША Ў ДУШУ. Вельмі добра, дружна (жыць), у поўнай згодзе. Жывуць яны душа ў душу, аш міла гля-

дзець, а некім дзікаватым прыкідваўса, як малады быў. *Гр., Слуц. р.* От падабраласа пара — душа ў душу. *Бяр., Слуц. р.* Адзін рас я прыехала к сыночку. А тады ад'яжджаць. Ён ад жонкі крадзець і мне даець (грошы). Я ні ўзяла тыя грошы. Цяпер прысылаіць маткі й мне прысылаіць, а болі ні хуваіць, ужо душа ў душу сталі жыць. *Ульян., Сен. р.*

ДУША Ў ПЯТКАХ у к а г о. Моцна спалохацца, адчуваць страх. Некалі мы ў Імхе́ па грыбэ хадзілі. Ідзеш, бывало, а цёмно яшчэ, душа ў пятках. А ўжо потым чуваць галасэ й разьвідніваяцца. *Ас., Стаўб. р.* А мой сусет падышоў так бліска, на метраў пятнаццаць да яго (немца). Ён думаў, што гэта ш такія людзі, як і мы, у леся сядзяць. А тады як разгледзяўся — аш фашыст сядзіць! І сабака каля яго. У мяне, кажа, і душа ў пятках. Увамлеў са страху. *Сіц., Пух. р.* Іду дадому (а ўвосянь, шчэ сьнегу ні было), і ўжэ ля мае хаты нешта як зашамаціць у кустах! Што мне здалоса, выказаць ні магу! У сярэдзіне ўсе пахаладзела, утрупела. Ногі як дзераўяныя сталі. І што там шамацела, сьвету б яно ні ведала, але я моцна спужаласа, душа ў пятках была. *Гр., Слуц. р.*

ДУШУ ВЫМАЦЬ з к а г о. *Незадав., абурэн.* Пастаяннымі прыдзіркамі, нахабнымі дамаганнямі мучыць каго. Вон мою душу вымэ. Нэ навару капусты, а вон крычыт — давай капусты! Навару капусты, а вон — давай блынцы! *Бот., Пін. р.*

ДУШУ ВЫЦЯГНУЦЬ з к а г о. Гл. ВЫЦЯГНУЦЬ ДУХ (душу) з к а г о.

ДУШУ НА РУБ СТАВІЦЬ. Гл. ПАСТАВІЦЬ СЭРЦА (душу) НА РУБ.

ДУШУ ПАБАВІЦЬ ч ы м. Гл. ДУХ (душу) БАВІЦЬ ч ы м.

ДУШУ ПЕРАЯДАЦЬ к а м у. Гл. АД'ЕСЦІ (ад'ядаць, пераядаць) СЭРЦА (душу, нервы) к а м у.

ДУШУ РАНІЦЬ з а к і м. Моцна любіць, падаць за кім. Матка іх (Стэфка звалася) была харошая, душу раніла за радней і дзецьмі, а доля яе была плахая. *Сав., Стаўб. р.* Эдзік быў такі слаўны хлопец, гэтакі работнічак, матка душу раніла за ім. *Там жа.*

ДУШЫ ПРАСЛУХАЮЧЫ. Шчыра, сумленна, аддана (рабіць, працаваць). Прышоў мяне нанімаць на работу бугач (багацей) наш, бульбу кыпаць. Пышла я. А з сабой узяць ні было чаго, хлеба ні было. Кыпаю галод-

ная, раблю душы праслухаючы, на сонца пыглядаю. І так да абеда. Селі 'бéдыць (абедаць). Яны лізь-лізь і вылязьлі з-за стыла. А я есьці хачу. Так і вылязла галодная. Хлеба жалелі. Уміраць буду — ні забуду. *Ліцв., Карм. р.*

ДУШЫЦЦА СА СМЕХУ. Смяяцца цішком, употай. Нічога ні ведая сам, але хітры, ўсё пытая ў другіх. Едзем міма лубіну адзін рас. «Што гэта?» — пытае. Кажу: «Боп». Эх, той саскочыў і давай рваць. А я душуся са сьмеху. *Бял., Лаг. р.* Сабраласё много й дзяўчат, і хлопцаў, сьмяюцца, рэжуцца (вяселяцца), хто анікдот раскажа, а Пятрусь дак той майстар на гэто. Калі скажа што, душацца са смеху, вот скажа. *Сав., Стаўб. р.* Прылегла на канапку, а дзеці ў хаці са сьмеху душацца, нешто ш весяло ім стало. *Там жа.*

ДЫБДРЫ ЗАДРАЦЬ. Гл. ЗАДРАЦЬ КАПЫТЫ (дрыбдзі, дыбдры).

ДЫМ ПУСКАЦЬ У ВОЧЫ к а м у. *Непав., незадав.* Гаварыць няпраўду, хлусіць. Прыйшоў ён да міне й пачаў гэта расказваць, а я зразу ўця́ла (зразумела), што дым пускае ў вочы. *Гор., Стаўб. р.* Кінь пускаць дым у вочы, ні брашы, скажы, дзе грошы падзеў? *Зал., Стаўб. р.* Слухай ты яé — дым у вочы пуская, хваліцца, аткуль у яе тыя дастаткі, хто ёй заробіць?! *Сав., Стаўб. р.*

ДЫХТУ ДАЦЬ. Гл. ДАЦЬ ДЫХТУ.

ДЭКА Ў ДЭКА. Зусім дакладна, грам у грам, якраз. Не глядзі, што навукі невялікай. А пашла я рас браць цукяр у магазін — нібось, ні перадасьць, якрас адважыць, дэко ў дэко (ад грэч. deka — *дзесяць:* дзесяціразовае павелічэнне меры вагі, тут — дзесяць грам). *Сав., Стаўб. р.* Цяпер перавешваюць у амбары, тоны жыта вызначаюць, збожжо ўсяко. У нашай кладовай каб добро перавесілі, было п тоны паўтары-дзьве лішняго, дэко ў дэко ні зробіш. *Там жа.*

## Е

ЕЗДЗІЦЬ ПА КАЛЯДЗЕ. Гл. ХАДЗІЦЬ (ездзіць) ПА КАЛЯДЗЕ.

ЕСЦІ ДА ДЗЮБКІ. Есці ўволю толькі тое, што падабаецца. Цяпер ядуць да дзюбкі, мяса, сала ні хочуць есьці, выдумляюць прысмакі: канпот, юшачку, макароны. *Ліцв., Карм. р.*

ЕСЦІ НА ДВА БАКІ. Есці колькі хочаш і чаго хочаш (пра багацце прадуктаў і напіткаў). Яечкі ё (рэшата ета, што сеюць, мо дзісяткаў паўтары), яблычкі ё скрылёчкі (сушаныя), канпоцік вару, чай зь ягыд і яблычак. Еж на два бакі. *Ліцв., Карм. р.*

ЕСЦІ НА ПОЎНЫ РОТ. Уволю, удосталь, колькі хочаш (есці). Памідоры родзяць у мяне, бо я саджу іх як ужэ стане цёпло, прымерно ў сярэдзіне мая. Такія вядроныя (ядраныя) родзяць і сьпеюць прэнтко. Летась дак я цэло лето ела іх на поўны рот, прадала можа пудоў з паўтара і яшчэ сабе насаліла цалу сяледзяўку. А сёлета як уродзяць дак ужэ намарыную. *Ст. Дзяв., Слонім. р.*

ЕСЦІ ПРАСІЦЬ. *Жартаўл., іран.* Парваны, паношаны. Туфаль есьці просіць, занясу Адаму, наносьнік тут трэба. *Пр., Стаўб. р.* Калі будзяш там, ні забудзься купіць Мішку чаравічкі, бо гэтыя саўсім парваныя, есьці просяць. *Там жа.*

ЕСЦІ ХЛЕБ з ч а г о. Гл. ХЛЕБ ЕСЦІ з ч а г о.

ЕСЦІ ЯК НЕ Ў СЯБЕ (як у бочку). *Асудж.* Многа есці. Што гэто ты сягоньні ясі як не ў сябе? Мусіць, прагаладаўсё ці ў гасьцях павячэрацъ ні далі? *Жац., Стаўб. р.* Напусьціла гэтых парасят поўны двор, есьці ні набрацца. Ядуць як ні ў сябе. *Сав., Стаўб. р.* Татарыцкі той еў як не ў сябе. Зь Міра пакуль прыедзя, двакілёвую булку зьесьць. І абет само сабою. *Там жа.* Немач яго ведае, чаго ён такі худы. І есьць, здаецца, як у бочку. *Мач., Бабр. р.* Пасынак шкарлацінам балеў, і яму на галаву пала, быў як дурны. А есьць як не ў сябе. Хлеба тры булкі ўложыць, цэлу граду цыбулі пашчыпіць, а тады ўсю ночачку ня сьпіць. Пашці пяць гадоў так гурувала. *Ляўк., Арш. р.*

ЕСЦЬ ХОД н а к а г о, н а ш т о. Вялікі попыт на каго, на што. У гэтум году ест хот на сьвіня, руп сорак тры за кіло жывого весу плацяць, хто здае на базу. *Сав., Стаўб. р.* Пішучыя машынкі хто вязе, на граніцы не прапускаюць, а гэтыя арыфмометры дак у дзесяць рас дарошшыя, чым у нас. Ест хот на гэтыя «Феліксы», страшны попыт там на іх. *Там жа.* А ці помніш ты, нек аднаго году была ў міне сьвіня чорная — вялізная-вялізная, можа два мэтры даўжынёй. Прывезьлі на базар (у Стоўпцы), мо пятнаццаць загатавіцяляў кала нас. Я рада-рада, што купцэ стаяць—ход будзя. І той рас

прадала па руп пятнаццаць. А цяпер бы я азалацілася, кап такую сьвіню мела! *Там жа.* От слыўкы́ крыху родят, алэ мусыть ходу на іх нэ будэ, пропадуть, будуть дэшэвые. *Бот., Пін. р.*

ЕШ РАСПЕРАЖЫСЯ. Еш колькі хочаш. У нас, як пад гот, трускавак еш расперажыся. І ў Мінск тады возім, і дома здаём. *Сав., Стаўб. р.* Некалі пат сьвята напытлюяш пшаніцы, напячэш булак, еш расьперажыся. *Там жа.* Цяпер дак еш расьперажыса, а то ж, бывала, німа свайго, галадай, купіць ні было за што і ні было дзе. *Гр., Слуц. р.*

## Ж

ЖАБА НА ЯЗЫКУ НЕ СПЯЧЭЦЦА ў каго. *Асудж.* Хто-небудзь вельмі балбатлівы, не ўмее трымаць сакрэты. Хіба ш ты не ведаеш той Стэпкі?! Нашла каму сказаць! У яе жаба на языку не сьпячэцца. Абы што пачула, так і панясе па вёсцы. *Міл., Маст. р.*

ЖАВАЦЬ ДЫ НЕ ВЫПЛЮНУЦЬ што. Карціць паведаміць пра што і страшнавата пачуць адмоўны адказ. Зайшлі сыны, пасадзіла я іх за стол. Выпілі, закусілі. А меньшы, Жоржык-мой, усё неік гаворыць намёкамі, намікаіць тайк на нівесту. Я й здагадалася, але кажу: «Што ты жвеш да не выплюняш? Што ты хочаш сказаць да ні 'сьмелісься?»—«Мамачка, ты ня будзіш проціў, калі я прывяду сваю нівесту?» *Ульян., Сен. р.*

ЖАДАМ ЖАДАЦЬ. Вельмі моцна хацець. Да сьвякроў нявехны жа́дам жадала, ча́кам чакала. *Сал., Нясв. р.* Сьвякроўка да нявехну да жадом жадала, у вішнёвом садочку хатку збудавала. *Кук., Дзярж. р.*

ЖАЛОБНЫ СТОЛ. Бяседа ў памяць аб памёршым, памінкі. І Шагун з Аннай Сямёнаўнай, і Нікалай Сьцяпанавіч пашлі на жалобны стол, утраіх пашлі. *Сав., Стаўб. р.* Ішлі зь вячэры, ж жалобнага стала зь ім, то казаў, ні магу, слабо здароўё, цяпер кавалём адно, адмовіўся ад электразваршчыка. *Там жа.* Жалобны стол атправілі, усе разышліся, адно тры кабеці асталіся, тыя, што памагалі. *Гор., Стаўб. р.* Купецця кіло пяць кілбас, мяса кіль колькі, яшчэ сяго-таго і адбудзецця жалобны стол. *Там жа.*

ЖАЛОБУ НАСІЦЬ. Гл. НАСІЦЬ ЖАЛОБУ.

ЖАРТАЎ НЕ ПАЗНАЦЬ. Не мець пачуцця жарту,

гумару. Рас на перапынку як яны (вучні) там захадзіліса, Клара нешта пісала, а ён лес да яе з заляцаньнямі. Дак яна, жартаў не пазнаўшы, як пісала, ручка эта сь пяром як была ў руццэ, так наотмаш і сунула тым пяром у твар. *Гр., Слуц. р.* Гналі ў нас самагонку. Бронак напіўся, ідзе па вуліцы, ногі адна сюды, другая туды. А едзя салдат на кані. Бронак да яго: «Чаго ты разьягджаяш тут?» А той жартаў ні пазнаў да шомпалам па карку, па карку! *Пр., Стаўб. р.*

ЖУЙМА ЖАВАЦЬ. Моцна балець. Вот тая нага, што ўдырыла колісь, так зноў баліць. Жуйма жуе. Мо якая непагадзь будзя. *Ал., Калін. р.*

ЖЫВАТОМ ГОЛЫМ СВЯЦІЦЬ. Гл. СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМ ЖЫВАТОМ (целам).

ЖЫВАЯ ДУША. Чалавек, асоба, істота. Вясной ці во летам хоць чалавека ўвідзіш, а зімой нідзе жывой душы ні ўвідзіш. *Ульян., Сен. р.* Аднаму, от як той Тацьяне, жыць затна (вусцішна). Сядзіць у полі, хата на вотшыбе, за дзень жывое душы не ўбачыць, дак хоць кварцірантаў пусьціць, усе ш есь с кім абазвацца. *Гр., Слуц. р.* А яны пашкадавалі забіваць гэтага салдата і пусьцілі яго жывым у далёкай старане ў якой-та там, у пушчы ў нейкай бязьлюднай такой, што ні жывой душы ні было там. *Дайг., Віл. р.*

ЖЫВОГА МЕСЦА НЕ ЗАСТАЛОСЯ (няма, нет). Падрапаны, увесь збіты, знявечаны. Памятаю, вясной забраўся ў суседні агарот і парваў граду агуркоў. І за гэта мне так папала, што жывога месца не засталося. Тры тыдні насіў на сьпіне сінякі. *Дайг., Віл. р.* Адзін раз воччым так зьбіў матку! Ляжыць уся ў крыві, бедная, біс памяці сярёд мыста (падлогі), жывога места не асталося. Думалі, што йна ўжо ня выжывець. *Раб., Слаўгар. р.* Пацарапала ты рукі, жывога места нет. *Ліцв., Карм. р.* Дзе наша кошачка ўночы была? Убегла раніцаю ў кухню і села кала міне як ні свая. Што гэто? Я яе на рукі, гляджу, а на ёй жывого месца німа, уся пацарапаная, падраная. Няйначай з зайцам ваявала. Аш шкода зрабіласё. *Сав., Стаўб. р.*

ЖЫВОТ НАЕСЦІ. Гл. НАЕСЦІ ЖЫВОТ.

ЖЫВОТ У СЕМ СТОЛАК. *Іран., жартаўл.* Вялікі (пра чалавека, які многа і часта есць). І дзе ў яе гэта яда дзяецца? Хіба жывот у сем столак? *Кав., Старадар. р.* У цібе, мусіць, жывот у сем столак, усё ясі й ясі,

канца німа. *Сав., Стаўб. р.* Напрэцца аладак, потым міску верашчакі ўложыць, міску забелянаго крупніку ці зацірхі — наесца, наесца сабе, жывот у сем столак, ці што ў яго. І пашоў на работу. *Гор., Стаўб. р.*

ЖЫЛЫ ВЫЦЯГНУЦЬ з каго. Гл. ЦЯГНУЦЬ ЖЫЛЫ (г'ізунты) з каго. ВЫЦЯГВАЦЬ ЖЫЛЫ з каго.

ЖЫЦЬ АДНУ ПЯТНІЦУ. Вельмі мала. Хацела паехаць Пархімовічыха ў Шчэбеж, а як жа яна паедзя?! Старая, самой жыць асталосё адну пятніцу, а яшчэ ехаць выбіраяцца. Хто цібе, галупка, выпіша, хто завязе да той Ядзі? *Сав., Стаўб. р.*

ЖЫЦЬ З КАПЕЙКІ. Гл. ЖЫЦЬ З РУБЛЯ (з капейкі).

ЖЫЦЬ З РУБЛЯ (з капейкі). Жыць толькі на грошы. Добра ў вёсца. І ягада табе свая, й бульба, й грыбоў назьбіраіш. Ні то што ў горадзе — жыві з рубля. *Хож., Маладз. р.* На сяле й цыбулька свая, і гурочкі. А ў горадзі жыві з рубля, ўсё купі да купі. *Шаш., Стаўб. р.* У нас усё саваё: й малачко, й яечка, ня то што ў горадзі ў гэтым ўсё купі. Жывеш с капейкі, туды бяжы, сюды бяжы. *Язн., Віл. р.*

ЖЫЦЬ І ПЕСНІ ПЕЦЬ. Гл. ЖЫЦЬ ПРЫПЯВАЮЧЫ.

ЖЫЦЬ ПАНАМ. У матэрыяльным дастатку. Антон жыве панам, чаго ў яго німа. Дабра ўсякаго, грошай много, хату як шклянку паставіў. *Сав., Стаўб. р.* Цяпер вунь нават Адась жыве панам: хату добрую паставіў, цілівізар глядзіць, а то галадаў раней. *Гор., Стаўб. р.*

ЖЫЦЬ ПРЫПЯВАЮЧЫ. ЖЫЦЬ І ПЕСНІ ПЕЦЬ. Матэрыяльна вельмі добра жыць. Яна за ім жыве прыпяваючы. *Вяліч., Сал. р.* Ён жыве цяпер прыпяваючы. Пеньсю добру палучá. Да яна дванаццаць рублёў. У кузьні наплешча на сто рублёў — кавалём яшчэ робіць. *Гр., Слуц. р.* Жылі п прыпяваючы, калі п не жылі прапіваючы. *Бял., Лаг. р.* У мяне й соткі, у мяне й садок, у мяне й агурок, у мяне й цыбулька свая. У мяне, брат ты мой, сьвіней двоя. У мяне кароўка, пеньсія сорак рублёў. Жыві й песьні пяі. *Мік., Мядз. р.*

ЖЫЦЬ СВЕТУ ПРЫКУПІЎШЫ. Шчасліва жыць. Мне каб гаспадыньку ў хату... Кап магла ў печы выпаліць, што трэба па хазяйству зрабіць. А я сталярнічаў бы. І жылі б мы зь ёю сьвету прыкупіўшы. *Бял., Лаг. р.*

ЖЫЦЬ У КУЧЫ. Разам, супольна з маладымі весці гаспадарку. Як жывеш у кучы, ўсякся бывая. Бывая, што й дачка ўсердзіцца. Бывая, зяць усердзіцца. *Ульян., Сен. р.*

ЖЫЦЬ ЧУЖЫМ ТРУДОМ. *Незадав., дакор.* Карыстацца плёнам працы іншых, прысвойваць людскія здабыткі. Давыд увесь час чужым трудам жывець. Век у калхос на работу ні ходзіць, а жывуць як! *Ляўк., Арш. р.* Яна ўвесь век чужым трудом жыве. Юзэфа рабіла як вол, а яна — што! Кап смашно зьесьці, пагуляць, а на рабоці ні перадасьць, не. *Сав., Стаўб. р.*

ЖЫЦЬ ЯК БАБІЧ. Жыць адзінока, без жонкі, дзяцей. Гляньця, Адаму семдзісят чатэры гадэ і ніжанаты. Меў васімнаццаць дзесяцін зямлі й дзеўкі ні дабраў. І харошы, гляньця, й ні дурны, а дзеўкі ні дабраў. Жывè як бабіч. Кашулі ніхто ні памыя, есьці ніхто ні наварыць. *Пр., Стаўб. р.*

ЖЫЦЬ ЯК НАБЯЖЫЦЬ. Жыць так, як прыходзіцца, як складваюцца абставіны. Трэба жыць як набяжыць. Набяжыць добро й набяжыць дрэнно, а жыць трэба. *Сав., Стаўб. р.* Што ты, Міхашча, зробіш? Трэба жыць як набяжыць. Кепско, аей як кепско адной. *Там жа.*

## З

ЗАБІВАЦЬ (забіць) ДУХІ (бáкі) к а м у. *Незадав.* Не даваць магчымасці гаварыць каму; сказаць што, перабіваючы гутарку каго. Некія нівыхаваныя дзеткі ў Манькі. Прыйдзяш, ну, заб'юць духе, слова сказаць ні можно, на шыю вешаюцца, па кішэнях лазяць — дай цукерак. *Марх., Стаўб. р.* Заўсюды ты мне ні дасі слова сказаць, заб'еш духе мне. То калі ты такі разумны, рабі сам, ні камандуйся тут. *Сав., Стаўб. р.* С Тадзікам ты не згаворысься, о не! Бáкі заб'е, слова ні дасьць сказаць табе: ты яму слово, ён табе дзесяць. *Жац., Стаўб. р.* Хацела папрасіць, кап прыходзіла да мяне пасядзець, такія доўгія вечары цяпер, але мацяры пабаялася, забівая духе маладзіцы, ні дасьць слова выгаварыць. *Гор., Стаўб. р.*

ЗА БЛІЗКІ СВЕТ. Гл. БЛІЗКІ СВЕТ.

ЗАВАРЫЦЬ КАШУ. КАША ЗАВАРЫЛАСЯ. Пачынаць складаную, клапатлівую, часам непрыемную справу; наспела нешта нядобрае. Гэто трактарыст кашу ўсю

заварыў. Брыгадзір сказаў ехаць пад лес араць, а ён папёрся ў Мінск, трэба было да брата нечаго, а тут якрас камісія некая с праверкай прыехала. *Гор., Стаўб. р.* Тут некая каша зноў заварваецца, бо ранічкаю прыягджаў участковы, паклікалі бугалцяра і нешто доўго гаварылі. *Там жа.* От гэты Мар'ян заварыв кашу! Хватыть на п'ять годов грошыма расхлёбватыса. *Вел., Пін. р.*

ЗА ВАЧЫМА. Не тут, не дома, далёка. І цэлы век гетак: ні рахубы (парады), ні рады, ні савета, ведама, за вачыма дзеці, ні дайці, ні даехаць. *Гр., Слуц. р.*

ЗА ВЕЛЬКІ ГРОШ. (За) добрым заработкам (гнацца). Штатная работа ў калхозі нарасхват. Хоць і ўставаць рано трэба, от, як даяркі, скажам, хоць і цяшко, але за велькі грош гоняцца. *Сав., Стаўб. р.* Пагнаўсё за велькі грош, много зарабляя, але здароўё слабаё, які ён зрабіўсё, гэты чалавек. *Жац., Стаўб. р.* Нявестка вельмі ш дасужая. Яна перадавая ў калхозі, робіць як матор, заўсюды на цяжэйшых работах, каб зарабіць, за велькі грош гоніцца. *Там жа.*

ЗАВЕСЦІ КАМПАНІЮ з кім. Гл. КАМПАНІЮ ВАДЗІЦЬ (весці) з кім.

ЗАВІДКІ БЯРУЦЬ каго. Зайздросціць каму. Гляну на Пятроўскае хлопцаў, за́віткі бяруць, ото, дзеці: ні вып'я, ні пракурыць, зь людзьмі хорашо жывуць. Уродзяцца ш такія! *Сав., Стаўб. р.* Цябе за́віткі бяруць? Ні прыбядняйся. І ты добро жывеш, німа чаго другім завідуваць. *Ас., Стаўб. р.* Аш завіткі бяруць, вот грыбоў назьбіраў, і палядзі якія — адзін у адзін. Дзе гэто ты хадзіў? *Жац., Стаўб. р.* Пагляджу на Маньчыных дзяцей — бяруць завіткі, такія харошыя, паслушныя, ціхія, рабацяшчыя. *Гор., Стаўб. р.*

ЗА ВУШАМІ ПІШЧЫЦЬ. Надта кіслая (пра страву). Наварыла ты сёнячы некай капусты, аш за вушамі пішчыць. *Веч., Стаўб. р.* А мой любіць! Навару капусты за вушамі пішчыць, а ён есьць і хваліць, кажа, люблю. *Сав., Стаўб. р.* Гаркачэча, зялепуха, кіслата, за вушамі пішчыць, а яны ш ядуць (яблыкі), а вішаняк ні хочуць. *Там жа.* Пашлі ў лес па ягады, дак у Старом лесі Міша напаў на касьцянкі, а яны ш кіслыя-кіслыя, пішчыць за вушамі, а ён іх есьць, чорныя (ягады) ні хоча, а гэтыя есьць. *Там жа.*

ЗА ВУШЫ НЕ АДЦЯГНЕШ каго. *Жартаўл.* Вельмі смачная, вельмі падабаецца (ежа, страва). Баба на-

ша некалі як сьпячэ пірох с тварагом, то ясі, за вушы не аццягняш. *Гор., Стаўб. р.* Саладуху с сырое мукі жытняе варылі. Салодзянька, смачна. За вушы ня аццягняш. *Гр., Слуц. р.*

ЗА ВУШЫ ЎЗЯЦЦА. Гл. ЗА ГАЛАВУ (за голаў, за вушы) УЗЯЦЦА.

ЗАВЯЗВАЦЬ СВЕТ к а м у. Гл. СВЕТ (рукі) ЗАВЯЗАЦЬ (завязваць) к а м у.

ЗА ВЯРСТУ (за кіламетр) АБХОДЗІЦЬ. ЗА ВЯРСТУ (за кіламетр) УЦЯКАЦЬ. Не мецъ жадання сустракацца, бачыцца з кім; ісці не прама, а рабіць круг, каб пазбегнуць сустрэчы з кім. Думала, што падружым, па-сусецку жывучы, а замест той дружбы — сварка. Гэто ш ідзе кала плоту і кап слово сказала. То ні хачу яе й бачыць, за вярсту ціпер апходзіць буду, ні гляну. *Жац., Стаўб. р.* Нашто ты ізь ей чапаісься? Яе ш нада за кіламетр апходзіць, іна ш дурная сусім. *Н. Тур., Уш. р.* Мы пастушкі малыя, як от дзе ў шкоду скаціна ўскочыць да асаднік застаня, то ўжо дасьць. Мы яго баяліся, уцякалі за кілометр. *Сав., Стаўб. р.* Убачыць того чалавека, што горо ім зрабіў, і за вярсту яго апходзіць, бачыцца зь ім ні хоча. *Жац., Стаўб. р.* Я яшчэ ў том лесі напалохалася, то й ціпер баюсё, абходжу за вярсту. *Ас., Стаўб. р.* Як пакажацца з-за гары прыкашчык, то мы, малыя, каровы па хвастах, па хвастах і ў ёлкі, уцякалі за вярсту, баяліся, кап каровы ні забраў. *Веч., Стаўб. р.*

ЗАГАВОРВАЦЬ ЗУБЫ к а м у. *Дакор.* Пабочнымі размовамі наўмысна адцягваць ўвагу субяседніка, хлусіць, гаварыць няпраўду. Вот перастань ты ёй загаворваць зубы, скажы праўду, што ні возьмяш с сабою. *Зал., Стаўб. р.* Антошча хітрая-хітрая, думая, зубы мне загаворыць. А я прамо сказала, кап доўго ні цягнулі і прывезьлі мне мукі, бо так яны й ні падумаюць прывесьці. *Сав., Стаўб. р.* Ня вер, зубы загаворвая: учоро казаў, што цэлую карзіну прывалок (грыбоў), а то німа. Ест, я ведаю, што ест. *Жац., Стаўб. р.*

ЗА ГАЛАВУ (за голаў) БЯРЭ. Адчуваецца боль, баліць галава (ад пэратамлення, стомленасці, зморанасці і інш.). Гэдак цяшко ціпер вучыцца, за галаву бярэ, хай яно праваліцца тоё вучэнё. *Хал., Стаўб. р.* Печ выпалю, стаяк напалю, за голаў бярэ, ні магу пераносіць гарачыні. *Там жа.* Нека німагушчая я зрабілася, чуць што — бярэ за галаву, кладуся паляжаць. *Сав., Стаўб. р.*

ЗА ГАЛАВУ (за голаў, за вушы) УЗЯЦЦА. Жахнуцца, моцна здзівіцца, быць уражаным чым. Маруська за галаву ўзялася, калі паглядзела,— адны тройкі ў дзённіку. *Жац., Стаўб. р.* Гэта ш забылася загнаць (свіней). А раніцаю ўстаю, зірк у акно — сьвіня ходзяць па пругмені! Аш за голаў узялася. *Ас., Стаўб. р.* Паглядзі, што с пасылкъй стала, ой-ой. Памідоркі пабіліся, пячэньня рассыпалася, каша стала, гурчыкі мокрыя. Есьлі б яна паглядзела на сваю пасылку, то б за вушы ўзялася. Ой-ой, напішу (нявестцы), каб больш ні слала. *Ляўк., Арш. р.*

ЗАГЛЯДАЦЬ У БУТЭЛЬКУ. Часта піць (алкагольныя напіткі). Ты, мусіць, Віцік, часто заглядаяш у бутэльку? Кінь ты гэто, дзетак глядзі, бо прападзеш, ты ж за рулём сядзіш. *Гор., Стаўб. р.* Астаўсё на рабоці. Работа ні цяшкая, конь у руках, але ў бутэльку заглядая. Гэто ўжо нідобро. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАГНАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ к а г о. Давесці да смерці. Такі чалавек быў, але што ш ты зробіш, хвароба яго загнала на той сьвет. *Гор., Стаўб. р.* Яе (цётку) дзеці на той сьвет загналі, ні слухалі яе, распусьціліся бяз бацькі. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАГНАЦЬ У АГЛОБЛІ к а г о. Прымусіць каго падпарадкоўвацца, слухацца. Гуляй, гуляй, а то скора ў школу пойдзяш, тады я заганю цябе ў аглоблі, карчом сядзець будзяш. *Райч., Пух. р.* Ты мяне даўно ўжо ў аглоблі загнаў, камандуяш, як хочаш. А што я скажу, для цібе гэто пустое. *Ст. Св., Стаўб. р.*

ЗАГНАЦЬ У ГРОБ к а г о. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) к а г о.

ЗАГНАЦЬ У ДАМАВІНУ к а г о. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) к а г о.

ЗАГНАЦЬ У ТРУНУ к а г о. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) к а г о.

ЗА ГОЛАЎ БЯРЭ. Гл. ЗА ГАЛАВУ БЯРЭ.

ЗА ГОЛАЎ УЗЯЦЦА. Гл. ЗА ГАЛАВУ (за голаў, за вушы) УЗЯЦЦА.

ЗАДАЦЬ ПАРЫ к а м у. *Паграж.* Моцна лаяць, сварыцца на каго. Куранёнык цыгая, сьвіньні крычаць. Ідзі, Мішка, кармі, а то Вульляна задасьць пары. Ідзі, пáрыбак. *Ліцв., Карм. р.*

ЗА ДЗВЕРЫ ВЫСТАВІЦЬ каго. Гл. ВЫСТАВІЦЬ ЗА ДЗВЕРЫ каго.

ЗАДЗЕЦЬ ЗА ЖЫВОЕ каго. Глыбока ўсхваляваць, каго ўпікнуўшы, у гутарцы закрануць справы, учынкі, напомніўшы пра непрыемнае. Шчапіліся сварыцца кума з браціхаю, чуць ні пабіліся, а потым кума задзела яе за жывое, сказала праўду. Браціха адразу сьціхла й слова ні сказала. *Кунц., Кл. р.* Маруся нічого ні казала, маўчала, толькі слухала. А як Пятрусь задзеў за жывоё, адразу, як чорт, на яе ўсьсеў, ні панаравіласё. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАДЗІРАЦЬ ГАЛАВУ перад кім. Гл. ЗАДЗІРАЦЬ (драць) НОС (галаву) перад кім.

ЗАДЗІРАЦЬ (драць) НОС (галаву) перад кім. *Асудж., непав.* Ганарыцца, важнічаць перад кім, праяўляць фанабэрыю ў адносінах да каго. Нешто мой сусет стаў задзіраць нос. Што ш, разбагацеў і з начальствам водзіцца. *Сав., Стаўб. р.* Пажыве трохі ў горадзе і тады йдзе па вуліцы й задзірае нос, краля такая. *Мач., Бабр. р.* Тоня, як стала рабіць у школі, та ўжэ гэдык задаецца, што страх. Задзярэ галаву й ходзіць як усё роўно на яе ўвесь сьвет глядзіць. *Востр., Зельв. р.* Я ўжо сьміялася кала вашых дзіўчат: «Гэта вы цяпер насы дзірацё— студзентачкі, а во пасьля распрадзяленьня як зашлюць во ў такую дзірэўню, як наша, у пук пойдзіць дзеўка. *Ульян., Сен. р.* Гэта ш яна нос дзярэ, гэта ш ёй роўні німа тут, кажа: «У мяне даўней было, і цяпер маю». *Сав., Стаўб. р.* Юзічыха старого ні губляя, свайго дзяржыцца, дзярэ нос. *Там жа.*

ЗА ДЗЯКУЙ. Задарма, бясплатна, без ніякай платы (рабіць што). Шыфір прывізла за дзякуй, ні плаціла. *Ульян., Сен. р.* Хто табе будзя рабіць за дзякуй, заплаці, цётка, зробім. *Жац., Стаўб. р.* Сват табе й за дзякуй загародзіць (плот), толькі трэба добра папрасіць чалавека, пачаставаць. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАДРАЦЬ ДЫБДРЫ. Гл. ЗАДРАЦЬ ДРЫБДЗІ (дыбдры).

ЗАДРАЦЬ ДРЫБДЗІ (дыбдры). *Іран.* Памерці. Трэба хаваць грошы, бо як задзяру дрыбдзі, то ні будзя за што прысыпаць. *Ліп., Вор. р.* Учора шчэ гараў, а дзісь дыбдры задраў. *Там жа.*

ЗА ЖЫВАТЫ БРАЦЦА. Моцна і шчыра смяяцца, смяяцца ад душы. Зьбяруцца, бывало, на лузі й байкі

расказваюць, выскаляюцца, за жываты бяруцца бабы, гэдак рагочуць. *Веч., Стаўб. р.* Натта сват смешны быў. Як пачаў гаварыць, аткуль словы ў яго бяруцца. І як скажа, як скажа, ажно за жываты бяруцца ўсе. *Дараг., Маст. р.* А Максім п'яны на плёчах у пана прыгаворвае: «Хоць рас на панові покатаюса, ні заўсёды ім на нас езьдзіці. Но-о-о, пане! Хучэй бежы». А мушчыны й дзеці сьледом аш за жываты беруцца. *Мур., Пруж. р.* Пашоў рас п'яны Саша купацца. Палажыў адзежу на беразі й палес. А жацяраўскія хлопцы за яе й ходу. Крычыць дзяцько у кустах голы-галюсінькі, а яны пэнкаюць са сьмеху, аш за жыватэ бяруцца. *Сав., Стаўб. р.*

ЗА ЖЫВОЮ ГАЛАВОЮ. Пры жыцці (сябе самога ці каго). Трэба дастаць дзерава, падняць хату і падлогу памяняць, дашчок нарэзаць. Хачу за жывою галавою хату настроіць. *Гр., Слуц. р.* За жывою галавою (мужа) я клопату ні мела. І дроў навязе, і намеля, і ці купіць што, ці прадаць. А ціпер ўсё самой трэба. *Сав., Стаўб. р.* А што ім (дзецям) за жывою галавою? Ні шманаюць (турбуюцца) сабе. Бацько і дастаня, й прывязе. *Там жа.* Хачу паставіць дзецям хату за жывою галавою, грошай сабрала трохі. *Там жа.*

ЗАЖЫЦЬ ПАНАМ. Гл. ЖЫЦЬ (зажыць) ПАНАМ.

ЗА ЗУБАМІ ДЗЯРЖАЦЬ. Гл. ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.

ЗАЙЧЫКАЎ ХЛЕБ. Рэшткі ежы, прывезенай дадому з лесу, лугу, поля і г. д., якую прапануюць з'есці дзецям (з дзіцячага лексікону). От як, бывала, езьдзілі на балота — у Поўхава ці Карўзера — бралі з сабою хлеп, да той хлеп ня ізьзясі, прывязеш ў торбацца ці кішэні, дак то зайчыкаў хлеп. Прыўёс зайчыкаво хлеба, што зваляецца ў торбя ці кішэні. *Гр., Слуц. р.* Ого, помню, прыедзя тато аткуль, а я адразу ў кішэню, шукаць зайчыкаў хлеп. А які ён смашны, як успомню. Ведамо, малыя. *Сав., Стаўб. р.* Ны плач, малэнька. Зарэ (хутка) прыдэ тато, прынысэ тобі зайчыкового хліба да сала, да будымо істы. Ой да смачно! *Фран., Іван. р.*

ЗАКАПЫЛІЦЬ (надуць) ГУБЫ (лупы, грыбы). *Асудж., дакор.* Загневацца, зазлаваць, надзьмуцца на каго; не размаўляць з кім, загневаўшыся. Чаго гэто ты ўжо закапыліў губы, йдзі патходжвацца й пойдзям, людзі чакаюць, нідобро. *Сав., Стаўб. р.* Ей два слова ні скажы, адразу лупы закапыліць. *Няс., Навагр. р.* Ідзе вуліцаю

Адаміха, надула губы і ні глядзіць, ні скажа «дзень добры» нават. *Сав., Стаўб. р.* Марынка ўгневалася на Аліка, губы закапыліла, адварочваяцца. А ён жа ні вінаваты саўсім, ні чапаў ён яе. *Там жа.* Бар'ясь губы надуў і йдзе, як сьвіньня, ні гляня на пругмень. Вот людзі, вот нелюдзі! *Гор., Стаўб. р.* Во ўжо хлопіц! Чуць што, грыбы надьме і гатоў заплакаць. У каго ён такі ўдаўся, ні знаю. *Кр., Чачэр. р.*

ЗА КАРАЛЁМ (за царом) ГАРОХАМ. Вельмі даўно. Расказваяш ты невядомо што. Можа калі за каралём Гарохам і было, што тут лес рос і рэчка цякла. Але ў нас ніхто ні помніць тут ні лесу, ні рэчкі — адно полё. *Жац., Стаўб. р.* Во ўспомніў! Яшчэ за царом Гарохам у той хаці вучыліся, спрадвеку, як помню. І вучыцяль жыў у бакочаццы, я ш помню. Гэто ціпер новую школу паставілі. *Сав., Стаўб. р.* А братко ты мой! Прыпомніў. Калі тоё было, можа за царом Гарохам. Німа ціпер ні тых брычак, ні той збруі. *Ас., Стаўб. р.*

ЗАКІДАЦЬ ВУДЫ Гл. ЗАКІНУЦЬ (закідаць) ВУДЫ.

ЗА КІЛАМЕТР АБХОДЗІЦЬ. Гл. ЗА ВЯРСТУ (за кіламетр) АБХОДЗІЦЬ.

ЗАКІНУЦЬ (закідаць) ВУДЫ. У гутарцы асцярожна намякаць на што, непрыемнае субяседніку, папярэдне дазнавацца пра што. Глядзі, куды яна закінула вуды. А я, дурная, думала, што яна нічого пра муку ні ведая. *Хал., Стаўб. р.* Куды гэто ты закідаяш вуды? Што ты ведаяш пра яе, балбатун? А хочаш яшчэ быць добранькім. *Гор., Стаўб. р.*

ЗАКІНУЦЬ СЛОВА за каго. Заступіцца, папрасіць за каго. Што я цібе буду прасіць, Броніська: закінь ты там слово ў канторы за майго, можа, гэты доўг як-небуць зьнімуць, можа, плаціць ні трэба будзя, дзе ш тых грошай набрацца. *Ас., Стаўб. р.* Правда, солтус закінув слово за ёго, то пустілі потым додому. *Цер., Пін. р.* За міне ніхто ні пастаіць, слова ні закіня, баяцца. Прасіла Сашку, кап закінуў слова, сваяк жа, то дзе там! Ні мурмур. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАКРУЦІЦЬ ХВАСТОМ. *Асудж.* Паводзіць сябе не так, як усе, раптоўна запярэчыць, не згадзіцца. У нас жэншчына адна закруціла хвастом, кінула мужыка, паехала зь некім на Севяр, у Карэлафінскую рэспубліку. *Пр., Стаўб. р.* Чаго гэто Волька Костусява закруціла хва-

стом. Я думала, што паедзям разам, і мне весялей будзя. *Жац., Стаўб. р.*

ЗАЛАЗІЦЬ У ДАЎГІ. Гл. У ДАЎГІ ЗАЛАЗІЦЬ (улазіць).

ЗАЛАМАЦЬ РУКІ. Гл. ЛАМАЦЬ (заламаць) РУКІ.

ЗАЛАТЫЯ ГОРЫ. Казачнае багацце, дастатак. Сколько чоловік нэ жывэ, то шчоб ёму, скажом, золотые горы, коб вун нэ муг оком окынуть богатьтя, а всэ б вону мало. *Бот., Пін. р.* Яму кап нівядомо што, кап залатыя горы, то ўсё кепско было п. Такі ўжо жмінда ўрадзіўсё, яму ўсё мало. *Сав., Стаўб. р.* Салдат абяцаў ёй залатыя горы, а ў бабы доўгі волас, а вум кароткі, паверыла, кінула мужыка і скруцілася ў сьвет. *Там жа.*

ЗАЛЕЗЦІ У КІШЭНЮ ч ы ю, д а к а г о. Незаконна карыстацца чым дабром, ашукваць, абкрадваць каго. Я ўжо зразумеў. Во ў нас у Залужы быў поп. Ен харашанько залезя ў кішэню, возьмя, але дзякуй ні скажа. Так што адна халера ці ксёнц, ці поп. *Сав., Стаўб. р.* Іх судзілі, бо залезьлі ў чужую кішэню, калхознаё жыто кралі, а ты кажаш — ніспраўядліво. *Гор., Стаўб. р.*

ЗАЛІВАЦЬ ВОЧЫ к а м у. *Абурэн., асудж.* Гаварыць няпраўду, хлусіць. Пачаў нешто плявузгаць, што быў панам, што много кароў, авечак некалі было ў яго. Што ты, кажу, заліваяш вочы?! Ці ж гэто ні за маёй памяцьцю было, што я ўжо й ні ведаю? Нічого ў цібе, кажу, ні было, адно рабіў як чорны вол, ні дня ні ночы ні знаў. От гэто то было! *Сав., Стаўб. р.* Нек заходзіць братавая й давай вочы заліваць мне, што дачка яе недзя там у Мінску вельмо много палучая. А якая там дачка! Можа, сем клас прайшла с калідорам разам, то адкуль тыя грошы. Але ж маці хваліцца дачкою. *Жац., Стаўб. р.*

ЗАЛІЦЦА СЛЯЗЬМІ. *Спаг., шкадав.* Горка, слёзна плакаць. Залілася сьлязьмі Алена і расказала маме, што Тамаш (дзяцей у яго ні было, а жыў багата) хочаць купіць дачку, што за дачку даець плацьця шарсьцянае,ватоўку, бацінкі, дзьве хустачкі. *Ульян., Сен. р.* Як убачыла я раняных, залілася сьлязамі, дзе можа й мой так ляжыць і войкая. Сьвету ні бачыла, так мне нек горна зрабіласё. *Гор., Стаўб. р.* Гарыць гумно паўнюсінькаё ўсякаго дабра — ведамо, восянь, а што ш тут рабіць, а што ш чыніць? Тушыць страшно, бо страляюць, пулі сьвішчуць, а дабро прападая. Залілася я сьлязамі, рукі заламала. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАЛІЦЬ ВОЧЫ (слепакі, горла). *Пагардл., абурэн., асудж.* Знаходзіцца ў стане моцнага алкагольнага ап'янення, быць п'яным. Гэто ш нек Юзіка іхняго бачыла, хадзіў с хлопцамі, заліў вочы. Падышоў, праўды, да міне, прывітаўсё, але ледзьвя стаяў на нагах. *Веч., Стаўб. р.* Быў бы і жыўшы (з сям'ёй), але кажды дзень у сталоўку ходзіць, заліець вочы і гатоў. *Зам., Брасл. р.* Набраўся, заліў гэтыя сьляпакі і добро. *Кай., Кар. р.* А Іра паглядзела, што ён залье вочы і тады прыцягняцца гэдакі во, й ні захацела за яго йсьці. *Сав., Стаўб. р.* Залье горла—і дзе яго німа. *Там жа.* І хлопяц харошы, рабацяшчы, ціхі, але вочы залье і ні памагая, прыдзя і сьпіць. *Веч., Стаўб. р.* Віцік Рэнін паслушны: ён і дроў прывязе, і так што паслухая, але любіць выпіць. Горла залье і ўжо робіцца некім дурным, вот ні люблю яго за гэто. *Гор., Стаўб. р.*

ЗАЛЯГАЦЦА АД СМЕХУ. Гл. КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ.

ЗА МАЕЙ ПАМЯЦЦЮ. Гл. ЗА МАЮ ПАМЯЦЬ.

ЗА МАЮ ПАМЯЦЬ. ЗА МАЕЙ ПАМЯЦЦЮ. Пры жыцці, на вяку каго — сведкі, відавочніка падзеі, здарэння. За маю памяць, бывало, пайсьці ў Стоўпцы — рас плюнуць. І пойдзяш, і прыйдзяш, і ўсё паробіш. *Жац., Стаўб. р.* Не за маёй памяцьцю гэто было, Саша, ні помню. Можа й вадзіліся (ваўкі), але, як я помню, то ні лесу, ні ваўкоў у нас ні было. *Гор., Стаўб. р.* Хто яго, дзеткі, ведая. Ні помню, можа ні за маёй памяцьцю й хадзілі (каляднікі), а я ні помню. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАМОК ПАЦАЛАВАЦЬ. Гл. ПАЦАЛАВАЦЬ ЗАМОК.

ЗА НОС ВАДЗІЦЬ к а г о. Гл. ВАДЗІЦЬ (павадзіць) ЗА НОС к а г о.

ЗАПІСАЦЬ (сабе) НА ЛБЕ ш т о. *Паграж.* Добра запомніць што. Другі рас я табе ні буду гаварыць, а як усмалю! Запішы сабе на лбе. *Райч., Пух. р.* Запішы на лбе: калі не будзеш памагаць, есьці ні дам, так і будзяш галодны бегаць увесь дзень. *Гор., Стаўб. р.*

ЗАПІСАЦЬ У ЧОРНУЮ КСЁНЖКУ к а г о. Браць на заметку (за парушэнне дысцыпліны, грамадскіх правоў і інш.), зафіксаваць парушэнне законнасці. Дарэктар паставіць у жыця машыну і старажуя канюшынку. Казалі, Антака запісаў у чорную ксёншку. Табе, кажа,

тут працэнты будуць, дзе спасьвіў. *Пр., Стаўб. р.* Некалі баяліся вучыцяля. Як запіша у чорную ксёншку, то дабра ні чакай — зг'уры кідай школу. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАПЛАЦІЦЬ ЧОРНАЙ НЯЎДЗЯЧНАСЦЮ к а м у. Аддзякаваць злом за дабро. Гадавала, гадавала, а ён заплаціў ёй на старасьць чорнай няўдзячнасьцю за яе дабро. *Гор., Стаўб. р.* Матка іх была харошая-харошая, душу раніла за гэтымі хлопцамі, а доля-то яе была плахая, чорнай няўдзячнасьцю заплацілі дзеці. Глядзела, гадавала, а яны кінулі й павалакліся ў сьвет, кінулі ўсё і павалакліся. Бачыш, як бывая. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАПЛЮШЧЫЎШЫ (заплюснуўшы) ВОЧЫ. *Асудж.* 1. Бессаромна, не адчуваючы сораму. Ужо й ён ідзе, ідзе заплюшчыўшы вочы. Хто яго прасіў, гэтаго чалавека, бес яго тут ні абыйдзяцца. *Жац., Стаўб. р.* Г'ус (мянушка чалавека) сам пашоў (на бяседу) заплюснуўшы вочы, яго ні прыглашалі. *Ліцв., Карм. р.* Валачэцца той кульгавы заплюшчыўшы вочы, што яму тут трэба. *Сав., Стаўб. р.* 2. Без цяжкасцей, лёгка. Паглядзі, што за курыца! Шэсьць рублёў то я за яе заплюшчыўшы вочы ўзяла п. І ні таргавалася п нават! *Сав., Стаўб. р.* Казік заплюшчыўшы вочы зойдзя табе ў той Жацяраў, ён жа тудэю ў школу ходзіць. *Там жа.*

ЗАПРЭГЧЫ Ў ХАМУТ к а г о. Здзекавацца з каго, эксплуатаваць каго. Я вам шчыра скажу, што я прапаў бы пры Польшчы. Пры Польшчы мае дзеці былі б вечныя парапкі, памешчык бы запрох у хамут і век бы паганяў. А цяпер мае дзеці ўсе вышлі ў людзі, асталася апошняя (дачка) таквеле (толькі) такая. *Лоз., Навагр. р.*

ЗАПУСКАЦЬ (запусціць) РУКУ ў ш т о, к у д ы. *Асудж., абурэн.* Прысвойваць што, карыстацца чым незаконна, красці казённае, грамадскае. У нас посьлі вайны старшына такей търбъхват быў, што хацеў, тое й рабіў. Пръдаў лес, грошы ў кішэню. Хату зрубіў, хату гэту пръдаў. Зноў грошы. Стаў руку запускаць і ў калхозный мяшок. І колькі вяровачкі ня віцца, канец будзіць. Рас запусьціў руку ў мяшоў, а тут яго й завізалі. Судзілі. *Ляўк., Арш. р.*

ЗАРАБІЦЬ НА АБАРАНКІ. *Іран., паграж.* Быць фізічна пакараным, заслужыць пакаранне. От ты ў міне заробіш на абаранкі, от заробіш, распусьнік. *Раўч., Пух. р.* Дасьць маці, заробіця на абаранкі, скарэй падмятайця ў хаці. *Жац., Стаўб. р.*

ЗАРАБІЦЬ ЯК ЗАБЛОЦКІ (Блоцкі) НА МЫЛЕ (мыдле). *Іран.* Прагадаць (у гандлі), не выручыць сродкаў, якіх варта прададзенае (жывёла, рэчы і інш.), не атрымаць выгады ад куплі-продажу чаго. Нэхай ідэ ў сьвіт, заробыт як Блоцкі на мыле, колы ў своёму домові тісно стало. *Вел., Пін. р.* Поіхаў Адась у Мэрыку (Амерыку), аж заробыў як Блоцкі на мыле. *Там жа.* Антось робіць варыўню ў суседа. Заробіць ён там як Заблоцкі на мыле. *Вішн., Вал. р.* Кінулася Надзя ў заработкі ў сьвет, а заробя мо як Заблоцкі на мыле. *Бял., Лаг. р.* Павёс Высоцкі ў Мінск сьвіню прадаваць, ну, думаў, заробіць. Аш прыехаў і некі хмурны. «Ну як?» — пытаюсё. «А, дзёшава і ў Мінску, зарабіў, можно сказаць як Заблоцкі на мыдле». *Сав., Стаўб. р.*

ЗА РАБОТАЙ СВЕТУ НЕ БАЧЫЦЬ. Гл. СВЕТУ (божага) НЕ БАЧЫЦЬ (не відзець).

ЗА РАБОТАЙ СВЕТУ НЕ ВІДЗЕЦЬ. Гл. СВЕТУ (божага) НЕ БАЧЫЦЬ (не відзець).

ЗА РОЗУМ УЗЯЦЦА. Гл. УЗЯЦЦА ЗА РОЗУМ.

ЗА РУБЕЛЬ ДВАЦЦАЦЬ КУПІЦЬ (узяць) к а г о. *Незадав.* Пра непрыступнага, незалежнага, самастойнага чалавека, якога цяжка схіліць на свой бок, выклікаць прыхільнасць, ашукаць. А вунь сусет падабраў школьны участак і патсобнае хазяйства — і сьвіня і коні — і распараджаецца як хоча. Разважае як прафесар. Вазьмі ты яго за рубель дваццаць. *Сав., Стаўб. р.* Дзе бачыла! Яна хітрая й дружыць с табою, дачушка, ні будзя, яе за рубель дваццаць ні возьмяш, у яе свая кампанія. *Там жа.* Глядзі ты, малы, а разьбіраяцца, ведая, бачыш, грошы. Цяпер за рубель дваццаць яго ні купіш. Ён табе другі, як стары, адрапартуя. *Раўч., Пух. р.*

ЗАРУБІЦЬ НА НОСЕ. *Паграж.* Добра запомніць што. Сваруся вот, Маруська. Учоро паехаў у магазін, прагуляў усё, што дала. Ну, цяпер хай зарубіць сабе на носі — больш не палучыць, дальбох, ні палучыць. *Мач., Бабр. р.* Гэто ш трэба — гот аддае тую сячкарню. Забраў, панімаяш, на дзень, а ні аддае ўжо гот. Няхай на носі зарубіць — не дам больш, хай як ні просіць. *Сав., Стаўб. р.*

ЗА САЛОМІНКУ СХАПІЦЦА. Гл. СХАПІЦЦА (ухапіцца, хватацца, трымацца) ЗА САЛОМІНКУ (за саломіну).

ЗА САЛОМІНКУ ТРЫМАЦЦА. Гл. СХАПІЦЦА

(ухапіцца, хватацца, трымацца) ЗА САЛОМІНКУ (за саломіну).

ЗА СВЕТАМ. Вельмі далёка, на чужыне. Шкадую яго (сына), меры німа, што сваё дзіця, а я яго ні бачу. За сьветам. Сэрца ні можа датрываць. *Пр., Стаўб. р.* Сястра мая далёко, за сьветам, адна, вельмі хоча, кап я ёй пісала. *Сав., Стаўб. р.* Куды вы паедзяця, гэто ш за сьветам. Пабыла п ў міне, у лес можно пайсьці, на рэчцы пасядзець. *Жац., Стаўб. р.* Пакуль пісьмо дойдзе на тую Нарач, много часу пройдзя, ведамо, за сьветам. *Сав., Стаўб. р.*

ЗА СВЕТ-ВОЧЫ. Далёка, у чужыя людзі. Я яе за сьвет-вочы не пушчу, дзеўчыне чатырнаццаць гадоў, які там розум шчэ, хай канчая дзесяць клас. *Сав., Стаўб. р.*

ЗАСКАКАЦЬ ДРАЗДА. Гл. ПАСКАКАЦЬ (заскакаць) ДРАЗДА.

ЗАСТАЦЦА З НОСАМ. Не мець таго, што хацеў, на што разлічваў, спадзяваўся; прайграць справу. Як пачуў ён гэтакаю мову, дык у другую ш суботу пашоў да маей сусеткі гарэлку піць (у сваты). А тая адразачку згадзілася і пашла за яго. Я засталася з носам. *Пуз., Мядз. р.* Наш Віцік з носам застаўсё: трэба было рабіць тут, палучыў бы новую машыну і зарабляў бы больш, чым у Стоўпцах. *Гор., Стаўб. р.*

ЗАТКНУЦЬ РОТ к а м у. Гл. ЗАТЫКАЦЬ (заткнуць) РОТ к а м у.

ЗАТЫКАЦЬ (заткнуць) РОТ к а м у. *Незадав., дакор.* У нахабнай, грубай форме не даць магчымасці выказаць свае меркаванні, думку. Што ты мне ўсё затыкаяш рот, слова сказаць ні дасі! Пасаромяўся п людзей, як табе ні брытко! *Жац., Стаўб. р.* Ты паглядзеў бы цяпер на тых хлопцаў, якія зрабіліся. Зь імі много ні пагаворыш, разумныя вельмо сталі — заткне рот і слова сказаць ні дасьць. *Ас., Стаўб. р.* Табе гэты чалавек рот затыкая, а ты кажаш, што ён такі ўжо культурны, вывучыўсё. *Веч., Стаўб. р.*

ЗА ХІБ УЗЯЦЬ к а г о. Гл. УЗЯЦЬ ЗА ХІБ к а г о.

ЗАХОДЗІЦЦА СА СМЕХУ. Гл. КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ.

ЗАХОДЗІЦЬ У ЗУБЫ. Гл. У ЗУБЫ ЗАХОДЗІЦЬ.

ЗА ЦАНУ НЕ СТАЯЦЬ. Гл. НЕ СТАЯЦЬ АБ (за) ЦАНУ.

ЗА ЦАРОМ ГАРОХАМ. Гл. ЗА КАРАЛЁМ (за царом) ГАРОХАМ.

ЗАЦЯЦЬ РУКІ з а ш т о. Гл. РУКІ ЗАЦЯЦЬ (залажыць) з а ш т о.

ЗАШЧЫМІЦЬ ЗУБЫ. Стрымаць свае пачуцці, змоўкнуць, згадзіцца супраць сваёй волі, жадання з думкай каго. А бацька як захадзіўся, чаго гэта галата прыехала да яго дачке (у сваты). А посьліка зашчыміў зубы і мусяў згадзіцца з маладым, каб ні сьмяяліся зь яго роду. Ні хацеў даваць даццэ ганьбы. *Карп., Шчуч. р.*

ЗА ЯЗЫК ПАЦЯГНУЦЬ к а г о. Гл. ЦЯГНУЦЬ (пацягнуць) ЗА ЯЗЫК к а г о.

ЗБАГНУЦЬ ВОКАМ. Задрамаць, крыху паспаць. А я падвечар залезла на печ, чытала, чытала, а потым збагнула трошкі вокам. *Сав., Стаўб. р.* Я праз гэту карасінку (керагаз) хату чуць ні спаліла. Было гэто на том тыдні. Паставіла я парасятам (бульбу парыцца), а сама ўзяла г'азэту, «Прамень» прышоў якрас, прылегла пачытаць. Прылегла і збагнула вокам. Добро, што я да гэтаго сну ні вельмо, нек скоро прачнулася. Што гэто? У хаці чорно, дыму поўна хата. *Там жа.*

ЗБІВАЦЬ ЛБЫ. Гл. ЛБЫ ЗБІВАЦЬ (пазбіваць).

ЗБІЦЬ (сагнаць) АХВОТУ. Задаволіць сваё жаданне, здаволіцца. Мой, як прыехаў, адразу за вуды й на возяро. Няхай трохі саб'е ахвоту, аддыхне. У яго ш там у горадзі хватая дзялоў, німа часу лоўляй гэтай займацца. *Мік., Стаўб. р.* Учоро хадзілі ў грыбэ, сагналі ахоту. А такіх харошанькіх, маладзенячкіх прынесьлі! Адно панамакалі і замучыліся, цягаючыся па лесі. *Сав., Стаўб. р.*

ЗБІЦЬ З ПАНТАЛЫКУ к а г о. Гл. З ПАНТАЛЫКУ ЗБІЦЬ к а г о.

ЗБІЦЬ НА ГОРКАЕ ЯБЛЫКА к а г о. Гл. ЗБІЦЬ НА ГОРКІ (на чорны) ЯБЛЫК к а г о.

ЗБІЦЬ НА ГОРКІ (на чорны) ЯБЛЫК к а г о. Бязлітасна збіць каго, моцна надаваць каму. Было вяселё. У клубі гулялі, а потым завяліся біцца. Янка нашаго зьбілі на горкаё яблыко. *Сав., Стаўб. р.* Як пачаў сільгаць (сцябаць) пушкаю — зьбіў на горкі яблык. *Пр., Стаўб. р.* Шэсь нядзель цягаўса, аш да Брэста заўёс (палякаў). А тагды зьбілі на горке яблыка, атабралі кабылу, калёса, вупраш — ідзе бацька с палкаю. *Гр., Слуц. р.* Я мац у прыпол (несла крата) — там нічога нямашака, толькі дзюрка ў новай сукенцы. Вот ужо я плакала!

А матка зьбіла мяне на чорны яблык. *Зал., Вал. р.* Цэлаю нідзелю праліжаў дома, так зьбілі мяне! Матка плачыць, шкода ёй, што міне так сьсінілі, на горкае яблыка зьбілі. *Слав., Талач. р.* Паліцай прыкладам мне па сьпіні рас, другі! Як стаў біць — зьбіў на горкі яблык, кроў пашла. *Ульян., Сен. р.*

ЗБІЦЬ НА ПОРХАЎКУ к а г о. Бязлітасна збіць каго, моцна надаваць каму. Як нап'ецца, сам ні ведая, дзе што паложа. Тады я ўсё, бедная, вінавата, саб'е мяне на порхаўку на чорную. *Аляхн., Маладз. р.*

ЗБІЦЬ РОГІ к а м у. Гл. ПАЗБІВАЦЬ (збіць) РОГІ к а м у.

ЗБІЦЬ ЦАНУ. Даваць меней, чым просяць, таргавацца. Была ўчоро ў Міры на базары, купіла парку парасятак. Купцоў а купцоў! Праўда, і парасят много, але купцоў боляй. Парасятка дарагія. Трохі зьбілі цану, але ўсё роўно дораго. *Сав., Стаўб. р.* Памідоры дарагія ў гэтум годзі. Добро, што падвезьлі на калхознуй машыні, то зьбілі цану гэтым, што на прылаўках продаюць, а так бы ні купіла. *Там жа.*

З ч ы й г о БОКУ КІШЭНЯ ПАРВАЛАСЯ. *Асудж.* Цішком зрабіць непрыемнасць, подласць каму. Гэта ш раней жыла кала нас сусетка. Пахва́пістая баба, ні ш чым ні разьмінецца. Чужое схваця, як усі роўна сваё. Прыгледзілася ёй адна мая курыца. Лічу ўвечара — німашыка. Мне й цюкнула, што гэта зь яе боку кішаня́ парвалася, але нічога ёй ні кажу. Думаю, праверу. *Гран., Маладз. р.*

З БОЛЬШАГА. Крыху, абы як. Як возьмя месьці хату, то ні вельмо. От з большаго трохі падграбе і бягом на рэчку. *Сав., Стаўб. р.* Ты, ўнучка, от трохі, з большаго, ўсё роўно будзям мыць (падлогу). *Там жа.* Астрыгла авечкі. Да цёмно было, сьпяшалася, от з большаго. Да зімы яшчэ абрастуць. *Гор., Стаўб. р.*

З ВАЧЭЙ (стала, зрабілася). Паводле забабонаў, прымхаў — шкода або няшчасце, якія зрабіліся з позірку недобразычлівага чалавека. Што за карова! Васімнаццаць літраў малака дае. Але масло ніважнаё, харошаму чалавеку стыдно даваць. Ужо хадзілі й к вецерынару, й на аналіз насілі — усё здаровае, карова харошая, і што такоё. У нас там некаторыя кажуць, што с ачэй стало. Ест людзі такія, што с кепскімі ачыма, паглядзіць на карову, і стане нешто с ачэй, будзяш карову мецць, і пользы

ніякай. *Вар., Стаўб. р.* А Манячка, гэдак добро ткаліся (кросны), а прышла братавая і шчаравала тыя кросны, з вачэй нешто стало, кросны перасталі ткацца. Як стукну, дак мо підзісят нітак парвецца. *Сав., Стаўб. р.* Нешто няйначай з вачэй зрабіласё, бо як пагоняць на поплаў, то нічого — жырнінько і салодзінько (малако), а як на балото пад Мазура́ — то неко горко, нісмашно. І мало надоіш. *Жац., Стаўб. р.*

З ВАЧЭЙ НЕ СПУСКАЦЬ к а г о. Гл. НЕ СПУСКАЦЬ З ВАЧЭЙ (з воч) к а г о.

ЗВЕКАВАЦЬ ВЕК. Пражыць жыццё, доўга пражыць з кім. Я са сваім пакойнікам Віктарам зьвекавала век, а кап мы калі пабіліся. А то ні ўсьпеў расьпісацца — лупіць гэтую бедную жонку. *Гал., Стаўб. р.* Саша Камар у сваёй старой хаці так і зьвякуя век, а новая стаіць нікончаная гадоў зь дзесяць ужо. *Сав., Стаўб. р.* У старыя часэ, калі цяшко было, абутак доўго насілі. Вунь Міхась мой век зьвекаваў у тых ботах. Яму яго бацько іх зрабіў, харошыя хромавыя боты. Ведамо, надзявалі можа рас на гот. *Жац., Стаўб. р.*

З ВЕРАБ'ЁЎ ШАГ. *Незадав.* Вельмі мала. Жылоса трудна, поля было зь вераб'ёў шах, сям'я вяліка, а падаткі — былі некія мірскія і подачы ўсякія, хлеба хватала толькі да калят. *Гр., Слуц. р.*

ЗВЕСЦІ ВОКАМ. Гл. ВОКАМ ЗВЕСЦІ.

ЗВЕСЦІ ВОЧЫ (глазы). Заплюшчыць вочы. Захацеласё мне цыбулі, узяла пакрышыла й зьела, а потым як легла спаць, доўго ні магла зьвесьці вочы, сьлязіліся й балелі. *Гор., Стаўб. р.* Толькі зьвяду глазы, як апяць піріт глыза́м Грігор Ціханёнък стаіць. *Кал., Дубр. р.* Якей та сон!? Толькі глазы зьвёў, а тут ужо й зъра зъймаіцца, ночка мулуватая. *Ляўк., Арш. р.* Ні ўсьпела я зьвесьці вочы, як чую: нехто йдзе. Я — ў сенцы. Хто там? *Сав., Стаўб. р.* Гэтыя дзеці ні дадуць вочы зьвесьці—бегаюць, ляскаюць дзьвярамі, хай бох крыя. *Жац., Стаўб. р.*

ЗВЕСЦІ КАНЦЫ З КАНЦАМІ. Гл. ЗВОДЗІЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ.

ЗВЕСЦІ (зводзіць, зжыць, страбіць, збаёдаць) СА СВЕТУ к а г о. Давесці да смерці, загубіць, знішчыць, забіць каго. Учора зьвяла са сьвету кошку, вельмі пamоўзьлівая была. *Сав., Стаўб. р.* Напусьцілі кіпятку санціметраў на пятнаццаць, той пашоў у парылку. Яны яго носам у той кіпяток. Чуць са сьвету ні зжылі чалавека —

семдзісят працэнтаў палучыў ажогаў. *Там жа.* А колькі курапатак зрэжаш! Яна (курапатка) сядзіць, аш пакуль і нажом (камбайна) ні задзеняш. Як спугнеш, яна падлятая і во прамо ў матавіло пападая. Аш шкода, колькі птаства зь сьвету зьвядзеш, парэжаш. *Там жа.* Задумаў той чоловік пана со сьвіта стрэбыты, со сьвіта збаёдаты. *Аўсям., Стол. р.* Прапаў чалавек, гарэлка сь сьвету зводзіць. Ні стыда ні сарама. *Гр., Слуц. р.*

З ВІДУ ВЫПУСЦІЦЬ (спусціць). Забыцца пра што, не ўзяць пад увагу. «Чаму ты ні прышла да мяне, радня ш такі? Мне ш было сорак гадоў».— «А я зь віду выпусьціла. Цэлы дзень каровы пасьвіла, набегалась за дзень і забылася, што ў цябе гульня вечырам». *Ляўк., Арш. р.* Вот я зь віду выпусьціла гэтую рыпку, што Мішка прынёс, а трэба ш было на вячэру патсмажыць. *Сав., Стаўб. р.* Марусі Малянчуковае сястра на Украіні, у госьці прыягджала гады два назат. Усім падаркі, гасьцінцы прывезла, а Марусю зь віду спусьціла. Усіх родных і дваюрадных абдарыла, а Марусі ні асталосё, ні хваціло. Прыходзіла сюды, да яе, то казала: «Не крыўдуй, сястрыца, як паеду, то вышлю хоць дзяўчаткам тваім па хустаццы». *Там жа.*

ЗВОДЗІЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ. З цяжкасцю спраўляцца з гаспадарчымі патрэбамі, труднавата матэрыяльна (жыць). Прыйдзя тая зіма, харчоў мало. Кап скаціну сяк-так пракарміць, трэба было зводзіць канцы с канцамі: дзе прыкупіш, дзе пазычыш. *Сав., Стаўб. р.* Яшчэ добра, што ўсадзьба (тут: *соткі*) гэта: свой бурак, свая бульбіна, сала сваё, а так бы канцы с канцамі не зьвёў. *Бял., Лаг. р.* Дроў німа, а зіме ні скора канец, як гэто будзя зьвесьці канцы с канцамі. *Жац., Стаўб. р.* Прыдзя вясна, галодная й халодная, пат скаціну хоць сам лажыся. Вот жылосё, людзі ні маглі зьвесьці канцы с канцамі. *Гор., Стаўб. р.*

З ВУГЛА Ў ВУГАЛ. Туды і назад, туды і сюды. Чаму ты ні запрагаяш? Ідзі скарэй на канюшню і бяры (каня) — людзі ўжо поначы павыягджалі, а ты ўсё топчасься, ходзіш з вугла ў вугал. *Сав., Стаўб. р.* Гэто ш такая дзевачка! Кап мамі памагла што, дак не — сноўдаяцца з вугла ў вугал. *Жац., Стаўб. р.* Хваціць табе соваццa з вугла ў вугал. Ідзі дроў палено якоё расьсячы. *Там жа.* Хварэла трохі, ціпер паправілася, вот з вугла ў вугал хаджу, рабіць такого нічого ня можно. *Гор., Стаўб. р.*

ЗВЯЗАЦЬ РУКІ кім, чым. Пазбаўлены магчымасці свабодна дзейнічаць. Машына йдзе, сеньнікоў (грабцоў) павязе на сенажаць. Хочуць кончыць сёньня сена, а то зьвязаныя рукі, клапоты з гэтым сенам. *Пр., Стаўб. р.* Я часто прыягджала п да вас, а дома як? Ні паляно, ні кормляно. О, кап было ат каго! Зьвязала рукі гаспадаркай, якая там гаспадарка, а ні прыедзяш. *Сав., Стаўб. р.* Каб вы калі ў кіне пабылі ці ў ціатры якія, як я прыеду. Не. От, усё работа й работа, рукі ў вас зьвязаны гэтаю работаю заўсюды. *Там жа.* Ні выйдзяш нікуды: зьвязаны рукі дзецьмі, ні вон з хаты. *Гор., Стаўб. р.*

ЗВЯРНУЦЬ ГОРЫ. Гл. ГОРЫ ЗВЯРНУЦЬ.

З ГАЛАВЫ НЕ ВЫХОДЗІЦЬ хто, што. Трывожыцца, непакоіцца, ні на хвілінку не забывацца. Од роду ў іі на гоковы (воку) більмо було, а знаітэ, шо гэто значыло — у дíўчыны да шэ й гочы ны ў порадку. Ганьба назаўждэ. Подумалы мы з старым да рышылы до дохторіў звозыты. Поіхалы воны, а ў мынэ з головы ны выходыть, як там вона. *Заточ., Драгіч. р.* Нахадзілася па леся за дзень, а дачка з галавы ні выходзіць, бачу перат вачмі. *Жац., Стаўб. р.* У міне з галавы ні выходзіць, як гэто яны зойдуць на пояст, такая бура на дварэ, мяцеліца, сьвету ні відаць. *Сав., Стаўб. р.*

З ГОЛЫМІ РУКАМІ. Гл. З ПУСТЫМІ (голымі) РУКАМІ.

З ГЛУЗДУ З'ЕХАЦЬ. Звар'яцець, крануцца з розуму. А за што гэта ён яе так лупцаваў, сьлінкач гэты нязўдалы? Ці ён з глузду з'ехаў, ці можа сьвякроў, прайдоха гэтая, чаго нагаварыла? *Любч., Навагр. р.* Ці ты, чалавеча, з глузду з'ехаў, што ў такую цемру пойдзяш нанач гледзячы? Аставайся, начуй! *Гор., Стаўб. р.*

ЗГРЭБЦІ Ў ЛАПУ што. *Незадав., асудж.* Узяць. Прывёз раз мне торфу, паслухаў. Запрасіла зайці (у хату), паставіла паўлітру і траячку палажыла. Выжлукціў, панімаяш, тую паўлітру адзін, я ні падыходзіла нават, траячку згроп у лапу й добро сабе. Шапку на голаў і: «Да сьвіданя, цётка». *Жац., Стаўб. р.*

ЗДАРОЎЕ ВЫНЯЦЬ (дастаць) каму. Захварэць, занядужаць праз каго, што. Дзеці мне здароўе вынялі, а цяпер ніхто не ўкладзець. *Ульян., Сен. р.* Ёй здароўе дзеці вынялі. Кап вы ведалі, якія нігодныя, ніпаслушныя. *Сав., Стаўб. р.* Кап вы падохлі, кап вы! Як праз вас мне суседзі здароўе вынялі. Акыш, кап вы павыдыхалі!

*Веч., Стаўб. р.* Яшчэ вясною — нічого. А прыдзе зіма — гэтая вада мне здароўё дастае: пайдзі ў такую даль, а сьлізг'авіца, пакоцісься, ні ўстаць. *Гал., Стаўб. р.*

З ДАЎГОЎ ВЫЛЕЗЦІ. Гл. ВЫЛЕЗЦІ (вылазіць) З ДАЎГОЎ.

ЗДАЧЫ ДАВАЦЬ каму. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЗДАЧЫ каму.

З ДЗЕСЯТАГА ГОДУ. Вельмі стары, негэтагодні, даўнейшы. Міша нашоў каштан можа зь дзісятаго году, стары гэдыкі: «Ці будзя ён расьці, я пасаджу, бабуня». *Сав., Стаўб. р.* Трэба, дзеці, варэнё есьці. Стаіць можа зь дзісятаго году, цьвёрдаё зрабіласё, хоць нажом рэж. *Там жа.*

ЗДРАСТУЙЦЕ ДАЦЬ каму. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ЗДАРОЎЯ (добры дзень, дзень добры, здрастуйце) каму.

З ДЫМАМ ПУСЦІЦЬ што. Гл. ПУСЦІЦЬ З ДЫМАМ што.

ЗЕРНЕ Ў ЗЕРНЕ. Гл. КАЛІВА Ў КАЛІВА.

З'ЕХАЦЬ У СВЕТ. Гл. ПАЕХАЦЬ (з'ехаць) У СВЕТ.

ЗЖЫЎШЫ ЛЕТА ДЫ Ў МАЛІНЫ. Што-небудзь позна рабіць, рабіць не ў пару. «Нада было п хлеў накрыць, а то цячэць дужа на карову».— «Зжыўшы лета ды ў маліны! Хто гэта хлеў крыіць — зіма на дварэ». *Н. Тур., Уш. р.*

З ЗУБОЎ НЕ ВЫПУСКАЦЬ. Многа, часта курыць. Ні куры ты, галава баліць, з зубоў ні выпуская цэлы вечар. *Гор., Стаўб. р.* Эдзік благі, худы, адны косьці зрабіўсё, а курыць, ні выпуская з зубоў. *Сав., Стаўб. р.* Прышоў рас Фэльцік пасядзець, рассеўся, а накурыў за вечар, аш цёмно ў хаці. З зубоў ні выпуская. *Там жа.*

З (з-пад) ІГОЛАЧКІ (іголкі). 1. Зусім новае, толькі што пашытае (адзенне, абутак). А цяпер які хлопяц! Дзьве ўчылішчы лётныя акончыў. Прыехаў на отпуск у лётным аммундзіраваньні сь іголачкі. *Вар., Стаўб. р.* Многа навёс мой сынок: тры кускі цяжолай мацеры на спаніцу, на сарочку кусок мацеры, бацінкі тры пары с-пат іголкі. *Ліцв., Карм. р.* 2. Ва ўсё новае, толькі што пашытае (апранацца). Разбагацеў там, прысылая пасылкі на касьцюмы, бялізну. І сюда прыягджаў, адзеты зь іголачкі, падаркаў навёс. *Вар., Стаўб. р.*

З КАЛЕНА ВЫЛАМАЦЬ. Гл. ВЫЛАМАЦЬ З КАЛЕНА.

З КАМАРОВУ ЛЫТКУ. *Іран.* Вельмі мала. Ну й скупендра гэтая Тацьяна! Дала сала с камарову лытку й таго елкаго. *Вяліч., Сал. р.*

З КАНЦА Ў КАНЕЦ. Ад пачатку да канца. Сёньнячы хадзіла па грыбэ. Апаляндравала (абхадзіла) лес з канца ў канец і нічого ні знайшла, яшчэ німа. *Сав., Стаўб. р.* Дзе ты бачыў, ціпер млека дастаняш. Усю вёску с канца ў канец абыйдзі — ніхто й ні прадасьць — німа, холадно, зіма. *Там жа.*

З КУРАЧУ ГАЛАВУ. *Незадав.* Вельмі мала. Пойдам на папрадухі, прадом, а хлопцы знойдуць нас, прывядуць мўзыку. Грае гармонік, а мы танцуем. Прыду дадому, а маці кажа: «Што ш ты, Маня, напрала с курачу галаву?!» А я бокам-бокам ды спаць, маўчу, нічога ні кажу. *Навас., Кап. р.*

З КУРМІ СПАЦЬ ЛАЖЫЦЦА (класціся). Вельмі рана класціся спаць. Усе людзі на полі, хто й дома патходжваяцца, а мой прыедзе, зьесьць і ў ложка — прывык с курмі спаць лажыцца. *Вяліч., Сал. р.* У Марусі ўжо ціхо — спаць палеглі. Яны с курмі спаць кладуцца. Людзі кругом яшчэ шмотаюцца, робяць што-небуць, а яны адразу спаць, много, кажа, нагарая сьвету. *Сав., Стаўб. р.*

ЗЛАЖЫЦЬ ГАЛОЎКУ. Гл. ГАЛАВУ (галоўку) ПАЛАЖЫЦЬ (злажыць, налажыць).

ЗЛАМАЦЬ ГАЛАВУ. Загінуць. Сьвякроў па сыну мартвіцца — сын малады забіўся, зламаў галаву на мацыклеця, нявестку шкадуя. *Пр., Стаўб. р.* Куды ты палес? Галаву зломіш, ідзі дарошкаю. *Сав., Стаўб. р.* Тады гэтых мацыклетаў ні было. Ціхата. А гэта лётаюць, хата аш зьвініць. Летась ніхто галавы ні зламаў, а сёлета — бох ведая. *Пр., Стаўб. р.*

З ЛАСКІ ДАЦЬ (пааддаваць) ш т о. Даць што пахарошаму: без прымусу і насілля. Бяльлё ў мяне было, 24 пары більля было. І пааддавала ўсё парцізанам. Толькі адну пару прадала на соль, а то пааддавала. З ласкі пааддавала. І як ні даць, калі прыдзя, просіць, не бярэ, а просіць, з ласкі дай. *Ульян., Сен. р.*

ЗЛОСЦІ ПОЎНЫЯ КОСЦІ ў к а г о. *Асудж.* Пастаянна, вельмі часта і без пэўнай прычыны злосны хто. «Вера нечаго ніпрыветлівая, сярдуя на міне, злосьці поўныя косьці».— «Не чапай ты яе, як палепшая, то прыйдзя й раскалесіцца» (разыдзецца, што не суняць). *Сав.,*

*Стаўб. р.* Юзэфін Косьцік — злосьці поўныя косьці. Як буркня, то й гаварыць німа чаго зь ім. *Жац., Стаўб. р.*

ЗЛОСЦЬ СПАГНАЦЬ на кім. Гл. СПАГНАЦЬ (сарваць) ЗЛОСЦЬ на кім.

З МАЗАЛЯ. Выключна на сродкі, атрыманыя за сваю працу (жыць, зарабіць, мець і інш.). Як маці торбу сала наложыць, напакуя мяса, масла, дак і ён герой. А папробуй з мазаля зарабі такую торбу, колькі ўкалываць трэба. *Ульян., Сен. р.* Даўней з мазаля жылі людзі: аралі, гной выкідалі, касілі, малацілі. Наробісься, бывало, ні рук ні нох ні чуяш. *Сав., Стаўб. р.* Выгадавалі мы кабылу — маладая, чацьвёрты гот быў, справілі калёса на жалезным ходу, набадры купілі. А ўсё ш гэта запрацаванае, з мазаля. Атступалі палякі і бацьку пагналі ў абос, а тагды зьбілі, адабралі кабылу, калёса, вупраш — ідзе бацька с палкаю. От як! *Гр., Слуц. р.*

З МАПЫ ВЫКАСАВАЦЬ. Гл. ВЫКАСАВАЦЬ З МАПЫ.

З МУХІ СЛАНА ЗРАБІЦЬ. Моцна перабольшыць што, надаць вялікае значэнне чаму. Учора шукалі аднаго салдата, а сягоньня ўжо дзесант, а заўтра ўжо чорт ведае што — з мухі слана зробяць. *Бял., Лаг. р.* Пілі, пілі, а потым давялі яго, што грабянуў жонку на дзіван. А зрабілі з мухі слана — кажуць, што з нажом да яе кідаўся і с хаты выганяў. *Кунц., Кл. р.* Прадала я сьвінку — от так сабе — пудзікаў зь дзесяць. А ўжо пагаласка пашла, што азалацілася, тысяч набрала. Зрабілі з мухі слана. Плятуць языкамі людзі. *Сав., Стаўб. р.*

ЗМЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА. *Іран., незадав.* Ашукацца, пралічыцца ў чым. Сусет учоро завёў на базар сваю карову, да гэдыкую бубу, а прывёў маладую некую пстрычку, вым'я ні відаць. Зьмяняў быка на індыка. *Сав., Стаўб. р.* Нашто ш ты зь ёю памянялася? Такая лялячка была харошая, а ты аддала, замянілася на гэтую машыну. Зьмяняла быка на індыка. *Гор., Стаўб. р.*

ЗНАЙСЦІ НОГІ. Пачаць хадзіць, стаць на ўласныя ногі (пра дзяцей). А матка боска! Як ён (унучак) змардуя міне за цэлы дзень. Здаецца, кап знайшоў хуччэй ногі, мо ляхчэй было п. *Остр., Маст. р.*

ЗНАЙСЦІ ТАПОР ПАД ЛАВАЮ. *Дакор.* Адшукаць што, калі яно тут жа, пад рукамі знаходзіцца ў вядомым усім месцы. Я й бес цібе ведаў, што вясло ў кусьце, знайшоў тапор пад лаваю. *Райч., Пух. р.* Міша прынёс

з двара цьвічкоў, завесікі некія, шкелцы і кажа: «Паглядзі, бабуня, во што я знайшоў!» «Ах ты,— кажу,— унучак, гэто ш ты залес у яшчык, паразграбаў, паразграбаў там усё на сьвеці і хвалісься. Знайшоў тапор пад лаваю. Зараз жа пазьбірай усё, кап ні валяласё па хаці». *Сав., Стаўб. р.*

ЗНАЙСЦІ ХАМУТ НА ШЫЮ. Гл. НАЛАЖЫЦЬ (знайсці) ХАМУТ НА ШЫЮ.

ЗНАЦЦА НА РЭЧАХ. Добра ведаць што, разбірацца ў чым. Гэта цётка знаяцца на рэчах. Бач, кажа, ні буду кавы піць, бо сэрцу нідобро. *Сав., Стаўб. р.* Ты ўжо вялікі хлопчык, то трэба трохі знацца на рэчах. Лезяш у самую багну, утопісься там, хто цібе аттуль выцягня. Ні лесь. *Жац., Стаўб. р.* Хоць ты й гарацкі, а знаясься на рэчах. Самыя лепшыя яблыкі паабіраў, паабіраў сабе ў мяшок. *Там жа.*

ЗНАЦЬ ХАДЫ-ВЫХАДЫ. Гл. ВЕДАЦЬ (знаць) ХАДЫ-ВЫХАДЫ.

ЗНІМАЦЬ ПРАКТЫКУ. Практыкавацца, рабіць што па пробу. Надумалася с сырых вішань кампот паставіць. Гэто ш мне Г'оцкая патказала. Вот зьніму практыку, калі ўдасца,— буду кажды гот рабіць. *Сав., Стаўб. р.* Наш аграном ўсё зьнімая практыку — то лубін сеяў, а праз год — пшаніцу, потым абратно лубін, але ўжо садзяць картофлі. *Жац., Стаўб. р.*

З НОСА. *Абыякав.* З кожнага, з аднаго чалавека (браць, плаціць і інш.). Інны рас і вып'е за кампанію. Во калі-та сабралі з носа па траяку і прагулялі. Давала рубля, дак мала, што я з рублём буду рабіць, мало. Дай траяка. *Пр., Стаўб. р.* У нас ціпер некая завядзёнка. Вот на полі ўсе робім. І нехто скажа, што ён імяніньнік. Усе — па рублю з носа, а гэты імяніньнік тры і ў магазін. Прынясуць віна, вып'юць і робяць даляй. *Сав., Стаўб. р.*

З НОСАМ ЗАСТАЦЦА. Гл. ЗАСТАЦЦА З НОСАМ.

ЗНОСУ НЯМА ч а м у. Моцнае, даўгавечнае, дыхтоўнае што (адзенне, абутак і інш.). Цяпер некая мацёра ні такая, як была раней. То было, пашыяш спадніцу ш чортавай кожы, дык зносу ёй німа. *Кав., Старадар. р.* Ясь тую камізэльку гадоў дзесяць насіў, зносу ёй ні было. *Гор., Стаўб. р.* Дзівяцца, чаму даўней доўго насіласё. Бо шкадавалі насіць. Рас у гот зложыць ці адзеня што, а то ляжыць. То дзіво што зносу ні было! *Зал., Стаўб. р.*

З-ПАД ЗЯМЛІ ДАСТАЦЬ што. Гл. ДАСТАЦЬ (выкапаць) З-ПАД ЗЯМЛІ што.

З-ПАД ІГОЛКІ. Гл. З (з-пад) ІГОЛАЧКІ (іголкі).

З-ПАД (самага, саменькага) НОСА. З самай блізкай адлегласці. Адаб'е нехто дзеўчыну з-пад носа, хай кусае тады сябе за локаць. *Падг., Кар. р.* Ні ўмею я зьбіраць грыбоў: іду, йду, ніводнага ні бачу, а некі хлопчык у мяне с-пат самаго носа некалькі баравічкоў сарваў. *Гор., Стаўб. р.* Учоро араў кала лесу на трактары. Бачу — заяц ляжыць. Зьлес гэто я с трактара, падышоў, а ён сядзіць. Я гэто хацеў яго злавіць, а ён калі скочыць да ходу, с-пат самаго носа ўцёк. *Сав., Стаўб. р.* Хадзілі с Паўлюком на возяра яйца качыныя зьбіраць. Лазіў я з купіны на купіну, абмачыўса. І натрапіў бы, але ён першы ўбачыў гняздо, с-пат саменькаго носа ў мяне пабраў. Гр., *Слуц. р.*

З-ПАД СУЧКІ ЯЙЦО ЎКРАСЦІ. *Захапл.* Пра хітрага, вёрткага чалавека з адчайна-зухаватымі выхадкамі. Ото дзеўка, ото хват, ні дай бох! С-пат сучкі яйцо ўкрадзе, і тая не зварухнецца. *Хож. Маладз. р.* Вот хлопчык! І ў каго ён удаўся, с пат сучкі яйца пакрадзе, і ўсё яму сыдзя. *Кав., Старадар. р.*

З-ПАД ЯШЧАРКІ ПАДАСТАВАЦЬ ЯЙЦА. *Незадав.* Пра чалавека, не зусім спрытнага ў працы, але вельмі дасціпнага ў якой іншай справе. У яе рукі ні ходзяць, як у капача́ якога, а ўпра́ўная, с-пат яшчаркі падастае ўсе яйца. *Кай., Кар. р.*

З ПАНТАЛЫКУ ЗБІЦЬ каго. Уздзейнічаючы пэўным чынам, схіліць каго змяніць паводзіны ў горшы бок; разгубіцца, заблытацца ў якой-небудзь справе, думках. Так шкадую, што за Колю ні пашла. Мяне мама с панталыку зьбіла, як настала, як настала — і адгаварыла. *Гр., Слуц. р.* Шыбайлікавае Ульяны тая меньша вучыласа недзя ў Адэся. Кончыла і ўстроілаcа ў Слуцку на скоруў (хуткай дапамозе), па вызавах езьдзіць. Прыехала да аднае жанчыны, а яе брат быў доктар. Ото з налёту ўлюбіўса, і запісаліса. Я не бачыла, але казалі, здаровы, тоўсты, высокі. Сталі сьмяяцца, каго ты ўзяў, нека, як кот, маленька, крывая, і зьбілі с панталыку. Разьвёўся. Мо два месяцы пажылі. *Там жа.* Сьціхні, ні зьбівай міне с панталыку, дай палічыць самой. *Жац., Стаўб. р.* Міне суседзі с панталыку зьбілі. Я думала адно прадаць, а другоё закалоць. Аж бачу — ўсе ко-

люць. Давай, думаю, і я закалю. А ціпер мясо порціцца, ні знаю, што рабіць зь ім. *Сав., Стаўб. р.*

З (ад) ПЕРШЫХ ПЕЎНЯЎ. Вельмі рана, на досвітку. Цяпер бакі за ноч адлежыш, а каліська сь першых пеўняў ток стогне ад бацькаваго цэпу, за досьвітак чатэры пасады саб'е. *Трух., Кап. р.* Устаюць, бувала, ўсе ат першых пеўніў (часоў жа ні было ні ў кога), і як патпіряжісься ат першых пеўніў да цёмнага ні прісядзіш і ні прістаніш, а кусок хлеба баіцься зьесьць. *Раб., Слаўгар. р.* Нінка вот рано ўстае, яшчэ сь першых пеўняў. Яшчэ нідзе нікого, усе само сьпяць, я ў яе ўжо гарыць сьвет. *Веч., Стаўб. р.*

З ПРАЦЫ РУК. Выключна за сродкі, атрыманыя за сваю працу. Кап пані паглядзела, што ў Варусі робіцца! Якая хата! А што ў хаці! Хату паставіла с працы рук, ставіла для дзяцей. *Сав., Стаўб. р.* Я ўсё жыцё пражыла с працы рук, колькі гора перанесла, што ні выказаць. *Там жа.* Так цяпер жыве чалавек, што аш дзіво бярэ. Есьць што хоча, адзяецца як хоча, у хаці ўсё шамрыць, так хорашо, і ўсё с працы рук. Што за жыцё настало. *Жац., Стаўб. р.*

З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ ПЕРАСЫПАЦЬ. Гл. ПЕРАЛІВАЦЬ (малоць, пераганяць, перасыпаць) З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ.

З ПУСТОЕ Ў ПАРОЖНЯЕ ПЕРАГАНЯЦЬ. Гл. ПЕРАЛІВАЦЬ (малоць, пераганяць, перасыпаць) З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ.

З ПУСТЫМІ (голымі) РУКАМІ. Без гасцінца, падарунка; без нічога, так. Прыйдзі к людзям с пустымі рукамі да й сьвяці ачыма. *Вяліч., Сал. р.* Дачка ў Мінск ехала, с пустымі рукамі ня выправіш. *Сав., Стаўб. р.* Мар'я Цівіньська вечар робіць, хлопца ў вармію атпраўляя. Наззывала людзей на дванаццаць сталоў, ужэ тыдзянь гатовяцца. І кожны ш, хто йдзе, то ні с пустымі рукамі — абізацельна паўлітру віна нясе. Гэта як закон, паўлітру віна. *Гр., Слуц. р.* Як гэто ты паедзяш з голымі рукамі? Німа чаго такого даць табе, хоць вішаняк сухіх ці хоць маку вазьмі ўнукам. *Сав., Стаўб. р.* Жарты, і яна, й ты с пустымі рукамі ніколі не прыяжджалі. Здурылі старую прысмакамі, любіць залесьці на печ і зьесьці што смашнінькаё. *Там жа.* Як ты пойдзяш (на вяселле) з голымі рукамі, брыдко. *Жац., Стаўб. р.* Як будзіш там у магазіні, купі ты мне, сынок, якую паўлітру, не

йсьці ш з голымі рукамі. *Сав., Стаўб. р.* Каб ехаць у тую Польшч, много дзялоў. Трэба йсьці ў сельсавет — рас, сфатаграфіраваццa — два, анкеты запоўніць — тры. А гэто ж усё грошы. А с пустымі ж рукамі ні паедзяш, трэба ж нешто купіць, с пустымі рукамі ехаць ні выпадая. *Там жа.*

ЗРАБІЦЦА ЯК ПЕЧ. *Асудж.* Распаўнець, зрабіцца тоўстым, сытым. Сама зрабілася як печ, у дзверы не ўлезя. *Сав., Стаўб. р.* Іваніха зрабілася як печ, тоўста-тоўста, ногі тыя страх глядзець. *Там жа.* Эдзікава жонка зрабілася як печ, такая спраўная стала, а ён худы як ражон. *Жац., Стаўб. р.* Логінава справілаcа, зрабілаcа як печ. Маці тут нешта захварэла, дак яна прыягджала. Хароша, поўна така. *Гр., Слуц. р.*

ЗРАБІЦЬ БАРАДУ. НАРАБІЦЬ БАРОДАЎ. 1. Заблытаць ніткі. Трымай добро, буду разбэрсваць. Зрабіў вот бараду, цяпер разьбірай па нітаццы. *Сав., Стаўб. р.* Папрасіла Янку, кап патрымала маточак, а яна спусьціла мне й сьмяеццa. Зрабіла бараду, а ты, бабуня, сядзі, разблытвай. Там жа. 2. Пакідаць няскошанай траву ў пракосе. У цябе ш — вунь паглядзі — ззаду расьце! Нарабіў бародаў — аш брытко глядзець. *Гор., Стаўб. р.* Наш Эдзік некалі не касіў, а брыў, а гэто як яны косяць? Саб'юць, саб'юць трохі, наробяць бародаў, абы ні стаяла трава тая. *Сав., Стаўб. р.*

ЗРАБІЦЬ З МУХІ СЛАНА. Гл. З МУХІ СЛАНА ЗРАБІЦЬ.

ЗРАБІЦЬ КАПЦЫ к а м у. *Паграж.* Забіць. Ото надаела, хай бох крыя. Прыпыніся трохі, а то як дам, капцы табе зраблю! *Сав., Стаўб. р.* Юзік як падляцеў, як даў гэтаму цяляці, думала, зробіць капцы яму,— такі злосны быў нешто. *Жац., Стаўб., р.* Я думала, ты яму (кабану) капцы зрабіў. Гэто ш гэтак смальнуў! *Ас., Стаўб. р.*

ЗРАБІЦЬ ЛАСКУ. Гл. ЛАСКУ ДАЦЬ (зрабіць).

ЗРАБІЦЬ ШКОДУ к а м у. Гл. НАРАБІЦЬ ШКОДЫ к а м у.

З РУК ВАЛІЦЦА ш т о. Гл. ВАЛІЦЦА З РУК ш т о.

З РУК НА РУКІ. Непасрэдна каму, ад аднаго да другога (аддаваць, здаваць). Я хотів граніцу пэрэйты, в Совэцкый Союз хотів пэрэйты, а мэнэ задэржалы. З рук на рук пэрэдавалы поліцыі польскоі, пока в Лунін, в наш посторунок нэ прывэлы. *Вульк.-І., Лун. р.*

З РУК РВАЦЬ. Расхопліваць мігам, раскупіць умо-

мант. А лён! Лён даглядывалі даўней, ухаджывалі за ім. Семя, бывало, як завязеш чыстае, адборнае ў Венец (у Івянец), з рук рвуць. *Пр., Стаўб. р.* Была ў Міры на кірмашы, думала якіх парку парасят купіць, дык дзе там! Купцоў много, а парасят мало, з рук рвуць тыя парасята. *Сав., Стаўб. р.* У гэтум году цыбуля ў людзей пагніла, дак калі хто на базары продае, з рук рвуць. Садзіць трэба, а цыбулі німа. *Там жа.* Руп трыццаць плёначка цыбулі маленькая. Я гэдакую цыбулю выкідаю, а на базары за яе б'юцца, з рук рвуць. *Там жа.* Вельмі ш падабаяцца мне ваша ка́па. У нас за такую капу даюць дваццаць рублёў, з рук рвуць, адно пакажы. *Там жа.*

З СВАЁЙ КІШЭНІ. З СВАЙГО КІШАНЯ. За свае грошы, з уласных сродкаў. Адзін стораш на целявізар пашоў, а другі прайшоў у другі кароўнік. Прышлі зладзеі й цяля ўкралі. Праўленьнё за кошт старажоў аднесло, кажды вылажыў с сваёй кішэні па дваццаць рублёў. *Сав., Стаўб. р.* Хітры гэты Вацік, выпіць хоча, але кап ні с сваёй кішэні, кап нехто паставіў. *Гор., Стаўб. р.*

З СІЛ ДАЦЦА. Аслабець, змучыцца, напрацавацца, выбіцца з сіл. Рука апухла, чырвоная ружа, рука па локці спухла. Тры стрыжні такія сядзелі, бэмбалі панапухалі. Ото мэнчылася, с сіл далася саўсім. Рука зрабілася тонкая, адно костачкі. *Сав., Стаўб. р.* Так дадзело (надакучыла), так далася с сіл, што хоць кладзіся. А хто ш картофлі пакапая мне. *Там жа.* Ні магу нешто, галава кружыцца, вот-вот упаду. Так с сіл далася, што ні вытрымаць, ні выжыць. *Гор., Стаўб. р.*

З СОРАМУ ЗГАРЭЦЬ. ВОЧЫ ГАРАЦЬ З СОРАМУ. Сорамна. Ото нідаўна стаімо зь Нінаю Кудзёлкаваю, жупім. Патходзіць паштальёнка, дастае ёй пісьмо й мне. Тая маці рада, у пісьме газета, спатаграфаваны іх Коля каля танка, і камандзір бацьком падзяку прыслаў за добро (добрага) сына. А мне з сораму згарэць за свайго. Здаровы, малады, дак прас гарэлку ў цюрму сеў. *Гр., Слуц. р.* Цётка сабрала людзей поўну вуліцу, сварыцца. Вочы гараць с сораму, брытка, німа дзе дзецца, зло на тую цётку. *Там жа.*

ЗУБАМІ ЗВАНІЦЬ. *Асудж.* Многа гаварыць, гаварыць пустое, балбатаць, пляткарыць, пустасловіць. Ах ты, чортава патаскуха! Паляцела па вуліцы зубамі званіць, языком мянціць, кап ён табе высах. Думаіш так і паверыць табе! *Хож., Маладз. р.*

ЗУБ ВАСТРЫЦЬ н а ш т о. Гл. ТАЧЫЦЬ (вастрыць) ЗУБЫ (зуб) н а к а г о, н а ш т о. Знач. 2.

ЗУБ ГАРЫЦЬ н а к а г о, н а ш т о. Мець жаданне набыць што, імкнуцца авалодаць чым, кім. Ой, якая харошая дзеўчына Ясёнкава! Я сёньня яе бачыў. Проста зуб гарыць на яе, трэба як падмазвацца. *Міл., Маст. р.* У міне зуб гарыць на гэто лошко, як гэто будзя купіць. Можа ты мне дасі трохі грошай? *Сав., Стаўб. р.* Даўно зуб гарыць у міне на Антосяву хату, каб былі грошы, купіла б і ўсё. *Жац., Стаўб. р.*

ЗУБ ЗУБА ПАГАНЯЕ. Дрыжма дрыжаць (ад холаду). Халадаўня ў хаце, ў печы ні паляць, некалькі тарфін у стаячок кінуць, зуб зуба паганяе. *Пр., Стаўб. р.*

ЗУБ НА ЗУБ НЕ ПАПАДАЕ. Дрыжма дрыжаць (ад холаду). На дварэ холадно, а я лёхко адзета, зуб на зуб ні пападая. *Сав., Стаўб. р.* Зьмерзла, пакуль дабралася с тых Стоўпцаў. А вецяр, а марос, што ні вытрымаць. Палезу на печ, трохі адагрэюся, бо зуб на зуб ні пападая. *Там жа.* У хаця гэдак ужо холадна, што зуб на зуб ні пападаець. *Муц., Мядз. р.*

ЗУБЫ ЗАГАВОРВАЦЬ к а м у. Гл. ЗАГАВОРВАЦЬ ЗУБЫ к а м у.

ЗУБЫ З'ЕСЦІ н а ч ы м. Мець вялікі вопыт у якой рабоце, справе. Ты хочаш з Раінай справіцца (лён слаць). Яна ўжо зубы зьела свае і трое робленых на гэтым дзеле. *Бял., Лаг. р.* Папрасіла Юзіка Манінаго сьвіню закалоць. Ото спрытно ў яго выходзіць: во як табе кажу, парэзаў сало, пасек мясо, злажыў, злажыў — і гатово. Чалавек зубы зьеў на гэтум! *Сав., Стаўб. р.* Дзіво, што Шашко ўмея! Ён жа быў калхозным садаводам, ён табе любую яблыньку, любую вішаньку ўшчэпіць, чалавек мае вялікую практыку, зубы зьеў на гэтум. *Там жа.*

ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ (палажыць). Цярпець галечу, голад; адмаўляць сабе ў самым неабходным. Былі гады, што жылосё нічого, а было й так, што хоць зубы на паліцу. *Сав., Стаўб. р.* Як прыдзя вясна, хоць зубы на паліцу, жмені мукі ў хаці ні было. А цяпер сала ні ядуць. Вот жыцё настало! *Там жа.* Пакуль аставалася трохі грошай, куплялі хлеп, а потым хоць зубы на паліцу, такая жытка была. *Кунц., Кл. р.* Послала ёму Онтося трысто рублёў, а вун прокрутыв іх за дэсэть днів, а тэпэра зубы на полыцу хай кладэ, бо матка нэ в сылах бульш посылаты. *Вел., Пін. р.*

ЗУБЫ ПАКАЗВАЦЬ. Гл. ПАКАЗВАЦЬ ЗУБЫ.

ЗУБЫ ПРАДАВАЦЬ. *Дакор., непав.* Смяяцца без асаблівай падставы. Пустыня нейкая, а не чалавек. Яму дзела гавары, а ён зубы прадае. *Райч., Пух. р.* Хлопцы, знаяш, маладыя, папрыходзяць, выскаляюцца, і яна зь імі зубы прадае. Той цукерак, той пячэніну, а там і паўлітра... І заматалася на трыста рублёў. Пабыла месяц — на трыста заматалася. *Марх., Стаўб. р.*

ЗУБЫ СКАЛІЦЬ. Гл. СКАЛІЦЬ ЗУБЫ.

ЗУБЫ ТАЧЫЦЬ на каго, на што. Гл. ТАЧЫЦЬ ЗУБЫ на каго, на што.

З УМА СХОДЗІЦЬ. Гл. З УМА СЫЙСЦІ (сходзіць, тронуцца).

З УМА СЫЙСЦІ (сходзіць, тронуцца). Зрабіцца вар'ятам, звар'яцець. Даўней ажаніцца ці замуш пайсьці, гэта настаяшчая гора. Пакуль перанясеш усякія забабоны, з ума можна сыйсьці. *Вар., Докш. р.* Казала, што ўжо перажылі! Прыехалі на тую Нямешчыну, то з ума сходзілі — усё нізнаёмаё, жыць німа дзе, дождж ідзе, а нашы пажыткі мокнуць. *Сав., Стаўб. р.* Прыехаў да мяне маей сястры муш, кажыць: «Як ты жывеш адна?» А я кажу: «Браціц мой, дзе ж я адна? Са мной увесь сьвет разгаварываець, уся страна! Залезу на печ і слухаю. З ума сышоў бы, каб ні радзіва». *Ульян., Сен. р.* Альбэрця Мазурава была ў Вуглох посьля гэтай сьмерці, як яго пахаранілі, на другі дзень, дык расказвала, што бацька з ума тронуўся. Я ўжо ў яе пытаюся, дак а што ён робіць, гэты бацька, што ён з ума тронуўшыся? Кажа, ходзіць з адной хаты ў другую і зьбірая торбы. *Сів., Вал. р.* Паробок як показаў імэнное кольцо, шчо сын клаў батькові на той сьвіт, пан чуть з ума нэ сышоў. *Аўсям., Стол. р.*

З УСЯГО СВЕТУ хто. Не тутэйшы, невядома адкуль, здалёк. Нека прайдаха з усё сьвету нявестка Цьвірчыхі. Нап'ецца, сама йграя, сама й сьпявая. *Сав., Стаўб. р.* Савоні таму называецца вёска, што насоваласё сюды са ўсяго сьвету людзей: і с Польшчы, і сваіх далёкіх, з другіх вёсак. *Там жа.* Даўней ціхо ў нас было, нікого ні на рэчцы, ні ў лесі. А ціпер на рэчцы людно, загараюць, а ўсё ні нашыя, нізнаёмыя, напрыягджалі с усяго сьвету: то жонка чыя, то муж жонкі, так што ні нашыя, бачу, людзі. *Жац., Стаўб. р.*

З УСІХ ЖЫЛ. Колькі ёсць сілы, моцы; ад душы, ад шчырага сэрца. Мама памагала з усіх жыл, памагала га-

даваць гэтых старэйшых: дачку і таго, што ў Польшчы. *Пр., Стаўб. р.* Стараясься й купіць што, каб брытко ні было, і яды той колькі душа хоча, а каб мець, то трэба рабіць с усіх жыл, трэба ш старацца. *Гор., Стаўб. р.*

З ЦЕЛА СПАСЦІ. Гл. СПАСЦІ З ЦЕЛА.

З ЦЁМНАГА РАНА. Чуць свет, як толькі пачынае світаць. Як я адна, шмотаюся памаленьку, а як вы прыедзяце, дзесяць патоў зь мяне цячэ. Устану с цёмнаго рана і дзень ні прысяду. *Сав., Стаўб. р.* Бацько панаваты быў, да работы ні вельмо, рабіў і агінаўся. А я ўстану с цёмнаго рана, копу жыта змалачу, пака бацька ўстаня. *Там жа.*

З (ад) ЦЯМНА ДА ЦЯМНА. Увесь светавы дзень, ад світання да змяркання. Вельмо ж бацько заядлы да работы быў, хватоў сь цямна да цямна. *Няс., Навагр. р.* Гэныя былі рабацягі, рабілі ад цямна да цямна, і на абед бягом і с абеду бягом. *Бял., Лаг. р.* Піша, што вельма ш добры зяць, у дваццаць рас лепшы за дачку, робіць сь цямна да цямна. *Сав., Стаўб. р.* А мой жа недзя на рэчцы прападая сь цямна да цямна, рыбу ловіць на Немні. *Гал., Стаўб. р.* У пятровіцу пост, як сена косяць. На балоце паясі талакна с хлебам, зап'еш саладухаю і махаяш ат цямна да цямна. *Трух., Кап. р.*

З ЦЯРПЕННЯ ВЫЙСЦІ. Страціць спакойны, лагодны настрой, душэўную раўнавагу; раззлавацца на каго. Цешча нагрызе, насварыцца, дак і цесьць сь цярпеньня выдзе. *Сав., Стаўб. р.* Лезя (на вяселлі) біцца, яго адвялі. А во пашлі на танцы, ён зноў чэпіцца. А тады пашлі на прыпынак аўтобуса, і там ў трэцьці рас прыстаў. Дак, паверыця, і бацько наш ужо вышаў сь цярпеньня да ў каўшэль, да ў каўшэль. *Там жа.* Дак Міхась вышаў сь цярпеньня да кажа: «Вы п, пане, не хадзілі, нам гэта сьцешка праз усю дзялку не патрэбна». *Там жа.*

З ЧОРНАГА ХОДУ. Гл. ЧОРНЫМ ХОДАМ. ПРАЗ ЧОРНЫ ХОД.

З ЯЗЫКА СХВАЦІЦЬ. Памкнуцца расказаць пра што, але на гэту тэму пачынае ўжо гаварыць субяседнік. Толькі я хацела расказаць пра гэту шалэху, а ты ў мяне зь языка схваціла. *Сав., Стаўб. р.* Я табе сам хацеў сказаць пра гэто, але ты ў міне зь языка схваціў, то ўжо гавары ты. *Жац., Стаўб. р.*

ЗЯЛЁНА Ў ГАЛАВЕ. Недасведчаны, наіўны (па маладосці). Старая кажа: «Мілянька, сямнаццаць год яшчэ

зялёно ў галаве». А я кажу: «Калі ж яно будзе сьпець, калі сямнаццаць год яшчэ зялёно ў галаве». *Сав., Стаўб. р.* Што ты зь яе хочаш? Малая шчэ, у галаве зялёно. *Жац., Стаўб. р.*

ЗЯМЛЮ (зямельку) ДЗЕРЦІ. Упасці ў адчай; гнеўна выказваць незадавальненне чым. На куцю, на сачэльнік якрас, забілі цёцю нашу й дзядзю. Ці помніця, што рабіласё? Дзеці землю дралі, крычалі, плакалі, а ці паднялі? *Сав., Стаўб. р.* Поля поварам работаіць, а тут адзін маскалёк зь ёю трошку знаіцца. А матка яго зямельку дзерыць, ня хочыць, каб браў. Дрэна так ісьці, калі бацькі ня хочуць, патраф тады маццы. *Бяльм., Брас. р.*

ЗЯМЛЮ ПАРЫЦЬ. Гл. ПАРЫЦЬ ЗЯМЛЮ (косці).

ЗЯМЛЮ РВАЦЬ (драць). Добра, хутка расці, лапушыцца (пра гародніну, бульбу і інш. культуры). Хто думаў, шо на Пытрусёвуй ныўцы выростуть гэтакы буракы! Там зроду болото булю, шо ны ўлізты, а зарэ, ты бач, аж зэмлю рвуть буракі. *Заточ., Драг. р.* Пайдзі паглядзі, унучка, як хорашо варшаўка (гатунак бульбы) мая расьце, просто зямлю дзярэ. А якія кветачкі на картофлі, ідзі паглядзі. *Сав., Стаўб. р.*

ЗЯМЛЯ НЕНАЕЖНАЯ. *Непав., незадав.* Вельмі скупы хто, хцівец (пра чалавека). От быў зямля ненаежная! Калі, ні дай бох, кароўка ці авечачка ступіць на яго полё (дзе ш ты заўсюды ўпільнуяш, у сусецтве жывучы), с калом ляціць: «Заб'ю!» *Ас., Стаўб. р.* Фэля скупая вельмі, от скупая, скнараватая. Зямля нінаежная. Усё ёй мало, ўсё забрала п, кап прымела. *Сав., Стаўб. р.*

ЗЯМЛЯ (яблыкамі) ПАХНЕ к а м у. Блізкі да смерці, адной нагой стаіць у магіле (пра слабога, нездаровага ці вельмі старога чалавека). Які ты жыцяль, калі зямля пахня табе, душа ні прымаець нічога. *Ліцв., Карм. р.* Прыходімо додому і расказваем, шчо німа воўкуў, шчо гэто можэ выдумалі, шчо воўкі ўкралі п'ять овэчок і нападалі на пастуха. На гэты наш разговор прыходіть Йван і кажэ: «Пуйдэм, хлопцы, зо мною на охоту і побачыте, застрэлім». Мы сталі смыятца: Йван був з тых людэй, шчо, як кажуть, ему земля яблыкамі пахне, старый, горбатэнькій. *Бобр., Пін. р.*

# I

І ВУХАМ НЕ ВЯДЗЕ. Не турбуецца, не прымаецца, не звяртае ўвагі. Жонка хварэя, ныя, а муж і вухам не вядзе, не прымаецца, зрабіўся поўны, чырвоняныкі. Шосты дзісятак мушчыну, а йдзе як семнаццацігадовы, ні сыдзясься зь ім. *Сав., Стаўб. р.*

І ГОЛАМУ ЗА ПАЗУХУ. *Жартаўл.* Крыху, невялікая колькасць. Насадзіла морківі, будзя й голаму за пазуху. Тут радок, бачыш, узышла як шчотка, і там, у гароччыку, радкоў са тры. Але клопат будзя, колькі нарасьце. *Гр., Слуц. р.* От друго хваліцца, шта было ўсяго, а людзі ж ведаюць, шта нічога ў яго ні было, трасца там толькі й кіпела ў гаршку, дак у бяседзя й падзьдзеня, шта было й голаму за пазуху ў цябе. Эта старая прымаўка абазначала, што ў чалавека нічога німа, што ён бедны саўсім, ба што можна палажыць голаму за пазуху. *Там жа.*

І ДУХ ПРАСТЫЎ к а г о. Гл. І СЛЕД (дух) ПРАСТЫЎ (застыў) к а г о.

І ЗАВАДУ НЯМА. Зусім няма. Тутака тоі рыбы й заваду німа, а ты прэсься, чорт ведая чаго, на тую рэчку. *Сав., Стаўб. р.* Даўней, як была мельніца, і ў нас рыбы много было. Рукамі лавілі, карпы, што сьвіня, плавалі, шчупаке капошацца. А цяпер спусьцілі возяра, мельніца ні работая, рыбы й заваду німа. *Там жа.* У мяне ш курэй німа. Выдахлі. Было шаснаццаць штук, і заваду нават німа. *Пр., Стаўб. р.* Мне Алік казаў, што тых грыбоў яшчэ й заваду німа. То можа й ні паедзяш сягоньні. *Гал., Стаўб. р.*

І МАЛЫ І СТАРЫ. Усе без выключэння, усе без разбору. Ныколы нэ забуду, ек пэршы раз побачыла самолёта! А він прылэтыв у нашэ сэло по някого нэгожого (хворага). То й малэ й старэ споўзало поглэділо, як такэ важкэ полэтыть дэй нэ ўпадэ. *Альг., Стол. р.* Атступалі немцы, от страшно было. Усе людзі — і малы й стары — сядзяць у алешніку. А каровы равуць, авечкі бляюць. От страшно. *Сав., Стаўб. р.*

І (а) НІ БЛІЗКА. Нізавошто, ні ў якім разе, зусім не, нікольки. Мой Сярожа есь казінае малако, а Зіна — і ні бліска! Ні хоча. *Гр., Слуц. р.* Што за сьвіня ўрэдныя. Уліеш, німа, кап хваталі, але рэткае сап'юць, сап'юць, а гушчу і ні бліска. Кап жа добра елі, прыбывалі п, былі п сытыя. *Пр., Стаўб. р.* Ідзі, кажу, да нас, пагуляяш

з Марынкай. А ён гляня з-за плоту, а на двор — і ні бліско! *Жац., Стаўб. р.* Захварэў мой мужык, нейкая яму скула села ў горля. А пайшлі мы на хрэзьбіны, выпіў трошкі (яму ніяк ня трэба было піць, а ён выпіў), цягнуцягну дамоў, а ён а ні бліска. Раве, качаяцца па сьнягу. *Аляхн., Маладз. р.*

І НІ ЛЫСЫ. Прыкідваецца хто невінаватым, староннім, быццам нічога і не ведае. А Антон сьцішыўся ў куточку, сядзіць і ні лысы, а ўсе ш добро ведаюць, што гэто яго работа, што ён паламаў кветкі ў агароччыку. *Гор., Стаўб. р.* Ого, гэты Валяк атпора штуку й як ні лысы, і ў той бок ні гляня. *Сав., Стаўб. р.*

І ПЕЧКІ І ЛАЎКІ ў к а г о, д з е. Жыць у вельмі добрых адносінах з кім (часта бываць, раіцца і інш.). Ужо ў шваг'ра й печкі й лаўкі. Сюды дзяцей ні пуская, там будуць сядзець, на калечышчо тоё глядзець. *Сав., Стаўб. р.* Маня вельмі ш сышлася з Ганкаю. Там ужо й печкі й лаўкі. *Жац., Стаўб. р.* У нас печкі й лаўкі. Дахаты ні хоча. Казаў, начаваць будзя ў нас, а спаць ляжа з Эдзікам. *Сав., Стаўб. р.* Яна падала на развот, а наш раённы судзьдзя жыве, от ік я с суседам, зь яе маткі сястрою, у той бязьдзетухі й печкі й лаўкі. Нагаварылі тому Пісарчыку, і ён адразу задаволіў развот. От як! *Там жа.*

І РАДА І ПАРАДА. Жыць у добрых адносінах з кім, часта раіцца з кім, бываць у яго і інш. Ужо ў Петрусёвых і рада й парада. Бывало, Эдзік казаў: «Яна, мама, лепш за шваг'рам аддана, чым мне». *Сав., Стаўб. р.* Ужо й рада й парада ў свацеі — Франя пагадзілася сь свякроўю, учоро гуляла ў іх, ужо ўсё добро. *Там жа.* У міне ш радні ніякай. Хто быў — у Польшчу з'ехаў, за сьветам, хто памёр. Ужо с Фэльцікам і рада й парада. Адзін астаўсё. *Там жа.*

І СЛЕД (дух) ПРАСТЫЎ (застыў) к а г о. Знік, збег, няма нідзе. Глянуў у акно — стаяць тры зьвярэ, велькія, сытыя, харошыя, з доўгімі вушамі, напэўна, ласе. Выскачыў на двор, а іх і сьлет прастыў. *Жыб., Дзятл. р.* Рас нарвалася на дзікіх сьвінёў. Кабан тоўсты, сыты-сыты. Як згледзелі мяне, адно вухнулі, і сьлет прастыў. *Бял., Лаг. р.* Камісія некая важная прыехала: «Дзе брыгадзір, дзе брыгадзір?» А брыгадзіра і дух прастыў. *Падг., Кар. р.* Ото толькі што машына раўла, пакуль выскачыла і дух прастыў. *Гр., Слуц. р.* Пашла я зь Зінкай у ягады. Разьбіліся, гукала, гукала я, а яе і сьлет пра-

стыў. *Жац., Стаўб. р.* «А ты дзе будзіш?» — «А во на лаваццы». Вышла, а яго й слет застыў. Некуды скруціўся. *Ляўк., Арш. р.*

І СМАЖАНАГА І ВАРАНАГА І ТАК КУСКАМІ. Усяго вельмі многа, удосталь (пра разнастайнасць прадуктаў харчавання, пачастункаў). Прыяжджаям мы да маладой. А там і смажанага і варанага, брат, на стале і так кускамі было, ўжо й места ні было дзе ставіць. *Дайг., Віл. р.* Цяпер вяселё гуляюць тыдзянь. Пананосяць усяго: і смажанага й варанага і так кускамі, п'юць, танцуюць. *Сав., Стаўб. р.* Паехалі рас мы ў тыя Баркі. Думалі ў ягады схадзіць. Прышлі да іх. А яны (сваякі) добро жывуць. Панаставілі на стол усяго — ні знаяш, за што першаё ўзяцца — і смажанаго й варанаго і так кускамі. *Шаш., Стаўб р.*

ІСЦІ НА ДОЛЮ да каго. Згадзіцца працаваць на чужой гаспадарцы на ўмовах атрымання пэўнай долі, часткі, паю ад даходу гэтай гаспадаркі. Як я падрос, жыць не было на чым, трэба было йсьці на долю. Нас было чатырох братоў. Як падзялілі бацькаву палоску, дык і барана нятоўпіцца (не змяшчаецца). Сам на долю пашоў да суседа, у яго дзяцей ні было. Усяго наслухаўся, ведама, ні са сваімі бацькамі. *Януш., Лаг. р.*

ІСЦІ НА ПРЫМЫ да каго. Гл. ПАЙСЦІ (ісці, прыйсці) НА ПРЫМЫ (на прымакі) да каго.

ІСЦІ (адправіцца) НА ТОЙ СВЕТ. Памерці, загінуць. Колькі маленькіх дзетак ішло на той сьвет раней. Лячэньня ніякага ні было, уміралі чуць што. *Жац., Стаўб. р.* Учора ш Абрамовіч, што ў касьцёлку правіў, атправіўсё на той сьвет. *Сав., Стаўб., р.* На той сьвет то яшчэ ўсе пасьпеям атправіцца, трэба тут жыць, пакуль жывецца. Глядзі вот дзяцей і ні гавары абы-чаго, папраўляйся. *Там жа.* Даўно яго трэба було так папаіць крывёй, каб ён знаў, як нішчасных жонак на той сьвет атпраўляць. *Раб., Слаўгар. р.* Мне пайшоў усяго шосты гадок, як памёр бацько, а церас два ці тры месяцы пайшла на той сьвет і маці. *Ст. Дзяв., Слонім. р.*

ІСЦІ (пайсці) Ў ПРОЧКІ ад каго. 1. Сыходзіць з дому, пакідаць на пэўны час сваю ўласную гаспадарку. Мой мужык пайшоў ад мяне ў прочкі. *Пан., Нясв. р.* Здурнеў ды, мусіць, у прочкі пашоў з дому. *Няс., Навагр. р.* Надаела мне ўжо гэта сварка, нязгода ў хаця. Як пасварылася, то й пашоў у прочкі. *Сял., Маладз. р.*

Дзеці некія ніпаслушныя. Ні слухаюць. Як скажу, што калі ні будзяця слухаць, то пайду ў прочкі, памоўкнуць, глядзяць, што гэто маці кажа. *Сав., Стаўб. р.* Цярпела я, цярпела, божа мой, ужо боляй і цярпець ні магу. Пайду я ў прочкі! Сабрала вузялок, дзяцей, і пашла я ў прочкі. А мне ні было да кагоісьці ў прочкі. Пайду, думаю, дзе на службу стану да каго. *Аляхн., Моладз. р.* **2.** Памерці. А мой Пятрок пашоў к дзяцьку, да кажа: «Ужэ ш Якаў у прочкі пашоў, ужэ ш пам'ёр наш Якаў, хадзем хаваць». *Гр., Слуц. р.*

ІСЦІ Ў РУКІ да каго. Прыходзіцца, даецца каму што або хто лёгка, без асаблівых намаганняў. Такая карова! Як лялька, вым'ё вялікаё, масьці харошай. Чаму ш ты ні купіў? Сама, можно сказаць, ідзе табе ў рукі, а ты нешто думаяш, гадаяш. Калі думаяш мець, то яшчэ й ціпер ні позно, купляй і ўсё. *Сав., Стаўб. р.* Табе грошы самі йдуць у рукі, толькі трохі пашавяліцца трэба. Так добро плацяць, калі робіш на трактары. *Жац., Стаўб. р.* Новую акушорку прыслалі да нас. Сь першаго разу спадабалася яна мне. Відаць, простая дзяўчына, ні задаецца і зь віду ніц (нічога) сабе, харошая. Так што наш дохтар можа цяпер жаніцца, дзеўка сама йдзе ў рукі. *Пад., Дзятл. р.*

І Ў ГАЛАВЕ НЯМА. Гл. НЕ Ў ГАЛАВЕ. НЕ Ў ГОЛАЎ. НЕ ДА ГАЛАВЫ. НЕ НА ЎМЕ.

І Ў ТОЙ БОК НЕ ГЛЯДЗЕЦЬ. *Незадав.* **1.** Не хацець бачыць каго, сябраваць, знацца з кім. Даўней, на футары жывучы, то хадзілі адзін да аднаго ці на вячоркі, ці так чаго. А цяпер мая сусетка, як ідзе вуліцаю, і ў той бок ні глядзіць,— паняю стала, разбагацела. *Жац., Стаўб. р.* Жывеш бес сваіх (родных), нек сумна, нядобра. А яны ш павыцурваліса і сваіх родных дзяцей. І ў той бок ні глядзяць. *Гр., Слуц. р.* **2.** Зусім не хочацца чаго, прыелася што. Бывала, знаяш, пячэць матка бліны. Схваціш той блін, і ні нада яго ні качаць, ні мачаць, і так смашна, ходу з хаты. А цяпер і ў той бок ні глядзіш. *Мік., Мядз. р.* То ш, бывала: «А-я-яй, кот панёс мазюлік, што патэльню мазаць». А цяпер сядзіш есьці, адрэжыш сала, паложыш кату, а ён і ў той бок ні глядзіць. О, кап це каршун, кот сала ня есьць! Скажаш, ніпраўды? *Там жа.* Дала сьвіням бяроскі, нарвала ў картофлях. То ні хочуць, лычэ паадварочвалі і ў той бок ні глядзяць. О, кап вы падохлі, аёц у хлеў! *Сав., Стаўб. р.*

І ХЛЕБА І ДА ХЛЕБА. Дастаткова ўсяго, многа (прадуктаў харчавання). Німа чаго казаць. Павырасталі дзеці, зарабляюць добро ў калхозі, хватая ціпер і хлеба й да хлеба. *Гал., Стаўб. р.* Сямёра дзяцей было ў маткі, адно за адным. Трунна было гадаваць, але ш вырасьлі, разьляцеліся па сьвеці. А мы, старыке, дома жывём, у нас і хлеба хватаіць і да хлеба. *Луб., Віл. р.* Нас пяць дзяўчын, мы ўсе ўмеім добра гаспадыніваць, мы ні палучаім і грошай многа, але ўсе мы ўмеім жыць, ва ўсіх і хлеба кусок ёсь і да хлеба. *Вар., Докш. р.*

ІЦКАВА ГАЛАВА ў к а г о. *Захапл.* Вельмі разумны, кемлівы хто, хутка прыстасоўваецца да жыцця. Грышу далёка да брата, Павал — іцкава галава, крэпка разумны: ўсё ўмея, ўсяго наскупляе, насьцягае, прывядзе да ладу. Надзі ні бяда за такім мужыком. *Бял., Лаг. р.*

## К

ҚАДУҚ НЕ БЯРЭ к а г о. Гл. ЧОРТ (кадук, немач, халера) НЕ БЯРЭ к а г о.

ҚАЗІНЕЦ У НОГІ ЎПАЎ к а м у. Страціць здольнасць хадзіць, перамяшчацца. Селі мы старыя й глядзім, як дзяўчаткі танцуюць самі с сабой, а мальцы труцца толькі па кутках. А Марыя ня вытрымала і як выскачыла й давай страміць кавалераў: «Чаго стаіцё ў кутку? Што вам казінец у ногі паўпадаў?» (казінец — хвароба коней, крывізна пярэдніх ног). *Баб., Пол. р.*

ҚАЗЛЫ ДРАЦЬ. Гл. ДРАЦЬ (дзёргаць) ҚАЗЛЫ.

ҚАЛІВА Ў ҚАЛІВА. ЗЕРНЕ Ў ЗЕРНЕ. Добрае, адборнае (зерне, расліны). Наш калхос у гэтум годзі азалоціцца. Такая пшаніца ўрадзіла, як сьцяна, а колас — каліва ў каліва. *Жац., Стаўб. р.* Гэдакай расады ўзяла ў Волькі, каліва ў каліва, і вялікая і тоўсьцінькая, зь яе то будзя капусты. *Кунц., Кл. р.* Харошага жыта палучылі ў калхозі — каліва ў каліва. Трэба напытляваць мукі. *Сав., Стаўб. р.* Нашы куры цэлу зімачку картоплі ні папробувалі. Усю зімачку зёрнятмі карміла: тры рас, тры рас. Зьелі тры пуды ячменю, чатэры пуды пшаніцы. Да гетака пшаніца. Зерне ў зерне! *Гр., Слуц. р.*

ҚАЛОМ ЛЯЖЫЦЬ ш т о. Гл. ЛЯЖЫЦЬ ҚАЛОМ ш т о.

ҚАЛОМ СТАЦЬ. Гл. СТАЦЬ СЛУПАМ (калом).

ҚАЛЯДУ АДДАЦЬ к а м у. Расплаціцца па найму

з кім, заплаціць наймітам за работу (звычайна найманне і разлік па найму праводзіліся ў час калядных свят). У каго зямлі было многа, парапкаў наймалі. Наймалі на гот, на коляды найміцьцё тое. Сабіраліся на коляды ў хадзяіна ўсе: й тыя, што парапкавалі, й тыя, каго наймаў. Хадзяін парапкам каляду аддасьць — хлеп печаны, грошы, як угодзяцца на жыта, жыта даюць. Іннаму скорамам выплачваў хадзяін. *Пр., Стаўб. р.*

КАЛЯ РУК к а г о, ч ы і х. Паблізу, побач. Як былі малыя, то ўсё каля рук, усё каля рук. А гэто ўсе парасходзяцца, кожны па сабе: хто гуляць, хто рыпку, хто загараць. *Сав., Стаўб. р.* Гэто цяпер прыдумалі сады, яслі для дзяцей. А даўней і ціпер на вёсках дзеці каля рук. От ці на дварэ дзе корпаюцца, ці на полі, калі жыто жалі. Каля рук былі. *Жац., Стаўб. р.* Дзевачкі сьмелыя. Яны самі й пойдуць да каго, і на рэчку адны, бес старшых, а хлопчык — не. Гэты ўсё каля рук, некі баязьлівы, ад мамы ні на шах. *Гор., Стаўб. р.*

КАМЕНЕМ СЯДЗЕЦЬ. Гл. СЯДЗЕЦЬ КАМЕНЕМ.

КАМЕНЬ НА ДУШЫ ў к а г о. Гл. КАМЕНЬ НА СЭРЦЫ (на душы) у к а г о. СЕЎ КАМЕНЬ НА СЭРЦА к а м у.

КАМЕНЬ НА СЭРЦЫ (на душы) ў к а г о. СЕЎ КАМЕНЬ НА СЭРЦА к а м у. Душэўна пакутаваць, перажываць, быць у прыгнечаным стане. Дождждык мярсіць, а вёска гарыць, а каровы ходзяць каля вёскі, равуць, каб у хлеў, а хлеў гарыць. Такі некі камень на сэрцы, так стала жорстка на сэрцы, думаць, і скаціна страдаіць праз немцаў, хочаць у вёску, равуць каровы гэтыя. *Св., Мядз. р.* Я ні плачу на хаўтурах. Мой і папа як памёр, я толькі ўскрыкнула разоў два, а потым ні сьлязінкі. Толькі на сэрцы камень ляжыць, акамянеіць сэрца, ні магу гора выплакаць. *Ульян., Сен. р.* Дзевачкі цішэйшыя, а гэты вісус, ні дай бох, якей урэдный быў. Пасварыўся бацько за бацінкі, а ён пашоў (і вы, можа, бачылі ліпавую дарошку?) і засіліўся на ліпі. Во табе! Насварыся. Сеў камень на сэрца бацьку, казаў, ну цяпер хай што хочуць робюць, нічога не скажу. *Ляўк., Арш. р.* Чуіць маё сэрца, ні так я памру, як усе людзі паміраюць, ні сваёй сьмерцю памру. Ляжыць нейкій камінь ў міне на душы, усё я нешта жду, усё мне кажыцца, што нешта будзіць нядобрая. *М. Каш., Гар. р.*

КАМПАНІЮ ВАДЗІЦЬ (весці) з к і м. ЗАВЕСЦІ

КАМПАНІЮ з кім. Быць у прыязных, сяброўскіх адносінах, сябраваць, добра жыць з кім. Мішка завёў кампанію, сабяруцца, пасьнедаўшы, і ўсе на рэчку ракаў лавіць. *Сав., Стаўб. р.* Марынкі німа. Яна адранку як пашла, то й ціпер німа. Завяла кампанію зь Ленаю, Алікам, Віцькам і гуляюць разам цэлы дзень, дзе іх німа. *Там жа.* Казік трохі дзікаваты, баязьлівы, німа, кап ён завёў с кім кампанію, усё адзін і адзін. *Жац., Стаўб. р.* Старшы (сын) кунпанію вядзець бальшую, прыяжджаюць сьвязныя, парцізаны сь Се́нна, зь Бе́шанкавіч, ш Ча́шнік, сь Церабе́нь, сь Сяргеік, с Прыве́тку, с Азяра́цка. А тэй ленінграцкей (сын) кунпаніі ня водзіць. *Ульян., Сен. р.* Завэлі конпанію з эстым Міха́лком (вун був лесніком), а вун кажэ: «Прыіжджяйте, я вам подкажу, колы пана не будэ, прывэзэтэ сосняку на жордкы». *Цер., Пін. р.*

КАНЦА-КРАЮ (канца-берагу) НЯМА (не відаць) чаму. 1. Бясконца далёка пашыраецца што. У гэтум годзі ў нашум калхозі пшаніца-пшаніца! А пасеяно много, канца-краю ні відаць. *Сав., Стаўб. р.* Як выядзяш за Дубеі, дак палём канца-краю ні відно. *Вяліч., Сал. р.* Бачыла я той лён, як ішла. Харошы, галубенячкі, і канца-краю няма. *Гал., Стаўб. р.* 2. Бясконца доўга працягваецца што. Іхнюй рабоці німа канца-берагу, усё пішуць і пішуць. *Ліцв., Карм. р.* Калі прыйшла Чырвоная Армія, то ні было канца-краю радасьці. Дайжа не верылася, што йта прышла наша Чырвоная Армія, і дайжа многія пачалі ўцякаць у лес, кажуць, гэта нейкі абман. *Ухв., Кр. р.* 3. Вельмі многа, у велізарнай колькасці. Як панаехала гэтых палякаў, канца-краю ні відаць, усё йдуць і йдуць. *Гор., Стаўб. р.*

КАНЦЫ АДДАЦЬ (аддаваць). Памерці, паміраць, канаць. Гэта во жанчына, сусетка мая, вышла картофлю палоць, а са́ма была жара, трыццаць адзін г′радус. Сонцо ўдарыло, а ў яе паніжано даўленё крывяноё. Як стало ёй кепско, чуць канцы на тым полі ні аддала. *Сав., Стаўб. р.* Так неборака рабіў вік, а колы прышлоса концы аддаваты, то й нэ оділі діты як сьлід. *Вел., Пін. р.* Пішчыць і пішчыць, аш шкода кабанчыка. Пора там недзя кала сэрца. Во папрашу Андрэявіча, той як бачыш швайку пад бок — і ўсё, трэп-трэп нагою і гатова, кабан канцы аддаў. *Гор., Стаўб. р.* Ужо ш і Тодар аддаў канцы. Трэба будзя пайсьці вечарам, прасілі. *Там жа.* Тадзік рас як даў гэтуй

кабылцы, яна чуць духоў ні ўказала, чуць канцоў ні 'аддала. *Жац., Стаўб. р.*

КАНЦЫ БУДУЦЬ к а м у. Смерць наступіць чыя. Пусьці міне, бо як сьцебану, як пэцну, то канцэ табе тут будуць, больш ні палезяш. *Страк. Свет. р.* Коля як улупіў сьвіні, як смальнуў, думала, што канцы ёй будуць ужо. *Сав., Стаўб. р.* Выпусьціла на двор куранятніцу, хай, думаю, праветрыцца трохі на дварэ, а яна насклікала куранят і на вуліцу ў пясок. А тут машыну чорт нанёс якрас. Я ў крык. Шафёр свой, сьцішыў хот. Думала, канцы ёй будуць, перапалохалася. *Там жа.*

КАНЦЫ З КАНЦАМІ ЗВОДЗІЦЬ. Гл. ЗВОДЗІЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ.

КАПЕЙКІ АДБІРАЦЬ у к а г о. Перахопліваць работу і, такім чынам, заработак у каго. А яна разумная: сядзела, сядзела дома, а цяпер вышла і капейкі ў людзей адбіраець. *Н. Тур., Уш. р.*

КАПЕЙКІ ЗА ДУШОЮ НЕ МЕЦЬ. Гл. ГРАША (рубля, капейкі) ЗА ДУШОЮ НЕ МЕЦЬ.

КАНЦЫ ЗРАБІЦЬ к а м у. Гл. ЗРАБІЦЬ КАНЦЫ к а м у.

КАПЫТЫ АДКІНУЦЬ. Захварэць. Нешта Люся Марозава дома сядзіць, капыты аткінула. Учора Волька казала, уся гарыць. *Райч., Пух. р.* Учоро ото пагода была харошая, сьвяціло слонцо, то дзеці на дварэ гулялі. А сягоньні, гляджу, Міша нешто кволіцца, есьці ні хоча. Кажа, што жывот баліць, ляжыць на канапцы, капыты аткінуў. *Сав., Стаўб. р.*

КАРАЛЮ ГАЛОВЫ СЦІНАЦЬ. Касіць, высока падразаючы (траву, жыта і інш.). Як будзіш касіць, левую руку падымай вышай, о так о (вось так), тады каса будзя мінаць усе каменьні, будзяш, як у нас гавораць, каралю галовы сьцінаць, высока касіць. *Бял., Лаг. р.*

КАРЧОМ СЯДЗЯЦЬ. 1. Многа, настойліва сядзець (робячы што-небудзь). Бывало, карчом сядзіш, усё прадзеш і прадзеш, усё стараясься, кап было. *Сав., Стаўб. р.* Мой (сын) вунь карчом сядзеў нат ксёншкаю, то й вучыўсё добро, а гэто тоі ксёншкі ў рукі ні возьмя, дзе тоё вучэнё будзя. *Жац., Стаўб. р.* 2. Жыць ціха, спакойна, не прымаючы актыўнага ўдзелу ў грамадска-карыснай працы. Калі ні будзя вельмі сурова зіма, та мо як перазімую. Прывезла машыну дроў, дзьве тоне торфу. Буду паліць пamaленьку, дай сядзець карчом на сваёй печы.

*Гр., Слуц. р.* Даўней старому спакайней было, меў якія два загоны і сядзеў карчом, як мая мама. Але цяпер лепш — ні ат кога нізавісім, пенсія. *Там жа.*

КАСА (нож) НА КАМЕНЬ. Сутыкнуліся ў непрымірымай супярэчнасці розныя характары, погляды. Наскочыла каса на камянь — ні адна, ні другая ні хоча ўступіць, стаяць каля плоту й агрызаюцца. *Гор., Стаўб. р.* У нас жанчына адна жыве зь нявесткаю ніважна, як кажуць, нош на камянь. Адна сваё, другая сваё. Нісуворна (не ў згодзе) жывуць. *Каг., Лід. р.*

КАСУ ЗАПЛЕСЦІ. Выйсці замуж. Вот і Антосіна дочка косу запліла. *Вел., Пін. р.*

КАТУ ПАД ХВОСТ. Гл. САБАКУ (кату) ПАД ХВОСТ.

КАТУ ПА ПЯТУ. Малараслы, малы, невысокі. Яшчэ вырасла кату па пяту, а ўжэ чуб на галаве ставіць, вот што значыць маладое. *Кав., Старадар. р.* Які той Казік — кату па пяту, а й ён ужо ходзіць у клуп танцаваць, было п дабро на сьвеці! *Жац., Стаўб. р.* Давай рас барукацца. Сабраліся хлопцы, дурэюць. А Тадзік Цьвірчышын здаровы, нічого што кату па пяту, як хваціў ён Антолішынаго да як бразьня аб зёмлю. *Сав., Стаўб. р.*

КАЎТУН ЗАВІЎ. Прыйшло ў галаву, заманулася, стукнула ў галаву каму. Я й ні зьбіралася ехаць, адаля каўтун завіў, села на аптобус і паехала да сястры ў госьці. *Гр., Слуц. р.* Настуся паехала да Мішы ў Пятрылаў, думала жыць там. І казу туды завезла і сякія-такія манаткі. Пажыла мо с тыдзянь, адаля каўтун завіў, яна лахі пат пахі й паперла дадому. *Там жа.*

КАХАННЕ ПРАВАДЗІЦЬ. Заляцацца да каго, фліртаваць з кім. Як каханё права́дзіў, ня піў тады, а цяпер пака ні вып'я, яму й работы німашака. Аш млея, кап выпіць. *Сав., Стаўб. р.* Ванда Камароўскіх такая харошая зрабілася. Учоро йшла зь некім хлопцам, можа ўжо каханё права́дзіць. *Сав., Стаўб. р.* Некалі мой (сын), як каханё правадзіў, прыедзя ранічкаю, ўжо ўставаць трэба, а ён у гумно, кап ні чулі, і скарэй спаць. *Там жа.*

КАША ЗАВАРЫЛАСЯ. Гл. ЗАВАРЫЦЬ КАШУ.

КАШУ ЗАВАРЫЦЬ. Гл. ЗАВАРЫЦЬ КАШУ.

КАШЫ НЕ ЗВАРЫШ з кім. Не дагаворышся, не пасябруеш, не зладзіш з кім. Колькі рас табе наказвала — не хадзі ты да Іваноўскіх, бо ўсі роўно нічого ні будзя, кашы ты зь ім ні зварыш. Вот паглядзіш, ашука-

юць цібе. *Гор., Стаўб. р.* Зь ёю кашы ні зварыш, заяўдуха (заядлая жанчына) гэта. Зь ім (мужам) памеркавацца можно, а ёй усё мало, кап ёй зямлі на вочы ні хваціло. *Сав., Стаўб. р.* Паехаў мой аш у Цьвіркі, думаў патаргаваць тую хату. А дзе бачылі! Людзі паразьяўдаліся, цяпер зь імі ні зварыш кашы. Закацілі чатэры тысячы, за што там чатэры тысячы плаціць? *Там жа.* Ні хоча пазычаць — і ўсё. Круціў, круціў, кажа, сабе прыгодзіцца. А на чорта яму той цабэрак, калі ставіць німа чаго? Можа сваім дзецям пакідая? Вот і звары ты кашу зь людзьмі. А я думаў, прадасьць ці пазычыць. *Жац., Стаўб. р.*

КЕПІКІ СТРОІЦЬ з к а г о. Гл. СТРОІЦЬ КПІНЫ (кепікі) з к а г о.

КІВАЦЬ ПАЛЬЦАМ н а к а г о. Даваць зразумець каму, што і ён вінаваты; удаваць, намякаць на ўдзел каго ў нядобрай справе. Ты, братка, ні ківай на міне пальцам, бо й ты ш, можа, ні сьвяты. Разам жа былі. *Ас., Стаўб. р.* Яніна і на міне пальцам ківая. Яна думая, што я на яе нагаварыла. А я богу душою нівінна. *Там жа.* Ты ні ківай пальцам на каго, бо ніхто гэтаго ні мох зрабіць, толькі адзін ты. Ні ўмешвай людзей дарэмно. *Сав., Стаўб. р.* Эдзік нешто ківая пальцам на Колю, кажа, што гэто яго работа. Я ні ведаю, хто там вінаваты, а ўмешвацца тожа ні хачу. *Веч., Стаўб. р.*

КІДАЦЦА ДА РУК к а г о, ч ы і х. **1.** Вельмі моцна прасіць, упрошваць каго. Кабета кідаяцца да рук, плача, галосіць, каб аддалі карову, а яны куды там, толькі штраф. Плаці штраф — і дзела з канцом. *Жац., Стаўб. р.* Які ты непрыветлівы зрабіўся! Яна так цябе просіць, да рук кідаяцца, а ты сядзіш і маўчыш. Трэба памахчы чалавеку. *Зал., Стаўб. р.* А сіротка памаўчыць, памаўчыць, паглядзіць на мачыху: «Мама, дай, дай!» Кідаяцца да рук, а тая мачыха ні вельмо дасьць,— сваіх глядзіць. *Жац., Стаўб. р.* **2.** Гарнуцца да каго, імкнуцца пасябраваць, быць у добрых адносінах з кім. Надумалася пайсьці да аб'ездчыка, каб лесу на хату як дастаць. Я й так, я й гэтак, ні вельмо кідаяцца да рук, трэба шукаць, у каго рука якая ёсь, мо тады згаворлівей будзе. *Гал., Стаўб. р.* Да рук ні кідаяцца, бачыш, ні горняцца, то й ты будзь разумнейшы, ні чапай і ты яго. *Сав., Стаўб. р.*

КІДАЦЦА (падаць) Ў ВОЧЫ к а м у. Прыцягваць да сябе ўвагу, вылучацца з асяроддзя. А што там красіваго на той Яні? Нека забурмашыстая, ногі тоўстыя, гу-

бы тоўстыя, адно што маладая, дак ні кіда́яцца ў вочы. *Сав., Стаўб. р.* Як будзяш там за сталом, то много ні пі, выпі так сабе, як усе, каб ні кідаласё ў вочы. Бо брытко будзя, як нап'есься. *Там жа.* Глядзі, мне абноўку прывезьлі зь Мінска, на сукенку набралі. Харошы мацяр'ял, цёмныя кветачкі, у вочы ні будзя гэдак кідацца. *Жац., Стаўб. р.* «От набраўся!» — «А ты ні ўглядайся».— «Як жа ні ўглядацца, калі ён па́дая ў вочы. Гэткі мушчына с твару прыгожы, чырвоны, а набраўся, на нагах не стаіць». *Мік., Стаўб. р.*

КІДАЦЬ ВАЧЫМА. Гл. КІНУЦЬ (кідаць) ВАЧЫМА (вокам).

КІНУЦЬ (кідаць) ВАЧЫМА (вокам). Акінуць позіркам, глянуць куды. Толькі замок замыкаю, а ён (участковы) тут як тут: рас у хлеў, на гару паглядзеў, кінуў ачыма на печ, а там стаіць вушацік з брагай, адзежаю накрыты. *Бял., Лаг. р.* Прыбех у хату запыханы. Аткуль ты такі задыханы? А ён усё кідая вачамі па хаці, нешто хоча ўбачыць. *Ас., Стаўб. р.* Паглядзеў ён на печ, кінуў вокам і кажа: «Трэба многа цэг'лы, каб добро зрабіць» (Гэто я хацела яго папрасіць, кап печ перарабіў.) *Сав., Стаўб. р.* Андрэявіч толькі вокам кіня і адразу ведая, што тут трэба. *Жац., Стаўб. р.*

КІШКІ МАРША ГРАЮЦЬ. Есці хочацца. Калі тоё сьнеданё было, я ўжо й забыўся. Зноў есьці хочацца, кішкі марша граюць. *Сав., Стаўб. р.* Сядайця за стол алаткі есьці, бо позно, кішкі марша граюць. *Гор., Стаўб. р.* У цібе, мусіць, кішкі марша граюць? Выгаладаўся за дзень на полі, то йдзі есьці дам. *Там жа.* Праўда, праўда, Канстанцінавіч. Давай аб'яўляй абед, а то кішкі марша граюць. *Ляўк., Арш. р.*

КІЯ ЎСЫПАЦЬ к а м у. Набіць, адлупцаваць, адхвастаць каго. Яму трэба было за крадзеш кія ўсыпаць, вушы паабрываць, то можа ні палез бы больш у чужыя яблыкі. *Гал., Стаўб. р.* От я тобі зара кыя ўсыплю. Гэто ж за літо ны подывыца ў кныжку, а дай ёму ў грыбы ходыты, дай ёму ў ягоды да куды нэ сьлід. *Бот., Пін. р.*

КЛАСЦІСЯ ПОКАТАМ. Моцна і нястрымна смяяцца. Учоро Вікця сьмяшыла людзей. Сабраліся на абет каля буртоў, абедаюць. А яна як скажа, як скажа, покатам кладуцца. Вот яна ні ціраяцца на людзях. *Гал., Стаўб. р.* А тая сабрала кала сябе дзяцей, гародзіць ім нешто, расказвая, а яны рагочуць, кладуцца покатам. Ведамо, дзе-

ці, ведаюць, што яна дурнаватая, недапечаная трохі. *Ас., Стаўб. р.*

КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ. Гучна, нястрымна смяяцца, смяяцца да знямогі. Прышлі ў тую бальніцу: «А дзе ты сьпіш, дзядуня? Ці мяккая ў цябе пасьцель? А хто табе вядро нясе?» То ўсе, хто там быў у той бальніцы, клаліся са сьмеху, падрываліся са сьмеху. *Марх., Стаўб. р.* Я ўчора ў Слонімі бачыла дзеўку модну. Каб яе да нас пусьцілі, то людзі дайшлі п са сьмеху. Косы чырвоныя як страха стаяць, пазнохці брандзовыя аж гараць. Ды кап хоць адно на руках, а то й на нагах! *Востр., Зельв. р.* От сьмяхата была, аш пэнкаў ат сьмеху. *Пр., Стаўб. р.* Паехалі па пясок. Узялі каляску. Едзем. А во зьехаў мяшок. І як сталі дзеці сьмяяцца, і я сьмяялася спачатку. А тады зло неко, кажу: «Памажы ўсьцягнуць!» А яны аш пэнкаюць ат сьмеху. *Сав., Стаўб. р.* Позно прышла с кіно. Неко харошо было, сьмешно. Многія заходзіліся са сьмеху. Ото папарагаталі. *Гор., Стаўб. р.* Моціна матка — тъкая баба сьмішная. Як станіць расказаваць, парвесься ат сьмеху, аткуль у яе бярэцца. *Ляўк., Арш. р.* І ўсе, хто тут быў, аж заходзяцца ат сьмеху. *Гр., Слуц. р.* Прыехала пад Новы год дачка на два дні, залезла з бацькам на печ і рэжуцца (дурэюць). Аж заходзяцца ат сьмеху. Стары мушчына, а як маленькі. *Сав., Стаўб. р.* Дзеці налавілі маленькіх карасікаў у баюрынах, укінулі ў трохлітровік і паставілі на ґанку, а кошка скрадзяцца і хап рыпку лапаю. А ім сьмешно, ат сьмеху заходзяцца. *Там жа.* Падышоў рас Аньцік Прус пад нас і як пачаў некія аніґдоты расказваць — клаліся са сьмеху на полі. *Жац., Стаўб. р.* Ні выдзержаў Бадоўскі (кпінаў) і скінуў Максіма. Той упаў, нагамі трасе і ат сьмеху аж заходзіцца: «Ой, люццы добрые, первы раз у жыцьці на панові покатаўса». *Мур., Пруж. р.* У калхозе калі пасядам есьці да як пачнуць жанкі расказваць абы-што, то аж залягаямся ат сьмеху. *В. Рож., Сал. р.*

КЛЕЦКІ З ДУШАМІ. Клёцкі з начынкай. Старкуюць, зьдзяруць бульбу, выціснуць, наробюць клёцак з душамі — зь мясам ці ш чым,— бальшыя, укусныя, начыненыя мясам ці чым, жараныя ў тлушчы. *Бяльм., Брасл. р.*

КЛІНЫ ПАДБІВАЦЬ пад каго. 1. Шукаць спосабы да прымірэння, імкнуцца выклікаць прыхільнасць да сябе. Трэба нек пат сястру кліны падбіваць, ці так

і будзяцца жыць пасвараныя? *Гр., Слуц. р.* 2. Заляцацца. Наша Жэня гэтака дзеўчына хароша, але от нешта замуш ні сьпяшая. Ужэ хлопцы даўно кліны падбіваюць, і харошыя ест хлопцы, але ні адзін ёй ні наравіцца. *Бяр., Слуц. р.* Адна ні панаравіласа, то хай бы п другой кліны біў. *Гр., Слуц. р.*

КЛУБОЧАК РАСКАЦІЦЬ. Выкрыць якую-небудзь ганебную справу. Прыехаў новы бугалцяр, пратсядацяль паглядзеў, што клубочак пачаў раскочвацца, адразу зьнялі, прапанавалі тры другія калхозы, апроч «Чырвонаго сьцяга». *Сав., Стаўб. р.* А пратсядацяль бачыць, што такоё дзело, што клубочак раскочваяцца, зьнялі з работы Петрашэўскую. *Там жа.* А самім то ні хацеласё раскаціць гэты клубочак, чакалі, пакуль хто ні свой дабярэцца. *Гор., Стаўб. р.*

КЛЯВАЦЬ НОСАМ. *Жартаўл.* Драмаць, седзячы. «Цётка, ваш бык уцёк! Цётка!» Ня чуець, клёваець носам. *Ліцв., Карм. р.* Загуляўсё ўчора, а сягоньні клюе носам на рабоці. *Мач., Бабр. р.* Прыдзя Пятроўскі, сядзе каля стаяка, цёпло, а спрацаваўшыся за дзень, прыгрэяцца, носам клюе. *Сав., Стаўб. р.* Аня спаць хоча, стамілася за дзень на бураках. *Жац., Стаўб. р.* Ні клюй носам, раскажы, што ў тых Баранавічах. *Там жа.*

КОЖА ДЫ КОСЦІ. Гл. АДНЫ (адна) РЭБРЫ (косці, шкура). КОСЦІ І (ды) ШКУРА (кожа).

КОЗУБАМ СТАЦЬ. Мокрае, змерзлася на чалавеку, цвёрдае, злубянелае, шчыльна не прылягае да цела (адзенне). Улізьлі ў тую зымлянку, а там сьнігу во так надула, пэчка холодна. А што ш тая зымлянка, када ты шэсь кіломэтраў мокры йшоў на морозе, когда ты ўжэ зам'ёрз, когда твое шынелі, мундзеры — усё козубом стало. *Бот., Пін. р.*

КОЛЬКІ ЎЛЕЗЕ. Уволю, удосталь, без абмежавання. І зарас ні магу забыцца на вайну. Як толькі гляджу цілівізар ці кнішку чытаю пра вайну, як гіблі людзі, дык наплачуся колькі ўлезя. *Гай., Лаг. р.* Баба старая, гадоў можа пяцьдзесят, тоўста, лыткі тоўстыя, танцуя і пячэня тарчыць с панчох. Нашто ш табе браць тое пячэня, еш колькі ўлезя, а нашто браць, нашто пхаць у панчохі! *Сав., Стаўб. р.* Прыходзіць Віцік Рэнін картофлі прасіць. «Заплачу»,— кажа. А нашто мне твая плата, бяры вот у мяшок колькі ўлезя, як панесьці, й нясі. Можа калі паслухаяш і дроў ці торфу прывязеш. *Там жа.*

КОННА ВЫЕХАЦЬ на кім. Гл. ВЕРХАМ (конна) ВЫЕХАЦЬ на кім.

КОННА ЕЗДЗІЦЬ па кім. Здзекавацца, эксплуатаваць, мучыць каго. Ну вот мінулася іх уласьць, не будуць па мужыку конна езьдзіць, як бывало. Усе роўнымі сталі, калі зямлю забралі. *Жац., Стаўб. р.* Гэтая большая конна езьдзіць па малой, б'е яе, а гуляць, забаўляць ані ніхто ні хоча. *Гор., Стаўб. р.* А падаткі былі! Мучыш дзяцей, ні сала таго, ні масла — усё прадай на падаткі. Конна езьдзілі па людзях, як хацелі. Чалавек сьвет убачыў, як гэтаго ліхалецьця ні стало. *Веч., Стаўб. р.*

КОСА ПАГЛЯДАЦЬ на каго. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) на каго.

КОСТАЧКІ АБМЫЦЬ каго. Гл. АБМЫВАЦЬ КОСТАЧКІ каго.

КОСТАЧКІ ПЕРАБІРАЦЬ каго. Гл. АБМЫВАЦЬ КОСТАЧКІ каго.

КОСТКА Ў ГОРЛЕ. *Незадав.* Быць перашкодай каму ў чым, надакучаць, моцна назаляць каму. Ажно так і было. Як пашла замуш, дак як удавілаcа. Той замуш ёй як костка ў горля. *Гр., Слуц. р.* Адзін мужык ды добра ж жонкай ладзіў. А гэта ш чарту ў горле костка. *Мік., Мядз. р.* Мне гэтая твая паестка як костка ў горлі. Сядзеў бы дома, тутака добро аддыхнеш. А мне памох бы што. Трэба й дроў прывесьці, і платэ паставіць, пазагароджваць, кап-куры ні вылазілі. *Сав., Стаўб. р.* Я проціў гэтага замужаства была й буду. Бас сэнсу гэта жанідзьба. Яе жанідзьба нам костка ў горле. Кончыла б навуку, тады б замуж ішла. *Бар., Стаўб. р.*

КОСЦІ ДЫ ШКУРА. Гл. АДНЫ (адна) РЭБРЫ (косці, шкура). КОСЦІ І (ды) ШКУРА (кожа).

КОСЦІ ПАРЫЦЬ. Гл. ПАРЫЦЬ ЗЯМЛЮ (косці).

КОСЫ НА САБЕ РВАЦЬ. Гл. ВАЛАСЫ (косы) НА САБЕ (на галаве) РВАЦЬ.

КПІНЫ СТРОІЦЬ з каго. Гл. СТРОІЦЬ КПІНЫ (кепікі) з каго.

КРОЎ ЗА КРОЎ. Забойства за забойства. Пра помсту. І забілі, і ў Дняпро ўкіналі. Але міліцыя злавіла аднаго, зъбралі, другей уцёк. Што цяпер ім будзіць? Верна, кроў за кроў. *Ляўк., Арш. р.*

КРОЎ ПАПОРЦІЦЬ каму. Гл. КРОЎ ПСАВАЦЬ (папсаваць, порціць, папорціць) каму.

КРОЎ ПАПСАВАЦЬ каму. Гл. КРОЎ ПСАВАЦЬ (папсаваць, порціць, папорціць) каму.

КРОЎ ПОРЦІЦЬ каму. Гл. КРОЎ ПСАВАЦЬ (папсаваць, порціць, папорціць) каму.

КРОЎ ПСАВАЦЬ (папсаваць, порціць, папорціць) каму. Нерваваць, непакоіць каго. Схадзіў бы ты, ўнучак, на рэчку, таўчэсься пад рукамі цэлую раніцу, кроў псуеш мне. Ідзі, ідзі, там ужо хлопцы купаюцца. *Сав., Стаўб. р.* Прыець ты калі, трэба платэ падняць. А то колькі мне куры крыві папсавалі за весну! Рады ад іх німа, ні адагнацца. Лезуць на Марусіно полё, грабуцца, а яна ні любіць. *Жац., Стаўб. р.* Ні будзя ён (сын) мне кроў порціць. Хай едзя сабе да першай (жонкі) й жыве. А я тут зь людзьмі ні прападу. *Гор., Стаўб. р.* Гэто ш прыбраў да рук хату, гаспадарку, а дабра колька, а ўсяго. Ну я й падумала: застануся ў Міхася, хай мне ні порціць кроў. *Каг., Лід. р.* «Мама,— кажа,— пераяжджай і жыві ў міне. Ён — гэта ш страшна падумаць! — табе, кажа, і так кроў усю папорціў». *Там жа.*

КРОЎ ССАЦЬ з каго. Гл. ССАЦЬ КРОЎ з каго.

КРОШАЧКІ ПАБРАЦЬ чые, каго. Гл. ПАЗБІРАЦЬ (пабраць) КРОШАЧКІ чые, каго.

КРОШАЧКІ ПАЗБІРАЦЬ чые, каго. Гл. ПАЗБІРАЦЬ (пабраць) КРОШАЧКІ чые, каго.

КРУГОМ ПАЛЬЦА АБВЕСЦІ каго. Гл. АБВЕСЦІ КРУГОМ ПАЛЬЦА каго.

КРУЦІЦЦА ЯК БЕЛКА Ў КАЛЯСЕ. Быць заўсёды занятым, у няспынным клопаце, мець многа розных спраў. А колькі работы некалісь было! Ноччу коніка пасьціць, а дзяніну цэлаю араць, касіць, малаціць. Дзеткі маленькія, восім іх было ў мяне. Вот і круціўся як белка ў калясе. *Януш., Лаг. р.*

КРУЦІЦЬ МАЗГАМІ. Думаць, меркаваць, разважаць. Паступала, паступала, але нічого ні вышло, дома сядзіць. Думай цяпер бацько, круці мазг'амі, куды ўперці дачку. *Ас., Стаўб. р.* Недзя закінуўсё венік, шукаю-шукаю й ні знайду ніяк. Кап ты згарэло, цяпер круці мазг'амі, дзе ён ляжыць і сьмяецца. *Сав., Стаўб. р.* Ні ведаю, ці паехаць у Стоўпцы, ці можа ў нашум магазіні купіцца. Добро было п купіць (ложка), але круці мазг'амі, дзе тых грошай набрацца на ўсё. *Веч., Стаўб. р.*

КРУЦІЦЬ НОСАМ. Гл. НОСАМ КРУЦІЦЬ.

КРУЦІЦЬ СВЕТАМ. *Асудж.* Хітраваць, робячы не-

прыстойныя учынкі, блазнаваць, рабіць глупствы. Е ў нас маліц. Пыглядзіш на яго: косый, вірлавокій, вока выкручана, даўганосый, заікастый — словам, ірунда, трохкапеічный, а круціць сьветьм, перабіраець дзевачък, і яны, дурачкі, ходзюць зь ім. *Ляўк., Арш. р.*

КРУЦІЦЬ ХВАСТОМ. *Асудж.* Паводзіць сябе лёгкадумна, непрыстойна. Ты ш ужо ні маладая, ці табе ні надаела хвастом круціць перат гэтым малакасосам. *Н. Тур., Уш. р.* Круціць хвастом нешто твая Зінка. Чорт яе ведая, што яна мае на вуме. *Жац., Стаўб. р.* Олясява жонка круціць хвастом. Недзя паехала далёко, можа й на цаліну. Кажуць, у яе там быўшы ўхажор робіць. *Жац., Стаўб. р.* Ты ні круці хвастом, скажы прамо: паедзяш ці нё? *Сав., Стаўб. р.* Чорт яго зная, або яго поймяш — круціць хвастом. Рас скажа, што будзя купляць, а другі рас — маўчыць. *Гор., Стаўб. р.*

КРУЦЦЮ ЖЫЦЬ. *Асудж.* Жыць, выбіраючы лягчэйшую работу, жыць не высільваючыся. Што Дар'я! Дар'я зьвяно субярэць, усе робяць, а яна толькі па воду бегаіць. Яна ўвесь век круцьцю жыла, таму як конь і цяпер бегаіць. *Ліцв., Карм. р.*

КРЫЛЫ ПАДРЭЗАЦЬ к а м у. Гл. ПАДРЭЗАЦЬ КРЫЛЫ к а м у.

КРЫЎ БОГ. Гл. БОГ КРЫЎ.

КРЫЧАЦЬ СЦЯЧЫ ГАЛАВЕ. Крычаць моцна, як стрываць. Як глянула на гуліцу, а там мо сотня танг'аў ідзе, дак у міне ўсё ў грудзях і заляскацело. А мая Даня гэдак перапалохалася, што крычала сьцячы галаве. *Мул., Дзятл. р.*

КРЫЧМА КРЫЧАЦЬ. Вельмі моцна крычаць. Радзікуліт не залечваюць, трохі падлечаць, адыдзецца, а тады ізноў чуць што й суня. Забалела мне сьпіна, ні здрыганучца. Крычма крычала, баліць ні вытрываць. Так узяло, аш пад рукі вялі. *Пр., Стаўб. р.* Боль а боль нясьцерпная. Невынасімая боль, боль сьмярцельны. Была ў агрэгаці, паляц укалола, нарываў, уся рука сіняя, тры ночы ні спала. Казалі дзеці, крычма крычала. *Сав., Стаўб. р.*

КРЫЧЫЦЬ ЯК РЭЗАНЫ. Вельмі моцна крычыць, плача. Крычыць нешта дзіця як рэзанае, і хто яго ведая чаго. *Мач., Бабр. р.* Етай ноччу наш малы толькі к раньню сьцішыўся, крычаў нешта ўсю ноч як рэзаны. *Кр., Чачэр. р.* Патходжу дадому, чую, дзіця крычыць. Крычыць, крычыць як рэзанае. Я спалохалася, шах прыспо-

рыла, бягом у хату. Аш гэто госьці прыехалі. *Сав., Стаўб. р.* Спаць у хаце ані ні можа, крычыць як рэзаный. Ужо ў шэсь часоў выкатываям каляску і сьпіць на дварэ, доўга сьпіць. *Ляўк. Арш. р.* Унук крыклівый, неспакойный, такей гърлъпан. Усю ночачку не дасьць заснуць, крычыць як рэзаный. Гърлач ўдаўся. *Там жа.*

КУДЫ ВОЧЫ ГЛЯДЗЯЦЬ. Без пэўнай мэты, абы куды. Яму абы йсьці куды вочы глядзяць. А хто ш рабіць будзя ў полі, ці падумаў ты? *Веч., Стаўб. р.* Куды ш ты, пытаюся, пойдзяш? От, выйду дзе, пасяджу зь людзьмі. Пайду куды вочы глядзяць. У некаго ш пасяджу. *Жац., Стаўб. р.*

КУДЫ І ШТО. Невядома куды і навошта, ніхто не ведае куды (ісці, ехаць і г. д.). Пагрузілі, а мы дажа ні знаім, куды і што нас вязуць. І многа дзён мы так мучылiся, замкнутыя, закрытыя ў тых вагонах. *Ухв., Кр., р.* Не ведаю, куды і што ён пашоў. Раніцаю сабраўсё, пасьнедаў і пашоў недзя. Можа ў калхоз, можа дзе да каго, ці я ведаю, мне ні гаварыў. *Сав., Стаўб. р.*

КУДЫ ХТО. Гл. ХТО КУДЫ.

КУЛЬБАКУ ПАДБІВАЦЬ к а м у. Ствараць канкурэнцыю каму, канкурыраваць з кім. Што народу ў Стоўпцах, ах -е-я-ей! А што барахла адусюль на базары! Нашай казьне кульбаку падбіваюць палякі, панавозілі сатусюль, у магазін ня трэба йсьці. *Сав., Стаўб. р.*

КУПЛЯЦЬ КАШУ. Народны звычай: на радзінах за грашовую ўзнагароду набываць кашу, якою бабка надзяляе гасцей. Купляе кашу хросны бацька або хросная матка. Кум, кума купляюць кашу, хто боляй дасьць? Гэта й бакавым (гасцям) можна купляць. Тады ўжо тую кашу падымуць, як купіць кум, дак падымая й ляпня ап стол — міска сабе, каша сабе паляціць. І тады ўжо баба дзеліць гэту кашу ўсім па куску, усім па куску. *Тайкач., Уздз. р.*

КУСАЦЬ (грызці) с я б е ЗА ЛОКАЦЬ. Шкадаваць, што не выкарыстаны магчымасці, не так зроблена што. Адаб'е нехто дзяўчыну з-пад носа, хай кусае тады сябе за локаць. *Падг., Кар. р.* Дурная, ашукалася з гэтымі сьвіньмі, цяпер хоць грызі сябе за локаць. *Сав., Стаўб. р.* А цяпер хай сядзіць, хай кусая сябе за локаць, бо ніхто, толькі сам вінават. *Гр., Слуц. р.*

КУСОК АДРЭЗАНЫ. Гл. АДРЭЗАНЫ КУСОК.

КУСОК ХЛЕБА. Пражытак, харч, сродкі да існаван-

ня. А дзе ж ня будзяш улягаць (у работу)? Свая нейкая гаспадарка ё, трэба дагледзяць, да ў саўгас дапяць, каб на старасьці мець кусок хлеба. *Януш., Лаг. р.* О-о-о, гэта Волячка прабеглая. Ні глядзіць красаты, а стараяцца дзецям навуку даць, каб мелі кусок хлеба ў руках. Чацьвёрко дзетак, а стараяцца ўсіх вучыць. *Сав., Стаўб. р.* Я яе замуш ні выпраўляю, хай вучыцца, кап кусок хлеба мела ў руках. *Гр. Слуц. р.*

КУТКІ ВЫЦІРАЦЬ. Гл. АБЦІРАЦЬ (выціраць) ВУГЛЫ (куткі).

КУЦЦЮ ТАЎЧЫ. Гл. МАК (куццю, проса) ТАЎЧЫ.

К ЧОРТУ. ПАД ХАЛЕРУ. *Незадав., зласл.* **1.** На кавалкі, ушчэнт. Ён як упёрся плячом, як папхнуў тыя дзверы, дак этыя дзверы к чорту й разьляцеліся. Вядома ш, якія там сенцы, якія там дзьверы ў бабы-удавы. *Зал., Віл. р.* **2.** Прэч, вон. Прыходзіць рас да міне. Ну, прышоў — пасядзі, садзіся. А дзе ён табе сядзе, калі п'яны. Лезя, прыстае, нешто балбоча. Пашоў ты, кажу, к чорту, калі так, калі ні можаш пасядзець як чалавек. *Гор., Стаўб. р.* Ідзі ты, мілянькі, пат халеру, адвяжыся, йдзі да хаты. *Вар., Стаўб. р.*

## Л

ЛАВІЦЬ МУХ. *Непав., незадав.* **1.** Быць няўважлівым, рассеяным. Сюды глядзі, не лаві мух, а то спусьцім нітачкі (з матка), доўго потым трэба будзе разбэрсваць. Сядзі ціхінько, то скоро кончым. *Сав., Стаўб. р.* Давайця будзям слацца, вунь Міша сьцішыўсё, мух ловіць на канапцы. *Там жа.* **2.** Бяздзейнічаць, лынды біць. Чаго ш ты мух лавіў цэло лето? Трэба ж было й табе ня спаць у шапку. Людзі панавалакалі (ягад), грыбоў, а ты думаў, што я табе ўсё параблю, усяго загатоўлю. *Гор., Стаўб. р.* Хваціць, мушчынкі, мух лавіць, трэба па хатах падавацца. Заўтра рана ўставаць, а сягоньні й так знебыліся за дзень. *Раўч., Пух. р.*

ЛАДЫ РАЗВОДЗІЦЬ. Забаўляць гаворкай каго, свядома адцягваючы ўвагу ад працы. Бач, як кідаяцца да работы! Ня капая (бульбу), а стала й ла́ды разводзіць. Пакуль перагавораць, дак і вечар будзя. Эта така бацьку дапамога! *Гр., Слуц. р.* Як у той песьні паецца, шта «была ў мацяры адна дачка й тая забаўначка, с кім сыдуса, с тым разгаваруса», так і яна: ні сьпяшаяцца дадо-

му, кап скарэй патхадзіцца, а с кім стрэняцца, будзя ла́ды разводзіць, ніяк ні разойдуцца. *Там жа.*

ЛАЗЫ ДАЦЬ к а м у. Гл. ДАЦЬ ДУБЦА (лазы) к а м у. ДУБЧЫКА ДЖГАНУЦЬ к а м у. НАДАВАЦЬ ПАЛКІ к а м у.

ЛАМАЦЬ ГАЛАВУ. Думаць, шукаць выйсця, рашэння. Не ламі, сынок, галавы, лажыся спаць. Заўтра рана рошыш тую задачку. *Кунц. Кл. р.* Цяпер дзяцько мог бы паехаць да сястры у Польшч, дак дзеці... Аднаму свадзьбу, тому кварціру ў горадзі наймі, думай бацько, ламай галаву, дзе ўзяць. *Сав., Стаўб. р.* Што ты галаву ломіш? Хочаш так паехаць, то паедзь. Ці я цябе ні пускаю? *Гор., Стаўб. р.* Матка ціпер галаву ламая, што рабіць? Брытко перад людзьмі з гэтым хлопцам, так абняславіць род. *Ас., Стаўб. р.* Што ты адна ламаяш галаву. Пачакай, прыдзя Андрэй і разам падумаяце, ці ехаць у той Нясьвіш. *Раёў., Стаўб. р.*

ЛАМАЦЬ (заламаць) РУКІ. Крычаць, моцна плакаць, лемантаваць. А Петрусіха, бедная, з гора, з роспачы валасэ на сабе рвала, ламала рукі, як дачулася пра няшчасьцё. Так пераживала, так пераживала! *Жац., Стаўб. р.* Міхашча бегала па вёсцы растрэпаная, рукі заламаўшы, калі дачулася пра сьмерць. *Сав., Стаўб. р.* Як забіралі майго мужыка, ото я наплакалася, бо ведала, што на горо ён мяне пакідае. Конь ні слухая, а араць трэба, а дзеці саўсім маленькія. Заламала рукі, крычала, па полі ходзячы, што гэто за долю я маю, як я спраўлюся адна. *Там жа.*

ЛАПЕКА НА ЛАПЕКУ. ЛАТА НА ЛАЦЕ. ЛАПІК НА ЛАПІК. Зношаная, уся на латах, зусім парваная (вопратка, сукенка, паліто і г. д.). Ён увесь век лямцы насіў лапе́кі на лапе́ках, усе лата і лата. А цяпер от ні аднае лапіны, ні аднаго лапіка. *Гр., Слуц. р.* Цяпер зайдзі ў магазін, якое хочаш (крамы). А даўней так бедна адзяваліса, трэсьлі лахманамі парванымі, залаплянымі, шта лапека на лапеку і голэ цела сьвіціцца. *Там жа.* Адзеня добраго ні было, дзе яго возьмяш. Хадзілі ў кась-цюмчыках лата на лаці, бо ні было. *Гор., Стаўб. р.* Трэба кажушок пашыць. Старыя кажухі ўжо лата на лаці, а я так прывыкла да кажуха, ні выйсьці на двор у холат. *Жац., Стаўб. р.* Абдзёрку (зрэбнае палатно) выччыш таўсьцей, як ільля́нае палатно, пашыіш штаны і носіш, луччых ня было. Ногі паськіпаюць ат марозу, кроў цур-

чыць з нох. Носіш, пакуль лапік на лапік ні станіць. *Ляўк., Арш. р.*

ЛАПКІ ПАКЛАСЦІ на каго. Спадзявацца на дабрату, ласку каго. Яна ўжэ на яго лапкі паклала. Ніяк ні рупіцца, каб з работы дадому сьпяшацца, але пойдзя па магазінах, стрэняцца с кім, будзя стаяць. А ён і мыя пасуду, й варыць, і зь дзіцем гуляя. От добры гаспадар папаўса! Й грошы зарабляя, й дома ўсе паробіць. *Гр., Слуц. р.*

ЛАПУ ДАВАЦЬ. Гл. ДАВАЦЬ (даць, лупіць) ЛАПУ.

ЛАПУ ЛУПІЦЬ. Гл. ДАВАЦЬ (даць, лупіць) ЛАПУ.

ЛАСКУ ДАЦЬ (зрабіць). Аддзякаваць, аказаць паслугу. Трэба было Ані Грынюковай ласку даць, гэта маладзіца хоць малачко носіць нам. *Сав., Стаўб. р.* Ні скажу, што за свае грошы п'е. У яго работа такая: то часьць (дэталь машыны) якую зварыць, то што, то ласку зробіць, от і барыш, от і сто грам. *Там жа.* От ні вельмо той дзяцько перадасьць! Калі якую ласку зробіць, то ў сто столак заплаціш. Мало ты яму памагаў? *Гор., Стаўб. р.* Мне трэба будзе сыновай якую ласку зрабіць, бо мне ш памагалі і капец засыпаць, і сьвіню калоць. Трэба будзе картофяль пакапаць зь дзень які. *Там жа.*

ЛАСКУ СТРАЦІЦЬ. Гл. СТРАЦІЦЬ ЛАСКУ.

ЛАТА НА ЛАЦЕ. Гл. ЛАПЕКА НА ЛАПЕКУ. ЛАПІК НА ЛАПІК.

ЛАХІ ПАД ПАХІ. Забіраць з сабой свае рэчы, каб выйсці, перабрацца ў іншае месца. А муш як задаў ёй, то яна лахі пат пахі і да мацяры ў прочкі. *Мік., Стаўб. р.* Пажыла трохі, а тады думаю: чаго я сюды прыехала, кап хто папытаў. Кінула бацькаўшчыну, прыехала за некі замуш. Пайду дамоў! Сабралася, лахі пат пахі і дамоў. *Таўкач., Уздз. р.* Маруся лахі пат пахі і на аўтобус. Гэто яна да сына ў Мінск. Часто езьдзіць да яго. *Ас., Стаўб. р.*

ЛБЫ ЗБІВАЦЬ (пазбівацъ). Пабіцца, насадзіць гузоў. Даўней хлопцы за Ольцю лбы зьбівалі, а нам, хатным, Ванда наравілася. Высокая, дробнянькая ў твары, далікатнянькая. *Сав., Стаўб. р.* Вашы мальчакі ладныя, а ў прошлы гот у нас такея ўжо былі, што ні дай гаспоць! Вечарам субяруцца і паб'юцца, лбы пазьбіваюць. Мы ўжо пыталіся: «Якея з вас будуць урачы?» *Ульян., Сен. р.* Я вас пытаюся: «Ці можно гэдак? Зьбіваюць лбы адзін аднаму, а? Німа, кап па добраму, ціхо... Вы прыдзёця, пасядзеця, пагаварэця, а нашто біцца?» *Веч., Стаўб. р.*

ЛГАЦЬ НЕ ПАДСЕЮЧЫ. Гл. ХЛУСІЦЬ (лгаць) НЕ ПАДСЕЮЧЫ.

ЛЕГЧЫ ЯК МОСТ. Вылегчы (пра збожжавыя культуры). Жыта Яхімчыка было лягло як мост, а гэта ўстала. Салома слабая, зярно слабая. Як мўчаная. *Ульян., Сен. р.*

ЛЕДЗЬ (ледзьве) ШОРЫ ЦЯГАЦЬ (цягнуць). З цяжкасцю ісці, ледзь ногі валачы. Які мой бацько! Лець шоры цягая, стары, слабы. *Ракаш., Уздз. р.* Ужо й Высоцкая старая вельмі пастарэла, ходзіць памаленьку, згорбіўшыся, ледзьве шоры цягая. *Сав., Стаўб. р.* Цяпер у калхозі коні — ого! А то помніш, адразу пасьля вайны запражэш у плух — і хоць ты сам цягні гэты плух. Ледзьве шоры цягнулі. Вот горо было араць. *Жац., Стаўб. р.* Мае парасятка дагледжаныя, ні горо ім. Бачыш, як выгульваюць, вухкаюць. Горо, як шоры цягаюць, а калі выгульваюць, гэто ні горо. *Гал., Стаўб. р,*

ЛЕЗЦІ НА НОЖ. Не берагчыся, ігнараваць парады доктара. Яго ў бальніцу паложаць. Яму гарэлкі піць ня можна, а ён лезя на нош, ня вытрыманы, аш лохня за гарэлкай, мрэ за гарэлкай. *Сав., Стаўб. р.*

ЛЕЗЦІ (перціся) НА РАЖОН. *Недобразыч., незадав.* Рабіць што рызыкоўнае, заведама асуджанае на няўдачу, звязанае з нядобрымі вынікамі. Чаго яму было лесьці на ражон, маўчаў бы, а то распусьціў язык, гаворыць абы-што. Цяпер толькі нідобро перад людзьмі. *Мік., Стаўб. р.* Усюды ён ест. Яны бралі, хай бяруць, а табе што? Чаго й ты пёрся на ражон, ці табе я ні даю, ці шкадую табе чаго? *Ас., Стаўб. р.*

ЛЕЗЦІ НА СЦЕНКУ. Гл. НА СЦЯНУ (на сценку) ЛЕЗЦІ.

ЛЕЗЦІ ПАД РУКІ. Дакучаць. Нешто с курамі ў міне толку няма ў гэтум году: старыя па сабе, маладыя па сабе, старыя б'юць маладых. А маладыя баязьлівыя, ні прызваць, адно як есьці, дак лезуць пад рукі, ад г'анка ні адагнаць. *Сав., Стаўб. р.* Чаго вы пад рукі лезяця! Адыдзецяся даляй, бо апырскаю крывёю. Ні бачылі, як кабана разьбіраюць ніколі? *Жац., Стаўб. р.*

ЛЕЗЦІ СЛЯПЦОМ. Гл. СЛЯПІЦАЮ (сляпцом, асою) ЛЕЗЦІ (у вочы).

ЛЕЗЦІ Ў ПЯТЛЮ. Гл. У ПЯТЛЮ ЛЕЗЦІ.

ЛЕЗЦІ ЯК МУХА куды. Гл. ЛЕЗЦІ ЯК СЛЯПЕЦ (муха) куды.

ЛЕЗЦІ ЯК СЛЯПЕЦ (муха) куды. *Незадав.* Дакучаць каму; назойліва ўмешвацца ў чые справы. Зайцэ лезуць як сьляпцэ ў садэ, усю кару паабгрызалі. *Сав., Стаўб. р.* Лезі ў вочы як муха, мазоліць мне вочы. *Сял., Маладз. р.* Атстань ты ад міне, лезя як сьляпец, рады німа. *Жац., Стаўб. р.*

ЛЕЗЦІ (чапляцца) ЯК СМАЛА да каго. *Незадав.* Назойліва прыставаць, непакоіць, турбаваць каго. Лезеш як смала да міне, як прыстане с такім разгаворам. *Сял., Маладз. р.* А швагер як нап'ецца, то, ні дай ты бох, чапляяцца да каждаго як смала, гаворыць ярунду некую, гатко слухаць. *Сав., Стаўб. р.* Малы, а які нігодны — лезяш ў вочы як смала. Ідзі ўжо на двор, пагуляй трохі с хлопцамі! *Гор., Стаўб. р.* Прыходзіць рас тут адзін. Ну, садзіся. Пачаў нешто ўспамінаць, панімаяш: вот некалі я быў панам, много кароў меў, а ціпер рабі як усе. Ідзі ты, кажу, чалавеча, дадому, мне німа калі с табой г'авэндаць. А ён чапляяцца як смала: «А ты паслухай, а ці ты помніш». Ледзьвя с хаты выправадзіла. *Жац., Стаўб. р.*

ЛЁГКАЯ РУКА чыя, каго. Пра чалавека шчаслівага, удачлівага ў нейкай справе, пачынанні. А праўда, мама, давай я паеду зъ пърсятамі. Можа мъя лёхкая рука і пърсяты добрыя ўдадуцца. *Ляўк., Арш. р.* Муха (прозвішча) папёрла да Гайка паглядзець, што прывёс с Польшчы, можа лёхкая рука яе, будзя прадавацца хутка. *Сав., Стаўб. р.*

ЛЁГКІ НА НАГУ (на хаду) хто. Мае спрыт у хадзьбе, здольны многа, усюды і доўга хадзіць. А сястрыца мая, німа здароўя ўжо хадзіць па гасьцях. Была некалі лёхкая на хаду, а цяпер села, сэрцо слабоё. *Сав., Стаўб. р.* Адаміха яшчэ лёхкая на нагу — і ў Стоўпцы пешшу зойдзя й прыйдзя. А дома яшчэ торф у хлеў носіць. *Жац., Стаўб. р.* Ужо ёсь зімляніка, ёсь чарніцы. Лясута (прозвішча) дасужая, лёхкая на нагу, абойдзіць увесь лес. *Ульян., Сен. р.* Зь Янінаю пайшлі ў грыбэ. То аблётала ўвесь лес, яна лёхкая на хаду. *Гор., Стаўб. р.*

ЛЁГКІ (лягчэйшы) ХЛЕБ. Лёгкая праца, без лішняга напружання сіл. Бачыш, у калхоз ня йдзець, а ўсё стройкантора, СМУ (будаўніча-мантажнае ўпраўленне), аўтабаза, усё шукаіць лёхкага хлеба. *Ульян., Сен. р.* Нам з бацькам цяшка было, то хай дзеці разумней за

нас жывуць, няхай шукаюць ляхчэйшага хлеба. *Міл., Маст. р.* Дзяцей Адам вывучыў, жывуць добро, ні трэба лёхкаго хлеба шукаць, усе уладкаваныя. *Ст. Св., Стаўб. р.*

ЛЕЙКУ ЛІЦЬ. Гл. ВЫЛІЎКІ (вылінкі, лейку) ЛІЦЬ.

ЛІЗАЦЬ ПАДМЕТКІ к а м у. *Зняваж., непав.* Падлізвацца да каго, уніжацца, поўзаць перад кім. Быў тут у нас адзін, што лізаў падмёткі брыгадзіру. Але каму гэто наравіцца. То зьнялі, людзі дамагліся, зьнялі з работы, недзя ў Баранавічах цяпер, кажуць. *Гор., Стаўб. р.* Што брыгадзір! Ты ні ведаяш, а я скажу: «Ён падмёткі ліжа сяму-таму, слова свайго ніколі ні мая. Што начальство, то й ён». *Гал., Стаўб. р.* Цярпець ні магу, як некаторыя ліжуць падмёткі брыгадзіру, кап больш мець сабе выгады. *Зал., Стаўб. р.*

ЛІСТОМ СЛАЦЦА п е р а д к і м. Быць паслухмяным, добрым, ціхім, памяркоўным, лісьлівым (пра чалавека). От жаначкі мае, ужэ ш як паслушная нявестка ў Юлі, залатая. Але ш лістом сьцелецца, хаця п добра было. *Кунц., Кл. р.* Ото гаткі гэты Уладак. Абы с кім і гаварыць ні хоча, нос верня, а перат дырэктарам ці брыгадзірам лістом сьцеляцца. *Гор., Стаўб. р.* Усё «Сонячка, Сонячка», вот харошы папаўсё ёй чалавек, лістом сьцеляцца перат жонкаю. А яна — й добро, ого як добро. *Сав., Стаўб. р.* Цётка перат табою сьцеляцца лістом, а ты нек нідобро да яе. Ты б ласкаю зь ёю. *Жац., Стаўб. р.*

ЛІТАСЦЬ УЧЫНІЦЬ к а м у. Гл. УЧЫНІЦЬ ЛІТАСЦЬ к а м у.

ЛІЦЬ ЯК У ФАРЫНУ. *Абурэн.* Многа піць (гарэлкі). Нябось, кажа, ні п'ю, а лье як у фарыну. От ні люблю за гэто. *Сав., Стаўб. р.* Учоро сабраліся суседзі, пачаставала іх трохі. То ўсе людзі як людзі, от, трохі выпілі, пагаварылі, а майсьцяр гэты падабраў пат сябе бутэльку й усё стараяцца, лье як у фарыну. *Веч., Стаўб. р.*

ЛОЙ ШКУРУ ПАД'ЯДАЕ. *Асудж.* Наравіцца, капрызнічаць, перабіраць з перасыці. А цяпер жа жыць маладзёжы — уміраць ні трэба. Галодные ніколі не буваюць, прыбіраюцца добра. У штабялі і на работу ходзяць. А калі добра жыць, дык лой шкуру пад'ядае.

Цяпер да дзеўкі прыступіцца не можна, глядзі, кап угадзіў слова сказаць. *Пятр., Свет. р.*

ЛОПАЦЬ СА СМЕХУ. Гучна, на ўсю моц смяяцца. Мы на полі зрабілі перарыў. Паселі, гаворымо, хто есьць. А Груня калі скажа што, калі скажа, лопаюць са сьмеху. *Гор., Стаўб. р.* Прыехаў да нас сваяк з Барка. Такі вясёлы, давай зь дзецьмі гуляць. А яны аж лопаюць са сьмеху. *Жац., Стаўб. р.*

ЛОПАЦЬ З КРЫКУ. Моцна і доўга плакаць, заходзіцца ад плачу. Бывае, што дзіця лопае там (на панскім полі) с крыку, бо калі да яго падыдзеш, пан жа ш не заплаціць і другі рас ні пакліча, зарабіць не будзе дзе. *Іскр., Кл. р.* Як я жыла ў дзявошчыне (дзявочыя гады), от мне гора было. Пойдзяш к пану на работу (а я была малога росту), цэлы дзень жнеш ці там капаяш, а ўвечара прыгледзіцца, што малая, і пяць капеяк нідадасьць. А жанкі, каторыя зь дзецьмі, то тоя дзіця аш лопае с крыку, а матка ні сьмей падысьці, затым што другі рас на работу ня прымуць. *Таўкач., Уздз. р.*

ЛУПІЦЬ ЛАПУ. Гл. ДАВАЦЬ (даць, лупіць) ЛАПУ.

ЛУПЫ ЗАКАПЫЛІЦЬ. Гл. ЗАКАПЫЛІЦЬ (надуць) ГУБЫ (лупы, грыбы).

ЛЫНДЫ АБІВАЦЬ. Гл. ЛЫНДЫ (бабкі) БІЦЬ (абіваць).

ЛЫНДЫ (бабкі) БІЦЬ (абіваць). *Асудж.* Нічога не рабіць, гультаяваць, бяздзейнічаць. Нечыга яму лынды біць, пусь хоць пырсючка купіць, а то ш ён нам крайні надабі (вельмі патрэбен). *Аз., Гар. р.* Цэлы дзень лынды б'е, кап хоць трохі памох што зрабіць. *Райч., Пух. р.* Чаго ты лынды абіваеш, чаму ня йдзеш на работу? *Ян., Нясв. р.* Трэ было не біць лынды до арміі, а паехаць дзе вучыцца, мо хоць за трактарыста вывучыўса б. *Хат., Ганц. р.* Б'е лынды ўсё жыцё. От і сёньня прышла да яе, а яна выцягнулася на тапчане і ляжыць сабе, а буракі страхоцьце адно як зарасьлі. *Востр., Зельв. р.* Які хлопяц лядайкі зрабіўса! Рабіць нічога ні хоча, бапкі абівая, ні пісаць, ні чытаць ні заставіць. А маці калі што скажа, сварыцца, усяк кажа на мацяру. *Гр., Слуц. р.*

ЛЫПАЦЬ ВАЧЫМА. *Незадав.* Не скарыстаць зручны момант, праяўляць разгубленасць, сарамлівасць. Чаго ш ты там стаяў і лыпаў вачыма, трэба было й табе запісацца (на чаргу), а то зімою не будзе чым стаяка

прапаліць. *Гал., Стаўб. р.* Я за тыбэ лупаты гочыма нэ буду. *Сім., Драгіч. р.* Аднаму наказалі, прыехаў са Сьвержна (у сваты), а маці й кажа: «Кап ты без галавы хадзіла. Ты людзей запрасіла, а мне лыпай вачыма. Іх жа глядзець трэба, частаваць». *Сав., Стаўб. р.*

ЛЫТКІ СТУЛІЦЬ (злажыць). *Недобразыч., зласл.* Памерці. Зяць жа яе лыткі стуліў, чула? *Гр., Слуц. р.* Гэта ш Коля лыткі стуліў. Хто п сказаў: гэтакі здаравенны быў. *Там жа.* Я хвора-хвора. Дзьве нядзелі лежма ляжала, цымпяратура пат сорак была, чуць ужэ й лыткі ні стуліла. *Там жа.* Пасьмей толькі пайсьці гуляць, то ўжэ яг′ дам, дак і лыткі зложыш. *Там жа.*

ЛЫТКІ ТРАСУЦЦА ў каго. *Іран.* Спалохацца, калаціцца са страху. Неяк скоро, як сабака гэты кручаны бегаў, ішла, ужо шшарэло, ад дачкі. Іду, й лыткі трасуцца. Баюсё, дальбох, Жэнячко, у бок баюсё глянуць. *Падг., Кар. р.* Нека халера зрабілася са мною. Як была малая, пайду куды хочаш. А цяпер, як цёмно — страшно. Іду ат сусеткі — лыткі трасуцца, хоць с хаты ні выхоць. *Жац., Стаўб. р.*

ЛЯЖАЦЬ ЗАДРАЎШЫ ГАЛАВУ (бараду). *Асудж.* Памерці, загінуць. Маня онь у саўхозі даяркай, палучаіць харашо, сто дваццаць у месіц, дзеці харашо учацца. А ён во ляжыць бораду задраўшы. Дурак і сьмерць яго дурацкая — на Дзень Пабеды засіліўся. *Ульян., Сен. р.* Прынёс трыста грам сьпірту, разьлілі на траёх і выпілі. Як выпілі, тут жа сьсінелі. Вызвалі скору помашч, а яны ўсе траёх ляжаць бараду задраўшы, усе мёртвыя. Во як бывая. *Там жа.*

ЛЯЖЫЦЬ КАЛОМ што. *Незадав.* Без патрэбы, лішні. Пабегла купіла шэсьць метраў. Прышла дамоў: «Ну што й та я купіла толькі шэсь метраў, эта ш мне толькі на пярыну». Пабегла і шчэ шэсь метраў узіла на насыпкі. І пярыну ні пашыла, і мацяр'ял колъм ляжыць. Тады ўвідзіла цьвяцістага прывязьлі ў капярацу, купіла на салхветку на стол і пакрывала на койку. І тое ляжыць колъм. Я къзала: «Забірай, нашто яно ляжыць тут у мяне».— «Забяру, на дзьверы павешу». І ні бярэць, ляжыць колъм. *Ляўк., Арш. р.*

ЛЯПАЦЬ ЗАСТАЎКАЙ. *Непаш.* Гучна, без толку балбатаць, крычаць, сварыцца. Перастань ты ляпаць застаўкай, памаўчы троху, у вушах зьвініць ад яго г′авэнды. *Райч., Пух р.*

ЛЯСЫ ТАЧЫЦЬ. Гл. ТАЧЫЦЬ ЛЯСЫ (басні).

ЛЯТОМ ЛЯЦЕЦЬ. Вельмі хутка, з усіх ног (ісці, бегчы). Сусетка памыі вылівае, скалярушчыны (лупіны ад яек), рыбіныя галавы. Куры лятом лятуць. *Сав., Стаўб. р.* Рухавая, руплівая, дзе яе няма. Яна й на лузі, яна й дома ўсё паробіць. Лятом ляціць у калхос. *Жац., Стаўб. р.* Натходзіла хмара, чорная-чорная, а я баялася. Убегла ў хату, зачыніла комін, вярбу на акно, а потым шукаць дзяцей. Аш бачу — лятом лятуць з рэчкі. *Гал., Стаўб. р.*

## М

МАЗГІ ЎСТАВІЦЬ каму. *Незадав., згасл.* **1.** Настаўляць на добрае, павучаць, навучыць каго. Хай тут бацька будзя хоць які, але калі дзіця дурное, то мазгоў ні ўставіш. *Бял., Лаг. р.* Што ты яму мазгі ўставіш ці што? Не, брат, калі нарадзіўся з лысінкай, то й памрэ з лысінкай, нічого ні зробіш. *Ас., Стаўб. р.* А ты ёй уставіць мазгі захацеў ці што? А я лепш адышоў бы і ні чапаў бы яе. Кажа на цябе — хай кажа, рот ні заткнеш. *Гор., Стаўб. р.* **2.** Набіць каго, надаваць каму. Ідзі й ні абрэхайся, а то мазгі ўстаўлю, калі граматны вельмо, разумны стаў. Больш за матку знаяш. *Сав., Стаўб. р.* Хацеў рас Эдзік Віціку мазгі ўставіць, але бацько ні даў. Ото хацеў даць. *Там жа.*

МАЗОЛІЦЬ ВОЧЫ каму. *Непав.* Дакучаць каму пастаянным напамінаннем пра сябе, сваю асобу, раздражняць каго сваёй пастаяннай і доўгай прысутнасцю. Я ўжэ пасварылася з гарбачоўскімі хлопцамі, баюся ў Гарбачоўкі йсьці, ашчэ пабіваюць. «Ідзі й ні мазоль мае вочы, абыхоць мае хаты, кап ні сустракацца, ні порць мне атмасьферу»,— усяк-усяк брахала на яго і на хлопцаў. Цяпер баюся. *Бял., Лаг. р.* Прыдзя, панімаяш, рассядзяцца тут, мазоліць вочы цэлы вечар. І работы з-за яго ні паробіш. *Гор., Стаўб. р.* Кінь ты хадзіць, вочы мазоліць людзям. Калі пратсядацяль ні зробіць (вызначэнне размеру пенсіі), то ніхто. У яго ш уся дакумантацыя на цібе. *Гал., Стаўб. р.*

МАКАВАЙ РАСІНКІ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО. Гл. РАСЫ (расінкі) У РОЦЕ НЕ БЫЛО.

МАК (куццю, проса) ТАЎЧЫ. Віцца клубком у паветры (пра насякомых). Во ўжо кумары пачалі мак таўчы, вечар дзьвіжыцца. *Бяльм., Брасл. р.* Камары таў-

куць куцю, чуяця, Камароўская. Камарэ таўкуць куцю. *Сав., Стаўб. р.* Кумары чы мошкы просо товкуть. *Сім., Драгіч. р.* Міша лёх на сьпіну й прыглядаяцца, як камарэ куцю таўкуць. *Жац., Стаўб. р.* Будзя цёпло, вот паглядзіця, што будзя цёпло. Рас камарэ таўкуць мак, будзя яшчэ цёпло. *Сав., Стаўб. р.*

МАЛАКО НЕ АБСОХЛА НА ГУБАХ у к а г о. *Непав., абразл.* Зусім малады і нявопытны ў жыццёвых справах (пра чалавека). Ашчэ малако не апсохла на губах, а панімая ругацца, лаяцца. Цябе ў школі вучаць гэтаму? *Бял., Лаг. р.* Якія ціпер кавалеры? Малако ні апсохло на губах, зь імі брытко й танцаваць. А дзе ты дзенясься, калі большых у вёсцы бох крыў. *Жац., Стаўб. р.*

МАЛОЦЬ З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ. Гл. ПЕРАЛІВАЦЬ (малоць, пераганяць) З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ.

МАЛОЦЬ ПУСТОЕ. *Незадав.* Балбатаць, гаварыць абы-што. Ты пра дзяцька маўчы. Гаворыць нешто, меля пустоё, яго ні поймяш. *Сав., Стаўб. р.* Лёнік гэто такоё гўпало, што адразу і ў голаў ні дойдзя, пра што ён кажа. Меля пустоё пра некія курапаткі, пра зайцоў. *Жац., Стаўб. р.* Балбатун, меля пустое. *Пр., Стаўб. р.*

МАЛОЦЬ ЯЗЫКОМ. *Непав., незадав.* Гаварыць многа і абы-што, балбатаць. Старая Вікця толькі меля языком, слухай ты яе. Альбо яна табе што-небуць люцкаё скажа. *Сав., Стаўб. р.* Як мы шчэ булы пры Польшчы, да збэромсо бабэй мныго, да вэсэло, да языкамы мэлэм, рогочэм. А тэпэр люді дождалыса, шчо нэ прадуть. *Бот., Пін. р.* Нічагуткі ні робіць. Адно ўстала, то й пашла па сяле малоць языком. Як яе адвучыць ад гэтага. *Кунц., Кл. р.* Ні мялі ты вот языком. Калі ні ведаяш, то паслухай, што старэйшыя людзі скажуць. *Гор., Стаўб. р.*

МАРОЗ НА СКУРЫ СТАІЦЬ у к а г о. МАРОЗ ПА ШКУРЫ ХОДЗІЦЬ у к а г о. Адчуваюцца дрыжыкі, выкліканыя пачуццём страху, жаху, хвалявання. Было сьлёс, гора, голаду. Алі час прайшоўшы, як і не было нічога, быта і людзей ні палілі жыўцом, быта дзярэўні ні палілі. А як уздумаюся калі, дык марос на скуры стаіць. *Бяльм., Брасл. р.* Згарэлі ў вайну, строіцца нада. Бывала, як паедзім у лес, аж марос па шкуры ходзіць, так бъялася. То ў вадзін бок, то ў другі, ці ня йдзець лясь-

нік. Перамлееш, пака сасонку якую спусьціш. *Ляўк., Арш. р.* Іду ат Пятроўскіх, а цемната, ні ведаю, кудэю йсьці, баюся, марос па шкуры ходзіць. Гэта ш так позно заседзялася. *Сав., Стаўб. р.*

МАТЫЛІЦЫ НАПАЛІ на каго. Моцны кашаль (у чалавека). Запырхала як авечка, матыліцы напалі. *Гр., Слуц. р.* Міша кашляя, матыліцы напалі. *Сав., Стаўб. р.*

МАЎЧАЦЬ ЯК ВАДЫ Ў РОТ НАБРАЎШЫ. Зніякавець, анямець ад раптоўнага ўзрушэння, страху, згубіць здольнасць гаварыць. Нябось, калі сказала ёй усю праўду, то маўчала як вады ў рот набраўшы. *Сав., Стаўб. р.* Чаго ш вы маўчыце як вады ў рот набраўшы? Давайця пойдзям у кантору і скажам, як усё было. *Гор., Стаўб. р.* Чаго ш ты маўчала як вады ў рот набраўшы? Трэба было сказаць, што ты тут саўсім ні вінаватая, што гэто того злодзяя работка. *Жац., Стаўб. р.*

МАХНУЦЬ РУКОЙ на каго, на што. Перастаць звяртаць увагу на каго, на што; перастаць займацца кім або чым, адрачыся ад ранейшага намеру зрабіць што. Кінь ты хадзіць на гэтую рэчку. Дзе тут тая рыба? Я ўжо даўно махнуў рукой на гэто — шкода часу і ад людзей брытко. *Гор., Стаўб. р.* Я думала спачатку зьезьдзіць у гэтую Маліпаўку, а потым махнула рукой — далёка, а са здароўем ні вельмо. *Жац., Стаўб. р.* Каб бацько на яго ні махнуў рукой, то чалавекам быў ба. А то распусьціўся, круціць, хоць бы калі рубель дахаты прынёс. *Сав., Стаўб. р.* Коля махнуў рукой на сьвіней. Якія будуць, то й добро. Падгадую, казаў, пудоў на пяць-шэсьць і пакалю. *Там жа.* Дачка да майго крыку прывыкла, а построху ад бацькі ніякаго німа, робіць што хоча. Цяшко вучыцца — зусім ні хоча. А бацько махнуў рукой на яе вучэнё. Яна ш сабе, кажа, вучыцца, не мне. *Там жа.*

МЕСЦА НЯМА (не знаходзіць). Перажываць, не знаходзіць сабе месца ад жалю, гора, болю. Сабралі людзей, баль некі сабралі. Казалі, яна пела — і дадня памерла. А яму места німа. Наважыўся да сына ехаць. *Пр., Стаўб. р.* Як схадзіўся мне ўночы зуп, думала, што кончуся, места ні знаходзіла. Толькі пад раніцу трохі паспакайнеў. *Сав., Стаўб. р.* Я тут бяз вас чуць ні памерла была. Грып узяў за голаў, а тут яшчэ зубы. Месца сабе ні знаходзіла, крычала, ходзячы па хаці.

*Там жа.* Крычыць, месца ні знаходзіць: «А мой ты карміляц, чаму ш ты есьці ні ўстаеш, чаго ш ты ляжыш сярот хаты?!» *Жац., Стаўб. р.*

МЕЦЬ ГАЛАВУ (на плячах, на карку). Быць кемлівым, разумным. Што гэты Аньцік! Галавы на плячах ні меў, то й папаўся. А якая там работа, сядзі сабе ў цяпле й расьпісвайся. *Шаш., Стаўб. р.* От ні кажы, хто галаву меў на карку, то добро жыў. *Жац., Стаўб. р.* Маеш галоўку, учыся, табе памагаюць, плоцяць, шчэ й бацьку дзякуй кажуць. *Мік., Мядз. р.* Ты з Эдзікам парайся, ён мае галаву на карку, паткажа табе, што тут зрабіць. *Сав., Стаўб. р.*

МЕЦЬ ГОЛАС. Быць уплывовым, аўтарытэтным, карыстацца павагай. Шаўчук парцейны, ён голас мае, да яго голасу прыслухоўваліся. От калі сход які чы што, што Шаўчук скажа, так і будзя. *Сав., Стаўб. р.*

МЕЦЬ ПАВАДЗЭНЕ. Карыстацца поспехам на вечарынках, на танцах. Некалі Райка Карповічава ўмела хорашо танцаваць. І мела павадзэнё, харошая была. Недзя замужам у Галавенчыцах. *Сав., Стаўб. р.* Ніхто так ні ўмея танцаваць старынныя танцы, як Высоцкі. Як паехаў ў Налібакі на вяселё, а радня з боку маладога такая шляхетная, ўсё: «Пане Высоцкі, пане Высоцкі». Павадзэнё меў харошаё. *Там жа.*

МЕЦЬ ПАДЫХОД да каго. Гл. ПАДЫХОД МЕЦЬ да каго.

МЕЦЬ СЭРЦА да каго. Спачуваць каму, быць чулым, спагадлівым да каго. Мой пакойнік Броніс ото ш быў добры чалавек, да ўсякаго ён меў сэрцо. Бывало, і з малымі так умеў гаварыць, а яны яго акружаць: «Дзядзё, раскажы пра парцізан». *Жац., Стаўб. р.*

МНОГА ВАДЫ ЎЦЯКЛО (сплыло). Шмат часу прайшло, многа адбылося розных перамен з пэўнага часу. Як была маладая, дык усю Краснапольшчыну схадзіла і Заборшчыну ўсю знаю. Ды многа вады с таго часу ўцякло. Многіх дзярэўняў тут цяпер нет. Шчэ зьнясьлі да вайны ў бальшыя дзярэўні. Клюкі, і Цьвятушына, і Кузукіна, там толькі падмуроўкі відаць ат хат. *Грыш., Рас. р.* Час ідзе неўзаметку. Вот, здаецца, нідаўно вайна была. А калі падумаць, много вады сплыло с таго праклятаго часу. *Гор., Стаўб. р.* Ужо, браце, много вады сплыло, як ты быў маленькі, пат стол залазіў. *Там жа.* Ясь Бурдзялоўскі дваццаць пяць гот ні быў тут. А за

дваццаць пяць гот многа вады сплыло, многа што зьмянілаcё. *Сав., Стаўб. р.*

МОВУ (язык) АДНЯЛО (заняло) *каму.* Раптоўна страціць здольнасць гаварыць (ад страху, спалаху, па хваробе). Пыка Ганна бегала (па міліцыянера), Мар'я ў яшчык і кусок сала пыт паху. А гэта відзіў вісельнік: «Мар'я, палош сала». У той Мар'і і мову ътняло. *Ульян., Сен. р.* Ішоў мой дзяцька ў Аколіцу, бачыць, сядзіць на дарозі воўк, вочы бліщчаць. Са страху мову атняло, на тым разе мову атняло, думаў, будзіць нямы. Ну, але атпусьціла. *Бяльм., Брасл. р.* Сем дзён ляжыць (бацька) у бальніцы, мову адняло, усё ўнутры згарэла, адно сэрца работая пака. *Прыл., Мін. р.* Колысь вірылы, шо знахорі, знахоркы вмілы вробляты; як вробыть, то можэ чоловік в вовка, в тыля́, в кота чы в альбы шчо пырыкынутысь, можэ захворіты, можэ мову адняты, можэ молоко од чужэі коровы пырытягнуты. Шчо схочэ, тое зробыть знахор. *Сім., Драгіч. р.* Кажу: «Мне ўжэ адна дарога, дарога ў бальніцу, бо ўжэ я ні магу ні йці, ні гаварыць, ужэ мову заняло. *Гр., Слуц. р.* Радзіёла бліска году маўчыць, тагды эты лучніковяц (жыхар в. Лучнікі) як гамянуў, дак ёй і мову заняло. *Там жа.* Тодар саўсім німожа, ляжыць на лошку. Янак казаў, што мову адняло. *Сав., Стаўб. р.* Ён мяне спрашываець, а мне язык адняло, сяджу рот разінуўшы і не знаю, што сказаць. *Н. Тур., Уш. р.* Ты як сказаў мне, што Стась яшчэ ні прыехаў, мне й мову адняло, так спалохалася. *Жац., Стаўб. р.*

МОСТ-МОСТАМ. Скрозь і ўсюды, як услана, вельмі многа. У нас грыбоў многа. За паўчаса вядро ў коптар набярэш. Цяпер далжны каласавічкі быць, казьлячкі. А многа казьлячкоў, мост-мостам. *Бяльм., Брасл. р.* Во адзін невад злавіў на Мястры — трыццаць сем тон рыбы! Ляжала ў вадзе мост-мостам, бялёсенькая. *Мік., Мядз. р.*

МОХ ПАРОС н а к і м. Худы, недагледжаны (пра чалавека ці жывёлу). Дзяўчонка тъкая талковая, пръста́я, а ні есьць, ужо кот болій зьесьць. Аж мох на ей парос, цела такея жоўтъя. *Ляўк., Арш. р.* І масла ё, і малако ё, й сала, а дзяцёнък худый, прама мох на ім парос. *Там жа.* І што ні раблю, сам бы еў, што ім (свінням) даеш, а яны некія худыя, мох парос на іх, немач іх ведая. *Гал., Стаўб. р.*

МУРАШКІ ПА ЦЕЛЕ БЕГАЮЦЬ у каго. Адчуваць азноб ад вялікага страху, хвалявання, узбуджэння. А божачка, ня прывядзі бох такого мне зяця. Прайдзісьвет пасьленьні. Анно спадылба паглядая. Як гляня, як гляня, ажно мурашкі па целя бегаюць. *Падг., Кар. р.* У міне яшчэ мурашкі па целе бегаюць, так моцно перапалохалася. *Сав., Стаўб. р.*

МУХ ЛАВІЦЬ. Гл. ЛАВІЦЬ МУХ.

МУЦІЦЬ ВАДУ. *Незадав.* Гаварыць няпраўду, наўмысна заблытваць якую-небудзь справу, хлусіць, выкручвацца. Прыехаў мой сын на канікулы дадому. Папрасіла яго загнаць карову на пашу. Пытаюся, кажа, загнаў, а карова ў хляве стаіць галодная. Не муці, кажу, вады, німожно мамі хлусіць. *Кунц., Кл. р.* Казалі, што гэто Сарока (прозвішча) ваду муціць. Ні хоча, кап людзі даведаліся пра яго заработак. *Жац., Стаўб. р.*

МЯНЦІЦЬ (плесці, мянташыць, трапаць, брэнкаць) ЯЗЫКОМ. *Асудж.* Многа гаварыць, балбатаць, нагаворваць на каго, гаварыць пустое, пустасловіць, пляткарыць. У нас анна жэншчына мела тры дачкі, ўсе тры ўзрослыя, то вы ведаеце, мяньціла языком і не сьціхала: гэта ў мяне залеш, ніяк не павыпіхаю. *Бял., Лаг. р.* Яшчэ сонейка не зайшло добра, а я гэта падаіла карову і думаю: «Схаджу да Зосі, памянчу хоць языком трохі, надаела за ўвесь дзень дома сядзець». *Дашк., Маст. р.* На язык то яна ого! Усе дзяўчатка як дзяўчатка, у іх і шуткі к месту, і пашалеюць умело, а яна мянташыць языком як малатарня. *Падг., Кар. р.* Не жжыліся зь нявесткай, усё языком мяньціла, а мацяры абідна, маці такая ганарыстая, задавастая, не спусьціць нікому. *Бял., Лаг. р.* Ах ты, чортава патаскуха! Паляцела па вуліцы зубамі званіць, языком мяньціць, кап ён табе высах! Думаіш, так і паверацъ табе... *Хож., Маладз. р.* На рабоце адна Ваню́шыха мянташыць языком — каждаго бачыць, дзе хто паверняцца, дзе што хто зробіць. Жана вучыцяля яшчэ! *Падг., Кар. р.* Тая баба толькі языком трапане, а іна ні злая. Во гэта баба злая. Зьмяя. *Ліцв., Карм. р.* А на дакоскі мы зложымся па рублю, а вас, бап, болій ні пазавём, кап вы тады языкамі ні мяньцілі па сялу. *Бял., Лаг. р.* Молодёж тэпэр только языкамы брэнкають, а роботы ны вэльмо. *Бот., Пін. р.* Алесь любіць пагаварыць, сядзе за сталом і пляце языком абышто. *Сав., Стаўб. р.*

## Н

НА АДВЕДЗІНЫ ХАДЗІЦЬ да каго. Гл. ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у даведкі, у отведы) да каго.

НА АДЗІН КАПЫЛ. Падобны, аднолькавы, на адзін і той жа ўзор. Вот у гэтаго Сту́лы ўсе дзеці на адзін капыл: то неко крывоё, то сьляпавато, а глядзі, якія ўвішныя, дзе іх німа. І хітрыя. *Веч., Стаўб. р.* Мае мяккія (валёнкі), толька халявы шыракаватыя, халявы як хлявэ. Ні было ш чаго выбіраць, яны ўсе на адзін капыл зробляныя. *Сав., Стаўб. р.* Ні магу ніяк выбраць харошай касы́. Некія ўсе на адзін капыл, ярундовыя. *Жац., Стаўб. р.* Хацела я купіць пару табурэтак у хату, пашла ў магазін, а Мішка-лавачнік і кажа: «Выбірайця, вунь стаяць». Паглядзела я, паглядзела — не наравяцца, некія нізг′рабныя, усе на адзін капыл некія. І ні купіла, так і прыцягнулася. *Гор., Стаўб. р.*

НА БОЖАЙ ПАСЦЕЛІ хто. Пры смерці. Матруна ш Какоцькава Нічыпарава моцна хвора, на божуй пасьцелі ўжэ. Кажуць, ужэ доўга ні працягне. *Гр., Слуц. р.* Палашка Астапчыкава памерла. Як напісалі Колю, шта маці на божуй пасьцелі, гэтака слаба, дак ён самалётам з Днепрапятроўску прыехаў, у Мінску машыну дактароў сабраў і прыехалі сюды. Ашчэ дваццаць уколаў далі, але не спасьлі. *Там жа.*

НА БОК. Недзе ў іншае месца, не па прызначэнні (прадаваць, збываць і інш.). Праўленё пастанавіла: цялята нельга прадаваць на бок, кантрактаваць у калхос трэба. А Стафан ведаў, што цялята нельга на бок прадаваць, а прадаў некаму раеўскаму дзяцьку, узяў сто семдзісят рублёў. *Сав., Стаўб. р.*

НАБРАХАЦЬ НА СВОЙ ХВОСТ. *Асудж., незадав.* Нагаварыць лішняга, што ў далейшым выкліча, пацягне за сабой кепскія вынікі для таго, хто гаварыў, нагаворваў. І на́ша ш жанчына, але сьвясь мела зь немцамі, удавала людзей. І набрахала на свой хвост. А посьлі стынна было. Упікалі ёй і службай, і за язык. *Бял., Лаг. р.* Вот брытко цяпер толькі, набрахаў там толькі на свой хвост, а што мне суседзям сказаць? *Ас., Стаўб. р.* Хай гаворыць, набрэша на свой хвост, што ні рада будзя. *Сав., Стаўб. р.*

НАБРАЦЦА ЯК ЖАБА (гразі). *Асудж., абразл.*

Піць, не ведаючы меры, моцна напівацца, многа выпіць (гарэлкі). Назьбірая друзёў, нап'ецца гарэлкі, набярэцца як жаба, а балеў, бальны быў, вот і памёр. *Пр., Стаўб. р.* На нагах стаіць, але з гутаркі зьменіцца, як немяц, стане. Што гаворыць, ні поймяш. Набярэцца як жаба гразі і водзіць дурнымі вачамі. *Сав., Стаўб. р.* Ідзе вуліцаю Фэльцік — ад плоту да плоту. Набраўсё як жаба гразі. Й яшчэ песьню некую нуціць (спявае) сабе пад нос, вот чалавек. *Жац., Стаўб. р.*

НАБРАЦЦА ЯК ЧОП. *Асудж.* З'есці і выпіць многа, звыш меры. У нас дзядоўскія прымаўкі яшчэ. Кажуць, набраўся як чоп, а што такое чоп, ні знаю. Гэта можа ў смалярні ест чоп, бочка такая. У нас толькі кажуць: «Набраўся як чоп». *Пр., Стаўб. р.* Волька йдзе на радзіны ці там на вечар які саўсім галодная. Сядзе за стол, пад'есьць добро, набярэцца як чоп, і ўжо добро. *Жац., Стаўб. р.* Палес рас Коля ў трускаўкі (клубнікі). Ну, лесь, кажу, сарві. А ён доўго там быў, набраўсё як чоп тых трускавак і вылазіць, сьмяецца. *Ас., Стаўб. р.*

НАБРАЦЬ У ГАЛАВУ (у голаў). З глыбокай уразлівасцю ўспрымаць што, з павышанай адчувальнасцю ставіцца да чаго. Бацьку было зьліване крыві на мазг'і. Ляжаў доўга, але паправіўся, прывезьлі дадому. А тады брат родны памёр, на дванаццаць гот малотшы за яго, сын у аварыю папаў, загінуў. Набраў у голаў і другі рас спарыжавала. *Пр., Стаўб. р.* А матка набрала ў голаў, надумаецца і плача (па дачцы). *Сав., Стаўб. р.* І ў калхос яму, і па гаспадарцы яму, і ўсюды: дзе яго німа. А бацько як панок, ані рабіць ні хоча. От калі трохі выйдзя, пакурыць каля капюшні і дадому. От гэты хлопяц як набраў у голаў. «Ні буду, паеду на цаліну, кепско дома». *Жац., Стаўб. р.* Бацька набраў у галаву, што памёр сын, нешто нідобро яму стало і з ума тронуўся. Бачыш, бяда па бядзе як па нітаццы йдзе. Мала адной сьмерці, на́ табе яшчэ гора. *Сів., Вал. р.*

НАБРАЦЬ ЯК ПАВАЛАЧЫ (панесці). Узяць стольکі, колькі можна падняць. Што гэто за дзеці цяпер! Прыехаў Антак да маткі (закалола матка кабанчыка, наказала), прыехаў Антак, набраў як павалачы ўсяго, а во спаць пашоў да цешчы. Чаго ты йдзеш да яе? Табе цешча пасьцеля мякчэй, чым матка родна?! *Сав., Стаўб. р.* Ці помніш ты, як ты вучыўсё? Купілі мы табе з бацькам некі чамаданчык зь дзерава, а ў яго напакуям

ўсяго: і сала, і масла, і сырок, і хлеба. Набярэш як павалачы і ў Стоўпцы на станцыю. І так штотыдзянь. *Там жа.* Прышоў Віцік, набраў тае картофлі як павалачы і панёс. *Гор., Стаўб. р.*

НА ВАЛАСКУ ЛІПЕЦЬ (вісець). Быць у небяспецы, знаходзіцца пад пагрозай гібелі, знішчэння. Мучыўся (салдат), жыў вандраўніком, ня меў чаго ні есьці, ні піць, абарваўся, абадраўся, стаў ні пахош на чалавека. Жыццё вісела на валаску. *Дайг., Віл. р.* У Ядзі вялікая бяда: жыцё Колі на валаску вісіць, у больніцы ляжыць. *Сав., Стаўб. р.* А ведзьма грызе й грызе, што на валаску дзерава ліпіць. *Пудз., Навагр. р.*

НАВАСТРЫЦЬ ВУШЫ. Гл. НАСТАВІЦЬ (навастрыць, натапырыць) ВУШЫ.

НА ВАЧАХ. Побач, блізка; так, што відаць. Патпечак цяпер робяць для культуры, прытуліць што ў ім, кап ні стаяла на вачах. *Трух., Кап. р.* Дзеўчынку ні пускаюць гуляць да дзяцей. Матка хоча, кап дзіця на ачах было. А яна аш лохне (прагне) да дзяцей, крычыць да дзяцей. *Сав., Стаўб. р.* Сям'я тут, на ачах, куды ты прэсься, што табе ў тым Мінску. *Там жа.* Ото гора было! Выбех Міхась с хаты і бягом у гумно — хацеў сячкарню выкаціць, бедны. А дзе ты выкаціш, калі ўсё гарыць, дабро гіне на вачах, а кругом страляніна, немцы страляюць з баракаў. *Там жа.* Хлопцы здаровыя, добро зарабляюць. У мяне на ачах: ні прап'юць, ні прагуляюць. *Веч., Стаўб. р.*

НА ВЕКІ ВЕЧНЫЯ. Навечна, назаўсёды. А каморнік зноў сваё: «Ня бойцеся, людзі. Паны ўжэ ня вернуцца. На векі вечныя зімля крысьцянам Савецкай уласьцю дадзіна, сам Ленін патпісаў дзікрэт. *Слав., Тал. р.* Тут глыбоко, ні лесь. Ускочыш, то на векі вечныя. Тут вялікая глыбачыня. *Гал., Стаўб. р.*

НАВЕСЦІ НА ЛАД к а г о. Гл. НА ЛАД (на пуць) НАВЕСЦІ (наставіць) к а г о.

НАВЕСЦІ НА ПУЦЬ к а г о. Гл. НА ЛАД (на пуць) НАВЕСЦІ (наставіць) к а г о.

НАВЕСЦІ СПРАЎКІ. Даведацца, дазнацца пра што, пра каго, вывіжаваць. Прыйдзя, навядзе спраўкі (суседка), а потым ходзіць па вёсцы і пляце абы-што, вер ты ёй. *Гор., Стаўб. р.* Хачу кабанчыка прадаць, трэба навесьці спраўкі, па чом сало ў Мінску, да павесьці. *Ас., Стаўб. р.* Ты паедзь у Стоўпцы, навядзі спраўкі, там табе ўталкуюць, што й да чаго. А то, ні ведаючы, кепско. *Раёў.,*

*Стаўб. р.* А потом, концы концов, навэлі оны (леснікі) справкы, довэлі ім, хто мы такіі, нашлыса там такіі, шо пудказалы, о, й завэлі з намы суд за порубку ясэня. *Цер., Пін. р.* Участковы прыяжджаў дазнанё рабіць, спраўкі наводзіў тут. *Сав., Стаўб. р.*

НА ВЕЦЕР ПУСЦІЦЬ што. Гл. ПУСЦІЦЬ НА ВЕЦЕР што.

НА ВОКА. Прыкладна, прыблізна, без дакладнага вымярэння, падліку (пазычаць, браць, прыкідваць і інш.). Запісваць ніхто ні знаў, вясоў ні было. Пазычалі на вока сусет суседу, на лышку важылі, куды зацягня. *Пр., Стаўб. р.* Некалі г′азы пазычалі на пачак ад запалак або просто на воко. Вот, колькі ўвальеш, то столькі трэба каб і аднесьці. *Хал., Стаўб. р.* Адрэзала сала с кіло, ня важыла, на вока сала адрэзала і аддала. *Гр., Слуц. р.* Летась я прадаў на воко тры капніцялі саломы, прадаў за пятнаццаць пудоў. *Сав., Стаўб. р.* Эта аднаго году Тофяльчык у мяне салому купляў. Да салома-салома! А ён: «На вясэ ні хачу, прадайця на воко». *Там жа.*

НА ВОЧЫ ВЫКІДАЦЬ каму. Гл. НА ВОЧЫ ЎСКІДАЦЬ (выкідаць) каму.

НА ВОЧЫ ЎСКІДАЦЬ (выкідаць) каму. Наўмысна напамінаць каму пра штосьці непрыемнае з яго жыцця, папракаць каго чым. Бацька выправіў мяне вучыцца ў школу, у Корань, за дзьве вярсты. Першую зіму я падахвоціўся, хадзіў, але чытаць ляніўся. А на другую зіму першы дзень паказаўся ў школі, а тады ў кусты па гнёздах, па норах блындаўся. Так і кончылася мая навука, але дзецям сваім ні хвалюся, кап на вочы не ўскідалі. *Ст. Чэр., Лаг. р.* Ну, але нічога. Ніхто ні сказаў, што гэта праз мяне казёл чуць не задушыўся, дык, мусіць, і ціпер ні знаіць, а так бы абізацільна калі-небуць на вочы выкінула. *Глеб., Уш. р.* Ішла сястра замуш, я аддала ёй кажух. Мне за той кажух Сьцяпан ня раз на вочы ўскідаў, упікаў колькі. *Гр., Слуц. р.* Бяруць колькі панесьці ўсяго: яец па пятнаццаць дзісяткаў зара́с, а сала, а м'яса, і я ж нічога ні трэбую за гэта. Але ш і ты совясь мей, а то ўскідаюць мне на вочы, шта грошай зяцю ні даю. А ш чаго ш я дам, сь пенсіі? *Там жа.* Даўней і моды не было, каб нявестка выкупляла сабе нарады. Гадоў зь дзесяць пражылі, і мне боты купіў Рыгор, то колькі паўскідалі мне імі на вочы і сьвёкар і сьвякроў. Як толькі што, дык і ўскідаюць мне гэтыя боты. *Язн., Віл. р.*

НАВЯРНУЦЬ КАПЫТАМІ. Гл. НАЛАЖЫЦЬ (навярнуць) КАПЫТАМІ.

НАГАВАРЫЦЬ І МЕХ І КАЙСТРУ (торбу). *Асудж.* Гаварыць многа пустога, лішняга, што непасрэдна да справы не адносіцца. Вот ужэ любіць чалавек гаварыць. Яму абы зачапіцца, дак нагаворыць і мех і кайстру. *Пяр., Лоеў. р.* Ета баба з дваццаць дзівятага года ў калхозі, вострая на язык, нагавора і мех і торбу, толькі зачапі. *Ліцв., Карм. р.* Марк гываркей, хоць і ня п'е, гавора многа, нагавора і мех і торбу. *Там жа.*

НА ГАЛАВЕ ХАДЗІЦЬ. *Незадав.* Сваволіць, дурэць (пра дзяцей). Паеду ў Стоўпцы, пакіну іх (дзяцей) адных. А яны ў хаці на галаве ходзяць, усё параскідаюць, падастаюць с куткоў і пакідаюць пасярот хаты. *Сав., Стаўб. р.* Галя будэ розумнэйша за гэту, а гэта, як батько, на головэ ходыть. Бач, як замалэвала палкою, махнула о так, жбурнула, зараза гэта. Бачыш, як намалэвала на лбу. *Бот., Пін. р.* Прыпынецяся трохі, годзі хадзіць на галаве, бо як дастану папрушку, то мало ні будзя, дам. *Сав., Стаўб. р.* Дзеці на галаве ходзяць. Сабралася поўна хата — і свае, й чужыя. *Там жа.*

НА ГАЛАВУ СЕСЦІ к а м у. Гл. САДЗІЦЦА НА ГАЛАВУ к а м у.

НАГАНЯЙ ДАЦЬ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) НАГАНЯЙ (накачку) к а м у.

НАГІ (духу, па́наху) НЕ БУДЗЕ ч ы ё й д з е. *Паграж.* Ніколі не будзе каго дзе, перастане наведваць хто каго. Хадзіў некі салдат п'яны, убіўся ў камору, лець стаіць, абы-што гаворыць, чапляяцца да мяне, старое. Думала дабром выправаджу, аш — не-е. Дак я й кажу: «Вон, кап твае й нагі тут не было!» *Гр., Слуц. р.* Зяця бацькі вельмі не любілі, прыедуць з Дубеяк, сварацца, ўсяк на Васіля кажуць. А ён як даў старому ў халамок, а старую ўзяў за косы і вывяў с хаты, і сказаў: «Кап твае нагі тут не было!» От нек атайбаваліса, жывуць. *Там жа.* Дак ён за пашпарт, палажыў яго ў сумку й гаворыць: «Дваццаць чатэры часы табе! За дваццаць чатэры часы штоп твайго духу ні было тут! Ясна?» *Рак., Вал. р.* Акыш, кап вы падохлі! Як запарашу, то па́наху вашаго тут ні будзя, акыш! *Сав., Стаўб. р.*

НАГІ (падэшвы, падмёткі) НЕ ВАРТЫ (не варт, не стоіць) ч ы ё й. Не ідзе ні ў якае параўнанне з кім, з чым, не заслугоўвае ўвагі, нязначны ў параўнанні з кім, з

чым. Ці касіць, ці што рабіць, Павал ураз машыну прэ. Раскідалася карваць (*кравацъ — ложак*), перацягнуў карваць і дзіван, спрунджыны паставіў новыя. Ці дзе дзіця якое ўстроіць у лагер ці школу, сычас парадак, мамент устроіць. Грыша далёка да Паўла, нагі яго ні стоя. *Бял., Лаг., р.* Ён тваёй падэшвы ні варты, а ты зь ім цягаяська. Якая гэто можа быць дружба, га? *Гор., Стаўб. р.* Мой Міхась умеў рабіць усё: ён і стол зробіць, і табурэцік, і дзежачку на аладкі. За ўсё, за што ні возьмяцца. у яго нешто выйдзя. А ўжо брат — ні тоё. Гэты ні да чого. Ён майго Міхася і падмёткі ні варт. *Сав., Стаўб. р.*

НА ГОРКАЕ ЯБЛЫКА ЗБІЦЬ к а г о. Гл. ЗБІЦЬ НА ГОРКІ (чорны) ЯБЛЫК к а г о.

НАГРЭБЦІ ГРОШАЙ. Нажыцца, мець многа грошай. За Польшчаю у нас сенакос быў натта дарагі. Як пойдуць мужыке на ліцытацыю (публічны продаж сена або сенажаці) — ліцытавалі сенакос,— пан награбе грошай. *Пр., Стаўб. р.* У гэтум годзі дзяцько награбе грошай. Такія сьвіня, бык стаіць, індыкоў можа с сорак. *Сав., Стаўб. р.* Галавянчаня награбуць грошай за трускаўкі. Пакладзе на ровар адразу, можа, пяць карзін і ў Стоўпцы, а там на пояст і ў Мінск, усё ў Мінск. *Гал., Стаўб. р.*

НАДАВАЦЬ КУХТАЛЯ (кухталёў) к а м у. Адлупцаваць, набіць каго. Старэйшы (сын), ні дай бох, які ліхі. Вуп'е, біцца лезе, сварыцца. Хіба ш мамуня суніме яго? Хацела надаваць кухталя, але не здолее, мусіць, да старшыні сходзіць. *Яз., Старадар. р.* Зьніла яго з грушы, надавала трохі кухталёў да й пусьціла. Ну што ты зьдзелаіш зь ім. *Кр., Чачэр. р.* Сторащ калхозны злавіў у садзі злодзяя. Ото лупіў, надаваў, надаваў кухталёў і яшчэ сказаў, што ў кантору заявіць. *Жац., Стаўб. р.*

НАДАВАЦЬ ПАЛКІ к а м у. Гл. ДАЦЬ ДУБЦА (лазы) к а м у. ДУБЧЫКА ДЖГАНУЦЬ к а м у.

НА ДАРОГУ НАПРАВІЦЬ к а г о. Гл. НАПРАВІЦЬ НА ДАРОГУ к а г о.

НА ДЗЕСЯТАЕ СЯЛО ПАПАСЦІ. Гл. ДАПАСЦІ НА ДЗЕСЯТАЕ СЯЛО.

НА ДЗЕСЯТУЮ ХАТУ (ісці, сходзіць і інш.). Далёка адыходзіцца ад дому, у любую хату, размешчаную далёка ад сваёй. Ты ад Малянчука на дзісятую хату пойдзяш, ўседзіш ты! *Сав., Стаўб. р.* Нешто кошкі німа дома, цягаяцца недзя, сыдзе на дзісятую хату, а тут сваве мышы падлогу прагрызьлі. *Там жа.* Твая матка як устаня, дак

адразачку на вуліцу. Людзі дома, печы паляць, а яна забяжыць на дзісятую хату і ўсё пра нешто гаворыць. У яе разгавораў — як вады. *Жац., Стаўб. р.*

НА ДОЛЮ ПАЙСЦІ куды, да каго. Гл. ІСЦІ НА ДОЛЮ куды, да каго.

НА ДУРАЧКА ВЫПІЦЬ. Гл. ВЫПІЦЬ НА ДУРНІЦУ (на дурачка).

НАДУЦЬ ГУБЫ. Гл. ЗАКАПЫЛІЦЬ (надуць) ГУБЫ (лупы, грыбы).

НАЕСЦІ ЖЫВОТ. Растаўсцець, паправіцца, мець добры знешні выгляд (пра чалавека). Прыягджая благі (сын). Кажа: «Жывата ні наясі, ні дадуць жывата наесьці, ні згадуяш, хоць норма касьмічная: там і шакалады, і мармалады, і вінаграт. Чаго толькі німа, але ні жжырэяш, жывата ні наясі». *Ас., Стаўб. р.* Ішоў рас вуліцаю, бачыла. А тоўсты-тоўсты зрабіўсё, жывот наеў, дзіво. *Сав., Стаўб. р.*

НАЕСЦІСЯ ЯК ГАРА. Многа, удосталь з'есці чаго, пад'есці ўволю (звычайна пра жывёлу). Учора Марыся прынесла буракі. Я ўзяла націнку і бурак сьсекла, мукі паўмісачкі, атрубоў, намяшала вядро, тас і паўвядра. Наеліся (свінні) як горы, палеглі і ляжаць. *Пр., Стаўб. р.* Сёньні карова прышла давольная, наелася як гара. Вот добро, што гэты дожджык прайшоў, травіца паднялася. *Сав., Стаўб. р.* Мішка прынёс канюшыны с поплава, корміць карову. Яна любіць канюшыну. Пашла потым, паглядзела ў хлеў, то ляжыць, выкацілася, наелася як гара, ляжыць. *Жац., Стаўб. р.*

НАЕСЦІСЯ ЯК НА ДЗЯДЫ. Многа з'есьці, удосталь, добра пад'есці. Натаўкуць груцы ў ступя ды калі прысыпяць да яе троху гароху, дык, бывало, наясіся як на дзяды. *Сял., Маладз. р.* Уліла капусты міску, потым зьеў міску панцаку, малаком забяліў і наеўса як на дзяды, хоць у лес едзь. *Вяліч., Сал. р.* У нас сягоньні і бліны былі, а потым на скварадзе сьпякла верашчаку, а потым забелянаго крупніку зьелі і наеліся як на дзяды, пабеглі на рэчку гуляць. *Сав., Стаўб. р.*

НА ЗАПАВЕДЗЬ ДАВАЦЬ. Гл. ПАДАЦЬ (даваць, даць) НА ШЛЮБ (запаведзь).

НА ЗЯЗЮЛЮ. ПРА ЗЯЗЮЛЮ. Мала, крыху (пра дробныя грошы). «О-го-го, дак трохі ж ест у кашальку». — «Ну, дак ест жа на зязюлю, а скоро пэнсію прынясуць, ражжывецца баба на грошы». *Сав., Стаўб. р.* Па

старому абычаю пакідалі грошы пра зяўзюлю. Эта ўвесну першы рас як пачуяш, шта зяўзюля закукуя, трэба кішэняю трэсьці, каб грошы зьвінелі, дак будуць цэлы год грошы весьціса. *Гр., Слуц. р.* А братка, німа ж як усе грошы траціць, казалі. Трэба ш пра зяўзюлю пакінуць. *Там жа.*

НА ЗЯЦІ ПАЙСЦІ. Гл. У ЗЯЦЯХ ЖЫЦЬ.

НА КАЛЕНІ ПАДАЦЬ перад кім. Гл. ПАДАЦЬ НА КАЛЕНІ перад кім.

НА КАРК САДЗІЦЦА каму. Гл. СЯДЗЕЦЬ НА КАРКУ (на гарбу) каго, чыім. СЕСЦІ НА КАРАК (на карк) каго, чый.

НА КАРЭНЬЧЫКІ (даць). *Жартаўл.* Крыху, трошкі (маецца на ўвазе даць, прасіць крыху гарэлкі; карэньчыкі — настойка на карэннях аеру, валяр'яны і іншых лекавых раслін, якая прымяняецца ў народнай медыцыне як лякарства). Няма, хлопцы. Што няма, то няма. Вот засталося ўсяго толькі як на карэньчыкі, то ні дам, сабе, можа, калі трэба будзя. *Сав., Стаўб. р.* Як у нас расказвалі, жыла ўдава. Згаварыліся некія жулікі: «Падзем, у яе сала ест». Зайшоў адзін і будзя казаць: «Цётка, дайця на карэньчыкі». Пакуль яна даставала, пакуль адмервала, тры другія за кубелец сала і папёрлі агародамі. От як. *Тат., Стаўб. р.*

НА КВАТЭРЫ СТАЯЦЬ у каго. Гл. СТАЯЦЬ НА КВАТЭРЫ ў каго.

НА КРАЙ СВЕТУ. Вельмі далёка (з'ехаць, заехаць). Чужыя дочкі бліска замуш павыходзяць нек, а гэта ш на край сьвету заехала, ужэ сем гадоў не бачыліся. *Кунц., Кл. р.* Г'оцкаго Міша на край сьвету заехаў, недзя на цаліне. А жыве, казаў бацько, добро. Брыгадзірам трактарнай брыгады. Далі ордзян Леніна. Вот табе й Міша, бачыш. *Сав., Стаўб. р.* Туды, у той Шчэцін, трудно дабрацца, заехаў мой пляменьнік на край сьвету, пісьмаў ні піша. *Там жа.* Яе дзеці зьехалі ўсе на край сьвету: хто ў Польшч, хто на цаліну, адзін недзя ў Мінску на трактарным заводзя. Адна як колас у хаці сядзіць ціпер кабета. *Гор., Стаўб. р.*

НАКРУЦІЦЬ (намыліць) ХВОСТ каму. *Жартаўл.* Насварыцца на каго, зрабіць вымову каму, у грубай форме актывізаваць каго на выкананне чаго. Учоро спаткаў Ігналя, дак трохі накруціў хвост, што ня ходзіць на работу. *Гал., Стаўб. р.* Ідзі, прынясі дроў, а то бацько хвост

накруціць. *Сав., Стаўб. р.* Прыляцеў ранічкаю Тадзік — злосны, вочы паставіў на бап і давай сварыцца. Як накруціў хвост, адразу ўсе, хто куды. *Гор., Стаўб. р.* Коля сваёй Ядзі хвост накруціў, ходзіць каля яго як шаўковая, слухая, а то, бывало, німа рады. *Жац., Стаўб. р.* Сабярuцца кала лесу ў цянёк і разьлягуцца ў кустох, а трэба ш араць. Рас прылятая на «бобіку» брыгадзір. Накруціў хвост, падняліся і давай араць. *Жац., Стаўб. р.* Прыіжджала аграном з упраўленьня, скъзала, нада абізацільна зъпъхаць ету дарогу, хоць люпін, хоць што пасеіць, кап тръва ні ръсла. Добра, што знакомъя, а то ба хвост намыліла б, мала б ні было за ету траву адгадаваную. *Ляйк., Арш. р.*

НА КУЦЕ СЯДЗЕЦЬ. Знаходзіцца, быць на покуце як ганаровы, пачэсны госць (на вяселлі). Мар'я ў їх у пачоці. Калі Эмка замуш ішла, дык яна на куце сядзела. *Н. Тур., Уш. р.* То глядзі ш, кап прыехаў за свата. Ні аднеквайся. На куце пасядзіш, на людзей паглядзіш, даўно ўжо да нас прыягджаў. *Ас., Стаўб. р.*

НА ЛАД (на пуць) НАВЕСЦІ (наставіць) к а г о. Схіляць каго на добрае, дапамагчы разумнай парадай. От паставілі ўжо хатку, адзьдзяліліся. Ну й давай жыць. Тады новую ўжо купілі. Суседзі, людзі добрыя, на лат навялі, дзякуй ім, прафсаюс памох. *Тайкач., Уэдз. р.* Мы думалі купляць карову ў Міры, але Анэтка на лад навяла. Кажа, добрай ні купіш ціпер. Мы яе й паслухалі, а потым Антановіч з Горак прадаў нам цялушку. *Жац., Стаўб. р.* Як яе на лад наставіць, ні ведаю. Прозьбаю прашу: «Пасядзі дома, ты ш так мало бываяш». А яна прэцца на танцы ў клуп. І хворая, прастуджаная. *Сав., Стаўб. р.* Добро, што Карповіч навёў на лат, сказаў, што можно й тут купіць тых дроў. Прывезьлі мне машыну харошых, сухенячкіх дроўцаў. *Гал., Стаўб. р.* У горадзі трэба грошы, каб адзецца хорашо, каб ні сьмяяліся людзі, у кіно якое схадзіць. А ён — рас-рас, і німа тых грошай. Тагды ўжо піша: «Мамка, прышлі зь дзісятку». А калі прыедзя ўжо дадому, то настаўляю на лат хлопца, жыць ні ўмея. *Ас., Стаўб. р.* А ты п прыехала, маладая, апратала п у хаці, навяла п старую кабету на пуць, кап пра цібе людзі добро гаварылі. Дак яна: «Ні хачу!» І зяць да маткі роднае ня йдзе, выракся, а сядзіць у цёшчы. *Сав., Стаўб. р.*

НАЛАЖЫЦЬ (навярнуць) КАПЫТАМІ. Здохнуць,

загінуць. Бяда ў міне: авечкі хварэюць. Была такая адна хароша, сыценькая, гляджу — нешто кволіцца. І цэгала, цэгала, а назаўтро бачу — німа, налажыла капытамі. *Хал., Стаўб. р.* Была ў міне кароўка, так, нічого, але старая. У калхос на мясо прадала. То, можа, ужо на базу завезьлі яе, унучак, можа, ужо дзе навярнула капытамі, калі на базу павезьлі. *Ас., Стаўб. р.*

НАЛАЖЫЦЬ (знайсці) ХАМУТ НА ШЫЮ. Празмерна абцяжарваць сябе або каго чым-небудзь, нажыць клопат. От вы, цётко Олько, гаворыце абы-шчо. Чы ж вона одна вышла замуж? Усім жэ ж ні раней, то позьней, а трэбо наложыці гэтаго хомута на шыю. *Шар., Пруж. р.* Я ні хацела, кап яна за Колю йшла. Я казала, хай вучыцца. А як выўчыцца, дак хамут на сваю шыю знойдзя, гэто шчасьця хваціць. *Гр., Слуц. р.* Вот налажыў сабе хамут на шыю. Купіў матацыкл і ўвесь час корпаюся ў ім, нешто барахліць. *Веч., Стаўб. р.*

НА ЛАСКАВЫМ ХЛЕБЕ. Жыць на ўтрыманні каго, на сродкі каго. Верціцца тая старушачка як уюн на скварадзе. Хоча ш і зяцю дагадзіць, бо на яго ласкавым хлебі жыве, і каб дачку ні ўсердзіць, дачка ў нервы ўпаўшы, муштруя матку й мужыка. Ні дай бох, такой жызьні, як у яе. *Сав., Стаўб. р.*

НА ЛЕС (на лужок) ГЛЕДЗЯЧЫ (гледзя). **1.** Спакойна, мірна жыць. Даўней тут кругом былі лясы, і людзі жылі на лес гледзячы, ні войнаў тых ні бачылі, ніхто іх ні чапаў. *Ж. Барок, Стаўб. р.* **2.** Без догляду, без бацькоўскай апекі (жыць). От, вырас (сын) па лес гледзячы, а цяпер позна ўжэ, не вернеш, як ні старайся, маці. Трудна яму будзе жыць на сьвеце. *Кунц., Кл. р.* **3.** Расці, вырасці высокім (пра юнака ці дзяўчыну). Вырас твой Стась, Міхалова, на лес гледзячы, самы бо́льшы ў кампаніі стаіць. Якрас, як бацько, выкапаны бацячко. *Сав., Стаўб. р.* Гляджу на вашага хлопца і дзіўлюся: бацька й маці малыя, а ён вымахаў на лес гледзя, толькі худаваты. *Сял., Маладз. р.* Мае дзеўкі многа рэсьць (расці) ні будуць, бальшэя ні будуць, адно Ільлюша вымахаў, на Лужок (назва ляснога ўгоддзя) глядзя расьцець. *Ляўк., Арш. р.*

НА ЛІСІЦУ ЎЗЯЦЬ. Гл. БРАЦЬ НА ЛІСІЦУ (на шрубы).

НА МАКАВА ЗЕРНЕ. Зусім, абсалютна (не даць, не зрабіць, не дапамагчы і інш.). Колы вона гучыласа два

рокы в тэхнікумэ, то він ёй і на маково зэрне нэ помог. *Вел., Пін. р.* Ён быў агентам (служачым), але хітры, нікому на макава зерне зла не зрабіў, умеў падыйсьці ласкаю. *Марх., Стаўб. р.* Скуранку купіў, брату аддаў, цяперачы два касьцюмы брату аддаў, паліто аддаў, а брат яму на макава зерня нічога не даў. А каб жонку меў, то інакш бы гаспадарыў, не раздаваў бы братам, а сабе п глядзеў. *Каг., Лід. р.*

НА МАЛАДОЕ каму. Ёсць прыкметы цяжарнасці. «Ці ёсьць у вас сялётка? Хачу салонага».— «Можа, на маладое табе, што сялёткі хочацца. Прызнавайся!» *Ульян., Сен. р.*

НАМУЛЯЦЬ БАКІ каму. *Недобразыч.* Набіць, пакараць каго, надаваць каму. Не хочаш, кажу, сядзець дома — ець куды хочаш, толькі помні: як намуляюць бакі, то я яшчэ дабаўлю. Ці бачылі вы яго, во, танцор удаўся! *Жац., Стаўб. р.* Што? Учоро трохі намулялі баке? Ні трэба было лесьці, чапляцца да іх, яны здаровыя, а ты які? *Гор., Стаўб. р.*

НА НАЖАХ з кім. У варожых адносінах. Яны ўвесь час былі на нажах, а тут прыехала нека камісія правяраць школу, і яны шчапіліся, шчапіліся, як цігра сь ціграю. *Сав., Стаўб. р.* Вот жа жывуць (браты), а кап калі зайшоў адзін да аднаго, кап прыпыніўся каля плоту,— не. На нажах паміш сабою. *Жац., Стаўб. р.*

НА НОГІ ПАДНІМАЦЬ каго. Гл. ПАДНЯЦЬ (паставіць) НА НОГІ каго.

НА НОГІ ПАДНЯЦЦА. Гл. ПАДНЯЦЦА (стаць, паўстаць) НА НОГІ.

НА НОГІ ПАДНЯЦЬ каго. Гл. ПАДНЯЦЬ (паставіць) НА НОГІ каго.

НА НОГІ ПАСТАВІЦЬ каго. Гл. ПАДНЯЦЬ (паставіць) НА НОГІ каго.

НА НОГІ СТАЦЬ. Гл. ПАДНЯЦЦА (стаць, паўстаць) НА НОГІ.

НА НОСЕ. Неўзабаве, хутка, вось-вось. А цяпер і добро, і хватая ўсяго, а жыць ужэ німа калі, бо сьмерць на носі. *Каз., Слонім. р.* Купіла б дзіван, краваць, а на чорта яны, калі сьмерць на насе. *Ульян., Сен. р.* Трэба ўцяпліць хату, картафлянікам пазакладаць, бо зіма на носі, халадэ. *Сав., Стаўб. р.* Вот і Новы гот на носі, а нядаўна, здаецца, была тая вясна. *Жац., Стаўб. р.*

НА НОСЕ ЗАРУБІЦЬ. Гл. ЗАРУБІЦЬ НА НОСЕ.

НА НЯШЧАСЦЕ. Гл. НА ЧОРТА. НА ЯКОГА Д'ЯБЛА. НА ПЕРУН. НА ХАЛЕРУ.

НА ПАЛЬЧЫКАХ ХАДЗІЦЬ перад кім. Гл. ХАДЗІЦЬ НА ПАЛЬЧЫКАХ перад кім, каля каго.

НА ПАРОГ НЕ ПЕРАСТАЎЛЯЦЬ НАГІ. Не бываць у каго, не заходзіць да родных, вырачыся іх. Гудувала, былі і дзіравыя і кыравыя, галодныя і халодныя, але ж жалела. А цяпер дзеці мяне ні жалеюць, на парох не перастаўляюць нагі. *Ліцв., Карм. р.*

НА ПАСАД ВЕСЦІ каго. У дзень вяселля весці маладую ў хату і садзіць на пасад (ганаровае, пачэснае месца ў хаце). Цяпер тожа вянок вядзецца, праўда, не ўсе маладухі адзяюць, але некаторыя адзяюць. А бывала, маладую на пасат вялі, адзявалі вянок, у вянок ушывалі тры каласкі. *Бял., Лаг. р.* У нядзелю рана маладой надзіваюць вянок, хлопцы вядуць яе пад рукі на пасат. *Пал., Мядз. р.* Малады з маладой разам ні садзяцца, а садзяцца напроціў. А тады маладую бяруць пад рукі, на пасат вядуць. *Пр., Стаўб. р.*

НА ПАСАД САДЗІЦЬ. Садзіць нявесту і жаніха на падрыхтаванае пачэснае, ганаровае месца. Кажуць, на пасат як садзісься, плацьця як правіш пяцьцю пальцамі, дык пяць гадоў і дзетак ня будзіць. Во як! А я й ні знала. *Хал., Бар. р.*

НА ПАШЭВЕ. Навідавоку, блізка, пад рукамі (быць, знаходзіцца, стаяць, ляжаць і інш.). Бывала, з балота прыедзя, скарчанея, акалея. Маці кажа: «Выпі чарачку, стаіць на пашэве». А ён — не. Толькі гарачо чаю папросіць. Быў золата, а ні чалавек. *Гр., Слуц. р.* Каробак колькі (запалак) пакіну, хай ляжаць на пашэве, а астальныя трэба прыхаваць, каб ні валяліса. *Там жа.* А ў мяне віно ні будзя стаяць на пашэве. Ужэ як ні хаваю, нойдуць і вып'юць. *Там жа.*

НА ПЕРУН. Гл. НА ЧОРТА. НА ЯКОГА Д'ЯБЛА. НА НЯШЧАСЦЕ. НА ХАЛЕРУ.

НАПІСАЦЬ НА ВАЛОВУЮ СКУРУ. Многа спісаць паперы, многа напісаць. За дзьве нядзелі многа напішаце, на валовую скуру. *Пр., Стаўб. р.*

НАПІЦЦА ЛЮДСКОЙ КРЫВІ. *Абурэн.* Здзекавацца з каго. Ні чапайся ты зь ім, гаткі ён. Вунь пры немцах уся яго радня ў паліцаях была, пілі люцкую кроў як хацелі, покуль на іхнім было. *Ас., Стаўб. р.* Вучаць ні на добро, а на кепско. Пасынак зарабіў за лето збожа, дак

дзяцько кладаўшчыку сказаў, каб ні даваў мне, а яму. То пашла, пасварылася, забрала тоё збожо і грошы палучыла сто дваццаць рублёў. Ні ўдалосё Гаўсовічу напіцца люцкое крыві, дак цяпер на мяне ўсяк брэша, паткусвае. *Марх., Стаўб. р.*

НАПІЦЦА Ў ДЫМІНУ. *Асудж., незадав.* Быць у стане моцнага алкагольнага ап'янення. У нас тут адна, старая ўжэ, абы надоўб (патрэбнасць, выпадак) які або хрэзьбіны — нап'ецца ў дыміну, барада от этак о, а нап'ецца колькі мушчына, толькі й яна. *Пр., Стаўб. р.* У нядзелю каля клуба чапляўсё да людзей. Напіўсё ў дыміну, дурань гэты. *Сав., Стаўб. р.* Раз заходзіць сваяк. А п'яны — страшно глядзець, напіўся ў дыміну. Дай, кажа, я ў цябе буду спаць, ні пайду дахаты. *Жац., Стаўб. р.* Яшчэ малады, а ў дыміну нап'ецца, заваліцца дзе пат плот галодны, халодны, а чуць сьвет — зноў на трактар і арэ да вечара. *Гор., Стаўб. р.*

НА ч ы е ПЛЕЧЫ ЎЗВАЛІЦЬ. Гл. УЗВАЛІЦЬ НА ПЛЕЧЫ ч ы е.

НА ПОЎНУЮ ГУБУ (есці, пад'есці). НА ПОЎНЫ ЖЫВОТ (есці). Удосталь, уволю наесціся, з'есці колькі хочаш, колькі душа жадае. Цяпер такім багатыром стаў, дзіво, усяго на поўную губу, а бывало ж, не было чаго на цело ўсьцягнуць. *Веч., Стаўб. р.* Аспадыня мая была безгаспадарлівая. Заколім сьвіню, ядзём на поўную губу: і раніцай ядзём, і ўдзень, і ўвечара. А як зьядзём, тады німа. *Зам., Віл. р.* У нашай вёсца даўна была такая галеча. Пад'есьці на поўны жывот можна было толькі ўвосянь, а зімой і вясной — па багацьці. *Аляхн., Маладз. р.* Так і прападалі абы-як. Ні разу на поўную губу ні пад'ясі — то ня можна есьці, ба пост, а то і можна, дак самі сабе шкадавалі, усе жміндзілі, каб надаляй было. *Гр., Слуц. р.* Трэба ш выкамбінаваць, каб было ўсім есьці на поўную губу і ашчэ й с сабою ўзяць. *Там жа.*

НАПРАВІЦЬ НА ДАРОГУ к а г о. Дапамагчы каму выбраць жыццёвую сцяжынку, уладкавацца ў жыцці, даваць добрыя парады каму. Жыць будуць (маладыя). Бацькі моцныя, маладыя, направяць на дарогу. *Любч., Навагр. р.* Без бацькоў ого як кепско дзецям. Німа каму іх направіць на дарогу, ні дапамахчы. *Веч., Стаўб. р.* Каб ні бацькі, то ён прапаў бы. Ато памагаюць усім усякім, самі бываюць там і дзяцей глядзяць, на дарогу напраўляюць. *Сав., Стаўб. р.*

НАПРАСЛІНУ УЗВОДЗІЦЬ на каго. Гл. УЗВОДЗІЦЬ НАПРАСЛІНУ на каго.

НАПУСЦІЦЬ НА МУ'КУ каго. Гл. ПУСКАЦЬ (напусціць) НА МУ'КУ каго.

НАПУСЦІЦЬ НА СВЕТ. Гл. ПУСЦІЦЬ (напусціць, пускаць) НА СВЕТ.

НАПЯКАЦЬ (напячы) ДУШУ. *Незадав.* Раззлаваць, выводзіць каго з раўнавагі, змучыць (пастаяннай сваркай, грызнёй, крыкам). Да таго напёк душу (сын), што й яда ў рот ні лезя. Ні сьнедала, ні абедала і есьці ні хачу. *Сав., Стаўб. р.* За раніцу каля печы напячэш душу з гэтымі малымі, што ні вытрымаць. Гэто ні смашно, гэтаго ні хачу. Вот дзеткі растуць! *Жац., Стаўб. р.*

НАРАБІЦЬ БАРОДАЎ. Гл. ЗРАБІЦЬ БАРАДУ.

НАРАБІЦЬ ШКОДЫ каму. ЗРАБІЦЬ ШКОДУ каму. Нанесці каму страту, сапсаваць, пашкодзіць што. Такая завея была ўночы, я вышла, а Маляничуком нехто зрабіў шкоду — зьняў весьнічкі з завесаў, а кругом гурбы панамятало, ні патступіцца. *Сав., Стаўб. р.* Што ён калхозу шкоды нарабіў, каб бачылі. Вунь цэлы выган аўса спасьвіў. *Гор., Стаўб. р.* Я пашла ў Горкі г'азы купіць, а яны сабралі дзяцей зь вёскі і ў сад. Паматлашылі гуркі, патаптаалі трускаўкі. Што гэто за дзеткі растуць, нашто вам шкоду рабіць? Захочацця ці ягатку, ці гурочак, то ні будзя. *Там жа.*

НАРАДЗІЦЦА З ЛЫСІНКАЙ. Гл. УРАДЗІЦЦА З ЛЫСІНКАЙ.

НА РАЖНЕ БАЧЫЦЬ каго. Гл. БАЧЫЦЬ НА РАЖНЕ каго.

НА РОССЫПІ хто. Цяжарная (жанчына). Яна на россыпі, ускорасьці прывядзе дзевачку ці хлопчыка. *Сав., Стаўб. р.* Яня ж Крыжаноўскіх ходзіць на россыпі, на работу ні йдзе ўжо. *Там жа.*

НА РУКАХ НАСІЦЬ каго. Мець асаблівую прыхільнасць, праяўляць вялікую павагу да каго, моцна кахаць, паважаць каго. Паехала ў Польшчу. Чатэры пляменьнікі там. Каб яны цёццы добрыя празэнты, дак не. А калі п чатэры сынэ? Яны ж бы міне на руках насілі, бо німа лепшо над роднаё дзіця. *Сав., Стаўб. р.* Вельмі ш Ядзя там, у том Мінску, добро жыве. Муш на руках носіць, усё робіць за яе, усё дастаўляя, толькі ты еш, а роднай маткі ні глядзіць. *Жац., Стаўб. р.* У іх адна дзевачка была ў родзі, сем братоў і адна сястра. То яны

яе насілі на руках, гэдак шанавалі. *Веч., Стаўб. р.* Вельмі хачу чым адзьдзячыць тую Гэлену, яны гэдак хорашо са мной абыходзіліся, просто на руках насілі ў Польшчы. *Сав., Стаўб. р.* На тых адвядзінах ну проста нахваліцца нельга: усе мілыя, усе харошыя, усе да Ірыны той, ну просто на руках яе носяць. *Веч., Стаўб. р.*

НА РУКАХ. Быць, знаходзіцца на ўтрыманні каго. Яна ўдава, мужык памёр. Асталася адна і троя дзяцей на руках. *Грыш., Рас. р.* Перасяліліся на футар, а гора, а бяда. Карові даваць німа чаго, а млека трэба ш, бо трое малых на руках. Вот як мы жылі. *Ас., Стаўб. р.* Німа як высунуцца с хаты, малая на руках. А тут трэба паехаць да маткі, ніздаровая, ляжыць у лошку. *Марх., Стаўб. р.* Засталася бес хаты і з малым дзіцем на руках. *Сів., Вал. р.*

НА РУКУ к а м у. Гл. У РУКУ к а м у.

НА РУКУ (на рукі) НЯЧЫСТЫ х т о. Можа красці, схільны да крадзяжу, да махлярства, зладзеяваты. Ты пабуць дома, яго (Яшу) аднаго ў хаці ні пакідай, ён на руку нічысты, украдзя што, то дам тады. *Гор., Стаўб. р.* Гэты маліц на рукі нячысты, можыць украсьць. *Бяльм., Брасл. р.* Ой-ой, нячыстъя на рукі дзяўчонка. Во дзе б ні павярнулась, абізацільна сьцёбніць ці грошы, ці што. Я яе іначай, як злодзей, не заву. *Ляўк., Арш. р.*

НА САБАКУ НЕ ВАРТЫ х т о. *Асудж.* Маральна апусціцца, стаць нядбайным, распуснікам. Зяць распусьціўса, на сабаку ня варты, нідзе на рабоце ні адзержыцца: быў і ў міліцы, і кладаўшчыком, а цяпер просты рабочы. *Гр., Слуц. р.* Мой большы на сабаку ня варт: нічога ні робіць дома, ні на што ні глядзіць, толькі б гайсаў да цёмнага. *Вяліч., Сал. р.*

НА СВАЕ ВОЧЫ. Уласнымі вачыма. У нашай рэццы бабры ест. Велькія такія, пушыстыя. Хвост велькі, як сам увесь, толькі нізянькі на хаду, нізянькі, нізянькі. Я сам іх бачыў на свае вочы. *Сав., Стаўб. р.*

НА СВАЮ РУКУ. Самавольна, на ўласную адказнасць. Ірка казала, дзьве ўчыцяльніцы паехалі ў Ленінграт. Дзярэктар ні пускаў, на сваю руку паехалі. *Пр., Стаўб. р.* Тут у нас настаўнік пагарэў. Машыну жыта ўкраў. Ён-то ні на сваю руку рабіў, гэто ясно, што ні на сваю руку рабіў, але паплаціўся. *Жац., Стаўб. р.* Ты на сваю руку ні рабі, трэба запытацца ў брыгадзіра, мо-

жа німожно іх адразу ў яму ссыпаць (буракі). *Сав., Стаўб. р.*

НА СВОЙ ХЛЕБ ПАЙСЦІ. Гл. ПАЙСЦІ НА СВОЙ ХЛЕБ.

НА СВОЙ ЛАД. Па-свойму. Бяж жонкі дзецюкі марнуюцца. Жонка возьмя другога, як каваль абцэнг'амі жалеза гарача, перастроіць на свой лат, перакруціць. *Каг., Лід. р.* Хочацца па-харошаму, бес крыку. Што ні скажу, ні паслухая, на свой лат пераробіць, нават калі кепско, усё роўно зробіць, як яна хоча. *Сав., Стаўб. р.*

НА СВЯТЫЯ НІКОЛІ (ніг'ды). У няпэўны тэрмін, ніколі. От пазычыла чалавеку грошы, а ў яго німа чым аддаваць, німа ш чаго ўзяць, аддасьць на сьвятыя ніг'ды. *Жац., Стаўб. р.* От як у міне Абрамовіч пазычыў (на тыя яшчэ грошы) пятнаццаць рублёў. Я й ведала, што ён аддасьць на сьвятыя ніг'ды, што німа дзе ўзяць яму, але ш пазычыла. І прапалі тыя пятнаццаць рублёў. *Сав., Стаўб. р.* Ты заўсёды абяцаяш, а прыдзяш на сьвятыя ніколі (пасядзець). *Гр., Слуц. р.*

НА СЁМЫМ НЕБЕ. Бязмежна шчаслівым, задаволеным, вельмі радасным, вясёлым (быць, адчуваць сябе). Мой хлопяц на сёмым небе быў, калі прыехаў зь Мінска. Такі конкурс, казаў, быў, людзей многа, і кожны хоча паступіць. *Мач., Бабр. р.* Прынёс раз бацько шчупака з рэчкі. Як паказаў Мішку, ото ён быў рады, на сёмым небі ўнучак. Прынёс тазік, давай яму падліваць сьвежай вадзічкі, ката ганяя, каб ні ўлес. *Сав., Стаўб. р.*

НАСІЦЬ ЖАЛОБУ. Хадзіць у жалобным, чорным адзенні або з адзнакаю жалобы; сумаваць з прычыны смерці роднага, блізкага. Мо зь нядзелю завязала мне і есьці, і піць, і весяліцца, не скакала. Як па пакойніку, жалобу насіла. Ссушыла мяне гэтая любоў да нічэг'о. *Пуз., Мядз. р.* У цэркві дзьякан Арсэн вучыў сьпяваць на клірасе, а мой памёр якрас тато, я насіла жалобу, а баялася сказаць. Дзьякан крычыць на мяне: «Сьпявай!» — і дзяўчаты просяць, а я плачу і не кажу ім нічога. *Няс., Навагр. р.* Ні носяць ціпер жалобы, моды німа. У вёсцы от хто носіць, хто не. У горадзе то ўсе носяць, я бачыла па цілявізару. *Сав., Стаўб. р.*

НАСІЦЬ НА РУКАХ к а г о. Гл. НА РУКАХ НАСІЦЬ к а г о.

НА СКОРУЮ РУКУ. Хутка, без вялікай затраты часу (рабіць што). Я скварак патпяку на скорую руку, ды

перакусіш хоць мала-веле. *Гор., Стаўб. р.* Жылы хто дэ прымостыўса: той зробыў собі зымлянку, той змастырыў на скорую руку прыстанышчэ дэ пуд дэрвім. *Сіц., Стол. р.* Прыехаў зь Мінска, сют-тут перакусіў на скорую руку і на рэчку. Сядзіць там у камарах рыбу ловіць, аддыхая. *Сав., Стаўб. р.* На, трохі зьеш на скорую руку і йдзі, бо ўжо ні рана, да поязда ні пасьпеяш. *Гор., Стаўб. р.*

НАСКОЧЫЛА КАСА НА КАМЕНЬ. Гл. КАСА (нож) НА КАМЕНЬ (наскочыла, наскочыў).

НАСТАВІЦЬ (навастрыць, натапырыць) ВУШЫ. Пільна прыслухоўвацца да чыёй гаворкі, слоў, услухоўвацца, слухаць. Ну чаго ты наставіў вушы, марш адгэтуль. А то, як стары, расьсеўся і патслухоўваяш тут, што старыя гавораць. *Гор., Стаўб. р.* Я яе баюся. Прыйдзя, натапырыць вушы, выведае ўсё, а потым уся вёска ведая, што ў міне ў хаці робіцца. *Ас., Стаўб. р.* Аня ганяя сьвіню з агарода, а яна (свіння) дурэя. Адбяжыцца трохі, наставіць вушы, дзе яна (Аня) паварочваяцца, і зноў наўцёкі. *Гал., Стаўб. р.* Седзімо мы, гаворым, а Алесьчын хлопчык — малы яшчэ, мо гаткоў сь сем ці восім — слухая як стары, навастрыў вушы. Каб ён гуляць пабех ці што,— сядзіць з бабамі. *Сав., Стаўб. р.* Чаго ты навастрыў вушы, гэто вецяр у вуглох шуміць, плача, як дзіця малоё. Гэто табе зь ніпрывычкі. *Зал., Стаўб. р.*

НАСТАЎЛЯЦЬ НА ЛАД к а г о. Гл. НА ЛАД (на пуць) НАВЕСЦІ (наставіць) к а г о.

НАСТАВІЦЬ РОГІ. *Незадав.* Скоса, злосна глядзець, непрыязна адносіцца да каго. Наставіць гэтыя рогі і маўчыць цэлу раніцу. А я ш маці, чы можно гэдак да маці быць?! *Сав., Стаўб. р.*

НАСТАВІЦЬ ХІБОК. Гл. ХІБОК НАСТАВІЦЬ.

НА СТАЛЕ ў к а г о, н а ч ы і м БЫЦЬ (знаходзіцца і інш.). Сталавацца, харчавацца ў каго. Яе сын быў у мае сястры на кварціры і быў на стале. *Ульян., Сен. р.* Прыехаў к нам аграном новы. Места яму ні знайшлоса, паставілі брыгадзірам, у Анюты Кудзёлкавае жыў і на стале быў. *Гр., Слуц. р.* А воны нэ годылыса на вашум столі? У вас жа молоко, а хліба колы б прынэслы, було б дорожый за квартыру. *Бот., Пін. р.* Хлопцы на хозяйчыному столі. Напэчэ блынув да наставыть молока, да й едять. *Чух., Пін. р.*

НА СТАРАСЦЬ. У пажылым веку, на старыя гады. Добра мне на старасьць. Работы мала, дзеці вырасьлі,

глядзяць мяне, жыві сабе толькі, баба. *Тат., Стаўб. р.* Мой сынок пасадзіў харошы садзік, не дачакаўсё, бедны, яблычак. Цяпер от добро будзя на старасьць ці так зьесьці, кампоцік зварыць, а то ўсё жыцё была жадна, на футары жывучы. *Сав., Стаўб. р.*

НАСТУПІЦЬ НА ХВОСТ к а м у. *Узруш.* Крыўдзіць, псаваць настрой каму. Хто табе наступіў на хвост? Слова ні скажы, некая злосная зрабілася. *Жац., Стаўб. р.* Чаго ты кіпяцісься? Хто табе на хвост наступіў? Ідзі рабі тое, што я табе кажу, і ўсё. *Раёў., Стаўб. р.* Устаням рано. Я печ патпальваю, яна — картофлі абірая. Хачу ш, каб усё добро, ласкаю прашу зрабіць што. Яна, бачу, не, не вельмо кідаяцца да работы, злуе. Вот як ёй хто на хвост наступіў ўсё адно. *Сав., Стаўб. р.*

НА СЦЯНУ (на сценку) ЛЕЗЦІ. Прыходзіць у адчай (ад болю, клопатаў, спраў), вар'яцець, шалець. Але гэдак схвацілі зубы балець, хоць на сьценку лесь. Добра, што доктар бліска жыве. *Кунц., Кл. р.* Так зубы ўчора балелі ў Марусі, што, бедная, аж на сьценку лезла. *Мач., Бабр. р.* Некалі дзеці Амяльлянавыя наеліся былі шалянцу (блёкату) гэнага, зрачкі пасходзіліся, на сьцяну лезуць. Што яны вытваралі, пака ў Лагойск не завезьлі. *Бял., Лаг. р.* Ня есьця, дзеткі, ашчэ ягаткі зялёныя. Ато Тарасаў учора наеўса нечаго, дак на сьценку лес. *Гр., Слуц. р.* Жывот схваціў Таньку ўчоро вечарам, на сьценку, бедная, лезла, гэдак мучылася, пад ранічку толькі заснула. *Сав., Стаўб. р.* Наеўся малы дзікіх яблык, качаўсё жыватом усю ноч, лес на сьценку. А пад раніцу прашло, заснуў і ціпер сьпіць. *Там жа.* Рады-рады, ащ на сьценку лезуць, рады бес канца, што Валя паступіла. *Жац., Стаўб. р.*

НАСЫ ЗГРЫЗАЦЬ. Гл. НАСЫ ПАСКУСВАЦЬ (згрызаць).

НАСЫ ПАСКУСВАЦЬ (згрызаць). *Асудж.* Сварыцца з кім, дрэнна жыць між сабой. Мая дачка жыла ў свахі, пака адзьдзяліліся. То зяць — ня то што муж да жонкі, а гультай апошні. Дома паляц ап паляц нічога, а з маткай рэзаўся, чуць насы ні згрызаюць. *Бял., Лаг. р.* Сварацца яны, увесь час грызуцца, але на людзях ні відаць. Нявестка з маткаю гатовы насы паскусваць адна адной. *Ас., Стаўб. р.* С сусеткаю жывуць ніважна. Абы за што завядуцца сварыцца, гатовы насы паскусваць. *Гр., Слуц. р.*

НА СЭРЦЫ КАМЕНЬ у каго. Гл. КАМЕНЬ НА СЭРЦЫ (на душы) у каго. СЕЎ КАМЕНЬ НА СЭРЦА каму.

НА ТАЛАКУ ХАДЗІЦЬ да каго. Збірацца па клічу на супольную работу, на аднадзённую дапамогу. У пупа зямлі было многа, сад вялікій. Людзі на талаку хадзілі ў папоўські сат. *Ліцв., Карм. р.*

НА ТАНДЭТ. *Незадав.* Абы-як, дрэнна, як не сваімі рукамі (рабіць што, зрабіць). Баціпкі шытыя без рук, на тандэт (ад ням. tand — *цацка, дробязь, мішура*). *Бял., Лаг. р.* От і граблі тандэтныя, кволыя такія, на тандэт. *Там жа.* От попросіла нідаўно чоловека одного стога скідаць, то ён узяў скідаў на тандэт — праз дзьве нядзелі стог абарнуўса. *Хат., Ганц. р.* Купіш тыя чаравічкі хлопцу ці сандалікі — прас колькі часу падзярэ. Вядомо, робляныя на тандэт, дзяруцца як бачыш. *Жац., Стаўб. р.* Зрабіў Алесь дзьве бочкі, рабіў не на тандэт, на совясьць рабіў, дубовыя, харошыя. У адну злажылі гурке, а другая на капусту будзя. *Сав., Стаўб. р.*

НАТАПЫРЫЦЬ ВУШЫ. Гл. НАСТАВІЦЬ (навастрыць, натапырыць) ВУШЫ.

НА ТОЙ СВЕТ АДПРАВІЦЬ каго. Гл. АДПРАВІЦЬ НА ТОЙ СВЕТ каго.

НА ТОЙ СВЕТ ЗАГНАЦЬ каго. Гл. ЗАГНАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ каго.

НА ТОЙ СВЕТ АДПРАВІЦЦА. Гл. ІСЦІ (адправіцца) НА ТОЙ СВЕТ.

НА ТЫМ СВЕЦЕ ВУГАЛЬКАМІ (расплаціцца, разлічыцца) з кім. *Іран.* Ніколі (не расплаціцца, не разлічыцца) з кім. Калі аддам? Расплацімся на тым сьвеце вугалькамі. *Кав., Старадар. р.*

НА ЎСЁ ГОРЛА. Вельмі моцна. Малы вунь з ганку зваліўсё, крычыць на ўсё горло, дзе тая маці? *Гор., Стаўб. р.* Нек сяджу я на печы, шыю, слухаю навіны зь Мінска (па радыё), а нехто ў шыбу стук-стук-стук. Я аказалася, злажу сь печы, а там на ўсё горло: «Цётка! Ні палохайся, цётка, гумно гарыць!» Я ўтрупянела. «Чаго ты,— кажу,— крычыш на ўсё горло, ціхо ні можаш сказаць!» *Сав., Стаўб. р.* Міне певянь спалохаў. Іду каля плоту, а ён раптам як закукарэкая на ўсё горло. А кап ты здох, кап ты, так напалохаць. *Веч., Стаўб. р.*

НА ХАЛЕРУ. Гл. НА ЧОРТА. НА ЯКОГА Д'ЯБЛА. НА НЯШЧАСЦЕ. НА ПЕРУН.

НА ХВОСТ НАСТУПІЦЬ каму. Гл. НАСТУПІЦЬ НА ХВОСТ каму.

НА ХІТРЫКІ ПУСКАЦЦА. Гл. ПУСКАЦЦА НА ХІТРЫКІ.

НА ЧАСАХ ХАДЗІЦЬ. На апошнім месяцы цяжарнасці. Яна ш ужо на часах ходзіць, у маі радзіць трэба. *Язн., Віл. р.*

НА ЧОРТА. НА ЯКОГА Д'ЯБЛА. НА НЯШЧАСЦЕ. НА ПЕРУН. НА ХАЛЕРУ. *Незадав., зласл.* Навошта, для чаго, дзеля чаго. Цяпер у кожнай на руцэ часы. А бывала, на чорта тыя часы. Калі спраўлюся з работай, тады йду на сваю ніву. *Ульян., Сен. р.* На чорта ты едзяш, на якога д'ябла ты сюды едзяш? *Зам., Брасл. р.* На чорта было спружынаваць, выдзіраць траву, дратамі заплятаць, калі ні хочаш соткі сеяць тут. *Сав., Стаўб. р.* Гэто ён кап падрапалі (пакультывавалі) соткі ходзіць за трактарыстам. А на чорта іх драпаць. Узняў ды сей. *Там жа.* На чорта тоя абразаваня! Дурэня меньш і грошы вялікія. Падабраў патсобную гаспадарку: і сьвіня, і конь, і агарот—распараджаяцца ўсім. *Там жа.* На чорта воны (бараны)! Госты прыіхалы, то барана і бэкнулы, зарізалы. *Бот., Пін. р.* Я думаю: «Бадай ты згарэў. Я буду с табой ашчэплівацца. На чорта ты мне». *Залаз., Віл. р.* Можна было п і шкаф купіць, але на чорта ён мне, прыпірышча ёсь для адзежы і до (досыць). *Ульян., Сен. р.* Няхай доле (на падлозе) боты стаяць, на чорта грась на печ закідаць. *Гр., Слуц. р.* Як прыехалі (у сваты), як назьбіралася хата, радня, свае, бліскія, знаёмыя. Прывёс я некіх літраў зь дзесяць гарэлкі, а мне давялося адно некіх грам сто. От я й падумаў: «Браццы, на халеру ж мне гэткія гулі». *Дайг., Віл. р.* А на няшчасьця, на перун тыя качкі, толькі вартуй і вартуй. Над гусі німа лепш — і м'яса, і пер'я ў іх хароша. *Гр., Слуц. р.* Казала Ганна Логінава, што й Надзя на спаніцу набрала, думала, запросіця на дзень раждзеня. А я кажу: «На перун мне яе спаніца! Ашчэ бес спаніцы не хаджу». *Там жа.*

НА ШЛЮБ ПАДАЦЬ. Гл. ПАДАЦЬ (даць, даваць) НА ШЛЮБ (на запаведзь).

НА ШЫРОКУЮ (на высокую) НОГУ. Заможна, багата, у раскошы. Свайго ўсяго было: і пшчолы, і сад, і кароўка. Зараблялі добра, іх дзьве душы, бязьдзетныя. Пілі, елі што хацелі, жылі на высокую ногу. Добра жылі — і вот зьнялі (з работы). *Зам., Брасл. р.* Што ты,

Ядзя, ні кажы, а цяпер ого жывуць, можна сказаць, на шырокую ногу. Вунь Лапкоўскія — чаго ў іх німа: і марцыклет (матацыкл), і цілявізар, а ў хаці — як у паноў якіх. *Сав., Стаўб. р.* Грошы шынкуя (распускае), жыве на шырокую ногу. Ні зная, куды іх дзяваць. *Жац., Стаўб. р.* Люся Марзалёва прыягджала дадому. Разбылася нека, ні пазнаць зрабілася, як пані. Жыве добро, на шырокую ногу, але маткі глядзіць, часто дома бывая. *Там жа.*

НА ЯКОГА Д'ЯБЛА. Гл. НА ЧОРТА. НА НЯШЧАСЦЕ. НА ПЕРУН. НА ХАЛЕРУ.

НА ЯЗЫКУ НІЧОГАЧКА НЕ ЗАМЕРЗНЕ. *Асудж.* Мецъ нясцерпнае жаданне паведаміць, пераказаць пачутае. Меншанька красівая дзевычка, красівейшая за ўсіх. І церпелéй. Зінка — тая памяло, на языку нічогачка ні замерзьніць. *Ліцв., Карм. р.*

НЕ АГЛЕДЗЕЦЬ ВОЧМІ. Гл. НЕ АКІНУЦЬ (не агледзець) ВОКАМ (вочмі).

НЕ АКІНУЦЬ (не агледзець) ВОКАМ (вочмі). *Захапл.* Вельмі многа, так што цяжка адразу ўбачыць, акінуць позіркам. Ото ж у нашум калхозі лубіну насеяно! Учоро ішла ў грыбэ, то бачыла. Такая лава, не акінуць вокам. *Сав., Стаўб. р.* А работы з ылном, не давядзі гаспоць, колькі! Трэба ж было яго апалоць, вырваць, атрапаць, а ў калхозе яго нарасьце, што й вокам не акінеш. А машын ні было, усё рукамі! *Ар., Кл. р.* Цяпер у калхозі столько много садзяць і сеюць, што не агледзець вочмі. Каб ні машыны, рукамы і не парабіў бы ўсёй гэтай работы. *Шаш., Стаўб. р.*

НЕБА З АЎЧЫНКУ ПАКАЖАЦЦА к а м у. Мутарна стане, моцна забаліць, у вачах пацямнее ў каго (ад болю, страху). Адыдзі атсюль! Уматывай прэч, а то дзержаньнём як дам, неба з аўчынку пакажацца. *Бял., Лаг. р.*

НЕБАМ КРЫТА ш т о. *Іран.* Пра памяшканне, дах якога патрабуе тэрміновага рамонту. У мяне вунь хата небам крыта, а скора зіма. *Райч., Пух. р.* Трэба дастаць дзе дранкі, гумно небам крыта. Можа, паехаць у тартак. *Гал., Стаўб. р.*

НЕ БАЧЫЦЬ СВЕТУ. Гл. СВЕТУ (божага) НЕ БАЧЫЦЬ( не відзець).

НЕ БАЧЫЦЬ У ВОЧЫ к а г о, ш т о. Зусім, ніколі не бачыць. Бывала, ў вялікую сыботу мама напячэць булак, яец накрасіць і вокарак запячэць у цесьці. Дык

воччым стаіць у хаці і глядзіць, каб нікому ні дала дзяцём, каб яму на том сьвеці дуба стаяць, а ні ліжаць. А мы, ведыма ж, дзеці, цэлый год ні бачылі нічога ў вочы, дык хочацца, кап хоць лізнуць чаго. *Раб., Слаўгар. р.* Я той ікры ў вочы ні бачыла, а ты пытаясься, ці смашная яна. Прывязі калі, то й я пакаштую. *Сав., Стаўб. р.* Во пойдзя ў лес, сюды-туды — і баравік, і баравік. Я ш хаджу — і хоць бы дзе адзін. Нахаджуся па лесі, наложуся і ніводнага ў вочы ні ўбачу. *Жац., Стаўб. р.* Прышоў да міне й кажа: «Цётка, у вас мой плужок?» А дзе ён у міне, калі я яго не бачыла ў вочы». *Там жа.*

НЕ ВЫПУСКАЦЬ З ЗУБОЎ. Гл. З ЗУБОЎ НЕ ВЫПУСКАЦЬ.

НЕ ГАРЫЦЬ. Не спешна, можна паволі, не спяшаючыся. Куды гэто вы сабраліся так прэнтко? Ні гарыць жа, можа пачакаюць. *Гор., Стаўб. р.* Чаго ты нас падганяяш? Ні гарыць жа, ні спозьнімся, глянь жа на часэ. *Сав., Стаўб. р.* Усё скарэй, скарэй. Пасьпеяш! Ні гарыць! *Жац., Стаўб. р.*

НЕ ДАВАЦЬ ПРАХОДУ к а м у. Неадступна, назойліва праследаваць каго просьбамі, пытаннямі, гаворкай і інш. Агранома выбралі судзьдзём сёлета. Вы ведаеце агранома? Яму дзяўчаты не даюць праходу, шнурам за ім. *Бял., Лаг. р.* Прыедзя дахаты, хоча аддыхнуць, а людзі ні даюць яму праходу: то да міне зайдзі, то да міне. А ўсё нешто ні так, усе яго просяць. *Сав., Стаўб. р.* Дзіця мне праходу ні дае — куды я, туды й яна, просіцца, каб брала с сабою. *Гор., Стаўб. р.* Бацько, бывало, ніводнай маладзіцы праходу ні даваў, а сын, вінно (відаць), у матку пашоў, няма ў яго ні шутак, ні залётаў. *Падг., Кар. р.* Ну, прыехаў, аддыхні трохі, схадзі на рэчку. Яму й там ні даюць праходу, вельмо патрэбны стаў. А потым, калі зробіць якую ласку,— ніхто й ні гляня. *Жац., Стаўб. р.* Лёдзя Высоцкіх красавіца была, дакумэнтная (дакладная, акуратная), гэткая важная, самастаяцяльная, але ён (муж) яе мучыў. Яшчэ сёстры Вацікавы гэткія языкачэ былі, адно завідувалі ёй, праходу ні давалі той Лёдзі. *Там жа.*

НЕ ДАВАЦЬ У АБІДУ к а г о. Гл. У АБІДУ НЕ ДАЦЬ (не даваць) к а г о.

НЕ ДАВЯДЗІ ГАСПОДЗЬ. Гл. НЕ ДАЙ (не давядзі) ГАСПОДЗЬ (бог).

НЕ ДА ГАЛАВЫ. Гл. НЕ Ў ГАЛАВЕ. НЕ Ў ГОЛАЎ. НЕ НА ЎМЕ.

НЕ ДАЙ (не давядзі) ГАСПОДЗЬ (бог). Форма ацэнкі, адмоўная характарыстыка каго, чаго. Ужываецца як перасцярога. Цяпер і мы распанелі, сталі панямі. Цяпер надзелы бальшэя ў нас, дамы́ прасторныя. А бывала, не дай гаспоць, як мы жылі. Некалі так бы ня сеў: нада шлэпачкі вязаць зь вяровачак, скуты́ (скруткі палатна) бяліць, ткаць, сарочкі шыць. Рабілі, як валы. *Ульян., Сен. р.* Я зь беднага роду. Бедна йшла замуш і жыла бедна. У нас поля ні было, усяго дзісяціна. Мучыліся, ні дай бох, як гаравалі. *Кук., Дзярж. р.* Угэ й б'емо і шчо нэ робымо, а неслух, мурзіла, не довэді господь. *Бот., Пін. р.* Ні дай бох, якія халодныя боты. То старыя даношваю, а гэтыя — ну, ні дай бох, якія халодныя, ні ўтрываць, якія халодныя. *Сав., Стаўб. р.*

НЕ ДА СМЕХУ к а м у. Няма намеру смяяцца, не час жартаваць, няма адпаведнага настрою. А посьле нашаму Максіму не да сьмеху было. Валачылі яго ў пастарунок (участак польскай паліцыі), мусіт, далі яму добрэ, але вон пра гэто не любіў гаварыць. Ледзь аткараскаўса ад гэтае беды. *Мур., Пруж. р.* Іваноўскаму ні да сьмеху было, калі выклікалі на праўленё. *Марх., Стаўб. р.* Купаліся дзеці на рэццы — там запруду трактар зрабіў. Купаліся, а плаваць ні ўмелі. То аднаго хлопца вывалаклі з вады, тапіўся. Усе сьмяюцца, а яму было ні да сьмеху, спалохаўся. *Жац., Стаўб. р.*

НЕ ДА ТОЛКУ. Гл. НЕ Ў ТОЛК.

НЕ ЗА ГАРАМІ ш т о. Блізка, недалёка, хутка. Ідзі, ідзі, бацька, пачынай капаць капец, а то хто яго ведая, якая там ужо пагода будзя, а зіма ні за гарамі. Ідзі, ні сядзі. *Сав., Стаўб. р.* Едзям на коніку ў Стоўпцы, дарога далякаватая, але як дабярэсься да Сінявы (назва лесу), то ўжо й Стоўпцы ні за гарамі. *Жац., Стаўб. р.* Вот ужо, Высоцкая, аджываям мы з вамі свой век. Старасьць сівая, сьмерць ні за гарамі. *Жац., Стаўб. р.*

НЕ ЗАСТАЛОСЯ ЖЫВОГА МЕСЦА. Гл. ЖЫВОГА МЕСЦА НЕ ЗАСТАЛОСЯ (няма, нет).

НЕ ЗВАРЫШ КАШЫ з к і м. Гл. КАШЫ НЕ ЗВАРЫШ з к і м.

НЕ ЗВЕСЦІ (не стыкаць) ВАЧЭЙ. Не спаць зусім, не заснуць нават на самы кароткі міг. Я ж ні заснула ні грамачка, усю ночачку ні зьвяла вачэй, думала пра гэту

пакражу ўсё. *Сав., Стаўб. р.* Я ж начэй ні спала, вачэй ні зводзіла, цібе гадуючы, а ты маццы што вырабляяш, га? *Гор., Стаўб. р.* Прышоў німэць, і погналы Васю мого ў Німэччыну. Я ўжэ гочэй ны стыкала, плакала цілымы днямы й ночамы. *Заточ., Драгіч. р.* Ні выспалася сягонячы. Усю ноч вачэй ні стыкала, нешто Танька хварэя, кадук яе ведая, што зь ёю. *Сав., Стаўб. р.* Хацела днём прылехчы, лягла, але ні зьвяла вачэй. Нешто нідобрыцца, рукі-ногі баляць. *Там жа.*

НЕ З РУКІ. Нязручна; нявыгадна. Падай, сынок, цёці шпульку, вунь на лаўцы, мне ні з рукі. *Гор., Стаўб. р.* Хацела зайсьці ў Заямно (назва вёскі), але было ні з рукі. *Сав., Стаўб. р.* Ні з рукі было заходзіць да цібе, Сонячка, то й ні зашла, да хаты сьпяшалася. *Гор., Стаўб. р.* Мне прадаваць цялушку было ні з рукі летась, бо трэба было вяселё спраўляць сыну. *Сав., Стаўб. р.* Я ні на зарплаці, ад выработкі ў міне, ні з рукі сядзець дома. *Зам., Брасл. р.*

НЕ З ТОЙ (з тэй) НАГІ ЎСТАЦЬ. *Іран.* У дрэнным настроі, злавацца. Па-мойму, отпуск ня отпуск (у ветэрынара), бъльная сьвіньня ня жджэць. А да нашага віцінара ні патхоць. Ён, як ня с той нагі ўстаў, злы. *Ульян., Сен. р.* Што гэто ты сягоньні ўсхадзіўся? Не с той нагі ўстаў, можа, ці якая трасца? Бурчыш, як стары. *Н. Тур., Уш. р.* Марынка наша маўчыць, мусіць, ні с той нагі ўстала. А можа захварэла? *Сав., Стаўб. р.* Сягоньні да конюха ні патхоць, злосны, ні с той нагі ўстаў. Ні дасьць ён табе каня. *Жац., Стаўб. р.* Чаго ты праганяіш мяне, чаго ты тъкая сярдзітая, ці ты ня с тэй нагі ўстала? *Ляўк., Арш. р.*

НЕ ІДЗЕ НА ПУП (работа). Не працуецца (па старасці, па стану здароўя). Работы бугата нідаробляна́й, а работа ня йдзець табе на пуп: ні то б ты плакуў, ні то б жалуваўся. *Ліцв., Карм. р.*

НЕ КАЛІ (тое) БЫЛО, НЕ КАЛІ (тое) БУДЗЕ. Тое, што мае адбыцца, было або вельмі даўно, або будзе яшчэ вельмі няскора. «Учора ў Дварэцкіх паўлітру зьвялі, а сёньня к Любе схадзем. А мо ня йсьці? Прыдзяш, дак станя тая бегаць, на стол зьбіраць».— «Няхай пабегая, не калі было не калі будзя, ты ў іх так рэтка біваяш». *Гр., Слуц. р.* Давайця, бабы, зьберымося ў сыботу ў Анюты. Пагаворым, пасьпяваям, а то ўсё німа часу. От, ні калі тоё было ні калі тоё будзя, давайця, га? *Сав., Стаўб. р.*

НЕ КІЕМ ТО ПАЛКАЮ. Тое самае, толькі ў іншай форме, усё адно. Для мяне, браце, адна халера: як той казаў, не кіем то палкаю. *Жац., Стаўб. р.* От — ні кіем то палкаю — можно абыйці й вуліцаю, а можно й наўскасяк, яшчэ скарэй будзя, толькі каб ні ўлесьці (у балота). *Гор., Стаўб. р.* Адзін прасьпіць, на работу ні выйдзя, а другі заробіць, але прагуляя. Ні кіям то палкаю. *Сав., Стаўб. р.*

НЕ ЛЕЗЕ Ў ГОРЛА. Гл. У ДУШУ (у горла) НЕ ЛЕЗЕ.

НЕ ЛЕЗЕ Ў ДУШУ. Гл. У ДУШУ (у горла) НЕ ЛЕЗЕ.

НЕМАЧ НЕ БЯРЭ к а г о. Гл. ЧОРТ (кадук, немач, халера) НЕ БЯРЭ к а г о.

НЕ НА ЎМЕ. Гл. НЕ Ў ГАЛАВЕ. НЕ Ў ГОЛАЎ. НЕ ДА ГАЛАВЫ.

НЕ ПАДАВАЦЬ ВІДУ. Гл. НЕ ПАКАЗВАЦЬ (не падаваць) ВІДУ.

НЕ ПА ДУШЫ. Не падабаецца, не да спадобы. Нава́рыць баба кісялю, што сьвіньням, і еш. Можа й Таньку атпугнула кісялём, гляджу, шта ей ні па душэ. *Ульян., Сен. р.* Не па душы мне гэтая работа. Кап касіць ці араць, а то сь сярпом сагнуўшыся ўвесь дзень пакланяйся, ні магу. *Гор., Стаўб. р.* Тоё, што ты сказала, ёй ні па душы, ні наравіцца, бачыш. *Сав., Стаўб. р.*

НЕ ПАКАЗВАЦЬ (не падаваць) ВІДУ. Наўмысна стрымліваць свае пачуцці, жаданні, нічым не выказваць іх, прытварацца раўнадушным. Прыходзіў той чалавек, але не паказаў віду, што хацеў с табою пагаварыць. *Ас., Стаўб. р.* Патходжу бліжай к гэтаму каню (які конь, я ж ні ведаю, ці парцізанскі, ці нямецкі), а там нямецкая аўчарка гаў-гаў. Я ўмлела на гэтым месьця, але ні пакызываю віду, махаю парцізанам рукой: «Уцякайця! Уцякайця!» *Сіц., Пух. р.* Мне так зрабіласё холадно, увесь дрыжу, ведамо, прамок да ніткі, але сяджу, ні паказваю віду, што зьмёрс. *Жац., Стаўб. р.* Я ж ведаю, што гэто яе работа, што гэто яна ўкрала пяць рублёў, але маўчу, віду ні паказваю: а можа сама прызнаяцца. *Сав., Стаўб. р.* Неік у міне трівожна на душы стала, ну, але віду ні падаю. *М. Каш., Гар. р.* Прышлосёісьці поначы да Зінкі. Іду й баюсё, але не падаю віду, што баюсё. *Сав., Стаўб. р.*

НЕПАЧАТЫ КРАЙ. Дужа, многа, залішне. Работы

ніпачаты край, а я так абнядужала, сяджу толькі да охкаю. *Гр., Слуц. р.* Ты кажаш, кап я да вас прыехала. А ат каго? Работы ніпачаты край: трэба трускаўкі апалоць, гарбузэ пазавалакаць у гумно, курачы хлеўчык аблажыць картафлянікам, а адна, німа каму памагчы. *Сав., Стаўб. р.*

НЕ ПРЫ ВАС КАЖУЧЫ. Гл. НЕ ТУТ (не пры вас, не пры табе, не табе) КАЖУЧЫ. НЕ ПРЫ ДЗЕЦЯХ КАЖУЧЫ.

НЕ ПРЫ ДЗЕЦЯХ КАЖУЧЫ. Гл. НЕ ТУТ (не пры вас, не пры табе, не табе) КАЖУЧЫ. НЕ ПРЫ ДЗЕЦЯХ КАЖУЧЫ.

НЕ ПРЫ ТАБЕ КАЖУЧЫ. Гл. НЕ ТУТ (не пры вас, не пры табе, не табе) КАЖУЧЫ. НЕ ПРЫ ДЗЕЦЯХ КАЖУЧЫ.

НЕ РАЗБЯРЫ-БЯРЫ. Цяжка разабрацца, цяжка зразумець, што адбываецца. А пры поляках зноў пачалоса ны розбыры-быры: то падаткі, то шарварок, то ў маёнток, а ўдома ўсэ ўвэрх ногамы. *Заточ., Драгіч. р.* Тут у цябе не разьбяры-бяры што робіцца на стале. Ты ўсё складзі па парадачку, толкам, кнішкі сабе, ґазэты сабе. Пастаў на место чарніло, прыбяры на стале, а то брытко глядзець. *Зал., Стаўб. р.*

НЕРВЫ ПЕРАГРЫЗЦІ каму. Гл. ПЕРАГРЫЗЦІ НЕРВЫ каму.

НЕ СВОЙ КУТОЧАК. Залежаць ад каго, не быць самастойным. Хата мыя бурыцца, сядзець неік (няма як), жыву зь зяцем. Старыя людзі памёрлі, а нам прыскаску пакіналі: белый сьнех, да не сыр, мілый зяць, да не сын. І добра мне, і глядзяць, але не свой куточак. *Ліцв., Карм. р.*

НЕ СЛАВА БОГУ. *Незадав.* Нядобра, няўдачна, не ладзіцца што. Увэсь вік у нас ны слава богу було. Кілько гора онно за война гэту малі. *Заточ., Драгіч. р.* Як ні звары, усё табе не слава богу. Еш вот, што даю, і смашно будзя. *Сав., Стаўб. р.* Устала то я рано, але кепско пачуваюсё, колкі ў сярэдзіні некія, галава кружыцца, нешто ўсё ў міне ні слава богу, а тут трэба ш уходжвацца, даглядзяць гаспадарку. *Там жа.* Усе не слава богу. Змывала голаў, лінула вады гарачае на карак, нешта як зрабіласа пад грудзьмі, о тут о, ні магу ні охнуць, ні ўдыхнуць. Што та такоя, скажы ты мне, робіцца? *Гр., Слуц. р.*

НЕ СПУСКАЦЬ З ВАЧЭЙ (з воч) каго. Пільна са-

чыць, назіраць за кім, даглядаць каго. Зь яе воч ні спускай, такая ўдалася нігодная, што хай бох крыя. *Гор., Стаўб. р.* Наш Юзік ужо, мусіць, ухажывая; казала Яніна, з Тоні Пятроўскіх вачэй ні спускаў цэлы вечар. *Гал., Стаўб. р.* З гэтымі курамі бяда: не спускай з вачэй, лезуць у агарод, паразграбаюць расаду. *Сав., Стаўб. р.* Аня паслушная дзевачка. Малую не спуская з вачэй, гэдак хорашо глядзіць: і накорміць, і памыя, як мамы ўдома німа. *Там жа.* Чужое дзіця трэба глядзець, з вачэй спускаць не можна. *Сял., Маладз. р.* Малая яшчэ Марыська, з вачэй ні спускай ўвесь дзень. А то возьмя ўцячэ да бабы ці на вуліцу, шукай тады. *Гор., Стаўб. р.* Твая Марынка,— дзе яе німа. Толькі прыехалі з Мінску, адразу ў кампанію. Так і глядзі, вачэй ні спускай зь яе. *Жац., Стаўб. р.* Галя, брыгадзірава жонка, ні з вока яго ні спуская. Абы ён куды, і яна ў пятах за ім. *Пр., Стаўб. р.*

НЕ СТАЯЦЬ АБ (за) ЦАНУ. Не лічыцца з коштам, з высокай аплатай, не таргавацца. Ото ж бо й г'лаўно, кап цьвет (касцюма) панаравіўсё. Ап цэну ні стаяў бы. *Сав., Стаўб. р.* Мікалай два мяшкі прып'ёр япрукам. Нек нарваўса, дак схапіў, не стаяў ап цану. *Гр., Слуц. р.* Учора на талчэйку у Бабруйск езьдзілі, шапку шукалі. Хусткі пуховыя — сто трыццаць (рублёў), шапкі — трыццаць пяць-сорак. Чорт зь імі, з грашыма, за цэну ні стаяў бы, кап толькі што ўпадобаў. *Там жа.* Ужо што будзе каштаваць, я не стану за цану, але памажы мне купіць. *Ракаш., Уздз. р.* Кірмаш велькі, людзей панаягджало много, але холадно, як датрываць, то я вельмо й ні стаяў за цану. Прадаў добро, у Стоўпцах таквеля (столькі) ні ўзяў бы. *Сав., Стаўб. р.*

НЕ СТЫКАЦЬ ВАЧЭЙ. Гл. НЕ ЗВЕСЦІ (не стыкаць) ВАЧЭЙ.

НЕСЦІ КРЫЖ. *Шкадав.* Цярпліва зносіць гора, пакуты ад непаладкаў у сям'і. Каб яна калі паскардзілася! Нясе крыш свой сьціхом. Ніколі нічого на яго ні скажа. Яшчэ як і людзі брэшуць, то скажа: «Ай, ніпраўды, выдумалі». *Сав., Стаўб. р.* Паўлючыха нясе крыш усё жыцё. Перш-на-перш муж ні вярнуўся з вайны, а потым сына пахавала. Адна цяпер баба ў хаці, хваціло гора. Колькі яна, бедная, пеаражыла. *Хал., Стаўб. р.*

НЕСЦІ НОС. Зазнавацца, ганарыцца сабой, лічыць сябе вышэй за іншых. От Іванова дачка хоць бы кончыла які цехнікум, а гэдак нясе нос. І чаго? Ужо натура такая.

*Кунц., Кл. р.* А я ні хвалю. Хай харошая, хай вучаная, а калі йдзе вуліцаю і ні прывітаяцца, нос нясе, то ні люблю гэдакіх. Г'рош тая яе навука. *Гор., Стаўб. р.*

НЕ ТАБЕ КАЖУЧЫ. Гл. НЕ ТУТ (не пры вас, не пры табе, не табе) КАЖУЧЫ. НЕ ПРЫ ДЗЕЦЯХ КАЖУЧЫ.

НЕТ РАДЫ. Гл. РАДЫ НЯМА.

НЕТ СПАСУ. Гл. СПАСУ (спасення) НЯМА (нет).

НЕ ТУТ (не пры вас, не пры табе, не табе) КАЖУЧЫ. НЕ ПРЫ ДЗЕЦЯХ КАЖУЧЫ. Ветлівая форма пажадання, звернутая да субяседніка або да ўсіх прысутных, каб тое, пра што ідзе гаворка, не адбылося, не здарылася. Мае вы дарагія, бяда ў мяне. Вот залетась унучак мой, не тут кажучы, утапіўся зімой у рэццы. *Шаш., Стаўб. р.* Мой пакойнік Міхась паехаў рас у лес зімою, прастудзіўся, доўго хварэў запаленям лёхкіх. Увесь час кашляў па начах і — мо чулі? — не пры вас кажучы, памёр. Ужо даўнавата, як памёр, можа гадоў са тры будзя. *Хал., Стаўб. р.* От, не пры табе кажучы, нагу зламаў. Бех па купінах, паваліўся, заенчыў — і ўсё, у больніцы ляжыць цяпер. *Гор., Стаўб. р.* Хлопчык Мішаў там быў, много іх там было, купаліся, плюхаліся. Паплыў і, не пры дзецях кажучы, ні выплыў, утапіўся. А гэтыя ўсе паразьбягаліся, папалохаліся, ніхто бацьку ні сказаў. Ужо потым знайшлі. Вот бяда чалавеку. А гэдыкі хлопчык! *Сав., Стаўб. р.*

НЕ ЎБІЦЬ У ДУШУ. Гл. У РОТ (у душу) НЕ ЎБІЦЬ.

НЕ Ў ГАЛАВЕ. НЕ Ў ГОЛАЎ. НЕ ДА ГАЛАВЫ. НЕ НА ЎМЕ. **1.** Забыцца, своечасова не звярнуць увагі на што, на каго. Мне й ні ў галаве, а ты ўсякую ярунду прыпомніш: і на каго глянуў ні так, і с кім гаварыў. *Сав., Стаўб. р.* Мне й ні ў голаў. Стаю каля печы, длубаюсё, а яны (куры) у малянчуковыя картофлі пазалазілі й грабуцца. *Там жа.* Задумала прылажыць грыпке. Пашла к Алесю, каб зрабіў крышку. Ён зрабіў крышачку, а мне ні ў голаў якую. А яна смаловая, прылажыла грыпке, а яны горкія сталі. *Там жа.* А хай іх, гэтых кароў. Мне й ні да галавы, а яны прас хвойнік, жыта — ды ў лубін. *Пр., Стаўб. р.* Некалі наш тата нябошчык любіў печаныя картофлі. Мы часта тады пяклі, а цяпер дак нікому ні на ўме. *Гр., Слуц. р.* **2.** Не цікавіцца чым, не праяўляць жадання ведаць што, не да гэтага. Даўней многа

кветак знала. Цяпер не да галавы, ні іньцірасавалася ўсю жызь, ні сеяла, ні палола. *Бял., Лаг. р.* Я прышла з Погосту, посуду нэсу з больныцы, угэ (ужо) п'ять недыль ходю, а вон (сын) гуляе, ему й ў головэ ныма. *Бот., Пін. р.* Дак чаму ш? Кап час, дык і я б насіла (дзіця на двор гуляць). А то гэтыя чыгунэ, пакуль уходзісься, дык і ні на ўме тыя гулі. *Ат., Стаўб. р.* У гародзі біспарадък, джугучка — крапіва — пурусла, морква заніцілася, росту ёй німа, а ўнучкі паняцця ні маюць, каб эта парвацъ, ім ні да галавы. *Ляўк., Арш. р.*

НЕ Ў ДУХУ (не ў гуморы) хто. Не мець добрага настрою, быць злосным. Нешта Дудзінскі сёньня не ў духу. *Гр., Слуц. р.* «Чаму гэто ты ня ў духу?» — «А, не пытай, нешта нездаровіцца». *Кож., Кар. р.* Наш сват пасьля ўчарашняга не ў гуморы, можа не выспаўся яшчэ. *Хал., Стаўб. р.* Схадзіла ў кантору, да нешта брыгадзір не ў гуморы, не адважылаcа падысьці с прозьбаю. *Гр., Слуц. р.* Чаго гэто ты маўчыш усю раніцу, ні ў духу? Можа галава баліць? *Жац., Стаўб. р.* Сягоньнячы Анюта ні ў гуморы, а то яна расказала б вам харошую каску. *Гор., Стаўб. р.*

НЕ Ў НОС. Не падабаецца, не да спадобы. Вывялі маладую з-за стала разьвітвацца с сваімі людзьмі, а малады ў гэты мэмант вышаў на двор. Як вышаў, ту (то) й вышаў. Тут уся фамілія (сям'я) пачала яго шукаць. А вясельнікам (гасцям, што запрошаны на вяселле) ні ў нос, што так нарабілася ў хаці. *Карп., Шчуч. р.* Алесю кажуць, кап перабіраўся ў хату, у тую, што выбудаваў. А ён ні хоча, яму гэто ні ў нос. Яму і ў старой добро. *Жац., Стаўб. р.*

НЕ Ў СВАЕЙ ТАЛЕРЦЫ (быць). Не ў звычайным для сябе становішчы, калі адчуваеш сябе не так, як заўсёды. Быць сватам? Не, гэтая пасада не па мне. Гэта ш тры дні сядзець на покуці, тры дні быць ні ў сваёй талерцы, ні выпіць табе добра, бо скажуць потым людзі: «Сват быў п'яны дык і толку ні было». *Кав., Старадар. р.* Паставілі яго за начальніка. Ну, рабі. А потым бачаць, што ён ні ў сваёй талерцы, ні ўмея камандаваць. Вот і зьнялі ўскорасьці. *Сав., Стаўб. р.*

НЕ Ў СВАЮ МІСКУ КІНУЦЦА. Рабіць не тое, што трэба, тут: пайсці на авантуру. Патаму што, знаяш, ён (немец) ужо кінаўся не ў сваю міску. Браў, знаяш, дробненькія гэтыя о панствы (дзяржавы) і думаў, што й тут

(у Расіі) лёгка будзіць. А тут, брат, не-е-е, нашу Расію, брат, не вазьмёш! *Мік., Мядз. р.*

НЕ Ў СІЛАХ. Не магчы (зрабіць што). Бацька наш малых нас прывучаў да работы, застаўляў рабіць і цяшкія работы, бо ня ў сілах быў наняць, нада ж заплаціць. *Вар., Докш. р.* Трэба й гной вывесьці, і трускаўкі апалоць, і картофлю пасадзіць, а я ні ў сілах усё гэто парабіць, не гадэ мае. *Сав., Стаўб. р.* Папрасіла сына, кап прыехаў памахчы картофлю выкапаць, адна я ні ў сілах гэту работу зрабіць. *Там жа.* Хацела Казіка прасіць, можа б ён прывёс мне муку, сама я не ў сілах, але перадумала, што цэлы мяшок, цяшко будзя і яму. *Жац., Стаўб. р.*

НЕ Ў ТОЛК. НЕ ДА ТОЛКУ. **1.** Не ладзіцца што ў каго, справы ідуць у каго бесталкова. Час быў позьні, к Пятру прыбліжалася. Пашла я да Лапкоўскіх. А там Волясява цешча. Кажу: «Калі ж вяселё?» А сваця кажа: «О-о, яшчэ маладая капуста нарасьце». Я тады паняла, што ў іх ні ў толк. *Сав., Стаўб. р.* Німа й німа тых маладых, паехалі расьпісвацца — й німа. А тут людзі ні дадому йсьці і маладых ні дачакацца. А матка бачыць, што ні ў толк, кажа: «Садзецяся, госьцікі, за стол, садзецяся». А што ш садзіцца, калі маладых німа. *Там жа.* **2.** Не такі, як трэба (паводзінамі, знешнім выглядам і інш.); недарэчна. Глянь, калтунаваты (узлахмачаны) нейкі пашоў, галава не да толку, сам сябе не агледзіў. *Сял., Маладз. р.* Адзін сын ні ў толк, Алеся Кідрыка сын. Разбэсьціўсё, расьпіўсё. *Сав., Стаўб. р.* Я ўжо забылася алаткі пячы, некія ні ў толк вышлі. *Там жа.* Чацьвёро дзяцей, але дзеці ні ў толк, німа ёй радасьці зь дзяцей. *Там жа.* Пажыў ён у той Польшчы, жаніўся нек ні ў толк, узяў зь дзіцям. *Марх., Стаўб. р.*

НЕ ХВАТАЕ КЛЕПКІ. Гл. НЯМА (без) КЛЕПКІ (клёпак) Ў ГАЛАВЕ. НЕ ХВАТАЕ (нечага) Ў ГАЛАВЕ.

НЕ ХВАТАЕ (нечага) Ў ГАЛАВЕ. Гл. НЯМА (без) КЛЕПКІ (клёпак) Ў ГАЛАВЕ. НЕ ХВАТАЕ (нечага) Ў ГАЛАВЕ.

НЕ ЧУЦЬ НІ РУК НІ НОГ. Моцна стаміцца. Марыся мая наробіцца, ні рук ні нох ні чуя, сьпіць, а я спаць ні магу. *Пр., Стаўб. р.* Нараблюсё за дзень, насоваюсё, ні чую ні рук ні нох, а тут трэба ш рабіць, ведамо, адна. *Сав., Стаўб. р.* Гарачыня, сьпёка, потам абліваясься, колас як дасьць па воку — проста млеяш. Наробісься за

дзень — ні рук ні нох ні чуяш. Сьпіш як камянь. *Жац., Стаўб. р.*

НЕ ЧУЦЬ НОГ ПАД САБОЮ. **1.** Вельмі шпарка (бегчы, уцякаць ад каго). І як улупіла бехчы! Бегла, што ні чула ні хусткі на галаве, ні нох пат сабою. *Ухв., Круп. р.* Шчэ ныгды так ны зьлякаласа, як тоўді (тады), бігла, шчо ны чула ніг пуд субою. *Пяш., Іван. р.* А бувало, у жыто хочэш пойты, волошка сыня ростэ, хочатца вянка звыть, а як настрашать русалкамы, то вжэ сэрцо мрэ, лэтыш тым жытом. А дэ жыто попутано конякамы, то нуг пуд собою нэ чуіш. *Бот., Пін. р.* Рас нехто дзяцей напалохаў на рэццы. Пашлі гуляць, аж бачу — бягуць, нох пат сабою ні чуюць, Іра перша, а за ёю ўсе астатнія. Некая баба там іх напалохала. *Жац., Стаўб. р.* Ні ведаю, як я дабралася дахаты. Ужо так уцякала, так бегла, што ні чула нох пат сабою, думала, кончуся. Вот ні магу я ўночы хадзіць, баюсё. *Сав., Стаўб. р.* Лятаю па гэтым лесе, нох ня чую, ніяк ні магу выбіцца на якуюнебудзь сьцешку. *Сів., Вал. р.* **2.** Не адчуваць стомленасці, мець бадзёры, прыўзняты настрой. Некалі лён насаджывалі ў ёўні, і мы чатыры ёўні піранясём ношкамі. Стомісься, чуць жывы, але нек весіла было, ідзеш і нох пад сабою ні чуяш. А гэта стаяць ні можна, ногі атнімаюцца. *Ульян., Сен. р.* Я некалі не чула пат сабою нох, як была маладая. І ў Стоўпцы зойдзяш, і назат прыйдзяш, і хоць бы што, а кап палічыў, то, можа, с трыццаць кілометраў зробіш за дзень. *Гор., Стаўб. р.*

НЕ ЧУЦЬ РУК. Баляць рукі ад цяжкай фізічнай працы, моцна стаміцца, напрацавацца рукамі. Падавалі нормы льну па сорак сотак, стараесься, хватаеш, рвеш, рвеш і на абед ні йдзеш, а ўночы не чуеш рук, да таго баляць. *Кунц., Кл. р.* Раней адзежу мылі два ці тры разы ў гот. Сабяруць цэлы стох усяго: і пасьцілак зрэбных, і ніжняй адзежы, і абрусоў, а тады тры дні стаім і мыім. Пакуль пранікам выперым да выкруцім, дык рук ня чуіш. *Гай., Лаг. р.* Жыта сярпом жнеш, чатырнаццаць кароў перадоіш, патсьвінкуў — ваўкаразьзя гэтага сколька, надворных сколька, і ў пушчу бяжыш, і ношку нясеш — во сколька за дзень работы пераробіш, к вечару рук ня чуіш. *Ульян., Сен. р.*

НІ АДЗЫВУ НІ АДРЫГУ а д к а г о. Не чуваць нічога пра каго, няма ніякіх вестак ад каго. Я б добра жыў, кажыць, толькі што во баба сойдзіць — і ні адзыву

ні адрыгу, здурнела баба. Каб іна, кажыць, саўсім ні вярнулася, я ш ба па-новаму зажыў ба. *Ляўк., Арш. р.*

НІ ВОН. Ніяк немагчыма (выйсці). У вёсцы восяньню хлюпота, балацінá, без г′умовых ботаў с хаты ні вон. *Сав., Стаўб. р.* На дварэ такая сьлякаць, што с хаты ні вон. Як ты, маладзіца, заедзяш дамоў? *Там жа.* Сёньня марос-марос! Каб ні скаціна, ні еш, ні пі і с хаты ні вон. *Там жа.* Жарты, два месяцы марос. Мароз лопня, мяцеліца сходзіцца, што с хаты ні вон. І цэла зіма так. *Там жа.*

НІ ДА РОТУ. *Рашуч.* Ані, зусім, ніколькі. Натта ж нідобра, што сын есьці абы-што ні можа. Скваркі ні да роту. Масла прывезьлі кіло тры, ён ні да роту. Кунпяк я ўжо абрэзала да палавіны, а ён ні да роту,— усё каб лаг′одачкі. *Каг., Лід. р.*

НІ ДА ТАНЦА НІ ДА РУЖАНЦА. *Іран., незадав.* Ні на што не здатны, нічога не ўмее. Інны на вучобу сьпеціяліст, інны вязаць, а інны ні да танца ні да ружанца (з польск. różaniec). *Пр., Стаўб. р.* Бацько купіў гармонік — грай. То ні хачу. У школі рыпала на мандаліні, таксама кінула, вучыцца тожа ні хачу — ні да танца, ні да ружанца, вот якая яна. *Сав., Стаўб. р.*

НІ ДО ЗУБУ. *Рашуч.* Ані, ніяк, ніколечкі. У нас тут адзін паехаў у сватэ да дзеўчыны, Валя завецца; такая чарнамазенькая. Ну прыехалі, селі за стол, ён утаіўся, дажа ні дó зубу: «Не, не, ні п'ю, ні застаўляйця». Пашла ш тая Валя замуш, а ён адразу стаў фокусы паказваць: нап'ецца, бузіць, б'ецца, усіх паразганяя. *Сав., Стаўб. р.*

НІ ДОМА НІ ЗАМУЖАМ. Аказацца ў няпэўным становішчы, адчуваць няпэўнасць у жыцці. Пайду я лучшы ў брыгаду робіць, надаела мне гэта няпэўнасць — ні дома ні замужам. *Н. Тур., Уш. р.* Пашла замуш за неко (нейкага) с Покрашава, пажылі трохі і разышліса. Пашла другі рас у Лучнікі. Там бы ўжэ й жыла, дак такі апівуда (п'яніца) папаўса, што пасьленьню капейку прапіваў. Кінула й таго, прыехала к мацяры. І цяпер ні дома ні замужам. Дзевачка есь. *Гр., Слуц. р.*

НІ ДУХУ НІ СЛУХУ а д  к а г о,  п р а  к а г о. НІ ХУХУ НІ ДУХУ. Ніякіх звестак пра каго, ад каго (няма, не было). Мой учора павінен быў прыехаць з гасьцей, а ўжэ й сёньня зара сонца сядзе, ад яго ні духу ні слуху. *Няс., Навагр. р.* Німа ат сястры ні слуху ні духу,

памерла, мусіць. *Сав., Стаўб. р.* Ого, прыйдзя яна цяпер! Абівала парогі, як ты ёй патрэбна была, а цяпер німа ні слуху ні духу. Але калі заявіцца, то я ёй скажу, ото скажу. *Веч., Стаўб. р.* Паехаў яшчэ ўвосянь, і ні слуху ні духу, ні піша. Ні ведаю, можа й добро жыве. *Гор., Стаўб. р.* Мае братэ як павыяжджалі ў Польшч, то ні духу ні слуху. *Там жа.* Як скруціўся ў той Сальск, дак ні хуху ні духу. І пісьма ні піша. *Там жа.*

НІ ЗА ШТО НІ ПРА ШТО. Так сабе, беспадстаўна, бездайпрычыны. Сама я не чула, на работу ж не хаджу, але сусетка на рабоце чула й мне раніцай правіла (гаварыла), што ні за што ні пра што зганьбіў маладзіцу. *Язн., Віл. р.* Твой сусед ні за што ні пра што пастрадаў. Ён жа ні вінаваты, дальбох, ні вінаваты. Людзі ўдалі. *Гор., Стаўб. р.*

НІ З ВОКА НЕ СПУСКАЦЬ к а г о. Гл. НЕ СПУСКАЦЬ З ВАЧЭЙ (з воч) к а г о.

НІЗКІ НА ВОЧЫ. Блізарукі, недабачвае хто. Завяліся бабы сварыцца, дак прагаварвалі (упікалі) ёй гэту сьлепату, што нізкая на вочы. *Пр., Стаўб. р.* Пятрухін нідабачвая, ніскі на вочы. *Сав., Стаўб. р.* Жонка Стасява вельмо хароша кабета: і прывітаяцца, і пагаворыць са мною. Толькі нешто нідабачвая, нізкая на вочы. *Там жа.*

НІ КАЛА НІ ДВАРА (ні плота ні азярода). Нічога няма, не засталося. Як яны там жывуць, паглядзелі п. Кругом поле, ні кала ні двара, але хай даюць сабе рады, бо маладыя ж, здаровыя. *Мач., Бабр. р.* Прыехаў дамоў, ні кала ні двара, усё спалена, усё разбурана, няма дзе й прыхінуцца. *Даўг., Віл. р.* Вярнуліся с парцізанаў — ні кала ні двара. З Багушэўска на сабе сімяно (насенне) насілі, валачэш трыццаць вёрст дамоў, прыходзілася пярэць, каб зямлю засеіць. *Слав., Тал., р.* Прыехалі на футар — ні кала ні двара. Усё трэба было нажываць самім. Ото пагаравалі, ото памэнчыліся, пакуль трохі паўсталі на ногі. *Жац., Стаўб. р.* Неміц з нас апошнюю рубаху съдраў, пупаліў, разарыў. Ні кала ні двара ні 'сталося. *Ляўк., Арш. р.* Восяняй здабыліся мы дамоў, а дома ўжо ні было ні кала ні двара, ні плота ні азярода, нічого на сьвеця ні было, ні адной парканіны ні асталося. *Сів., Вал. р.*

НІ КАПЛІ (ні капелькі, ні капкі). Зусім няма, ніяк німа. Эта ж думаць, выцадзілі ўвесь кампот, ні капкі ні асталоса. Німа чым лякарства запіць. *Гр., Слуц. р.* Гру-

шы высмаглі, вады кіпячонае німа ні каплі. *Там жа.* Я дак дзяцей жалела, а мяне дзеці ні жалеюць, ні капкі не жалеюць. *Ліцв., Карм. р.* Думала, вазьму якую чарачку, нешто пад грудзьмі стаіць, дак няма, ні капялькі ні пакінуў, усю (гарэлку) выцадзіў. *Хал., Стаўб. р.* Ідзі ты, Ірачка, прынясі якое вядзерца вады, у хаці нанач ні капялькі німа. *Гор., Стаўб. р.* Вечарам сьвет прапаў, то пашла да Марусі г'азы пазычыць. А ў тоі Марусі ні каплі німа. Понячы спаць легла. *Сав., Стаўб. р.*

НІ НА ВОЛАС. Зусім не, ніколькі. І што з гэтымі галовамі рабіць? Гэту ноч трохі спала, а тую ні на волас. *Гр., Слуц. р.* І што ёй (назе) за перун! Мала, шта баліць у гэтым гібяжы (на згібе ступні і лыткі), дак ашчэ сьверб — ні вытрымаць. Усю ноч ні на волас ні заснула. *Там жа.* Хацела прылехчы, паспаць, але нека парнась у хаця, духата, ні на волас ні заснула. Можа дош (дождж) пойдзя. *Бяр., Слуц. р.*

НІ НА ВОЧЫ. НІ НА ДУХ. Не хацець бачыцца, сустракацца; быць у дрэнных адносінах з кім. У нас сусетка зь нявесткаю кепско жыве. Нявестка сьвякроў ні на вочы. Што там у іх,— нівядомо. *Сав., Стаўб. р.* Як прыедуць бацьке — ці яна, ці ён,— тады Аксанка бабуню ні на вочы, будзя раўці, пакуль ні наможацца свайго, разбэшчаная страшно дзеўчынка. *Там жа.* Ён жа такі спакойны хлопец, а гэто што зь ім зрабіласё! Нікого ні на вочы, б'ецца, крычыць, праганяя с хаты. *Гор., Стаўб. р.* Адасіха с Петрусіхай ні на вочы. Ужо з год ні гаворацць, а мушчыны хоць бы што, як і трэба жывуць. *Жац., Стаўб. р.* Гляджу, аж кала Еўкі Антось Калашонак ходзя. Я падышоў да іх. Мая Еўка рада, што я падышоў, а с тым ні на дух. *Гай., Лаг. р.*

НІ НАГОЮ. Не хадзіць, не ездзіць, не бываць у каго, дзе. Раса сёня велька, яна чэраз абед будзя стаяць. Паглядзі, аш ка́пая зь вішань. У лес сёня ні нагою, адно абрасіцца. *Сав., Стаўб. р.* Я да сваёй сусеткі ні нагою. Як яна, так і я. *Жац., Стаўб. р.* Як ён там жыве, гэты чалавек. Адзін як воўк, ніхто да яго ні нагою. *Гор., Стаўб. р.* Бронішча с Пятроўскаю ку́мы, БроніСь дзеці хрысьціў, а Бронішча да Пятроўскіх ні нагой — ганаровая. *Там жа.*

НІ ПАПУ НІ ПАПОВАЙ НАЙМІЧЦЫ. Мала, нязначная колькасць. Грыбоў набралі ні папу ні па́повай наймі́цццы. Німа грыбоў. Хадзіла аш пад Гал, знайшла

жменьку лісічак, сыраежак, бірвікоў няма. *Ліцв., Карм. р.*

НІ РУК НІ НОГ НЕ ЧУЦЬ. Гл. НЕ ЧУЦЬ НІ РУК НІ НОГ.

НІ СВЕТ НІ ЗАРА. Вельмі рана, на досвітку. Паўскручываюцца ні сьвет ні зара й сіцас жа кароў пруць у поле. *Н. Тур., Уш. р.* І ўстала ні сьвет ні зара, але пакуль дасі сьвіням, курам, гаршкі адмыяш, сьнеданьнё якоё зробіш, то й пазнавато. *Сав., Стаўб. р.* Пабудзіла яго (сына) ні сьвет ні зара, яшчэ і ў Высоцкаго агню ні было. Сабраўсё і яшчэ цямнавато паехаў у лес. *Жац., Стаўб. р.*

НІ СЛУХУ НІ ДУХУ а д к а г о, п р а к а г о. Гл. НІ ДУХУ НІ СЛУХУ а д к а г о, п р а к а г о.

НІ Ў ПЯЦЬ НІ Ў ДЗЕСЯЦЬ. Кепска, не так як трэба, як хацелася б. Калі адрэжу, на сукенку ні хваціць, а на кофтачку — замного, купіў ты ні ў пяць ні ў дзесяць. *Сав., Стаўб. р.* Добро было и паехаць у Мір. Кажуць, што сьвіня танныя. Але праспала, калхозная машына даўно пашла, а браць фурманку — навозісься с канём. Усё нек палучаяцца ні ў пяць ні ў дзесяць. *Жац., Стаўб. р.* Вот ты зрабіў ні ў пяць ні ў дзесяць. Кап ты прыехаў у пятніцу, то аблажылі п гэты хлявушок, а то ўжо хай сабе стаіць ніабложаны. *Сав., Стаўб. р.* Ні ведаю, што й рабіць с тым мацяр'ялам, што ты прывёс на фіранкі. На ўсю шырыню — замного будзя, а разразаць папалам — вуско. Вот нек, хто яго ведая, ні ў пяць ні ў дзесяць палучаяцца, і што ты тут скажаш. *Там жа.*

НІ ЎЦЯЦЬ НІ ЎЗЯЦЬ. Пуста, няма нічога. Цяпер добро зьбіраюць каравай, усе дзяцьке, увесь рот скіня. Цяпер то ні то, што наш Эдзік жаніўсё. Беднота была, ні ўцяць ні ўзяць. А цяпер наскідаюць, што як панесьці. *Сав., Стаўб. р.* Прышлі дзеткі маленькія да міне, а ў міне ні ўцяць ні ўзяць. Ні цукеркаў, ні пячэння ніякаго. Аж брытко стало. Давай частаваць сухімі вішанькамі. *Гор., Стаўб. р.* Прыехалі мае зь Мінска, а ў мяне ні ўцяць ні ўзяць. А божачко, на стол німа чаго падаць зьесьці, вот нек згалело. Якрас такая пара, што нічого німа. А на тоё сало й глядзець ні хочуць, вот каб вяччынкі ім. *Сав., Стаўб. р.* А я кажу, што вы, людзі! На адзін рас людзей пасадзіць, дак гэтай жарою парася зводзіць. Ці ў вас німа ні ўцяць ні ўзяць? *Там жа.*

НІ ХУХУ НІ ДУХУ. Гл. НІ ДУХУ НІ СЛУХУ а д к а г о, п р а к а г о.

НІЧОГА НІЧАГУСЕНЬКІ. Ані, зусім нічога. Яго бацька некалі так зьвёў гаспадарку, што не было нічога нічагусенькі. І да таго дайшло, што не было чым дроў атсекчы, хоць рукою сячы. *Міл., Маст. р.* Што ў яе ест? Адны вуглы стаяць, а ў хаці нічого нічагусенькі, дзяцей толькі поўна хата. *Сав., Стаўб. р.* А ў лесі яшчэ нічого нічагусенькі німа. Хадзіла-хадзіла, можа зь літроўку й назьбірала, а некія маленькія, зялёныя (ягады). *Жац., Стаўб. р.*

НІ ЧОРНАГА НІ БЕЛАГА. НІ ЧОРНА НІ БЕЛА. Не абазвацца, не сказаць ні слова каму. З Адамчаю вот пасварыліся. То было й заходзіла калі і гаварыла: ці пазычыць чаго забяжыць, ці так прыдзя. А гэто йдзе па вуліцы — ні чорнаго ні белаго. *Сав., Стаўб. р.* Юзэфа прабегла кала плоту скорынько, а да міне ні чорнаго ні белаго. Чаго гэто яна так? *Жац., Стаўб. р.* Ён жы кылаціўсь кыля міне. Як забалею, ляжу, ён паедзіць у магазін, купя пячэньня, прынясець: «Ешця, мама». А цяпер словачка ні пачуць. Во едзіць міма — ні чорно ні бело. *Ліцв., Карм. р.*

НІ ЦЭ НІ БЭ. *Непав.* Анічога, зусім нічога (не ўмее, не разумее, не разбіраецца і г. д.). Яго дзеці тупыя, ні цэ ні бэ, а наш унучак добро вучыцца, учыцяле яго хваляць. *Сав., Стаўб. р.* Яна ў той музыцы ні цэ ні бэ, яшчэ гармонік купіў, будзя яна табе граць. Награя як кот наплача. *Там жа.* Той Адась ні цэ ні бэ ў гэтум дзеле, а ты яго клічаш капец рабіць. *Раёў., Стаўб. р.*

НОГІ АДАБРАЛА к а м у. Не можа стаяць, хадзіць, перамяшчацца хто. «Як твая цешча кратаецца?» — «Добра. А ў бабы нешта ногі адабрала». *Зам., Брасл. р.* Ой, ні магу падняцца, ногі адабрало, седзячы. *Сав., Стаўб. р.* Ледзьве прывалаклася. Стамілася, ногі адабрала, кап скарэй на печ паляжаць трохі. *Жац., Стаўб. р.* Вот нешто зрабілаcё. Хадзіла, рабіла, а потым нешто ў нагах, ногі адабрало, баліць о тут о, ні магу хадзіць. *Гор., Стаўб. р.* Старая я, дзеткі, ні магу хадзіць. Вот і да вас ледзьве прышла, адабрало ногі, хоць садзіся й плач. *Хал., Стаўб. р.*

НОГІ АДБІЦЬ. Гл. БІЦЬ (адбіць, набіць, паадбіваць) НОГІ.

НОГІ АДКІНУЦЬ. Гл. АДКІНУЦЬ НОГІ (хвост).

НОГІ ВЫЦЯГНУЦЬ. Гл. ВЫЦЯГНУЦЬ НОГІ.

НОГІ ЗБІЦЬ. Гл. БІЦЬ (адбіць, набіць, паадбіваць) НОГІ.

НОГІ НАБІЦЬ. Гл. БІЦЬ (адбіць, набіць, паадбіваць) НОГІ.

НОГІ ПААДБІВАЦЬ. Гл. БІЦЬ (адбіць, набіць, паадбіваць) НОГІ.

НОГІ ПАВЫЦЯГВАЦЬ. Гл. ВЫЦЯГНУЦЬ НОГІ.

НОГІ ЎНЕСЦІ. Выратавацца бегам, уцякаць. Схваціў матыку, як пагоніцца за мной. Чуць ногі ўнесла. *Ульян., Сен. р.* Толькі я дайшла да Карзінкі, гляджу, аш каля лесу сядзіць тры мушчыны: «Куды йдзеш?» Я думаю, што рабіць? А ім кажу: «Я іду к вам». А тады думаю — не, і як улупіла бехчы! Чуць ногі ўнесла. *Ухв., Кр. р.* Вялі, вялі яны гэтага быка. Гэты бык гэтага Ліксандра як пакаціў пат плот, як стаў біць! Куфайку парваў усю на ім. А Ляксей струсіў да наўцёкі. Ледзь ногі ўнёс. Кінуў Ліксандра ды наўцёкі. От было ім бык! *Там жа.*

НОГ НЯМА. Сілы, мацунку няма ў нагах (пра маладыя істоты). Сядзі, маленькае, сядзі (на гусяня). У цябе ног німа шчэ. Выседзісься, тады будзеш бегаць. *Бял., Лаг. р.*

НОГ ПАД САБОЙ НЕ ЧУЦЬ. Гл. НЕ ЧУЦЬ НОГ ПАД САБОЮ. Знач. 1.

НОЖ НА КАМЕНЬ. Гл. КАСА (нож) НА КАМЕНЬ.

НОС АДВАРОЧВАЦЬ. Гл. ВЯРНУЦЬ (адварочваць) НОС.

НОСА КРУКАМ НЕ ДАСТАЦЬ каму. Гл. ПАЛКАЙ (крукам) НОСА НЕ ДАСТАЦЬ каму.

НОСАМ КЛЯВАЦЬ. Гл. КЛЯВАЦЬ НОСАМ.

НОСАМ КРУЦІЦЬ. *Дакор., незадав.* Выказваць незадавальненне, ставіцца з пагардай да каго, адмаўляцца ад чаго, упірацца. Унучка кароў доіць, зарабляіць харашо. Шкода толькі, што ніяк ні знойдзіць сабе чалавека: была маладая, носам круціла, а ціпер пастарэла, на яе ніхто ні глядзіць. *Слав., Тал. р.* Аднэй бульбы япруку занесла, ці гэта ж ні можна есьці, дык ён, каб ён здох, яшчэ носам круціць. *Н. Тур., Уш. р.* Ні хоча Манька йсьці, я пыталася ўчора, нешто носам круціць, хто яе ведая. *Жац., Стаўб. р.*

НОС ВЯРНУЦЬ. Гл. ВЯРНУЦЬ (адварочваць) НОС.

НОС ДОЎГІ ў к а г о. Гл. СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС к у д ы, у ш т о.

НОС ДРАЦЬ п е р а д к і м. Гл. ЗАДЗІРАЦЬ (драць) НОС (галаву) п е р а д к і м.

НОС ЗВАРОЧВАЕ. Гл. НОС ЗРЫВАЕ (зварочвае).

НОС ЗРЫВАЕ (зварочвае). *Грэбл.* Вельмі непрыемна пахне. Надвячоркам вывярнула цэлу бочку гуркоў, спорціліся, то нос зрывая і шкода працы. *Сав., Стаўб. р.* Я ўвайшла, прачыніла дзьверы, як даў дух, такі воздух ніхарошы, аш нос зварочвая, а божа, страх у хату зайсьці. Стаіць о така дзешка, там парася. *Гр., Слуц. р.* Цяпер у хатах хораша, чыста. А даўней зьбіраемса гуляць альбы ў чыю хату, то пакуль сьвіня перарадуюцца (кармілі па чарзе, кормныя і надворныя), ніякай гульні ні было. Куры ўсю зімачку патпечкам сядзелі. А смурот — ня вытрываць. Нос зварочвая. *Там жа.*

НОС НЕ КАЗАЦЬ (не паказаць). Не ісці, не паказвацца, не бываць у каго. Што гэто ты сядзіш дома, а да міне й носа ні пакажаш? Загневаўсё ці што? *Сав., Стаўб. р.* Дзяцько твой ні заходзіць, усё часу німа, усё у калхос і ў калхос, а да міне ўжо й носа ні кажа. *Там жа.* Што парцізаны зь лесу немцам жаху давалі — страх! Яны (немцы) іх баяліся, у лес нават і носа ні казалі. *В. В., Навагр. р.*

НОС НЕСЦІ. Гл. НЕСЦІ НОС.

НОС ПАДЦЕРЦІ к а м у. Гл. ПАДЦЕРЦІ (уцерці) НОС к а м у.

НОС СОВАЦЬ к у д ы. Гл. СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС к у д ы, у ш т о.

НОС У НОС. Блізка (падысці, пад'ехаць). Учоро с савонскай сваячкай спаткалася, нос у нос сышліся, а не прывіталася. *Веч., Стаўб. р.* Паехалі ш Шашком у грыбэ. Ён ні любіць с кім зьбіраць, увесь дзень хадзіў адзін. А як выходзіў зь лесу, нос у нос зь ім сустрэліся, вот цікаво вышло. *Сав., Стаўб. р.* На базары сь Пятровічам спаткаўся, нос у нос сышліся, пагаманілі трохі, пастаялі. *Хал., Стаўб. р.*

НОС УСАДЗІЦЬ к у д ы. Гл. СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС к у д ы, у ш т о.

НОС УСУНУЦЬ к у д ы, у ш т о. Гл. СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС к у д ы, у ш т о.

НОС УТКНУЦЬ. Гл. СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС к у д ы, у ш т о.

НУД БЯРЭ. Нудзіць. Наемся яблыкаў, а тады сэрца калоціцца, нуд бярэ. *Пр., Стаўб. р.* Масло можно есьці, але толькі таплёнаё. Як зьем нетаплёнаго, нуд бярэ, жыць ні хочацца. *Сав., Стаўб. р.*

НЮХАЎКУ РАСКВАСІЦЬ. Гл. РАСКВАСІЦЬ НЮХАЎКУ.

НЯМА ЖЫЦЦЯ ад каго. *Шкадав.* Невыносна, вельмі цяжка. Каторо-то дня іду к дзеверу, а яна (Адаміха) кажа: «Сястрыца, пакіну тут усё, паеду ў сваю вёску, аткуль я родам, куплю халупінку й буду жыць. Ад мужа німа жызьні». *Сав., Стаўб. р.* Ад сына німа жызьні. Двох жонак мае і ні з адной не жыве, ні з адной жызьня ні склалася. Вярнуўсё да маткі і душыць матку. *Там жа.*

НЯМА КАНЦА-БЕРАГУ чаму. Гл. КАНЦА-КРАЮ (канца-берагу) НЯМА (не відаць) чаму.

НЯМА (без) КЛЕПКІ (клёпак) Ў ГАЛАВЕ. НЕ ХВАТАЕ (нечага) Ў ГАЛАВЕ. *Непав., іран.* Быць неразумным, рабіць не тое, што трэба. Хваліцца, шта цесьцю паляў (шпурляў) чыгуном. Найшоў чым выхваляцца. Дурны як бот, німа клёпкі аднае ў галаве. Каб была клёпка, ён так бы ні рабіў. *Сав., Стаўб. р.* Чоловік зваў жонку дурна і заўшэ казаў, шчо ў іі нэма однэі клэпкы. Задумаласа жоночына: «Шчо гэто воно е, шчо нэма клэпкы». Помацае голову, дырóк нэма. *Дуб., Пін. р.* Вона пыталаса ў сусідуў і ныц (нічога) нэ довідаласа, а всэ думае і дýмае, як гэто нэ хапае клэпкы. *Там жа.* Гэто ныц, шчо вун кажэ дурна. Вун заўшэ кажэ, шчо ў мэнэ нэма одноі клэпкы. *Там жа.* Ён ужо сталаваты (дарослы) быў, у арміі трэба быць, бацька яго завёс (у ваенкамат), дык ні ўзялі яго ў армію, што ён паварыў блага. У яго, мусі, ні хватала нечага ў галаве. *Аляхн., Маладз. р.*

НЯМА (нет) РАДЫ. Гл. РАДЫ НЯМА.

НЯМА СПАСУ. Гл. СПАСУ (спасення) НЯМА (нет).

НЯМА ЧАГО КАЗАЦЬ. Няма неабходнасці скардзіцца, наракаць на каго, на што. Жывём, дзякуй богу, нішто, німа чаго казаць. Ціпер ні тоё, што даўней было. *Хал., Стаўб. р.* Памагаюць дзеткі, німа чаго казаць, грошы шлюць, а часамі к сьвятам якім і пасылачку палучу. *Жац., Стаўб. р.* Цяпер у калхозі німа чаго казаць. Кап так і заўсюды было, то й добро. Людзі пры грашах, а ні вельмо перарабляюцца, бо цехніка ўсё робіць. *Сав.,*

*Стаўб. р.* Прывёс ён мне і дроў харошых, і брыкету машыну, німа чаго казаць. Сядзі, матка, сабе на печы й грэй плечы. *Гор., Стаўб. р.*

НЯМА ЯЗЫКА. Быць нямым, не ўмець гаварыць. Дзьве дзевачкі такія харошанькія ў яго, першанька ўжэ ланная, можна гаварыць, але языка няма, можа і нямая будзя. *Бял., Лаг. р.*

## П

ПААБ'ЯДАЦЬ ВУШЫ каму. Гл. АБ'ЕСЦІ (аб'ядаць, пааб'ядаць) ВУШЫ каму.

ПААДБІВАЦЬ НОГІ. Гл. БІЦЬ (адбіць, набіць, паадбіваць) НОГІ.

ПА АДНОЙ ДОШЧАЧЦЫ ХАДЗІЦЬ перад кім. Дагаджаць. А маладая цяпер сьцерпіць? Яна каторая глядзіць цяпер, кап сьвякроў перад ёй па адной дошчаццы хадзіла, а не наадварот. *Язн., Віл. р.*

ПААСТАВАЦЦА БЕЗ РУК. Гл. АСТАЦЦА (пааставацца) БЕЗ РУК.

ПА БАЦЬКУ ПАЙСЦІ. Гл. ПАЙСЦІ ПА БАЦЬКУ (па матцы).

ПАБРАЦЬ КРОШАЧКІ чые, каго. Гл. ПАЗБІРАЦЬ (пабраць) КРОШАЧКІ чые, каго.

ПАВАДЗІЦЬ ЗА НОС каго. Гл. ВАДЗІЦЬ (павадзіць) ЗА НОС каго.

ПАВАДЗЭНЕ МЕЦЬ. Гл. МЕЦЬ ПАВАДЗЭНЕ.

ПА ВАЛАЧОБНАМУ ХАДЗІЦЬ. Гл. ХАДЗІЦЬ ПА ВАЛАЧОБНАМУ.

ПАВАРОЧВАЦЬ АГЛОБЛІ. Гл. ПАВЯРНУЦЬ (паварочваць) АГЛОБЛІ.

ПАВЕСЦІ ВОКАМ. Звярнуць увагу, прарэагаваць, глянуць на што. Сарока скакала-скакала па гумне, з гумна на хлеўчык, с хлеўчыка на дзьверы, павяла вокам, згледзяла яйко — у хлеўчык і во на мае вочы яйко ўхапіла. *Сав., Стаўб. р.*

ПАВЕСЦІ НОСАМ. *Непав.* Вывіжаваць, высачыць. Ого, яна прыйдзя, павядзе сют-тут носам, а потым уся вёска ведая, што ў цібе ў хаці робіцца: і што ясі, і як сьпіш. *Жац., Стаўб. р.* Во, прышоў пасядзець — сядзь, пасядзі. А ён усё глядзіць па вуглах, павядзе носам па хаці, усё, здаецца, нешто хоча сказаць. А назаўтро дачуваюсё ад людзей, што я позно ўстаю, спаць люблю.

А каб на цібе немач якая, гэто ж ужо наплёў. *Гор., Стаўб. р.*

ПАВЯРНУЦЬ (паварочваць) АГЛОБЛІ. *Незадав.* **1.** Вяртацца назад; ісці зусім не туды, куды выпраўляюць. Выправіла Сашу ў магазін, кап хлеба купіў, а ён павярнуў аглоблі да к Колю. А хлеба німа, німа ш чым паабедаць. *Гор., Стаўб. р.* Я яго ў школу выпраўляю, а ён паверне аглоблі і да пастухоў. *Жац., Стаўб. р.* А было й так. Едзя жаніх да дзяўчыны, дагаварыўшыся ўжо, а па дарозе напаткае другога чалавека, які дае большы пасах. Тады паварочвае жаніх аглоблі і бярэць гэтага дачку, каторы даець большы пасах. *Юнц., Віл. р.* **2.** Адмаўляцца ад сваіх ранейшых перакананняў, рашэнняў, планаў. Чаго ш ты павярнула аглоблі? Паехалі п разам, весялей бы было. *Сав., Стаўб. р.* Бачыш, як можно павярнуць аглоблі ў палітыцы. Былі сябрамі, сябравалі (з Кітаем), а тагды, як ашчэрыў зубы, рады ні даць, ні агрэпціса: то ў адном месьця вылязуць, то ў другом. *Гр., Слуц. р.*

ПА ГАЛАВЕ ХАДЗІЦЬ каму. *Асудж.* Не слухацца, не падпарадкоўвацца каму (звычайна пра непаслухмяных, разбэшчаных дзяцей). Яна (маці) іх і прозьбаю і грозьбаю, а яны па галаве ёй ходзяць, робяць што хочуць. *Сав., Стаўб. р.* Што гэто за дзеці?! Па галаве гэтай Галі ходзяць, а яна маўчыць, хоць бы набіла калі, настрашыла п. Як гэто, каб маткі саўсім ні слухаць. *Жац., Стаўб. р.* Ці можно ш гэдак, кап хадзіць маццы па галаве? Ці вы ні бачыця, што ёй трудно адной з вамі. Вот памрэ, вот тады будзя для вас ліхо. Паскачаце тады! *Гор., Стаўб. р.*

ПАГРЭЦЬ РУКІ на чым. *Асудж.* Незаконна, несумленным спосабам нажывацца, багацець. Вазілі ў Мінск здаваць мясо. Казалі, што той-сёй пагрэў на гэтум рукі. *Хал., Стаўб. р.* Памерла сястра. Ну, пахавалі яны яе, а дабро ні дзялілі — усё асталосё той, што прыехала с-пад Міра. Яна пагрэла рукі на гэтум дабры, кажуць, цэлы вос палацён адно было. *Ас., Стаўб. р.* Тут усе — і бугалцяр, і ўчотчыца, і тая, што ў клубі,— рукі пагрэлі, ведаю добро і, дальбох, пайду на сабранё і скажу, хай ведаюць усе. *Сав., Стаўб. р.* Атступалі немцы, а на разьезьдзі стаяў нямецкі пояст. То людзей набегла і давай цягаць дабро. Многія тады рукі пагрэлі. *Ас., Стаўб. р.*

ПАДАВАЦЬ НА ШЛЮБ. Гл. ПАДАЦЬ (даваць, даць) НА ШЛЮБ (на запаведзь).

ПАДАЦЬ ДА НОГ каго. Празмерна дагаджаць каму, моцна прасіць каго. Яе Коля такі ўжо ўслужлівы перад начальствам, да нох падая. *Сав., Стаўб. р.* Мой некалі пойдзя ў Гародзяй, кап аттармінавалі падатак, падая да нох пану, а ўсё роўно, як трэба аддаць, то аддасі, дзе ш ты дзеняськся. *Жац., Стаўб. р.* Казалі, Анатолін падаў да нох яго, але не памагло, далі два годы. *Гор., Стаўб. р.* Прыехалі госьці с Польшчы да Пятроўскай. А сын такі ўжо харошы, высокі і ўсё: «Мамуся, мамуся». Да нох падая той маццы. От дзеці ест харошыя, і бацьком радась. *Там жа.*

ПАДАЦЬ ДА РАБОТЫ (за работаю). Шчыра ставіцца да працы, улягаць у работу. Аньця, як матка пакойніца, робіць аж гарыць у яе руках. Гаспадарка вялікая, работы много, але падая да работы, усё ў яе і дагледжано, і прыбрано, і яшчэ, кажуць, на ганаровую дошку ў канторы павесілі. *Сав., Стаўб. р.* Першы год ужо так дагаджала сьвякроўцы, што чуць сь сілаў ні выбілася. Потым паразумнела: што трэба, зраблю. Але натто да работы ні падала. Праўды. *Усел., Навагр. р.* Мой-то ні падаў за работаю. Бывало, устану ранінько, пабуджу дзяцей, выпраўлю каровы пасьвіць, а ён сьпіць, храпе ўсю раніцу. А калі што скажу, сварыцца. *Гор., Стаўб. р.* Як прыедзя зь Мінску, адразу пераадзеняцца і за работу. Як машына робіць, просто падая да работы. *Там жа.*

ПАДАЦЬ (упасці) ДУХАМ. Прыходзіць у адчай, смуткаваць, перажываць, непакоіцца. Чаго ш ты ўжо гэдак падаяш духам? Паляжыць у бальніцы, папавіцца, дасьць бох, а потым у санаторыю атправяць і падлечыцца. *Кунц., Кл. р.* Ні перажывай, Зінка, не трэба падаць духам. Можа яшчэ й лепяй будзя адной, ні того крыку, ні сваркі. *Веч., Стаўб. р.* У Эдзіка няшчасьцё — сын памёр. А ён так ужо перажывая, схуднеў — адны косьці на чалавеку, так упаў духам, так шкадуя. Ведама, бацько. *Жац., Стаўб. р.* «А, добро было б брыкету з машыну, маразэ йдуць».— «Ні падайця духам, вот паглядзіця, прывязу вам брыкету, вот падмарозіць і прывязу». *Гор., Стаўб. р.*

ПАДАЦЬ НА КАЛЕНІ перад кім. Уніжацца, перапрашаць, моцна прасіць каго. Ні буду я перад ім

падаць на калені, хай зная. *Сав., Стаўб. р.* Ні вельмо там падай на калені перад ім. Ён усё роўно ні паможа, вот успомніш маё слово. Папытайся, калі дасьць, то добро, а не — то й так нек жа будзя. *Гор., Стаўб. р.* Антонік да рук кідаяцца, на калені падая. Паець ты, памажы яму (хату перасыпаць). Можа калі й ён табе якую ласку зробіць. *Ас., Стаўб. р.* Вот баба — да рук кідаяцца. Прыперло, то просіць, трэба будзя паслухаць і схадзіць. *Сав., Стаўб. р.*

ПАДАЦЬ (даваць, даць) НА ШЛЮБ (на запаведзь). Падаць у царкву просьбу аб выкананні абраду вянчання. Ці чула ш ты, вяселё скоро ў нас, ужо падалі на шлюп. *Жац., Стаўб. р.* Патом другі пасватаўся, с Кукшавіч, свой хлопяц. Паехалі к папу, трэба на запавяць даваць. Павезьлі на запавяць даваць, далі на запавяць, едуць дадому... *Кук., Дзярж. р.* Яна таксама дала на запавяць, потым агледзялася, што ён натта брыткі. Плача, кляне. *Там жа.* Даўней-то давалі на шлюб, ехалі да касьцёла, так хорашо, урачысто ўсё рабілі. І цяпер яшчэ помню. *Сав., Стаўб. р.* У нядзельку сабіраюцца да касьцёла і там ужо даюць на шлюп. А потым шыкуюцца да вяселя. *Жац., Стаўб. р.* Цяпер аж у Нясьвіш едуць падаваць на шлюп, і ні ўсе, мало хто, просто запішуцца й вяселё спраўляюць. *Сав., Стаўб. р.* Ужо калі на шлюп падалі, то й вяселё робяць прас тыдзянь, а можа й болей трохі — як хто. *Там жа.*

ПАДАЦЬ СА СМЕХУ. Нястрымна, да знямогі смяяцца. Прышоў гэты цыган да нас нек вечарам, а ў нас людзей сабралосё, вячоркі. І давай гэты цыган расказваць, як ён кабылу ў Цярпіцкіх краў. То ўсе падалі са сьмеху, такі фацэтны некі ён чалавек, на сваіх верня. *Сав., Стаўб. р.* Дзеці ўбачылі п'янаго дзядзьку на вуліцы — ідзе ў клетачку, нага за нагу чапляяцца, то падалі са сьмеху, у хату папраганяла, каб ні бачылі гэтаго паскуцтва. *Жац., Стаўб. р.* То расказвала ў нас, а наш доктар са сьмеху падаў, рагатаў, казаў: «Гэта яна на такога напала. Каб на мяне, я б ёй ні папусьціўся». *Пр., Стаўб. р.* Прыягджаў цырк нек да нас у клуп, людзей сабраласё — ні прайсьці. Як сталі паказваць там нешто, са сьмеху падалі, клуб расколваўсё папалам. *Гор., Стаўб. р.* Падбегла Алешча пад яблыню, а ён сядзіць на яблыні. Яна на яго крычаць, а ён дражніцца. То людзі падалі са сьмеху. *Ас., Стаўб. р.*

ПАДАЦЬ У ВОЧЫ. Гл. КІДАЦЦА (падаць) Ў ВОЧЫ каму.

ПАДБІЦЬ ПАД НОГІ што. Адрачыся ад сяброўства, перастаць сябраваць з кім. Гэдак добро мы жылі с сусеткаю на футары, дзяліліся апошняю маг'улінкаю, усё ў нас было напалавіну: і радасьць і горо. А як перабраліся ў вёску, падбіла пад ногі ўсё, перастала калягаваць з намі, цяпер нат на вяселё ні заве. *Сав., Стаўб. р.*

ПАД БОКАМ. Вельмі блізка, ля дому. Там каля хаты ў Сьвержні неко праізвоство (завод), дак можно пад бокам работу знайсьці, калі ні захоча ў Стоўпцы ехаць. *Сав., Стаўб. р.* Нашто вам куды ехаць, буцьця у нас, тут добро: лес, рэчка пад бокам, купацца можно, загараць. *Жац., Стаўб. р.* Ціпер мне-то добро: лес пад бокам, то і ягады, і грыбэ. *Ас., Стаўб. р.* Магазін пад бокам, зьбегай прынясі дзьве канцэрвы, хлеба купі і яшчэ там, што знаяш. *Гор., Стаўб. р.* Цяпер нам выгода: рэчка пад бокам, то можно качак разводзіць колькі хочаш. *Хал., Стаўб. р.*

ПАД БОРАДУ ДАЦЬ каму. Гл. ДАЦЬ ПАД (у) БОРАДУ каму.

ПАДВАРОЧВАЕ ПАД ГРУДЗІ. Гл. СТАІЦЬ ПАД ГРУДЗЬМІ.

ПАДВЕСЦІ ПАД МАНАСТЫР каго. *Іран.* Ашукаць, падмануць каго, пасмяяцца з каго. Жаніўса на ёй, а прас чатэры месяцы на развот падаў, дзеўку бедную падвёў пад манастыр. *Гр., Слуц. р.* Сталы ўжэ пэрвыя друзья. Хоч бы гэтыя друзья не подвэлы пуд манастыр. *Бот., Пін. р.*

ПАДЗЯРЖАЦЬ У РУКАХ каго. Гл. ДЗЯРЖАЦЬ (падзяржаць) У РУКАХ каго. Знач. 2.

ПАДКЛАСЦІ (падлажыць) СВІННЮ каму. *Незадав.* Цішком свядома рабіць непрыемнасць каму, ашукваць каго. Хто цібе зная, можа ты мне хочаш падлажыць сьвіню. Як табе паверыць? *Ас., Стаўб. р.* Раманэ ўсе хітрыя. Старшы нек кажа: «Цётка, прадай нам япрука, добро заплачу». Не, думаю, не прадам я табе, ашукаяш. Ён майму брату падлажыў сьвіню. Насватаў некаго махляра, той (брат) аддаў с хлява сьвіню, а тагды чуць грошы сарваў. *Жац., Стаўб. р.*

ПАД КРОЎ ПАПАСЦІ чыю. Адпавядаць характарам, поглядамі каму. Усе нядобрыя: і зяці, і нявесткі. Адзін Валін пат кроў папаў, толькі перад гэтым дрындэ-

ліць (дрыжыць). *Гр., Слуц. р.* У сусеткі ўсю весну некія механізатары на кварціры стаялі, дак адзін вельмі ўжэ пат кроў папаў, хацела, каб быў зяцям. *Там жа.*

ПАДЛАЖЫЦЬ СВІННЮ к а м у. Гл. ПАДКЛАСЦІ (падлажыць) СВІННЮ к а м у.

ПАД ЛЮБЫМ СОУСАМ. Усяляк, рознымі адгаворкамі, спосабамі. Як палучыць, каждый хочыць пабольшы, а аддачы кап паменьшы. Пуд любым соусъм стъраіцца адкруціцца ад работы. *Ляўк., Арш. р.*

ПАДМЕТКІ ЛІЗАЦЬ к а м у. Гл. ЛІЗАЦЬ ПАДМЕТКІ к а м у.

ПАДМЕТКІ НЕ ВАРТЫ к а г о. Гл. НАГІ (падэшвы, падмёткі) НЕ ВАРТЫ (не варт, не стоіць) ч ы ё й.

ПАД МУХАЙ (пад мушкай). Крыху выпіўшы, у стане лёгкага алкагольнага ап'янення. Пойдзеш жалувацца да дзяцькі Мікалая, а той дзяцька штодня таўпекаецца (таўчэцца) па вуліцы пад мухай. *Яз., Сгарадар. р.* Прышоў Волясь раз надвячоркам, некі гаваркі, бачу, пад мухай хлопяц. Казаў, што быў там у вас, у Мінску, начаваў там. *Сав., Стаўб. р.* Пашла ў Горкі, думала Ані даведацца. Прышла, а ў яе бала́г'ан, дзеці брудныя страх, а муш прышоў з работы пад мухай і адразу: «Давай есьці!» *Гор., Стаўб. р.* Хаце́ла прасіць Івана, кап прывёс дроў. Пашла да іх, яго ні было дома, а потым прышоў пад мухай і ні захацеў ехаць. *Сав., Стаўб. р.* Нінка трошка пад мушкай была, а так ба іна з вамі ні съгласілась ба рабіць. *Ляўк., Арш. р.*

ПАД (самым, саменькім) НОСАМ. Вельмі блізка, тут жа, побач. Ото гэты мой стары, саўсіў ужо, мусіць, зьдзяціняў — ходзіць, шукая, злуе, а яна (сякера) тут жа, пад носам. *Жац., Стаўб. р.* Другіх абгаварыць любя, на другіх усё відзя, а што ў самой пад носам робіцца, ета ня відзя. *Віш., Вал. р.* Чаму яму ні жыць цяпер: гусей, індыкоў напускаў, рэчка пад самым носам, дрова, на хлеп дзеці даюць, і пенсія йдзе. *Жац., Стаўб. р.* Вунь нош пат саменькім носам ляжыць, а ён шукая ў сенцах. Ці ты яго там палажыў, што лазіш, шукаяш. *Сав., Стаўб. р.*

ПАДНЯЦЦА (стаць, паўстаць) НА НОГІ. 1. Жыць у дастатку, добра жыць матэрыяльна. Мне памаглі суседзі трохі, трохі сама насубірала (грошай), троху брат зь дзецьмі памаглі на ногі падняцца. Сяк-так паставіла хатку, накрыла куле́ўем (кулявой саломай). *Кор., Леп. р.*

Так і гаравалі ўсё жыццё, а як трохі стала на ногі, гэтая хвароба ў хату ўвалілася. Добро, што калхос паслаў на курорт. *Гор., Стаўб. р.* Цяпер людзі трохі падняліся на ногі, жывуць, а то было, што чорнай скарынцы рады былі, ого. *Сав., Стаўб. р.* Троху мы, троху дъчка стала пумагаць, мала-пумалу сталі на ногі пудымацца. Як на жысьць, неяк жа й перажывецца. *Ляўк., Арш. р.* Як прышла Совецкая ўласьть, то вжэ, можно сказать, мы крошкі сталі на ногі. Вжэ за зэмлю не надо було нам отплачвать, зэмля ў нас, можно сказать, получыласа без выкупа, вжэ мы не нэслі свої грошыкі в банк. *Цер., Пін. р.* Ці ж мне гэдак жылося, як цяпер маім дзецям? Да вайны хлеп зь мякінай елі. І толькі пасьля вайны на ногі сталі. *Пал., Мядз. р.* 2. Вырасці, стаць дарослым. Цяшка было хаваць (гадаваць) але як падняліся на ногі, то самі ў сьвет пайшлі. *Пуз., Мядз. р.* Не ўсьпела падняцца на ногі, стаў бацько хварэць. Прышлосё і ў полі рабіць мушчынську работу. *Пар., Слонім. р.* Дык ці ш цяпер дзеці слухаюць? На ногі падняўся, на лісапету ету сядзя дый паедзя, а ты, матка, як хочыш. *Свяц., Бял. р.* Така няка жысь пруклята, паршыва була. Як пудняласа на ногы, то ўсэ ў працы і ў працы. *Пяш., Іван. р.* Чаго цяпер Фэльціку! Ён жыве і ні шманае. Дзеці сталі на ногі, хадзі сабе памаленьку ў калхос і ўсё. *Сав., Стаўб. р.* Была малая — па́сьцілі, потым вайна, потым спалілі, потым хапуном тату схапілі, посьля чалавек на ногі падняўся — гэты замуж дурны. Колькі клапатоў, колькі перажываньня! *Пр., Стаўб. р.* 3. Паправіцца, акрыяць (пасля хваробы). Вот тыдзянь, як стала на ногі, а то ні магла — вады ні было каму прынесьці, ляжала ўсё. *Жац., Стаўб. р.* 4. Узняць свой аўтарытэт, набыць папулярнасць. Стаўпецкая школа № 1 стала на ногі. Яна, брат, скоро нос падатрэ школе № 2. Дзярэктар у іх дзелавы мужык, можа помніш Зуба, Зуп фамілія. У гэтум году прыбудоўку зрабілі харошую, рашшырыліся, база харошая ў школы. *Сав., Стаўб. р.*

ПАДНЯЦЬ ВОЧЫ. 1. Акрыяць, павесялець (пасля хваробы). Людзі ня маюць веры ёй, ня вераць, што хворая. Бо так дак хворая, ляжыць, ні ўстане, мужык усё сам па гаспадарцы робіць, а як куды на бяседу, ўстае і йдзе. Во ляжыць хворая такая, што, здаецца, сь сьветам прашчаяцца. А во выляжалася, падняла вочы, павесялела нек, стала на той дзень нараджэньня зьбірацца. *Сав.,*

*Стаўб. р.* 2. Глянуць. Некатаро дня стаімо зь Нінаю Кудзёлкаваю, ідзе паштальёнка. Падае пісьмо ёй і мне. Дак тая маці рада-рада, камандуваня (камандаванне) дзякуя бацьком за харо́шо сына, а я вочы ні магу падняць, брытка за свайго, праз гарэлку ў цюрму сеў. *Гр., Слуц. р.*

ПАДНЯЦЬ ВУШЫ. 1. Добра расці (пра гародніну). Глядзі, пасьля дожджыку і капуста мая падняла вушы, можа трохі парасьце ў гэтум годзі. *Сав., Стаўб. р.* Картаflянік пасох, павяў, страшно глядзець. Аж нек падвечар дожджык марськануў, да так і добры даў, то нічого, акрыяла мая картофля, падняла вушы. *Там жа.* Памідоры паднялі вушы. Былі малыя, але перад вашым прыездам праліў дожджык нава́льны, лапушысьцянькія сталі якія. *Жац., Стаўб. р.* 2. Папraвіцца, акрыяць (пасля хваробы). І шваг′ер мой быў трохо ні піў, а цяпер трохо падняў вушы і зноў п'е. Хворы чалавек, а п'е. Хіба можна піць? *Сав., Стаўб. р.*

ПАДНЯЦЬ (паставіць) НА НОГІ к а г о. 1. Выхаваць да сталасці, да паўналеецця. Шэсьць дзяцей, шэсьціра сыноў было, усіх на ногі падняла, усе вазрослыя. *Ульян., Сен. р.* У калхозі зьвіньнявой многа гадоў рабіла, прэміі ні рас даставала. Дзяцей пагадавала, паставіла іх на ногі. І ціпер раблю цілятніцай. *Пал., Мядз. р.* Яг′ ба мужык на маторы не рабіў, яг′ ба што ні ўзяў у рукі, да ні зрабіў, даг′ ба Верычка яго на ногі паставіла б. Дзіва што! *Ляўк., Арш. р.* Як ціпер помню. Пызнакомілась я с сваім Ягорым у піліпаўку на празьнік Міхайла. А яму тады край нада было жаніцца — памёрла матка — і нада была хызяйка ў хаці сіраты гудуваць. І мне ў сімнаццаць гадоў прыйшлося й хызяйкый быць, і чужых дзяцей на ногі пыднімаць. *Стар., Карм. р.* Стэфка падняла на ногі дзяцей і ні бачыла, ні прычакала шчасьця, ні пацешылася, памёрла. *Сав., Стаўб., р.* Ціперто добро. І вучэнё тоё бесплатнаё, і з дому можно што ўзяць. А вот даўней, то ні дай ты бох. Ні адзець у што, ні ў торбу палажыць чаго, пакуль на ногі паставіш, жыць ні захочаш. *Там жа.* Вот падніму на ногі хлопца, хай едзя на цаліну да брата, там ні прападзе. *Хал., Стаўб. р.* У Рэні чацьвёро адно пад адным, а муш некі ні вельмо каб у хату. Пакуль яна іх паставіць на ногі, пасівея кабета. *Гор., Стаўб. р.* Мне й адной добро жыць. Дзяцей паставіла на ногі, паразьягджаліся па сьвеці,

а я адна. *Ас., Стаўб. р.* 2. Прымушаць каго актыўна дзейнічаць. Кроў хлынала з аднае наздрыны, дак руччом цікла. Я тут усіх на ногі падняла. Знайшлі машыну, замчалі бабу ў бальніцу. *Ульян., Сен. р.* Альбіна як схадзілася, пачала лемантаваць, а потым выскачыла на вуліцу і ў крык. Паўвёскі падняла на ногі. *Сав., Стаўб. р.* Прыбягае Стасяк, кажа: «Ідзеця, цёця, да нас. Мамі кепско». А нашы яшчэ спалі, то ўсіх на ногі падняў. *Жац., Стаўб. р.* 3. Вылечыць. Зь месіц шчэ пыляжыць дычка (зыбалела на лёгкія, нарыў на правым крыле), а патом на курорт дадуць пуцёўку. Нада ж на ногі пыставіць чылавека. *Ліцв., Карм. р.* У старой Мацейчай Паўлік захварэў. А было лета, гарачыня такая, сьпёка. Паложылі яго ў гумне, каб мухі ні кусалі. Дзе толькі яна ні была, якіх толькі дактароў ні прыводзіла,— так хацела гэтага хлопца паставіць на ногі. Але, бачыш, ні ўратавала. *Жац., Стаўб. р.*

ПАДНЯЦЬ НА ЎРА к а г о. Павіншаваць. Дзеўкі, ці чуяця? Веркі сягоньня сорак гадоў, сёньня яе мяніны. Пъдарак мы хоць і ні купілі, але нада Верычку на ўра пъдняць і за вушы пацягнуць. *Ляўк., Арш. р.*

ПАДНЯЦЬ РУКУ н а к а г о. Выцяць, ударыць каго. Як вам ні брытко, дзеткі мае, паднімаць руку брат на брата! Ішлі б дадому й разьбіраліся, хто з вас там вінаваты, а мне перад людзьмі не рабілі брытко. *Сав., Стаўб. р.* Каб мой сынок калі падняў руку на каго? Не, ні можа гэтага быць. *Гор., Стаўб. р.* Знашоў с кім біцца, руку паднімаць на гэтую брыду. Я абышоў бы гэтаго чалавека за вярсту. *Жац., Стаўб. р.*

ПАД РУКІ ЛЕЗЦІ. Гл. ЛЕЗЦІ ПАД РУКІ.

ПАД РУКОЙ. Паблізу, побач. Добро ім жыць, калі сат харошы, агарот, а хлопцы зарабляюць нішто, горад пад рукой — ці прадаць, ці купіць што. *Ст. Св., Стаўб. р.* Дэ пуд рукой? Дэ ты бачыш? Ныц. *Бот., Пін. р.* Прышоў да нас парцізан, просіць: «Дай зьесці што». Я яму скорынько сабрала малачка, скварку, што было пад рукой, добро, што ні трэба было ў сенцах стукацець. *Жаць., Стаўб. р.* Сьпяшаліся мае дзеці на пояст, спазьняліся. Ні было нічога такого пад рукой даць ім: сала ні захацелі браць, а паляндвічкі німа ўжо. *Сав., Стаўб. р.*

ПАДРЫВАЦЦА СА СМЕХУ. Гл. КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ.

ПАДРЭЗАЦЬ КРЫЛЫ к а м у. Пазбавіць каго веры ў самога сябе, у свае здольнасці, быць пазбаўленым магчымасці праявіць сябе ў якой-небудзь справе. Гэта мне хвароба падрэзала крылы. Бачыш, як пахудзеў, які зрабіўся. Ці так бы жылося, каб здароўё было. *Ас., Стаўб. р.* Хлопяц быў як хлопяц, а як жаніўсё, то й перамяніўсё. Жанідзьба тая падрэзала яму крылы, асунуўся, схуднеў, гаспадарку запусьціў. *Раёў., Стаўб. р.* Гэтаму багачу Савецкая ўласьць падрэзала крылы, бо даўней ён жыў, то жыў. *Зал., Стаўб. р.*

ПАД СТОЛ ПЯШКОМ (пяшэчкам) ХАДЗІЎ (хадзіла). Быў малым хто. Ты ці помніш (праўда, ты яшчэ пат стол пяшком хадзіў), як мы ў Імхе (назва ўрочышча) па грыбэ хадзілі? *Сав., Стаўб. р.* Я тагды пад стол пяшэчкам хадзіла, як ваш Шурык з арміі прышоў. *Ляўк., Арш. р.*

ПАД ХАЛЕРУ. Гл. К ЧОРТУ.

ПАДЦЕРЦІ (уцерці) НОС к а м у. Даказаць, падкрэсліць сваю перавагу перад кім. Унь Волясь падатрэ нос і брыгадзіру. Нічого, што ні вучаны, але ўмея. Ён табе любую машыну разьбярэ і паправіць. А другі й вучаны, а ні ўмея. *Сав., Стаўб. р.* Хацела я табе там на полі ўцерці нос, але стрымалася. Ты такая разумная стала, але толькі балбочаш, толькі каб гаварыць. А ты на дзеля пакажы. *Веч., Стаўб. р.* Цяпер і сынок часам бацьку падатрэ нос, ведамо, армію прашоў, на цаліне парабіў, сьвету паглядзеў. *Жац., Стаўб. р.* Стаўпецкая школа № 1 стала на ногі, яна, брат, скоро нос падатрэ школе № 2. Дзярэктар у іх дзелавы мужык, можа помніш Зуба, Зуп фамілія. У гэтум году прыстройку зрабілі харошую, рашшырыліся, база харошая ў школы. *Там жа.*

ПАДЦЯГНУЛА ДУХІ к а м у. Гл. ДУХІ ПАДЦЯГНУЛА (паднягло) к а м у.

ПАДЫМАЦЬ УВЕРХ НАГАМІ ш т о. Зрабіць беспарадак, бязладдзе. Пакуль прыйду с кірмашу, с тых Стоўпцаў, яны (дзеці) падымуць уверх нагамі ўсю хату. Чаго толькі ні навырабляюць! *Сав., Стаўб. р.* Некія дзеці памоўзьлівыя ў Марусі: як яна дзе выйдзя пасядзець, то дзе іх німа — хату падымуць уверх нагамі! *Там жа.* Прывёз мне сусет дроў машыну. Скінулі на скорую руку ў гумне. А дзеці там любяць гуляць, складаюць домікі, забаўляюцца. Парасьцягалі мне ўсё ў гумне, падынялі ўсё ўверх нагамі, дровы па паленцу расьцяглі. *Гор., Стаўб. р.*

ПАДЫХОД МЕЦЬ д а к а г о. Умець выклікаць пры-

хільнасць да сябе, схіліць каго на свой бок. Жылі бедна. Бацька некі ні пракіткі быў, патходу ня меў ні к кому. *Гр., Слуц. р.* С тым яна добра падджэг'ліласа (высахла), чуць косьці ні рассыпаліса. Добра, шта кожа дзяржала. А з гэтым і грошай назьбірала, і адзежу справіла. Гэты пракіткі, патхот мае к людзям, атсюль-аттуль і нясе ў хату. *Там жа.* Ён хітры быў, умеў падыйсьці да людзей, меў патхот да людзей. *Сав., Стаўб. р.* Мой некалі як жыў, часто казаў, кепско таму, хто патходу ні мая. *Ас., Стаўб. р.* Ты глядзі, хоць сабе той Антанюк. Палікмахярам робіць, а як жыве. Другі й вучаны, а зь ім ні зраўняяцца. Тому пашэпча, гэтаго за так астрыжэ, то ў ведамасьці змухлюя, а гэта ж грошы. Чалавек патхот мая, то й жыве. *Гор., Стаўб. р.*

ПАДЭШВЫ НЕ ВАРТЫ к а г о. Гл. НАГІ (падэшвы, падмёткі) НЕ ВАРТЫ (не варт, не стоіць) ч ы ё й.

ПАД ЮР'Я НЕЗАДАЎГА к а м у. У немаладым веку, пад старасць. Цяпер усё ляхчэй: і жыць ляхчэй, і замуш выйсьці. Захацеў — пайшоў, захацеў — не, ніхто цябе ні гоня. А то помню, аддавалі адну маладзенькаю, толькі васімнаццаць мела, а яму ўжо пад Юр'я нізáдаўга, пасьля піісяці было. Такоя ж і жыцё яе было. *Гран., Маладз. р.*

ПАЕХАЦЬ (з'ехаць) У СВЕТ. Не жыць з бацькамі, быць далёка ад дому. Адны жывём са старою. Дзеці паехалі ў сьвет: хто на цаліну, хто на Украіні, а самы большы, можа помніш, у Польшчу выехаў, не піша саўсім. *Сав., Стаўб. р.* Заўчора прышоў з работы позно, злосны, казаў, у сьвет зьеду, калі на трактар ні пасадзяць. *Гор., Стаўб. р.* Эдзіка вашаго ні помню, зьехаў у сьвет, як малая я была, недзе там і жыць астаўся. *Там жа.* Цяперашнім часам дзеці бацькоў ні пільнуюцца. Як пойдзя ў армію, то лічы, што й німа, астаюцца ў сьвеці. Вот і мой зьехаў у сьвет, жаніўсё тамака, жыве добро. *Гор., Стаўб. р.*

ПА ЗАРАБОТКАХ ХАДЗІЦЬ. Гл. ХАДЗІЦЬ ПА ЗАРАБОТКАХ.

ПАЗБІВАЦЬ (збіць) РОГІ к а м у. *Зламоўн., асудж.* Збіць фанабэрыю, сагнаць пыху. Німа майго сыночка, ён бы пазьбіваў ёй рогі. *Сав., Стаўб. р.* Трэба было тагды Віціку трохі зьбіць рогі, а то такія хлопцы, як дубэ, а зяць бацьку абіжая. *Гор., Стаўб. р.* Такі стаў гаткі, нілюцкі, слова ні скажы. От німа каму рогі пазьбіваць.

*Гр., Слуц. р.* Верка сь сябе паню строіць, абы с кім і вадзіцца ні хоча. Кап хто пазьбіваў рогі, от бы добро было. *Хал., Стаўб. р.*

ПАЗБІРАЦЬ (пабраць) КРОШАЧКІ чые, каго. Быць вельмі падобным на каго. Наша Ядзя ўсе татавы крошачкі пазьбірала: таксамо харошая, таўсматая становіцца, як ён. *Жац., Стаўб. р.* Рэня выліты бацько. Беззаботная: ест — добро, німа — добро, пазьбірала ўсе бацькавы крошачкі. *Сав., Стаўб. р.* Як глянула на Фрэда, увесь матка, пабраў усе яе крошачкі. *Гал., Стаўб. р.* Ліпцін Грышко, як матка: і пахотка яе, і глядзіць нек гэдак скрыво, як яна. Але й крошачкі пабраў. *Ас., Стаўб. р.* А Анька вылітая Галя. І крошачкі пабрала. *Н. Тур., Уш. р.*

ПАЗІРАЦЬ СКОСА на каго. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) на каго.

ПАЙСЦІ НА ПАШУ. *Іран.* Здохнуць. З самулёта посыпалы буракы, а Зося бацьвіня наломала, прынэсла й дала. І кабан пошоў на пашу, отрутывса. Да большой, осыня́к (асянчук). *Бот., Пін. р.*

ПАЙСЦІ НА (у) ПОЛЬЗУ. Даць станоўчыя вынікі. Дала я ёй тых грушак, але як пачало яе рваць, уся сьсінела, нешто ж во не пашлі на пользу. *Жац., Стаўб. р.* У нас як заколюць кабана, то кроў сальюць у таз, а потым напякуць аладак, кілбас з крыві наробяць, усё йдзе на пользу. *Сав., Стаўб. р.* Іхав солдат закупляты жыв'ёлу та й загубів торбу грошэй. Трыста тысяч шчэ на тыі мыколаевські грошы! А этый Мэльлян (Чмель, як выдумлялiса на его) пыдхватів эту торбу і заховав пуд піччу цалу ношку тых грошэй. Но оны ж ёму в пользу нэ пошлі. Тые ж грошы змэніліся дай пропалы. Нэ спожыв тых грошэй. *Цер., Пін. р.*

ПАЙСЦІ (ісці, прыйсці) НА ПРЫМЫ (на прымакі) да каго. Стаць зяцем у доме цесця. Казік Апылішын кажыць: «Трэба да Зосі Петрусёвай ісьці, я табе скажу, Шура, на прымы і будзем жыць с табой побач». «А я думаю, каб да Ваньдзі прыйсьці на прымы». Прышоў ён на прымы, а ў мяне дроў ні палена, віхор зьдзёр страху на хлеві. Што рабіць? *Там жа.* Як багацейшыя, жаніліся дома, як бяднейшыя, йшлі на прымы. *Луб., Віл. р.* Прыехаў дамоў, усё спалена, усё разбурана, німа дзе й прыхінуцца. Пашоў на прымакі, як завуць у нас. *Св., Мядз. р.*

Ускорасьці ажаніўся большы брат дома, і я ажаніўся дома, меньшы пашоў на прымакі. *Ст. Габ., Мядз. р.*

ПАЙСЦІ НА (чыю) РУКУ. Прыняць нечы бок (у спрэчцы). Сэрэдны сын ожэнывса, тры годы пожылы, а тоді з нывэсткою нішто ны поладылы, і вона захотіла, шоб подэлытыса. Сын пошув на еі руку, а ты, маты, жывы як хочэш. *Бот., Пін. р.*

ПАЙСЦІ НА СВОЙ ХЛЕБ. Самастойна, на сваe сродкі, на ўласны заробак (жыць). Я ўжо, цётка, пагадаваў сваіх; даўно пайшлі на свой хлеб, паразьяжджаліся хто куды, жыву адзін. *Жац., Стаўб. р.* Сынэ пашлі на свой хлеб: адзін у калхозя на трактары, а другі настаўнікам у Возярску. А нам, старым, от жыві памаленьку. *Сав., Стаўб. р.* Пакуль на свой хлеб пойдуць, то жыць ні трэба будзя. Цягнуць з маткі ўсе жылы, адзень, абуй, яшчэ й грошай дай. *Гор., Стаўб. р.* Зямлі ў нас было толькі шасьціна, жылі бедна. Трохі паляхчала, калі Сьціпан і Валодзя пашлі на свой хлеб, калі выпасажылі (аддалі пасаг) сясьцёр. *Ст. Габ., Мядз. р.*

ПАЙСЦІ НА ТОЙ СВЕТ. Гл. ІСЦІ (адправіцца) НА ТОЙ СВЕТ.

ПАЙСЦІ ПА БАЦЬКУ (па матцы). Быць падобным да бацькі знешне, удацца ў бацьку (у матку). Васіля Гурбіня дзеўчыня пашла па бацьку: у яе ні разгавору, ні складу, ліцо старая, у маткі маладзей. *Ульян., Сен. р.* От шчасьцё кабеці ўсё жыцё. Гаспадар гэдакі спакойны, харошы, ніколі нічого наперакор ні скажа, ні зробіць. І дзеці па бацьку пашлі. Робяць адно як валэ, а грошы ўсе да капейкі маццы аддаюць. *Сав., Стаўб. р.* Цьвіркаў Уладзік пашоў па матцы: такі ж малы й таўсматы, як яна. І нават калі гаворыць, то якраз як нябожчыца Анюта. *Жац., Стаўб. р.*

ПАЙСЦІ Ў АДВЕДЗІНЫ д а  к а г о. Гл. ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у давед-кі, у отведы) д а  к а г о.

ПАЙСЦІ Ў НАВУКУ. Вучыцца ў вышэйшай школе. Міхашчай старэйшая пашла ў навуку, недзя й меньшая ў Віцяпску на віцірынара. Харошыя дзяўчатка зрабіліся, вылюцкаваліся ў сьвеці. *Сав., Стаўб. р.* А Казік ўсё чытая й чытая, і гуляць не сходзіць куды. Пашоў у навуку хлопяц, то хай вучыцца. *Гор., Стаўб. р.* Большы пашоў у навуку, вялікім чалавекам стаў у Мінску, але ні зазнаецца, вітаяцца с каждым. *Там жа.*

ПАЙСЦІ Ў ОТВЕДЫ да каго. Гл. ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у даведкі, у отведы) да каго.

ПАЙСЦІ Ў ПРОЧКІ ад каго. Гл. ІСЦІ (пайсці) Ў ПРОЧКІ ад каго.

ПАЙСЦІ (ісці прыстаць) Ў ПРЫМЫ да каго. У ПРЫМАКІ ЗАЙШОЎ да каго. Стаць зяцем у доме цесця. Бацька памёр, большы брат пайшоў у прымы, меньшы ажаніўся, асталася я адна. *Таўкач., Уздз. р.* Праўда, ягоных (Мацулевіча) дзяцей па ім дык не называюць, а ўсё больш па ейнай хваміліі, ён жа к ей у прымáкі зайшоў, дык вот больш па ёй, Палаўковай рібяты, гавораць. *Грыш., Рас. р.* Ні было куды падацца чалавеку, дык ён у прымáкі зайшоў і начаў у поле ганяць калгасных цялят. *Там жа.* Даўней дак бедно жылосё, а сям'я вяліка, прыставалі ў прымы. А то на маленькім кусочку ні ражжывесься. *Жац., Стаўб. р.* Малянчук ні наш чалавек, ён прыстаў у прымы да Марусі. *Сав., Стаўб. р.* Юзік да Ганкі ў прымы прыстаў. У бацькоў галота, есьці ні было чаго, дзяцей у сям'і было много. *Там жа.*

ПАЙСЦІ Ў ПУКІ. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

ПАЙСЦІ Ў СВЕТ. Адлучыцца ад сям'і, ад родных мясцін. Яе дзеці ўсе пашлі ў сьвет: хто ў Мінску, хто на цаліне, а малодшая, казалі, замужам у Сальску. *Сав., Стаўб. р.* Ён яшчэ пры Польшчы ў Саветы ўцёк, хацеў вельмо вучыцца, з маладых гадоў пайшоў у сьвет. Толькі пасьля вайны ліст прыслаў, што ў Польшчы жыве. *Жац., Стаўб. р.* Сабраліся і ў сьвет пашлі. Ніхто ні ведаў, дзе яны. А потым прыягджаюць у сваю вёску ў госьці, жывуць у Алтаі недзя. *Ас., Стаўб. р.* Лютая-лютая дачка, заядая сваю мацяру, скоро, бедная, у сьвет пойдзя. *Там жа.*

ПАЙСЦІ Ў СТОЎП. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

ПАЙСЦІ Ў СТРЭЛКІ. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

ПАЙСЦІ Ў ХОД. 1. Набываць грамадскае прызнанне, аўтарытэт. Гурыніха паехала на павышэньне ў акадэмію па сьвіньнях (саўгас паслаў на курсы павышэння кваліфікацыі пры Горацкай акадэміі), а ён, Гурын, па крупнаму рагатаму скоту. Пайшлі ў ход Гурыны. *Ляўк., Арш. р.* 2. Спатрэбіцца. Прыехалі мае ўнукі ў сандаліках,

думалі, што цёплінько будзя. А тут халадэча, дошч. Давай шукаць, каб у што абуцца. Пайшлі ў ход боцікі, туфлікі, што валяліся на гары каторы гот. Ведамо, холадно. *Сав., Стаўб. р.*

ПАЙСЦІ Ў ЦЭБАХІ. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

ПАКАЗАЦЬ ДЗЕ РАКІ ЗІМУЮЦЬ каму. *Паграж.* Набіць, пакараць каго, усыпаць каму. Я табе пакажу дзе ракі зімуюць, лось ты гарбаты! Тпру, кап цябе ваўке (да каровы)! *Пр., Стаўб. р.* Сьціхні ты! Цэлы божы дзень упынку на цібе німа. Вот вазьму папрушку, як дам, я табе пакажу дзе ракі зімуюць, калі ты мацяры ні слухаяш. *Ас., Стаўб. р.* Я яму хацеў паказаць дзе ракі зімуюць, але (ён) ўцёк дахаты. Во хай пападзецца яшчэ з рас, то ўжо дам. *Жац., Стаўб. р.* Ну, што? Паказаў бацько дзе ракі зімуюць? Чаго ш ты чапляясься да дзяцей, бальшун. *Хал., Стаўб. р.*

ПАКАЗВАЦЬ ЗУБЫ. Смяяцца. Харошы быў хлопяц, вясёлы, штукар, што сьвет ні бачыў. І ўсё рагоча, паказвая зубы. *Сав., Стаўб. р.* Анэтка некая, мусіць, недапечаная трохі. Ці йдзе, ці дома сядзіць сама с сабой гаворыць, а то й зубы паказвая. І сама сабе, аж нідобро глядзець. *Веч., Стаўб. р.*

ПАКАЗВАЦЬ (пароць, тыкаць) ПАЛЬЦАМІ на кага. Адкрыта, уголас асуджаць, ганьбіць каго, смяяцца з каго, звяртаючы на гэта ўвагу ўсіх. Адзенься лепяй, а то паказваць пальцамі будуць там. *Жац., Стаўб. р.* Я тэпэр нэ стэсняюса. Стара жоночына, а одэну яку хош сукню, якы хош тухлы. А пры Польшчы з мэнэ б смыялыса, пальцáмы показвалы. *Бот., Пін. р.* Чаго я там ні бачыла на том вяселі? Каб людзі пароліі пальцамі, брытко, я ж ні свая ім. *Ас., Стаўб. р.* Нашто каб на нас паказвалі пальцамі, лепяй дома пабудзяш, вот зарас павячэраям. *Сав., Стаўб. р.* Нашто каб на цібе пальцамі тыкалі. Адзенься, прычашыся, злажы новыя туфлікі, ато засьмяюць людзі. *Жац., Стаўб. р.* А ты ні прычасаная, ні прыбраная — шусь с хаты. Там жа пальцамі паролі на цібе, як табе ні брытко. *Сав., Стаўб. р.*

ПА КАЛЯДЗЕ ЕЗДЗІЦЬ. Гл. ХАДЗІЦЬ (ездзіць) ПА КАЛЯДЗЕ.

ПА КАНЕЦ РУК. *Незадав.* Абы-як, дрэнна, неахайна, неакуратна. Ні прасі ты яго, ні ўмея ён — от, па ка-

нец рук, абы адчэпнага, людзі будуць сьмяяцца. *Сав., Стаўб. р.* Папрасіла Юзіка Галоўнічышынага пабаранаваць картофлю. Праўда, прыехаў, паслухаў, але сьпяшаўся, зрабіў па канец рук, трэба ісьці самой з граблямі паразьбіваць груды. *Там жа.* А дзяцько робіць шалдубалду, па канец рук, абы скарэй. Парэжа, парэжа сало й мясо, павыкручвая шынкі і ўжо паглядая, кап паўлітру ставіў. *Там жа.* Дзе ж іна ня будзіць росьць, трьва тая, калі ўсё робіцца пъ канец рук, абы быстрэй, абы быстрэй. Як узышла бульба, пружынку (спружыноўку) прыслалі, пару рас прабеглі — і гатова. А тръва як ръсла, так і расцець. *Ляўк., Арш. р.*

ПАКЛАСЦІ ГАЛОЎКУ. Гл. ГАЛАВУ (галоўку) ПАЛАЖЫЦЬ (злажыць, налажыць).

ПАЛАЖЫЦЬ У ТРУНУ. *Шкадав.* А я кажу жаніху: «Вун другая, малодшая ад мяне, мама мая, сватайся да яе, а мяне німа чаго чакаць, бо я свайго бацьку маладзейшага ат цябе палажыла ў труну». *Вай., Ашмян. р.* Як я выжыла, ні ведаю, думала, канец мне, гэдакага чалавека ў труну палажыла. *Сав., Стаўб. р.* Як міне клічуць на памінкі, я ні йду. Ні магу. Я за сваё жыцё чатырох у труну палажыла, ні магу я быць. *Там жа.* Жыў чалавек, усяго яму хватало, чаму ж ні жыць было? А памёр, бачыш. Маці лямантавала, такого маладого палажыць у труну. *Гор., Стаўб. р.*

ПАЛЕЦ АБ ПАЛЕЦ НЕ СТУКНУЦЬ (не ўдарыць). *Асудж.* Нічога не рабіць, гультаяваць, бяздзейнічаць, ленавацца. Яна за сваім Грішкам век пражыла, паліц аб паліц ні ўдаріла і нідзе ні ўпацела: ён і сьвіней накорміць, усягды гряды падзелаіць, пряма зло бярэць ад яе. *Піл., Чав. р.* Сістра паліц аб паліц ня стукніць, сын тожа гультай. *Ліцв., Карм. р.* Поліва повен гарот, а мая нявестка паляц ап паляц ні стукня, лахудра энта, вядра вады ні прынясе. *Вішн., Вал. р.* Гэто ш трэба, людзі панаробліваліся ўжо, а ён соваяцца з вугла ў вугал, паляц ап паляц ні ўдарыць. *Сав., Стаўб., р.* Сямнаццаць гадоў дзевачка, а ў хаці паляц ап паляц нічого маццы ні паможа. Ні ўложаная. *Там жа.* Хочаш, каб мачаха добрая была. Паччарка ходзіць, нічога ня дзелаіць, ш чужым дзяцём гуляіць, а матка ў гародзі траву лупіць. Тъкая дзяўчонка, а паліц ап паліц дома ня стукніць. *Ляўк., Арш. р.* Натта людзі яга не хваляць, кажуць, што гультай вялікі, дома нічога, палец аб палец не ўдарыць, тумарнік

(нурэіна) нейкі, ні ён к людзям, ні людзі к яму. *Язн., Віл. р.*

ПАЛКАЙ (крукам) НОСА НЕ ДАСТАЦЬ каму. *Асудж.* Ганарыцца, задавацца, ставіць сябе вышэй за іншых. Цяпер Лёдзя ражжылася: паліто зь лісіным каўняром, боты за сорак рублёў, хустка польска, а задаецца, што палкаю носа не дастанеш. *Востр., Зельв. р.* Больша іх вельмо рызыкоўна, а меньша ашчэ мудрэй — носа ў яе крукам не дастанеш. *В. Рож., Сал. р.*

ПАЛКІ ДАЦЬ. Гл. ДАЦЬ ДУБЦА (лазы) каму. ДУБЧЫКА ДЖГАНУЦЬ каму. НАДАВАЦЬ ПАЛКІ каму.

ПАЛКІ НЕ ПЕРАКІНУЦЬ каму. *Дакор.* Не перадаць, не дапамагчы каму. Ці ён калі мне дроў прыўёс, ці плот загарадзіў — за век палкі ні перакінуў, а, мой божа, «забоціцца», плешча языком. *Гр., Слуц. р.* І гэто брат! За ўсё жыцё ён мне палкі ні перакінуў, сам за работаю сьвету ні бачыць, кап калі на двор глянуў. *Жац., Стаўб. р.* Ні мяне ён пыніць (даглядае). Колькі жывём па-сусецку, хата ў хату, ведая, што я адна, што мне трудно, а кап калі хоць што памох,— не. Палкі ні перакіня. *Сав., Стаўб. р.*

ПАЛЬЦАМІ ПАКАЗВАЦЬ на каго. Гл. ПАКАЗВАЦЬ (пароць, тыкаць) ПАЛЬЦАМІ на каго.

ПАЛЬЦАМ КІВАЦЬ на каго. Гл. КІВАЦЬ ПАЛЬЦАМ на каго.

ПАЛЬЦАМ НЕ ЗАЧАПІЦЬ (не крануць) каго. Быць добрым па характары, спакойным, не рабіць шкоды каму, шанаваць каго. От наш Эдзік быў, то пальцам ні зачэпіць нікого, а падыйдзя і да жацяраўца, і да вічытароўца, ён з усімі дружыў. *Сав., Стаўб. р.* Каб які ліхі, урэдны, а то гэдакі спакойны, харошы, самастаяцяльны, рукі на яе ні клаў, пальцам ні зачапіў, жыў і душы ў ёй ні чуў. Гэдак шанаваў. *Там жа.* Кажуць, калі ў адной кашулі пахрышчаныя, тады дзеці жалеюць адзін аннаго. Але ніпраўда. Во ў Гарбачоўкі блізьнюкі, а пальцам адзін аннаго ні кранулі. *Бял., Лаг. р.* Што гэта за зьвер такі ў хаці? Каб муж зьбіў жонку, каб езьдзіў па ёй! Мой за ўсё жыцё мне слова кепскаго ні сказаў, пальцам ні зачапіў. *Сав., Стаўб. р.* Стары мой харошый, спакойный, пальцам мяне не кранець. *Ляўк., Арш. р.* Я сваю Валю люблю. Мы во пражылі да сярэбранъй свадзьбы, а я яе пальцъм ні крануў. *Там жа.* Мой Рыгор, праўда, будзіць

казаць: «Ты, тата, сабе жаніўся, а я сабе, маю жонку ты й пальцам не сьмей крануць». *Язн., Віл. р.*

ПАЛЬЦАМІ ПАРОЦЬ на каго. Гл. ПАКАЗВАЦЬ (пароць, тыкаць) ПАЛЬЦАМІ на каго.

ПАЛЬЦАМІ ТЫКАЦЬ на каго. Гл. ПАКАЗВАЦЬ (пароць, тыкаць) ПАЛЬЦАМІ на каго.

ПАЛЬЦАМ КІВАЦЬ на каго. Гл. КІВАЦЬ ПАЛЬЦАМ на каго.

ПАЛЬЦАМ У НЕБА ТКНУЦЬ. Гл. ТКНУЦЬ ПАЛЬЦАМ У НЕБА.

ПАЛЬЦАМ ШАВЯЛІЦЬ. Працаваць. Шчыра ў халхозе пальцам шавяліў, то тэраз затое і мае. Вуняка пэньсю добру берэ, підзісят ці што рублёў на месяц. *Ліп., Вор. р.*

ПАЛЬЧЫКІ АБЛІЗАЦЬ (аблізваць). Вельмі смачны, апетытны (пра ежу). Прыходзь сёньня да мяне пасядзець. Пякла пірашкі с тварагом, пачастую. Смачныя, пальчыкі абліжаш. *Кунц., Кл. р.* Ідзі, Мішка, ідзі! Такіх аладачак з макам напякла, пальчыкі абліжаш. Ты ніколі яшчэ ні еў такіх. *Сав., Стаўб. р.* Што гэто, думаю, зрабіць унучкам паесьці? Зрабіла ім яечню на скаварадзе. То пальчыкі аблізвалі, гэдак елі. Аш пабіліся! *Там жа.*

ПАМІЖ РУК ПРАПАЛА што. Марна прапала, страцілася з-за недагляду, безгаспадарчасці. У нас быў дзяцюк, мушчына багаты. У яго й сьвіней, у яго й коней, у яго й кароў, у яго й курэй, кажухоў, марынатак. Каб часам, парою (своечасова) жаніўся, меў бы ўсё. А так яму пат сорак, тое багацьце яму паміж рук прапала, усе тыя кажухі, марынаткі паміж рук прапалі. *Каг., Лід. р.*

ПАМІНАЙ ЯК ЗВАЛІ. Уцячы, збегчы, знікнуць бясследна. Сядзіць дзет час, другі, трэцьці, а ліса ні выходзя. Надаела яму сядзець, адчыніў ён каморку, а лісу памінай як звалі. Зьела два гарнецы сыру, масла і ўцякла. *Арэш., Бяр. р.* Пабех кот на печ, а паперы (дакументы) памінай як звалі. Адны карашкі засталіся, мышанятызьелі дакумінтываўчыныя. *Там жа.* Чаму ты ні йшоў разам есьці? Паставіла на стол сухарыкі, пякла, а дзеці як напалі, табе ні аднаго ні асталосё. Цэлую раніцу стаяла ля печы з гэтымі сухарыкамі, а да абеду расправіліся дзеці, памінай як звалі тыя сухарыкі. *Гор., Стаўб. р.* Рыба тут палахлівая. Калі з-за куста трошкі пакажасься, памінай як звалі. А рыба ест. Калі сьцішысься, то ходзіць. *Жац., Стаўб. р.* Унучка як чорт. Ка-

зала ш, пасядзі, а яна шмых на двор — і памінай як звалі. *Хал., Стаўб. р.*

ПАМЯНЦІЦЬ ЯЗЫКОМ. Гл. МЯНЦІЦЬ (плесці, мянташыць, трапаць, брэнкаць) ЯЗЫКОМ.

ПАНАХУ НЕ БУДЗЕ чыйго дзе. Гл. НАГІ (духу, пáнаху) НЕ БУДЗЕ чыёй дзе.

ПАНСТВА СПАГАНЯЦЬ. Гл. СПАГАНЯЦЬ ПАНСТВА.

ПАПАДАЦЦА ПАД РУКУ каму. Выпадкова апынуцца побач, блізка. Не кажу, што на кепство (шкоду), але й той рас зрабіў кружок сасновы і гэты рас зноў с сасновай дошкі выразаў. Не пападзецца яму пад руку ні асовая, ні кляновая дошчачка, толькі сасна. *Сав., Стаўб. р.*

ПАПАСЦІСЯ ПАД ГАРНІТУР чый. Адпавядаць характарам, поглядамі каму. Хлопцы харошыя, працавітыя. І малады (зяць) папаўся пад іх гарнітур. Спакойны, паддаецца, Ірка тая камандуя ім. *Сав., Стаўб. р.* Скажы ты, як шанцуя. І сыны спакойныя, і зя́цям ні нахваліцца, папаўся пад іх гарнітур. *Там жа.*

ПА ПРАВУЮ РУКУ. Справа, з правага боку. Яшчэ адну мясьцінку ведаю, дзе ягат сьвет. Вот як азярыны мінеш, улева дарошка пойдзя, а там хвойнік, кудравíнека, па правую руку лахчынка невялікая, скрось ягаднік аш пат клаткі. *Пр., Стаўб. р.* У міне па правую руку сядзела Стаська ж Жацярава, казала, што яе Маруся зьбіраяцца паступаць у інстытут. *Гор., Стаўб. р.* Прывэзлы шаснацать парт для пэрвого класа, вэрх салатового цьвіта, двэ чэрныльницы по праву руку: одна с краю, друга посрэдіне. *Бот., Пін. р.*

ПАПРОБАВАЦЬ ШЧАСЦЯ. Гл. ПАПЫТАЦЬ (папробаваць) ШЧАСЦЯ.

ПАПЫТАЦЬ (папробаваць) ШЧАСЦЯ. Шукаць удачы. Думаяш на Немні папытаць шчасьця? Паедзь сабе, але казалі, што й там ні ловіцца, ні бярэ (рыба). *Гал., Стаўб. р.* Віцік ужо ўсюды папробаваў шчасьця: і ў калхозі шафёрам езьдзіў, і на лесапільні рабіў, а ціпер у Стоўпцах недзя на базе. *Гор., Стаўб. р.* Ну што, папробаваў шчасьця? Ды кінь ты дурачыцца. Дзе тыя грыбы цяпер, у замараскі? Трэба было раней прыягджаць, то былі. *Зал., Стаўб. р.*

ПА ПЯТАХ. Не адстаючы, неадступна (хадзіць, ісці, бегчы і г. д.). Ён прыстаўлены быў, бо куды ні павярніся,

і ён тут, ходзіць па пятах, а нічога ні кажа. *Зал., Стаўб. р.* Дзеці ні хочуць сядзець у хаці, ходзяць па пятах, куды я, туды й яны. *Сав., Стаўб. р.* Да міне кошка прывыкла. Калі выйду да сусеткі пасядзець, і яна за мною. Ходзіць па пятах, як сабака. *Там жа.*

ПАРАДЫ ДАВАЦЬ к а м у. Раіць, падказваць. Астаўсё бацько ў хаці ў сына, пачаў парады розныя даваць яму. *Вяр., Вайк. р.* Німа каму сказаць ёй добраё слово, даць парады. А сама ні ведая, нінавучаная дзевачка, без бацькоў гадавалася. *Зал., Стаўб. р.* Паклікала Волька гэтую пляткарку і давай ёй парады даваць: і ні хадзі па хатах, і ні абгаворвай сусетку, дома, адным словам, сядзі. *Гал., Стаўб. р.*

ПАРВАЦЦА АД СМЕХУ. Гл. КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ.

ПАРОГІ АБІВАЦЬ. Назойліва хадзіць да каго. Бывало, выйдзямо на пагулянкі, то ва ўсіх косы да кален, на прамы радочак зачэсаны, спаньнічкі ў зборачку, кохты вышытыя, анна любата. І хлопцы бокам не апходзілі, парогі абівалі. Замуш у шаснаццаць гадочкаў ішлі. *Падг., Кар. р.* Наша Ірка дома ані ні пасядзіць. Прыдзя, зьесьць што і пашла. Мусіць, да дзеда ходзіць, гэтаму Лапкоўскаму старому парогі абівая. *Жац., Стаўб. р.* Маня хоча, каб ён браў замуш яе дачку, а ён парогі адно абівая, жаніцца ні зьбіраяцца. *Сав., Стаўб. р.* Ты пасядзеў бы дома, а то абіваяш парогі гэтаму чалавеку, можа ён ні любіць. *Гор., Стаўб. р.* Як абівала парогі да весьніцы, тады пазнавала, праходу ад яе ні было, а гэто хаваяцца, сустракацца ні хоча, г'адасьць такая. *Там жа.*

ПАРОГ НЕ ПЕРАСТУПІЦЬ. Гл. ПРАЗ (цераз) ПАРОГ НЕ ПЕРАСТУПІЦЬ.

ПАРОЦЬ ГАРАЧКУ. Рабіць што крайне паспешліва, наспех. Казала ш табе, не пары гарачкі, не сьпяшайся, гля́дзі, каб акуратненько. А цяпер што мне рабіць з гэтаю мукою? Яе ш і сьвіньні ні будуць есьці — палавіна пяску. Столькі рассыпаць! Ай, ай. *Сав., Стаўб. р.* Што ты гарачку пораш? Пачакаем, трохі пяройдзя дошч, паедзям тады. *Жац., Стаўб. р.* Нашто было пароць гарачку? Ты думаў, такведе бульбы выбяраш за дзень? А цяпер вот ні рук ні ног ні чуяш, нарабіўся. *Там жа.*

ПАРОЦЬ ПАЛЬЦАМІ н а к а г о. Гл. ПАКАЗВАЦЬ (пароць, тыкаць) ПАЛЬЦАМІ н а к а г о.

ПАРЫЦЬ ЗЯМЛЮ (косці). *Шкадав., жаласн.* Памерці, гнісці ў зямлі (пра чалавека). Яго равесьнікі яшчэ жывуць, дзетак гадуюць, і ліхо іх ні бярэ, а ён даўно пáрыць зямлю. *Сав., Стаўб. р.* Каб за благім мужыком жыла, ты б даўно зямлю парыла б. *Бял., Лаг. р.* Сястра ўжо каторы гот зямлю пáрыць (ужо чацьвёрты гот), а ён, бачыце, які здаровы. *Бяр., Дзярж. р.* Сышоўся з Галяй, дзевычка харошая, выратавала яго ад сьмерці. Цераз яе жыў астаўся. Каб ні іна, даўно б косьці пáрыў. *Ліцв., Карм. р.* Паставілі немцы старога да сьцяны страляць, цэліліся, крычалі, і каб ні нашы самалёты наляцелі, спрэдчылі б (забілі) старога, пáрыў бы ўжо косьці ў зямлі. *Дам., Чэрв. р.* Прыдзя нядзелька летам, цёпло, хорашо кругом, музыка грая ў Жацяраві, маладзёжы поўно. А мне так шкода зробіцца Эдзіка, каторы гадок пáрыць косьці ў зямлі. *Сав., Стаўб. р.* Стары мой харошый чъла-век. Хату мне ператрос (перасыпаў), накрыў, але зусім мала пажыў, памёр. Вот ужо сёмый гот зямлю пáрыць. *Ляўк., Арш. р.* Пецька мой тады, каб ні шапка, пáрыў бы зямлю. Пупаў пуд бартавое калясо (машыны), усе заклёпкі ў шапкі пусагнала. *Там жа.*

ПАСКАКАЦЬ (заскакаць) ДРАЗДА. Мець непрыемнасці; быць пакараным. Дзеўчынка малая, а нігодная-нігодная, лжэ матцы. Ото (матка) паскача дразда зь ёю, як яна вырасьце. *Хал., Стаўб. р.* Заскачаш ты ў мяне дразда, хлопяц, так дам! Гэта ш ці можна цярпець? Усе яблыні аб'еў, платы паламаў. *Раўч., Пух. р.*

ПАСТАВІЦЬ ВОЧЫ. *Абурэн., незадав.* Злосна глядзець на каго, утаропіць на каго злосны позірк. Я да цібе й так і гэтак, а ты ні слова. Я ш хачу, каб добро было, а ты паставіш вочы і сядзіш як мур. *Сав., Стаўб. р.* Нігодная ўнучка расьце. Калі бацько закамандуя што зрабіць, то хоць нехаця, але зробіць, а як я, то паставіць, панімаяш, вочы і паглядая, як ваўчанё. *Жац., Стаўб. р.* Якія вýпары (упартыя) растуць. Кажу, вынесьці трэба сьмецё, Ірачка, а яна й ні дбая. Ці прасі, ці не, паставіць вочы, і хоць рэш. *Сав., Стаўб. р.*

ПАСТАВІЦЬ НА НОГІ к а г о. Гл. ПАДНЯЦЬ (паставіць) НА НОГІ к а г о.

ПАСТАВІЦЬ (ставіць) КРЫЖ н а к а г о, н а ш т о. Страціўшы надзею, канчаткова зняверыўшыся, адмовіцца ад каго, ад чаго. Даўно казала, пастаў ты крыж на яго, да дабра ні давядзе гэтае заляцаньне, не трэба му-

чыцца. *Веч., Стаўб. р.* Хлопяц перажывая, дзіво,— дзеўка кінула. І дурны за гэто! Паставіў бы на яе крыж і гуляў бы з другою. Ці мала харошых дзяўчат на сьвеці? *Раёў., Стаўб. р.* Нек сяк-так кончыла сем клас і даляй: «Ні хочу». Матка й так, матка й гэдак: «Ні хачу»,— і ўсё. Прышлосё ставіць крыш на навуку, давай ужо работу якую шукаць. *Сав., Стаўб. р.* Я ўжо даўно паставіла крыж на свайго. Ці ён ест, ці яго німа, мне адно. Калі мацяры ні глядзіш, то й ты мне ні трэба. *Там жа.*

ПАСТАВІЦЬ СЭРЦА (душу) НА РУБ. Прыняць цвёрдае рашэнне аб немэтазгоднасці падтрымліваць ранейшыя адносіны з кім, прыйсці да катэгарычнага разрыву. А Лапкоўскі паставіў сэрцо на руб і ні йдзе да свае (жонкі). Матка гаварыла, два разы былі танцы ў клубі, а ён ні разу ні пашоў. Мусіць, будзя развод браць. *Сав., Стаўб. р.* Маёй Тані німа тут с кім гуляць. У нашым канцы адны хлопцы яе равесьнікі, падрух німа. А гуляць аж лохня (прагне). То калі пускаю, а іншы рас душу на руп стаўлю і б'ю. Ні люблю, што гэтыя хлопцы ходзяць. *Там жа.* Вот уперлася, паставіла сэрцо на руб і ні хоча жыць са сьвякровай. *Жац., Стаўб. р.* Яны-то яму ачамярэлі! Але цярпенё лопнуло, раззлаваўсё і павыганяў с хаты. Паставіў сэрцо на руп і бачыцца ні хоча, то ціпер у сваякоў у Горках жывуць. *Там жа.*

ПА СТРУНЦЫ ХАДЗІЦЬ. Баяцца, калаціцца перад кім, паслухмяна падпарадкоўвацца чыёй волі. Як задаў бацько перцу малым, па струнцы ходзяць, робяць, што ні скажа. *Гор., Стаўб. р.* Ужо тры разы старшыня быў на фермі, за два дні быў тры разы. А як пабудзіць два гады, усіх навядзець, будзім па стрункі хадзіць. *Ульян., Сен. р.* Як запарашыў (надаваў) дацци, па струнцы перад бацькам хадзіць будзя. *Шаш., Стаўб. р.*

ПА ТОЙ РАЗ. ПА ТОЙ ЧАС. З таго моманту, з таго здарэння. Па той раз нігды мяне ні выпраўлялі нідзе. Бацька баяўся, каб дзе ні задушылі такога дурня, як я. *Карп., Шчуч. р.* А яму сказалі на судзе: «Садзіся й пішы заяўленьня, што, калі ты хоць рас троніш жану, мы цябе вышлем». Па той рас! Мір і цішыня ў хаці. *Ульян., Сен. р.* Як аддубасіла маці, па той рас! Сядзіць дома, вучыць урокі, мацці памагая ўсё. *Гор., Стаўб. р.* Лі нашай хаты сасоньнік расьцець, і пъсяліўсі ў тым сасоньніку кършак. Ай здаровый-здаровый кършак! Што арол! Адгудувалі мы яго, бо во курыцы нашы як с куросадня, так

і бігаць у роў, а ён падвартуіць і стропніц (задзярэ), каторая зазіваіцца. І так раз было. І так другей. Ды каб жа зьеў, а то задзярэць, тут во на грудзях мяса выдзярэць, патрашкі выбярэць і кініць, і кініць. Што мне дзелыць? Ён жа ўсе мае куры перавядзецъ?! Устала я на цямочку, пъшла, у кустах схувалася, аж лоп-лоп крулом — ляціць. Я палкъй шась па сасонкі, ён узьняўся й пъляцеў. І як ляцеў, крулом зацапіўся за электрычныя правады, і во ў адзін міг забіла, ток убіў. І па той час! І па той час! *Ляўк., Арш. р.*

ПАТОЛЮ ДАЦЬ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) ПАТОЛЮ (роспуст) к а м у.

ПАТРАХІ ВЫТРАСАЦЬ з к а г о. *Паграж.* Караць, страсянуць так, каб аж цёмна ў ваччу стала. Не абагнацца ад дзяцей, унадзіліса ў грушы, трасуць, картоплі топчуць. Як злаўлю, я сь цябе, другога, усе патрахі вытрасу. *Гр., Слуц. р.* Я думаў, ты з гэтаго хлопца-патрахі вытрасеш. За што ты гэто яго? *Гор., Стаўб. р.* Як злавіла яна гэтаго Януся, як схапіла за валасэ, ото давала. Я думаў, што яна зь яго патрахі вытрасе. *Хал., Стаўб. р.*

ПАТРЭБЕН ЯК ДЗІРКА Ў МОСЦЕ. Гл. ПАТРЭБЕН ЯК САБАКУ ПЯТАЯ НАГА.

ПАТРЭБЕН ЯК САБАКУ ПЯТАЯ НАГА. ПАТРЭБЕН ЯК ДЗІРКА Ў МОСЦЕ. *Незадав.* Зусім не патрэбен, лішні, перашкаджае. Патрэбен тут гэты плот як сабаку пятая нага. Але калі гаспадыня хоча, то хай ужо стаіць. *Сав., Стаўб. р.* Пятрусь хоча ставіць проціў зімы газавую пліту, а я думаю, на чорта яна, тая пліта, зімой. Печ жа ўсё роўна паліць трэба. Патрэбна тая пліта яму як сабаку пятая нага. *Гор., Стаўб. р.* Віцік купіў матаролер, шуміць адно пад вакном. А патрэбен ён яму як дзірка ў мосьці. *Шаш., Стаўб. р.*

ПАТЫЛІЦУ ЧУХАЦЬ. Гл. ЧУХАЦЬ ПАТЫЛІЦУ.

ПАЎСТАЦЬ НА НОГІ. Гл. ПАДНЯЦЦА (стаць, паўстаць) НА НОГІ.

ПАЦАЛАВАЦЬ ЗАМОК. *Незадав.* Не застаць нікога дома, пастаяць перад замкнёнымі дзвярамі. Усё зьбіралася пайсьці да Стэфкі, даўно ўжо ні бачыліся. Пашла, але ні застала дома. Пацалавала замок і вярнулася так. *Сав., Стаўб. р.* Намаглася мама — паедзь і паедзь. Сабраўся я і паехаў, але толькі замок пацалаваў. Нікого дома не застаў. *Гор., Стаўб. р.* Зьезьдзіў у Мінск дарэмно, адно замок пацалавоў. Дзеці ў школі, сястра на рабо-

ці, дак я палятоў, палятоў па горадзі і дамоў. *Сял., Маладз. р.*

ПАЦЯГНУЦЬ ЗА ЯЗЫК к а г о. Гл. ЦЯГНУЦЬ (пацягнуць) ЗА ЯЗЫК к а г о.

ПЕНЬ ПНЕМ. *Абурэн.* Нічога не разумее хто. Першы раз такого бачу. Ты на яго крычы, лай яго, а ён нічого ні капу́я (разумее). Пень пнём! Маўчыць і лыпае вачыма. *Кунц., Кл. р.* Хлопяц кепско вучыцца мой. Яшчэ пісаць трохі піша, а задачкі рашаць ані, пень пнём. Адны двойкі стаяць. *Гор., Стаўб. р.*

ПЕРАБІВАЦЦА З БУЛЬБЫ НА КВАС. Бедна жыць. Як прыпомню, то аш страх. Адной нішчымнай заціркі наварыш, наядуцца і за работу. А дзе ш ты дзенісься? Так і перабіваліся з бульбы на квас, пакуль не пабольшалі хлопцы. *Сав., Стаўб. р.*

ПЕРАБЯГАЦЬ (перайсці) ДАРОГУ (дарожку) к а м у. Апярэджваць каго ў чым, перахопліваць тое, на што разлічваў нехта іншы. Думалі сватоў засылаць, зрабіць па-даўнейшаму, але дачуваемся, што некі хлопяц з Галавенчыц перабег дарогу, ужо зь ім ходзіць. *Жац., Стаўб. р.* Хацела забраць тоё лошко, хай бы стаяло, німа дзе спаць, калі на отпуск прыедуць. Дак жа спазьнілася, Тулейко перайшоў дарогу. Ціпер каюся, чаму я раней ні ўзяла. *Сав., Стаўб. р.* Глядзі, каб Зінка ні перайшла табе дарошку. Калі думаеш, то йдзі і прасіся (на работу). *Гор., Стаўб. р.* Ці я табе, Гэлька, дзе дарогу перайшла, што ты на міне вока ні маяш? *Там жа.*

ПЕРАГРЫЗЦІ НЕРВЫ к а м у. *Зласл., абурэн.* Надзвычай апрыкрыць каму, вельмі надаесці. Вона вжэ мні пэрэгрызла всі нэрвы со своімы ўборамы. *Вел., Пін. р.* Такы настырный чоловік був, шоб нэ покынула, нэрвы пэрэгрыз бы. *Там жа.*

ПЕРАД ВОЧМІ СТАЯЦЬ. Гл. СТАЯЦЬ У ВАЧАХ (перад вочмі).

ПЕРАЙСЦІ ДАРОГУ к а м у. Гл. ПЕРАБЯГАЦЬ (перайсці) ДАРОГУ (дарожку) к а м у.

ПЕРАЛІВАЦЬ (малоць, пераганяць, перасыпа́ць) З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ. *Неадабр.* Марна траціць час, займацца пустой балбатнёй, гаварыць абы пра што. Сядзелі (мужчыны) у шынку, пілі або рэзаліса ў карты, пералівалі с пустога ў парожняе, спорылі, ці выйдзе моцная гарэлка ж жыта, у якім многа г′ірусу. *Трух., Кап. р.* Што вам расказаць? З пустое ў парожняе пера-

ганяць ні хочацца. *Ульян., Сен. р.* Кап прышоў, расказаў што, а то нешто балбоча, выскаляяцца, меля с пустого ў парожняё. *Сав., Стаўб. р.* Настуся аддала соткі Ніне Кудзёлкавой Аляксеявой напалавіну. Насеня — Настусінэ, зямля — Настусіна, і напалавіну. Дак бачыш, які дахот. Тая Настуся толькі с пусто ў парожне перасыпле, а даходу ніяко. *Гр., Слуц. р.*

ПЕРАЛІЧЫЦЬ РЭБРЫ к а м у. Гл. РЭБРЫ ПАЛІЧЫЦЬ (пералічыць) к а м у.

ПЕРАМЫВАЦЬ КОСТАЧКІ к а г о. Гл. АБМЫВАЦЬ (перамываць) КОСТАЧКІ к а г о.

ПЕРАЯДАЦЬ СЭРЦА к а м у. Гл. АД'ЕСЦІ (ад'ядаць, выядаць, пераядаць) СЭРЦА (душу, нервы) к а м у.

ПЕРЦІСЯ НА РАЖОН. Гл. ЛЕЗЦІ (перціся) НА РАЖОН.

ПЕРШ-НАПЕРШ. Спачатку, найперш. Паслухайце, што ў нас с пасьцелі ёсь. Сяньнік перш-наперш, напханы саломай; простынь; адзінарная, баёвая і ватавая коўдра; коц, падушка, маленькая падушачка, наверх ясік. *Бяльм., Брасл. р.* На пасху разгаўляліся перш-наперш яечкам, потым водачкі, а пасьля водачкі і ўсякая яда йдзе. *Бял., Лаг. р.* Ты перш-наперш добро пад'еш, а потым едзь куды хочаш. *Зал., Стаўб. р.*

ПЕРШЫ ПА РАДУ. Самы прыкметны, самы паважаны (пра чалавека). Бывала, як мы адзіваліся бенна. Выбару і з адзежы ні было, і зь яды, хадзілі ў фарбаваным, свае работы. Кап такега во мацір'яла, як ціпер, была п першая дзеўка па раду. *Ульян., Сен. р.*

ПІРАГАМІ ВАРОТЫ ЗАКРЫВАЦЬ к а м у. Гл. ВАРОТЫ ПІРАГАМІ АДКРЫВАЦЬ (закрываць) к а м у.

ПІЦЬ ДА ГУЗІКА. Напіцца да непрытомнасці. Такі добры чалавек, рабіць ўсё ўмее, а от як вып'е трохі, прыдурнея, тады ўжо п'е да г'узіка. *Бял., Лаг. р.*

ПІЦЬ ЛЮДСКУЮ КРОЎ. Гл. НАПІЦЦА ЛЮДСКОЙ КРЫВІ.

ПІЦЬ САЛОДКІЯ РОЖКІ. Заканчваць вясельныя ўрачыстасці. На другі ці трэці дзень, як пажаніліся, субіраюцца госьці і п'юць салоткія рошкі, як гаворуць у нас. Гэта ўжо так на трэці дзень свадзьбы п'юць тыя салодкія рошкі. *Бяльм., Брасл. р.*

ПІШЧЫЦЬ ЗА ВУШАМІ. Гл. ЗА ВУШАМІ ПІШЧЫЦЬ.

ПЛАЦІЦЬ КАШУ. Даваць грашовую ўзнагароду бабцы за кашу, якою яна надзяляе гасцей (на радзінах). Паводле народнага звычаю, плаціць за кашу кум або кума. Ну й тады ўжо п'юць, гуляюць. Баба дае свой падарак, садзіцца на куце, вымае кашу прыбраную, і тады плацяць кашу. Хто болей дасьць, той і купіў кашу, кум там ці кума. *Тайкач., Уздз. р.*

ПЛЕСЦІ ЯЗЫКОМ. Гл. МЯНЦІЦЬ (плесці, мянташыць, трапаць, брэнкаць) ЯЗЫКОМ.

ПЛЕСКАЧА СХВАЦІЦЬ. Быць пакараным. Яка гадка дзеўка! Ашчэ й прытупвая! Я б ёй натупала, яна б у мяне жыва пляскача схваціла. *Гр., Слуц. р.*

ПЛЕСЦІ КАШЫ І ЛАПЦІ. Гаварыць глупства. Прышоў п'яны-п'янюсяанькі, пляце кашэ і лапці. *Сав., Стаўб. р.* Дзяцько дакучны. Уваліцца ў хату і сядзіць. А глухі. Што ні дачуя, прыложыць, а тады ходзіць па хатах і пляце кашэ і лапці. *Там жа.*

ПЛЕСЦІ ПЛЁТКІ. Гл. ПЛЁТКІ ПЛЕСЦІ.

ПЛЁТКІ ПЛЕСЦІ. Пляткарыць, абгаворваць каго. Казаў Збысек Варакса, інжынер гэты, у нас кабеты нічого не робяць, адно ходзяць, плёткі плятуць. *Сав., Стаўб. р.* Старая Агата, ведамо, рабіць німа чаго, ходзіць па вёсцы і брэша, пляце плёткі на людзей. *Жац., Стаўб. р.* Я, праўда, была там, але ні слова не сказала пра братавую. А назаўтра плётку пусьцілі, што я на яе нагаворваю. *Жац., Стаўб. р.* Ты нічого яму такого ні кажы, бо ён плёткі пуская па вёсцы. *Гор., Стаўб. р.* Сёстры Вацікавы гэткія языкачэ (пляткаркі) былі, плёткі плятуць адно. А брыткія, а ні харошыя, а злосныя, адно завідуюць другім. *Там жа.*

ПЛОТ ГАРАДЗІЦЬ. Гл. ГАРАДЗІЦЬ ПЛОТ.

ПЛОТ З ПЛОТАМ. Побач, у суседстве. Тэрэня добра пашла замуш, бацьке багатыя, блізінько жывуць сусім, во плот с плотам з маім сынам. *Сав., Стаўб. р.* Мая сястра жыве з вашымі сваякамі плот с плотам, адзін плот у вашых і нашых там, у Задвор'і. *Там жа.*

ПЛЯСКАЦЬ ЯЗЫКОМ. *Асудж.* Многа гаварыць, балбатаць. Ці ён (швагер) калі мне дроў прывёс, ці плот загарадзіў — за век палкі ні перакінуў, а, мой божа, «забоціцца», плешча языкам. *Гр., Слуц. р.* М'ёду, яблык поўна, а калі ўжэ прывязе трохі, жмінда эта, дак столькі гаворкі! А на мой харакцяр, дак ты ні давай, але й языкам ні пляшчы. *Там жа.*

ПОГАЛАСКУ ПУСКАЦЬ. Гл. ПУСЦІЦЬ (пускаць) ПОГАЛАСКУ.

ПОРЦІЦЬ КРОЎ каму. Гл. КРОЎ ПСАВАЦЬ (папсаваць, порціць, папорціць) каму.

ПРАВАЯ РУКА каго, чыя, у каго. Першы памочнік, дарадца. Столькі работы трэба зрабіць, але ш думаю, ты мне паможаш. Ты ш у мяне правая рука, так што прыходзь заўтра зранку. *Кунц., Кл. р.* Лагодзіч ціпер ого! Правая рука Уладзіміравіча. Вот толькі хварэя часто, лечыцца. І ціпер недзя на курорці. *Сав., Стаўб. р.*

ПРАВАЛІЦЦА ПРАЗ ЗЯМЛЮ. Бясследна знікнуць, прапасці, згубіцца. Вот жа толькі што быў, гаварыў, а гэто зьнік, як праваліўсё праз землю. Ізноў шукаць давядзецца, дзе той хлопяц. *Жац., Стаўб. р.* Генько, паглядзі ты, сынок, дзе наш нош. Здаецца ш, от сюды клала, ляжаў, тут, а як праваліўсё праз зямлю, німа чым картофлі абабраць. *Сав., Стаўб. р.* Хацела раніцаю крапіву пажжынаць кала платоў, але ні ведаю, дзе палажыла серп, галава стала як рэшато. Учоро прыгатавала, а сёньня ні прыпомню. Шукала, шукала, як праз зямлю праваліўсё. *Там жа.*

ПРАВІЦЬ ЖАЛОБНЫ СТОЛ па кім. Спраўляць памінкі па родным чалавеку ў сорак дзён, у год пасля смерці яго. А тамака во як робюць шасьціны (памінкі ў сорак дзён). Увечара робюць вячэру, а назаўтра рана ідуць на могліцы ўсёй радснёй, усяга там аткладаюць на магілку, а тады йдуць у хату, садзяцца за стол і правяць жалобны стол. *Хал., Бар. р.*

ПРАВІЦЬ СВАЁ. Гл. СВАЁ (права) ПРАВІЦЬ.

ПРАГНАЦЬ СМАГУ. Зменшыць патрэбу піць. Прыбегла Марынка і адразу да вядра: «Бабунька, піць хочу». «На,— кажу,— кісяльком прагані смагу». *Сав., Стаўб. р.* Помню, некалі на полі жнеш, жнеш, а піць хочацца, ні вытрымаць. А бацько прынясе гладышык вады, п'еш, п'еш, ні адпіцца, пакуль трохі смагу прагоніш. *Там жа.* Заходзяць у хату, ну, запрашаю сесьці, а яны: «Цётачка, дай напіцца». Я ім скарэй малачка, хай хоць смагу прагоняць. *Шаш., Стаўб. р.*

ПРАЗ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІЦЦА. Гл. ПРАВАЛІЦЦА ПРАЗ ЗЯМЛЮ.

ПРАЗ (цераз) ПАРОГ НЕ ПЕРАСТУПІЦЬ. Не бываць у каго, не заходзіць да родных, вырачыся іх. І Маршáлкава казала, пакуль Волька магла, дак хадзіла, а ця-

пер ніхто ня ходзіць. Бывая, за дзень ніхто церас парох не пераступіць. *Гр., Слуц. р.* За цэлы дзень ніхто парох ні пераступіць, от ужэ зімою сумна у нас. Сядзяць старыя дома, ці прасі ці ні прасі. *Там жа.* Нек даўней хадзілі адзін да аднаго, а ціпер праз парог ні пераступіць ніхто. Што гэто зь людзьмі сталасё?! *Гор., Стаўб. р.*

ПРАЗ чые РУКІ ПРАХОДЗІЦЬ. Гл. ПРАЙСЦІ (праходзіць) ПРАЗ чые РУКІ.

ПРАЗ ЧОРНЫ ХОД. Гл. ЧОРНЫМ ХОДАМ. З ЧОРНАГА ХОДУ.

ПРА ЗЯЗЮЛЮ. Гл. НА ЗЯЗЮЛЮ.

ПРАЙСЦІ (праходзіць) ПРАЗ чые РУКІ. Знаходзіцца пэўны час у распараджэнні каго. Кончыў усяго два класы, знаў чатэры дзейсьцьвія: множаньне, дзяленьне, складаньне і адыманьне. А колькі грошай прайшло праз яго рукі, як працаваў у райфо, налогі сабіроў! *Бял., Лаг. р.* Работы хваціло б на трох кладаўшчыкоў, а ён жа адзін спраўляецца. Устаня сь цёмнага сьвету і да цямна, усяка маг'улінка праз яго рукі праходзіць. *Сав., Стаўб. р.* У яго работы як ні ў кога. Такі калхос, і ўсё ж праз яго рукі праходзіць. Ці пакамандаваць, ці сабранё якоё правесьці, усё трэба бачыць. *Гор., Стаўб. р.*

ПРАМЫЦЬ ВОЧЫ. Спаласнуць твар. Што гэто за дзеці: не прамые вачэй, ужо за стол скарэй суняцца. *Сав., Стаўб. р.* Ідзі, Мішка, вочы прамый трохі пасьля ночы, ні бачыш яшчэ, і лесь за стол, будзям сьнедаць. *Там жа.* Робяць механізатары много, ні дня ні ночы ні ведаюць, чуць сьвет прамыя вочы й пашоў. *Гор., Стаўб. р.*

ПРАПАДАЦЬ ПРОПАДАМ. Форма выяўлення вялікага незадавальнення, прыкрасці з прычыны чаго. Або яе жызьня! Ніколі ні адзеніцца, ні прыбярэцца як людзі. Самая нарадная плацьця — сіццавая. Хай іна пропадам прападзець тыкая жызьць! *Ульян., Сен. р.* А прападзі яно пропадам! Каб я цягаўсё цэлы божы дзень па гэтай макрэчы так сабе, ідзём дахаты! *Жац., Стаўб. р*

ПРАПАСЦІ ЗА МАРНЫ ЦЕНЬ. Загінуць за ніштo, здуру. Агонь як падвінуўся і ўвесь на яго. Стаў ён гарэць як слуп агнявы. Прапоў за марны цень. *Пр., Стаўб. р.* Гэта было ўжо даўнавата. Патходжываў дзісятнік да дзеўчыны і месны наш патхаджываў, хлопяц свой, сь Церабены. А вечарам пабіліся хлопцы, гэты наш стаптаў дзісятніка, а тады палкаю зьбіў. І чалавек прапаў за марны цень. *Там жа.*

ПРАПАСЦІ З ВУШАМІ. Згінуць, знікнуць. Сьнех мяккі-мяккі, тры-чатыры метры. Як ідзеш па трапінкі, нічога, як у сторану — прапаў з вушмі. *Бяльм., Брасл. р.* Адзін рас я лавіў рыбу. Загаціў езá (дзела зімою было), вельмі лезла рыба. Прынёс я дадому пудоў два рыбы, а жонка кажэ, што немцы ў солтуса і, кажуць, што пойдуць трасьці рыбу па езох. Я пабех на рэчку (а ў мене быў першы ез ад села), закідаў палонку лядзінамі, адаля сьнёгам, а сам у кусты. Вось ідуць яны ўсе чарадою пад ез, а камендант і кажэ, што тут набером рыбы. Адале як шалыгнуў у палонку, то й шапка сплыла. А я сяджу ў кустах і думаю: «Вось як табе лавіць рыбу. Гад, прапаў з вушмі». *Кол., Нясв. р.*

ПРАПАСЦІ ЯК РУДЫЯ МЫШЫ. Марна загінуць. Пачакайця, памру, то прападзяце як рудыя мышы, калі вы маткі ні хочаця слухаць. *Сав., Стаўб. р.* Тады зь лесу як пачало жарыць з арудзіяў, то думалі ні выжывям, прападзём як рудыя мышы. *Жац., Стаўб. р.*

ПРАЎДУ КРЫЦЬ. Адкрыта, шчыра гаварыць. Ня ўмея наш брыгадзір нас падвясяліваць, праўду крыя — і ўсе. *Бял., Лаг. р.* А чаго я буду яго баяцца? Праўду крый — ды ўсё, а то ў дураках астанесься. *Сав., Стаўб. р.*

ПРАХОДУ НЕ ДАВАЦЬ к а м у. Гл. НЕ ДАВАЦЬ ПРАХОДУ к а м у.

ПРОГЛІЦА НАПАЛА н а к а г о. *Незадав.,* Многа з'есці чаго, прагаладаўшыся, есці як не ў сябе. Мае сьвіня, каб яны нечаго падохлі, не ўкарміць — пішчаць і пішчаць — не ўкарміць. І днём добро дала, малачай кідала, бяроскі прынесла — і ўсё давай. Вот проглiца напала. *Сав., Стаўб. р.* Ідзі, ідзі рабіць, а то ўсё каля шкафчыка аціраясься, ні ўкарміць цябе, нека прогліца напала на хлопца — давай яму і давай, не набрацца яды тае. *Гор., Стаўб. р.*

ПРОСА ТАЎЧЫ. Гл. МАК (куццю, проса) ТАЎЧЫ.

ПРЫБРАЦЬ К РУКАМ. **1.** к а г о. Прымусіць падпарадкоўвацца, слухацца. Даўно ўжо пара прыбраць яго к рукам, бо вельмі ж распусьціўся, швэндаецца ўвесь дзень па вёсцы. *Кав., Старадар. р.* **2.** ш т о. Прысвоіць, украсці. Яна такая, што ні ш чым ні разьмінецца, усё прыбярэ к рукам. *Кав., Старадар. р.* Недзе машынка (запальнічка) прапала, можа дзяцько прыбраў к рукам, няйначай гэто яго работа. *Сав., Стаўб. р.* Прасіла яго прывесьці мне зь Мінска тоё лошко. Ён-то прывёс, але

ні мне, а сабе дадому, сьцішком прыбраў к рукам, і ні знайся. Сьпі цяпер на чым хочаш. *Гор., Стаўб. р.*

ПАЙСЦІ НА ПРЫМАКІ да каго. Гл. ПАЙСЦІ (ісці, прыйсці) НА ПРЫМЫ (на прымакі) да каго.

ПРЫЙСЦІ НА ПРЫМЫ да каго. Гл. ПАЙСЦІ (ісці, прыйсці) НА ПРЫМЫ (на прымакі) да каго.

ПРЫЙСЦІСЯ ДА СПАДОБЫ каму. Спадабацца, быць да густу. Прыехала да нас тут дзеўчына некая з-за Стоўпцаў. Так, нішто сабе, от некая жмурачка, маленькая, круглянькая. Пажыла, можа, з год і замуж выскачыла. Прышлася да спадобы Івану Курылу. *Сав., Стаўб. р.* Селі, гаворым. А я ўсё на свата цікую, натто ж ён мне да спадобы прышоўся. Вёрткі, спрытны, а так прыгожыўся, што від меў куды мілейшы і спадабнейшы, чым у маладого. *Усел., Навагр. р.* Наварыла ў чыгунку верашчакі зь мясам-салам, і ўся. Дзеці выялі. Даўно ні варыла, то прышлася да спадобы, нічого ні асталосё. *Жац., Стаўб. р.*

ПРЫЙСЦІ НА ПАМЯЦЬ. Успомніць, прыпомніць што. Може ў вас, у том хазяйсьцьвянном (гаспадарчым магазіне) якая замаска мне на печ ест. Глінай замажу — пабудзя, пабудзя й адвальваяцца. Може калі прыдзя на памяць, купі мне. *Сав., Стаўб. р.* А ў Мінску гэтаго чалавека сустрэла, што ў вас быў.. ні ўспомню, як вы яго называлі, не прыдзе на памяць. Прывітаўся са мною, пагаварыў трохі, пра вас пытаўся. *Жац., Стаўб. р.*

ПРЫКІДВАЦЦА АВЕЧКАЙ. *Дакор.* Свядома наіўнічаць, рабіць выгляд недасведчанага, некампетэнтнага ў чым. Не прыкідвайся, Міхась, авечкай, ты ж быў разам зь імі, ведаяш, як там што, расказвай, дзе яны падзеліся. *Зал., Стаўб. р.* То чаго ты прыкінулася авечкай, словам ні абзавесься? Нябось, ведаяш, куды дзіця лазіла. *Сав., Стаўб. р.*

ПРЫЛІПАЦЬ ЯК ДА СМАЛЫ. Гл. ПРЫСТАЦЬ (прыліпаць) ЯК ДА СМАЛЫ.

ПРЫСТАВАЦЬ У ПРЫМЫ да каго. Гл. ПАЙСЦІ (ісці, прыстаць) У ПРЫМЫ да каго.

ПРЫСТАЦЬ У ПРЫМЫ да каго. Гл. ПАЙСЦІ (ісці, прыстаць) У ПРЫМЫ да каго.

ПРЫСТАЦЬ (прыліпаць) ЯК ДА СМАЛЫ. ПРЫСТАЦЬ ЯК СМАЛА ДА ПЛОТУ. *Незадав.* Надакучыць каму частымі просьбамі, назойлівымі роспытамі; назаляць, дадзяваць. Нядаўна кіно было ў клубе, то мужык

прыстаў да яе як да смалы якой: «Пашлі й пашлі»,— а ў яе гэдак галава балела, ні пашла, як ні прасіў. *Кунц., Кл. р.* Чаго ты прыліп да гэтаго Воляся як да смалы? Ідзі на двор, пагуляй, кветачак нарві, можа, ужо трускаўку знойдзяш якую. Схадзі, схадзі, унучак. *Сав., Стаўб. р.* Чаго ты да яе прыстаў як смала. Апраніся, ідзі пагуляй зь дзецьмі на дварэ. *Востр., Зельв. р.*

ПРЫШЫЙ КАБЫЛЕ ХВОСТ. *Непав., непаш.* Непатрэбен, лішні, не мае ніякіх адносін, дачынення да каго, да чаго. Кажаця, каб дзяцьку пазваць. Хто яго ведая, той дзяцько тут прышый кабылі хвост. Управяцца і Вацік з Юзікам, сабе ш колюць (свіней), чужых ні клічуць. *Сав., Стаўб. р.* Гэто ж мой надумаўсё прасіць і таго ж Жацерава (на імяніны). А я кажу яму: «Ні прасі, брытко ад людзей, зь яго ўсе вунь сьмяюцца. Зьбяруцца твае таварышы, свае хлопцы, с кім робіш, пагуляяця. А той тут прышый кабыля хвост». *Гор., Стаўб. р.*

ПТУШЫНАГА МАЛАКА (толькі) НЕ ХВАТАЕ (няма). Аб багацці розных прадуктаў, закусак; не хапае толькі таго, чаго ў сапраўднасці і быць не можа. Вельмо ж багатая свадзьба была, сталэ аж гнуліся ад закускі багатае: і каўбас усялякіх, і салатаў, і мясного — усяго хватало, апроч птушынага малака. *Падг., Кар. р.* Узьлес дзет на неба, а там? Чаго толькі там ні хватая! Усягоусяго шмат, аднаго толькі птушынага малака німа. *Арэш., Бяр. р.* Цяпер людзям жыць а жыць, дабра ўсякаго, чаго ты хочаш, птушынаго малака толькі ні хватая. Вот жыцё прышло! *Жац., Стаўб. р.* Як жылі на поўначы, ў іх ўсяго-ўсяго было, можа, птушынаго малака ні хватало, аклад двайны палучалі, яна заведувала кафэйнай. *Там жа.*

ПУСКАЦЦА НА ХІТРЫКІ. Хітраваць, падманваць. Ні глядзі, што малы, а вот лжэ, пускаяцца на хітрыкі ўсялякія. *Сав., Стаўб. р.* Ай, смаркач, малако на губах ні апсохло, а ўжо на хітрыкі пускаяцца. Скажу бацьку, то нацягая за вушы. От сьвет пашоў! *Гор., Стаўб. р.*

ПУСКАЦЬ ДЫМ У ВОЧЫ к а м у. Гл. ДЫМ ПУСКАЦЬ У ВОЧЫ к а м у.

ПУСКАЦЬ (напусціць) НА МУКУ к а г о. Пакідаць на гадоўлю (скаціну, птушку), не разлічыўшы харчы. Куранятаў болій за трыццаць, пасадзілі дзьве квакухі. Іх жа карміць нада, а ён жа жалеіць. Та нашто ш ты пускаў на муку? *Ліцв., Карм. р.* Напусьціла на муку гэ-

тых індыкоў, ні корміць, думала, мусіць, што на балоця пад'ядуць. А індык жа такая птушка, што кармі яе й кармі. *Сав., Стаўб. р.*

ПУСКАЦЬ НА СВЕТ. Гл. ПУСЦІЦЬ (напусціць, пускаць) НА СВЕТ.

ПУСКАЦЬ ПУСТАПАСАМ. Гл. ПУСКАЦЬ У ПУСТАПАС.

ПУСКАЦЬ ПЫЛ У ВОЧЫ к а м у. Гл. ПЫЛ У ВОЧЫ ПУСКАЦЬ к а м у.

ПУСКАЦЬ У ПУСТАПАС. ПУСКАЦЬ ПУСТАПАСАМ. Пасвіцца без пастуха, без нагляду. Некалі ў пустапас ні пускалі скаціну, пілнаваць трэба было. *Пр., Стаўб. р.* Пусьціў скаціну пустапасам, зьвяла чалавеку ў гародзе ўсё. *Сял., Маладз. р.*

ПУСТЫ ПАДПАЎ. Смяяцца бездайпрычыны; хто ў такім настроі, калі ўсякая дробязь выклікае смех. Ты сягонячы цэлы вечар гы-гы і гы-гы. Пусты патпаў ці што? *Веч., Стаўб. р.* Нешта раскалясіўся ты, упынку німа, пусты патпаў. Сьціхні, а то галава расколваяцца ат твайго сьмеху. *Сав., Стаўб. р.* Сабраліся на пругмені ў міне кабеты пасядзець. Сьвяты дзень, нядзелька, цёпло. Разгаварыліся, а Анюта рагоча й рагоча. Хто што скажа, а яна ў рогат. Пусты патпаў. *Гор., Стаўб. р.*

ПУСЦІЦЬ З ДЫМАМ ш т о. Спаліць. Наш Эдзік, помніш, казаў, што з дымам усё гэто дабро пусціць. Гэдак ён, бедны, пераржываў. *Сав., Стаўб. р.* Гэтае карчэўе кап пусьціў з дымам, вот авёс вырас бы тут. *Там жа.* Нас немяц у позьнюю восянь пусьціў з дымам, дабро ўсё чысто згарэло, голыя асталіся, чуць жывыя. *Гор., Стаўб. р.*

ПУСЦІЦЬ НА ВЕЦЕР ш т о. *Асудж.* Марна расходаваць, праматаць (грошы, заробак). Хату прадаў, хай бы ш ты купіў лесу і новую паставіў. Дак не. Грошы пусьціў на вецяр, а ціпер жыць німа дзе. *Жац., Стаўб. р.* Зарабляя добро, але жыве ні вельмі, грошы ўсе паччыстую на вецяр пуская, нічого ні завядзецца ў хаці. *Сав., Стаўб. р.* А я скажу: жыць ні ўмея. Там (у горадзе) жывуць з граша, і паехаць куды, заплаці, і ў кіно трэба схадзіць, і адзецца, кап ні сьмяяліся, і купіць што, а ён грошай ні шануя ані — заробіць і пуская на вецяр. *Гор., Стаўб. р.*

ПУСЦІЦЬ (напусціць, пускаць) НА СВЕТ. Нарадзіць; даць магчымасць з'явіцца на свет (хатняй жывё-

ле, птушцы). Я цібе пусьціла на сьвет, кап ты чалавекам быў, а ты жулікам расьцеш. Брытко ад людзей слухаць, што ты выробляяш! Каб бацько жыў, ото даў бы! *Гор., Стаўб. р.* Курэй, гусей — ні абагнацца. Напусьціла на сьвет, а ціпер каюся — спасу німа, у агарот лезуць, загон картофлі здрасавалі, спляжылі, нічого ні расьце. *Сав., Стаўб. р.* А нашто было таквеля пускаць на сьвет? От, зь дзесяць высядзяла п і хваціло п, а то рады ні даць ціпер. *Жац., Стаўб. р.*

ПУСЦІЦЬ (пускаць) ПОГАЛАСКУ. Разнесці чуткі. Людзі ж ведаюць, што ест (золата), але дочкі зубы залатыя паўстаўлялі, дак бацько пусьціў погаласку, што шукалі, шукалі ж, кап дзе залатнічок купіць. Во як багатыя людзі робяць. Багатыя, але няхітрыя. Бо хітры гэдак рабіць ня будзя. Людзі ж ведаюць, нашто тую погаласку пускаць, каго ты ашукаяш? *Сав., Стаўб. р.* Антонікаў Адась пусьціў погаласку, што сын добро зарабляя, жаніўсё там, некую хахлуху ўзяў замуш. *Там жа.*

ПЫЛ У ВОЧЫ ПУСКАЦЬ к а м у. Падманваць, хлусіць, выстаўляць сябе, сваё становішча ў лепшым святле, чым ёсць на самай справе. Гэты Адамішын толькі балбоча, пыл у вочы пуская, дзе бачылі, каб гэты хітрун сказаў вам праўду. *Жац., Стаўб. р.* Учоро я яго у Стоўпцах бачыў, гаварыў мне, што купіў мукі, а матка яго казала, што ні купіў ні грамачка, так прыехаў. Слухай ты яго, пуская пыл у вочы, хваліцца. *Там жа.*

ПЭНКАЦЬ СА СМЕХУ. Гл. КЛАСЦІСЯ (заходзіцца, падрывацца, парвацца, пэнкаць, дайсці, залягацца) АД (са) СМЕХУ.

ПЭЦКАЦЬ (усадзіць) РУКІ. Прымаць удзел у непрыстойнай, ганебнай справе. Учоро ўся іх кампанія кала магазіна гарланіла, а я ні ўмешвалася, ні хацела пэцкаць рукі, хай там хоць здохня (муж) зь імі разам, з гэтымі п'яніцамі. *Гор., Стаўб. р.* Да не, цётка, я ні лес. Во, хай Коля скажа. Нашто пэцкаць рукі. Ці я ні ведаю, што гэто нідобро. *Сав., Стаўб. р.* Немач яго ведая, чаго я тады рукі ўсадзіў, палес. *Ас., Стаўб. р.*

ПЯРЭПАЛАХІ ВЫБІРАЦЬ. Гл. ВЫБІРАЦЬ ПЯРЭПАЛАХ (урокі).

ПЯЧЫ ВОЧЫ к а м у. Папракаць, упікаць. Яны пякуць вочы мне й цяперыцька, шта я ні пасьвечыла. А як я скажу, шта відзіла, як яны білісі, калі я ні відзіла. Я лгаць ні буду, хай самі разьбіраюцца. *Ляўк., Арш. р.*

# Р

РАБІНАВАЯ НОЧ. Летняя ноч з няспыннай навальніцай і бліскавіцамі. Вельмо бліскацець стало, пеўне будзя арабінава ноч. *Вяліч., Сал. р.*

РАДАЧКІ НЕ ДАЦЬ. Гл. ДАВАЦЬ (даць) РАДЫ (радачкі) к а м у. Знач. 2.

РАДЗІЦЦА Ў САРОЧЦЫ. Быць шчаслівым, мець удачу, поспех, шчасце ў жыцці, рабоце і г. д. Аньця радзілася ў сароццы, мусіць. І дзеці ў цябе харошыя, і гаспадар добры, дбайны. *Шаш., Стаўб. р.* Дзе мне с табой зраўнівацца, у цябе ўсё йдзе як па-пісанаму. Ты на гэты сьвет у сарочцы радзілася. *Кав., Старадар. р.* Гэлька вельмі добро жыве за сваім чалавекам. Вот жа ў сароццы радзілася кабета, а думалі, што век зьвякуя адна ўжэ, такая бруткая. *Жац., Стаўб. р.*

РАДЫ ДАЦЬ к а м у. Гл. ДАВАЦЬ (даць) РАДЫ (радачкі) к а м у.

РАДЫ НЯМА (нет). Не знаходзіць, не знайсці выйсця са становішча. Во прышчэ населі. Скраблю і рады німа. На руках надзяру, аш кроў, баліць. Нада ў Браславе зьезьдзіць, можа, што дасьць (доктар). *Зам., Брасл. р.* Паеду, рады німа. Кажды дзень так дзяруся, о тут о, бачыш, рупцэ, прышчэ. *Там жа.* Гусак б'ецца. І шкода рэзаць і рады німа. Ухваціцца да станя крыламі біць, як стане даваць, як сагне да гэтымі вот (шпонамі). Упляцецца, ні атарваць. *Бяр., Слуц. р.* Майго суседа Міхася задумаў сын жаніцца малады, нет рады. Мацер слухаець, сьвіньней корміць, у калхос ходзіць, толькі, мамачка, буду жаніцца. *Вар., Докш. р.* Трэба пад нядзелю пеўня зарэзаць, рады німа зь ім, б'ецца, курэй вядзе аш у калхозны ячмень. *Сав., Стаўб. р.*

РАЗБІВАЦЦА Ў ДОШКУ. Гл. РАЗБІЦЦА У ДРЭЗГ.

РАЗБІЦЦА Ў ДРЭЗГ. РАЗБІВАЦЦА Ў ДОШКУ. Прыкласці ўсе намаганні, зрабіць усё магчымае для дасягнення, ажыццяўлення чаго. Ніна разьбіваласа ў дошку, дзяржала яго (мужа), колькі прасіла, каб ішоў дадому, на калені станавіласа — і ні паслухаў. *Гр., Слуц. р.* Разаб'юсь у дрэзг, а аддам. Цётка, ня бойсь. Я вам аддам грошы. *Ліцв., Карм. р.*

РАЗВЕСІЦЬ (распусціць) НЮНІ. *Незадав.* Плакаць, ныць, хныкаць. Ну што ты разьвесіў нюні?! Як табе ні брытка, а яшчэ мушчына называецца. *Райч., Пух. р.* Пе-

растань, перастань. Вялікая ўжо дзевачка, распусьціла нюні, пасаромялася п; кругом людзі пазіраюць. *Кунц., Кл. р.*

РАЗВОДЗІЦЬ ТАРЫ-БАРЫ. *Асудж.* Бавіць час у пустой размове з кім, марна траціць час на пустую балбатню, многа гаварыць. Мы сабе скорынько ямо, ямо ды ў поле, араць трэба, а яму што? Сядзіць, пане мой, дома, разводзіць тары-бары с кім або ляжа й сьпіць. *Кунц., Кл. р.* Покуль мы тут разводзілі тары-бары, куранятніца ўлезла ў агарод і нарабіла шкоды. *Сав., Стаўб. р.*

РАЗЖЫВАЦЦА НА КАЛЕ. Пачынаць весці гаспадарку з нічога, на пустым месцы, без ніякіх запасаў і староннняй дапамогі. Як войско польско шло, Аляксандар каня ўкраў, у лес уцёк, то яны (палякі) хату спалілі. Ражжываліся потым на голым калé. *Остр., Маст. р.*

РАЗЁВУ КУПЛЯЦЬ. Бязмэтна совацца, таўчыся без справы, марна траціць час. Паехалі ў Дзярэчын на кірмаш, а мой мужык усё ходзіць і ходзіць, анічога не купляе. Раззлавалася на яго, кажу: «Чаго ты ходзіш, разёву купляеш? Такі базар, а не выбярэ, кап купіць што». *Міл., Маст. р.*

РАЗ ПЛЮНУЦЬ. Надзвычай лёгка, нічога не значыць. Гэтаму балбесу пакрыўдзіць чалавека — рас плюнуць, не чапайця вы яго, не агрызайцяся. *Жац., Стаўб. р.* Эдзіку нашаму скасіць норму — рас плюнуць, ні то што другія, аглядаюцца, кап час скарэй прайшоў. *Там жа.* Марусі дайсьці да Асіпаўшчыны — рас плюнуць, яна яшчэ маладая, здаровая. *Сав., Стаўб. р.*

РАЗ-ПОРАЗ. РАЗ-ПОРАЗУ. Зноў і зноў, шмат разоў запар. Нешта бальшоя нёс бусіл, хоць вужа, хоць гадзюку. І так цэлый дзень, рас-пораз нося й нося. Бусьлянёнкі бальшэя да шчэ ні лётаюць самы. *Ліцв., Карм. р.* Ідзём мы с поля, а ноч цёмная, хоць воко выкалі, душная. А потым дошч — праліўны, як зь вядра, а маланка пачала рас-поразу даваць. От мы баяліся тады. *Сав., Стаўб. р.* Дзеці рас-поразу бегаюць на рэчку, горача — ні вытрымаць, апаласнуцца і дахаты. *Жац., Стаўб. р.*

РАЗЯВІЦЬ РОТ. Гл. РОТ РАЗЯВІЦЬ (разінуць).

РАСІНКІ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО. Гл. РАСЫ (расінкі) Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО.

РАСКАЦІЦЬ КЛУБОЧАК. Гл. КЛУБОЧАК РАСКАЦІЦЬ.

РАСКВАСІЦЬ НЮХАЎКУ. *Зняваж.* Пакалечыцца,

ударыць па носе. Чаго ш ты равеш? Сам сабе расквасіў нюхаўку, ніхто цібе ні чапаў. *Зал., Стаўб. р.* Трэба было нюхаўку расквасіць за гэто. Жарты, хлопяц прышоў ледзьве жывы, увесь мокры-макрусінькі, плача: «Міне Сашка ў тартоўню (яма на балоце, дзе выкапалі торф) папхнуў». «А чаго вы там насіліся, каля тых тартоўняў?» *Сав., Стаўб. р.* Гадкія хлопцы Міхашчай. Улезьлі ў агарот і здрасавалі гуркі пад яблыняй. О, кап я іх злавіў тамака, ото б расквасіў катораму нюхаўку. *Жац., Стаўб. р.*

РАСПУСЦІЦЬ НЮНІ. Гл. РАЗВЕСІЦЬ (распусціць) НЮНІ.

РАСПУСЦІЦЬ ЯК ДЗЕДАВУ ПУГУ к а г о. Патураць, даваць волю каму (звычайна пра дзяцей). Дачку выгадавала, выпяленг'увала, распусьціла як дзедаву пугу. А цяпер і сама ні рада. Бач, на ферму, кажа, мужык пойдзя, а дачка сядзіць дома, дачка ня йдзе. *Сав., Стаўб. р.* Ціпер дзеці ўсе разбэшчаныя, ні слухаюць бацькоў. А я даўно казала: распусьцілі вы іх як дзедаву пугу, то ці будзя дабро. Ба́цькам камандуюць! *Гор., Стаўб. р.*

РАСПУХАЦЬ ЯК ПРЫ НАДЗЕІ. Распаўнець, мець вонкавае падабенства з цяжарнай жанчынай. *Іран., недобразыч.* Быў малады спрытнянькі, а гэта здаровы зрабіўся, распух як пры надзе́і, бруха гэна выперла, як у бабы бярэмяннай. *Бял., Лаг. р.* Нос той вялізны, што бульбіна, сам таўсты-таўсты, распух як пры надзеі. Відаць, што добра жывецца. *Там жа.*

РАССЫПАЦЬ КРУПЫ. Пасварыцца. Увесь век мы пражылі зь ей вугал з вуглом, хадзілі заўсёды разам, сябравалі, а потым і рассыпалі кру́пы. *Ульян., Сен. р.*

РАСЦЕ Ў РОЦЕ. **1.** Без апетыту, з нежаданнем, не хочучы есці што. Наша Аня ото лютаега. Сядзе есьці і ў році расьце. *Сав., Стаўб. р.* **2.** Непрыемнае на смак што. Наварыла капусты, гэдака смашна ўдалася, а ён кажа, расьце ў році. Ужо ні ведаю, што яму гатаваць. *Сав., Стаўб. р.* Гуркоў насаліла, да некія неўдаліса. У роце расьце, як возьмяш. *Гр., Слуц. р.* **3.** Агідна, няма ніякага жадання есці. А пасадзіць сьнедаць, а ад той яды аж ўсё ў роця расьце. Сала тое елкае, салонае, старое, яечка як укусіш, дык і разявісься. *Хож., Маладз. р.* Сястра паставіла місу катлет (а неік посьля вайны гэта было) на стол, частуе й кажа: «Еш, сястрычка, сьвежанькія,

толькі ўчора жарабятка дарэзалі». Я катлету ў рот, а яна з рота, так і расьце ў роце, так і расьце. Чуць я зьела тую катлету. *Слаб., Лаг. р.*

РАСЫ (расінкі) Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО. Зусім не еў, не піў. Пайду пасьнедаю, а то за пяць дзён ръса ў році ні была да двох часоў,— талакой вазілі дровы бабам. *Ліцв., Карм. р.* А я ж табе бульбу з васьмі да пяці выбірала, расінкі ў роце не было, а ты мне скулу заплаціла. *Ульян., Сен. р.* Сьвіню эту так цяшка было карміць, штотыдзень гудзе й гудзе. Адзін рас дак ужэ думала, шта дойдзя, тры дні пластом ляжала, макавай расінкі ў роце не было за тры дні. *Гр., Слуц. р.*

РАЎЦІ РОЎМА. Гл. РОЎМА РАЎЦІ.

РАЎЦІ ЯК КОНЬ. Гл. ЯК КОНЬ РАЎЦІ.

РВАЦЬ ЖЫЛЫ (пуп). Працаваць з максімальным напружаннем, напружвацца з усёй сілы. І баба рвала жылы разам са мной. Дзяцей цягала за плячыма ў поле, усю работку рабіла зь дзеткамі, покуль узрасьлі. *Януш., Лаг. р.* Як ба хто другей скызаў даць пяць рублей на ачыстку калодзежа, дала б два рублі, ні пяць — два, затым што кыпаў, а Нідбайлава ні панімаю, панімаць ні хачу, прывык загадываць толькі. Як кыпалі (калодзеж), тады Нідбайлаў ні рваў пуп, ні дзеці яго ні рвалі пуп, тады ён ні іньцірысуваўся. *Ліцв., Карм. р.* Што з таго, што мы на сваёй зямлі рвалі жылы? Што мы мелі з таго? Карысьці ніякай ні было, усё аддай на пастаўку. *Хал., Стаўб. р.* Нек горна, абінна, за дзесяць капеяк рві пуп цэлы дзень. Але што зробіш! Свайго поля толькі чацьвярцінка была. *Гр., Слуц. р.*

РОВАМ РАЎЦІ. Моцна, гучна плакаць. Гэто сягоньнячы прыбягаю с поля, а мае дзеці нешто там ні памірыліся, меньшая ровам раве сярот хаты, а ў хаці ўсё дагары нагамі. А тут сьвіня пішчаць, даваць трэба. Работы хоць разарвіся! *Сав., Стаўб. р.* Ніхто яго там ні чапаў вельмі, але як увёўся, то ровам роў. Далёко чуваць было. *Там жа.*

РОГІ АБЛАМАЦЬ к а м у. *Асудж.* Прымусіць каго скарыцца, збіць фанабэрыю. У сельсавеце выступая некі махлакаваты мужык супраць пратсядацяля, ніправільно паводзіць пратсядацяль. Ён слухая, слухая, а тады як стаў сам выступаць. Ён гэтаму мужыку як бачыш рогі абламаў. Мне панаравіласё выступленё пратсядаціля. *Вар., Стаўб. р.*

РОГІ ВЫРАСТУЦЬ (вырастаюць) у каго. Пыхлівы, фанабэрысты, ганарысты хто. Калі ні будзяш укладаць дзяцей, вучыць добраму, то разбасячацца, рогі вырастуць на галаве. От паглядзіш! *Хал., Стаўб. р.* І што з гэтым хлопцам робіцца? Ні слухае, хоць ты што, бákі запірае, слова яму ні скажы. І калі ў цібе гэто рогі вырасьлі? Пачакай, вот дабяруся я да цібе, то дам. *Сав., Стаўб. р.* Не патурай ты яму, а то ў яго рогі на галаве вырастуць. *Ян., Нясв. р.* Сынок у яго добрая цаца, ведамо, распусьціў. Работы ніякай, толькі гулі зная. Слухаць перастаў, агрызаяцца бацьком. Рогі вырастаюць у хлопца. *Зал., Стаўб. р.*

РОГІ ПАЗБІВАЦЬ каму. Гл. ПАЗБІВАЦЬ (збіць) РОГІ каму.

РОДАМ БЯРЭ каго. Пачаліся перадродавыя схваткі ў каго. Мяне родам бярэць, а я Сямёну рубашку мыю. Ну, але тады чуць ні памёрла, прастудзілася. *Ульян., Сен. р.*

РОЕМ (шнурам) ХАДЗІЦЬ за кім. Карыстацца поспехам у каго. У нас быў дзяцюк, і ён, гэты дзяцюк, мая ты міленькая, быў багаты. Як было яму дваццаць дзевяць гадоў, дзяўчата за ім роем хадзілі, а цяпер яму каля сарака, ходзіць абдраўшыся, чужыя місы падлізвая. От як бывая. *Каг., Лід. р.* Ні даюць праходу дзяўчаты, шнурам ходзяць за аграномам. *Бял., Лаг. р.*

РОТ ЗАТЫКАЦЬ каму. Гл. ЗАТЫКАЦЬ (заткнуць) РОТ каму.

РОТ ПАЛАСКАЦЬ. *Асудж.* Пляткарыць, абгаворваць каго. Ныма того чоловіка на сэлі, шоб вона по ёму рот ны полоскала. *Вел., Пін. р.* Моя з Луцэрою як сойдутца, дак одно й робота, шо роты полошчут цэлый божый дэнь. *Там жа.*

РОТ РАЗЯВІЦЬ (разінуць). 1. Вельмі здзівіцца. Сходзіла ў ягады, бабы пратукалі (многа гаварылі, дзяўблі пра адно і тое ж): «Во бачыш. Так дак хворая, а ў ягады паехала». Мар'я Акулавых і тая рот разінала: «Ні паверым Хрысьціне, ні паверым прытворшчыцы». *Ліцв., Карм. р.* Грышко аж разявіў рот, калі ўбачыў, што такія дровы харошыя. *Сав., Стаўб. р.* 2. Заглядзяцца, зазявацца, задумацца. Ішла, рот разінула — машына падбіла. *Ульян., Сен. р.* Ішоў, рот разявіў, а ехаў на ровары дзяцько некі і падбіў. Трэба было трохі аглядацца па баках, не разяўляць рот, а то й калекай нідоўго зра-

біцца. *Сав., Стаўб. р.* А вы чаго раты разявілі? Марш адгэтуль! Каб я вас ні бачыў. *Там жа.*

РОТ ХАЛАДЗІЦЬ. Гаварыць пра тое, пра другое; малоць пустое. Ты б, Ганно, дармо рот нэ холодыла, я добрэ знаю гэтого чоловіка. *Вел., Пін. р.* Добрэ городскым, вода в дому, а то собэрутца бабы ля колодэзя, рты холодят і про всэ забудут. *Там жа.*

РОЎМА РАЎЦІ. Моцна плакаць. Дзіцятко яе роўма раве ў хаці, аж у міне чуваць, а яна ні шманае, сядзіць у градах. *Сав., Стаўб. р.* От лупіў яго бацько! Калі дасьць, то гэты хлопец роўма раве, усё полё разьлягаяцца. *Жац., Стаўб. р.* А каб на цябе халера! Ня есь (карова) у полі, а ў хлеві галасуя, раве роўма (тут: рыкае). *Бял., Лаг. р.*

РУБАМ ПАГЛЯДАЦЬ на каго. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) на каго.

РУБАМ ПАЗІРАЦЬ на каго. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) на каго.

РУБЛЯ ЗА ДУШОЮ НЕ МЕЦЬ. Гл. ГРАША (рубля, капейкі ) ЗА ДУШОЮ НЕ МЕЦЬ.

РУКА-РУКА. Зручна, ёмка. Мае тапачкі пырваліся. А так я да іх прывыкла. Як адзену, мне рука-рука, ні хачу другія адзіваць. *Ліцв., Карм. р.*

РУКА ЦЯЖКАЯ чыя, у каго. **1.** Мае вялікую сілу ўдару. Але ты будзяш удавец, рука цяшкая ў цябе. Як даў, аж гарыць. *Бял., Лаг. р.* **2.** Ад каго не шанцуе, хто прыносіць няўдачу. У гэтаго Сякеры (мянушка чалавека) рука цяшкая: купіла парку парасятак і такія ніўдалыя, што ні ведаю, ці гадаваць іх, ці прадаць пад немач. *Жац., Стаўб. р.* Хацела купіць цялушку ў Вінцука, але адгаварылі: у яго, кажуць, цяшкая рука, ні выгадуяш кароўкі. *Ас., Стаўб. р.*

РУКІ АПУСКАЮЦЦА (падаюць) у каго. *Незадав.* Страціць надзею на што, упасці ў адчай; знікае ўсякае жаданне або здольнасць рабіць што, дзейнічаць. Рукі апускаюцца, калі надумаюсё: дроў ні палена, ні торфу, і картафлянік сьцягнуць трэба, і хату пааптыкаць на зіму, бо зіма йдзе, не за гарамі, а я ж адна. *Сав., Стаўб. р.* Ні магу я ўжо, дзеткі, гадэ мае не тыя цяпер. Карові дай, сьвіням замяшай і занясі, вады адной колькі трэба нанасіць — апускаюцца рукі, як усё ў галаву возьмяш,

рабіць трэба, а я ні магу. *Там жа.* Пачуяш пра вайну, дак і рукі апускаюцца, ні бяруць рабіць. *Ал., Калін. р.* Я хацела, каб мае дзеці былі вучоныя, лепшыя за ўсіх. Цяшко было, трудно. Бацько памёр, у міне рукі апусьціліся, але вывучыла, хай ціпер усе бачаць, якія ў міне сыночкі. *Сав., Стаўб. р.* Дзеткі мае, каб вы знали, колькі мы гора перанеслі. Думала, ні выжыву. Рукі падалі, жыць ні хацелася. Але выжыла, людзі міне паттрымалі, дзякуй ім. *Зал., Стаўб. р.*

РУКІ АПУСЦІЦЬ. Страціць здольнасць, жаданне дзейнічаць, рабіць што. Была ў Стоўпцах зубны доктар, харошая такая жэншчына і доктар харошы. А тады пераехала ў Мінск, вышла замуж. І што ёй сталасё, кажуць, рак разьвіўсё — за два месяцы памерла. І бацько доктар, рабіў у абласной бальніцы хірургам, матка неўрапатолах, і сама ш яна доктар, адна дачка ў бацькоў, і памерла. То бацько рукі апусьціў, адгарадзіўсё ад людзей, кінуў клініку і зарас нікого не прымае. А такі доктар быў! Да яго заўсюды поўно людзей было, заўсюды чарга стаяла на кансультацыю. А што нящчасьцё можа зрабіць ш чалавекам: заныў, завяў той бацько, рукі апусьціў, сьвет белы яму ня міл. *Сав., Стаўб. р.*

РУКІ ГАРАЦЬ (да работы) у к а г о. Мець вялікае жаданне працаваць, дзейнічаць, хацець і ўмець рабіць што. Лоўкая дзеўка, грашно кепскае гаварыць. І характар залаты, і рухавая, да работы ажні ш рукі гарань. І тварам някепская. *Падг., Кар. р.* Наша Аньця гаспадыня добрая, вельмо ж руплівая, заядлая. У яе гараць рукі да работы. У калхос — першая, і дома ўсё чысто дагледжано, прыбрано, і дзеткі тыя, як лялькі. *Сав., Стаўб. р.*

РУКІ ЗАВЯЗАЦЬ к а м у. Гл. СВЕТ (рукі) ЗАВЯЗАЦЬ (завязваць) к а м у.

РУКІ ЗАЛАЖЫЦЬ НЯМА ЗА ШТО. Гл. РУКІ ЗАЦЯЦЬ (залажыць) НЯМА ЗА ШТО.

РУКІ ЗАЛАМАЦЬ. Гл. ЛАМАЦЬ (заламаць) РУКІ.

РУКІ ЗВЯЗАЦЬ к і м, ч ы м. Гл. ЗВЯЗАЦЬ РУКІ к і м, ч ы м.

РУКІ ЗАЦЯЦЬ (залажыць) НЯМА ЗА ШТО. Нічога не мець, бедна жыць, не мець сродкаў да існавання. Так ужэ былі дажыліса ў войну, што німа за што рукі заняць, так згалелі. *Гр., Слуц. р.* Зямлі павалока, а сям'я вяліка, шаснаццаць душ. Як падзяліліса, кожнаму папа-

ла толькі шастуха (шостая частка зямельнага надзелу). Ражжывайса як хочаш, калі рук німа за што зацяць. *Трух., Кап. р.* Каго-каго, а мяне вайна гэтая не абышла. Немцы спалілі хату, жылі ў лесе, аш пакуль ні прагналі немцаў. А як вярнуліся зь лесу, няма за што рукі залажыць. От як было, мая міленькая. *Чар., Мядз. р.* Ты пытаясься, як даўней жылосё. Усяго было. Ні было за што рук зацяць часамі, а жылі, бо жывым у магілу не палезяш. *Сав., Стаўб. р.*

РУКІ ЗЛАЖЫЦЬ. *Спачўван.* Памерці, загінуць. Звіхтавала (сапсавала, падарвала) мая Крыстына здароўе цяжкаю работаю, бес пары рукі злажыла. *Януш., Лаг. р.* Той Ператоцкі недзя на вайне загінуў, там рукі злажыў. *Гал., Стаўб. р.*

РУКІ І НОГІ ЦАЛАВАЦЬ к а м у. Гл. ЦАЛАВАЦЬ РУКІ І НОГІ к а м у.

РУКІ НАЛАЖЫЦЬ (на сябе). Скончыць жыццё самагубствам, памерці. Ён удавец, чакаў той нявесткі, як бога, і памыць, і прыбраць. А сын жаніўсё, і бацька аткінулі. Той бацько паглядзеў-паглядзеў і рукі налажыў. *Сав., Стаўб. р.* Цьвірчышына Юзя ат цяшкай работы, ад гора ў маладым веку рукі на сябе налажыла, ні вытрымала такога жыцця. *Ст. Св., Стаўб. р.* Мама памерла ні па хваробе, але тата памёр, дак яна прынялася, плакала, крычала. Прастудзілася, і скорапасьціжныя сухоты прыключыліся, а праз восім месяцаў рукі налажыла. *Сав., Стаўб. р.* Умесьці іх і пахаранілі на тым бірагу, кала Хвецькінай дзірэўні, на гарушкі — на магілках жа іх нільзя было хараніць, яны ш самі на сябе рукі налажылі (яна ўтапілася, а ён не перанёс яе сьмерці й засіліўся). *М. Каш., Гар. р.*

РУКІ НЕ ДАХОДЗЯЦЬ д а ч а г о, д а к а г о. Быць моцна занятым, не мець часу заняцца чым, кім. І падлога згніла, і хата небам крыта, а часу німа на гэту работу, да ўсяго рукі ні даходзяць самому рабіць, а людзей наймі — грошай трэба. *Кав., Старадар. р.* Распусьціўся мой малец, рукі да яго ні даходзяць за гэтаю работаю. *Зал., Стаўб. р.* Хаты німа чым прыгрэпці. Трэба будзя купіць венік і шчотку, але рукі не даходзяць да ўсяго за гэтаю работаю. *Сав., Стаўб. р.*

РУКІ НЕ КЛАСЦІ н а к а г о. Не біць, не крануць каго. Каб які ліхі, а то гэдакі спакойны, харошы, сама-

стаяцяльны, рукі на яе ні клаў, пальцам ні зача́піў, жыў і душы ў ёй не чуў. Гэдак шкадаваў. *Сав., Стаўб. р.*

РУКІ ПАГРЭЦЬ на чым. Гл. ПАГРЭЦЬ РУКІ на чым.

РУКІ ПАДАЮЦЬ у каго. Гл. РУКІ АПУСКАЮЦЦА (падаюць) ў каго.

РУКІ ПЭЦКАЦЬ. Гл. ПЭЦКАЦЬ (усадзіць) РУКІ.

РУКІ ЎМЫЦЬ. Гл. УМЫЦЬ РУКІ.

РУКІ ЎСАДЗІЦЬ. Гл. ПЭЦКАЦЬ (усадзіць) РУКІ.

РУК НЕ ЧУЦЬ. Гл. НЕ ЧУЦЬ РУК.

РУКОЙ ПАДАЦЬ да чаго. Блізка, недалёка. Тут да лесу рукой падаць, дойдуць самі, а вы яшчэ думаяця весьці іх на гэтым драндулеці. *Гор., Стаўб. р.* Цяпер-то добро: ці памыцца, ці алешыну якую прынесьці, ці так паляжаць, выгада — рэчка рукой падаць. *Сав., Стаўб. р.* У нашум калхозі ест усе махчымасьці бураке без затрымкі атпраўляць дзяржаве: да Гарадзейскаго сахарнаго (завода) рукой падаць. *Там жа.*

РУКУ ДЗЯРЖАЦЬ чыю. Гл. ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) РУКУ чыю.

РУКУ ПАДЫМАЦЬ на каго. Гл. ПАДНЯЦЬ РУКУ на каго.

РУКУ ТРЫМАЦЬ чыю. Гл. ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) РУКУ чыю.

РЭБРЫ І СКУРА ў каго. Гл. СКАБЫ ДЫ СКУРА ў каго.

РЭБРЫ ПАЛІЧЫЦЬ (пералічыць) каму. Фізічна пакараць каго, набіць, надаваць. «Учоро ў клубі, казаў Тадзік, біліся». «Хто там біўсё! Толькі аднаму Віціку, мусіць, трохі рэбры палічылі, але жыць па гэтум будзя». *Гор., Стаўб. р.* Ён напіўся, палез біцца, а яны мальцы здаровыя, пералічылі яму рэбры. *Н. Тур., Уш. р.* Вот зараз рэбры палічу, калі ні пойдзяш адгэтуль, ідзі! *Веч., Стаўб. р.*

РЭДЗЬКУ ЕСЦІ. Дрэнна жыць у сям'і, часта сварыцца. Сын прышоў з войска, пабраліся (пажаніліся), а цяпер рэцьку ядуць. У нас гэдак кажуць, калі сварацца між сабою. *Пр., Стаўб. р.*

РЭЗАЦЬ ПРАЎДУ Ў ВОЧЫ. Гаварыць прама, адкрыта, не саромеючыся і не баючыся. Я люблю Пятроўскую. Старушачка высокая, акуратная, бес канца справядлівая: свой, чужы — рэжа праўду ў вочы. *Сав., Стаўб. р.*

САБАК ГАНЯЦЬ. *Асудж.* Сноўдацца без справы, гультаяваць, лынды біць. Такі хлопяц вялікі, кап ён калі мацяры памох што зрабіць, вядро вады прынёс. Не. От, ходзіць недзе ўвесь дзень, сабак ганяя. Ці хоць бы ксёншку якую пачытаў, у школу ш ходзіць. *Сав., Стаўб. р.* Цяпер дзецям няма чаго рабіць, от яны й ганяюць сабак. А мой (сын) некалі то жаць, то зельё рваць — так ні сядзеў. *Там жа.* Хлопяц лядайкі зрабіўса. Рабіць нічога ні хоча, ні чытаць, ні пісаць ні заставіць, ганяя сабак па За́мку (назва ўрочышча) цэлы дзень. *Гр., Слуц. р.*

САБАКАМ СЕНА КАСІЦЬ хто. *Недобразыч., непав.* Жыць, знаходзіцца невядома дзе, прапасці, зікнуць. Валяк яе быў ніпаслушны, лядачы, грысься з маткаю, а ціпер ні знаю дзе, недзя сабакам сено косіць, жонку кінуў. *Сав., Стаўб. р.* Майка пытаяцца рас у міне: «Дзе наш папко, мама?» А што ёй сказаць? «Няма, — кажу, — твайго папкі, сабакам сено косіць». *Жац., Стаўб. р.*

САБАКУ (кату) ПАД ХВОСТ. *Зласл.* Дарэмна, за ніштo (выкінуць, аддаць і г. д. што). У нядзелю езьдзіла на базар у Мір, думала, утаргую за яйца. Базар вялікі, але купцоў мало, дзёшаво аддала, выкінула сабаку пад хвост рублей пяць. *Ас., Стаўб. р.* Столькі рабілі, сьпіны гнулі, і ўсё кату пат хвост — то падаткі, то стрыхоўка, то якая другая халера, а сабе нічого ні аставалосё. *Хал., Стаўб. р.* Сусет мой закалоў добраго япрука і папёр у Мінск, думаў грошай грабяне. Аж многа сала навезьлі, то прадаў танно. Казаў, сабаку пат хвост выкінуў, каб знаў, у Стоўпцах на базу здаў бы. *Гор., Стаўб. р.* Вока правае сьвярбіць, можа, плакаць буду, суд жа пakaзацельны. Хаця п штрафу (за самагонаварэнне) многа не ўкацілі, а то прыдзецца рублёў дваццаць кату пат хвост выкінуць. *Бял., Лаг. р.* Ты за сваю работу палучыш грошы скора, а мы што дзяўблі скручыўшыся, усё кату пат хвост. *Там жа.*

САГНАЦЬ АХВОТУ. Гл. ЗБІЦЬ (сагнаць) АХВОТУ.

САГНАЦЬ СЕМ ПАТОЎ. Знясіліцца, змучыцца цяжкай фізічнай працай; стаміцца. Зіма. Марос. А мы тралюям дзераво. Натомісься, нох ні павалачы. Сем патоў згоніш, пака прывязеш тую штуку (бервяно). *Сав.,*

*Стаўб. р.* Вельмі ш цяшко жаць, як гарачыня, сьпёка. Ветру саўсім німа, млеяш. Сем патоў згоніш за дзень. Во як было раней. А ціпер выядуць камбайны і як бачыш, схвацяць тую збажыну. *Гор., Стаўб. р.* Э, што гаварыць пра былое. Помню, пакуль у Стоўпцы зойдзяш, а йдзеш жа ні ўлехцы, нясеш што прадаць, згоніш сем патоў. І там жа ні прысядзяш, бо хочацца й купіць сёётоё, і назат прыдзяш, яшчэ й на вячоркі зьбегаяш. І здароўшыя былі, як ціпер, што езьдзяць. *Гал., Стаўб. р.*

САГНУЦЦА Ў КРУК. Згорбіцца па старасці; скурчыцца ад болю. Глядзі, Пархімовічыха ўся сагнулася ў крук, а, мой моцны божа, ходзіць жа, нешто длубаяцца, робіць на дварэ яшчэ. *Сав., Стаўб. р.* Мяне гэтая хвароба сагнула ў крук, не магу паварушыцца, усё баліць. *Хал., Стаўб. р.* Заходжу ў хату, а яна качаяцца па падлодзы, сагнулася ў крук, войкая. Гэто ж у яе печань баліць гэдак. Мучыцца, бедная, і дактары ні памагаюць. *Сав., Стаўб. р.* Нешто ў яго ж жыватом. У крук сагнуўсё, ляжыць, на двор ні можа ўсьцягнуцца. *Там жа.*

САДЗІЦЦА НА ГАЛАВУ к а м у. Камандаваць кім; падпарадкоўваць сваёй волі, прымушаць выконваць свае жаданні, капрызы. Мая дачка за настаўніцу вучыцца. Я й ні хацела. Якая зь яе настаўніца! Яна нават ні крыкня як сьледуя, дзеці на галаву сядуць. *Кур., Навагр. р.* Які зь яе спецыяліст будзя?! Яна ж людзей баіцца! А з мушчынамі трэба цьвёрдай быць, бо як пачустуюць слабасць, на голаў сядуць. *Гр., Слуц. р.*

САДЗІЦЬ (усадзіць, тахтарыць) ГРОШЫ. *Незадав.* Выдаткоўваць многа грошай без вялікай на то неабходнасці. Колькі Міша тахтарыць грошай на дачку, каб ведалі. А ці будзя які толк, ці не — яшчэ нівядома. *Гор., Стаўб. р.* Балавэнцік усадзіў за гэтую зямлю много грошай, але добро жыў чалавек. *Жац., Стаўб. р.* Хату робіць Стась, грошы гэтыя садзіць, а толку мало, ні хватая мацір'ялу, мокня другі гот нізаканчаная. *Ас., Стаўб. р.* Алесь як будаваўсё, то колькі ён грошай усадзіў у хату — страх. Але хатка, як лялька, стаіць. *Сав., Стаўб. р.* Цьвірко на дачку грошы тахтарыць. Прыягджая кождую сыботу, бярэ з дому, так пасылая. Нівядомо, калі яна ўжо вывучыцца. *Ас., Стаўб. р.* Зарабляюць добро, але ні скупяцца жыць, грошы гэтыя садзяць налево й направо, жывуць добро. Адно выбалёўваюць, баль за балем спраўляюць. *Гор., Стаўб. р.*

САДЗІЦЬ НОС КУДЫ. Гл. СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС куды, у што.

САМ З СЯБЕ. Уласнаручна, сваімі сродкамі, незалежна ад каго. Зажываўся сам сь сябе, ніхто ні памагаў. Адзьдзялілісі ад бацькоў, трэба ж неік строіцца. У бацькі хазяйства — два кані, а я пру бервяно на сабе зь лесу. О, як жылі! Не дай бох такой жызьні, як была. *Худ., Кр. р.*

САМ НА САМ. Адзін на адзін. Цяпер во жыву адзін, сам на́ сам з гэтымі вугламі, няма да каго й слова сказаць. *Жац., Стаўб. р.* У нас суседзі благія. Каб знаў, што ў кішэні дзісятка ест, каб найшоў сам на́ сам, забіў бы. *Пр., Стаўб. р.* Вун стэсняетьтя. Як бы гэ (гэта) сам на сам, то нагуворыў бы вам. *Бот., Пін. р.*

САМ ПА САБЕ. Аддзяліцца, выйсці з-пад бацькоўскае апекі. Жыву адным-адна, а сыны самі па сабе. Адзін на моры, марак, а другі шахвёрам на праізвосьцьві. *Об., Шум. р.* Два сыны гадавала. Абудва вырасьлі, абудва армію атслужылі, абудва пажаніліса. А жыць німа пры ком, сяджу адна як верабей, а сыны самі па сабе, адзін у Магілёве, а другі — недзя пад Масквою. *Гр., Слуц. р.*

САМ (сама, самі) САБОЙ. 1. У адзіноце. Жыву адзін, сам сабою. Кепско, але што зробіш. Жонка даўно памерла, а дзяцей ні было. *Жац., Стаўб. р.* Жанчына сама сабою жыве, прыстрапая (згатуе) што да й жыве. *Пр., Стаўб. р.* Яны самі сабою жылі, двое старэнькіх. У хаце непарадак, не могуць агледзець. Дак прышоў Грахоўскі, абнаружыў непарадак, сычас у школу, вызвалі школьнікаў, ачысьцілі, навялі парадак. *Сав., Стаўб. р.* **2.** Незалежна ад каго, самастойна. Пішыць: «Я яшчэ ня ест стары, я ні хачу, каб мною хто жондзіў (кіраваў). Я хачу пажыць сам сабою». *Бяльм., Брасл. р.*

САМ (сама, само, самі) ПА САБЕ. Без ніякай прычыны, так сабе. Чыгун у мяне стаяў у сенцах, стары, ні помню ўжо, калі яго бацько купляў. І пацёк. Сам па сабе. Цяпер німа ў чым курам вады паставіць. *Жац., Стаўб. р.* Няма ў чым аладак напячы. Мая дзежачка рассохлася, цячэ. Трэба вадою наліць, пастаіць трохі, то можно будзя й сьпячы. Жжываяцца ўсё само па сабе. *Сав., Стаўб. р.* От, нешто само па сабе зробіцца і баліць — ні вытрымаць, трэба ў бальніцу йсьці. *Гор., Стаўб. р.* Самі па сабе круцяцца балты, ръзьба адышла,

нада закліпаць. *Ляўк., Арш. р.* Кап дзе выцяла ці падвярнула,— сама па сабе нага забалела і рады німа. *Гр., Слуц. р.*

САМ ПРАЗ СЯБЕ. Самастойна, без староннян дапамогі. Я сама прась сябе навучылася п чытаць, каб ні кепскія вочы, ні бачу. *Сав., Стаўб. р.* Наш Волясь за што ні возьмяцца — зробіць. Ён і трактарыст, і камбайнёр, і машыну можа весьці. І ніхто яго ні вучыў, сам прась сябе навучыўсё. *Там жа.*

САМ (сама) САБЕ. Асобна, незалежна, самастойна. Іды до людэй, а то сама собі сіла. *Бот., Пін. р.* Я сама собі. Колы схочу, лягу, колы схочу, встану. *Там жа.* Тады ўжо трапіўся замуш. Вяселя няма каму ладзіць, сама сабе жыла. Пайшла ў калхос, выпісала пшаніцы, сьпякла каравай, пазвала ўсю радню, суседзяў, дай вяселя справіла. *Таўкач., Уздз. р.* А цяпер старая сканала, сама сабе гаспадыня. *Пр., Стаўб. р.*

САРВАЦЬ ЗЛОСЦЬ н а к і м. Гл. СПАГНАЦЬ (сарваць) ЗЛОСЦЬ н а к і м.

СА СВЕТАМ ПРАШЧАЦЦА. Цярпець невыносныя мукі, пакутаваць ад болю. Я даўней таксама от куды пайду, зьем лішнё, бяда потым, са сьветам прашчаюся. *Сав., Стаўб. р.* Я тут са сьветам прашчалася, як вас ні было. Як хваціў зуп, ні ведала, куды дзецца, што рабіць. *Там жа.* Во няхай гара́чо што зьем, са сьветам прашчаюсё, гэдак баліць. *Там жа.* Гэтая баба крычыць, са сьветам прашчаяцца, а муж недзя ў ад'езьдзе, у Нясьвіш, гаварылі, паехаў. *Жац., Стаўб. р.* Мані той веры ні даюць, бо так дак хварэя, а як куды на бяседу, устае і йдзе. Во й гэты рас, як я была ў іх, ляжыць хворая такая, што, здаецца, са сьветам прашчаяцца. А во выляжалася, стала на той дзень нараджэньня сабірацца. *Там жа.*

СА СВЕТУ ЗБАЕДАЦЬ к а г о. Гл. ЗВЕСЦІ (зводзіць, зжыць, страбіць, збаёдаць) СА СВЕТУ к а г о.

СА СВЕТУ ЗВЕСЦІ к а г о. Гл. ЗВЕСЦІ (зводзіць, зжыць, страбіць, збаёдаць) СА СВЕТУ к а г о.

СА СВЕТУ ЗЖЫЦЬ к а г о. Гл. ЗВЕСЦІ (зводзіць, зжыць, страбіць, збаёдаць) СА СВЕТУ к а г о.

СА СВЕТУ СТРАБІЦЬ к а г о. Гл. ЗВЕСЦІ (зводзіць, зжыць, страбіць, збаёдаць) СА СВЕТУ к а г о.

СА СВЕЧКАЙ НЕ ЗНАЙСЦІ к а г о, ш т о. Вельмі цяжка або немагчыма адшукаць, знайсці каго, што. Паслала мама міне, кап Стасіка паклікаў. А дзе ты яго

знойдзяш, гэтулькі людзей і цёмно, са сьвечкай ні знойдзяш тут яго. *Жац., Стаўб. р.* Прышла вот раз Маня й кажа: «Пазычця, бабуня, нажа капусту пашаткаваць». «Бяры»,— кажу. Я й сюды й туды — нідзе німа. А ў хаці беспарадак, ведамо, усе ў полі, параскідано, тут са сьвечкай яго ні знойдзяш, ні то што. *Сав., Стаўб. р.*

СА СМЕХУ ДУШЫЦЦА. Гл. ДУШЫЦЦА СА СМЕХУ.

СА СМЕХУ ПАДАЦЬ. Гл. ПАДАЦЬ СА СМЕХУ.

СВАЕ РАБОТЫ што. Не куплёнае, не фабрычнае, а самаробнае, зроблена сваімі рукамі. У войску насілі лапці, сарочкі і ганавіцы с палатна свае работы, хварбілі альховай карою. *Кол., Нясв. р.* Упэрод ногавіцы шылі з свое роботы суконного полотна, да такіе ногавіцы носілі только ў сьвято, а на каждый дэнь то шылі ногавіцы з зрэбного хварбяного полотна. Сорочкі тож шылі з свое роботы кужэльного полотна. *Саш., Бяроз. р.* Есь сукно свае работы, звалянэ, але неке брытке, сівэ, волас сухі, дак пашыю валёнкі. *Гр., Слуц. р.* Плацьця (сукенкі) мы насілі свае работы да калхозу, а ў калхозя мы ўжо ажыліся, сталі з магазіна набіраць ды плацьці нашываць. *Сіц., Пух. р.* Ляжала адзежа сьмярцёлна (на смерць), палатно свае работы, усё ляжала ў купры. *Тайкач., Уздз. р.* Кулёк — пінжак с сукна свае работы. *Ульян., Сен. р.*

СВАЁ (права) ПРАВІЦЬ. ПРАВІЦЬ СВАЁ. Настойваць на сваёй думцы, даказваць яе на словах ці на справе, стаяць на сваім. Наш Міколка лазіць па гнёздах ці дзе яго ліхаманка носіць. Усе порткі падзёр, не пасьпяваю латаць. Ужэ маці яму так дае, а ён сядно сваё права правіць. *Шаш., Стаўб. р.* Вот у міне нашто Волясь і ціхі, і рахманы, здаецца, а ты яму свайго ні дакажаш. Правіць, панімаяш, сваё, а бáцькі ні прызнае. *Сав., Стаўб. р.* Што гэто за хлопяц удаўсё! Ты яму гавары, а ён сваё права правіць, саўсім не слухае маткі. *Там жа.* А бацька кажа: «І матка яе такая! Ужо іншы рас і па зубах палуча, а ўсё адно сваё правіць». *Зял., Мядз. р.*

СВАІМІ СІЛАМІ. Без староняй дапамогі. Сваімі сіламі выбіраюць (бульбу). Трошко школьнікі Гарэцкае школы памагалі, стаўпляне прыягджалі, а далёкіх памочнікаў у гэтум году ні было. *Сав., Стаўб. р.* Ты, унучак, старайся сваімі сіламі рашыць задачкі, а тато хай табе потым праверыць, ці правільно ты рашыў. *Гор., Стаўб. р.*

СВАІМ МАЗАЛЁМ. *Уласнаручна, сваімі рукамі, незалежна ад каго (зрабіць, нажыць і інш.).* «А нашто мне Карманава (прозвішча)? Я й сваім мазалём зараблю на матацыкл зь люлячкаю».— «Дык гэта ш трэба напяцца, кап сваім мазалём заробіць, а то Моця вытрасець свой капрон і запраста купіць табе матацыкл або «Запарожац». *Ляўк., Арш. р.* Перабраліся мы на футар — беднata, хай бох крыя. А ўсё ш трэба было сваім мазалём нажыць. *Сав., Стаўб. р.*

СВАІМ ХОДАМ (ісці). Пяшком. Я ехуў у Мінск. У Оршы ў буфеці куры, сто грам 69 капеік. Кілаграм палучаіцца 6 руб. 90 кап. (на новыя грошы). Што так дарага? Разьве іна (курыца) йшла сваім ходам, па шпалах, з Гродна да Оршы, што такая цана? *Ульян., Сен. р.*

СВАЯ СПРАВА. Свае, родныя, блізкія (пра людзей). Вы ш свая справа, вы ш свае, лацьце як да жывеця харашо. Клопат мне, я ні хачу мяшацца. *Сав., Стаўб. р.* Прыходзіць яна (Маня) ка мне пазычыць спаньніцы схадзіць у госьці. І хустку харошую ўзяла, рыжую, што ўсё ткалі даўней. Я ёй і коптачку сваю дала. Ну, як жа ш ты ні дасі? Свая ш справа — такі лічыцца яе бацько ды быў брат майго хадзяіна (мужа). Дзе ш тут адмовіш? *Ст., Нясв. р.*

СВЕТ АГАРНУЦЬ. *Незадав., асудж.* Праяўляць хцівасць, прагнасць. Не трэба нам ініцкіх (ад Ініца) тых, хваціць, што й Пятроўскай нявестка зь Ініцы. Я нічого да яе ні маю, яна й акуратная, і разумная, але вельмі ш такая о-о-о, увесь бы сьвет агарнула. *Сав., Стаўб. р.*

СВЕТ АДКРЫЎСЯ (адчыніўся) к а м у. 1. Палепшала, перастала балець. Сухі мазоль быў, у сярэдзіні нека бобачка беленькая сядзіць. Пёк агнявы, нівазможно цярпець. Тры разы памазала — і сьвет аткрыўсё. *Сав., Стаўб. р.* Мішка гарэў, шчочкі чырвоныя, як мак. А раніцаю — нічого, хлопцу сьвет адкрыўсё, устаў, зьеў трошкі, павесялеў. *Там жа.* 2. Жывецца куды лепей, чым раней, інакш; відаць жыццё ва ўсіх яго праявах. Цяпер нам сьвет аткрыўсё — ні таго клопату, ні думы, і палучаям добро, толькі жыць стало. *Гор., Стаўб. р.* Як жылі на хутары, дык людзей ня відзілі, а як пераехалі ў дзярэўню, дык сьвет аччыніўся. *Н. Тур., Уш. р.* За Савецкай уласьцю рабочаму чалавеку сьвет аткрыўсё. Дзе гэто бачылі, кап калі бясплатно на курорт вазілі, лячылі цябе. Або гэтыя бальніцы. Чуць што забаліць — ужо скарэй

да доктара. Даўней ні ведалі таго доктара, ні патступіцца было да яго. *Сав., Стаўб. р.*

СВЕТ (рукі) ЗАВЯЗАЦЬ (завязваць) к а м у. Рабіць нешчаслівым жыццё каго, губіць, згубіць каго. Нашто ты зь ім сышлася? Сьвет сабе толькі завязала, плачаш і плачаш адно, дурная. *Сав., Стаўб. р.* Зачым сьвет другому завязываць? Добра, мыя маладзічка, як зайсьці за добрага, а як за п'яніцу, лепей аднаму покацца (пакутаваць). *Ліцв., Карм. р.* Вон мне пісаў з Брэста, шчо ты думаеш, я тобе рукі завязаў? Ты свабодна, можэш іты за кого хочэш. *Бот., Пін. р.* Мой сынок толькі сьвет сабе завязаў гэтаю жаніцьбаю. Ні тут ні там. І маткі шкадуя, і ж жонкай хоча ладзіць. *Гор., Стаўб. р.*

СВЕТ КЛІНАМ СЫШОЎСЯ н а к і м. Хто з'яўляецца адзіным, іншых няма, каго б можна было выбраць. Так дзеўчына плачэ, так пэрэжывае, бы тут сьвіт кліном сышоўса на хлопцові, на Чмакеві гэтом. *Шар., Пруж. р.* Некаторыя ў нас бядуюць, што брыгадзіра зьнялі. Няма чаго тут бедаваць, будзя другі, ці на ім сьвет клінам сышоўся? *Сав., Стаўб. р.* Я ні люблю сваю нявестку, нялюбая яна мне. Няўжо сьвет сышоўся клінъм на ёй, няўжо ён ні мог найці лепшъй, сынок мой міліңкій. *Ляўк., Арш. р.*

СВЕТЛЫ ШЛЮБ. Вянчанне маладых пры яркім асвятленні касцёла. Як багатыя маладыя, як малады добра заплаціць, дак у касьцёле запальвалі ўсе жарандолы, на каждым па дваццаць-трыццаць сьвечак. Гэта — сьветлы шлюп. *Пал., Мядз. р.*

СВЕТ СВЕТАМ. Вельмі многа скрозь і ўсюды. Ягыд то тыпэр сьвіт сьвітом, а вот з-за холоду вышны й слывкы ны вродылы. *Чух., Пін. р.*

СВЕТ УБАЧЫЦЬ. Гл. УБАЧЫЦЬ СВЕТ.

СВЕТУ (божага) НЕ БАЧЫЦЬ (не відзець). Вельмі многа працаваць, быць моцна і пастаянна занятым работай, клопатамі і г. д. Ляжыць, як той вол, цэлымі днямі, а тут сьвету божага ні бачыш за работаю, рукі паадбірала. *Остр., Маст. р.* Ні бачыла сьвету, як вышла замуш, казала, што ўжо ўмучылася! *Сав., Стаўб. р.* А тэпэр гэтыя буракы, сьвіту ны бачу. То палола, то садыла, а запустыўшы, то ныц ны получыца: то гурба, то голе — ныц ны выростэ. *Бот., Пін. р.* Мы расьлі няграматныя, за работай сьвету не бачылі, дык няхай хоць сын у навуку падаецца. *Рак., Вал. р.* А потым, як замуш некі нарваўся, дык сьве-

ту ні бачыла за работаю, бо ў мужыка сям'я ні малая, а тут і свая пашла. *Каз., Слонім. р.* Аддыхні трохі, высунься на двор, сьвету ні бачыш за гэтаю навукаю. *Ст. Св., Стаўб. р.* За сьвіньмі да за хъзяйствам сьвету ня відзіць. Ніколі ні адзеніцца як людзі, ні прыбярэцца. *Ульян., Сен. р.* Замуш вышла за беднага, за работай сьвету ні відзіла. Дзяцей сямёра гадавала і з работай упраўлялася. Нагаравалася дак нагаравалася. *Гай., Лаг. р.* У каго зямлі было многа, той парапка наймаў або ў арэнду здаваў, а нам, беднякам, гаруй на гэтай нішчаснай палосцы. І гаравалі. За работаю сьвету ні бачылі. *Іскр., Кл. р.* Маруська, мілая, за каровамі гэтымі сьвету ні бачу, гудзе зелё ў градах, ні магу справіцца с полівам. *Сав., Стаўб. р.* І авец пъсла, і гусей пъсла, і цілят — усё дзелыла, а цяпер маладзёжы многа ляхчэй, Калі бацька не прытуркаець (прымусіць), во й наша пасьцель за сабой ні прыбярэць. Збалывалі цяпер маладых, усё малалеткі й малалеткі. Раньшый сьвету ні відзялі за работъй *Ляўк., Арш. р.*

СВЕТУ (божага) НЕ ВІДАЦЬ. Нічога не відаць, цёмна зусім. Я йшла, йшла, а мяце, сьвету ні відаць, усё бело кругом, ледзьве дабралася. *Сав., Стаўб. р.* Я яшчэ, як маладая была, ішла рас зь Міра. А была зіма, дарогі замяло, а якрас схадзілася бура, пашоў сьнех, сьвету ні відаць. То зайшла аш у Возярско, такі крух дала. *Ас., Стаўб. р.*

СВЕЧКІ ГАРАЦЬ з к а г о. АГОНЬ ГАРЫЦЬ з к а г о. Пра чалавека, які з'яўляецца завадатарам скандальных учынкаў, спадцішка намаўляе іншых. Малыя дзеці пазалазяць на печ, дурэюць. А гэты бальшун прывалачэцца да іх і давай падвучваць біцца. Я ведаю, што гэто зь яго ўсе сьвечкі гарадь, але ні скажаш, бо свой. *Жац., Стаўб. р.* Гэто сь цябе, Віцік, сьвечкі гараць, бо ты падвучваў іх ісьці ў лес. Цяпер ідзі, шукай. *Гор., Стаўб. р.* Гэто с кладаўшчыка ўсе сьвечкі гараць. Ён жа ведаў, нашто бралі тоё жыто, куды везьлі, а маўчаў, ні казаў, пакуль ні прыехала міліцыя. *Хал., Стаўб. р.* А Домна тожа добрая, і зь яе сьвечкі гараць. Будзіць кызаць: «Кап тъкая дзевъчка нічога не рабіла, пасьцелі не склала». А я кажу: «А табе што за дзела?» *Ляўк., Арш. р.* Гэто зь Іры сьвечкі гараць. То абутку ні дабярэ, то хустачкі ні дабярэ, ніяк ні ўстроіцца. *Сав., Стаўб. р.* Зь яе агонь гарэў. П'яць рас замуш хадзіла, а тагды на шостага на-

паролаrа, а ён гэтакі рахманы, ціхі, дак і круціла ўсяк, як толькі хацела. *Гр., Случ. р.*

СВІНЫМІ СЦЕЖКАМІ (хадзіць, дабірацца і інш.). Няходжанымі і няезджанымі сцежкамі, што ўбаку ад бітай, люднай дарогі (ісці, дабірацца). Усяго зажылі, усяго хваціло. Аж ад Чорнаго мора пяшком ішлі зь бежанцаў — коні паздыхалі. Прыбылі ў Беларусь, а тут палякі. Прышлося дадому дабірацца сьвінымі сьцешкамі — баяліся. *Остр., Маст. р.* Кругом стаялі немцы, а як жа яны (партызаны) прашлі? Напэўно, жытáмі, аўсамі дабіраліся, сьвінымі сьцешкамі ішлі. *Хал., Стаўб. р.*

СВЯЦІЦЬ ВАЧЫМА. Адчуваць сябе ніякавата, саромецца. Чаго мнé там сьвяціць вачыма, міне ш ні прасілі. Вот ты другоё дзело — прошаны. *Жац., Стаўб. р.* Прыйдзі к людзям і сьвяці ачыма, ведамо, с пустымі рукамі. *Вяліч., Сал. р.* Ты вот ні купіў цукеркаў, а трэба ш было прывесьці, а то брытко — за шафяра едзяш, а цукеркаў німа, вачыма сьвяціць будзяш на вяселі. *Сав., Стаўб. р.* Запрасіла міне Манька на вяселё, а ісьці німа ш чым, хоць ты ліха дай. Прыдзяцца сьвяціць вачыма. *Гор., Стаўб. р.*

СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМ ЖЫВАТОМ (целам). СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМІ ЖЫВАТАМІ. Быць у падранай, старой, зношанай вопратцы, бедна апранацца. Некалі дзіця гадавалася абы-як. Адзяваць вельмо ні было ў што, сьвеціць голым жыватом, пакуль цёпло, а зімою — на печ. *Сав., Стаўб. р.* Алешча, кажу, адзень ты трохі гэтых дзяцей, хай ні сьвецяць голымі жыватамі, аш брытко глядзець. *Жац., Стаўб. р.* На футары што?! Сам сабе жыў чалавек і догляд быў ні той. Дзеці жыватамі голымі сьвецяць ат цямна да цямна, брудныя, замурзаныя — часу ні было вельмо глядзець, ні то што ціпер. *Там жа.* Даўней было — сям'я вялікая, дзяцей шасьцёра, саміх двоя ды яшчэ сьвёкар са сьвякрухаю, дык і галоднымі былі, голым целам сьвяцілі. *Кав., Старадар. р.*

СЕМЕРА АБСЕЛА. Многа дзяцей у адной сям'і. Ты бядуіш, што міне семіра апсела? Абы сама вісілá была ды здарова, яны вырастуць. *Н. Тур., Уш. р.*

СЕМ ПАТОЎ ВЫЙШЛА з к а г о. Моцна стаміцца, аслабець ад працы, хадзьбы. Пакуль пазносіў мяшке с картофляю, сем патоў вышло. *Сав., Стаўб. р.* Много зь міне трэба, старой! Накапаясься (бульбы) за дзень, сьпіна — ні разагнуць, сем патоў выйдзя за дзень. *Там жа.*

Ото некалі жаць цяшко было! Жыто благоё, наробісься за божы дзень, сем патоў выйдзя сь цібе. *Жац., Стаўб. р.* Нека слабая я стала за зіму, пакуль да вас дабралася, сем патоў зь міне вышло. *Хал., Стаўб. р.*

СЕМ ПАТОЎ САГНАЦЬ. Гл. САГНАЦЬ СЕМ ПАТОЎ.

СЕМ ШКУР ЗДЗЕРЦІ (зняць, сагнаць, садраць, спусціць) з каго. *Пагражс.* Добра адлупцаваць каго, жорстка пакараць за што. Бывало, паспрабуй не паслухаць бацьку! Ён бы сем шкур зьняў за гэто ды яшчэ так бы чым валянуў (стукнуў), што сь цябе п і патрахі пасыпаліся. *Гум., Кр. р.* Міне бацько біў некалі, сем шкур здзёр за тоё, што я чуць гумно ні ўпаліў. *Сав., Стаўб. р.* Хлеба некалі прыдзяцца пазычыць ў багацея якога, а ўлетку аджынай. Сем шкур згоніць сь цібе, пакуль тую работу адробіш, той хлеп. *Веч., Стаўб.* р. З Г'ені бацько сем шкур садраў за той порах. Гэто ш кап трошкі, то паветку патпаліў бы, а там і гумно пачало п шугаць. *Сав., Стаўб. р.* Сь цябе дзяцько сем шкур згоніць, калі дазнаяцца, што ты ў яго яблыкі лазіш. *Ас., Стаўб. р.* Я сь цябе сем шкур спушчу, ня прынясі мне толькі фанарыка. Я табе намяняю! Дзісятаму закажаш! *Гр., Слуц. р.*

СЕСЦІ НА КАРАК (на карк) каго, чый. Гл. СЯДЗЕЦЬ НА КАРКУ (на гарбу) каго, чыім.

СЕСЦІ НА ПЛЕЧЫ. Прычапіцца да каго, адолець, асіліць каго, навальвацца на каго. «Ны пуддамса, ны пуддамса старості»,— казала Клаўдя. Але як гэты ворог сядэ на плечы, то пуддасыса. *Бот., Пін. р.*

СЕСЦІ НА СІЛО. Жорсткім абыходжаннем рабіць невыносным жыццё каму. Пачотный чалавек быў, кожному «здрастуй» скажа. А як яму жысьць склалася? Брат забіўся недзя ў горадзя. Ён егдзіў на пахароны і растраціў дзвесьця рублёў. Дак яна (жонка) села на сіло, хоць ты йдзі задавіся мужык за гэтыя дзьвесьця рублёў. *Ліцв., Карм. р.*

СЕСЦІ Ў ЛУЖЫНУ (у лужу). Паставіць сябе ў недарэчнае становішча. Хваліўся, што яго сын паступіць, казаў, адна нага яго ўжэ там. Ажно ш сеў у лужу, брыдко на людзі паказацца. *Кунц., Кл. р.* Сваяк твой у лужыну сеў: выхваляўся, што індыкоў на балоці разьвядзе, будуць хадзіць, дзе захочуць, карміць ні трэба будзя, здасьць на базу і грошы ў кішэню. Ажно ш панадзілася

лісіца і ўсе індыкі перацягала. Німа ні пер'я, ні мяса, ні грошай. *Сав., Стаўб. р.*

СЕЎ КАМЕНЬ НА СЭРЦА к а м у. Гл. КАМЕНЬ НА СЭРЦЫ (на душы) ў к а г о.

СЕЎ НА ЗАКАЛЕЦ (хлеб, торт, пернік). Асела цеста на ніжнюю скарынку, у выніку — сырое нявыпечанае месца ў гатовым печыве. Хлеб ні ўдаўса, ацесьлівы. Печ ні напаляна добра, хлеб нідапёкса, сеў на закаляц. *Трух., Кап. р.* Хлеп рэткі быў, сеў на закаляц — рэткаё цесто, дак сеў на закаляц. От торт пячэш ці які пернік і цесто раткаво, то абізацельно сядзе на закаляц. *Сав., Стаўб. р.*

СІВАЯ ЖЫЗНЯ ў к а г о. Цяжкае, бязрадаснае жыццё, гора, бяда ў сям'і. У Высоцкаго сівая жызьня: жонка ў бальніцы ляжыць, матка ў Стася жыве, а гэты чалавек сам і варыць, сам і сьвіней корміць, і ў калхос хочацца схадзіць. Сівая жызьня, хай бох крыя. *Сав., Стаўб. р.* Купіў цялушку, дзяржаў-дзяржаў — прадаў, япрука добраго ўкарміў, а дзяцей німа. Ні ведае, куды грошы дзець. Тожа сівая жызьня чалавека на старасьць без дзяцей. *Там жа.*

СКАБЫ ДЫ СКУРА ў к а г о. РЭБРЫ І СКУРА ў к а г о. Вельмі худы, схуднелы хто. Ба́йдаравы сытыя сабакі парабіліся. Былі скабы ды скура, худыя, кап скуру зьняў, скабы рассыплюцца, а гэта сытыя парабіліся. *Бял., Лаг. р.* Лагодзічаў Сашка такі благі, рэбры і скура. *Сав., Стаўб. р.* Худы зрабіўся, рэбры і скура. Яшчэ ш ні прыехаў, лечыцца недзя на курорці. *Там жа.* І немач іх ведая, чаго яны такія худыя (свінні). Кармлю ж добро, вот некія ражнэ, рэбры і шкура. *Там жа.*

СКАКАЦЬ ПА АДНОЙ ДОШЧАЧЦЫ. Падпарадкоўвацца ў жыцці чужым указанням, распараджэнням, не быць самастойным. Я сам сабе жыву, як захачу. А каб збыў хату, паехаў да сына, прышлося п скакаць па адной дошчаццы. Дзяціны хлеб горкі. *Бял., Лаг. р.* Маладым дагадзіць трэба, а я ні люблю скакаць па адной дошчацца. От, прывезла машыну дроў, дзьве тоне торфу, буду паліць памаленьку дай сядзець карчом на сваёй печы. Сама сабе буду жыць. *Гр., Слуц. р.*

СКАКАЦЬ ПАД ч ы ю ДУДКУ. Страціць самастойнасць, трапіць пад уплыў каго; адстойваць погляды, думкі не свае, а каго іншага. Як свой кут маю, дак нікога не дбаю. А кап паехаў да дзяцей, дак прышлося п скакаць пад іх дутку: ці сеў ні там, ці мэшты (пантофлі) не зьняў,

ні плюнь, ні кашляні. *Бял., Лаг. р.* Эдзік ні самастаяцяльны. Што Сьцяпанавіч, то й ён. Скача пад яго дутку, а для то́го гэто нябось добро. *Гор., Стаўб. р.*

СКАЛІЦЬ ЗУБЫ. Смяяцца, насміхацца з каго. Вечарам на схотку сабраліся ў Піліпкавай хаці, усе прышлі — і маладыя і старыя прывалакліся. Сядзім, зубы скалім. *Слав., Талач. р.* Дзеўкі й маладыя, й вучоныя там таргуюць, а ў магазін ні ўлесьці; сядзяць дый зубы скаляць, у павуценні заблытацца можна, бы ў балоці. *Бял., Лаг. р.* Хваціць, дзеткі, скаліць зубы, німожно нанач много сьмяяцца, кладзецяся спаць. *Жац., Стаўб. р.* Што ні скажы ёй — скаліць зубы. *Сав., Стаўб. р.* Сабяруцца там дзяўчата, хлопцы, скаляць зубы цэлы вечар. *Там жа.*

СКАПЫТАВАЦЬ НА ЗЕМЛЮ ЧОРНУЮ каго. *Незадав.* Прыніжаць, зневажаць, чарніць. Наш дырэктар ліхі-ліхі. Ён і слухаць ні хоча, што ты чаго ні можаш. Заікніся толькі, што ні хочаш ці ня можаш, скапытуе на землю чорную. *Слаб., Лаг. р.*

СКЛАДАНКУ СКЛАДАЦЬ. Рабіць складчыну. Назаўтра ставяць закуску тыя, у каго хрэзьбіны, а тады госьці складанку складаюць. *Хож., Маладз. р.*

СКОСА ПАЗІРАЦЬ на каго. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ (паглядзець, паглядаць, пазіраць) КОСА (скоса, бокам, рубам) на каго.

СКУРЧЫЦЦА Ў ТРЫ ПАГІБЕЛІ. Гл. У ТРЫ ПАГІБЕЛІ СКУРЧЫЦЦА (сагнуцца).

СЛАЦЦА ЛІСТОМ перад кім. Гл. ЛІСТОМ СЛАЦЦА перад кім.

СЛОВА ЗАКІНУЦЬ за каго. Гл. ЗАКІНУЦЬ СЛОВА за каго.

СЛОВА ЗА СЛОВА. Паступова, мала-памалу (разгаварыцца, паспрачацца). Каля студні прастаяла, от, слова за слова, і не ў галаве, што дзіця ў хаці адно. *Сав., Стаўб. р.* Заходзім у хату (а каля тае хаты два йзрубы). Ну, вядома, людзі мы незнаёмыя, трэба ш пра нешта гаварыць. Ну мы й пытаемся: «Можа чалавек у хату нада? Ці можа хата прадаецца?» — «Прадаецца». Ну й слова по́ славу, тут ужо нек запрасілі нас сесьці, нек і чарка на стале з'явілася. *Дайг., Віл. р.* Нек на гаражы дак возьмя й брахне, слова за слова, й кажа: «Як кралі да дзялілі папалам, дак добра было, а цяпер мне аднаму аддувацца». *Сав., Стаўб. р.* Слова за слова, і пачалі яны

з Максімам покрысі спорыць, як пеўні. А мужыкі стоят, рагочут і подбухторвают іх. *Мур., Пруж. р.*

СЛОВАМ АБАЗВАЦЦА (перакінуцца) з к і м. Загаварыць з кім, першым пачаць гаворку пасля сваркі. Суседзі як суседзі, але кап хто прышоў, пасядзеў — усё ім часу бракуе і словам абазвацца німа с кім. *Сав., Стаўб. р.* На полі ў баразьне разам былі, бліско, але і словам ні абазвалася да міне. Так угневалася. *Шаш., Стаўб. р.* Пашла апсыпаць памідоры, падышла Вера Іванаўна, словам перакінуліся, гаварыла, што Віця прыехаў зь Мінска. *Сав., Стаўб. р.*

СЛОВА (пранікам) НЕ ВЫБІЦЬ з к а г о. Негаваркі, дзікаваты, неразгаворлівы хто (пра нелюдзя, сугнея). За якія грахі доў бог мне гэткага填 мармоля?! Ад яго й слова пранікам не выб'еш. Нічога ні расстараіцца, ні дабудзе. Сядзіць толькі, як клоп, на печы. *Суд., Вал. р.* Некалі Пятроўскі прыйдзя на вячоркі і сядзіць, слова зь яго ні выб'яш, сядзіць і маўчыць. *Жац., Стаўб. р.*

СЛОВА НЕ ПУСКАЦЬ. Не абазвацца, слова не прамовіць да каго. Жывуць абы-як, пашло на задзёр у іх. Былі пасварыліса, дак Шура тыдзянь слова ні пускала: устаня, перакусіць што і на работу. І гэтак цэлу нядзелю! *Гр., Слуц. р.* Яна яшчэ сёньня й слова ні пускала, ні ведаю, што заўтра будзя. *Там жа.*

СЛОВА ПО′ СЛАВУ. Гл. СЛОВА ЗА СЛОВА.

СЛОВА ЎСТАВІЦЬ. Гл. УСТАВІЦЬ СЛОВА.

СЛУПАМ СТАЦЬ. Гл. СТАЦЬ СЛУПАМ (калом).

СЛЯЗА СЛЯЗУ ПАДПІРАЕ. Горна, крыўдна, хочацца заплакаць. Брыгадзірка, мусіць, пасварыўшыся зь ім (мужам), сьляза сьлязу патпірая, нека сярдзітая. *Пр., Стаўб. р.*

СЛЯПІЦАЮ (сляпцом, асою) ЛЕЗЦІ (у вочы). *Незадав.* Назойліва дакучаць каму (дамаганнямі, просьбамі, пытаннямі і г. д.). Не дай бох зь ёю сустракацца. Колькі ўжэ гавару, што пакуль няма грошай, аш сьляпіцаю ў вочы лезе, дай і дай. *Кунц., Кл. р.* А цяпер дзеці нічога не баяцца. Дзе які трактар, дзе якая машына, лезуць сьляпцом, ні баяцца.*Сав., Стаўб. р.* Адзінаццаць ночы, а дзеці на каштан лезуць, то жукі, то цьвет абіваюць. Ні абагнацца ат чужых дзяцей, сьляпіцаю лезуць. *Гр., Слуц. р.* Нельга атчапіцца ад яе, асою лезе ў вочы. *Міл., Маст. р.*

СМАГУ ПРАГНАЦЬ. Гл. ПРАГНАЦЬ СМАГУ.

СМЕШКІ СТРОІЦЬ з каго. Смяяцца, пакепліваць з каго. От з гэтага старого ўсе найг′раваюцца, сьмешкі строяць. А яму ш усяго хочацца: і пачуць, і ўведаць, нічого ш ні зьмяніласё, толькі сілы німа. *Сав., Стаўб. р.* Надо ж чоловіку расказаты, растолковаты, а в тому райфу, як і ў нас, сыдять, шчо нэ схочуць і гувурыты, сьмішкы́ строять. Скажэ: «Іды, іды, я тэбе позву». І сэгодня зовуть, одно сьмішкы́ строять. *Бот., Пін. р.*

СМЯЕЦЦА ПУГА ПАД БЭЛЬКАЮ. *Дакор.* Як папярэджанне чалавеку, які губляе кантроль за сваімі паводзінамі, заслугоўвае пакарання. Нявестка мая крыклівая-крыклівая, ні пра што збэсьціць, а то і скажа: «От, ня здохняш!» Я ўжо й бацьку ейнаму казала, а бацька кажа: «І матка яе такая! А яшчэ загневаецца, ляжа на печы, ня есьць». А бацька харошы, разумны чалавек. Паходзіць, паходзіць і будзе казаць. «Ляг′ося, Ляг′ося (Ляг′ося сваху зваць), сьмяецца пуга пад бэлькаю». *Зял., Мядз. р.*

СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС куды, у што. ДОЎГІ НОС у каго. *Асудж.* Умешвацца не ў свае справы, празмерна цікавіцца чым, нетактоўна праяўляць цікавасць да чужых спраў. Такія памоўзьлівыя дзеці, дзе іх німа! Усюдых ўсунуць свой нос, усё ж ведаць трэба. *Жац., Стаўб. р.* Ты ні сунь нос ні ў сваё дзело, а то стары будзяш, калі ўсё будзяш ведаць. *Ст. Св., Стаўб. р.* Ужо ўсунула свой нос, напэцкала ў шафі, што ні разьбярэсься, дзе што. *Сав., Стаўб. р.* Старэя плахея сталі, капрызныя, усюдых насы суём, маладым ні паччыняімся, любім што сказаць, ні змоўчым. *Ульян., Сен. р.* Пачакай, бес цябе разьбяруцца, ні садзі свой нос, куды ні сьлет. *Ас., Стаўб. р.* Нос доўгі ў цібе, бачу, лезяш, куды цібе ні просяць. *Зал., Стаўб. р.* Барыс палящеў ж жалезам, б'юцца, бой настаяшчы. Адам хай хаця ні суня носа, бо ўваляць. *Пр., Стаўб. р.* Вот такі лядачы, дзе яго німа, усюды ўсадзіць свой нос, вынюхая. *Жац., Стаўб. р.* Ірка то ні вельмо хацела ехаць да сьвякрові, кажа: «Такая малютка (сыну тры тыдні), цяшко ехаць зь ім, а яшчэ кожны нос усуня, глядзець будзя, ці харошы. Ні хацела ехаць, ну, але ш трэба». *Хал., Стаўб. р.* А гэта во, каторую ён Марэяй зваў, яго жонка, але кінала яго. Казала, такей жміндала, ва ўсе ўнікаець, усюдах нос уваткнець. Пастаўлю цугунок варыцца, палядзіць, праверыць. *Ляўк., Арш. р.* Рыгор тады крычаў на міне:

«Ты, кажыць, усюды ўлезіш, дзе цябе не клічуць, усюды нос уткнеш. Сваіх дзяцей глядзі, а чужых ні вучы». *Язн., Віл. р.*

СОВЕСЦЬ ЗАГАВАРЫЛА ў к а г о. Стала сорамна каму. Гляньця, маладзічкі. Духавая музыка йграла (у клубе на дзень 25-годдзя вызвалення Кармяншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў), бялеты прыглашалі, буквы залатыя на бялетах. Далі ўсім бялеты, а нам-няма. Я пышла к пратсідацілю. «Вы напасьля́ прыдзі́ця».— «А чаго напасьля́? Мужык забіты, за Савецкую ўласьць пагіб, а мяне ў клуб ні прыглашаюць». А тагды совесьць зыгыварыла: «Зайдзіця, Новікава». *Ліцв., Карм. р.* Да ў яго совясьць ні загаворыць, ні спадзявайся. Гэто такі чалавек, абы яму добро было. А калі ты там што хочаш, то ні паспачувая, ні памо́жа, не. *Гор., Стаўб. р.*

СПАГАНЯЦЬ ПАНСТВА. *Непав., недобразыч.* Пераймаць дрэнныя прывычкі, быць фанабэрыстым, ставіць сябе высока, як калісьці паны. Ідзе па вуліцы і ні здароўкаяцца, спаганяя панство, дурань. Але й я шапкі ні зьніму перад ім, ціпер усе роўныя. *Сав., Стаўб. р.* Няма чаго, кажу, спаганяць панство, бярыся за плух і пераары соткі, рукі ні адваляцца. *Жац., Стаўб. р.* Сваячка панство спаганяя, за багацтво яе раней насілі на руках, і цяпер найлепшая, умея падысьці. *Сав., Стаўб. р.* Папрыягджалі зь Мінска, сьпяць доўго. А я кажу: «Хваціць спаганяць панство, ідзеця вунь картофлю капаць». *Там жа.*

СПАГНАЦЬ (сарваць) ЗЛОСЦЬ н а к і м. Будучы злосным, раз'ятраным, насварыцца, набіць каго невінаватага. Прышоў з работы, як хмара, маўчыць, а вечарам давай прыставаць да міне, свары́цца. Сарваў злосьць на мне. *Сав., Стаўб. р.* Чаго ты на япруку злосьць спаганяш? Німа чаго яго біць, ён нівінаваты. *Там жа.* Раззлавалася я сягоньні на Яніну — гэто ш трэба так зрабіць (не прынесла своечасова пілу) — і на япруку — бедны папаўсё пад рукі — спагнала злосьць. *Там жа.*

СПАЛІЦЬ СЭРЦА. Быць узбуджаным, узрушаным, стаміцца маральна, адны хваляванні (мець) п р а з к а г о. А Маня разьвярнула велькаго япрука, кішкі тонкія, а парэзала кілбаснаё мясо і шынку на кілбасы, дагледзяць усё трэба, прыбраць. Казала, задушылася ад работы, сэрцо спаліла. *Сав., Стаўб. р.* Спаліш сэрцо з гэтым хлопцам, ані ні слухая. *Гор., Стаўб. р.* Напускала

курэй поўны двор, усюдых лезуць, а даваць німа чаго (есці), спаліла сэрцо адно зь імі. *Сав., Стаўб. р.* Спаліш сэрцо, з гэтым чалавекам жывучы,— того ні есьць, того ні хачу. Сьпяку верашчакі — такая смашная! — а ён і ні гляня. *Там жа.*

СПАСУ (спасення) НЯМА (нет). Не знаходзіць выйсця са становішча, няма ратунку ад каго. Мышы ядуць бульбу, спасу німа. Нада ўзяць у Сяргея мышалоўку. *Бял., Лаг. р.* Унадзіўся Лявонаў кот па нашы кураняты, няма спасу. *Пан., Нясв. р.* Жані гаўяд у гала, там хоць авадоў не гэтак, спасу няма ад заядзі. Абы раса апсохла, ужэ й звоняць, як шылам скаціну ніжуць. От носікі! *Вяліч., Сал. р.* Пашоў ядлоўцу насек, вылажыў на гары і зьвёў мышы гэдак. А то, казаў, спасеньня німа ад мышэй. *Пр., Стаўб. р.* Пасеяла пад дзеравам цімафеяўкі, а то нічого ні расьце, дак напалі вераб'е, спасу німа, лець выхавала. *Сав., Стаўб. р.* А бывало, за мухамі спасу ні было. *Там жа.* Дак ужо потым перасталі (уколы даваць), а то спасу ні было. Да балючыя! Горай баляць, чым тыя рабрыны, што ўламала. *Ат., Стаўб. р.* Первым годъм, як мы зайшлі сюды (мы нідаўна на етай усадзьбі), дваццаць курэй як выпусьцюць (суседзі), зложаць пожню ўсю чыста, як выдуць, белым-бела тут усё. Пазьядуць ўсё на сьвеці: і бурачкі, і капусту,— нет спасу. Ці паверыце, судзілісі зъ курэй. *Ляўк., Арш. р.*

СПАСЦІ З ЦЕЛА. Схуднець, мець благі выгляд. Цётка Яніна нідамагая. Учоро дзяцько вазіў да доктара. Спала сь цела, адны вочы блішчаць. *Сав., Стаўб. р.* Ірка гэтая, што даяркай робіць, зарабляя добро, але худая, спала сь цела. Ведамо, і дзень і ноч на фермі. *Там жа.* Што гэто ты нешто сь цела спала? Можа хварэяш? *Гор., Стаўб. р.* Аньця пасьля хваробы худая, адны косьці. Так спала сь цела, што ні пазнаць кабеты, а была ш такая поўная. *Ас., Стаўб. р.*

СПАЦЬ У ШАПКУ. *Асудж.* Бяздзейнічаць, не праяўляць руплівасці, быць абыякавым да чаго, калі трэба неадкладна дзейнічаць. Яно ня толькі цяпер, але і скрось так было: хто ня спаў ў шапку, та меў, а хто любіў паспаць у шапку, то гэтак ён і меў. Кажуць жа, пад ляжачы камень сама і вада не цячэ. *Гр., Слуц. р.* Уставай, не ляжы! Чаго ты сьпіш у шапку?! Юзаф Г'оцкі онь ужо ў Стоўпцы зьезьдзіў, камбікорм прывёс, а ты ні дбаяш. *Сав., Стаўб. р.*

СПАЦЬ ЯК ПШАНІЦУ ПРАДАЎШЫ (прадаў). Спаць моцным сном, добра спаць. Прыехаў Юзік уночы, здарожыўся, то сьпіць як пшаніцу прадаўшы. *Гор., Стаўб. р.* Сьпіць наш дзяцько як пшаніцу прадаўшы. *Сав., Стаўб. р.* Ляжала ў больніцы. Дак, вядома ш, во дзень на дзень усё колюць уколы гэтыя, да балючыя, як зьмяя. Но й намучылася. Як ушпіліць, дак цэлы дзень ныя тоя месца, ніяк ні праходзіць. Да на сон гэта, кажуць (уколы). Дак я кажу: «Я й так сплю як пшаніцу прадаўшы, ня давайця мне на сон». *Хал., Стаўб. р.* Мае госьці прыехалі позно, доўго гаманілі ўночы, а зárас сьпяць як пшаніцу прадалі. *Гор., Стаўб. р.*

СПУСЦІЦЬ З ПАМЯЦІ. Забыцца. «Ня ведаяш, ці здала Сямёнаўна кабана?» — «Ня ведаю. Спусьціла с памяці, ні папыталася». *Сав., Стаўб. р.*

СПУСЦІЦЬ ШКУРУ к а м у. Гл. ШКУРУ СПУСЦІЦЬ (счарніць) к а м у.

СПРАКУ-ВЕКУ. Спрадвеку. Як засведчыла людская памяць. Атабралі пад баню сядзібу, а мне за чатыры кілометры сядзібу (соткі) далі. А там спраку-веку ні гнояна. *Ліцв., Карм. р.*

ССАЦЬ КРОЎ ч ы ю. *Асудж.* Эксплуатаваць, прыгнятаць, мучыць каго, мець карысць ад чужой працы. Дай ты рады, сусетка, помніш хібо, як жылосё? Дзе пасьвіць было кароўку, дзе пасеяць які загон, калі курыцу трэба было навязваць! А яны (асаднікі) вунь колькі зямлі мелі, а зямля ж была! Ссалі кроў нашу гэтыя тваe добрыя асаднікі. Ого, хай карова ўскочыць куды! *Сав., Стаўб. р.* Яго бацькі, помню, ссалі кроў з мужыкоў: і аралі, і жалі, і малацілі. Усё адраблялі ім мужыкі. *Жац., Стаўб. р.*

СТАВІЦЬ КРЫЖ н а к а г о, н а ш т о. Гл. ПАСТАВІЦЬ (ставіць) КРЫЖ н а к а г о, н а ш т о.

СТАІЦЬ ПАД ГРУДЗЬМІ. ПАДВАРОЧВАЕ ПАД ГРУДЗІ. Нудзіць. Зьела бурачкоў трошкі, то нешто стаіць пад грудзьмі цэлы дзень, пячайка пячэ. Пайду соды вып'ю, можа перастаня. *Сав., Стаўб. р.* Наелася гэтай зялепухі (няспелых яблык), нідобро стало, доўго стаяло пад грудзьмі, а потым вырвало. *Там жа.* Нявестка мая захварэла на пячонку. Што ня зьесьць, нудзіць, падварочвая пад грудзі. *Там жа.* Я як нараблюся, як панагінаюся, то пячайка — ні вытрымаць, стаіць пад грудзьмі цэлы дзень. І нічого ні памагая. *Гор., Стаўб. р.* На радзінах я папробавала некіх там канцэрваў, а яны, мусіць, нясьве-

жыя былі, як зрабіласё мне нідобро, падвярнула пад грудзі. Ото мучылася. Добро, што сарвало. *Хал., Стаўб. р.*

СТАІЦЬ ЯК СЛУП (як пень). *Незадав., непаш.* Нерухома і доўга стаяць. Увойдзя ў клуп і стаіць як слуп. Ні яна да кога, ні хто да яе, ведамо, брыткая. *Веч., Стаўб. р.* Увойдзя ў хату, кажу: «Садзіся, Міхал». Не, ні сядзя, стаіць як пень. *Сав., Стаўб. р.*

СТАЛА НА ПАГОДЗЕ. Распагодзілася. Надаелі туман да мгла, скарэй бы стала на пагодзе. *Гр., Слуц. р.* На том тыдні, можа, станя на пагодзі, то камбайны пойдуць у полё. *Сав., Стаўб. р.* Прыеду да вас, як трохі станя на пагодзі, а то ж, бачыш, с хаты ні вылясьці, колькі сьнегу намяло. І ўсё мяце й мяце, сьвету ні відаць. *Там жа.* Трэба, сынок, нек дроў і торфу прывесьці, покуль стаіць на пагодзі, а то настаня сьлякаць, макрыня́, і ты ш паедзяш. *Ас., Стаўб. р.*

СТАНАВІЦЦА ДУБАКА. Пярэчыць, супраціўляцца. Іншыя бацьке становяцца дубака, кап сын малады ні жаніўсё, а майму дзевяру ні апходзіць. Юзаф нешто: «Папо, жаніцца буду». «Жаніся, шчэ кабанчык у хляве ест». Ні прымаяцца, хочаш — жаніся, ён вяселё зробіць, бачыш, і ні кепскаё. *Сав., Стаўб. р.*

СТАРАЯ ПЕСНЯ (песенька). Штосьці вельмі добра знаёмае, вядомае. Ну, брат, гэто старая песьня. Ён даўно выпівая. Колькі раз біў яе (жонку), а яна з дому сыходзіла, бедная, але маўчала, кап суседзі ні ведалі. *Гор., Стаўб. р.* Зноў старая песенька. Кажды рас кажу: «Усталі, то трэба памыцца, адзецца, прычасацца, а тагды за стол лесьці». А то як папало. Іра памылася, а малыя стараюцца, кап не. Ідзеця мыцца, скорынько! *Сав., Стаўб. р.*

СТАЯЦЬ НА ДАРОЗЕ к а м у. СТАЦЬ ПАСЯРОД ДАРОГІ к а м у. Перашкаджаць, быць перашкодай каму. Я б зрабіў бы саўсім ні так, каб брат мне ні стаяў на дарозі: спрадаў бы ўсё — і на цаліну, нечаго гора ні меў бы з гэтымі вугламі. *Гор., Стаўб. р.* Коля табе заўсюды стаіць на дарозі. Летась ты ні мох паехаць і цяперачы з-за яго дома сядзі. *Веч., Стаўб. р.* Мы дык нейк усе прывыклі, што Марютка с Хвецькъм усё удваіх ды удваіх, дык і ня думалі пра нешта другое, як пра тое, што яны пажэнюцца. Хіба можа толькі бацька ягоный станіць пасярёд дарогі, бо Марютка бедная была, такая, як і ўсе мы. *М. Каш., Гар. р.*

СТАЦЬ НА НОГІ. Гл. ПАДНЯЦЦА (стаць, паўстаць) НА НОГІ.

СТАЦЬ ПАСЯРОД ДАРОГІ каму. Гл. СТАЯЦЬ НА ДАРОЗЕ каму.

СТАЦЬ СЛУПАМ (калом). Балець, моцна забалець (пра пазваночнік, спіну, сярэдзіну). Сынок мой пашоў у ягады. Много назьбіраў тых ягат, кажа, много ест. Але прышоў і на канапку адразу: «Хай яны праваляцца, гэтыя ягады, спіна стала слупам». *Сав., Стаўб. р.* Жнеш, жнеш, бывало, потам абліваясься, сярэдзіна тая слупам станя, а ўсё робіш, бо трэба было рабіць. *Там жа.* Ішла Яніна з работы, прыпынілася кала весьнічак. Замарылася, кажа, ледзьвя йду. Цалюські дзянёчак буракі чысьцілі, рук ні чую, сьпіна калом стала. *Гор., Стаўб. р.* Я п сь сьвіньмі расправілася п, але картофяль паўнавато ў пограбі, хай паядуць. Тры чыгунэ па́ру адно картофяль. А трэба ж наладаваць гэтыя чыгунэ, вады прынесьці, дроў прынесьці — і ўсё самой. Сьпіна за дзень калом станя. *Там жа.*

СТАЦЬ УПОПЕРАК ГОРЛА каму. Не даваць спакою, перашкаджаць жыць каму. Аньцін кусок (кавалак зямлі) стаў яму ўпопярак горла, жыць ні даваў. Хацеў атсудзіць, але прышла Савецкаў уласьць, то й сьціх. *Сав., Стаўб. р.* Ён даўно ўпопярак горла стаў гэтым смаленскім (другая жонка і яе радня — са Смаленшчыны родам). Яны хацелі б, каб ён скарэй памёр, а яны прадалі п хату, збылі гаспадарку і паехалі б адгэтуль. *Жац., Стаўб. р.* Скупыя людзі гэтыя Ахрэмавы. Яна й зяця вытурыла б с хаты, каб можно было, бо ён даўно ім стаіць упопярак горла. *Хал., Стаўб. р.*

СТАЯЦЬ АДНОЙ НАГОЙ У МАГІЛЕ. Дажываць сваё жыццё, быць блізкім да смерці (пра старога або вельмі хворага чалавека). Што тут ужэ пра маладых казаць, калі вунь стары, які адной нагою ў магіля ўжэ, ды й то на жанок яшчэ паглядая. *Кав., Старада́р. р.* Гэта ш Толя Тарэсін адною нагою у магіля, разьбіўса. Мабыць, у Мінск забяруць. Верталёт на За́мку (назва урочышча) сеў. Ляцеў учора на матацыкле, разьбіў усю голаў і чэрап, ледзь жыве. Эта ш трэба так ляцець! *Гр., Слуц. р.* Пеньсія — пасьленьняя ступень жызьні чалавека. Кап пеньсію здароваму давалі, гэта дзела было п, а то што адна нага на гэтум сьвеця, а другой — у магіля стаіць, то пра пеньсію і пытаць ні трэба. *Бяр., Дзярж. р.*

СТАЯЦЬ ГАРОЙ (груддзю) *за каго, за што*. Усімі сіламі заступацца, абараняць, адстойваць каго або што. Усе людзі гарой стаялі за тую жанчыну. *Жыб., Дзятл. р.* І сарганізаваліся, сталі грудзьдзю, усе як адзін выступаям: «Ні дадзём вам лавіць (рыбы) і ўсё. Мы так наважылі, не дадзёмся і ўсё». *Мік., Мядз. р.* Дружныя гэтыя Вінцуковыя хлопцы — гарой стаяць адзін за аднаго. *Гал., Стаўб. р.* Яна гарой стаіць за шваг'ра, ого! Радня ш, дзе ты бачыў, каб яна сказала што процiў яго. *Сав., Стаўб. р.* Каля Стоўпцаў нашы стаялі гарой, ні прапусьцілі фашыстаў праз Нёман. *Гал., Стаўб. р.*

СТАЯЦЬ НА КВАТЭРЫ *ў каго*. Кватараваць, наймаць кватэру для пражывання. У нас фельчарыца ў Антосявых на кватэры стаяла, а ціпер вышла замуш, то ні ведаю, ці ест доктар у брыгадзі ці не. *Гор., Стаўб. р.* Наш музыкант у Горках на кватэры стаяў, а сам родам недзя с-пад Баранавіч. *Сав., Стаўб. р.*

СТАЯЦЬ НА СВАІМ. Быць прынцыповым, упартым, настойваць на сваіх довадах, меркаваннях, прытрымлівацца сваёй думкі, адстойваць яе. Вот бачыш, малы, а ты яго ні пераспорыш. Стаіць на сваім — і ўсё. Ціпер дзеці разумныя, ведаюць много. *Сав., Стаўб. р.* Вот які ў міне ўнучак нідобры: прынясі, кажу, Мішка, паленца дроў — ні хачу. Кажу, ні хадзі на рэчку, бо запэцькаясься, а ён стаіць на сваім, дзе ты яго ўтрымаяш. Ідзі, гуляй. Прыедзя папо, я раскажу пра ўсё. *Там жа.*

СТАЯЦЬ (быць) НАЧЫКУ. Быць гатовым, напагатове. Нашы цяпер стаяць начыку, гэто ні тоё, як раней, ні ведалі, што й рабіць, а немяц прэ. *Гор., Стаўб. р.* Дагаварыліся разам ехаць у Слуцак, а гэта ж раненька трэба ехаць. Зайшла я па яе (суседку), а яна стаіць начыку ўжэ, гатова. *Кунц., Кл. р.* Іван быў ужо начыку, як я прышоў да яго, чакаў, рано ўстаў. *Ас., Стаўб. р.*

СТАЯЦЬ У ВАЧАХ (перад вочмі). Добра, выразна ўяўляць сабе што, каго па памяці. Я вельмі люблю ў грыбэ хадзіць, але находзісься за дзень, то ўсю ноч стаяць у вачах, ні заснуць. *Гор., Стаўб. р.* Харошая капка ў маткі вашай, мне ў вачах стаіць, такая стракатая, ладная. Прыехаць маюцца мае ўнучкі с Польшчы, напішу, кап прывезьлі мне такую капу. *Сав., Стаўб. р.* Я добра помню сваю маму, маленькая была. Во як надумаюсё, стаіць у вачах. *Жац., Стаўб. р.* Адзін рас, жнучы той лубін, бачыла аленя. Вышаў зь лесу, пастаяў трохо. Рогі велькія,

патрос барадою і пабег назад у лес. Харошы такі, у вачах і цяпер стаіць. *Жыр., Слонім. р.* Ні гады мае хадзіць па лесі. Як пасяджу, ўкленчыўшы, дак і дома ягаднік стаіць і стаіць, аш памацаю, перад вочмі стаіць. *Пр., Стаўб. р.*

СТРАЛЯЦЬ ВАРОН. *Незадав.* Быць разявакай, непаваротлівым, някемлівым (пра чалавека). Хай бы ш ты мне купіў тую хустку, хай бы ш была і ў міне. Страляў там варон кала магазіна, а людзі разабралі. *Сав., Стаўб. р.* Глядзі ш, далёка не адыхоцься ад дому да варон ні страляй. Адразу, як курыца саскочыць сь седала, пакармі яе, паглядзі, каб ізноў села, а то яйца астынуць. *Н. Тур., Уш. р.* Чаго ш ты там страляў варон? Трэба было хоць ячменю выпісаць, ведаяш жа, што нямашака чаго курам пасыпаць. *Веч., Стаўб. р.* Трэба было ні варон страляць (на кірмашы), а глядзець у два вокі, бо маглі п і самога ўкрасьці, некі разявакаваты. *Зал., Вал. р.* Я ні хачу зь Янкай ісьці (па ягады). Яна ходзіць па лесі, галёкая, страляя варон, а мне зьбірай. А дома кажуць, што мы ўдзьвёх сабіралі. *Жац., Стаўб. р.*

СТРАЛЯЦЬ ВАЧЫМА. 1. Какетліва паглядаць на каго. Ні замеціш, цётка, як павыростаюць (дзеці). Вунь ваша Лёня ўжо страляя вачыма на хлопцаў. Скоро й бапкай зробіцяся. *Веч., Стаўб. р.* 2. Кідаць кароткія, хуткія позіркі. Ты вот ні страляй вачыма па хаці, а сяць і раскажы, як там было на тым вяселі, мацяры ш цікаво ведаць. *Гал., Стаўб. р.* Ты колькі страляяш вачымі, а зьбіраць ні ўмеяш. Ты памаленьку, ні сьпяшайся, паглядзі кала ёлачкі, падымі лапку, нагніся, то й знойдзяш (грыб). *Жац., Стаўб. р.*

СТРАХ ГЛЯДЗЕЦЬ. *Здзіўлен.* 1. Вельмі вялікі, выклікае здзіўленне, захапленне, не такі, як звычайна. Сам асьцігнуў (прыбраў к рукам) пуць тую, дзьве каровы, страх глядзець, сытыя, дагледжаныя; кабанэ корміць, дзеці параспарэджвала (уладкавала), усе на грашах, жыто аддалі с трох гот (за тры гады), дак яна гаспадыня. *Сав., Стаўб. р.* 2. Надта, надзвычай многа. Дзяцько многа саломы зарабіў, завярнуў увесь пругмень, страх глядзець. І мне, праўда, возік прывёс. *Там жа.* У Марусі ў гэтым году трускавак — страх глядзець, не вывалача. Вот набярэ грошай. *Гал., Стаўб. р.* Закалоў падрат пару сьвіней, навярнуў сала, мяса — страх глядзець. Дзе ён яго зьесьць за зіму. *Ас., Стаўб. р.* Ішлі бежанцы тут у

нас, як вайна праходзіла, людзей-людзей — страх глядзець, і адкуль яны браліся столькі. *Жац., Стаўб. р.*

СТРАЦІЦЬ ЛАСКУ. Быць не ў пашане, не ў павазе ў каго. Кінь ты, Стасік, гаварыць абы-што, перастань нагаворваць на чалавека, бо дам, адразу страціш ласку. *Гор., Стаўб. р.* Нешто Ніна ласку страціла да міне. То, бывало, ідзе, спыніцца, пагаворыць, калі і ў хату зойдзя, а то ўжо пройдзя — і ні чорнаго ні белаго. *Сав., Стаўб. р.* Эдзік ужо й ласку страціў да цібе, ні ходзіць, можа, загневаўсё, што ты ні памох яму салому прывесьці. *Жац., Стаўб. р.* Вот маўчы, сядзі ўжо там у запячку, бо палучыш у міне, адразу ласку страціш, разумны вельмі людзей перадражніваць. *Ас., Стаўб. р.*

СТРОІЦЬ КПІНЫ (кепікі) з каго. Смяяцца, пакепліваць з каго. Хай сабе гуляюць (дзеці). Бегайця, толькі ні чапайця Лявоніхі, а то, ведаю, апступіця і будзяця зь яе кпіны строіць. Брытко, дзеткі, ні чапайця яе. *Сав., Стаўб. р.* Што мне быць у вас? Будзяця зь міне, старой, строіць кпіны ўвесь вечар, пайду лепш паляжу на печы. *Веч., Стаўб. р.* Ты кінь кепікі строіць! Сабірайся й едзь заўтро ў Мір, парасят купі. *Ас., Стаўб. р.* Вот будзяця тут кепікі строіць з малой (дзяўчынкі), ідзеця на двор гуляць, слонцо, пагода харошая. *Сав., Стаўб. р.*

СТРЫГЧЫ ВУШАМІ. Прыслухоўвацца (звычайна пра каня). Еду зь лесу, а ён (конь) знаравіўся і ні зь месца. Як укопаны! Стрыжэ вушамі, б'е капытамі, каб на яго халера. Ото намучыўся, пакуль дабраўся дадому. *Жац., Стаўб. р.* Узяў стаеньніка картофлі выворваць. Конь сыты, дагледжаны, піша, а ні йдзе. Толькі пагляндвая скосо, стрыжэ вушамі. *Хал., Стаўб. р.*

СТУЛІЦЬ ГУБЫ. *Асудж.* Змоўкнуць, перастаць гаварыць (у час спрэчкі, гутаркі). Хваціць табе ўжо, стулі губы, бо разышлася, хоць вушы затыкай. *Хал., Стаўб. р.* Сціхніця, цётка, стулеця губы, ні браў я вашаго малатка. Можа вашы дзеці куды зацягнулі, папытайцяся. *Сав., Стаўб. р.* Старая Антошча табе змоўчыць, ого! Губ ні стуліць датуль, пака ні набрэшацца. *Жац., Стаўб. р.*

СТУПІЦЬ (уступіць) У СЛЕД чый. Рабіць так, як хто іншы, пераймаць чые звычкі, манеры. Як ступіш у дзеда Васіля сьлет, будзяш, як бацька, гарэлку любіць. А як у дзеда Марціна сьлет, то пляшка хоць і на пашэве стаіць, ніколі ні возьмя. *Гр., Слуц. р.* І дъчка ў маткін сьлет уступіла. Запівае, бяспуствуе, дзяцёнък малый,

у ясьлі ні здасьць, а прывезла да маткі, тъкой къраўкі ванючай. *Ляўк., Арш. р.*

СУНУЦЬ У ЛАПУ каму. Гл. ДАЦЬ (сунуць) У РУКУ (у лапу) каму.

СУНУЦЬ У РУКУ каму. Гл. ДАЦЬ (сунуць) У РУКУ (у лапу) каму.

СХАПІЦЦА (ухапіцца, хватацца, трымацца) ЗА САЛОМІНКУ (за саломіну). Шукаючы ратунку, выйсця з цяжкага становішча, звярнуцца да апошняга сродку, хоць і гэты апошні ненадзейны. Эдзік хватаяцца за саломінку, ні ведая, што рабіць, у каго рады прасіць, такоё горо ў чалавека с хлопчыкам. *Жац., Стаўб. р.* От ён ўляцеў з гэтай машынай жыта. Няма апраўданьня, дак за ўсялякую саломінку трымаяцца, абы выйсьці зь бяды. *Хал., Стаўб. р.* Міша Г'оцкі рады за саломінку схапіцца, абы сесьці на трактар. Памагая брату, дзень у дзень ходзіць на работу. *Зал., Стаўб. р.*

СЦІНАЦЬ КАРАЛЮ ГАЛОВЫ. Высока касіць. Як будзяш касіць, левую руку падымай вышай, о так о. Тады каса будзе мінаць ўсе каменьні, будзеш, як у нас гавораць, сьцінаць каралю галовы. *Бял., Лаг. р.*

СЫСЦІ Ў МАГІЛУ. Памерці. Што мая сястра Аньця мучылася, покуль сышла ў магілу, то й выказаць ні магу. *Жац., Стаўб. р.* Люццы добрыя! Хіба ж гэта чалавек, хіба ж гэта сем'янін, што жонку ў яму, а сам на другую гляну! Колькі мая сястра папакутувала за ім, бес пары ў магілу сыйшла. *Слаб., Лаг. р.* Было ў яе чатэры сынэ, і ўсе нігодныя. Ні слухалі яе, рабілі, што хацелі. А, ведамо, хворая, прымалася, крычала, бедная, і так памерла, сышла ў магілу, мая ты сястрычка дарагая. *Сав., Стаўб. р.*

СЫЦЬ БРАЦЬ. Ад'есціся, паправіцца, патаўсцець. Мая нявестка многа сеіць бобу, паўагарода. А тады палавіну бобу, палавіну дабра (збожжа) завязець у пруд (млын), а тады сыць бяруць сьвіньні, сыцеюць. *Ульян., Сен. р.*

СЭРЦА АБЛІВАЕЦЦА КРЫВЁЙ чыё, у каго. ДУША КРЫВЁЙ ЗАЛЯТАЕ ў каго. *Шкадав., жаласн., спачуван.* Моцна перажываць за лёс каго, смуткаваць, хвалявацца (з прычыны гора, няшчасця, бяды ў каго). У мяне сэрца абліваецца крывёй, калі пагляджу на гэтых маленькіх дзетачак. Як яны будуць жыць без мацяры? А памыць, а накарміць, ці той бацька ўправіцца ўсюдых.

*Ст. Св., Стаўб. р.* Пайду траву зьбіраць, аспадыня возьміць напячэць аладык, сьпячэць яешню, сваіх дзяцей, мужыка пазавець, пасьнедаюць. А як я прыду з гэтай травы, абрашўся па пояс, і рада б была, кап чаго зьесьці, дык мне тады толькі возьміць бульбы — варняткі і сывараткі с-пад мішка: «Вот, сьнедай, тваё сьніданьня». Дак маё сэрца кроўю аблівалася. *Зам., Віл. р.* А як здумаеш на прошлае жыцьцё, так, як я, пражыўшы, душа крывёй залятае. *Вай., Ашмян. р.* У яго ж дошак-дошак настоляна (назапашана, на столі ляжаць), яшчэ мо золата ў патпечку ест, а як памерла Аньця, зрабіў с аполак гроп, пясок сыпаўся, як хавалі. У міне сэрцо крывёй абліваласё; так я шкадавала яе. *Сав., Стаўб. р.* Ты от, Хвядося, падумай, як жыць мне старой, німагушчой? Сына забілі на вайне, нявестка аддзельна жыве, піша, спрадай усе і прыягджай да нас, чаго ты мучысса анная. А я як падумаю, душа крывею залятая — родзіна! Як жа кідаць, куды ехаць на старась шчасьця йскаць! От і гібею адна. *Гр., Слуц. р.*

СЭРЦА АДЫШЛО. Супакоіцца, перастаць хвалявацца. Зьвечарэла, залезла я на печ, думаю, гляну ў г'азэту. Аж нехто стук-стук у шыбу і ўголас: «Цётка, пажар!» Я сь печы, на двор глянула — нічого, маё стаіць. Сэрцо адышло. А ў суседа бляск, гумно гарыць. *Сав., Стаўб. р.* Яна як палучыла ад вас пісьмо, сэрцо адышло, думала, што, можа, хворы ці што, чаму ні едзяця, ні пішаця. *Там жа.*

СЭРЦА КРОЎЮ (крывёй) АБЛІВАЕЦЦА чыё, у каго. Гл. СЭРЦА АБЛІВАЕЦЦА КРЫВЁЙ чыё, у каго. ДУША КРЫВЁЙ ЗАЛЯТАЕ чыя, у каго.

СЭРЦА НЕ НА МЕСЦЫ ў каго. Хвалявацца, турбавацца, трывожыцца за лёс каго. Яшчэ гэны сут сёньня, на сорам выставяць. Кап скарэй ужо гэны сут прайшоў, было п і сэрцо на месьце, а то думай. *Бял., Лаг. р.* Сэрцо маё ні на месьці: на дварэ цёмно, а дзяцей німа, дзе яны цягаюцца поначы, можа дзе заблудзіліся ў лесі. *Жац., Стаўб. р.* Картофяль мало будзя, чым гэто сьвінчо карміць, ліхо яго ведая, сэрцо ні на месьці ў бабы. *Сав., Стаўб. р.*

СЭРЦА РАЗРЫВАЕЦЦА. *Шкадав., жаласн., спачуван.* Моцна перажываць, смуткаваць (з прычыны гора, няшчасця, бяды). Як людзі сем'ямі, дак адно тоё, другоё — другоё, адно кала дому, другоё — у калхос, у іх і зярнята,

у іх і мука, у іх і салома, і дрова, і брыкет — усё ў іх, а тут адзін. Сэрцо разрываяцца, ня вытрымаць ат такой жызьні, а жывеш жа! *Сав., Стаўб. р.*

СЭРЦА РВАЦЬ. Моцна хвалявацца, перажываць. Пагонім у кусты, а там балота, багна, лезуць у ваду (каровы). Пастануць, як палкі, а мне сэрца рві, стаяць на нным месьці, ні выгнаць. *Ульян., Сен. р.* А такі ма́льчак слаўны быў! Бульбу ганяў, скарадзіў, сена касіў. Так мы наплакаліся каля таго мальчыка, так нам жалка было яго. А матка сэрца будзе рваць да веку, ні забудзіцца на яго. *Там жа.*

СЭРЦА СПАЛІЦЬ. Гл. СПАЛІЦЬ СЭРЦА.

СЯДЗЕЦЬ БЕЗ ДУХУ. Сцішыцца, сядзець ціха (ад сполаху, жаху). Палез нехта на хату. Мы папалохаліся, сядзім без духу. А ноч, нідзе нікога. А тады шась-шась — пашоў на двор. *Пр., Стаўб. р.* Як немцы наступалі, то нам страшно было. Бацько наш выкапаў вялікую яму кала саду, і мы ў тую яму. Сядзім без духу, а кругом страляніна: снарады рвуцца, і сьвішчуць пулі. А некіх людзей поўнаё жыто. *Сав., Стаўб. р.*

СЯДЗЕЦЬ З ГЭТАГА. Быць занятым выключна адной справай, аддаваць ёй усю ўвагу. Прышлі на хрэзьбіны, а там усё грязноё дзецкаё, а на самой (гаспадыні) плацё гразнаё, карэлаё. Дзеці троё, але ты ш сядзіш з гэтаго, на работу (у калгас) ні ходзіш, трэба ш глядзець трохо. *Сав., Стаўб. р.* «Эдзік добры настаўнік стаў».— «А то дзіво што стаў. Ён жа пяць гот вучыўся ў Мінску, сядзіць з гэтаго, то й трэба, кап добро вучыў». *Жац., Стаўб. р.*

СЯДЗЕЦЬ КАМЕНЕМ. *Зласл., незадав.* **1.** Перашкаджаць, дадзяваць каму. Саёдзін (лякарства) вып'ю, таблетка, як кабыла, быльшая, а тады ён мне сядзіць камінім пад грудзьмі, хоч плач. *Ульян., Сен. р.* **2.** Сцішыцца, сядзець ціха, спакойна (пасля галасу, крыку). Звычайна ўжываецца як пагрозлівае патрабаванне да дзяцей або дарослых, каб перасталі крычаць, галёкаць, гайсаць і інш. Сьціхні ты балбатаць, ідзі сяць камяням на канапцы й сядзі. *Сав., Стаўб. р.* Ото дзеткі, дзе іх німа. Хату паравернуць дагары нагамі. Німа, кап пасьпявалі што ці пачыталі якую ксёншку. Сяцьце камяням, каб і голасу вашаго я ні чула! *Гор., Стаўб. р.* Сталі піць. То ты ж як хазяін выпіў і сядзі камяням. Дак не. *Сав., Стаўб. р.* Вы (да дзяцей) калі прышлі гуляць, то сядзеця мне камяням,

каб я вас ні чула. *Ас., Стаўб. р.* Каменем сядзець у мяне будзеш, няма чаго паласкаць чужыя агароды. *Райч., Пух. р.*

СЯДЗЕЦЬ КАРЧОМ. Гл. КАРЧОМ СЯДЗЕЦЬ.

СЯДЗЕЦЬ НА ГАРБУ к а г о, ч ы і м. Гл. СЯДЗЕЦЬ НА КАРКУ (на гарбу) к а г о, ч ы і м. СЕСЦІ НА КАРАК (на карк) к а г о, ч ы й.

СЯДЗЕЦЬ НА КАРКУ (на гарбу) к а г о, ч ы і м. СЕСЦІ НА КАРАК (на карк) к а г о, ч ы й. *Дакор., незадав.* Знаходзіцца, быць на ўтрыманні каго, стаць клопатам для каго, жыць на сродкі каго. Дзеці селі на карк, рады няма. Давай і давай бацько грошы: тому на касьцюм, тому памажы кватэру выкупіць, тому — на туфлі. А на яду колькі йдзе! *Сав., Стаўб. р.* Сяджу на сваёй печы адна-адным, бо ні хачу дзяцям на карк садзіцца, у іх свае сем'і. *Там жа.* У мяне чацьвёро дзяцей сядзіць на карку, а ты аднаго стаміўся выхоўваць. Што зь яго будзя, гэдакі распушчаны расьце. *Ст. Св., Стаўб. р.* Верка зрабілася — адны суста́вы. Іна́ цілят даглідая, а ён на печы ляжыць, прыдуркам зьдзелаўсь, прыкінуўся, ня робя, сядзіць на яе гарбу. Толька мучыць бабу. *Ліцв., Карм. р.* Дзеці некія нілюцкія. Думаў, браток, што як вывучацца, то й мне памогуць. Але дзе там! Наровяць толькі, каб бацьку сесьці на карак. *Кунц., Кл. р.* А мні так обыдно, колы друга чортова баба кагэ, шо вона нычого нэ робыть да сэдыть на чоловіковом карку. А то, шчо за роботою нэма ны дня, ны ночы, воны нэ бачать. *Мал., Стол. р.*

СЯДЗЕЦЬ НА КУРАХ. Выседжваць кураняты. Дзеткі, не зганеця там куру ў кутку, шарая такая, сядзіць на курах. *Сав., Стаўб. р.* Адразу заквахталі дзьве куры, то адну пасадзіла, хай сядзіць на курах, а другая таксама хоча сядзець, але зганяю сь седала. *Жац., Стаўб. р.*

СЯДЗЕЦЬ РОТ ЗАМАЗАЎШЫ. *Незадав.* Маўчаць, не адважыцца сказаць слова. Ты на праўленьні ні сядзі рот замазаўшы, а скажы: «Народ ні зарабляіць, зачым нам ні налічаюць за падвярачываньня сена?» *Ліцв., Карм. р.* На што іншае, то ты мэт, а каб зрабіць добро ў хату, то не. Чаго ш ты сядзеў рот замазаўшы? Трэба ж было папрасіць шваѓра, кап памох дастаць мацяр'ялу на вяранду. Ці гэта мне, старому, усё трэба аднаму дбаць? *Хал., Стаўб. р.*

СЯДЗЕЦЬ У ГРАЗІ. *Асудж.* Брудна, неахайна (у па-

мяшканні); бедна, гаротна (жыць). Як той мужык церпіць. Тъкая ніакуратная баба, што сьвет ні відзіў. Нада ж так: і на работу ні ходзіць, і ў хаці ні прыбярэць, сядзіць у гразі. *Ліцв., Карм. р.* Той Сьцяпан сядзеў па самыя вушы ў гразі і ні шманаў. *Жац., Стаўб. р.* Ні ўсе, праўда, гаравалі, але былі й такія, што сядзелі ў гразі, не было ў што адзецца, апрануцца, каб да касьцёла паехаць. *Сав., Стаўб. р.*

СЯДЗЕЦЬ У СУЧКУ. Гл. У СУЧКУ́ СЯДЗЕЦЬ.

СЯДЗЕЦЬ ЯК МІХАЛЬ АД НЯСВІЖА. *Іран.* Зводдаль заняць месца за сталом, сесці так, што далёка да міскі, да талеркі. А Дуся, як заўсёды, сядзя як Міхаль ад Нясьвіжа. Патсовайся бліжэй! *Сав., Стаўб. р.* Хлопяц быў нясьмелы, той Юзік. Прыехалі ў сватэ, а ён сеў (ад дзеўчыны) як Міхаль ад Нясьвіжа. *Там жа.*

СЯДЗІЦЬ У КАСЦЯХ што. *Незадав.* Моцна надакучыць, апрыкрыць. Сёньняшняе ехала мне ў касьцях сядзіць — усюды пастой, пасядзі, столькі часу марна траціцца. *Воз., Кар. р.*

## Т

ТАК А ТАК. *Між іншым, так сабе.* Ванька Лапкоўскі вып'е дзесяць яец так а так, скалярушчыны паўвядра, а тады: «Насьця, давай есьці!» А каб паджарыў дзісятак, дак уся п сям'я наелася п. А гэто так а так. *Сав., Стаўб. р.* І бывало, пілі, але ні гэдак. Пры гасьцях пілі, барыш пілі. Карову прадаць, карову купіць, барыш выпіць. А гэто так а так. Во сабраліся тры мушчыны — і паўлітры. *Там жа.* Узяў у мяне пяць мяхоў картофлі і хоць бы «дзякуй» сказаў. Так а так, хоць бы рубель які даў. І такія ест людзі! *Гор., Стаўб. р.* Гэтымі караваямі (мо дваццаць чатэры каравaі прынясьлі на вяселё) гаспадыня што-небудзь адбудзя, а торт так а так разыйдзяцца. *Там жа.* Цёпло ў хаці. Запалю кірагас, гарыць так а так, пліту палю. І печ напалю, дух ідзе. Цёпло ў хаці. *Жац., Стаўб. р.*

ТАК І ТАК. Ужываецца замест пераказу, вядомага слухачу, каб не паўтараць таго, пра што ўжо расказвалася раней. Я побігла по свого батька покойного, кажу: «Батюхно, родненькі, поможы, выруч з гора. Так і так, попався ж мой Сімон у лесі, прыйзошло горэ й бэда, трэбо ж як выручыть». *Цер., Пін. р.* Прышла ў міліцыю

й гавару: «Так і так, прыехаў старшыня сельсавета, забраў ад мяне пашпарт і сказаў, за дваццаць чатэры гадзіны штоб і духу майго ні было тут!» Кажу, як не нойдзяце на яго ўправы тут, паеду ў Маскву! І што вы думаеце. Прыехала я ў Маскву, а далей і не ведаю, што рабіць, куды заходзіць, каб да Ленінай сястры папасьці. Стала ў людзей распытваць. Ну, людзі гаворапь, што так і так, што чарга, а ў чаргу з ночы пішуцца. Думаю, запішуся й я. *Рак., Вал. р.*

ТАКОЙ БЯДЫ. Нічога, абыдземся; не бяда. Сёньня праспала і карову нядоеную выгнала на пашу. Што сабе сырадою няма, такой бяды, але Домна мальчонку бярэць у нас, прыдзіць па малачко і ня будзіць. *Ляўк., Арш. р.* Такой бяды, паеду заўтра, адно трэба папытацца, ці будзя ў Стоўпцы машына. *Гор., Стаўб. р.* «Людзі ўсё торф валакуць, а табе часу німа».— «Такой бяды, да восяні прывязу, яшчэ часу многа». *Ас., Стаўб. р.* Пабеглі, такой бяды, хай бягуць. Сягоньня цёплінько, хорашанько, хай купаюцца. *Жац., Стаўб. р.*

ТАМ І ТАМ. Указанне на канкрэтнае месца, дзе знаходзіцца, ёсць, адбываецца што. Пасадзіла мяне на аўтобус і сказала, там і там зьлезеш. *Рак., Вал. р.* Ранічкаю сягонячы просіць унучка: «Бабуня, пусьці нас зь Янкаю ў грыбэ». «Ідзеця,— кажу,— ці я проціў». Наказала адно там і там ісьці, там і там зьвярнуць, бо заблудзяць яшчэ. *Сав., Стаўб. р.* Наказваў жа, пасеця там і там, глядзеця скаціны, а яны папускалі ў сенакос, а самі на рэчку купацца. А брыгадзір застаў, то цяпер мала ні будзя. Прыдзяцца штраф плаціць. *Жац., Стаўб. р.*

ТАРАПАЧЫ (чэрці) СТАНОВЯЦЦА. *Неадабр.* Нешта здаецца (звычайна дрэннае, нядобрае) каму. Муштроўны, крый бох. Во дзяржыць дзіця. Хай яна скажа што ні так, адразу тарапачэ становяцца — біцца! біцца! *Сав., Стаўб. р.* Помню, йшлі мы рас да Пятроўскіх на вячоркі, яшчэ на футары як жылі. Сын выскачыў першы, аччыніў весьнічкі за гумно і дарошкаю паляцеў. А потым чую: крык. Я падбегла, пытаю, чаго гэто ты? А ён: «Мама, я чорта с сахаром у руках бачыў, ішоў просто на міне. Я спалохаўсё, крычаў». Гэто ж некія тарапачэ становяцца яму ў вачах, гэтаму хлопцу. *Там жа.* Гаворыць, сам не ведае што, цэлу ноч ні сьпіць. Нешта яму здаецца, нейкія чэрці яму ў вачах становяцца, пад лошкам пáля лучыну, лезе шукае, хто там. *Аляхн., Маладз. р.*

ТАЎЧЫ КУЦЦЮ. Гл. МАК (куццю, проса) ТАЎЧЫ.

ТАЎЧЫ МАК. Гл. МАК (куццю, проса) ТАЎЧЫ.

ТАЎЧЫСЯ ЯК МАРКА Ў ПЕКЛЕ. *Неадабр.* Соваацца, таптацца па хаце (па двары), робячы што; мець клопат. Таўкуся з гэтымі дзецьмі як Марко ў пеклі. Гэтых троё да Эдзікава. Чацьвёро. Пакармі адно! *Сав., Стаўб. р.* Аньці хватая работы. На брыгаду лятом, як прыбяжыць с поля, дома да поўначы таўчэцца як Марко ў пеклі. *Там жа.*

ТАХТАРЫЦЬ ГРОШЫ. Гл. САДЗІЦЬ (усадзіць, тахтарыць) ГРОШЫ.

ТАЧЫЦЬ БАСНІ. Гл. ТАЧЫЦЬ ЛЯСЫ (басні).

ТАЧЫЦЬ ЗУБЫ. **1.** Н а к а г о. Адчуваць непрыязнь да каго, чакаць зручнага выпадку нашкодзіць, адпомсціць каму. Нэ пуйду в позыку до Луті, вона на мэнэ шчэ з того году зубы точыть. *Вел., Пін. р.* Сімон на ёго шчэ з тэі поры за стог точыть зубы. *Там жа.* На міне Тодар ужо даўно точыць зубы, даўно чакая зручнаго выпатку, каб укусіць. *Сав., Стаўб. р.* Сусед ужо даўно на міне зубы точыць. Ці курыца якая ўлезя, ці сьвінчо забяжыць (дзе ты ўгледзіш ўсё, па сусеству жывучы), то як выскачыць, гатоў пазабіваць. *Там жа.* **2.** Н а ш т о. Хацець набыць, імкнуцца мець што. Тачу зубы на яго хату, казаў, прадаваць будзя. Трэба пазычыць у бацькі грошай да абзадачыць тую хату, а то шчэ хто дарогу пяройдзе. *Гор., Стаўб. р.* Маня казала, точыць зубы на гэты мацяр'ял, хоча купіць, але дарагі вельмі. *Веч., Стаўб. р.* Наш Андрэявіч авечыны прыпёр, а я кажу: «Нашто ш ты прынёс той авечыны? От каб бычыны якое, я даўно зуп вастру на бычыну». *Сав., Стаўб. р.*

ТАЧЫЦЬ ЛЯСЫ (басні). Пляткарыць, бавіць час пустой размовай, марна траціць час на балбатню. Наша маці ад раньня недзе па людзях точыць лясы. Вельмі ш пагаварыць любіць, а ты тут чакай яе. *Райч., Пух. р.* Будзя вам лясы тачыць. Сьпяшацца трэба сена грабіць, бо ня пасьпеям, хмара с-пад Мінску йдзе зь ветрам разам. *Бял., Лаг. р.* Нешта ж доўга нет Ленкі. Можа ня знаіць, што на работу, сядзяць і точаць басьні. *Зам., Брасл. р.*

ТКНУЦЬ ПАЛЬЦАМ У НЕБА. *Іран.* Сказаць што не да месца, недарэчы выказацца пра штосьці ўсім вядомае. Ткнуў пальцам у небо! Я й бес цябе гэто ведаў. Ты вот скажы, па чым сьвіня ў Міры? Трэба завесьці парасят

прадаць, а то карміць німа чым. *Гор., Стаўб. р.* Ну й сказаў, без цябе не ведалі. Пальцам у неба ткнуў. *Райч., Пух. р.*

ТО БОКАМ ТО СКОКАМ. Сяк-так, бязладна. Ат, от жа нек жывём, бы той казаў, то бокам то скокам. Я яшчэ пакрысе ў калхоз цягаюся, гаўяд (жывёлу) даглядаю, а Сахвея дома тупае. Ведамо, старое, от і возіцца як капа, пакуль не абернецца. *Вяліч., Сал. р.*

ТОЕ-СЁЕ. Рознае што-небудзь, усё, што хочаш. Мікуціха прышла, пасядзелі трохі да пабалакалі пра сёя-тоя. Яна ўсё дудукая, а мне спаць захацелася, вочы зьліпаюцца, думаю, хай бы ты йшла дадому. *Рос., Пруж. р.* Ну, гаворым мы пра тое-сёе, дык я буду гаварыць: «Чаму ж не хвалісься, замуж жа выходзіш, людзі кажуць». Дык яна сьмяецца. *Язн., Віл. р.* Палажыла гарбузікаў, сыр, масла с кіл̦ё, таго-сяго крыху, завязеш унучаняткам. *Сав., Стаўб. р.*

ТОЙ СВЕТ. Замагільнае жыццё, як супрацьстаўленне зямному жыццю (паводле рэлігійных уяўленняў). Кажуць, рай на тым сьвеці. А чаго ж упіраюцца, ня хочуць на той сьвет? *Ульян., Сен. р.* Плачыць, плачыць маладзічка, а тады першае дзіця родзіць, аслабеіць, ніхто яе ні пашкадуіць, а ні яе палечуць — і памрэць. І колькі на той сьвет ішлі біс пары. *Вар., Докш. р.* А ціпер і біз пупа хуваюць, і ніхто ні прышоў з таго сьвету, усе там. *Свяц., Бял. р.* І давай паробок хвалытыса, шчо я нэ тілько сумэю дом поставыты за водну ныч, а шчэ сумэю до панського батька сходыты на той сьвіт. А пан обрадовавса, думае, шчо як підэш, то з того сьвіту нэ прідэш назад. *Айсям., Стол. р.* Заходять воны на той сьвіт, а там на панском батьку гный вэзуть. Вот паробок і кажэ: «Дай мні імэнное кольцо, шчо тобі сын клаў на той сьвіт». *Там жа.*

ТОЛЬКІ ПЯТКІ (пяты) ЗАБЛІШЧАЛІ. Вельмі хутка (бегчы, уцякаць, імчацца і г. д.). Падняўся нядзьведзь ды ходу за ваўком, а заяц — у гушчар, у тайгу пыльняў (пабег), толькі пяткі заблішчэлі. Адзін кот застаўся ўплятаць вала. *Арэш., Бяр. р.* Мішка ўстаў і бягом на рэчку. Вот будзя рыбак, як вырасьце. Але ш скоранько пабег, толькі пяткі заблішчалі. *Сав., Стаўб. р.* З маткай агрызаўся, а як бацька замахнууся, дык так уруліў, толькі пяты заблішчэлі. *Слаб., Лаг. р.*

ТРОПУ ДАБІЦЦА. Гл. ДАБІЦЦА ТРОПУ.

ТРУДНАЯ РАДА з кім, з чым. Цяжкае становішча, непрыемная сітуацыя. З малой (дзяўчынкай) трудная рада: трэба скорынько весьці да доктара ў Стоўпцы, нешто раптам захварэла, гарыць як у агні, можа, запаленё. *Гор., Стаўб. р.* С хатаю трудная рада: і лесу трэба дастаць, і перавесьці яго, вытраляваць, а наняць работнікаў — гэто табе ні хаханькі, колькі ўсё будзя каштаваць. Тысячай ні ўмажасься. *Сав., Стаўб. р.* З гэтым плотам трудная рада: як яго будзя паставіць, ні ведаю. Кап ты прыехаў, другоё дзело, людзі падышлі п і паставілі п. А бесь цябе ніхто ні пойдзя, у хату ні зацягняш. *Там жа.*

ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) чыю ЛІНІЮ. Упарта, настойліва дабівацца чаго, адстойваць што. Як бы там ні было, но нам трэба пільнаваць сваю ўласьць, дзяржаць лінію савецкаю. *Бяльм., Брасл. р.* Брат ты мой, малаццы бальшавікі, яй богу, малаццы! Ніхто ні сьніў і ні гадаў, каб такую жысь саздала людзям Савецкая ўлада. Таму маладзёжы нада пільнаваць сваю ўладу, служыць, уважаць, любіць яе, панімаяця, трымаць яе лінію. *Мік., Мядз. р.* Прыдзя, сядзіць і маўчыць. Калі што й папытаяш у яе, маўчыць, ні кажа, што кепско маці з бацькам жывуць. Дзяржыць сваю лінію, хітрая, нябось, дзевачка, ні прагаворыцца. *Жац., Стаўб. р.*

ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) РУКУ чыю. Заступацца, быць на баку каго, адстойваць думку каго. Бачыш ты! Яны, здаецца, і ні бачацца, а як што касьнецца, то старшы заўсюды трымая руку малочшага. *Жац., Стаўб. р.* «Эдзік трымая руку дзірэктара, ён ні хоча зь ім сварыцца».— «А нашто яму кепско зь ім жыць?» *Гор., Стаўб. р.* Цёця Рая не тваю руку будзе трымаць, не паддобрывайся. *Бял., Лаг. р.* На сабранё трэба схадзіць, можа прыдзяцца трымаць руку брыгадзіра, а то на яго ўсьселі, хочуць выжыць. *Гор., Стаўб. р.* Наша Ядзя піць ні можа, а там (на вяселлі) як намагліся, выпі да выпі, а Варусін зяць бачыць, што яна ні можа, кажа: «Я тваю руку, дзевачка, буду дзяржаць, пі, колькі можаш». А ім, ужо гэтым, каторыя застаўлялі яе піць, кажа: «Вы ні застаўляйця яе піць, яна маладая, можа першы рас у вялікай кампаніі. Кожны п'е, колькі можа». Мондры (разумны) чалавек, адразу відаць. *Сав., Стаўб. р.*

ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) СЯБЕ Ў РУКАХ. Стрымліваць свае пачуцці, валодаць сабой, захоўваць вытрымку.

Ты як будзяш там у гасьцях, то трымай сябе ў руках. Ведаю цібе — пачнеш там буяніць і выхваляцца. *Хал., Стаўб. р.* Сын у мяне слаўны, усё робіць сам. І цілівізір справіць, въдаправот справіць, і чулкі вымые, паштопае. Зарплату жонкі аддаець, ні п'ець. У яго кънпаніі німа, дзяржыць сябе ў руках. *Ульян., Сен. р.* Гаспадар быў папаўса (асудзілі), але выпусьцілі. Выпусьцілі, дак дзяржы сябе ў руках, а ён аж лохне, каб выпіць. *Гр., Слуц. р.*

ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ. *Незадав.* Маўчаць, не гаварыць лішняга, быць асцярожным у выказваннях, не балбатаць. Ты калі й ведаяш што пра гэто (крадзеж), то маўчы, трымай язык за зубамі, лепяй будзя для цібе. *Хал., Стаўб. р.* Бачылі, як вёз на ровары тую салядэру, і німа ж, кап трымалі язык за зубамі, не — такі данесьлі. А яго (кладаўшчыка) за гэто з работы скінулі. *Сав., Стаўб. р.* «Язык трымай за зубамі, калі ведаяш, што кветкі пакралі»,— гаварыла я ёй. А дзе ж яна ні скажа, трапло гэтаё! *Там жа.* І колькі я табе рас казоў, не ўмешвайся не ў сваю справу, дзяржы язык за зубамі, не ўтыкайся, як сучка ў збан. *Гран., Маладз. р.* Ты вот што: як будзяш там у кампаніі сядзець, то не вылась, дзяржы язык за зубамі, кап потым ні было брытко. *Жац., Стаўб. р.* Мы вам многа намалолі, а вы ня ўсё пішыце, за зубамі дзяржыце. *Ліцв., Карм. р.*

ТУДЫ к а м у І ДАРОГА. *Непав.* Таго і заслугоўвае хто, няма чаго шкадаваць каго. Усе ў вадзін голыс крічаць: «Маладзец, Ляксей, маладзец! Туды яму (айчыму) й дарога, кату еткаму. Даўно яго трэба було так папаіць крывёй, каб ён знаў, як нішчасных жонак на тэй сьвет атпраўляць». *Раб., Слаўгар. р.* Забралі ў цюрму за крадзеш — туды яму й дарога, мо боляй ні будзя красьці. *Гор., Стаўб. р.* Гэдыкі свалачны чалавек быў, сколькі людзі ад яго плакалі, як ён апкрадаў людзей. Вот памёр — і туды яму й дарога, сабаку. *Жац., Стаўб. р.*

ТУЛЯЦЦА ПА ЗАВУГОЛЛЮ. Гл. БЕГАЦЬ (туляцца) ПА ЗАВУГОЛЛЮ.

ТУМАНЫ НАПУСЦІЦЬ н а к а г о. Гл. ТУМАНЫ ПУСКАЦЬ (напусціць) н а к а г о.

ТУМАНЫ ПУСКАЦЬ (напусціць) н а к а г о. **1.** Штосьці здалося, паказалася чалавеку ў яго ўяўленні (неверагоднае, нерэальнае). Адзін чалавек пашоў лес рэзаць на дзівятніка (рэлігійнае свята), і некія туманэ напусь-

ціліся на яго, нешта падалося яму, прыбех як абешаны. *Пр., Стаўб. р.* 2. Задурыць галаву, адурманіць. Ест такія чараўніке, якія ўмеюць настрашыць, туманэ напусьціць. *Пр., Стаўб. р.* Гэны дзяцька расказваў, як Верка яму тума́ны ў вочы пускала. Мы аж за жываты браліся. *Бял., Лаг. р.* Дай, кажа, сьвечку грамнічную. Наліў у шклянку вады, запаліў сьвечку, паставіў сьвечку ў ваду — а во ўжо чэрві. Гэта, кажа, твае няпры́яцелі. А сам ўсе на куфар паглядая. Я дагадалася, што тума́ны пуская, а сам хоча абабраць нас. *Пр., Стаўб. р.*

ТЫКАЦЬ ПАЛЬЦАМІ н а к а г о. Гл. ПАКАЗВАЦЬ (пароць, тыкаць) ПАЛЬЦАМІ н а к а г о.

## У

У АБІДУ НЕ ДАЦЬ (не даваць) к а г о. Заступацца за каго, абараняць. А як радні многа, тады добра. Тады ўсе адзін за аднаго горла дзяруць, ўжо у абіду ні дадуць свайго. *Грыш., Рас. р.* Глядзі там, ні давай у абіду Марыську, яна яшчэ маленькая, а то тыя бальшуны могуць яе набіць. *Гор., Стаўб. р.*

У АГЛОБЛІ ЗАГНАЦЬ к а г о. Гл. ЗАГНАЦЬ У АГЛОБЛІ к а г о.

У АДВЕДЗІНЫ ПРЫЙСЦІ д а к а г о. Гл. ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у даведкі, у отведы) д а к а г о.

У АДВЕДЗІНЫ ХАДЗІЦЬ д а к а г о. Гл. ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у даведкі, у отведы) д а к а г о.

У АДНО (быць) з к і м. Заадно, разам, сумесна. А каб ён (бацька) з Марусяй у адно быў да запарашыў (надаваў) той Тоні, вучылася п, яна дзевачка панятлівая, разумная. *Сав., Стаўб. р.*

УБАЧЫЦЬ СВЕТ. Адчуць палёгку, збавіўшыся ад нястач, пакут. Усяго паражыла: і піў, і сварыўся, і ў плечы не раз даваў. І нястач паражыла. Убачыла сьвет, як дзеці на ногі падняліся. *Пар., Слонім. р.* Цяпер, пры Саветах, людзі хоць сьвет убачылі, адзяюцца добро, ядуць смашно. *Сав., Стаўб. р.* Німа ні аднаго, каб жыў кепско. Людзі ўбачылі сьвет, пазналі, што калі будзяш рабіць, то й мець будзяш. І клопату табе ніякаго. Ні той зямлі, ні той работы ат цёмнаго да цёмнаго. *Жац., Стаўб. р.* Ты паглядзі, як Алесь жыве. У яго ў хаці лепяй, як у цібе. Чаго

там німа! Во, чалавек на старасьць хоць сьвет убачыў, а то ўсё жыцё гараваў. *Там жа.*

УБАЧЫЦЬ ЯК СВАЕ ВУШЫ каго, што. *Незадав.* Ніколі не ўбачыць каго, што. Не трэба было губляць (гадзіннік). Казала я табе, ні бяры с сабою, а цяпер убачыш тыя часэ як свае вушы. *Мач., Бабр. р.* Убачыць ён той інсьцітут як свае вушы. Рабіў бы ў калхозя, то большы толк быў бы — ручаюсё. *Ас., Стаўб. р.* Паехала ў сельсавет, хацела спраўку узяць, трэба як дроў прывесьці. Але не застала нікого. Закрыто. «Убачыш ты іх у такі час (лета) як свае вушы. Ты вечарком падыдзі». *Сав., Стаўб. р.*

УБІРАЦЦА Ў ПЕР'Е. Гл. У ПЕР'Е ЎБІРАЦЦА.

УБІРАЦЦА (увабрацца) Ў СІЛУ. **1.** Падрастаць, мужнець. Мішка ваш паправіўсё. Глядзі, Міхалова, які харошы хлопчык зрабіўсё, убіраяцца ў сілу. А такі ш худы быў, як той гот прыягджалі. *Сав., Стаўб. р.* **2.** Умацоўваць сваё становішча, пачаць матэрыяльна лепш жыць. Бачыш, як увабраўсё ў сілу, то й здароўкацца перастаў. Ідзе і ў той бок ні глядзіць. *Жац., Стаўб. р.*

УБІЦЦА Ў ПАМЯЦЬ. Добра запомніць каго, што. Але найбольш убіўся мне ў памяць той дзень, калі я адвозіў парцізанаў у Халаімаўшчыну. *Сав., Стаўб. р.* Як сёньнячы помню, гудуць танкі, коньніца, раздаюць цукеркі, г'азэты, частуюць малых — як вызвалялі нас тады (верасень 1939 г.). Гэты дзень мне ў памяць убіўсё. *Там жа.* А помніш, нашаго бацьку тады чуць ні расстралялі, як парцізаны напалі на пуць. Ото я баялася, той дзень убіўсё мне ў памяць. Думала, паб'юць нас тады немцы. *Ас., Стаўб. р.* Як мы рас с табою ехалі зь Мінска на поязьдзі і ты ночвы Мані вёс. Зіма, халадэча, а ты нясеш гэтыя ночвы дзесяць кіламетраў дахаты. Той дзень мне ўбіўсё ў памяць, і цяпер помню. *Сав., Стаўб. р.*

УБІЦЬ (удзяўбці) У ГАЛАВУ каму. **1.** Унушаць сабе што, пераконваць сябе ў чым. Я ні хацела, каб яна вучылася за настаўніцу. Я ўсё казала, каб за доктарку йшла вучыцца. Дык гэдыкая ўпартая, слухаць ні хоча, убіла сабе ў галаву, што будзя настаўніцаю. *Кур., Навагр. р.* Вот нешто ўбіў сабе ў галаву і ходзіць як ні свой. *Мяс., Стаўб. р.* **2.** Прымушаць засвоіць што. Хібо цётка што паможа, чорт яму ў галаву ўваб'е, дурню гэтаму. *Вар., Стаўб. р.* Прыдзя во такая ўбоіна ў школу і папробуй ты ўбі яму ў галаву, што гэта «а», а ні «о».

*Бял., Лаг. р.* А я нідзе ні быў, з усімы людзьмы ехаў, але ёй не ўдзяўбеш у галаву. *Шаш., Стаўб. р.*

У чый БОК КІВАЦЬ. Указваць на вінаватага, намякаць каму на яго віну, непрыстойны ўчынак, выгароджваючы сябе. У чый гэто ты бок ківаяш, га? А сам ты сьвяты? Думаяш выкруціцца? *Гал., Стаўб. р.* Я дагадваюсё, яна ў мой бок ківая. А ці ж я вінаватая, што ў яе такая бяда зрабілася. *Сав., Стаўб. р.*

У БОРУШКІ БРАЦЦА. Гл. БРАЦЦА У ДУЖКІ (у борушкі).

УБРАЦЬ У СВАЕ РУКІ што. Прысвоіць чужое, завалодаць чым. Золато было ў яго, ён за сто рублёў купіў гаспадарку, а астальноё (золата) патседзялі гэтыя ўжо людзі, што жылі ў яго, убралі ўсю гаспадарку ў свае рукі і камандувалі ім, як хацелі. *Сав., Стаўб. р.*

У БУТЭЛЬКУ ЗАГЛЯДАЦЬ. Гл. ЗАГЛЯДАЦЬ У БУТЭЛЬКУ.

УВАБРАЦЦА У СІЛУ. Гл. УБІРАЦЦА (увабрацца) У СІЛУ.

УВАГНАЦЬ У ГРОБ каго. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) каго.

УВАГНАЦЬ У ДАМАВІНУ каго. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) каго.

УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) каго. ЗАГНАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ каго. Давесці да смерці каго. Уладзік Цьвіркаў сваю сястру Юзэфу ўвагнаў у магілу, такі лядачы быў. *Сав., Стаўб. р.* Вы мяне, кажа, сваімі крыкамі загоніце у дамавіну, ні выжыву я вашай сваркі. *Гор., Стаўб. р.* Гэтыя куры мяне ў магілу ўгоняць. Ну просто рады німа, зачыняю-зачыняю (вароты), а яны сют-тут — і там (у градах). *Сав., Стаўб. р.* Благенькі ў міне Казік, а ўрокаў много, сядзіць да поўначы, кірпянея. Гэтая навука яго ў гроб загоніць, так много задаюць. *Раёў., Стаўб. р.* Жонка яго (Антона) нігодная, есьці ні давала. Налье засіўленай заціркі, і еш стары. Вот такая жызьня у труну яго й загнала. *Жац., Стаўб. р.* Людзі недаядалі, хварэлі (у час вайны), колькі іх гэтая вайна ўвагнала ў дамавіну. *Зал., Стаўб. р.* Мушчына быў як мушчына: і харошы, і здаровы. А во захварэў, завезьлі ў Стоўпцы, паляжаў трохі, і тая хвароба загнала яго ў гроп. *Хал., Стаўб. р.* Аднаго разу раскрычаўсё, выламаў у плоця палку і за імі. Я вас, кажа, у гроб усіх уганю! А потым адкуль узяўся участковы і за

яго. *Зал., Стаўб. р.* Скупы быў чалавек, есьці сабе шкадаваў. Ён і жонку сваю ўвагнаў у труну, праз яго яна памерла. *Мяс., Стаўб. р.* Каб даў яму права, ён многіх увагнаў бы ў гроп, ведамо, такі бандыта. *Веч., Стаўб. р.* Сыдуцца біцца, і рас каб ні разбаранілі іх, то Коля загнаў бы яго (брата) ў труну. Ён здароўшы, большы. *Гал., Стаўб. р.* У еі (яе) грошэй більш, ніж у нас з тобою разом, вона іх складае ў панчоху, а своім ўнукам навыть ныколы ны купыла ны цукерка, ны праніка. Вона й чоловіка свого ў могылу зогнала, бо ны давала істы. *Апад., Іван. р.*

УВАЙСЦІ Ў СМАК. **1.** З жаданнем, ахвотна рабіць што. Антон прыехаў з Гародзяя, папрасіў яго дроў насекчы. То гэты хлопяц як увайшоў у смак, чуць ні перасек увесь бярэзьнік, што каля гумна ляжаў. *Жац., Стаўб. р.* Наша дзеўчына з гульняў позно прыходзіць, увайшла ў смак, каждую сыботу ў клуп. *Гал., Стаўб. р.* **2.** Есці з апетытам. Паставіла міску буракоў, то як увайшоў у смак, усе й высярбаў. *Сав., Стаўб. р.* Прыбегла Іра зь Янкаю зь ёлак, наліла ім супу гарохаваго ў адну міску. Як бачыш зьелі, увайшлі ў смак дзяўчата. *Там жа.*

У ВАЧАХ. Гл. У ВОЧЫ.

У ВАЧАХ СТАЯЦЬ. Гл. СТАЯЦЬ У ВАЧАХ (перад вочмі).

УВЕРХ ДНОМ. УВЕРХ НАГАМІ. **1.** У перавернутым, перакуленым становішчы; беспарадак, бязладдзе. Пабягу дамоў, дзеці адны, там ужо ўсё ўверх дном паставюць. *Бяльм., Брасл. р.* Пакіну адных (дзяцей), а яны, што хочуць, робяць, хату ўверх нагамі перавернуць. Яшчэ не было ні ясьляў, ні садзікаў. *Гор., Стаўб. р.* То податкі, то шарварок, то ў маёнток, а ўдома ўсэ ўвэрх ногамы. Добрэ, шо шэ (яшчэ) сыны почалы пудростаты, усэ ж такі помоч хоч крохы ўдома. *Заточ., Драгіч. р.* **2.** Перавярнуць, перакуліць, паставіць нізам уверх. У нас, бувало, як була Польшча, надо було вывэску, номэр дому прывэшвать, як куды ідэш. А одын чоловік грамотны, алэ назло повэсыв тую вывэску ўвэрх ногамы, уныс, а сустрічаім полыцыянта, а той давай крычать. *Бот., Пін. р.* Мая малая (дачка) возьмя журнал уверх нагамі і рысункі разглядая. І гэдак сур'ёзно глядзіць сабе. *Сав., Стаўб. р.*

УВЕСЦІ Ў ВУШЫ к а м у. Навучыць, навесці на думку. Бачыш, дзіця то дзіця Ядзя, мая ўнучка, але ж гэто яны (бацькі) ёй увялі ў вушы, што бапця самотнень-

ка. Піша ў лісьце: «Не сумуй, кохана бапця». *Сав., Стаўб. р.* Ваціку ўвялі ў вушы, што ў рэццы рыба ест, то пашоў, сядзіць з вудаю. *Жац., Стаўб. р.* От, у вушы увялі хлопцу, што грыбэ пашлі, паехаў яшчэ слонцо ні паказваласё. *Гор., Стаўб. р.*

УВЕСЬ (уся) (чыста) БАЦЬКА (маці). УВЕСЬ (уся) У БАЦЬКУ (у маці). Падобны да бацькі (да маці). Наша ўнучка — равесьніца Волькі Тофяльчыкавай дзеўчыні — увесь чысто бацько. Выкапаная. Высокянька, дробнянька, далікатнянька ў твары. *Сав., Стаўб. р.* Кажуць, што мае хлопцы ўсе у бацьку, а Анька — ўся у маму. Гэто добро, што мушчыны падобны да бацькі, а дзевачкі — да мацяркоў, шчасьлівыя будуць. *Там жа.* Іван — увесь бацька. А гэтака пахотка і ўхватка, як ідзе ці што робіць, то рыхтык (акурат) стары Мікалай. *Бял., Лаг. р.* Верка ну ўся чыста маці: і гаворыць гэдак, як яна, расьцягвая, і вочы яе. *Хал., Стаўб. р.*

У ВОКА ЎПАСЦІ. Спадабацца. Ён ёй у воко тожа ўпаў. Глядзі і вяселё скоро згарудуюць, бацьке багатыя, здужаюць. *Падг., Кар. р.* Мне панаравіласё, мацяр'ял у воко ўпаў, набрала. А як пашыла, неко драпасто, ні люблю. *Сав., Стаўб. р.* Дзяцько ўпадабаў, яму ўпало ў воко тваё радзіво. Аддай ты яму, а сабе лепшаё купіш. *Там жа.*

У ВОЧЫ. У ВАЧАХ. Адкрыта, у прысутнасці каго або непасрэдна звяртаючыся да каго (гаварыць што, смяяцца з каго). А я ў вочы скажу: «Як к Крыжаноўскаму, дак шамоль-шамоль і пашоў, а як к Камароўскаму, дак хворы». *Сав., Стаўб. р.* Ці будзяш ты да свае цёткі такі мілы і ласкавы, як Фрэд да міне? У вочы табе скажу, што ты далёка стаяў ад яго. Гэдако міло й сардэчно я ні бачыла чалавека, як ён. *Там жа.* Я б яму ў вочы сказала, каб аддаў сячкарню. Колькі гэто можно чакаць, калі ўзяў, цёпярся дзяржыць, то й аддай. *Жац., Стаўб. р.* Як падвыпілі, ён ёй і кажыць: «Я б астаўся ў цябе, але ні хачу пасынка». Так у ачах і кажыць: «Ні хачу пасынка». *Ляўк., Арш. р.* Я яму ў вочы къзала: «Ці ета бацька?» Дзеці цэлы дзень былі на рабоці, а ён прышоў і дъвай бушуваць. Ні папытаў, ці елі, а пъръзгъняў па двару. *Там жа.* Як у вочы, дак мамаша, а за вочы ўсяк кажа,— ня любіць цешчу. *Гр., Слуц. р.*

У ВОЧЫ КІДАЦЦА каму. Гл. КІДАЦЦА (падаць) У ВОЧЫ каму.

У ВОЧЫ НЕ БАЧЫЦЬ каго, што. Гл. НЕ БАЧЫЦЬ У ВОЧЫ каго, што.

У ВУШАХ КОНІ СТАЯЦЬ. Брудныя, нямытыя вушы. Дзеці пакараўліваныя, а ў вушах коні стаялі, папацелі да пыл. *Пр., Стаўб. р.* Ідзі памыйся, зьбегай на рэчку (калі тая мама ваша прыедзя яшчэ), памыйся добро, у вушах вунь коні стаяць. *Сав., Стаўб. р.* А ты йдзі мыйся, брудны ўвесь. Як скідаў торф, то й за стол адразу. У вушах коні стаяць, ідзі, а то есьці ні дам. *Гор., Стаўб. р.*

У ВУШЫ ЎВЕСЦІ каму. Гл. УВЕСЦІ Ў ВУШЫ каму.

У ГАДАХ. Пажылы, у пажылым веку. Быў і старшынём, і брыгадзірам, і кладаўшчыком. А цяпер у гадах чалавек, здароўя слабога, нага баліць. Ні можа. *Ульян., Сен. р.* Ужо й Пятроўскі ў гадах, пат шэсьцьдзесят будзя. *Сав., Стаўб. р.* Ты ні глядзі, што ён малы, ён ужо ў гадах, скоро ў армію пойдзя. *Жац., Стаўб. р.*

У ГАЛАВЕ ВЕЦЕР. Легкадумны, несур'ёзны (чалавек). Адна дачка і тая такая здураная. Чэсінька, устань, дачушка, выгані карову. А яна брык маццы нагою і сьпіць. Сямнасты гот, а ў галаве пусты вецер. *Бяльм., Брасл. р.* Выцягнуўся, як кандыбіна, а ў галаве вецер лятае. *Вішн., Вал. р.* Вот ні такая, як усе, у яе вецяр у галаве гуляя. А ты кажаш, што яна будзя пастулаць у той інсьцітут. *Жац., Стаўб. р.*

У ГАЛАВЕ ЗЯЛЁНА. Гл. ЗЯЛЁНА Ў ГАЛАВЕ.

У ГАЛАВУ САБЕ ЎЗЯЦЬ што. Гл. УЗЯЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ (у голаў) што.

У ГАЛАВУ ЎБІЦЬ каму. Гл. УБІЦЬ (удзяўбці) У ГАЛАВУ. Знач. 2.

УГОДКІ СПРАВІЦЬ пакім. Памянуць нябожчыка ў гадавіну яго смерці. На ўгодкі кашу варуць, куцьцю с круп, алаткі пякуць, поліўку, гарэлку. П'юць і ядуць. І тады на ноч пакідаюць. У нас так прынята. А я забылася на чысло, забылася ўготкі справіць. *Ульян., Сен. р.*

У ГОЛАС УКІНУЦЦА. Сплакацца настолькі, што цяжка спыніцца. Вот учора бегала я па хаце і аш спатыкалася: вячэру рыхтаваць і дзіця крычыць як рэзанае, у голас укінулася, і цілівізар жа паглядзець ахота. *Бял., Лаг. р.*

У ГОРЛА НЕ ЛЕЗЕ. Гл. У ДУШУ (у горла) НЕ ЛЕЗЕ.

У ГОРЛЕ КОСТКА. Гл. КОСТКА Ў ГОРЛЕ.

У ГРОБ ЗАГНАЦЬ каго. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) каго.

У ГРОБ УВАГНАЦЬ каго. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) каго.

У ДАВЕДКІ ХАДЗІЦЬ да каго. Гл. ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у даведкі, у отведы) да каго.

У ДАЎГІ ЗАЛАЗІЦЬ (улазіць). Быць вінаватым каму пэўную суму грошай. Наш Міхась як будаваўся, у даўгі залес, доўго расплачваўся зь людзьмі, але хатку выбудаваў, як шклянку. *Сав., Стаўб. р.* Некалі пры Польшчы, кап купіць зямлі, людзі ў даўгі на ўсё жыццё ўлазілі па вушы, а потым аддавалі патроху. *Ас., Стаўб. р.* Ні хочацца Ядзі ўлазіць у даўгі, казала маці, а то капірацівам будавалася п. *Жац., Стаўб. р.* Залез у даўгі па вушы, і хаты ні пабудаваў, так і згніў зруб на футары. Ціпер у Жацяраве жыве. *Там жа.*

У ДЗВЕРЫ НЕ ЎЛАЗІЦЬ. *Непаш.* Растаўсцець, распаўнець, паправіцца. Жонка яго сухая, а цешча разьдзелылась, у дзьверы ня ўлезя. Ёй стала добра жыць. *Ліцв., Карм. р.* Сахвея ў сталовуй робя, разьдзелылась тыкая, у дзьверы ня лезя. *Там жа.* Я була ў Растові да хоіла ў цэркву. Шчо там золота! Шчо там сэрэбра! Всэ позолочэно. А батюшка нызэнькы, да товсты, шчо прама в двэра нэ влазыть. *Бот., Пін. р.* Люся Цярпіцкіх зрабілася такая грубáя, страх глядзець, у дзьверы гэтыя ні ўлазіць. Вот разбылася ў Мінску. *Сав., Стаўб. р.*

У ДЗЕЎКАХ (сядзець, застацца, скешкацца і інш.). Не замужам. Каб ведала, што такоё жыцьцё чакае, век бы ў дзеўках сядзела. *Пад., Дзятл. р.* Кастусёвыя гэтыя так і сьцерліса, усе тры сядзяць у дзеўках, ні анна замуж ня вышла. *Гр., Слуц. р.* Вот і Стася скешкалася ў дзеўках — той брыткі, той бедны, той выпіць любіць — так і асталася з бацькамі. *Жац., Стаўб. р.*

УДЗЯЎБЦІ У ГАЛАВУ каму. Гл. УБІЦЬ (удзяўбці) У ГАЛАВУ каму.

У ДОШКУ ВЫРАБІЦЦА. Пахудзець. Яна так робіць! І чаго яна так далягáя за гэтаю работаю. У дошку вырабілася, от худая стала. І сына мая, і на работу лётае дзень пры дні, а памахчы няма каму. *Міл., Маст. р.* Іхняя Верка у дошку вырабілася, робіць як машына. *Сав., Стаўб. р.*

У ДРУГОЙ СТРЭЧЫ. Траюрадныя (браты і сёстры).

Калі ж вы ў мяне вып'яце? Мы ш такі-та радня, нашы бацькі дваюрадныя, а мы ў другой стрэчы. *Сав., Стаўб. р.* Ты паехаў бы ў Стоўпцы да іх, яны ш нам сваяке, ты з Валодзям у другой стрэчы. Раней ні зналіся, бо далёко жылі, клопаты былі, а ціпер можно. *Гор., Стаўб. р.*

У ДУДКУ ПАГНАЦЬ што. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

У ДУШУ (у горла) НЕ ЛЕЗЕ. Не хочацца есці, есці нехаця. Хочацца чаго-нібудзь смашнаго, кісьлінькаго, сало ні лезя ў душу. *Жац., Стаўб. р.* Маразэ страшныя. Куры зьляцелі, некія нівясёлыя, яда ні лезя ў горло. Як мароз асядзя, дак і куры весялейшыя: певянь сьпявая, нешто гамоняць кала дзвярэй, а гэто стаяць надутыя, яда ні лезя ў горло, сьвет ім ні міл. *Сав., Стаўб. р.* Люся мая нешто кволіцца, не ўстае. Дала ёй у лошко скварачку, то патузала-патузала і палажыла, у душу ні лезя. Што гэто ёй зрабіласё, няйначай захварэло дзіця. *Гор., Стаўб. р.* Хлеп елі зь мякінай, і смашны быў... А цяпер і шатраваны і пітляваны, а ў душу ня лезя. *Сів., Вал. р.*

У ДУШУ НЕ ПУСКАЕ. Не можа есці чаго (па хваробе ці іншай прычыне). Сьвіню як закалоў, так палянгвіцу атлупіў і рас атаслаў да дачкі ў Мінск, і другій рас атаслаў. Мяса есьць (дачка), а сала, каб дажа крошкі ні пупалася, у душу ня пускаець. *Ляўк., Арш. р.*

У ДУШУ НЕ ЎБІЦЬ. Гл. У РОТ (у душу) НЕ ЎБІЦЬ.

У ДЫМІНУ НАПІЦЦА. Гл. НАПІЦЦА Ў ДЫМІНУ.

УЕСЦІСЯ Ў КОСЦІ каму. *Незадав.* Надзвычай надакучыць, апрыкрыць каму. Некалі пры Польшчы людзі баяліся саквастратараў (зборшчыкі падаткаў, ад лац. sequestrator). От уеліся яны ў косьці, хай бох укрывая і ратуя. Была ў міне кароўка, і тую апісалі, мусіла прадаць і падаткі аддаць. *Ас., Стаўб. р.* Да чаго мне гэтыя сьвіня ўеліся ў косьці, не ядуць, некія худыя парабіліся, як драчэ. *Сав., Стаўб. р.* І навошта, кап старая (улада) вярнулася. Ну яго к чортавай матары і цара, і царанят, уеліся яны мне ў косьці. *Януш., Лаг. р.* Уеласа ў косьці гэтая печ. Спаліш воз дроў і мерзьняш цэлы дзень — печ вялізна, ні абагрэць, ашчэ й юшка не зачыняецца. *Гр., Слуц. р.*

У ЖАРКУ. Пад чаркаю, выпіўшы. Раз на Акцябрскую (кастрычніцкія святы) выпіўшы быў, ну ня дужа

выпіўшы, ну ў жарку, і шчупіўся біцца ж жонкай, лець я адбараніла. *Ляўк., Арш. р.*

У ЖЫВАЦЕ САЛАЎІ СПЯВАЮЦЬ. Хочацца есці. А я бо думаю, чаго гэто цэлы дзень варона лётала, каркала і ўсе ваду п'е з лужы. Адно ж яна мой абед уперла (ляжаў на возе). Залез я пад вос, ляжу ў цяньку, а ў жываце салаўі сьпяваюць. Гэдак ўзлаваўсо на варону, што хоць брашы на яе. *Кул., Мядз. р.*

УЗВАЛІЦЬ НА ПЛЕЧЫ ч ы е. Абцяжарваць чым (звычайна працай, справамі) каго. Выйдзе, бывала, дзяўчына маладая за старога, нелюбімага. Наплачыцца за свой век, нагаруецца, ба яго сям'я стараецца ўсё ўзваліць на яе плечы, усю чорную работу і цяшкую. *Гран., Маладз. р.*

УЗВОДЗІЦЬ НАПРАСЛІНУ н а к а г о. Нагаворваць на каго, даваць няпраўдзівае паказанне. А што ж я скажу? Ня буду ж напрасьліну на чалавека ўзводзіць. Кажу, я сама падбіласа, старая, сілы німа, дзе ні павернясса, усюды узб'есса на якую тарчаку. *Гр., Слуц. р.* Чаго ён на цібе ўзводзіць напрасьліну? Ты ш тэш памагаў яму. І дрова вазіў, і торф перакладаў. А кажа, не, адзін усё раблю. *Жац., Стаўб. р.*

УЗНІМАЦЬ ГАЛАВУ. Адчуўшы ўпэўненасць у сваіх сілах, пачынаць актыўна дзейнічаць. Што тады, сынок, у нас рабілася, страшна успомніць! Узьнялі голавы прахадзімцы ўсякія, гады недабітыя, гразіліся людзям чэсным. *Сав., Стаўб. р.* О, выраткі недабітыя! Як вужака тая круцікца! Ні дабілі іх (фашыстаў) тады, цяпер галаву ўзьнімаюць. *Ульян., Сен. р.*

У ЗУБ НЕ БРАЦЬ ч а г о. Гл. У РОТ (у зуб, у рукі) НЕ БРАЦЬ ч а г о.

У ЗУБЫ ЗАХОДЗІЦЬ. Баляць зубы (ад халоднага, гарачага, салодкага). Натта халодная вада, у зубы, мусіць, заходзіць. *Пр., Стаўб. р.* Наеўсё гарачай зацірки і адразу да вядра. Ні пі, кажу, у зубы зойдзя. *Сав., Стаўб. р.* Трэба йсьці да дакторкі, а то саўсім ні магу есьці гарачаго — заходзіць у зубы, хоць ты плач. *Там жа.* Нек рас палезла на печ і ўзяла некі цукерак, валяўсё на печы. То як зайшло ў зубы, ні ведала, што рабіць. Давай злазіць паласкаць рот. *Гор., Стаўб. р.*

УЗЯЦЦА ЗА РОЗУМ. Адумацца, стаць разважным. Узяўся п ты, браце, за розум. Як цібе жонка ў хату пуская? П'яны, ні пабрыты мо зь месяц. Што ты сабе дума-

яш? *Гор., Стаўб. р.* Тодар жыве цяпер як чалавек. Харошую хату паставіў, добро зарабляя, хлопцы рабацяшчыя абудва. О, чалавек на старасьць за розум узяўся, а ўсё некалі лайдачыў. *Ас., Стаўб. р.*

УЗЯЦЬ ДА СЭРЦА ш т о. Гл. БРАЦЬ (узяць) (блізка) ДА СЭРЦА ш т о.

УЗЯЦЬ ГРЭХ НА ДУШУ. Гл. БРАЦЬ (узяць) ГРЭХ НА ДУШУ.

УЗЯЦЬ ЗА ГОРЛА к а г о. Гл. БРАЦЬ (узяць) ЗА ГОРЛА к а г о.

УЗЯЦЬ ЗА РАМУШКІ к а г о. Рашуча ўздзейнічаючы на каго, прымушаць яго рабіць супраць сваёй волі. Каб я быў граматны, паліцыянты б мяне ўзялі за рамушкі, а як я ніграматны, дак я кажу: «Як вам ні стынна, панімаяця. Зь няграматнага чалавека які вам паліцікан! Чаго вы чэпіцеся да мяне! Чаго вы хочаце?» І от так я адгаварыўся. *Мік., Мядз. р.*

УЗЯЦЬ ЗА РУБЕЛЬ ДВАЦЦАЦЬ к а г о. Гл. ЗА РУБЕЛЬ ДВАЦЦАЦЬ КУПІЦЬ (узяць) к а г о.

УЗЯЦЬ ЗА ХІБ к а г о. Прыцягнуць да адказнасці, пакараць. Віціка за тую картофлю узялі за хіп, судзіць будуць. *Гор., Стаўб. р.* Як жа я табе дам салому продаць калхозную! А тады цябе папутаюць, а мяне за хіб возьмуць: «Навошта даваў, навошта разбазарваў?» *Сав., Стаўб. р.*

УЗЯЦЬ НА ЗУБ ш т о. БРАЦЬ (узяць) НА ЗУБ ш т о.

УЗЯЦЬ НА КАНТ к а г о. Гл. БРАЦЬ (узяць) НА КАНТ к а г о.

УЗЯЦЬ к а г о НА ПЕЧКУ. Жыць у падсуседзях, мець часовы вугал у чужой хаце. Наша хата цэлая асталася, а Ядвініна разьбіта, маці яе паранена, усё парасківа́но. Кругом гора столькі, жыць німа дзе, дак мы ўзялі яе зь дзецьмі на печку. Нацярпеліся мы зь ёю. *Усел., Навагр. р.*

УЗЯЦЬ ПАД СВАЮ ЎЛАДУ ш т о. Атрымаць у сваё распараджэнне, мець права карыстацца чым, пашырыць свой уплыў на што. Відзіш, яны дазналіся, што, значыць, вялікі даход рыбакам — гэтакае возера (Нарач)! І вот яны згаварыліся, што мы можам узяць пат сваю ўладу і возера, і рыбу, гэта ж вялікі даход гасударству. *Мік., Мядз. р.*

УЗЯЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ (у голаў). З глыбокай

уразлівасцю ўспрымаць што, з павышанай адчувальнасцю ставіцца да чаго. На кухні дожыдаем мы батюшка (а діло было в вэлікі пост), а матушка готуе рыбу. Сковорода веліка-веліка, а сала туды накідала цалу, як сказать, лужыну. І я собі взяла в голову: «Не пуйду большэ ў споведь. Это ш попы обманшчыкі». *Цер., Пін. р.* Яго ледзьве выратавалі. Узяў сабе ў голаў — павешуся. А кап ты жыў быў да здароў, з-за гэтай кра́лі? *Жац., Стаўб. р.* У голаў сабе нешто возьмя, ні гаворыць цэлую раніцу, соваяцца с кутка ў куток і нічого ні кажа. «Ні пеpажывай, кажу яму, заплацім той штраф, абы здароўе было». *Сав., Стаўб. р.*

УЗЯЦЬ СЯБЕ Ў РУКІ. Устрымліванца ад праяўлення пачуццяў, учынкаў, супакоіцца (пасля хвалявання). Прыходзіць наш камандзір атрада й кажыць: «Ты, Макаравіч, вазьмі сябе ў рукі. Вайна есь вайна. Сын твой пагіп у баю». *Слав., Тал. р.* Віцік, Віцік, што гэто сь цібе будзя, га? Дзяцей ні глядзіш, матка апушчаная. Як твая жонка церпіць, пераносіць гэто! Вазьмі сябе ў рукі, перастань дурака валяць. *Гор., Стаўб. р.*

УЗЯЦЬ У ГОЛАЎ. Гл. НАБРАЦЬ (узяць) У ГАЛАВУ (у голаў).

УЗЯЦЬ У ПРЫМЫ к а г о. Гл. БРАЦЬ НА ПРЫМАКІ к а г о.

У ЗЯЦЯХ ЖЫЦЬ. НА ЗЯЦІ ПАЙСЦІ. Пайсці ў прымы, жыць у жончынай хаце (пра мужчыну). Сын у зіцях жыве, на зяці пашоў, цешчу любіць. Я кажу: «Выпішысь ты з мае хваміліі, хай цібе на жончынай гукаюць». *Ліцв., Карм. р.*

У КАЛЯЮ ЎВАЙСЦІ. Быць самастойным, незалежным, умець жыць, стаўшы на самастойны шлях; праяўляць незалежнасць, самастойнасць. Сын некій дурукуватый, хоць забі, ня слухаіць. Ужэ й біў і што ні рабіў, пака ў сваю каляю ні ўвойдзіць, нічого ні паможыць. *Ляўк., Арш. р.*

У КІШЭНЮ ПАЛАЖЫЦЬ ш т о. Прысвоіць (грошы), нажыцца. Ён жа ўвесь час чужым тру́дам жывець. Пръдаў бацькаў лес, грошы ў кішэню палажыў, а потым сабе хату зрубіў, хату гэту пръдаў, зноў грошы. *Ляўк., Арш. р.*

У КОСЦІ УЕСЦІСЯ к а м у. Гл. УЕСЦІСЯ Ў КОСЦІ к а м у.

У КРОЎ РАЗБІЦЦА з а к а г о, з а ш т о. Аддаць

сваё жыццё, памерці за каго, за што. Мы от як пры Польшчы жылі, то няхай маё дзіця будзя найразумнейшае, раз у бацькі няма ў кішані, у навуку ні пройдзе. А цяпер што? І адзяюць, і кормяць, і сьціпеньдзію плацяць, от як. Маладым, ланімаяцця, у кроў разьбіцца за гэту ўласьць. Праўды, праўды! *Мік., Мядз. р.*

У КРУК САГНУЦЦА. Гл. САГНУЦЦА Ў КРУК.

У КУКОЛЬНІКІ ХАДЗІЦЬ (прыходзіць). У час велікодных свят хадзіць ад хаты да хаты, спяваць велікодныя і розныя бытавыя песні (да гаспадара, да гаспадыні, да паненкі і інш.), атрымліваючы за гэта чырвоныя яйкі або іншыя падачкі. Некалі, як ашчэ малада была, на вяліг'дзянь у каго дзеўка есь у хаця ці хлопяц малады, дак к тым у кукольнікі прыходзілі, зьбіраліса й пелі. *Гр., Слуц. р.* Цяпер ужэ й моды німа ў кукольнікі хадзіць, і песьні тыя пазабываліса. *Там жа.*

УЛАЗІЦЬ У ДАЎГІ. Гл. У ДАЎГІ ЗАЛАЗІЦЬ (улазіць).

У ЛАПУ ДАЦЬ к а м у. Гл. ДАЦЬ (сунуць) У РУКУ (у лапу) к а м у.

У ЛАПУ СУНУЦЬ к а м у. Гл. ДАЦЬ (сунуць) У РУКУ (у лапу) к а м у.

У ЛАСЦЫ (жыць) з к і м. Вельмі добра, душа ў душу, у згодзе. Жылі ў ласцы зь нявесткуй, унучкі бегалі. Бывала, у ягады схаджу, біѓáць (бягуць) адна с карцом, другая с стаканом, трэцьцюй — у жменьку насыплю. *Ліцв., Карм. р.* Мы с сваім суседам ні ў ласцы. *Пр., Стаўб. р.* Мы зь ею ні ў ласцы. Як маўчала, добра было, як сказала, цяпер ідзе міма двара і голаў адварочвая. *Гр., Слуц. р.*

У ЛУЖЫНУ СЕСЦІ. Гл. СЕСЦІ Ў ЛУЖЫНУ (у лужу).

У ЛЫЖЦЫ ВАДЫ ЎТАПІЦЬ к а г о. Гл. УТАПІЦЬ У ЛЫЖЦЫ ВАДЫ к а г о.

У ЛЮДЗІ ВЫБІЦЦА. Гл. ВЫЙСЦІ (выходзіць, выбівацца, выбіцца) Ў ЛЮДЗІ (у свет).

У ЛЮДЗІ ВЫВЕСЦІ к а г о. Гл. ВЫВЕСЦІ Ў ЛЮДЗІ к а г о.

У ЛЮДЗІ ВЫЙСЦІ. Гл. ВЫЙСЦІ (выходзіць, выбівацца, выбіцца) Ў ЛЮДЗІ (у свет).

У МАГІЛУ ЗАГНАЦЬ к а г о. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) к а г о.

У МАГІЛУ ЎВАГНАЦЬ к а г о. Гл. УВАГНАЦЬ (за-

гнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) к а г о.

У МАГІЛУ СЫСЦІ. Гл. СЫСЦІ Ў МАГІЛУ.

У МАЕ ВОЧЫ. Тут жа, адразу, на вачах. Сарока ўнадзілася ў яйкі. Скакала-скакала па гумне, з гумна на хлеўчык, с хлеўчыка на дзьверы, павяла вокам, зглядзяла яйко — у хлеўчык і во ў мае вочы яйко ўхапіла. *Сав., Стаўб. р.*

УМОРЫ НЕ ЗНАЦЬ. Быць працавітым, не стамляцца. А нявестка мая рухавая, руплівая, уморы ні зная. Яна й дома ўсё паробіць, і ў калхозі першая. *Сав., Стаўб. р.* Гэты чалавек уморы ні зная. Цэлы дзень у леся рабіў, траляваў лес на клуп, а вечарам на танцы. *Гор., Стаўб. р.*

УМЫЦЬ РУКІ. Ухіліцца ад удзелу ў якой-небудзь справе, знімаць з сябе адказнасць за што. Што ш ты, Петрык, маўчыш? Умыць рукі хочаш? А цібе ш гэто ў першую вочарацць касаяцца. *Веч., Стаўб. р.* І трэба ш так: жылі — вадой ні разьліць, а калі Адась у бяду папаў, дак Уладзік і ўмыў рукі, баяцца стаў. *Зал., Стаўб. р.*

У НЕРВЫ ЎПАСЦІ. Гл. УПАСЦІ Ў НЕРВЫ.

У ОТВЕДЫ ПРЫЙСЦІ д а к а г о. Гл. ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у даведкі, у отведы) д а к а г о.

УПАДАЦЬ У ЗЛОСЦЬ. Раззлавацца, быць злосным. Аньцік учоро прыехаў позно, а потым нечаго ўпаў у злосьць і давай ганяць па дварэ дзяцей і лаяцца. *Жац., Стаўб. р.* Высоцкі ўпаў у злосьць, ганяе дзяцей ат платоў. Каб і ні падыходзілі нават. *Сав., Стаўб. р.* Наш Коля як упадзе ў злосьць, то хоць с хаты ўцякай, гэдыкі гаткі робіцца. *Гор., Стаўб. р.* Чаго гэто Маруся ўпала ў злосьць, курэй паразганяла, дзяцей павытурвала с хаты на балото. *Там жа.*

У ПАДЖАНІШНІКАХ ХАДЗІЦЬ. Быць шаферам на вяселлі. Сьціпан твой жаніўся, а мой Йван у паджанішніках хадзіў у яго на свадзьбі, а іна радзілася тады. Ей цяпер гадоў пітнаццаць-шаснаццаць. *Ліцв., Карм. р.*

У ПАДЗЁННІКІ ПАЗВАЦЬ к а г о. Гл. ХАДЗІЦЬ У ПАДЗЁННІКІ (у падзёншчыкі, у падзёншчыну) д а к а г о.

У ПАМЯЦЬ УБІЦЦА. Гл. УБІЦЦА Ў ПАМЯЦЬ.

УПАСЦІ ДУХАМ. Гл. ПАДАЦЬ (упасці) ДУХАМ.

УПАСЦІ Ў ВОКА. Гл. У ВОКА ЎПАСЦІ.

УПАСЦІ Ў НЕРВЫ. Захварэць расстройствам нер-

вовай сістэмы. І от тоя пу́ганя ёй ні прайшло дарам — у нэрвы ўпала. Сына забілі, мужа забілі, як жа тут у нэрвы ня ўпасьці, вум ні паціраць ат такога жыцця. *Пр., Стаўб. р.* Наша Стэфка ўпала ў нервы і ўскорасьці пасьля вайны памерла. *Сав., Стаўб. р.*

У ПЕР'Е ЎБІРАЦЦА. Адчуць уласную сілу, стаць цвёрда на ногі. А прыдзя з арміі, у пер'я ўбярэцца, гатоў і пад бораду даць, як ні ўгодзіш, ні ўнаровіш. *Гр., Слуц. р.* А тады ўжо трошкі ў сваё пер'я ўбярэцца, ужэ матку кідая, а ты тады ўжэ матка жыві як хочыш. *Свяц., Бял. р.* Пакуль яны (дзеці) трохі ўбяруцца ў пер'ё, колькі здароўя паложыш. *Сав., Стаўб. р.*

У ПЕРШАЙ СТРЭЧЫ. Дваюрадныя (брат і сястра). Дупкоўская паехала ў Польшчу на месяц. У Польшчы ўвесь мацярын род: цёткі ўсе, сёстры, братэ ў першай стрэчы, пагосьціць там у іх. *Жац., Стаўб. р.* Бацьке родныя, а мы ў першай стрэчы, бацьке дваюрадныя, а мы ў другой стрэчы. *Там жа.*

У ПІРАГІ ЕЗДЗІЦЬ (прыехаць, хадзіць, ісці і інш.). На пеpазовы. У нас нікого дома ні было, у пірагі езьдзілі ўсе. *Гор., Стаўб. р.* І нас прасіў на піраге ў гэту нядзельку, бацьке маладой у пірагі прыедуць. *Там жа.* У нядзелю трэба йсьці на пірагі, сьвёкар і сьвякрова прыдуць. *Сін., Нясв. р.* Езьдзілі ш мы ў тыя піраге. Я, бацько й Олясь едзьдзілі ў піраге у тыя Івацэвічы. *Сав., Стаўб. р.*

У ПОЛЬЗУ ПАЙСЦІ. Гл. ПАЙСЦІ на (у) ПОЛЬЗУ.

УПОПЕРАК ГОРЛА СТАЦЬ к а м у. Гл. СТАЦЬ УПОПЕРАК ГОРЛА к а м у.

У ПРОЧКІ ПАЙСЦІ а д к а г о. Гл. ІСЦІ (пайсці) Ў ПРОЧКІ а д к а г о.

У ПРЫМАКІ ЗАЙСЦІ д а к а г о. Гл. ПАЙСЦІ (ісці, прыстаць) Ў ПРЫМЫ д а к а г о.

У ПРЫМЫ ПРЫСТАЦЬ д а к а г о. Гл. ПАЙСЦІ (ісці, прыстаць) Ў ПРЫМЫ д а к а г о.

У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ. У ДУДКІ ПАГНАЦЬ ш т о. **1.** Пра такое развіццё агародніннх культур, пры якім двухгадовая расліна развіваецца, як аднагадовая: паяўляюцца ствол і кветкі. Горкая ў гэтым годзе радыса, сьпяклася, пашла ў пукі. *Заб., Глыб. р.* Цыбуля некая гаткая, у цыбуры пашла ўся. *Сав., Стаўб. р.* Салата яка, уся пашла у пукі. Во й радыса яка, уся ў пукі пашла. Я яе ўсю парву. *Бял., Лаг. р.* Гэты год уся наша цыбуля

пайшла ў стрэлкі. *Пан., Нясв. р.* Цыбуля пошла ў стоўп, мусіть, і на насіньня нэ будэ. *Бот., Пін. р.* Я ўжэ зломвала, всэ равно о такы друк будэ іты, а головкы нэ будэ, пошла ў стоўп. *Там жа.* Морква в стовпаны пошла, шчавей в стовпаны пошов. *Сім., Драгіч. р.* Пошла цыбуля в цэбахы. *Там жа.* Радыска і рэцька ў пук пашла, вырывай. *Ульян., Сен. р.* Цыбуля ў пукі пашла. *Там жа.* Цыбуля пайшла ў стрэлкі, а вісела ж усю зімачку ля печы, шчэ й платком абвязала, кап цяплей было. *Ляўк., Арш. р.* Рэпа у ствол пъшла, столькі насадзіла, уся чыста ў ствол пъшла. *Там жа.* Насеяла рэцькі і чорнае, і такоё, радзіскі белінькай і такой, пълъсатый, і ўсю яе ў дуткі пъгнала, усю павырвала. Што та такое? *Там жа.* **2.** Зрабіцца перастаркам. *Іран.* Я ўжо сьміялася кала вашых дзіўчат: гэта вы цяпер насы дзірацё: студзентачкі. А во пасьля распрадзяленьня як зашлюць во ў такую дзірэўню, як Ульянавічы, у пук пойдзіць дзеўка. *Ульян., Сен. р.*

У ПУСТАПАС ПУСКАЦЬ. Гл. ПУСКАЦЬ У ПУСТАПАС.

У ПЯТЛЮ ЛЕЗЦІ. **1.** Павесіцца, загінуць. Бацька пастроіў ёй хату, адзьдзяліў, думаў, можа палепшая. А яшчэ пагоршала. Яна яго (мужа) абзывая ўсяк, маўклівая, ніпрыветная, нанач уцячэ да маткі. От ён у пятлю й палес. Малады пагіп праз ніштo. *Пр., Стаўб. р.* **2.** Шукаць згубы на сябе. Ты ні пеpажывай, верняцца. Пабудзя трохі і верняцца. Лесьці ў пятлю з-за гэтаго німа чаго. Вот паглядзіш, што верняцца, прыбяжыць як мілянькі. *Сав., Стаўб. р.*

УРАДЗІЦЦА (нарадзіцца) З ЛЫСІНКАЙ. Мець адметную, звычайна адмоўную, рысу характару, якая праяўляецца праз усё жыццё. Ты не кажы, Соня: гэтыя Пятрусіны ўсе гультае: і бацько быў — што ўбіў то ўехаў, і дзеці якрас такія. Як урадзіўся з лысінкай, то й памрэ з лысінкай, не пераробіцца. *Сав., Стаўб. р.* Вот чалавек: казала табе — ні пускай яго ў хату, бо ўкрадзя яшчэ што. Але як нарадзіўся з лысінкай, то й памрэ з лысінкай. *Жац., Стаўб. р.*

У РОТ (у зуб, у рукі) НЕ БРАЦЬ чаго. **1.** Не есці, не піць (па пэўнай прычыне). Мае сьвіньні забалелі. І што ім сталася? Нічога ў рот ні бяруць. *Ульян., Сен. р.* У пятніцу малачка кіслаго папілі і потым тры дні нічога ў рот ні бралі. *Там жа.* Унучак мой захварэў, горла сьціснула, дзьве ночы во беспеpастанку сяджу, ні прылягу.

Нічога ў рот не бярэ, хоць бы каплю малака якога выпіў. *Ат., Стаўб. р.* Я яго (сала) ціпер у зуб ні бяру. Як ляжала, то доктар сказаў: «Калі хочаш жыць, кабета, ні еш сала». *Сав., Стаўб. р.* **2.** Не піць алкагольных напіткаў. Я і ў рот ні вазьму (гарэлкі), бо па гэтых гурбах дадому ні зайду. *Сав., Стаўб. р.* Піў-піў, бывала. У маткі і сарочку ўкрадзіць, і бульбу ўкрадзіць — прапіваў. А ціпер і ў рукі ні бярэць. *Ліцв., Карм. р.* Мой швагер кінуў курыць, кінуў піць, ні то кап піць — піва каплі ў рот ні бярэ, так жыць хоча. *Бяр., Дзярж. р.*

У РОТ (у душу) НЕ ЎБІЦЬ. Не хацець есці, не да смаку, не пад густ (прадукт, страва і інш.). Хацела бліноў драных сьпячы, мучаных у рот ня ўбіць, дак бульба мяккая, вялая, ніхарошая, дзёрці нільзя. *Зам., Брасл. р.* Я летам толькі й жыву квасам, а больш нічога ў рот не ўбіць. Часамі што зьем салоніినькага, крушку квасу вып'ю і больш нічого ні хочу. Што я ўпіла квасу! *Сав., Стаўб. р.* Мой Вова благі зь ядою, на малацэ толькі і жывець. Зімой трошкі лепей есь, а вясной і летам у рот нічога не ўбіць. *Ляўк., Арш. р.* І кашку з малаком давала, і яечка зьбіла, і варэня прыносіла, і нічого ні бярэ, у душу ёй ні ўваб'еш. І што гэто зь ёю зрабіласё, а гэдак жа добро ела. *Ас., Стаўб. р.* Толькі алаткі прызнаюць, намажуцца і пабеглі. А што на дзень зварыш — капусты ці буракоў,— ні ўбіць у душу, патыцкаюць, патыцкаюць і: «Ні хачу». *Там жа.*

У РОЦЕ РАСЦЕ. Гл. РАСЦЕ Ў РОЦЕ.

У РУКАХ к а г о. Ва ўладанні, у распараджэнні, у падначаленні каго. Нада ганяць бульбу, але ж конь ня ў руках, калі хочаш, ня возьмяш. *Ульян., Сен. р.* Як быў у кладовуй, тагды і воўна, і лён, і збож'я было ў руках, і чэшча кожны гот коўдры ткала. *Гр., Слуц. р.* Як я рабіў на базя, ці паверыш, Толя, увесь раён быў у маіх руках. *Там жа.* Чаго яму яшчэ хочацца? У яго ш і так усё у руках. Можа ўзяць і машыну дроў прывесьці, а то й каня. *Сав., Стаўб. р.* Мішка-лавачнік спраўляў дзень нараджэньня сына. Казалі, спрасіў (склікаў) паўвёскі, ведамо, ўсё ў руках, дастаня, што на сьвеці ест. *Там жа.* Міша, падакуці (абгані) мне бульбу, у цябе ш конь у руках. *Ляўк., Арш. р.*

У РУКАХ ГАРЫЦЬ ч ы і х, у к а г о. Гл. ГАРЫЦЬ У РУКАХ ч ы і х, у к а г о.

У РУКАХ ХРУШЧЫ СЯДЗЯЦЬ. Няма спрыту ў ру-

ках. Маладая я скора ягады зьбірала. А цяпер мне ні да гэтага, не, цяпер у руках хрушчы сідзяць, ла́паю-ла́паю і міма. Шморк-шморк, а яны неік міма. *Ліцв., Карм. р.*

У РУКІ НЕ БРАЦЬ. Гл. У РОТ (у зуб, у рукі) НЕ БРАЦЬ ч а г о.

У РУКУ к а м у. НА РУКУ к а м у. Задавальняе каго, супадае з жаданнямі каго. Дзела к вясельлю патходзіць, а мы ніяк ні зговорымся, дзе нам вінчацца — у царкве ці ў касьцёле (я ш праваслаўны, а яна — каталічка). Браццы мае, ну што рабіць? Пашлі да ксяндза, а там некі паралюш (перашкода), ён заняты. Кажыць, прыдзяш другі рас. Мне гэта ў руку. Я завярнуўся й дамоў. *Дайг., Віл. р.* Жыве ў Ядзі, у Мінску. Яму гэто на руку, бо палучая мало, а Ядзя пакорміць і бясплатно высьпіцца. *Жац., Стайб. р.*

У РУКУ ДАЦЬ к а м у. Гл. ДАЦЬ (сунуць) У РУКУ (у лапу) к а м у.

У РУКУ СЎНУЦЬ к а м у. Гл. ДАЦЬ (сунуць) У РУКУ (у лапу) к а м у.

У РУХУ (быць). Не сядзець на месцы, многа хадзіць, бегаць. Дзе ш ты яго ўбачыш, чалавеча. Цяпер ён (старшыня калгаса) у руху. Можа, паехаў пад лес, там камбайны жнуць. *Жац., Стайб. р.* Твая Танячка ўся ў руху, ані ні ўседзіць, так і пільнуй, каб дзе ні ўсунулася. *Сав., Стайб. р.* Большанькі (хлопчык) яе нешта хварэя, сэрца і ногі баляць. А, можа, ён возьмя да кнішку пачытая! Усё ў руху і ў руху, мінуткі ні пасядзіць. *Пр., Стайб. р.* Чалавек — стары ён ці малы — прывык у руху быць. Дзе ты ў хаці ўседзіш цэлы дзень. *Сав., Стайб. р.*

У САБАКІ ВОЧЫ ПАЗЫЧЫЦЬ. Гл. ВАЧЭЙ ПАЗЫЧЫЦЬ (пазычыўшы) у к а г о.

У САБАЧУЮ СКУРУ АДЗЕЦЦА. Гл. АДЗЕЦЦА Ў САБАЧУЮ ШКУРУ.

УСАДЗІЦЬ ГРОШЫ. Гл. САДЗІЦЬ (усадзіць, тахтарыць) ГРОШЫ.

УСАДЗІЦЬ (свой) НОС к у д ы. Гл. СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС к у д ы, у ш т о.

У САМЫ РАЗ. 1. Як па мерцы, якраз (адзенне, абутак). Купіла Мішку портачкі у самы рас, хай ходзіць, лето адносіць. *Сав., Стайб. р.* На, памерай, Анька. Вот бачыш, у самы рас прышліся (чаравічкі), насі на здароўё. *Там жа.* Кофтачка мне ў самы рас, але кароцінькія рукаўчыкі, німа як адзець старой бабі. *Там жа.*

2. Аднолькавыя, падобныя, адпавядаюць адно другому. Яны от у самы рас падабраліся: ён трохі скнараваты, а яна тожа ні перадасьць лішнюю капейку. *Жац., Стаўб. р.* Вот зь іх пара ў самы рас: і яна ў школі ўжо даўно, і ён будзя настаўнікам, канчая вучобу. *Гор., Стаўб. р.*

У САРОЧЦЫ РАДЗІЦЦА. Гл. РАДЗІЦЦА Ў САРОЧЦЫ.

У СВЕТ ВЫЙСЦІ. Гл. ВЫЙСЦІ (выходзіць, выбівацца, выбіцца) Ў ЛЮДЗІ (у свет).

У СВЕТ З'ЕХАЦЬ. Гл. ПАЕХАЦЬ (з'ехаць) У СВЕТ.

У СВЕТ ПАЙСЦІ. Гл. ПАЙСЦІ Ў СВЕТ.

У СВІНЫЯ ГАЛАСЫ. Позна. Яна заўсёды прыходзіць на работу ў сьвіныя галасы і хоць бы што, на яе й брыгадзір нічого ні скажа. *Мач., Бабр. р.* Барджэй пераапранайса, а то прыдам у сьвіныя галасы. *Гр., Слуц. р.* Коля заўсюды позна кладзецца. Я ўжо, можа, на другі бок перавярнуся, а ў іх ўсё сьвет гарыць. А раніцаю сьпяць, ціхо на дварэ, устаюць у сьвіныя галасэ. *Сав., Стаўб. р.* Хацела пайсьці ў грыбэ, але заспала, устала ў сьвіныя галасэ, то ні пашла. *Там жа.*

У СВОЙ БОК ЦЯГНУЦЬ. Гл. ЦЯГНУЦЬ У СВОЙ БОК.

УСЕ СІЛЫ КЛАСЦІ (палажыць) н а ш т о. Прыкладаць усе намаганні на вырашэнне, выкананне чаго. У нас вельмі рвуцца ў горат, усе сілы кладуць, каб вырвацца зь дзірэўні. І толькі гэтай вучобай вырываюцца. *Бял., Лаг. р.* Міша ўсе сілы палажыў, каб да зімы ў хату ўвайсьці, але яшчэ й цяпер у кухні мучыцца, у цеснаце. *Сав., Стаўб. р.* Прышоў Казімірчык і казаў, што дзеці вельмі ш добро вучацца, старшы канчая школу. Гаварыў, што ўсе сілы паложыць, а вывучыць дзяцей. *Гор., Стаўб. р.*

УСЁ ЎСЯКАЕ. Усё, што хочаш, усяго дастаткова ёсць. Цяпер толькі й жыць маладым. У магазіні ўсяго ўсякаго е (ёсць), і зарабляюць добра, і адзяюцца. *Ал., Калін. р.* Ні шкадуя, надзеліць яе ўсім усякім, а яна й пашла. *Сав., Стаўб. р.* Паказвала Маня шафу, хвалілася. Праўды, аткрыла, а там усяго ўсякаго, чаго там німа. Аднаго палатна вунь колькі ляжыць. *Гор., Стаўб. р.*

УСЁЙ ДУШОЙ. Вельмі, моцна, шчыра, ад сэрца (жадаць, імкнуцца, чакаць і г. д.). Людзі хочуць ўсёй душой, кап ён астаўсі, а начальства кажыць: «Вы яму дабра ні жадаіця, вы яго за краты пасадзіць хочыця». *Ульян.,*

*Сен. р.* Я ўсёй душой хачу, каб амярыканцаў і нагі там (ў В'етнаме) ні было, каб людзі спакойно жылі. *Сав., Стаўб. р.* Чаму вы яму ні напішаця якіх пару слоў, ён жа да вас ўсёй душой горняцца, а вы і на лісты ні атказваяця яму. *Жац., Стаўб. р.*

У СЁМУЮ ВОЧАРАДЗЬ. Позна, пасля ўсіх, апошнім. Пасаджу картофлю ў сёмую вочараць, вырасьця яшчэ. *Сав., Стаўб. р.* Людзям дае коні ў сёмую вочараць, перш калхозныя картофлі пасадзяць, а дасьць ўсім, яшчэ ўсьпеюць. *Жац., Стаўб. р.*

УСЁ ЧЫСТА. УСЁ ЯК ЁСЦЬ. Усё на свеце, усё без выключэння. І асталося ўсё гэта мужуку: і конь, і шапка, і шуба, і сапагі — ўсё чыста мужуку асталося. Ашукаў мужык пана. *Об., Шум. р.* Пакуль дабеглі людзі, ўсё чысто згарэло. *Сав., Стаўб. р.* Нішчасьцё ў Клавы. Дзеці ўпалілі хлеў, загарэлася хата, а яе ні было дома, усё чысто пагарэло. *Гор., Стаўб. р.* Усе як ест дамы былі папалены, усе як ест. *Сів., Вал. р.*

У СІЛАХ НЕ БЫЦЬ. Няма моцы, не магчы (зрабіць што). Цярпела я, цярпела, божа мой, ужо боляй і цярпець ні магу, ужо ў сілах ні было мне зносіць зьдзекі яго. *Аляхн., Маладз. р.*

УСКІДАЦЬ НА ВОЧЫ к а м у. Гл. НА ВОЧЫ ЎСКІДАЦЬ (выкідаць) к а м у.

У ч ы й СЛЕД УСТУПІЦЬ. Гл. СТУПІЦЬ (уступіць) У СЛЕД ч ы й.

УСТАВІЦЬ МАЗГІ к а м у. Гл. МАЗГІ ЎСТАВІЦЬ к а м у.

УСТАВІЦЬ СЛОВА. Мала гаварыць, прымаць пасіўны ўдзел у гутарцы. Яна такая маўчлівая, усё маўчыць, усё маўчыць. Калі ўжо дзе ўставіць якое слова і то, як яе зачэпіш. А каб не зачапіў, яна б увесь вечар так і прамоўчала б. *Язн., Віл. р.* У нас быў некалі сусед Міхал. Прыдзя, рассядзяцца й маўчыць. За вечар, можа, ўсяго разоў колькі слова ўставіць. *Сав., Стаўб. р.*

У СТАРЦЫ ПАЙСЦІ. Жабраваць, стаць жабраком. Така жмінда, сьвет ні бачыў. А калі б і прыехала з валачэням (народны звычай, паводле якога куму наведваюць бацькі хрышчанага ёю дзіцяці з падарункамі), у старцы ні пашла п. Дак усе гнецца, усе гнецца, нівыходна ёй. *Гр., Слуц. р.*

У СТАЎПАНЫ ПАЙСЦІ. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэл-

кі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

У СТВОЛ ПАЙСЦІ. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

У СТРЭЛКІ ПАЙСЦІ. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

УСУНУЦЬ (свой) НОС куды. Гл. СОВАЦЬ (усунуць, садзіць, усадзіць, уткнуць) НОС куды, у што.

УСУНУЦЬ ЯЗЫК куды, у што. *Асудж.* Умяшацца ў староннюю размову. У нас Андрэя празвалі Камісарам. Камісарам ён то ня быў, а ўсунуць язык свой усюдых любіў. За тое і завуць так. *Грыш., Рас. р.* Калі старэйшыя гавораць, ня трэба, дзеткі, умешвацца, перабіваць, а то язык усуняш, і мне брытко будзя. Сядзеця ціхінько і слухайця. *Сав., Стаўб. р.*

У СУЧКУ СЯДЗЕЦЬ. Скурчыўшыся, падабраўшы пад сябе ногі, лапы. Страшныя марозы стаялі, увесь час стаялі трыццацьвасьміг'радусныя марозы. Куры ўсе ў сучкў сядзелі, усе ў сучку, ні есьці ні піць ні зьляталі. *Сав., Стаўб р.* Мае куры перасталі нясьціся, сядзяць, бедныя, ў сучкў, акрамя сьнегу, нічого ні бачаць. А курыцы ш трэба пясочак-жвырочак, трэба зярнята, каб нясьціся. *Там жа.*

УСЫПАЦЬ НА ХВОСТ каму. Настрашыць, напалохаць каго. Варона ціплят хватала. Я прынёс руж'ё і думаю: «Усыплю я вам на хвост». Атчыніў дзвёрку, ствол высунуў — і хлоп. *Зам., Брасл. р.*

УТАПІЦЬ У ЛЫЖЦЫ ВАДЫ каго. *Недобразыч.* Хацець каго знішчыць, быць варожа настроеным да каго. Я ні люблю яе, нінавіджу, я б яе ў лышцы вады ўтапіла. *Сав., Стаўб. р.* Сусеткі ні ладзяць, адна другую, кап прымела, у лышцы вады ўтапіла п. *Жац., Стаўб. р.* Мае ўрагі, кап прымелі, у лышцы вады ўтапілі б мяне. *Пр., Стаўб. р.* Вунь Косьцік да чаго, здаецца, ціхі, а кап прымеў, утапіў бы ў лышцы вады. Я ўсё жыцё яго баюсё. *Гор., Стаўб. р.*

У ТРУНУ ЗАГНАЦЬ каго. Гл. УВАГНАЦЬ (загнаць) У МАГІЛУ (у труну, у гроб, у дамавіну) каго.

У ТРУНУ ПАЛАЖЫЦЬ. Гл. ПАЛАЖЫЦЬ У ТРУНУ.

У ТРЫ ПАГІБЕЛІ СКУРЧЫЦЦА (сагнуцца). **1.** Ля-

жаць, падабраўшы ногі пад самы падбародак. Спалі ў пограбе, холадно. Дзеці ў куточку ў лахманах сьцішацца, скурчацца ў тры пагібелі і гэдак сьпяць. *Сав., Стаўб. р.* Мішку было холадно ўночы, скурчыўсё ў тры пагібелі і так спаў. Давай накрываць кажухом. *Там жа.* 2. Згорбіцца, сагнуцца (па старасці, па хваробе). Унь паглядзі на Пархімовічыху. Ледзьве ходзіць бабуня. Сагнецца ў тры пагібелі і йдзе. *Жац., Стаўб. р.* Кійко захварэў, у тры пагібелі скурчыўсё. *Сав., Стаўб. р.* Што ты сагнулася ў тры пагібелі, жывот баліць ці што? *Там жа.* Адыдзіся, бо як дам, у тры пагібелі сагнесься. *Гор., Стаўб. р.*

У ХАМУТ БІЦЬ. *Незадав.* Выказваць крыўду, незадавальненне, калі закранута сябелюбства. «Чакалі Йвана, а ён не прыехаў».— «А каторэ ж зь іх у хамут б'е? Йван ці Шура?» — «А ў іх там ні разьбярэш. Былі пасварыліса, і цяпер ашчэ ні памірыліса, дак і ехаць німа як». *Гр., Слуц. р.*

У ХАТУ. На агульны дабрабыт сям'і, у гаспадарку. Сынэ добро зарабляюць, грошы ў хату, мне аддаюць. А я ўжо камбіную: аднаму тужурачку, другому рубашачку, таму тоё, таму сёё. Я нека гэдака, што ні скнэравата,— ест, дак ход даю. *Сав., Стаўб. р.*

У ХВАСЦЕ. Ззаду, самым апошнім. У нас у Копысі ізрасцова-плітъчный завот, але выхат гатовай прадукцыі малый і ніскага качаства. З году ў гот пляцецца ў хвасьце, яго скора закрыюць. *Ляўк., Арш. р.* Марынка недзя ў хвасьце пляцецца. Усе скарэй, скарэй, а яна ідзе сабе памаленьку, ні сьпяшаецца. *Сав., Стаўб. р.*

У ЦАНЕ ш т о. Дорага каштуе. Жыта ў цане цяпер, да васьмі рублёў даходзіць пут. *Гр., Слуц. р.* Цяпер сьвіня ў цане: парася ат цыцкі, шэсьць нядзель — семісят рублёў просяць. *Там жа.* Думала прыкупіць картофяль пудоў зь дзесяць патсьвінакам сваім, ды немач яго ведая, дзе тых грошай набрацца, картофля ў цане. *Гор., Стаўб. р.* У Мінску на Камароўцы мясо падарожало, мясо цяпер у цане. *Сав., Стаўб. р.* У міне ў гэтум году трускавак будзя, а яны заўсюды ў цане. Як гэто будзя іх вывалачы, я такая німагушчая стала. *Там жа.*

УЦЕРЦІ НОС к а м у. Гл. ПАДЦЕРЦІ (уцерці) НОС к а м у.

У ЦЫБУРЫ ПАЙСЦІ. Гл. У ПУК (у пукі, у стрэлкі, у цыбуры, у стоўп, у ствол, у стаўпаны, у цэбахі) ПАЙСЦІ.

УЦЯКАЦЬ ЗА ВЯРСТУ. Гл. ЗА ВЯРСТУ (за кіламетр) АБХОДЗІЦЬ.

УЦЯКАЦЬ ЗА КІЛАМЕТР. Гл. ЗА ВЯРСТУ (за кіламетр) АБХОДЗІЦЬ.

УЧЫНІЦЬ ЛІТАСЦЬ к а м у. Зрабіць ласку, аказаць паслугу к а м у. Фэльцік учыніў літасьць. Прывёз возік саломы, трэба яе закінуць на палаткі, на канец будзя. *Сав., Стаўб. р.* Трэба Лапкоўскім аб'явіцца. Маня, можа, літасьць учыніць, можа, мукі як дастаня. *Там жа.* Сусет хоча сала купіць. Трэба ўжо яму прадаць, учыніць літасьць. *Жац., Стаўб. р.*

## Х

ХАДЗІЦЬ БЕЗ ПОРТАК. Быць бедным, не мець чаго на сябе надзець. А за што было некалі купляць? Масло ці яйкі прадасі, трэба г'азы, солі, запалак. А на сябе — то як перашыяш, то падлатаяш. От і хадзілі, можна сказаць, без портак многія ўсё жыцё, канкулявалі, выкручваліся зь нястачы. *Сав., Стаўб. р.* Даўней ты б бяс портак хадзіў, лічыў бы кожны злот. А ціпер? Ні прыкідвайся, што ты бедны вельмо. Дзеці ў цібе ў парадку (няхай жывуць здаровыя), сам зарабляяш добро. Ці прышло п табе раней у галаву ехаць за граніцу ў госьці, а цяпер бачыш: ужо два разы езьдзіў. *Жац., Стаўб. р.*

ХАДЗІЦЬ КАНДЗІБОБЕРАМ. Быць надутым, пыхлівым, пышыцца; рызыкаваць, усведамляючы ўласную годнасць. А Стась у яе такі харошы быў, але ганарлівы, хадзіў кандзібоберам, што то я, а глядзі, мой моцны божа, памёр. *Сав., Стаўб. р.* Яна цяпер разбагацела, ражжылася, то й міне ні прызнае. Ходзіць кандзібоберам, ні здароўкаяцца, калі дзе найду. *Жац., Стаўб. р.*

ХАДЗІЦЬ КРАЕМ МАГІЛЫ. Вельмі слабы фізічна (пра старога або хворага чалавека). Ужо і Грынючыха ні можа, ходзіць краем магілы. А яшчэ ўсьцягняцца і ў печы выпаліць, і ў хаці прыбярэ, і дзяцей дагледзіць памаленьку. *Мяс., Стаўб. р.*

ХАДЗІЦЬ НА ВЫЛІЎКАХ. *Іран.* Быць цяжарнай на апошнім месяцы (пра жанчыну). Некі ш рашчот есь. Ходзіць на выліўках і навасельля спраўляя. Ужэ б разам адгулялі. *Гр., Слуц. р.*

ХАДЗІЦЬ НА ГАЛАВЕ. Гл. НА ГАЛАВЕ ХАДЗІЦЬ.

ХАДЗІЦЬ НА ПАЛЬЧЫКАХ п е р а д к і м, к а л я

к а г о. Запабягаць перад кім, паддобрывацца, падлізвацца да каго. Глядзі ты яго! Вылежваяцца, як пан, а ты, маці, хадзі кала яго на пальчыках! Яшчэ й слова яму ні скажы. *Сав., Стаўб. р.* Марусін як прыдзя с калхоза выпіўшы, яна ходзіць каля яго на пальчыках, ні хоча сваркі ў хаці. *Там жа.* Перат такімі, як ты, с тваім абразаваням, даўней на пальчыках хадзілі, тры кухаркі меў бы, а цяпер ўсё сам рабі. *Там жа.* Яна вымуштравала дзяцей, на пальчыках ходзяць перат тым дзедам. *Ас., Стаўб. р.*

ХАДЗІЦЬ ПА ВАЛАЧОБНАМУ. У час велікодных свят хадзіць ад хаты да хаты, спяваць велікодныя і розныя бытавыя песні (да гаспадара, да гаспадыні, да паненкі і г. д.), атрымліваючы за гэта чырвоныя яйкі або іншыя падачкі. На першы дзень пасхі сабіраюцца валачоньнікі, музыканта прасілі і хадзілі па валачоннаму. Усякі плоця, паспасібуя (падзякуе) кожны, стараяцца заплаціць добра, каб ні абгаварылі. *Бял., Лаг. р.* Я помню, мы былі малыя, чы пры першых Саветах (у 1939—40 гг.), чы яшчэ за Польшчу, нас сабраласё чы сем, чы восім дзяўчатак, хадзілі па валачоннаму. *Сав., Стаўб. р.* Хадзілі па валачоннаму. Я ўжо рубель прыгатовіла, а тады німа й німа. Да нас першая бурса ні дашла. Я ўжо думаю, ні прыдуць, а тады другая бурса. *Там жа.* У нас, бывало, і старыя па валачоннаму хадзілі. Сабяруцца і йдуць, сьпяваюць. *Жац., Стаўб. р.*

ХАДЗІЦЬ ПА ГАЛАВЕ к а м у. Гл. ПА ГАЛАВЕ ХАДЗІЦЬ к а м у.

ХАДЗІЦЬ ПА ЗАРАБОТКАХ. Наймацца на работу да каго, мець часовы заробак. Даўней усе яго дзеці хадзілі па заработках. А ўвосянь навалакуць жыта і жывуць усю зіму. *Мік., Стаўб. р.* Яго дзеці ўдалыя. Жылі бедно, па заработках хадзілі, рабацяшчыя былі, а ціпер недзя ў Мінску, на трактарным ці што. *Гал., Стаўб. р.* У міне бедно ў хаці было, жылі от як і ўсе. А Коля зарабляў па людзях, хадзіў па заработках, кажухі людзям шыў зімою. *Веч., Стаўб. р.*

ХАДЗІЦЬ (ездзіць) ПА КАЛЯДЗЕ. Калядаваць, паводле народнага звычаю, хадзіць з звяздою і жытам ад хаты да хаты з пажаданнямі добрага жыцця і шчасця, збіраючы ахвяраванні ад прыхаджан. Ці помніш ты нашага ксёндза? Суровы такі, хадзіў па калядзе, хаты сьвенціў. Ён быў пралат, духоўнай навукі вялікай, яго і ў Рымі зналі. *Сав., Стаўб. р.* Насыпаў лупку пшаніцы,

лупку жыта, калба́сы дзьве, грабелькаў палажыў. Далі гэта папу, поп хадзіў па калядзе. *Ульян., Сен. р.* Бывала, поп па калядзе езьдзіў, кілбасы зьбіраў перат калядамі. А адзін узяў ды пута па́трап'я ў кішку ўцягнуў і даў тую кілбасу дзяку і служанкі, якія па калядзе езьдзілі. Прывязьлі яны тых кілбас. Кухарка рэжыць-рэжыць, ні пераpэжыць. Посьліка сталі шчупаць кілбасы, штоп пута ні пупалась. *Ульян., Сен. р.* Прыехаў ён, тэй поп, хараніць, а тады разглeдзіўся й кажыць: «Як хадзіў па калядзе, мне ні разу ў гэтай хаці ні дувалі». І на тых бап у крык. Ён жа толькі глядзіць, каб у сваё горла напхаць. *Свяц., Бял. р.*

ХАДЗІЦЬ У АДВЕДКІ да каго. Гл. ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у даведкі, у отведы) да каго.

ХАДЗІЦЬ (пайсці, прыйсці) У АДВЕДЗІНЫ (у адведкі, у даведкі, у отведы) да каго. Наведваць, пераведваць парадзіху. Хто хадзіў у адветкі, гукну на радзіны, а больш ні буду. *Ульян., Сен. р.* Нашы-то ў адведзіны хадзілі, але на радзіны не пойдуць, бо Коля ў бальніцы. *Сав., Стаўб. р.* Цётка загневаласа і ў отвяды ні прышла, як Ніна радзіла. *Гр., Слуц. р.* Сабраліся бабы, у адведзіны прышлі да міне ўчоро. Трохі пагасьцявалі, пасядзелі. *Сав., Стаўб. р.* У сястры радзіласё малоё, пайду у адведзіны. Трэба будзя сабрацца, аладачак напячы і пайсьці ў отвяды да Рэні. *Там жа.* Пасядзела с праўнучкам, а Моця ў даветкі схадзіла к Валі Сашынъй, утрох хадзілі ў даветкі. *Ляўк., Арш. р.*

ХАДЗІЦЬ У ПАДЗЁННІКІ (у падзёншчыкі, у падзёншчыну) да каго. У ПАДЗЁННІКІ ПАЗВАЦЬ каго. Наймацца да каго на работу, працаваць на падзённай рабоце. Цяпер жызьня людзям! А, бывала, выдзяш за вароты і глядзіш, хто ў падзёньнікі пызавець. А жылося бедна, ні вельмі было да каго і ў падзёньнікі хадзіць. *Ліцв., Карм. р.* Хадзіла ў падзёньнікі жыта жаць, кап хто семяно даў. *Там жа.* Некалі і мой (муж) хадзіў у падзёншчыкі, калі хлеба ні хватало. *Сав., Стаўб. р.* Сьцяпан спаў на печы, а калі есьці не было чаго, хадзіў у падзёншчыну. Заробіць трохі і даляй жыве. *Там жа.*

ХАДЗІЦЬ ЯК ПАВА. *Асудж., непаш.* З відавочным усведамленнем уласнай годнасці, з гонарам (ісці). Глядзі ты, наша Ядзя якая зрабілася! Пабыла з год у Мінску і па вёсцы йдзе як пава, ні с кім ні прывітаяцца першая.

*Сав., Стаўб. р.* Стася разбагацела, ходзіць як пава. Чаму не? Муж столькі зарабляя, у хаце чаго хочаш. Чаму ні ганарыцца. *Жац., Стаўб. р.* Волька Грынюкова зрабілася ганарыстая, ідзе як пава, ведамо, жыве ў доглядзі. *Хал., Стаўб. р.*

ХАЛЕРА БЯРЭ к а г о. *Асудж., абурэн.* Старацца колькі ёсць сілы, як мага прагнуць. Янка казаў, яго цесьць двоя сьвіней закалоў, цялушку зарэзаў на сваю патрэбу. А ў нас тут аш халера бярэ за грашыма: і сьвіней здаюць, і цялята здаюць, і трусэ, й куры, індыке — усё чысто здаюць. Людзі аш халера іх бярэ, каб здаць. Онь сусетка. Край (вельмі) трэба было калоць, а яна на мясакамбінат загнала, узяла грошы, а сало купляць будзя. *Сав., Стаўб. р.*

ХАЛЕРА НЕ БЯРЭ к а г о. Гл. ЧОРТ (кадук, немач, халера) НЕ БЯРЭ к а г о.

ХАМУТ ЗНАЙСЦІ НА ШЫЮ. Гл. НАЛАЖЫЦЬ (знайсці) ХАМУТ НА ШЫЮ.

ХВАСТОМ КРУЦІЦЬ. Гл. КРУЦІЦЬ ХВАСТОМ.

ХВАСТОМ НАКРЫЦЦА. *Асудж.* Знікнуць, не расплаціўшыся з кім. Пазычыла суседу грошы, а ён і хвастом накрыўся. Каб ведала, ні пазычала п. *Сав., Стаўб. р.* Узіла ў мяне дзесіць рублей і хвастом накрылася. *Ульян., Сен. р.* Вот бачыш: дай чалавеку, зрабі добро, а ён і хвастом накрыўся, не паказваяцца нават на вочы. Боляй я яму пазычу, хібо жыў ні буду! *Гор., Стаўб. р.*

ХВАСТЫ ПЕРАНОСІЦЬ. Разнесці плёткі. І нада ж во так! Хвасты піранясьлі так скора. Што й та за людзі! *Ліцв., Карм. р.*

ХВАСТЫ РАБІЦЬ. Склікаць гасцей у дзве нядзелі пасля вяселля. У нас цяпер свадзьбу рабіць вельмо лёхко. Усё нясуць: і гарэлку, і закуску. Цяпер свадзьба бывае тыдзень. Дзьве нядзелі пройдзе, і хвасты робяць, тожа дні чатыры ці п'яць гуляюць. *Таль, Люб. р.*

ХВАТАЦЦА ЗА САЛОМІНКУ. Гл. СХАПІЦЦА (ухапіцца, хватацца, трымацца) ЗА САЛОМІНКУ (за саломіну).

ХВОСТ АДКІНУЦЬ. Гл. АДКІНУЦЬ НОГІ (хвост).

ХВОСТ ДУГОЙ ДЗЯРЖАЦЬ. Не сумаваць, не падаць духам, трымацца з гонарам. Стара жанчына, некіх семісят гот, суха, дадохлая, та спаніца матляяцца як на калу, а ашчэ хвост дугою дзяржыць, ні здаецца. *Гр., Слуц. р.* Люба ашчэ трохі жывец мая, ашчэ здаравейша

за мяне, ні паддаецца старасьці, хвост дугою дзяржыць. *Там жа.* Алесява жонка хворая, праўда, але ліхо яе ні бярэ — мужык добры, грошы прыносіць кожды месяц, забрабляя. Трохі падлечыцца (жонка) і яшчэ хвост дугою дзяржыць. *Сав., Стаўб. р.*

ХВОСТ НАКРУЦІЦЬ к а м у. НАКРУЦІЦЬ (намыліць) ХВОСТ к а м у.

ХВОСТ НАМЫЛІЦЬ к а м у. Гл. НАКРУЦІЦЬ (намыліць) ХВОСТ к а м у.

ХЕЎРУ ВАДЗІЦЬ з к і м. Гл. ХЕЎРУ ВЕСЦІ з к і м.

ХЕЎРУ ВЕСЦІ (вадзіць) з к і м. Сябраваць, быць у прыязных адносінах з кім. Казала Арсеніха, што і Люба ня вельмі там с кім хеўру вядзе, з усяе Гары (назва часткі вуліцы) толькі хаўрусуе з Матрунаю Лявончыкаваю. *Гр., Слуц. р.* Мне тут німа с кім хеўру весьці. Сусеткі маладыя, занятыя працай, толькі калі к Хаміным выду. *Там жа.* У людзей дзісята вада на кісялі, а свае: і хеўру водзяць, ці на радзіны, ці на бяседу якую ходзяць, а нашы родныя, а ні сабразіш. *Гр., Слуц. р.*

ХІБОК НАСТАВІЦЬ. *Асудж., непав.* Быць ганарлівым, не падпарадкоўвацца заведзенаму парадку, самавольнічаць. Прыслалі пяць маладых настаўніц у школу, то тры нічого, а дзьве хібок наставілі: куды ўздумаюць, туды й паехалі. А завуч за самавольную адлучку пядзісят рублёў як вышчытаў з зарплаты, то аціхлі. *Сав., Стаўб. р.*

ХЛЕБ АДДАЦЬ к а м у. Адпомсціць, учыніць фізічную расправу над кім за прычыненыя здзекі, пакуту, за груба парушанае шчасце, дабрабыт. Памёр наш тата, а ў маткі асталося два надзелы зямлі, і яе засватаў удавец з другія дзяреўні. Можна было жыць, алі ж вотчым гад быў, кат. Расказвалі людзі, што ён сваю первую жонку забіў на полі ска́павічам, што гной скапаваюць, за тоя, што яна няроўна рад гною палажыла. А тады во мама мыя пышла за яго, за еткага людаеда. Ён яе біў, што памёрла біс пары. І што ш ты думыіш, дзетка мыя, ці бабы етыя ні дурныя? Ізноў ажаніўся кат еткій. Ну й добра, што ён узяў яе, тады яму, га́ду, ужо тэй хлеб аддалі яе сыны. Пакуль яны яго быяліся (былі малыя), дык ён яе біў як хацеў, а як сталі хлопцамі бальшымі, атпомсьцілі яму. Рас хлопцы мачыхіны гулялі на йгрышчы, а нехта прішоў і кажа: «Ляксеічка — Ляксей старэйшы быў — воччым жа твой матку забіў саўсім». Ні

слова ні сказаў Ляксей, пашоў к суседу (Ігнат быў ахотнікам), зьняў з крюка ружжо і бягом дамой. Пакуль Ігнат разгледзіўся, пашто Ляксей ружжо ўхваціў, дык ён ускачыў у хату і воччыма пряма ў жывот з ружжа: «Во табе, кажа, кат, за ўсіх жонак зразу плата. Вазьмі ўсё, і большы ня будзя табе ніхто вінават». *Раб., Слаўгар. р.*

ХЛЕБ ЕСЦІ з ч а г о. Жыць з чаго, мець сродкі на пражыццё. Тогды ж ніхто грамотны нė був. Я просыла свого батька, шчо я буду в школу ходіті, а вун: «З навўкі хлеба не будеш есті, а вучыса прасті да ткать». От як було. *Цер., Пін. р.* Пабех Коля ў школу. Холадно, завея схадзілася, а трэба ісьці. Ён жа з гэтаго есьць хлеп (працуе настаўнікам). *Сав., Стаўб. р.* Сь цёмнаго сьвету на полі. Ні знаю, калі ён сьпіць. Робіць на камбайні, то цэлы дзень у полі. Прыйдзя на гадзіну дахаты — і пашоў. Ён жа з гэтаго хлеп есьць, то й пільнуяцца работы. *Там жа.*

ХЛУСІЦЬ (лгаць) НЕ ПАДСЕЮЧЫ. Бессаромна (хлусіць). Слухай ты яго, я яго ўжэ знаю. Хлусіць ні патсяючы. *Кав., Старадар. р.* Яна лжэ ні патсеючы, ніколі праўды ні скажа. *Хал., Стаўб. р.* Гэты яе Уладак лжэ ні патсяючы. Рас нек пытаюся ў яго: «Што Юзя робіць?» «У калхос,— кажа,— пашла». Ну, добро. А потум сустракаю Юзю, кажа: «Натамілася, ні падняць рук».— «А дзе ж гэто ты натамілася?» — «У Стоўпцы ёзьдзіла, бычка здавала на базу». *Хал., Стаўб. р.*

ХОД БУДЗЕ н а ш т о. Гл. ЁСЦЬ ХОД н а к а г о, н а ш т о.

ХОДЗІЦЬ ЯК БУГАЙ. *Асудж., непав.* Пра здаровага мужчыну, які свядома доўга не жэніцца. У армію забралі, выўчыўся на алектрыка. Прышоў з арміі і зара во ходзя як бугай. Трыццаць гот, а ні жэніцца. *Ліцв., Карм. р.* Надумаўсё быў жаніцца, але ж забот ні абярэсься, то й цяпер ходзіць як бугай, гадоў ужо можа с сорак будзя. *Жац., Стаўб. р.*

ХОДЫРАМ ХАДЗІЦЬ. **1.** Дрыжаць, трэсціся. Гэдак ужо танцавалі, уся хата ходырам хадзіла. *Веч., Стаўб. р.* Ці помніш ты, як ён цябе шчыпаў? Аш печ ходырам хадзіла. То за валасэ адзін аднаго, то за нагу. Што ўжо за штукар быў! *Сав., Стаўб. р.* **2.** Шуміць, кружыцца (у галаве). Некая німагушчая стала, галава ходырам ходзіць, прыкархну трохі. *Сав., Стаўб. р.* З раніцы прыехаў сват

з Драздоў, выпілі трохі, а вот ціпер галава ходырам ходзіць. Ні магу зусім я піць, і чаркі ні можно. *Хал., Стаўб. р.*

ХОЦЬ БОБ МАЛАЦІ. Голая, пустая (дзялянка, участак зямлі). Заўтра каровы гнаць наша очарацъ, прышла паглядзець, ці ё трава ў вас тут, аж хоць боб малаці, німа травы, гола, калхознымі спасьвілі. Добра, шта пагля-дзела, а то бы прыгнала стада, а травы німа, гола, хоць боб малаці. *Ляўк., Арш. р.*

ХОЦЬ БЫ ШТО. Добра; не дакучае ш т о (холад і інш.). Свэтрык цёплы-цёплы, без яго ні тхну. Надзену спачатку гэты галубы, а тады той, што ты ў Мішкі купіў, і хаджу, мне хоць бы што, цёпло. *Сав., Стаўб. р.* Цяпер маім парасяткам у хляве хоць бы што. Як саломы навярну, пазашываюцца з галавою і палягуць. *Жац., Стаўб. р.*

ХОЦЬ ВАДЫ НАПІСЯ з к а г о. Вельмі прыгожы хто. Йдэ він (войт) до пана і кажэ: «Вы розбурвалы хозяйство паробка, прокыва (крапіва) була поросла, а там стоіть палац луччы, як у вас, а жоночына паробка красавіца, хоч ты зь яе воды напыса, така красавыца, шчо ў сьвіты нэма». *Айсям., Стол. р.*

ХОЦЬ ВОКА ВЫКАЛІ. Зусім нічога не відаць. Нек позно ўвосянь ехалі на вечарынку ў другоё сяло, а цёмно-цёмно, хоць воко выкалі, нічого ні відно. Заехалі ў канаву некую, чуць выбраліся. *Кунц., Кл. р.* Ехаў адзін чалавек па лесе. Тут і ноч яго застала. А ноч цёмная-цёмная, хоць воко выкалі ці на чорта сунься. *Ген., Навагр. р.* Я раз заблудзіў. Ліхо яго ведая, здаецца, й добро йшоў, але ноч была такая цёмная, хоць воко выкалі, вышаў я недзя аш пат Халаімаўшчыну. Давай трапаць дахаты па дарозі. *Гал., Стаўб. р.*

ХОЦЬ ГАЦЬ ГАЦІ. Вельмі многа. У нас грыбоў хоць гаць гаці, прыягджайця летам, і дзеткі вашы пагуляюць у нас. *Шаш., Стаўб. р.* А ягат! Усё чорно ў некаторых мясцох, хоць гаць гаці. *Пр., Стаўб. р.* Я як жыў у Сьвеpанаві, ото любіў з вудаю пасядзець. Рэчка ў нас там невялікая была, але ў мяне рыбы, хоць гаць гаці, было. Во, як табе кажу, платва лавілася, ляшчы пападаліся. *Сав., Стаўб. р.*

ХОЦЬ ГРАБЛЯМІ ГРАБІ. Вельмі многа. Нек зразу масьлякоў было поўна, хоць граблямі грабі, дак якрас Шурын дзень нараджэння спраўлялі, тры дні зьвялі. А ў другую суботу тожа ні выпала паехаць. Так і заста-

ліса без грыбоў. *Гр., Слуц. р.* Паўс той бок за гаем, на прагрэсаўском (полі калгаса «Прагрэс»), што там шап'ёнаў, як мы завом, на аўсянішчы! Хоць граблямі грабі. *Там жа.* Ты кааш, што грыбоў хоць граблямі грабі. А я ўчого ўвесь лес аблазіў — і ў Новінах і ў Белум Балоццы — нічого ні знайшоў. От, пападаюцца, пападаюцца, але каб много, то не. *Сав., Стаўб. р.* А ў лесі грыбоў, грыбоў! Мы па цэлай карзіні баравікоў набралі. Мясцамі лісіцы — то хоць граблямі грабі. *Шаш., Стаўб. р.*

ХОЦЬ ДА РАНЫ ПРЫКЛАДАЙ к а г о. Добры, ціхі, памяркоўны, спакойны. Ото гэты Вацік харошы, ён і курыцы ні пакрыўдзіць, хоць ты яго да раны прыкладай. Добро бацьком с такім сынам жыць. *Сав., Стаўб. р.* Прыдзя, сядзя ціхінько й сядзіць. Каб ён калі голас павысіў ці слова сказаў брыткае,— хоць да раны прыкладай. Вот гэто хлопяц. *Там жа.*

ХОЦЬ ЗАВАЛІСЯ. Многа, вельмі многа. Цяпер дубовых калодак ніхто не кладзе пад зруп, у нас каменьня хоць заваліся. *Бял., Лаг. р.* Тут у цібе дроў а дроў, хоць заваліся, а казаў, што ні хваціць на зіму. *Сав., Стаўб. р.* Работы цяпер у калхозі хоць заваліся, ведамо, лето. *Там жа.* Дзе ён іх падзеня, гэтыя яблыкі, у каждаго хоць заваліся. *Жац., Стаўб. р.* У нашум калхозі можно гадаваць кароў. Канюшыны хоць заваліся, сеяных траў много. *Гор., Стаўб. р.*

ХОЦЬ ЗА ВЕТРАМ ПУСКАЙ. Многа, вельмі многа (работы). Вясною работы хоць за ветрам пускай: агарот пасеяць, соткі пасадзіць, у калгас на работу трэба. Не ўсьпееш зрабіць адно — глядзі, другая работа паткоціць. *Апял., Пруж. р.*

ХОЦЬ ЗАЛІСЯ. Вельмі многа (чаго вадкага). Малачка цяпер хоць заліся. Усяко ест: і кісло, і салотко, сьмятаны трохлітровічак. *Сав., Стаўб. р.* Карова ацялілася, дагледжаная, харошая, малака дае, хоць заліся. *Гор., Стаўб. р.* Вечарам лавачнік прывёс віна, гарэлкі, напіткаў усякіх — пі, хоць заліся. *Там жа.*

ХОЦЬ ЗГРЭБЛАМ СКРАБІ. Вельмі многа, густа-густа (пра насякомых). Казалі, некалі злодзяй украў вала да завёў у лес, прывязаў да дрэва і пашоў сам. Авадне зьелі вала. Напалі злыя, дак заелі. Як далі! Як далі! Хоць зг'рэблам скрабі, было аваднёў, і зьелі. *Пр., Стаўб. р.*

ХОЦЬ ЗУБАМІ ГРЫЗІ (глажы). Вельмі цвёрды.

Было цёпла, і конь быў, дык не маглі ўзараць, а ціпер ўмёрзла, хоць зубамі глажы. *Н. Тур., Уш. р.* У гэтум годзі забавілася (запазнілася) я. Даўно трэба было трускаўкі апалоць, а то зарасьлі, хоць зубамі грызі. Усю весну дожджыку німа. *Сав., Стаўб. р.*

ХОЦЬ (касою) КАСІ што. Вельмі многа (пра грыбы). Пайшлі мы гэта ў грыбы, акрас пат Пакровы. І паверыце, гэтулькі грыбоў, ну хоць касі. Поўныя кашы набралі. *Кунц., Кл. р.* Бывало, колодэзі дэрэўяны булі, грыбоў поўны колодэсь наростэ, шчо хоть ты косою косі. *Саш., Бяроз. р.* Пашлі мы з Марусяю рас, падахвоціліся. У Вялікум лесі то ні вельмо, а як зашлі ў малады хвойнік, то як усыпано, хоць касою касі. Набралі адных маладзенячкіх, харошых. *Сав., Стаўб. р.*

ХОЦЬ КОЛ НА ГАЛАВЕ ЧАШЫ. *Незадав.* Што ні рабі, што ні гавары. Ты яму хоць кол на галаве чашы, ні прызна́яцца, ого, нізашто! Такая ўся іх парода. *Сав., Стаўб. р.* Ты ёй хоць кол на галаве чашы, а яна сваё робіць. *Мач., Бабр. р.* Такі ўжо ўрвінец, вісус! І ў каго ён удаўсё! Хоць кол на галаве чашы, а ён сваё права правіць. І як зь ім у школі ўчыцялі́ будуць спраўляцца. *Шаш., Стаўб. р.* Казала: «Ні хадзі ў рыбу»,— але ж яму хоць кала на галаве чашы, зроду ні паслухая. А цяперыча кволіцца нагамі. *Вяліч., Сал. р.* А цяпер што ўжо за дзеткі! Хоць ты ім кол на галаве чашы, дак яны сваё. *Гум., Кр. р.* Што мне зь ім рабіць, з гэтым хлопцам. Я яму і так і гэдак, а ён ні слухая, хоць ты яму кол на галаве чашы, усе нервы перапаліла зь ім. *Веч., Стаўб. р.*

ХОЦЬ КОСУ ЗАКЛАДАЙ. Вельмі многа. А грыбоў у гэтум годзя было хоць косу закладай. Хто ні спаў, той насушыў і намарынаваў. *Кав., Старадар. р.* Пашла на пуць назьбіраць трусікам канюшыны. Аж бачу: кабылкі растуць. А много-много! Хоць косу закладай. Назьбірала я цэлы прыпол і ледзьвя прынесла. *Веч., Стаўб. р.* На полі, озьдзе о, на гэтым папары, пячорак хоць касу закладай. *Сав., Стаўб. р.*

ХОЦЬ КУДЫ. Прыгожы, статны. Раней за багаства бралі замуш. І пашоў у прымакі. Быў такі красавец, мушчына хоць куда, а яна маленькая, на матку ні пахожая. *Зам., Брасл. р.* Дзеўчына такая поўная, высокая, хоць куды зрабілася, а яшчэ ўчоро, здаецца, была маленькая, у пясочку калупалася. *Сав., Стаўб. р.*

ХОЦЬ НА ВОЎКА ЛЕЗЬ. Цемень, вельмі цёмна.

Але ж ноч сёньня! Нічагусенька не відно, хоць на воўка лесь. *Міл., Маст. р.* Ну й цямнэча сягоньня, хоць на воўка лесь. *Востр., Зельв. р.*

ХОЦЬ НАЖОМ РЭЖ. Вельмі густы, загусцелы. Мусіць, варэнё пераварыла, некаё ніўдалаё вышло, пастаяло; то хоць нажом рэш. *Жац., Стаўб. р.* Ты у кісель много крухмалу ўсыпала, бо вельмі густы, хоць нажом рэш. *Сав., Стаўб. р.*

ХОЦЬ НА САБАКУ ВЫЛІ (злі). *Незадав.* Зусім нясмачны (пра вадкую страву). Сягонячы наварыла капусты — хоць на сабаку вылі. *Вост., Зельв. р.* Мне пасылачку з Польшчы прыслалі, супу, боршчыку наслалі. Сягоньні гарохавы (суп) варыла, то смашны, а памідаровы — хоць на сабаку зьлі. Нісмашны-нісмашны. *Сав., Стаўб. р.*

ХОЦЬКІ НЯХОЦЬКІ. Воляй-няволяй, вымушана, хочаш не хочаш. Тады гляджу, як патпілі мы трошкі, дак яна таўхіль бацьку пад бок. Бацька, брат яшчэ літар на стол. Ну дак куды ж ужо тут дамоўісьці, хоцькі няхоцькі астацца мусілі. *Дайг., Віл. р.* Школа далёка ад нас была, і толькі па-польску вучылі. Калі настаў восьмы гот, хоцькі няхоцькі прышлося йсьці ў польскую школу. *Задуб., Мядз. р.*

ХОЦЬ ПЛАЧ. Выяўленне адчаю, бездапаможнасці, немагчымасці зрабіць што, каб выйсці з цяжкага становішча. У некаторых зямлі было па актар дванасьце, перамерай жа ты жменькаю ўсё. Да рукі баляць, нажменіш, хоць плач. Прыдзя ноч, ні ведаяш, дзе палажыць. *Пр., Стаўб. р.* Пуд'іхала мэтрув тыста тым конем, а посля знатурывса той кынь, ны хочэ йты хоть плач. *Сім., Драгіч. р.* Хачу сала хоць плач. *Сав., Стаўб. р.* Ну як ужо ў сянёх стаю — нічога. Як толькі ў хату выйду — адразу кроў з наса́ й ліецца. Німа як маладой сесьці за стол, хоць плач, хоць ты гвалт крычы. *Залаз., Віл. р.*

ХОЦЬ ПУЗА РАСПЕРАЖЫ. Гл. ХОЦЬ ПУП (пуза) РАСПЕРАЖЫ.

ХОЦЬ ПУП (пуза) РАСПЕРАЖЫ. Колькі хочаш і чаго хочаш. Усяго было на сталах, еш, хоць пуп расьпеоражы. *Кав., Старадар. р.* Вунь паглядзі, што ў кладоўцы робіцца. Што хочаш выбірай, еш хоць пуп расьпеоражы. *Ас., Стаўб. р.* Наставілі ўсяго на стол. Чаго там ні было?! Еш хоць пуп расьпеоражы. Во гэто я панімаю! *Гор., Стаўб. р.* Падыходзіць вялігʹдзень, значыць, сем нядзель трэба было пасьціць. Няможна было есьці сала, малака,

масла, а елі толькі сыраватку, селядзец, квас з грыбоў. Ну, а як прыдзя ўжо вяліг'дзень, тады еш хоць пуза расьперажы. *Юнц., Віл. р.*

ХОЦЬ ВАЎКОЎ ГАНЯЙ. Вельмі холадна (у памяшканні). Трэба будзя вечарам у стаяку прапаліць, а то хату выветрая за ноч, раніцаю хоць ваўкоў ганяй, уседзяць ні можно. *Хал., Стаўб. р.* Спаліла два бярэм'і дроў, а ў хаце ўсі роўно хоць ваўкоў ганяй. *Вяліч., Сал. р.* У той і Галоўніхі жыцё, то хай яно на пусты лес. У хаці хоць ты ваўкоў ганяй. *Сав., Стаўб. р.*

ХОЦЬ РЭПУ СЕЙ. Вельмі бруднае што (ногі, шыя). Марынка прышла с поплава — а брудная, а растрэпаная, ногі тыя хоць рэпу сей — і адразу за стол есьці. *Сав., Стаўб. р.* Я табе дам цёплінькай вадзічкі, памыйся, унучак, а то брудны ўвесь, ногі вунь хоць рэпу сей. *Там жа.* Скідай рубашку, ідзі пат студню памыйся хоць трохі, у цібе ш шыя хоць рэпу сей. *Гор., Стаўб. р.*

ХОЦЬ СТОЙ ХОЦЬ ПАДАЙ. Трапна, дасціпна. Максім наш вельмі смешны чалавек, як шчо-нібуць скажэ, то скажэ. Як сказане, то хоч стой хоч падай. Як выдзе на гуліцу, то кала дома яго заўшэ поўно народу: і старых і малых. Рогат на ўсю гуліцу. *Мур., Пруж. р.*

ХОЦЬ СЯКЕРАЮ СЯЧЫ. Вельмі густы, загусцелы (прадукт); цвёрды, што костка. Неко варэнё яшчэ ест. Даўнейшаё, хоць сякераю сячы. Яшчэ Дуся некалі давала. Трэба нек кончыць, даесьці. *Сав., Стаўб. р.* Хлеп даўно ні купляла, ляжала цэлы тыдзянь хворая. Бяры там у шкафчыку даўнейшы, чэрствы, хоць сякераю сячы. Але лепшаго німа. Паясі, то паедзяш купіш пару буханак. *Там жа.*

ХОЦЬ ТАПАРЫШЧА ВЕШАЙ. Гл. ХОЦЬ ТАПОР (тапарышча) ВЕШАЙ.

ХОЦЬ ТАПОР (тапарышча) ВЕШАЙ. Няма чым дыхаць, накурана. Заходжу ў кантору, а людзей много, хто сядзіць, хто стаіць, яго (старшыні) яшчэ німа, а накурано, хоць тапор вешай. *Жац., Стаўб. р.* Можно вынясьці крэсло й на дварэ пасядзець, бо ў хаці дыму, хоць тапарышчо вешай. *Гор., Стаўб. р.*

ХОЦЬ ТРАВА НЕ РАСЦІ. Выражэнне поўнай абыякавасці да чаго. Папрасіла Юзафа япрука закалоць. Але не прышоў, маці не пусьціла. Па ёй хоць трава не расьці, як там тая цётка жыве. *Жац., Стаўб. р.* Бач, як разумно прыродай вызначано. Кожная істота ведая свой час. Гля-

дзі, зязюлька сьпявая толькі да Пятра, а там хоць трава ні расьці. *Сав., Стаўб. р.* А па дзяцьку хоць трава ні расьці. Вы тут і ў сватэ лацьцяся, і пеця, і гуляйця, а ён зьехаў за сорак пяць кілометраў гарэлку піць. Што за харакцяр у таго дзяцька! *Там жа.*

ХОЦЬ ТЫ КАНАЙ. У што б там ні было, абавязкова, няглядзячы ні на што (рабіць і інш.). Хадзіла я пераведаць старога ў бальніцу, дак і ўнучка ўчапілася, хоць ты канай: «Пайду й пайду с табою». Мусіла браць. *Марх., Стаўб. р.* Хоць ты канай, ні зробіць. Прашу, малю — ні паслухая. Што мне зь ёю рабіць? *Ас., Стаўб. р.* Колькі рас прасіла дзяцьку: «Прынясі ты мне касу (хацела апкасіць траву кала платоў)». Ні прынёс, усё часу яму німа, а тут трэба, хоць ты канай, казалі, штраф дадуць за крапіву. *Хал., Стаўб. р.*

ХОЦЬ У ВІР ГАЛАВОЮ. *Безвых.* Выражэнне адчаю, бездапаможнасці. А як Лявон мой сватаўся, тожа дзялоў было. Сасваталіся, згаварыліся бізь мяне, а мне хоць у вір галавой. *Гран., Маладз. р.* Дажылася баба адна, хоць у вір галавою. А такая сям'я была. *Ас., Стаўб. р.*

ХОЦЬ У СЦЕНУ (у сценку) ПУЛЯЙ ш т о. *Незадав.* Вельмі цвёрды, засохлы (хлеб, булка, праснак). Добро, што прывезла хлеба сьвежаго, а то мой чорствы, хоць у сьценку пуляй. *Сав., Стаўб. р.* Купіла ранічкаю дзьве буханкі хлеба, дак такі некі нісмашны, цьвёрды, хоць у сьценку пуляй. *Там жа.* Пад вяселё Сьцяпаніха напякла булак. Прынесла мне папробаваць тое булкі. Да я яе ні зьела адразу, трохі паляжала, дак хоць у сьценку пуляй, але смашная. *Там жа.*

ХТО КУДЫ. КУДЫ ХТО. У розныя бакі (уцякаць, бегчы, ісці і інш.). Ня ўсьпелі мы зьняцца, як фашысцкі самалёт налятая на нашу граду, дзе мы сядзім у леся, і давай страчыць с пулямёта. Мы сюды, мы туды, куды хто! *Сіц., Пух. р.* А самолёты як налетять, этые немецкіе, да ек навешають некіх хвонароў, да по том лесі, хоч ты голкы зьбірай. А мы хто куды! *Цер., Пін. р.* А патом як сталі з арудзій біць немцы да па гэтом месту, дзе мы сядзім. Куды хто рассыпаліса. *Гр., Слуц. р.* Дзяцей хоць і много, а ўсе пагадующа, усе вырастуць і разьлятуцца цяперашнім сьветам хто куды, распыхнуцца, як тая пчала на любы цьвет. *Сав., Стаўб. р.* Станя разьвідняцца, едзям дадому з начлегу, а тады ўжо дзяўчата ідуць хто куды: хто ў заработкі, хто дома што робіць. *Тар., Кар. р.*

ХТО ЯГО ВЕДАЕ. Выражэнне няпэўнасці, няўпэўненасці; невядома, цяжка сказаць. Хто яго ведая, сынок, паець паглядзі. Калі добраё (паліто), то купі, зіма йдзе, халадэ. *Мач., Бабр. р.* Учоро надумалася ў грыбэ пайсці. Устала ранінько, але ні пашла, хто яго ведая, от, сыро, мокро, а ў міне зуп шчыміць. *Гор., Стаўб. р.* Можа, й тут тую капусту пасадзіць добро было п, хто яго ведая. Гною то давала добро. *Хал., Стаўб. р.*

## Ц

ЦАЛАВАЦЬ РУКІ І НОГІ каму. Быць вельмі ўдзячным, адчуваць вялікую ласку да каго. Я насыпала мех жыта, дзьве вялікія булкі хлеба дала, панцаку, то Палюся цалавала рукі й ногі. Вельмі ж у той год была вялікая галадоўка. Ото людзі галелі. *Ант., Навагр. р.* Каб яна была добрая да мяне, я б ёй (нявестцы) нічого ні шкадавала п, усё аддала п, рукі й ногі цалавала п. *Сав., Стаўб. р.* За гэтую ласку табе трэба каб рукі й ногі цалавалі, а яны, бачыш, ні здароўкаюцца нават. *Ас., Стаўб. р.*

ЦЕЛАМ (жыватом) ГОЛЫМ СВЯЦІЦЬ. Гл. СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМ ЖЫВАТОМ (целам).

ЦЕНЬ НАВОДЗІЦЬ на каго. Нагаворваць, абвінавачваць каго. «Я чула на вушы свае, як яны пасварыліся за некія грошы, як ён яе назвоў манцапэлай».— «І ён дурань, што зьвязваяцца з бабай. Каб разумны, сказаў бы, што ты на мяне цень наводзіш? Якія грошы?» *Бял., Лаг. р.*

ЦЕРАЗ ПАРОГ НЕ ПЕРАСТУПІЦЬ. Гл. ПРАЗ (цераз) ПАРОГ НЕ ПЕРАСТУПІЦЬ.

ЦЁКАМ ЦЯЧЫ. Моцна цячы. Як дош толькі йдзець, так сені цёкам цякуць, няма дзе схавацца. *Ульян., Сен. р.*

ЦЁМНЫ ШЛЮБ. Вянчанне маладых пры слабым асвятленні. Як малады добра заплаціць, дык запаліваяць многа сьвечак. Калі ш малады мала плаціць, ксёнц запаліваіць дзьве сьвечкі й вянчаіць. Гэта цёмны шлюп. *Пал., Мядз. р.* Жылі мы бенна, сьвечак ні было за што купіць, а бацюшка многа браў за вянец, дак вянчалі нас у цэркві цёмным шлюбам. *Там жа.*

ЦЬМА ЦЬМУШЧАЯ. Мноства, вельмі многа, безліч. Вечарам па тратувары пахадзілі (у Мінску). Што там люццаў! Сьвет цэлы! І белых, і чорных, і пекных, і ня-

пекных іх там цьма цьмушчая. *Язн., Віл. р.* «Можа, сваіх каго бачыла?» «Дзе ты там убачыш, калі іх (людзей) тамка цьма цьмушчая, мора цэльнае. *Там жа.*

ЦЯГНУЦЦА НА НІТКУ. Старацца з апошніх сіл. Мне, кажа, кап паступіць, тады б я цягнулася на нітку. Яна гэдака старанна, гэдака працавіта, яна б добро вучылася, была б добрай студэнткай. *Воз., Кар. р.*

ЦЯГНУЦЬ ВОЛАКАМ. Ледзь перастаўляць (ногі). Шурык у арміі ня быў, яму ільгота. Ідзе як паломак, а-я-ёй, як ён ідзе, нагу цягніць волыкам. *Ліцв., Карм. р.*

ЦЯГНУЦЬ ГІЗУНТЫ з к а г о. Гл. ЦЯГНУЦЬ ЖЫЛЫ (г′ізунты) з к а г о. ВЫЦЯГВАЦЬ ЖЫЛЫ з к а г о.

ЦЯГНУЦЬ ЖЫЛЫ (г′ізунты) з к а г о. ВЫЦЯГВАЦЬ ЖЫЛЫ з к а г о. *Неадабр., незадав.* Вымагаць, жыць за кошт іншых, аднімаць здароўе. Хваціць цягнуць бацькавы г′ізунты (з ням. gesund — *здаровы,* Gesundheit — *здароўе),* той і так ужэ ў землю пазірае. *Вяліч., Сал. р.* Гэтыя дрова мне цягнуць жылы: і прынясі, і накалі, а сырыя, гараць кепско, дыму заўсюды поўна хата, ведамо, сырызна, алешнік. *Жац., Стаўб. р.* Што ты мучыш яе, нігоднік, выцягваяш зь яе жылы. Бачыш, як яна, старая, памагая табе адзецца, абуцца, а ты зьдзекуясься зь яе (маці). *Гор., Стаўб. р.* Зельё, сьвірэпу гэтую лупіш цэлы дзень, жылы мае яна выцягня. Трэба ш каровя даць, як прыдзя с поля, бо галодная. *Сав., Стаўб. р.*

ЦЯГНУЦЬ (пацягнуць) ЗА ЯЗЫК к а г о. *Асудж.* Змушаць расказаць што, прымусіць выказацца. Аднойчы йшлі мы прас каноплі дахаты і ні знали, што наш разгавор патслухваюць ухажоры. Усе дзеўкі расказваюць пра свае любосьці, ну й мяне нячысьцікі за язык пацягнулі расказаць пра Данілата. *Пуз., Мядз. р.* Вот дурань, хто цябе цягнуў за язык, лепш бы памаўчаў. *Гал., Стаўб. р.* Чорт пацягнуў цябе за язык! Чаго ты лес, куды цібе ні просяць. *Там жа.* Але німа, кап сам усё расказаў, не, цягні яго за язык, то пад настрой можа калі і выцягняш што. *Кунц., Кл. р.*

ЦЯГНУЦЬ ПА СЛОВУ Ў МІНУТУ а д к а г о. Павольна, аднастайна распытваць, выпытваць каго пра што. Настаўнікі былі строгія, не такія, як цяпер, што цягнуць у вучня па слову ў мінуту, а яно (дзіця), як тоё цялё, не сьпяшаецца с адказам. *Бл., Пух. р.* Ото сугней: сядзіць і кап слово сказаў. Калі хочаш што ад яго дабіц-

ца, трэба цягнуць па слову ў мінуту, а так ні скажа. *Ас., Стаўб. р.*

ЦЯГНУЦЬ У СВОЙ БОК. Дзейнічаць на сваю карысць. Яе ты ні падвядзеш: я ёй адно, а яна другоё, я ёй так, а яна гэдак, цягня ў свой бок. *Гор., Стаўб. р.* Што ні кажы, усё роўно ў свой бок цягня, вывучылі яе гэдак дома. *Сав., Стаўб. р.*

ЦЯЖКІ ХЛЕБ. Цяжкая фізічная праца, праца, якая патрабуе вялікіх намаганняў. Пахадзіў у кузьню — не падабаецца, цяшкі хлеп. Пачаў шукаць лёхкага хлеба. А каму та трэба й цяшкі хлеп. Ён-то ляпуецца. Дзе такому толк. *Міл., Маст. р.*

ЦЯЛЯ СКІНУЦЬ. Абарціравацца, да пары неданасіўшы (пра карову). У прошлум годзі нам нешта ні шанцавало. Карова цяля скінула, дак пасьці (амаль) цэлы гот хварэла, малака мала давала. *Мул., Дзятл. р.*

## Ч

ЧАГО ДУША ПРЫМАЕ (хоча, жалае). **1.** З'есці, пад'есці таго, што падабаецца, што хочаш. А чаму ня жыць так: зьеў, чаго душа прымае, выпіў, да нямнога. Здароўя біражы. *Ліцв., Карм. р.* А цяпер ні зраўняць с той жызьню. У хату зойдзяш — душа радуяцца, дастатак, ямо чаго душа хоча. *Сен., Навагр. р.* А чаму ж ня жыць? Ён пеньсію добру палуча да яна дванаццаць рублёў, абоя моцныя, на работу ходзяць, заробяць. Карова, сала, качкі — есьці, чаго душа прыма. *Гр., Слуц. р.* Станкевічава (дзяўчына) ўладкаваласа ка́сярам (касірам), і ён робіць там. Дак і хату выстраілі, і калодзясь на дварэ, цялявізар паставілі, сат свой. Жывуць. Чаго душа прымая, ядзяць. *Там жа.* Маладыя жывуць ні гэдак, як мы. Грошы заробяць, сходзіць у магазін, набярэ сумку хлеба, якога хоча, віна, масла — чаго душа прымая — і ядуць. *Пр., Стаўб. р.* **2.** Вельмі многа, вялікі выбар, асартымент (тавараў і інш.). Маладзяжу цяпер добра жывецца. Школы блізінька, радзіва грая, у магазінах — чаго душа прымая. *Пр., Стаўб. р.* Жывецца добро. Мёт ест, яблыкі ест, памідоры, гуркі — усё, чаго душа прымая, ест. А што больш трэба чалавеку? Абы спокуй (мір) на сьвеці. *Сав., Стаўб. р.* Війт (войт) розвальвае мэшка, достае сала, мйаса, іст (есць). А гэтой

(гэты) выняў платочка (насавую хустачку), розослаў — шчо душа жэлае: і выпыты, і закусыты. *Аўсям., Стол. р.* Панавозілі (дочкі) ўсяго. У мяне цяпер і грыпкі, і яблычкі сьвежыя, ягат, вінаграду, гуркоў, селяццоў, рыбы некае сухое — усяго, чаго душа прымая. Кап толькі жылоса да еласа. *Гр., Слуц. р.*

ЧАКАМ ЧАКАЦЬ. З нецярпеннем, моцна чакаць каго. Да сьвякроў нявехны жадам жадала, чакам чакала. *Сал., Нясв. р.*

ЧАКАЦЬ ДОЎБНІ. Чакаць смерці. Потым вечарам прыганяюць нас (вязьняў) і заганяюць у які-та (ля лесу барак быў і фабрыка. Вінно, там тожа рускія працавалі), заганяюць нас у гэты барак, замакаюць нас. Ну мы сядзім і чакаім доўбні, што вот нам тут гібіль — спалюць. *Ухв., Кр. р.*

ЧАКАЦЬ З МОРА ПАГОДЫ. Спадзявацца, разлічваць на што, застаючыся пасіўным; безнадзейна чакаць. Што гэтыя сыны? Чакай з мора пагоды, ніякае помачы не будзе, гэта не дочкі. *Кунц., Кл. р.* Як цёплыя дзянькі сталі, думаю: «Німа чаго чакаць з мора пагоды». Сабрала я вузялок, папрасіла двух памагатых і пашла торф капаць. Німа ж на каго спадзявацца, жыву адной галавой. *Рак., Вал. р.* Давайця, дзеткі, унясём саломку ў гумно. Хто яго ведая, калі бацько наш прыедзя, чакай з мора пагоды, а ўночы, можа, пойдзя дошч, залье. *Сав., Стаўб. р.*

ЧАЛАВЕКАМ БЫЦЬ. Быць вартым годнасці чалавека. Маці цябе вывучыла ні для тога, кап ты валяўсё пат плотам, а кап чалавекам быў, як усе. А ты зьнюхаўсё з гэтай кампаніяй, да дабра гэто ні давядзе. *Гор., Стаўб. р.* Унучка такая надаядная. Як была тут, трохі біла яе, лупіла бесперастанку, дык яшчэ чалавекам была, а гэта глядзець не хочацца. *Бял., Лаг. р.*

ЧАПЛЯЦЦА ЯК СМАЛА д а  к а г о. Гл. ЛЕЗЦІ (чапляцца) ЯК СМАЛА д а  к а г о.

ЧАПЛЯЦЬ НАГА (нагу) ЗА НАГУ. Ісці вельмі павольна, марудна. Сама схадзіла б у тыя Гарбуны, але іду паволі, нага за нагу чапляю, лепей ты пабяжы. *Ст. Св., Стаўб. р.* Чапляяш нагу за нагу, паварушыся трохі, а то можам спазьніцца. *Жац., Стаўб. р.* Ідзе, чапляя нага за нагу, а тут жа трэба скарэй, бо спозьнімся на аўтобус. *Сав., Стаўб. р.*

ЧОРНАЙ НЯЎДЗЯЧНАСЦЮ ЗАПЛАЦІЦЬ з а

ш т о. Гл. ЗАПЛАЦІЦЬ ЧОРНАЙ НЯЎДЗЯЧНАСЦЮ з а ш т о.

ЧОРНАЯ ЧАСІНА. Бяда, скруха ў жыцці, цяжкі перыяд. «Як гэта жыць, каб граша ні мець за душою? А ці здароўя падвядзе, ці так якая чорная часіна, кап капейкі ні было»,— як стану сварыцца на яго. *Пр., Стаўб. р.* Чорная часіна ціпер на мяне прышла. Німа да каго абазвацца, жыві адзін у гэтых вуглах. А дзе ты дзенясься, жыўцом у землю ні палезяш. *Сав., Стаўб. р.*

ЧОРНЫ ДЗЕНЬ. Цяжкі перыяд у жыцці каго. Ня стрымалася і кажу: «Прыйдзя й на цябе чорны дзень, пачакай». І праўда. Прышоў і на яго чорны дзень, пазнаў гора. *Сав., Стаўб. р.* Кажу на Стасю: «Табе й самой грошы трэба, ні пасьцелі, нічога німа, а ты ўсё на дачку прэш. А прыдзя чорны дзень які, будзяш бес капейкі сядзець». *Там жа.* У гэтай жэншчыны муш з туберкулёзу памёр. На мужыка толькі забылася, на́ табе — маліц памёр, ат стаўбняку памёр. Да́ такі маліц здаровы, панятлівы, добра вучыўся. Матка с ума тронуўшы, чорны дзе́нь для маткі. *Ульян., Сен. р.*

ЧОРНЫМ ХОДАМ. ПРАЗ ЧОРНЫ ХОД. З ЧОРНАГА ХОДУ. Набыць (збыць) што незаконным спосабам. Паехаў у Стаўпцы ў магазін паліто купляць. Аблазіў магазіны — німа нідзе. Але потым сустрэў знаёмую прадаўшчыцу, узяў. Чорным ходам купіў, а так ні возьмяш. *Гор., Стаўб. р.* Прадай ты мне гэто радзіво, ты сабе ў Мінску прас чорны ход дастаняш. *Сав., Стаўб. р.* Прыдзі ў лаўку — ці купіш? Німа. Німа і ўсё. А хто ш чорнаго ходу зойдзя, то, нябось, знойдзяцца. *Жац., Стаўб. р.* Нядаўно вазілі сьвіня прадаваць на бойню. Ні прымаюць. Мы й так, мы й гэдак — ні бяруць. А калі добро падыйдзяш, то ш чорнаго ходу возьмуць і яшчэ добро заплацяць. *Сав., Стаўб. р.*

ЧОРТ (кадук, немач, халера) НЕ БЯРЭ к а г о. *Недобразыч.* Нічога не шкодзіць каму, не здараецца з кім. Сала аш пат самае вечка наклала, і ўсё выбралі (зладзеі). Абабралі, абакралі і яшчэ кажуць: «Чорт яе ні бярэ!» А чаго мяне кап чорт браў, зайздросьнікі вы. Хочаце благога каму, хай вам благое станя! *Пр., Стаўб. р.* А другому брату як пэльнулі — бараду адбілі, але ўцёк на Польшчу. Казалі, от гэдак о бараду адбілі, язык відаць. Але ў Польшчы прыставілі, казалі, цяпер ужо барада ест. Халера яго не бярэ. *Там жа.* Я была

лёхкая. І ў школі работала, і магазін калавурыла (вартавала), і ў калхос — і чорт міне ні браў, ніякая халера. *Ульян., Сен. р.* Немач яе ні бярэ! І сама зарабляя добра, і матка на кароўніку зарабляя, грошы на дачку прэ. Такія грошы бярэ, а ўсё на дачку прэ. *Сав., Стаўб. р.* Кадук яго, гэтага праныру, ні бярэ. Жыве й добро жыве, хай ні грашыць богу. Даўней і ні сьніў гэдак зьесьці, як ціпер есьць. *Там жа.*

ЧОРТ НОСІЦЬ к а г о. ЧЭРЦІ НОСЯЦЬ к а г о. *Незадав.* Злавацца, нервавацца, не ў гуморы (быць). Чаго цябе сягоньні чэрці носяць цэлую раніцу? Словам ні абазвацца. *Сав., Стаўб. р.* Чорт носіць Вольку. Такая халерная зрабілася, лаяцца ўсяляк, крычыць. А ці ж я ў чым вінаватая, што ў яе там дома ні ладзіцца. *Жац., Стаўб. р.*

ЧОРТ НЯСЕ (прынёс) к а г о. *Незадав.* Хто прыдзе, з'явіцца не ў пару, недарэчы, не тады, калі трэба. Выказванне незадавальнення з прычыны прыходу нязванага чалавека, непажаданага наведвальніка. Ня выспалаоса. Прышоў Слаўка позна, узбудзіў Колю ж Жэням, сталі гаманіць утрох. Я ляжала-ляжала, адаля кажу: «Чо цябе чорт прынёс? Заўтра пагамоніце». *Гр., Слуц. р.* Я ўстала (да й баюса), падышла пад акно, схаваласа за сьцяну і гляджу на двор. Нехта ходзіць. Я сабе думаю: «Каго гэта чорт нясе ў эту пору?» А тады пазнала цябе. *Там жа.* Вунь ужо Фэльціка чорт нясе, і пагаварыць с табою ні дадуць. *Сав., Стаўб. р.*

ЧОРТ УССЕЎ н а к а г о. Нервавацца, раптоўна праявіць раздражненне, выявіць злосць. О та́я баба няўрэдная, а ета — зьмяя. Учора распытывалася, сама інцерасувалася, а сёньня чорт усьсеў на яе, верадуе (злуецца), гаварыць не хоча. *Ліцв., Карм. р.* Пыка муж жыў быў, іна мяне слухала. Тыкая дзевычка была слухмянная. А як ён памёр, усянно, як чэрці, на яе ўсьселі. Перастала слухацца. *Ліцв., Карм. р.*

ЧОРТУ ЛЫСАМУ. *Недобразыч.* Некаму, невядома каму. Грошы гэтыя зьбіралі, капілі, нічога люцкага ня зьелі, ішачылі, што конь, цэлы век, а есьці — кубачак малака, кусочак хлеба. Наскладалі тысячы чорту лысаму, нехта будзя пользавацца і «дзякуй» ні скажа. *Бял., Лаг. р.* Чорту лысаму аддам! Сам закалю, то скварка будзя. *Сав., Стаўб. р.* Нясу ж настаўніцы новась (навіну) адну, хоць, праўды, і няважная новась, хай яны чарту лысаму

новасьці такія. Казік жа ўчора сваю так пабіў, што меліся нават помач скорую вызаваць. *Язн., Віл. р.*

ЧОРТ ВЕДАЕ ШТО. Нешта неверагоднае, што цяжка сабе ўявіць, што выклікае пачуццё здзіўлення, абурэння, злосці. Чорт ведае што, ні хачу адзівацца. У мяне ж ёсь, пашыла тры куртачкі новінькія, спаньніца ёсь новая. *Ульян., Сен. р.* Чорт ведая што робіцца ў гэтай хаці. Параскідано ўсё, паразматлошвано, забруджано. *Сав., Стаўб. р.*

ЧУЖЫМІ РУКАМІ. Не самастойна, выкарыстоўваючы працу, намаганні, энергію каго (рабіць што). У маёй бульбы травы, травы. Што ні кажыця, чужымі рукамі так ні зьдзеліш, як сам. Есьлі ж ба, як узойдзіць бульба, да пъскърадзіў раз-другій, да траву етую павыцягнуў, іна ж ба так ні ръсла. А етыга ш чужымі рукамі ня зьдзелыіш. *Ляўк., Арш. р.*

ЧУЖЫМ ТРУДОМ ЖЫЦЬ. Гл. ЖЫЦЬ ЧУЖЫМ ТРУДОМ.

ЧУР ЧУРОЎ. Ні ў якім выпадку, ні за якія грошы, нізашто. Скажу табе, дзетычка мыя. Чур чуроў пускаць болій чужых, болій ні пушчу. *Ліцв., Карм. р.*

ЧУХАЦЬ ПАТЫЛІЦУ. Быць азадачаным чым, турбавацца. Я ш табе казала: «Давай паедзям у Мір, купім парку парасятак». Тады былі дзяшовыя. А ты ўсё за работаю сьвету ні бачыш. А Грынючыха ўчоро ў Стоўпцах была, то казала: «За парку сто рублёў просяць». Ні дакупісься. Вот і чухай ціпер патыліцу, што рабіць? Картофлі ж асталосё много. *Сав., Стаўб. р.* Ціпер дзяцько патыліцу чухай, як вяселё справіць. Маладыя ціпер ні думаюць доўго, панаравілася — і жаніўся. А ты, бацько, чухай патыліцу, выкручвайся, каб людзі ні сьмяяліся. *Гор., Стаўб. р.*

ЧУЦЬ СВЕТ. Вельмі рана, на золку. І што гэта за чалавек? Да поўначы ў яе акне сьвет гарыць, а чуць сьвет — яна на нагах. *Кав., Старадар. р.* Устала чуць сьвет і ўсё кала печы кушмэрусё. То навары, то замяшай — вот і дванаццаць (гадзін) скоро. *Сав., Стаўб. р.* Маруся ўстае чуць сьвет. Я яшчэ ў лошку, а яна ўжо даўно на нагах. Гаспадарка вялікая: сьвіням даць, курэй цэлу плойму накарміць, а мужа выправіць на работу, а дзевачку ў школу. Хватая й ёй бапскай работы. *Там жа.*

ЧЭРЦІ НА КУЛАЧКІ НЕ БІЛІСЯ. Гл. ЧЭРЦІ НА КУЛАЧКІ НЕ БРАЛІСЯ.

ЧЭРЦІ НА КУЛАЧКІ НЕ БРАЛІСЯ (не біліся). Вельмі рана. Устаняш ашчэ чэрці на кулачкі ні бяруцца, у такую рань есьці ні хочацца, пойдзяш у заработкі, а там за стол садзяць. Што та за яда ў такую рань, але ж ясі. *Гр., Слуц. р.* Сёньня ашчэ чэрці на кулачкі ня біліся устала. А тады памірг'увалася, што рана, і заснула. *Ульян., Сен. р.*

ЧЭРЦІ НОСЯЦЬ к а г о, д з е. *Незадав.* **1.** Недарэчы, не ў пару, невядома дзе (хто ходзіць, носіцца і інш.). Дзе гэто нашаго Стасіка цалюські дзень чэрці носяць, вячэраць трэба, а яго німа. *Гал., Стаўб. р.* Як пашла на рэчку мыць, то й прапала. Дзе яе чэрці носяць цэлы божы дзень? *Сав., Стаўб. р.* **2.** Рухавы хто, усюды паспее, даскочыць. А Парамона ў нас празвалі Юрок. Дужа ўжо юркій быў, нідзе, бывала, не апаздаіць, быта яго чэрці носяць. *Грыш., Рас. р.* Вот Казік і мінуткі ні пасядзіць ціхо. То туды, то сюды, усё роўно як чэрці яго носяць. *Сав., Стаўб. р.*

ЧЭРЦІ СТАНОВЯЦЦА к а м у. Гл. ТАРАПАЧЫ (чэрці) СТАНОВЯЦЦА к а м у.

## Ш

ШАПКІ НЕ ЗДЫМАЦЬ п е р а д к і м. *Ганар., пав.* Быць незалежным, самастойным, не ўгоднічаць, не падхалімнічаць перад кім. Расія благародная, залатая, прызыўная! Яна нікому шапкі не здоймецъ: у яе й нафта, у яе золата, у яе руда, у яе серабро, заводы, фабрыкі, што ты хочаш! *Мік., Мядз. р.* А што хлопцы. Хлопцы пажаніліся, пане мой, сем'і маюць, робяць, шапкі ні перат кім ні здымаюць. *Сав., Стаўб. р.* Ён і за Польшчаю хадзіў у панох, абы с кім ні вадзіўсё. І ціпер абы перат кім шапкі ні здымя. *Жац., Стаўб. р.*

ШАРАЯ ГАДЗІНА. Прыцемкам, вячэрні час, змяркание. Прышла я раз да Юзіка пасядзець шараю гадзінаю, і згаварыліся тады паехаць у Стоўпцы. *Сав., Стаўб. р.* Некалі хадзілі на шарую гадзіну пасядзець да суседа. Рабіць вельмо ні было чаго, а г'азы шкадавалі, много ні палілі. І на печ добро залесьці шараю гадзінаю. *Там жа.*

ШАПКУ ЗНЯЦЬ п е р а д к і м. *Пагардл., зняваж.*

Уніжацца, падхалімнічаць перад кім, пяткі лізаць каму. І яшчэ муш такі быў жмінда. У яго золата ў патпечку было, а як памерла Аньця, ён яе ні пахаваў як людзі. Дошчак-дошчак настоляно, а ён пашоў да немцаў, шапку зьняў, клянчыў тых дошчак. Да тыя далі аполак, зрабіў з аполак гроп, пясок сыпаўсё. *Сав., Стаўб. р.* Да не, мама, ні пайду я да іх прасіцца. Прыдзі, шапку зьнімі перад гэтым дураком. Яшчэ што! *Там жа.*

ШАРЫКІ ЗА ШАРЫКІ ЗАЙШЛІ ў каго. Губляць здольнасць разумна развважаць, дзейнічаць. А ці ня здурнеў ён? Што — у яго шарыкі за шарыкі зайшлі, што ён з Ульянавіч у Рўдніцу хату піравёс? У яго садзьба (усадзьба — сядзіба) такая харошая ў Ульянавічах. *Ульян., Сен. р.*

ШАРЫЦЬ ВАЧЫМА. Шукаць, прыглядацца да чаго. Пусьцілі сабачку ў хату, то німа, кап пасядзеў пат сталом — бегае па хаці, шарыць вачыма ўсюды. *Гор., Стаўб. р.* Убяжыць у хату (Зінка) і шарыць вачыма: у вас тоё, у вас гэто. Якая цікавая расьце. *Сав., Стаўб. р.*

ШКОДЫ НАРАБІЦЬ каму. Гл. НАРАБІЦЬ ШКОДЫ каму.

ШКУРА ГАРЫЦЬ на кім. *Асудж., дакор.* Ад збытку сілы, энергіі дурэе, перашкаджае дарослым, свавольнічае хто. Каб яно пасядзела спакойна ці пагуляла, а то шкура гарыць на ім, так і шворыць усюды. Вот памоўзьлівае дзіця расьце. *Веч., Стаўб. р.* Вот ні ўседзіць, шкура гарыць на ім. Што гэто за хлопяц расьце?! *Ас., Стаўб. р.* Ты, хлопіц, сядзь! Ба заробіш! Гарыць шкура на табе. *Ляўк., Арш. р.*

ШКУРА ДЫ КОСЦІ. Гл. АДНЫ (адна) РЭБРЫ (косці, шкура). КОСЦІ І (ды) ШКУРА (кожа).

ШКУРУ ДРАЦЬ з каго. Гл. ДРАЦЬ (лупіць) ШКУРУ (кожу) з каго.

ШКУРУ СПУСЦІЦЬ (счарніць) каму. Моцна набіць каго, надаваць каму. Табе, помніш, бацько хацеў шкуру спусьціць за тоё, што ты гумно чуць ні ўпаліў. *Сав., Стаўб. р.* Нас шасьцёх пашлі да пана на работу, шэсьць дзевачак. Па дзесіць, па пятнаццаць капеік плаціў на дзень. На пяць рублей я зарабіла. Пан усіх рашчатаў, а мае квіточкі ўзяў парваў і на вецяр пусьціў. Бацька як узнаў, усю шкуру шчарніў мне: і вошкамі біў, і рамянём. А за што? Ці я вінавата? *Ульян., Сен. р.* Ці помніш ты, як Эміль усю ноч на печы сядзеў голы?

Украў у хаці грошы, накупляў халвы і давай угашчаць хаўрусьнікаў. А бацько дазнаўсё пра гэто, спусьціў шкуру хлопцу, ото даваў. *Сав., Стаўб. р.*

ШКУРЫ НА САБЕ НЕ ЧУЦЬ. *Асудж.* Быць вельмі распушчаным, сваволіць, рабіць што-небудзь шкоднае (пра дзяцей). І што гэто за дзеці ў яе растуць?! Дзе іх німа: і ў яблыкі, і ў агароччык, не слухаюць мацяры, шкуры на сабе ні чуюць. *Сав., Стаўб. р.* У Анюты збалованыя дзеці. Крычаць, бегаюць, абзываюцца, а маці патурая, а яны шкуры на сабе ні чуюць. *Гор., Стаўб. р.* Вот як даў бацько наганяй, то й вўчыцца хорашо, пяцёркі прыносіць, а то расхадзіўсё, шкуры на сабе ні чуя. *Веч., Стаўб. р.*

ШНУРАМ ХАДЗІЦЬ з а к і м. Гл. РОЕМ (шнурам) ХАДЗІЦЬ з а к і м.

ШОРЫ ЦЯГАЦЬ. Гл. ЛЕДЗЬ (ледзьве) ШОРЫ ЦЯГАЦЬ (цягнуць).

ШОСТАМ ГАЛАВЫ НЕ ДАСТАЦЬ к а м у. Ганарысты (чалавек). Тут: не было роўні к а м у. Проціў Генкі нідзе мальца нет у нашай акрузі. Высокі, апхадзіцяльны, крэпка ўжо акуратны. Каб яму абразаваньня, шостам галавы не дастаў бы. *Прош., Міёр. р.* Як сама матка дзеўкаю рызыкавала, так і дачка рызыкуе цяпер. Шостам галавы не дастаць. *Там жа.*

ШТО БАРАН НА НОВЫЯ ВАРОТЫ. Гл. ГЛЯДЗІЦЬ ЯК БАРАН (на новыя вароты).

ШТО ГЭТА Я. Гл. ШТО ТО Я.

ШТО ДУША ЖАЛАЕ. Гл. ЧАГО ДУША ПРЫМАЕ (хоча, жалае).

ШТО ЗА ЧОРТ (за кадук). *Зласл., абурэн.* Як гэта зразумець, што гэта азначае? Выражэнне здзіўлення, збянтэжанасці, разгубленасці з прычыны чаго. Што за кадук! Я, здаецца, клала парныя (шкарпэткі), а палучыласё няпарныя, адзін у кветачкі, а другі ў пасачкі, няпарныя. *Сав., Стаўб. р.* Дзе той малаток дзяваўсё, што гэто за чорт, ніколі ні возьмяш там, дзе палажыў. Вот дзеткі! *Сав., Стаўб. р.*

ШТО З ВЯДРА. Гл. ЯК (што) З ВЯДРА (з луба).

ШТО З ЛУБА. Гл. ЯК (што) З ВЯДРА (з луба).

ШТО І ДА ЧАГО. Невядома што, незразумела што і чаму. Выражэнне здзіўлення. Сёньня сьню сон. Іду па сьнегу, тупко мне, правальваюся. Іду, нека мне вада, іду, іду і ўвалілася. І тут прахапілася, думаю: «Што й

да чаго, што б гэто значыло». *Сав., Стаўб. р.* Хто цябе поймя. Гаворыш ты нешто, што й да чаго, ні разьбярэсься. *Там жа.* Патходжу да стала (пазываюць мяне), а брыгадзір: «То як, цётка, будзем палоць?» (буракі). «Не»,— кажу. «Ладно, забірайця грошы, а там будзям разьбірацца». І што й да чаго ён сказаў так? *Там жа.*

ШТО РАЗ. З кожным разам. А цяпер як паглядзіш, дык дзяцём ні дорага ўсё, бес цаны, ўсё ёсь. Купляюць, кап што рас сьвежае і сьвежае. Карандашы гэтыя валяюцца пад нагамі, ламаюць. А як пры Польшчы некалі яно ўсё было дарага, цяжка было ўсё гэта купіць. *Вар., Докш. р.*

ШТО ТО (гэта) Я. Ганарыцца, фанабэрыцца. Ґасіў штанэ забрэнджаныя пры Польшчы, а цяпер — што то я! *Пр., Стаўб. р.* Як разбумажыўся Коля, што гэто я: «Я маю права браць каня ў калхозя, у любы час мне брыгадзір дасьць, бо мой бацько здаў у калхос каня, семяна здаў...» «А хто гэто ні здаваў?» *Сав., Стаўб. р.* А дырэктар у нас гунуровы. Споткае чоловіка, «здрастуйтя» нэ дась, чынітца (лічыць сябе), што гэто-я. Я такого чоловіка нэ люблю. *Бот., Пін. р.* Дзярэктар ні шчатуяцца (лічыць сябе), што гэта я, як прыходзім у цілівізяр, шчас ідзець стулья нясець: «Садзіцясь, бапкі!» *Ульян., Сен. р.* Наш бацько так нічого, але як вып'я, дак — што то я. Расхваліцца сынамі, дочкаю расхваліцца, а я ні люблю, нінавіджу, што ён хваліцца. *Хал., Стаўб. р.*

ШТО ЎБІЎ ТО ЎЕХАЎ. *Асудж.* Пра бесклапотнага, гультаяватага чалавека; спакойны, ціхі, павольны. Думала, што яна адна зграбе тую каплю (сена), ня зломак жа які! Аж не. Вот чалавек! Што ўбіў то ўехаў. *Кав., Старадар. р.* Яна павольная, як бацько,— што ўбіў то ўехаў. *Сав., Стаўб. р.* Фэльціку нічого ні апходзіць, ён ні завалнуяцца, спакойны заўсёды — што ўбіў то ўехаў. *Там жа.* Я ні люблю такіх каней — шта ўбіў то ўехаў, мне каб іна шпарка бегла, а гэта ня конь, шта на яго пуга нада. *Ляўк., Арш. р.* Вот гультай, што ўбіў то ўехаў. *Там жа.*

ШТО Ў ПАСЦЕЛІ ТО Ў КАСЦЕЛІ. *Незадав.* Пра чалавека, які не мае ў што апрануцца або не хоча, лянуецца чысцей апранацца, калі ідзе на людзі, у грамадскае месца. Хоць бы ты пераадзеўся, на цябе ш страх глядзець, што ў пасьцелі то ў касьцелі, сараматнік ты. *Веч.,*

*Стаўб. р.* У яго ні было чаго на плечы нацягнуць, ён от што ў пасьцелі то ў касьцелі. *Сав., Стаўб. р.*

ШТО ШЧЭПКА ВЫСАХНУЦЬ. Гл. ЯК (што) ШЧЭПКА ВЫСАХНУЦЬ.

ШУКАЦЬ ЯК МАМОН ПІПКУ. Дарэмна, марна шукаць што, не бачачы, што тое, чаго шукаеш, знаходзіцца пад рукамі, тут жа. Што ты шукаеш яе (шапку) як Мамон піпку. Вунь жа яна вісіць на сьцяне! Не бачыш, ці табе засьляпіла? *Н. Тур., Уш. р.*

ШЫЛА Ў МЯШКУ НЕ СХАВАЦЬ (не ўтаіць). Немагчыма ўтаіць, замоўчаць якую-небудзь непрыемную справу, учынак. Помніш, як быў пажар раз летам у сяле? Дак жа кажуць, што знайшлі таго, што іх патпаліў. Цяпер жа гэдак, шыла ў мяшку не ўтоіш. Праз гот, праз два, але ўсё роўно знойдуць. *Кунц., Кл. р.* Раскрылася тая пакража ў калхозі, як жыто кралі. Як жа, сягоньні шыла ў мяшку ні схаваяш. *Сав., Стаўб. р.*

## Я

ЯЗЫК АДНЯЛО к а м у. Гл. МОВУ (язык) АДНЯЛО (заняло) к а м у.

ЯЗЫК ВЫСАЛАПІЎШЫ. Гл. ВЫСАЛАПІЎШЫ ЯЗЫК.

ЯЗЫКАМІ МАЛОЦЬ. Гл. МАЛОЦЬ ЯЗЫКОМ.

ЯЗЫК ДА КІЕВА ДАВЯДЗЕ к а г о. ЯЗЫК КІЕВА НАПЫТАЕ. Калі будзеш пытацца, як прайсці (выйсці, праехаць і г. д.) куды, то абавязкова дазнаешся. Пяць гадоў не бачыла дачкі свае, а яна ж недзе за Масквою. Трэба паехаць і не ведаю, як ехаць, але кажуць, язык да Кіева давядзе. Папытаю ў каго, а то аўтобус ці поест завязе. *Кунц., Кл. р.* «То ты ёй скажы, нэхай вона пойдэ ў архыў, там е ўсе докумэнты».— «То ж вона нэ знае, дэ той архыў».— «Язык Кіёва напітае». *Вік., Стол. р.*

ЯЗЫК ДАЎГАВАТЫ МЕЦЬ. Гл. ЯЗЫК ДОЎГІ (даўгаваты) МЕЦЬ.

ЯЗЫК ДОЎГІ (даўгаваты) МЕЦЬ. *Асудж.* Хто-небудзь балбатлівы, гаворыць шмат лішняга, не ўмее трымаць сакрэты. Клопат вялікі, хай гаворыць, калі язык доўгі мае. *Св., Нясв. р.* Добрая іна кабета, алі язык трохі даўгаваты, абгаворыць любога. *Дайг., Віл. р.* Гэтая баба — толькі ігá-ігá, усё іржэ, язык даўгí мае. *Сял., Маладз. р.* Язык даўгі мела, толькі хлебасьціць. *Там жа.* Харошая кабета: і з твару нічаво, і добрая, але доўгі

язык мае. Ёй ні трэба давяраць сакрэтаў, усе ўведаюць. *Веч., Стаўб. р.*

ЯЗЫКОМ БРЭНКАЦЬ. Гл. МЯНЦІЦЬ (плесці, мянташыць, трапаць, брэнкаць) ЯЗЫКОМ.

ЯЗЫКОМ МАЛОЦЬ. Гл. МАЛОЦЬ ЯЗЫКОМ.

ЯЗЫКОМ МЯНЦІЦЬ. Гл. МЯНЦІЦЬ (плесці, мянташыць, трапаць, брэнкаць) ЯЗЫКОМ.

ЯЗЫКОМ ТРАПАЦЬ. Гл. МЯНЦІЦЬ (плесці, мянташыць, трапаць, брэнкаць) ЯЗЫКОМ.

ЯЗЫК ПРЫКУСІЦЬ. Замоўкнуць, устрымацца ад выказвання. Адзін рас сабраліся мая сьвякроў і Гэльчына і гаворагь аб нявестак. Гэна пра мяне, а тая пра сваю, а я палю гарот і ўсё чую. Абінна мне стала неяк, але ва́дзіцца (сварыцца) не пойдзеш, цярпіш, язык прыкусіўшы, думаеш толькі: «Хай табе бох усё аддасьць». *Язн., Віл. р.*

ЯЗЫК ТРЫМАЦЬ ЗА ЗУБАМІ. Гл. ТРЫМАЦЬ (дзяржаць) ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.

ЯЗЫК УСУНУЦЬ куды, у што. Гл. УСУНУЦЬ ЯЗЫК куды, у што.

ЯК АБ (у) СЦЕНКУ ГАРОХАМ (абухам). *Незадав., дакор.* **1.** Сказаць што недарэчы, «ляпнуць» не тое, што трэба. Няма, кап што да толку сказала, от ляпне як у сьценку абухам. І не маленькая ўжэ ш, замуш скора аддаваць. *Кунц., Кл. р.* **2.** Не рэагуе, не звяртае ніякай увагі на што сказанае. Што п ты яму ні гаварыў, як бы ні прасіў, ні паслухая, як ап сьценку гарохам ўсё роўно. *Жац., Стаўб. р.* Казала ш табе: «Купі хлеба, а то ні будзя на вячэру». От дзіцятко, як у сьценку гарохам: ты яму гавары, а ён сваім заняты. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК АНУЧАЮ ПА ЗУБАХ каму. *Непав.* Раптам з'едліва сказаць, напомніць каму пра нешта непрыемнае. Ня ўсьпеў Петрашэўскі вярнуцца (адбыць пакаранне), а яму, як анучаю па зубах: «Рано ш ты вярнуўсё, яшчэ жыто ні пасьпело». *Сав., Стаўб. р.*

ЯК АСІНАВЫ ЛІСТ (дрыжыць, калоціцца, трасецца і інш.). Вельмі моцна (дрыжыць, калоціцца, трасецца і інш. ад хвалявання, страху, холаду і г. д.). Пабудзяць рана, яшчэ й сонца не ўзышоўшы, гнаць у поле кароў пасьці. Босы бегаеш па расе, холадна, дрыжыш як асінавы ліст. *Гар., Маладз. р.* Прыбягая тая Янка і калоціцца як асінавы ліст. «Чаго гэто ты?» — пытаюсё. «Спалохалася ў лесі. Нехто гнаўсё за мною». *Сав.,*

*Стаўб. р.* Прыгнаў той пастушок кароўкі, прамок, трасецца як асінавы ліст, зуб на зуб ні пападая. Давай я ваду скарэй ставіць у стаяк. *Жац., Стаўб. р.*

ЯК БАЧЫШ. Хутка, імгненна, у адзін момант, мігам. Німа ніякіх бумаг на распалку, але палажыла дубовыя прыгаловічы, торфу паклала, жмень дзьве стружак. Як бачыш угарэліса. *Гр., Слуц. р.* Спынецяся, хваціць абрэхвацца, а то як дам, як бачыш пойдзяця адгэтуль. *Мік., Стаўб. р.* Сёлята добро ўсходзіць (ярына), як бачыш; ужо гарох вылазіць, цыбулька вылазіць, сланэчнік. *Сав., Стаўб. р.* Індыкі карміць трэба. Карыта мешані намяшаю — як бачыш зьядуць. *Там жа.* Я адразу міску супу на стол, як бачыш ні стало. *Гор., Стаўб. р.* Купіў матацыкал, як бачыш паляцелі поршні, гот стаяў у каморы. *Жац., Стаўб. р.* Я ўжэ пашпарт палучыла, пашпарт мне выдалі як бачыш, скора. *Рак., Вал. р.* Адзеў ватныя порткі і ракачком, ракачком, як бачыш карзіну грыбоў назьбіраў. *Хал., Стаўб. р.*

ЯК БЕЗ РУК. Бездапаможны, цяжка абысціся без чаго, без каго. Быз вупражы як быз рук. *Хойн., Пін. р.* Прывыкла да качаргі, ні магу, безь яе каля печы як бяз рук. *Сав., Стаўб. р.* Недзя падзеўся ножык, безь яго як бяз рук, гэдак да яго прывыкла. *Жац., Стаўб. р.*

ЯК БОБ АДМАЛАЦІЦЬ. Гл. ЯК БОБАМ СЫПАЦЬ.

ЯК БОБАМ СЫПАЦЬ. ЯК БОБ АДМАЛАЦІЦЬ. Бегла чытаць. Мой Коля ўжо чытаіць як бобам сыпіць, настаўніца хваліла, гаворыць, што добра вучыцца. *Н. Тур., Уш. р.* Бывала, прышле пісьмо, дык брат яго як боб адмалоціць. *Пр., Стаўб. р.*

ЯК ВЕРАБЕЙ У ВЕНІКУ (жыць). Бедна, у нястачы, не мець трывалага грамадскага ці службовага становішча. Ён пры Польшчы ні кала ні двара ня меў, жыў як верабей у веніку. Дзеці ўсягды галодныя хадзілі. Цяпер пры Саветах хоць чалавек ляхчэй дыхнуў. *Страж., Віл. р.*

ЯК ВЕТРАМ ЗДУЛО каго. Хутка знік, уцёк хто. Дзеці нешта зрабілі, нешта ўскінулі на правады, а тады правады як сталі трашчаць, можа, пропкі перагарэлі ці што, то ўжо як ветрам здуло дзяцей, так перлі на Бяларучы. *Бял., Лаг. р.*

ЯК ВОКАМ ЗМІГНУЦЬ. Хутка, імгненна. Во ў цябе сын, Ніна: як вокам зьмігнуць і падмяце, і памыя, і зноў за ксёншку садзіцца. *Веч., Стаўб. р.* Пашла ў нядзелю

ў лес, лісіц набрала во як вокам зьмігнуць, поўно лісіц. Яшчэ трэба сходзіць, добро зварыць верашчаку з грыбамі, дзеці любяць. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ВОКАМ (глазам) СКІНУЦЬ (кінуць, зглянуць). *Захапл.* Як толькі можна ахапіць позіркам, наколькі дазваляе позірк навокал. Мінуўшы Шчорсы, як перaедзяш праз Нёман, каля дарогі стаяць старадаўнішнія дубэ і на кажнум дубе бусьлінае гняздо. І як вокам скінуць раўніна і балатэ. *Пр., Стаўб. р.* А поля таго, поля (панскага) як вокам скінуць, такая лава, аніможно было й нагою ступіць, бо ні тваё. *Сав., Стаўб. р.* Цяпер асушылі ўсе балота. У Поўхаве што была багна нагою ні ступіць, цяпер як вокам скінуць лава скрось цімахвеяўкі і аўса. *Гр., Слуц. р.* Паглядзі, сынок, вунь аш пад лес як кінуць вокам, усюды пшаніца і харошая. Набярэцца калхос грошай. *Хал., Стаўб. р.* У нас Прыдняпроўе, красівыі міста. У нас як глазым зглянуць пъля і пъля, а як лес, то лес стрътявой, сасоньнік. Красівыі міста. *Ляўк., Арш. р.* Насеялі льну, лава як вокам скінуць. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ВОЛАСУ ПЕРАГАРЭЦЬ. Вельмі хутка, у адно імгненне (рабіць што). Зіна скора шыя. Ото як воласу перагарэць — і рубашка гатова ці там што другое. Ні адрываючы нітак, адным швом усю рубашку перабяжыць, перабяжыць, а тагды паабрывае (ніткі) — і гатова. *Гр., Слуц. р.*

ЯК ВОЛ ВЯРНУЦЬ (рабіць). Шчыра, сумленна, многа працаваць фізічна. У нашум калгася цяпер студзенты грэблі картоплі чатэры нядзелі, а посьля іх прывезьлі зь Мінску машыну пажарнікаў. Дзьве нядзелі былі. Дак добра рабілі. Станя ў баразну, дак як вол верня. *Гр., Слуц. р.* Гаспадар гэдакі спакойны, харошы, ніколі нічого насуперак не скажа, адно як вол робіць, а грошы ўсе да капейкі жонцы аддае. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ГЛАЗАМ ЗГЛЯНУЦЬ. Гл. ЯК ВОКАМ (глазам) СКІНУЦЬ (кінуць, зглянуць).

ЯК ГОРКАЯ РЭДЗЬКА. *Незадав.* Вельмі моцна, нясцерпна. Гэтый маліц жыць ні даець, увесь дзянёк крычыць, надаеў як горкая рэцька. *Н. Тур., Уш. р.* Звары, Соня, калі-небудзь фасолі, гэтая капуста штодзённа ўжо прыелася як горкая рэцька. *Гал., Стаўб. р.*

ЯК ГРАЗІ ч а г о. Вельмі многа. Ой, што парасят было на базары ў Стоўпцах! Як гразі. *Сав., Стаўб. р.*

Кабылак на чыгунцы як гразі. Поўно-поўно! Хадзем, Янка, насубіраям. *Там жа.* У Бар'яся грошай як гразі, а прыкідваяцца бедным. *Жац., Стаўб. р.*

ЯК ГРОМ З ЯСНАГА НЕБА. Раптоўна, нечакана, імгненна. Ну, гэдак усё скора прышло, як гром зь яснага неба. Ото заручыны, потым вяселье — і няма дачкі, пашла да другой мацяры. *Кунц., Кл. р.* А тут гэтая навіна як гром зь яснага неба звалілася (маецца на ўвазе пачатак другой сусветнай вайны), бацьку яе забралі ў войско, то яна ўскорасьці памерла, ні вытрымала. *Веч., Стаўб. р.*

ЯК ЗА КАМЕННАЙ СЦЯНОЙ. Пад надзейнай аховай, спакойна (жыць, быць, адчуваць сябе і інш.). Валя ў мяне харошая. Яна й каровы во дъглідаіць, іна й пра дровы забоціцца, хъзяйства ўсё на ёй, жыву за ёй як зъ каменнай сьцяной. Знаю, што пугу ў рукі і пашоў на работу, дома ўсё ў пъратку. *Ляўк., Арш. р.*

ЯК ЗА ПЛЯЧЫМА. Бестурботна, спакойна (жыць). Яны як за плячыма жылі за гэтым старым. Ён і картофлі садзіў, і дровы сек, і ўсё-ўсё рабіў, устаня ў печы паліць. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ЗА ПЛОТ. *Незадав.* Дарма, дарэмна, за нішто (выкінуць, выдаткаваць і інш.). А грошы ж не валяюцца, нада ш папрацаваць на гэных дваццаць пяць, што ўцяклі (купіў парася, а яно ўцякло з мяха), дый барыш сама меній пяцёрка. Вот табе трыццатку за адзін дзень як за плот. Тут і залатая жонка ня выцерпіць. *Язн., Віл. р.* Купіла ўчоро мяса ў лаўцы і забылася, што яно ў міне ў шкафчыку ляжыць. А гарачыня, яно трохі і чуваць стало. Толькі грошы як за плот выкінула. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ЗА СЯБЕ. Лёгка, хутка, як бачыш (з'есці). Аўдоця от гэтакі о качан капусты паранае ўлажыла, міску ў калені картопяль рэткіх хоп-хоп, як за сябе выбрала. *Гр., Слуц. р.* Наліла міску крышанёў, то як за сябе пугаў. *В. Рож., Сал. р.* Цяпер ні жадны салу. Бачыш, у вас на бяседзі ўсё стаіць: і сало, і мясо, і катлеты, а два талежыкі (сподачкі) капусты пашлі як за сябе. Ціпер вітаміны падавай, людзі разьбірацца сталі. *Сав., Стаўб. р.* Прынесла камяке, сподачак сала халодніўькаго і місачку капусты. То сала ўзялі па кусочку, а капусту выбралі як за сябе, прышлосё дабаўляць. *Там жа.*

ЯК (што) З ВЯДРА (з луба). Суцэльным патокам, магутным струменем (пра праліўны дождж). Быў буран, лівінь, як зь відра лілося. А тады пярун як пальніць. Каб

бачыла, у нашай яблынькі сук адарвала. *Ульян., Сен. р.* Дош як зь відра льлець, цёмна-цёмна стала. Мы ў кустах схаваліся й сядзім. *Там жа.* Ото дошч спусьціўся, лье як зь вядра. Патстаўлю ночвы, добро памыць голаў дажджавою вадою. *Сав., Стаўб. р.* У сыботу ў Воршы дошч харошый ішоў, што зь відра ліў. *Ляўк., Арш. р.* Пашлі на рэчку купацца, а дошч як зь вядра даў. Павымакалі да ніткі. Але цёплы, харошы, папрыбягалі дахаты, папалохаліся. *Гор., Стаўб. р.* Ці помніш ты, як мы Эдзіка понача шукаць хадзілі? А дошч як зь вядра, а грымоты. Вот тады страшно было! *Сав., Стаўб. р.* Дошч ліў што з луба, але ў нас плашчы былі. *Бял., Лаг. р.*

ЯК НЕБА АД ЗЯМЛІ. ЯК НЕБА І ЗЯМЛЯ ад каго. Рэзка, вельмі моцна (адрозніваццa, не быць падобным). Наша Вера добро жыве. Маюць кватэру харошую; ён працуе дырэктарам растарана ў паяздах далёкаго сьледаваньня. Жыве як неба і зямля ад нас. Добро жывуць. *Сав., Стаўб. р.* Куды нам да Адася! Ці ты цяпер зь ім зраўняясься? Як неба ад зямлі, ніколі ні падумала п, каб Адась так жыў. *Жац., Стаўб. р.*

ЯК З-ПАД ПАЛКІ. Неахвотна, нехаця. Якая там была работа, рабілі як с-пат палкі, абы час прайшоў. *Сав., Стаўб. р.* Кажу Ірцы: «Прынясі, унучка, вады. Трэба нагрэць, вечарам памыямся». А яна, бачу, ні вельмо кап кідалася да работы, як с-пат палкі. Гэто ж брытко, кап такая вялікая дзевачка лянавалася рабіць. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК З-ПАД СЯКЕРЫ (з-пад тапара). *Незадав.* Неакуратна, груба, абы-як. Сама пакроіла сукенку, складвала тую сукенку — ні палучаяцца. А, кап ты згарэла! Пашла к партнісе, а тая абы-як, як с-пат сакеры паскладвала, паскладвала і пашыла. *Гр., Слуц. р.* Папрасіла дзяцьку, кап табурэтку зрабіў. Сесьці німа на чым. Прышоў, праўды, выпіць трохі дала, ну й давай рабіць. Рабіў, рабіў і зрабіў як с-пат тапара. *Гал., Стаўб. р.*

ЯК КАРОВА ЯЗЫКОМ ЗЛІЗАЛА. Раптоўна і бясследна (знікнуць). Раскажу вам, дзеткі, як было са мной на кірмашы. Аднойчы я масла і сьмятану прадавала. Падыходзяць два шляхцюкі, пасьля адзін гавора: «Пані, глянь, сонца высака падымаяцца, прыпячэ зарас тваё масла». А я, як тая варона, галаву ўверх задзерла і на сонейка гляджу. Посьля гляць на масла, а яго як карова языком зьлізала. *Зал., Вал. р.*

ЯК КАТУ Ў МЯШКУ. Вельмі дрэнна, невыносна. Усіх

чысьцютка павыганяў с хаты: і бацьку, і маці, а ўжо жонцы беднай — дык як таму кату ў мяшку. *Язн., Віл. р.*

ЯК КІНУЦЬ ВОКАМ. Гл. ЯК ВОКАМ (глазам) СКІНУЦЬ (кінуць, зглянуць).

ЯК КОЛАС (адзін). Гл. АДЗІН (адна, адно) ЯК КОЛАС.

ЯК КОНЬ РАЎЦІ. *Непав.* Моцна, голасна плакаць. Сын у Іўі вучыўся, здумала я, занясу мяса. А дарога такая паганая. Прышла, а яго німа. То казала сястра, як конь роў, як сказала, што ты была: «Да яна замарылася, да яна ш хвора». *Каг., Лід. р.* Іду вуліцаю, чую: нехто плача. Зайшла ў хату, а іхні меншы сядзіць сярот хаты і раве як конь. «Чаго гэто ты?—пытаюсё. «Дзе мая мама?» — крычыць і раве, раве як конь. *Жац., Стаўб. р.* Аксанку тую распусьцілі, што баба рады не дасьць. Як будзя ёй сямнаццаць, яны будуць раўці як коні ат той дачкі. Шчэ можа й раней, як сямнаццаць. Сільная бута, разбэшчаная страшно дзеўчынка. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК КОТ З САБАКАМ. Варагаваць, пастаянна, часта сварыцца з кім. «А яны вот пажаніліся й жывуць».— «Як яны там жывуць, як кот с сабакам». *Н. Тур., Уш. р.* Бачыш, паміш сабою жывуць як кот с сабакам, а на людзях здаецца, што ўсё добро. *Мач., Бабр. р.* Чаго ж гэто ты зь ім як кот с сабакам, трэба нек мірыцца, брытко ад людзей. *Хал., Стаўб. р.*

ЯК КОТ З САЛАМ. Выхваляцца чым, імкнуцца выклікаць зацікаўленасць каго. Волька, мая шваг′ерка, помню, купіла ясёнку ў Міры, цэлы дзень насілася зь ёю па вёсцы як кот с салам, хоча, кап усе бачылі, што яна купіла. *Жац., Стаўб. р.* Мішку Дуся купіла новую рубашачку, адзеў адразу і носіцца па вуліцы як кот с салам: «А мне мама рубашку купіла новую!» *Сав., Стаўб. р.*

ЯК КОТ НАПЛАКАЎ. Вельмі мала. Паехала ў Клецак, то тое купіла, то сёе, ужэ ў німа. Ведама, грошай тых як кот наплакаў. *Кунц., Кл. р.* Маленячка заметачка ў «Прамені» (раённай газеце), адно некалькі раткоў. Як кот наплакаў той заметачкі, але ш слава. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК КУКАМІ ЗБІТАЯ. Пра жанчыну, якая добра выглядае, моцная, здаровая. «Я ўчора Ларысу відзяла ў крамі. Як кукамі зьбітая».— «А што ёй апходзіць — яна жывець за мужыком». *Н. Тур., Уш. р.*

ЯК КУЛЁМ НА ДНО. Знік, ні слуху ні духу. Прышле пісьмо, атпішыш, і тады як кулём на дно. А тады саску-

чыцца, піша пісьмо: «Німа ні ‘ткога пісьма, саскучаюсь, наплачуся са скукі, пішыце». *Ліцв., Карм. р.*

ЯК МАЕ БЫЦЬ. Добра, належным чынам. Прыіхав сэквэстратор і опысав за податкы тэлушку і кухор (дочка тогды ў пэрвый клас ходыла). Я продала і коровку, і свынчо оплачваты податок, усё оплотыла як мае буты. *Бот., Пін. р.* Зайшлі ў магазін, прапусьцілі па чарцы, а дзе чарка, там і дзьве. Набраўся я як мае быць, добра што па дарозе чалавек надарыўся, а то б і дамоў не трапіў. *Рак., Вал. р.* І тады ш такога дабра ня елі, як цяпер. А пасьцілі ш, у пост, бронь божа, скаромнага зьесьці. Нацярэбісься цыбулі, нішчымнае бульбы як мае быць і пашоў. *Ляўк., Арш. р.*

ЯК МАЦІ РАДЗІЛА (нарадзіла). Зусім голы. К нашаму суседу нявестка прыехала. Хочацца мне пагля-дзець. Пашла я паўс плот памаленьку. Аж яна ляжыць на гумне (на пругмені) як маці радзіла, загарае. І хлопчык пры ёй. Стала мне стынна, я назат, назат. *Бял., Лаг. р.* Нас разьдзелі, пастрыглі, волас зьнялі, і тады канваіры забралі і як сталі гнаць, божа ты мой мілы! Як сталі нас гнаць па той гразі, па такім дажджы, дождж са сьнегам, голых як радзіла маці. Ну й кіломятры тры, а можа й болій гналі. *Ухв., Кр. р.* А їна кажа: «Я ні палёзу, я голая, як мяне маці радзіла, схадзі дамоў і прынясі мне адзежу». *М. Ст., Бар. р.* Пабіў целяфон, вокна пабіў, нагавіцы, рубашку скінуў, голы як маці радзіла лятаў па месьця (мястэчку) і біўса. *Гр., Слуц. р.*

ЯК МОКРАЕ ГАРЫЦЬ. *Незадав.* Нехаця, павольна, марудна (рабіць, ісці і інш.). А, што яны там перадалі моцно? Сядуць, гавэндзяць, кураць, а робяць як мокрае гарыць, абы дзень прайшоў. *Сав., Стаўб. р.* Да таго ш гультайка. Палядзіш на яе, гэдака здаравенна, а як пачне што рабіць, то як мокрае гарыць. От даў бог жонку. *Кунц., Кл. р.* Трэба трошкі скарэй рабіць. А то скрабесься як мокраё гарыць. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК МЫЛА З’ЕЎШЫ. *Незадав.* З пачуццём унутранага незадавальнення, з горыччу на душы. Янка будзіць казаць ёй: «Знакомся, мама». Дык яна (мама) не разьбярыся дый ляпні: «Гэта Таня, мусіць» (Ён раней усё як прыедзіць дамоў, дык казаў, што зь нейкай Таняй жаніцца зьбіраецца, дык матка сьмела й сказала так.) Янка неяк замяўся, замяўся ды кажыць: «Якая ж табе, мама, Таня, гэта ж Люда». А гэта Люда стаіць як мыла

зьеўшы, толькі неяк зачырве́нілася, зачырве́нілася і на яга коса — зыр. *Язн., Віл. р.* А ён (швагер) зразу: «А чаго ты к нам ходзіш? Сядзі дома. А то ходзіш, стогняш, а мне ні наравіцца». Я зачыніла хату і пашла як мыла ізьзеўшы. *Гр., Слуц. р.*

ЯК МЫШ (як мышы) ПАД МЯТЛОЮ (у нары). **1.** Баючыся чаго, маўчком, спалохана. Напалохалі нас немцы, дзеці пазалазілі пад лошко і сядзяць як мышы пад мятлою. А кругом страляніна, хай бох сьцеражэ. *Сав., Стаўб. р.* Налякалы, то зарэ сыдыть бы мыш пуд мытлою, сыдыть нышком. *Чух., Пін. р.* Помніш, сабраліся ў пограбі, сядзімо, баімося нос паказаць. Вот страху мелі ад гэтых немчуроў. *Сав., Стаўб. р.* **2.** Ізалявана, адзінока. Цяпер такія халадэ стаяць, а я холаду, старая, баюсё. То выпалю ў печы і сяджу на цёплуй. І ўсе гэдак старыя сядзяць як мышы ў норах, на двор ні паказваюцца. *Гор., Стаўб. р.* Алесь так і астаўсё на футары, сядзіць там як мыш у нары, учарнеў чалавек. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК НА КАЛКУ. Гл. ЯК НА КАЛУ (на калочку, на калку, на коліку).

ЯК НА КАЛОЧКУ. Гл. ЯК НА КАЛУ (на калочку, на калку, на коліку).

ЯК НА КАЛУ (на калочку, на калку, на коліку). Непадагнанае, занадта прасторнае, шырокае (адзенне). Хай яе, гэтую навуку. І дурному, цёмнаму, блага, і вучыцца цяшко. Онь прыехаў Міша з акзамінаў, то такі стаў блажэнькі, фрэнч як на калочку вісіць. *Шаш., Стаўб. р.* Дзеці некія худыя сталі, немач іх ведае, што ні адзень, як на калку вісіць. Відаць, растуць, большаюць. *Ст. Св., Стаўб. р.* Сядзела я каля Гаўрыка, авай, як ён сваю Верку хваліў. Казаў, што самая харошая і спрытнейшыя з усіх бап, а Монькава, як асколак, сукенка вісіць як на калу. *Кож., Кар. р.* Стара жанчына, некіх семісят гот, а йдзе ў анной штапяльнай спаніцы. Суха, стара, та спаніца матляяцца як на калу, сьвіціцца. Аш гатка глядзець. *Гр., Слуц. р.* На людзёх дык і бяльлё красіва ляжыць, а я як надзенуся, дык як на коліку вісіць. *Ляўк., Арш. р.*

ЯК НЕ СВОЙ (не свая). ЯК У СНЕ. Аказацца выбітым з раўнавагі, быць да глыбіні душы ўражаным чым. Учоро прышоў позно, ні выспаўсё, сягоньні як ні свой. *Гор., Стаўб. р.* Вот хаджу цэлы дзень як ні свая, ні ведаю, што там у Стоўпцах, можа ўжо апярацыю (сыну)

зрабілі. *Сав., Стаўб. р.* Пасля ўсяго, што было ўчоро, Пятрусь цэлы дзень ходзіць як у сьне: ты яму «дзінь добры», а ён паглядзіць, паглядзіць і нічого ні скажа. *Там жа.* Пасьля сьмерці Эдзіка жыву як у сьне. Ніщто міне ціпер ні непакоіць, ўсё у душы маёй перагарэло. *Там. жа.*

ЯК НЕ Ў СЯБЕ. *Незадав.* Вельмі многа (есці). Дзіва што Насьця гэдакая тоўстая. Яна ш есьць як ні ў сябе. Як сядзя, то покуль усё ні паесьць, то ні вылязя з-за стала. *Кунц., Кл. р.* Малы некі хлопяц расьце, каркажа́, а есьць як ні ў сябе, ні набрацца. *Сав., Стаўб. р.* Сьвіней укарміць ні магу, пішчаць цэлы дзень, ядуць як ні ў сябе. Хай ядуць, трэба якого зелья даваць да мешані. *Там жа.*

ЯК НА ПЛОТ ЧАПЛЯЦЬ. Без апетыту, спяшаючыся (есці). Бывала, ўсіх паатпраўляе с хаты, таго араць, таго што рабіць, а сама сядзе, наесца, чаго хоча, прысмачкаў, а тады: «От, што я там вельма ела. Як на плот чапляла, есьці хочацца». А нажэрлася! *Сав., Стаўб. р.*

ЯКОГА ЧОРТА. Выражэнне негатыўных адносін да каго, выражэнне зласцівасці, незадавальнення. Якога чорта там любоў! Прычаравала, зельлем паіла, вот і бегаў, ум паціраўшы. *Ульян., Сен. р.*

ЯК ПАДНЯЦЬ. Цяжкі. Насыпаў картофяль мяшок як падняць і панёс дахаты. Дала яму зата́к, можа калі торфу прывязе. *Сав., Стаўб. р.* Пашоў Высоцкі ў алешнік, накасіў асакі як падняць, так лэпско (мнагавата), наклаў гуньку і панёс. *Там жа.* На том тыдні хадзіла на пуць лісьцё грэпці. Награбла много як падняць. Добро будзя зімою кабанчыка падаслаць. *Там жа.* Прыедуць у сыботу зь Мінска, пабудуць дзень, напакуюць клункі як падняць і на Мінск зноў. А мацяры грошай пакінуць, прывязуць чаго смашнаго. *Гор., Стаўб. р.*

ЯК ПАЛЕЦ. Зусім адзін, адзінокі. Ты ж ведаяш, адна як паляц, словам німа да каго абазвацца, дзіво што выйду дзе пасядзець да каго. *Сав., Стаўб. р.* Дзевачка тая адна як палец, і глядзяць, і даглядаюць. Такая харошая зрабілася, адзяюць хорашо, есьць смашно. *Жац., Стаўб. р.* Маня свайму патурая. Ведамо, адзін як паляц той хлопчык. *Гор., Стаўб. р.*

ЯК ПА МАСЛУ. Гл. ЯК ПА ПІСАНАМУ.

ЯК ПАНАЎ ПАРАБАК. Павольна, нехаця, не спяшаючыся. Я ўжо на сваім вяку парапкаў ня помню, толькі вот кажуць, сабіраіцца як паноў парабак. Або хто зь дзя-

цей абуваіцца доўга, то кажуць: «О-о-о, абуваіцца як паноў парабак». *Бял., Лаг. р.*

ЯК ПАН НА ХАМУЦЕ. Кепска (спалася каму). Наварыла я зацірачкі дзеравенскае, кажу: «Вазьмі пакаштуй».— «Дайце, мама». Я ўліла місачку, ён (сын) зьеў: «Ці ест болей?» Наліла яшчэ місачку. Назаўтра ўстаў, кажа: «От, мама, спаў я сёньні як пан на хамуце посьля ўчарашняй заціркі».— «А ці ведаеш ты, што гэта такое «спаць на хамуце?» Толькі сабака сьпіць на хамуце».— «А я думаў, што гэта натта добра». *Каг., Лід. р.*

ЯК ПАПАЛА. Нерэгулярна, абы-як, дрэнна. Пойдзяш жаць летам (да пана), рэжаш-рэжаш, рэжаш-рэжаш і хустку скіняш, і ўсё, хаця п пану ўгадзіць. А есьці як папала. Дасьць дак дасьць, а ня дасьць, дак усяк бывала: хто пад'еўшы, а хто й галодны. *Тайкач., Уздз. р.* Прадзём-прадзём, прадзём-прадзём да дванаццаці, ляжым пасьпім якія гадзіны дзьве-тры, зноў устанім, прадзём. Ня відзюць вочы, робіш як папала, дрэміш, прадучы, а станіш шпулі зьвіваць, рвуцца. *Зам., Віл. р.*

ЯК ПА ПІСАНАМУ. ЯК ПА МАСЛУ. Вельмі добра, гладка. Дзе мне с табой зраўніцца? У цябе ўсё йдзе як па пісанаму: і гаспадар дома, і дзеці ў паратку, і ў хаці ўсяго маяш. *Кав., Старадар. р.* Вот толькі жэрткі добро прыбіць, а потым толькі патстаўляй гэтыя палачкі і прыбівай па шнуры, пойдзя як па маслу. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ПЕНЬ. 1. Адзінока (жыць). Во сяганьня сьвята, а яна адна там сядзіць як пень, можа, плачыць, каіцца, што паехала ў чужыя людзі. *Хал., Бар. р.* Во Кліманская казала: «Стаю як пень на дварэ ля плоту, ніхто ні зачэпіць, ніхто «здароў» ні скажыць. Прыду ў хату, нагалашуся, думаю: «Чага ехала ў чужыя людзі». *Там жа.* 2. *Незадав.* Адмоўчвацца, не гаварыць па той ці іншай прычыне. Чаго ты маўчыш як пень, ці сказаць не маеш што, ці якая халера цябе ўкусіла?! *Жац., Стаўб. р.* Гэты хлопяц маўчыць як пень, што ў яго ні папытайся. Што ўжо за хітрун расьце! *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ПІЦЬ ДАЦЬ. Бясспрэчна, без сумнення. Уперад яе сын рабіў шофярам у калхозі, то ўзялі і з работы прагналі. Цяперака ў раёні недзя на заводзі, паглядзіце, прагоняць і аттуль, як піць даць прагоняць. *Кунц., Кл. р.* Вот цяпер то й Цярэшку пасадзяць (у турму), як піць даць пасадзяць. *Жац., Стаўб. р.* Як павук заплутая муху ў павуціну, так Вінцушча ўплутая у блуд матку. Як піць

даць ўплутая, пабачыцца. Яна ж настойлівая. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ПРАЗ СОН. Невыразна, дрэнна (чуць, усведамляць што). Нешто вот нідобро мне, кволюся, усё ломіць, вочы баляць, а чую як прас сон ўсё роўно. *Жац., Стаўб. р.* Нехто стукаяцца. Я наставіла вушы, чую як прас сон — стукаяцца. Давай злазіць сь печы. *Сав., Стаўб. р.* Ты нешто мне гаварыў, а я як прас сон чую. Пачуваюсё кепско, сынок. Гэто што ты прыехаў, то паднялася. *Там жа.*

ЯК РАСЯНКА КАМАРА (высмактаць). Змучыць каго знясільваючай працай, пастаяннымі прыдзіркамі, з'едлівымі дакорамі, выцягнуць з каго апошнія сілы. (Расянка — расліна з невялікімі чырванаватага колеру лісцікамі на кароткім сцябле. Расце на балоце сярод моху. Лісцікі расянкі пакрыты чырвонымі валаскамі, на кончыках якіх блішчыць-пераліваецца, нібы раса густая, ліпкая вадкасць. Сядзе камар на лісцік, каб напіцца расы, а валаскі захопліваюць яго, выдзяляючы ядавіты сок. Праз дзень-другі насякомае цалкам раствараецца ў лісточку). Да шлюбу натта ні весяляцца, толькі йграюць вальчык там які, вясельля сыграюць жаласнае, маладая плачыць і суседзі плачуць, жалеюць. Гэта й нада было так, бо даўней было так, што йдзець замуш, дык гэта на катаргу, а ні замуш. Там цябе вымучуць, высмакчуць як расянка камара. Як удасца сьвякроў нігодная, дык будзіш гады там сьмягці за зямельку, а як ні ўгодзіш — вон у двор, кажаць, да пана, калі ў нас няўгодна. Думыіш, так, як цяпер, жылі людзі? *Вар., Докш. р.*

ЯК РУКОЙ ЗНЯЛО. Адразу зусім, бясследна прайшло (пра хваробу, перажыванні, пачуцці, недамаганні). Мне, цётка, як зрабілі апярацу, то як рукой зьняло, адразу палепшало. *Веч., Стаўб. р.* Захварэла была Маня Алесява. Колькі лячылі — нічого ні памагая. Прывязьлі бапку некую, шаптуху, выліла яна той пярэпалах, то як рукой зьняло, назаўтра ў поле пашла. *Кунц., Кл. р.* Хвецька прівёс Марюткі нейкае лікарства гарацкое (бацька ягоный усюдах езьдзіў, багатый жа быў, саттуль прівазіў), і праз трі дні ўсё як рукой зьняло. *М. Каш., Гар. р.*

ЯК РЭПУ ГРЫЗЦІ (сячы). Добра, бегла (чытаць). Глядзі ты, колькі таго дзіцяці, а ўжо чытая як рэпу грызе. Вот удалыя дзеці ў Марусі. *Гор., Стаўб. р.* Ганебна (вельмі) вучоная, кажуць, нявестка ў Лявоніхі, ксёнжкі

чытае як рэпу сячэ. *Віш., Вал. р.* Казік Ягораў яшчэ саўсім маленькі, які той Казік, а чытая як рэпу грызе. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК САБАКІ РВУЦЬ. Баляць (ногі). От вы палянаваліся, а мы прагулку зрабілі. Ногі як сабакі рвуць, хоць прысесьці. *Ульян., Сен. р.* Аднаго разу пашла я ў Крупку пяшком, трэба было мне купіць кісялю. Туды зайшла, а назад машына не здарылася, прышлося зноў ісьці пяшком. То ногі як сабакі рвалі, так набіла, што лець дабралася. *Ухв., Кр. р.* Бабы, пъра кънчаць! Сяньні й так многа зьдзелалі, мо разоў підзісят аббегалі гэта балота, ногі як сабакі рвуць. *Ляўк., Арш. р.*

ЯК СЕРАДА НА ПЯТНІЦУ (скрывіўся). *Іран.* Быць незадаволеным. Чаго гэто ты скрывіўсё як серада на пятніцу? Баліць галава? *Сав., Стаўб. р.* Нешто Мішка наш ні ў гуморы, скрывіўсё як серада на пятніцу. *Там жа.*

ЯК СКУРАТ НА АГНІ (выкручвацца). *Асудж.* **1.** Выкручвацца, выгінацца. А танцы цяпер якія! Другі не ведае, як свае косьці ламаць, выкручваецца як скурат на агні. *Абад., Віл. р.* **2.** Даказваць сваю непрычыннасць, невіноўнасць у якой-небудзь справе, звычайна нядобрай, выгароджваць сябе. Гэтага чалавека прыцiснулі, стаў выкручвацца як скурат на агні, але дзе ш ты выкруцісься — сазнаўся. *Жац., Стаўб. р.*

ЯК СЛОВА СКАЗАЦЬ. Хутка. Гэта ш як слова сказаць убягае ў хату і давай бэсьціць Андросіка: і такі і гэтакі, і п'яніца і б'ецца. *Пр., Стаўб. р.*

ЯК СЛЯПЫ ДА ПЛОТУ (прычапіцца, прыстаць). *Абурэн.* Вельмі дакучаць каму размовай, роспытамі, справамі і інш. А што ты зь ім, братка, зробіш? Ён жа п'яны, прычэпіцца як сьляпы да плоту, ні аткараскацца. *Н. Тур., Уш. р.* Адыдзіся! Чаго прыстаў як сьляпы да плоту?! Няма ў мяне грошай. Хочаш выпіць — ідзі да Манінай Волькі, то напоіць. *Жац., Стаўб. р.* Пазыч яму рубля і ўсё. Прычапіўсё як смала да плоту — рады німа. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК СОННАЯ МУХА. *Незадав.* Павольна, нехаця, без асаблівага жадання, нетаропка, ледзь-ледзь (хадзіць, совацца і інш.). Усе людзі ў полі, дарагая каждая мінутка, а ён ходзіць па дварэ як сонная муха, нешто там усё калупаяцца, аш сэрцо маё гарыць. *Сав., Стаўб. р.* Ішоў

бы ты ў школу, а то соваясься па хаці як сонная муха, рабіць табе німа чаго. *Жац., Стаўб. р.*

ЯК СТАРОЙ БАБЕ СЕСЦІ. Вельмі мала, невялічкі загончык, кусочак. Выпраўлю некалі яго ранінько ў полё пажаць з расою, а, ведамо, малы, сажне трохі, от як старой бабі сесьці, але й гэто добро. *Сав., Стаўб. р.* Некалі мы сеялі просо. Трошкі, настра́мачак (невялікі участак) маленькі, як старой бабі сесьці, але для сібе хватало. *Там жа.*

ЯК СЫР (у масле) КУПАЦЦА (жыць). У матэрыяльным дастатку, у раскошы, заможна (жыць). Жыла тры гады, як сыр у масле купалася. *Ліцв., Карм. р.* Цяпер і Альбучыхі чорт ні бярэ. Добро яшчэ зарабляя, пеньсія будзя, а што адной бабі трэба? Як сыр у масьлі купаяцца. *Жац., Стаўб. р.* Некаторыя вунь жывуць як сыр у масьлі — і цілявізар, а ў хатах — паглядзеў бы ты! *Сав., Стаўб. р.* Двоя сьвіней укормяць за гот. От і зараз адну закалолі сьвіню, як эты шкаф, палавіну прадалі, палавіну сабе. Карову дзяржаць, сорак рублёў палучаюць пенсіі. Жывуць як у масьле купаюцца. І яна паздаравела, і ён як рыжок. *Гр., Слуц. р.*

ЯК ТАБЕ ГАВАРУ. Гл. ЯК ТАБЕ (вам) КАЖУ (гавару).

ЯК ТАБЕ (вам) КАЖУ (гавару). Надта хутка, за кароткі момант. Адзіяла двухспальнэ як табе кажу спорцілі, ведама, у мазуце хлопцы цэлы дзень, вымазаныя, гразныя. І простыні прышывалі, і пададзіяльнік, і так спалі—вымазалі, выпэцкалі. *Гр., Слуц. р.* Атходзіў Г'еня ў войско, сабралася гасьцей. І ён с Тоняй напроціў сядзеў. І пакуль мушчыны адну вып'юць, як табе кажу тры чаркі вып'е. *Сав., Стаўб. р.* Дзевяць гектараў пшаніцы стаяла і во як вам кажу схвацілі (скасілі). Прышлі камбайны, адзін за адным, нізінько зрэзалі. *Там жа.* На каленях (поўзаючы) па-пад ёлкамі, грыбоў навалам. Як табе кажу карзінку баравічкоў назьбіраў. *Там жа.* Наш стаяк кахляны, да тонко зроблены, дак во як вам кажу цёплы. *Там жа.*

ЯК У АДНОЙ КАШУЛІ ХРЫШЧАНЫЯ. Моцная, трывалая, шчырая, (дружба). Дружба ў іх як у адной кашулі хрышчаныя. *Пр., Стаўб. р.* «Старыя кажуць, калі ў адной кашулі пахрышчаныя, тады дзеці жалеюць адзін аннаго. Гэную кашулю хаваюць, пака другое (дзіця) знойдзецца».— «Ай, ніпраўда! Во ў Карбачоўкі блізьню-

кі, а дружба ў іх як у анной кашулі·хрышчаныя, пальцам адзін аннаго ні крануць. *Там жа.*

ЯК У БОГА ЗА ДЗВЯРЫМА. Гл. ЯК У БОГА ЗА ПАЗУХАЙ (за дзвярыма).

ЯК У БОГА ЗА ПАЗУХАЙ (за дзвярыма). Спакойна, ціха, без асаблівых клопатаў і трывог, з дастаткам (жыць). У нас тут ціхо было (у час вайны), жылі як у бога за пазухай. *Сав., Стаўб. р.* А што ж яна (Ванда). Жыве пры бацькох і наета, і абута, як у бога за пазухай. *Там жа.* Сёліта трохі пасёлкаўцаў папудрылі, а то жылі як у бога за дзьвярыма. Немагчыма, колькі пылу усюдых, сьвету во нявінна. *Бял., Лаг. р.*

ЯК У ІЛБЕ ВОКА ГЛЯДЗЕЦЬ к а г о. Гл. ГЛЯДЗЕЦЬ ЯК ВОКА Ў ІЛБЕ к а г о.

ЯК У МАСЛЕ КУПАЦЦА. Гл. ЯК СЫР (у масле) КУПАЦЦА (жыць).

ЯК У СЦЕНКУ АБУХАМ. Гл. ЯК У (аб) СЦЕНКУ ГАРОХАМ (абухам).

ЯК УСЫПАНА. Вельмі многа, густа-густа (яблык, ягад і інш.). Яблык як у каго: у Г'оцкай як усыпано, а ў Цярэшкаў німа, у нас мало, па два сядзяць. *Сав., Стаўб. р.* Пашла раз з Пятроўскаю па ягады. А многомного, як усыпано! А харошыя! Як бачыш набрала гладышык. *Там жа.* Сёліта ў Мар'і яблык многа, як усыпана. *Ляўк., Арш. р.*

ЯК УЮН НА СКАВАРАДЗЕ (вярцецца). Невыноснае жыццё ў каго. Восімісят два годы старушаццы, а дачка хоча, каб усю работу рабіла ў хаці. І робіць. Колькі можа, столькі робіць і памагая. Дзе ш ты дзенісься. Верціцца тая старушачка як уюн на скаварадзе. Хоча ш і зяцю дагадзіць, бо на яго ласкавым хлебі жыве, і каб дачку ні ўсердзіць. *Сав., Стаўб. р.*

ЯК ЧАЙКА (сойка) ЗА МОРА (зайсці, пайсці, выбірацца). *Асудж.* Ходзячы, трапіць куды далёка, страціць шмат часу на хадзьбу, на зборы і тым самым выклікаць незадавальненне блізкіх, родных. Але дзе Марыся? От жа зайшла! Як чайка за мора. А, можа, дзе закатрупіў (запаланіў) хто, які злыдух. Мала людзей у леся злых! *Пр., Стаўб. р.*

ЯК (ш т о) ШЧЭПКА ВЫСАХНУЦЬ. Моцна схуднець. Нешто Коля схуднеў, высах як шчэпка, хворы можа, ды не кажа. *Сав., Стаўб. р.* На казённых харчах пупруўляцца нада, а ты высахла што шчэпка. *Ульян., Сен. р.*